***Хто здалёку, а хто бліжай,***
***Як шырокі свет ляжыць,***
***Мы сабраліся ў Нясвіжы,***
***Каб тварыць, кахаць і жыць.***



**Якуб Колас (3.11.1882 - 13.08.1956)**
**Выпускік Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі 1902 г.**



# Нясвіжскі ўток

Літаратурна-мастацкі зборнік

№ 1

г. Нясвіж
2017

**Нясвіжскі ўток**. Літаратурна - мастацкі зборнік № 1, 2017 г. На беларускай мове. Нясвіж. 372 с.

Выданне ГА “Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны” і літаратурна-музычнага аб’яднання “Валошкі” Нясвіжскага раёна.

Укладальнік: Валянціна Шчарбакова.

Рэдактар: Станіслаў Суднік.

У зборнік уключаны выняткі з творчага даробку нясвіжскіх літаратараў за апошнія гады.

# Нясвіжскі ўток

Назву сваю альманах атрымаў ад сутнасці таго, што зроблена падчас яго падрыхтоўкі і выдання. Так можна назваць любое выданне, любы часопіс, любы зборнік любога рэгіёна. Але так мы назвалі наш нясвіжскі альманах.

Палатно на ткацкім варштаце фармуецца з двух складовых: асновы і ўтку. Аснова накручваецца на валкі, прапускаецца цераз ніты і бёрды, а чаўнык з ніткай утку бегае паміж плашчынамі асновы і фармуе ўласна палатно.

Існуе грандыёзная аснова беларускай літаратуры, створаная да нас і без нас. Яна ўжо ў вялікай меры заткана ніткамі розных творцаў паасобку і рэгіёнаў агулам. Ёсць у атрыманым палатне і яскравыя нітачкі асобных нясвіжскіх майстроў слова і думкі, а сёння мы нашым альманахам хочам дадаць яшчэ некалькі нітак, якія ўдалося спрасці на Нясвіжчыне ці за яе межамі, але нясвіжцамі ды данесці да варштата.

Нікому не навіна і не сакрэт, што славутыя на ўвесь свет слуцкія паясы пачалі ткаць у нясвіжскай персіярні. Не сакрэт, што Нясвіжчына раз-пораз, са стагоддзя ў стагоддзе рабіла ў беларускую культуру і літаратуру грунтоўны ўнёсак.

Сымон Будны, Францішка Ўршуля Радзівіл, Уладзіслаў Сыракомля, Адольф Янушкевіч і іншыя былі там, у мінулым.

Адам Ягоравіч Багдановіч (бацька Максіма Багдановіча) ў 1882

годзе скончыў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю. Падчас вучобы там арганізаваў гурток самаразвіцця і самаадукацыі, пачаў збіраць фальклорна-этнаграфічныя матэрыялы.

Якуб Колас нарадзіўся недалёка ад Нясвіжа, чатыры гады (1898-1902) вучыўся ў Нясвіжы і ўсё жыццё нёс у шырокі свет нашае нясвіжскае маўленне, нашыя словы і вобразы.

Янка Купала працаваў у Снове і знайшоў там прататыпаў для несмяротнай “Паўлінкі”.

Кузьма Чорны нарадзіўся непадалёк і вучыўся ў Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі.

Сяргей Новік-Пяюн з Лявонавічаў...

Паўлюк Прануза, чыё імя носіць раённая бібліятэка.

Шмат хто яшчэ.

А цяпер і нашая чарга на нашыя некалькі нітачак. І будзем спадзявацца, што новы нясвіжскі ўток не сапсуе велічны дыван магутнай і несмяротнай беларускай літаратуры, а павялічыць яго і ўпрыгожыць.

***Станіслаў Суднік.***



# *Настасся Азарка*

* * *

Там у полі падымалі лён,
Дзе зымшэлы спаў
стары курган,
І сівы як свет лятаў груган -
Вартаваў спакой мінулых дзён.
Рассцілала неба цішыню,
Паўзабытую, як ціхі звон,
Раскатурхаў сэрцы забабон -
Распаліць удзячнасці агню.
Дзякаваць зямлі за ўраджай,
Богу - за ўрадлівую зямлю,
Шчырую багатую раллю,
Дзякаваць за спадчыну дзядам...
Там у полі спаў стары курган,
Дзе зляжалы падымалі лён.
Зданямі мінулых цёплых дзён
Прашчуры стаялі сярод нас.

*Настасся Аляксандраўна Азарка нарадзілася 4 снежня 1981 года ў вёсцы Квачы Нясвіжскага раёна. З 1989 года жыве ў Нясвіжы. Скончыла сярэднюю школу № 4, педагагічны каледж імя Якуба Коласа. Працавала настаўніцай пачатковых класаў базавай школы ў вёсцы Сугвазды Валожынскага раёна, на Нясвіжскім ільнозаводзе аператарам сушыльнага абсталявання. Зараз працуе ліфцёрам у Нясвіжскай цэнтральнай бальніцы, студэнтка гістарычнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Сябра раённага літаратурна-музычнага аб'яднання "Валошкі", абласнога Народнага клуба паэтаў і кампазітараў "Жывіца".*

*Вершы ўвайшлі ў калектыўныя зборнікі "Букет валошак", абласнога Народнага клуба "Жывіца" "Срэбны блюз" ( пад псеўданімам Настасся Валошка), "Мне рамонкі цалуюць калені", "На парозе вечнасці", "Срэбны блюз", "Незабудкавыя таямніцы".*

*Друкавалася ў газетах "Голас Радзімы", "Наша слова", "Нясвіжскія навіны". Падрыхтавала да выдання зборнік вершаў "Край мой навальнічны".*

## Ваўкі

Я бачыла ваўка -
Ён у куце стаяў,
Бо мяккі рух курка
Яго жыццё забраў.
Мой шэры брат лясны
Сівую поўсць уздыбіў.
Ён бачыў мройна сны
Пра ноч, калі загінуў.
Ў вачах - застылы бляск
Адчайнасці і волі.
Ён жыць яшчэ жадаў
І здаўся толькі з боем...

Я бачыла ваўка -
У клетцы ён ляжаў,
Бо прагная рука
Яго жыццё ўзяла.
Мой шэры брат лясны
Аб бегу вольным трызніў.
Ён цяжка бачыў сны,
Ды краты болем цiснуць.
Ў вачах яшчэ быў бляск
Замардаванай волі.
Крыві ён помніў смак
Апошняю вясною...

Я бачыла ваўка -
Па снезе ён хадзіў.
Братоў сваіх чакаў
І быў свабодным. Жыў!
Мой шэры брат лясны
Ў кагорце вольнай зграі.
Па следзе верасным
Іх кроў няспынна гнала.
Ў вачах гарыць вагонь
Адвечнай волі ззяннем.
Спявае маладосць
Ўладарскім завываннем!

## Апошнім дыханнем

З нас ніхто не хацеў паміраць.
Баба смерць зазірнула ў вочы.
За цаною нам не стаяць
Навальнічнай апошняю ноччу.
Свет ляціць - і яго не стрымаць.
У вачох - ядваб зеляніны.
З нас ніхто не хацеў паміраць...
Рэжа стогнам
з вышыняў птушыных.
Анямелыя вусны крычаць.
Замест словаў пляскаецца кроў.
Эх, ды мне ўжо не спяваць...
І ня чуць ладны гоман званоў.
Эх, ды мне ўжо не кахаць
У разгул вераб'інай начы.
Буду я для братоў дагараць
Святлом ціхім васковай свячы.
Сцяной стрэнем чортаву гаць.
Наталім смагу горкім узварам.
З нас ніхто не хацеў паміраць...
Жыць Радзіме смерць загадала!

## Завея

Мяце завея. Першая ахвяра -
Япрук ляжыць у лужыне крыві, змяшанай з брудам.
Снег выцярушвае дашчэнту хмару,
Крывавыя хаваючы сляды, запальнасць студзіць
Першабытнасці, прачнутай у цішы...
А нас заўсёды вабіць паляванне.

Шкада, без стрэльбы...
Я чула, вецер плакаў: жыць! Жыць! Жыць!
Снег даў яшчэ хвіліну на чаканне
Ў збялелым небе.
Зіма халодным снегам загадала
Нам сэрцаў распаліць ярчэй агонь.
У лёгкім вершы
Адной ахвяры, безумоўна, мала
На алтары за перамогу й волю.
Хто будзе першым?..

**Імкненне**

І смерць не перашкода для мяне
Ў імкненні сэрца вечна быць з табою,
І хай ляціць у вір бурлівых дзён
Жыццё маё імкліваю стралою.
І хай мне жорсткі лёс нагатаваў
Прайсці мільён цяжкіх выпрабаванняў
Пераадалею ўсё, хто б там не дакараў,
Не дасылаў мне змрою праклінанняў.
Хай сполахам палохаюць зарніцы,
Ўздымаюцца сцяною высі гор,
А мне салодкі подых навальніцы,
І неабдымны ўдалечы прастор.

**Напамін**

Страшэнны напамін вайны
Гукае выбухам дзень ці не кожны...
І яшчэ доўга будзе смак вады
Мець смагу слёз жыцця апошніх.
І яшчэ доўга будуць курганы
Стагнаць крывёю паўзабытых лёсаў...
Страшэнны напамін вайны
Сівою дымкаю нярвозных папяросаў.
У Беларусі мужныя сыны...
Утаймаваць шалёны сэрца пастук,
Каб напамін страшэннае вайны
Нам не зрабіўся жудасным склярозам.

## Хвіліннае спатканне

Мроі летуценнага кахання
Зрушылі навалай лад жыцця.
Я не думала.
Хвіліннае спатканне
Абудзіла сэрца з небыцця.

Ты ўсё той жа,
родны і пяшчотны,
Выпраменьваў
веснавую цеплыню.
І ты ішоў, вясёлы, бесклапотны
Ў маразовым подыху вагню.

Мне здавалася,
каханне ўсё згарэла
Праз адлегласць доўгую гадоў,
Але сэрца страсянулася,
самлела,
Узгадаўшы ўсё мінулае наноў,

Захлынулася навалай успамінаў,
Затрымцела і...
спужалася вясны.
Мне здавалася,
што ўсё даўно ты кінуў,
Бо даўно ў спакоі мае сны.

Я не плачу, любы, ты не думай,
Спамінаючы хвіліннае
спатканне,
Сэрцу проста стала
вельмі сумна,
Адракаючыся ад кахання.

Ну, навошта,
любы мой, навошта
Мы з табой сустрэліся ізноў
Ў гэты час, нялёгкі і трывожны
На зямлі нязгоеных шнароў...

## Шчасце

- У чым шчасце, мне,
брат, раскажы, -
Запыталася я ў багацея...
Яго вочы слязой запацелі:
- Узлятаю да самых вяршынь,

Збудаваў сабе домік у цэнтры
І ля тыну дубок пасадзіў,
Сына добрага нарадзіў,
Маю ўсё, чаго б толькі хацеў,

Маю ўсё, што калісьці жадаў,
Але шчасця не ўбачыў нідзе -
Так мне сумна, -
сказаў багацей, -
Лепей ты запытай жабрака. -

Сказаў так ён, змахнуўшы слязу
На разлітую ў небе заранку,
Што цішой залаціла альтанку,
Ды на золата ён не зірнуў.

- У чым шчасце, мне,
брат, раскажы, -
Я спытала тады жабрака.
У адказ я пачула так:
- Быў калісьці на самй вяршыні,

Цяпер сплю,
дзе спаткаецца сон,
Ем я тое, што трапіць на зуб,
Заблытаў павуціннем чуб,
Да крыві ўсе ногі сцёр,

Растаптаўшы халодны камень
Тых дарогаў, дзе я хадзіў,
Тых дарогаў, дзе поўз без сіл,
Даганяючы ўласны цень... -

Так мне сумна жабрак сказаў, -
Але шчасця не ўбачыў нідзе,

Адно гора за мной брыдзе,
Сваё шчасце даўно прагуляў...

Сказаў так ён, змахнуўшы слязу
На сапфіравы цёплы золак,
Пасярэбіла поўня скроні,
Ды на срэбра жабрак не зірнуў.

І пайшоў пабірацца далей
Па ўзбярэжжы імклівай ракі,
Дзе іскрыліся медзякі -
Ў хвалях сонца
бурштынам гарэла...

- У чым шчасце, браток,
раскажы, -
Пацікавілася я ў міліцыянта.
- Эх, сястра,
не пра гэта пытаеш, -
Ён цыгарку ў адказ запаліў -

Тваё шчасце, што я не злавіў
Цябе ў гэту сцюдзёную ноч,
Не мазоль лепей ты мне воч,
Покуль я на мароз не забіў,

Бо ў нас з табой розныя мэты:
Сёння я з табой зубы паскалю,
Бранзалеты накіну заўтра -
На пагоны мне зорку за гэта.

І мне шчасце - табе ж бяда,
Сама ведаеш - служба службай.
Каляная цяпер стала сцюжа.
Выбачай, калі што не так... -

Адказаў мне міліцыянт
І ў снег недакурак шпурнуў,
Ды хлапец на яго не зірнуў.
У сумёце ж гарэў брыльянт.

А ў чорных нябёсаў ядвабе
Палымнеў зіхатлівы рубін,
Ды паркалевы малахіт
Прыхаваўся
пад футрам пухнатым...

Шмат па свеце хадзіў жабрак,
І ў дастачы пражыў багацей,
І выкрываў шмат чорных дзей
Ладнай службаю міліцыянт.

Я шукала адказ на пытанне
Ў лёсах многіх
і розных людзей,
Толькі ім не знайсці
больш нідзе
Шчасця ціхага перадсвітанне,

Шчасця тых веснавых
навальніц
Ў найкаштоўнейшых
перлавых гронках,
У паветры, пранізліва-тонкім...
Шчасця гэтым жыццём пажыць.

Я на іхнія скаргі скажу -
Шчасце, брат,
у руках трымаеш -
Твой куточак забытага Раю,
І імя яго - Беларусь.

**Мой Нясвіж**

Ціхае надвор'е. Позні вечар
Горад спіць, накінуўшы на плечы
Маладосці зорныя напевы.
Нерухомай вартай дрэмлюць дрэвы.

Дзіўнай казкай успаміны ажываюць
І ў сэрца ціхі смутак навяваюць
Ад пачуцця страчаных часоў,
Што вяртаюцца праз летапіс вякоў.

Грознай выссю замак Радзівілаў,
Як адметка старажытнай сілы,
Чорнай постаццю ў шэрані туману,
Бы містычны вобраз з соннага падману.

Купалы касцёла з крыжам залацістым
Над зямлёю чорнай ў прыцемках імглістых,
Як бязмоўны сведка дзявочага болю,
Што знайшла ў парку на век сабе волю.

Дуб з сасною разам светачам кахання
Праз гады ў абдымках веры, спадзявання,
Выстаяўшы войны, буралом, завеі,
Нясуць людзям радасць, на любоў надзею.

Гэта ўсё Нясвіж мой, любы, родны горад,
Дзе жыла я ў шчасці і пазнала гора,
Дзе прайшло дзяцінства казкаю наіўнай,
Дзе я паддалася веснавым парывам.

Гэта ўсё Нясвіж мой, горад Беларусі,
Дзе жыве сям'я мая, дзе Богу я малюся,
Дзе сустрэла першае, светлае каханне,
Дзе спаткала першае, жорсткае расстанне.



# *Наталля Бордак*

*Наталля Васільеўна Бордак нарадзілася 24 кастрычніка 1960 года ў вёсцы Карчавое Хойніцкага раёна Гомельскай вобласці. Скончыла Хойніцкую СШ № 2 у 1977 годзе. Вучылася ў Менскім вучылішчы бытавікоў, пасля працавала ў Гомельскім Доме быту. У 1999 годзе паступіла ва Універсітэт культуры на аддзяленне рэабілітацыі сродкамі мастацтва. Працавала ў доме культуры г. Светлагорска мастаком-дэкаратарам. Удзельнічала ў мастацкіх выставах. Друкавалася ў газетах "Наша ніва", "Чырвоная змена", "Светлагорскія навіны", "Нясвіжскія навіны"; у часопісах "Першацвет" (1993), "Беларусь" ( 1995); у зборніках "Верш на свабоду" (2002), "Песні і вершы Плошчы" (2006), "Букет валошак" (2008), "Мне рамонкі цалуюць калені" (2011) і інш.*

*Дыпламант у намінацыі "Аўтар-чытальнік" на абласным фестывалі "Беларусь, мая песня" (2004). Сябар Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны з 1990 года, раённага літаратурна-музычнага аб'яднання "Валошкі". Жыве ў Нясвіжы з 2007 года.*

**Перад Вялікаднем**

Хрыстос прыходзіць і кажа:
- Даю табе волю і шчасце,
абедзве даю рукі,
а ты можаш выбраць цвікі
і ўбіць Мне іх у запясці

*09.04.2008 г.*

* * *

Святлу не згасуць у душы
Пакуль яно ў вачах іскрыцца.
Пакуль на ночы й дня мяжы
Нястомна будзеш ім дзяліцца.
Пакуль на свеце існуеш,
І б’ецца кроў у тваіх жылах,
Пакуль яго з сабой нясеш
Між крылаў.

*2011 г.*

* * *

Водар золкавы празрысты
Промнем сонечным працяты.
Ахінае лісцяў рысы -
Цягне ў гай далёкі, з хаты.
Крочу сцежкаю. Абапал
Верасок, валошкі, люцік…
Чабаровы колер вабіць -
Век вачэй не замарудзіць.
Наталюся шэптам нівы,
Дзе жаўрук шчабеча зранку.
Абвяшчае ён пра дзівы -
Толькі выйдзі ў шлях ад ганка.

*2017 г.*

**Каханаму**

Да часу без лусты хлеба
Мне трэба адно - гавець,
Бо мушу, магчыма, з неба
Аблокі на стан адзець.
З нябёсаў прымераю прагу
Пазнання дабра і зла…
Пярэсцяць няхая стылягі -
Я ў белым сюды прыйшла.
Убачыш мяне здалёку.
Я - мроя тваіх вачэй.
Быць вечнай нявестай нялёгка,
А жонкай яшчэ цяжэй.

*1992 г.*

* * *

Жыві без скаргі і дакору
І дзён сваіх да скону не лічы.
Адну спасцігні велічнасць - пакору.
І ля Хрыста пра вечнасць памаўчы.
Аб міласэрнасці душы паклапаціся
Падзякі не шукай сярод людзей.
У марах, насамперш, не заблудзіся,
І ведай з кім ідзеш, куды, і дзе.

*2012 г.*

* * *

Я на плечы ўзяў твой цяжар і бяду -
Мне казаў: не трымай у душы ані страх, ні нуду.
Запаветам Любові святой накармі
Каго-небудзь, ды Словам маім абдымі.
Боль мінуў, і мінулага болей няма.
Ты лягчэйшага ў свеце не маеш ярма -
Маёй праўды і шляху, што вечна жыве.
Перш якое ўзяў Я на плечы свае.

*2011 г.*

* * *

Мінаюць шэрагі прывычных твараў,
І вобразаў, і масак тыпажы;
За тое, што каменнай марай
Стаяла на развілістай мяжы.
Журыцца вам па мне не будзе проста,
Тым больш, перасміхнуцца, мастакі.
Спачніце, я качуся ў прошчу*
З мяшчанскага няцямства напрасткі.
І слова ува мне больш не збалее,
Слупок лірычны вас не ўскалыхне.
Пад шатамі спынюся Галілеі -
За гэта выбачайце вы мяне.

*2008 г.*

**Прошча - (ст. бел.) - месца паломніцтва.*

**У расстанні**

(Паводле Барбары Радзівіл - Жыгімонту Аўгусту)

Гэта ўсё на дваіх паправіма -
Не турбуйся аб тым, як мне жыць.
Тут са мною браты-херувімы
Са святлом і слязой, што на вейцы
Дрыжыць.
Я не згасну пад Востраю Брамай
Скамянелай на сэрцы журбой,
Заварожанай "Чорнаю паннай",
Патанаючы ў ноч толькі трызню
Табой.
Выпраўляцца ў расстанне - балюча,
Мой Каханы, мой Любы, імчы
Зноў насустрач у вечнасць, гаючай
Літасцівай бясконцай
Начы.
Мы ў стракатых навекі аблоках -
Веюць ласку Анёлы-браты.
Па-над замкам бясшумна, высока
Поруч я маладая з табой
Назаўжды.

*27.07.2008 г.*

**Мой Вінцэнт**

Здавалася, такім лёгкім быў
Подых духмянага парыжскага паветра,
Якое напаўняла адмысловае
Адчуванне Сусвету
Непрадказальнай
Разнастайнасцю
Фарбаў,
Што стварылі рух у бясконцасць.
І з якой невыноснай цяжкасцю
Было палкай безабароннай душы
Процістаяць непаразуменню
Небездакорнага свету,
Дзе залатагаловыя
Сланечнікі схіляюцца
Над табой
І сёння.
*1997 г.*

* * *

Мы вечна гуляем
У смерць і быццё,
І сквапна чакаем убачыць
Героя.
Нас кліча пакора сысці
Ў небыццё,
Ды век супраціву пазбавіў
Спакою.
Смуга прыгнятае зары
Адкрыццё
Над вечнасцю скон паўтарае
Памылкі.
А дзесь нетаропкая праўда,
Жыццё
Вяртае са змрочнае
Ссылкі.
*2005 г.*

* * *

Падарожныя па вайне
Мы змагаемся самі з сабою.
Табе цяжка, ці позна мне
Пацалунак здабыць за гарою.
А што там, а ці сум спадзе
З майго сэрца
празрыстай кропляй?
Час ішоў  і яшчэ ідзе
За раскацістым
дожджыкам дробным.
Кім жа быць мне на той вайне?
Можа палкай каханкай, а можа
Быць сяброўкай, ці скамянець? -
Усё адно - беражы цябе, Божа!
І ўжо лёгка табе і мне -
Пераможнай ці мо прайграўшай…
Промень сонца не праміне
У вачах забаўляцца нашых.
*07.07.2014 г.*

## Ліст Маці-Радзімы

Мой гаротны, мой сын беларус,
Чаму ты скрозь такі зацяты?
Або ў гвалт, альбо пад прымус -
Як ты ўсе зносіш д'яблавы святы?
Ты ціхмяны, як гладзь вады
У бязветраны летні поўдзень.
Вехі ўспомні свае і сляды -
Бо нашчадак па іх твой пойдзе.
Прачынайся, мой любы сын -
Маеш веру і Бога сілу!
Хто ўбівае між намі клін
І хто зводзіць цябе ў магілу?
Уставай, не ляжы, выходзь
З непрагляднай і доўгай ночы,
Ды хутчэй скінь з сябе аброць,
Што твой розум хваробай точыць.
Смела песню сваю заспявай
Гэтак голасна, як ніколі…
Вер, падхопіць і ніва, і гай
У сугучным распеве на волю!

*24.02.2014 г.*

## У золаце

Маўчаннне - золата. І што?
Ты, лёс на гоман замяні,
Дармовы скарб, калі ніхто
Дзвярэй маіх не адчыню.
Калі ніхто гарбату піць
Ня прыйдзе з думкай цераз край;
Калі і пекла не дзяліць,
Ніхто дзяліць не стане рай.
Цяжэнны ляжа злітак той
На сэрца моўчкі, і тады
Нераспазнаны погляд свой
Я пахаваю назаўжды.
Нашто багацця мне гара
Са ззяннем зыркім на чале,
Калі ніякага дабра
Мне дзень наступны не пашле?
Калі ў бліскучасці сваёй
Мне пры сустрэчы аніхто
Пяшчотна-мужнаю рукой
З плячэй не здыме паліто.

*1991 г.*

* * *

Не магу жыць, спадарства, у краіне глухой,
Дзе не чуем, на жаль, мы адзін ды адной.
Дзе сваяк і чужы прапівае свой лёс,
І ў краіне даўно не вясёлы прагноз.
Дзе суседка, патупіўшы позірк уніз,
Аббягае узбоч, мабыць мае капрыз.
Дзе пад чаркай і шкваркай народ цэлы спіць
І свае глухаты не жадае лячыць.
Дзе да беднага ставяцца горш за ската,
Дзе паўсюдна стаіць “правадыр”, як бяда,
Дзе бяздомныя кошкі ля крамы снуюць
І сабаку бадзяжнага жорстка паб'юць.
Дзе асудзяць нявінна, дарма абылгуць,
Дзе на плошчу з дубінамі служкі бягуць.
Хтосьці здолеў - наўцёкі з краіны ляціць,
Бо тут нельга, шаноўныя, з праўдаю жыць.

Дзе чужынцы скупляюць маёнткі, жытло,
У якіх твайго продка не астыла цяпло,
Дзе ты наймітам стаўся на ўласнай зямлі,
Бо яе прымяраюць "браты" маскалі.
Не хачу рабалепстваваць, нібы паўзун,
Замяніўшы на-чорна жыцця паласу,
Дзе ў палацах спартовых панує лядзяк,
Прабірае наскрозь, і ў горле камяк…

*Травень 2014 г.*

**Роспач**

Паміж сабою кажуць людзі:
Сяброўства знікла і - не будзе,
Згарэла ў вогнішчы самотным
Ці змерзла ў холадзе гаротным,
Сплыло ў стыхіі, катастрофе,
Але я чула яго крокі.
Паміж сабою кажуць людзі:
Надзея знікла і - не будзе.
Ушчэнт разбілася яна,
І дзе ўзнімалася цана,
Там пустазелле прарасло
Лагодна ловячы святло.
Паміж сабою кажуць людзі:
Каханне знікла і - не будзе
Зляцела птушкаю з вышынь
І падалося ўдалячынь
У кіпці трапіўшы злачынцы
І да сябе не дакрычыцца.
Паміж сабою кажуць людзі,
Што вернасць знікла і - не будзе
З душой разгубленай блукае
Ў туманнай роспачы, шукае
Свайго сяброўства ясны зніч.
І ледзве чуецца іх кліч.
А я адчай не падпускаю
Паміж людзей часцей ступаю,
Хай жах надзьмуты не злуецца -
Любоў між намі застаецца.

*1990 г.*

* * *

Ці гатова ісці за Табой
Цераз поле, пагоркі і пушчы?
Праз шырокія рэкі зімой
І ўлетку скрозь спёку і сушу?
Падрыхтуюся йсці за Табой
Па абрывіста-коўзкім схіле,
Сярод гоняў наперабой,
Павярнуўшыся
з вузкіх развілак.
Так, гатова ісці за Табой
Па ўхабістай пыльнай дарозе,
Шлях прамністы
пад поўняй рудой,
Будзе радасцю мне ў знямозе.
Буду йсці за адзіным Табой,
Недзе гаць
падрыхтуе развязку…
На абочыне сяду крутой,
І Тваёй дачакаюся ласкі

*2000 г.*

## Байка сённяшняга дня

Зграя гуляе ў вайнушкі
Адлажыўшы лыжы, клюшкі.
Задушыць пайшла Майдан,
Бо не ўпісваецца ў план.
І таму - прадоўжыць бой
(Мусіць нешта з галавой?)
На "бандэраў" паляваць -
Левых, правых паўбіваць.
Важака свайго на трон
Прымяраць, як задні фон,
Каб трымаўся Бабілон,
І народы йшлі ў паклон
Да імперскай поснай кашы,
Баланды і прастаквашы.
Адбірае волю, шчасце,
Каб заўсёды бандзе красці
Ды хлусню з экрана ліць.
Пульцік ядзерны свярбіць.
Не даруе крыўды Вова -
Умацуе зноў ахову,
Патураючы закон -
Помсту помніць палігон,
Разам злыдні-дружбаны,
А нязгодных - да сцяны!
Што ААН, АБСЕ,
Фрау, містэр і месье?
Скіраваныя на мір
"Сатана"* - адзін кумір.
Ды шантаж і пальцы ў веер -
Зброю ставіць на канвеер,
Бо людзей яму нідзе
Ні на сушы, ні вадзе.
Маніць войска у шарэнгу;
Прывітанне гучным рэхам
Адбіваецца ў паветры.
Ці свае зямлі замала
Ад Смаленска да Ямала?
Трэба Крым сабе прыдбаць -
Форму "зелень" скарыстаць,
Не, палову Украіны -
Падтрымайце крок, пінгвіны!
Каб яшчэ Малдову, Польшчу,
Долю знай сабе, не горшу
Апетытна-грандыёзную,
Самаўладна-адыёзную…
Ганарыцца цар цароў,
Не адну праліўшы кроў.
Ды канец калісь надыдзе
На цябе, няшчасны злыдзень.
За рады заўчасных трунаў
Будзе з Неба сто пярунаў!

*14.03.14 г.*

*(*тут- ядзерная ракета)*

* * *

*"Што ж будзе, як дрогне, як рухне яна"…*
*М. Багдановіч.*

У неба, на сонца, на хмары глядзела -
Тваёй Украіны была аортай.
Працятае "градамі", кулямі цела
Вежы Данецкага аэрапорта.
Раскаты маланак і бліскавіцаў,
Гул самалётаў, людзей галасы

Чула дыханне і грукат у сэрцы
Ўзлётна-пасадачнай паласы.
З левага, з правага боку па борту
Ціха і стромка ў агні плыла…
Як маці, сваіх дзяцей кагорту
Хавала, туляла і берагла.
Бачыла зораў мірганне ўночы,
Удзень пад вясёлкай, як бэз цвіла
Вежа, пакутна заплюшчыла вочы,
Ды ў рай, як святая, пайшла,
Ціха злажыўшы на сэрцы далоні,
Крывавым абліўшыся потам…
Панесла герояў на пульсе скроняў -
Вежа Данецкага аэрапорта.

*16-17.01.2015 г.*

* * *

Спыні на хвіліну мелодыю болю -
Яе ўспрымалі, здаецца, даволі.
Спявай пра свабоду ад брыдкасці словаў -
Мужна трымайся, матуліна мова!
Зноў да свабоды ад прыткіх гулянак -
Хутка надыдзе жаданы світанак
Жыць у свабодзе ад гнёту ды кратаў,
Хлусаў, тыранаў, прыслужкаў і катаў.
Зычу свабоды ад цемры, галечы,
Свечку лучу да запаленых свечак...
Тут - пра свабоду свабоднай усмешкі -
Прыкра лічыцца затлумленай пешкай,
Бо выбар свабодны ад небяспекі
Свабодныя думкі даюць чалавеку.
Малюся свабодзе супольнага духу,
Краю заможнага, вольнага руху
Без акупацый ды аксідацый -
Дыхай свабодна, разумная нацыя!
Толькі свабодны ад рабства - шчыруе,
Боязь - асобаю больш не кіруе.
Мэтай і ты шлях свабоды памножыш -
Ідзі ў свабодзе наступнікаў Божых.

*2006-2010 гг.*



# *Кацярына Будчан*

*Кацярына Ўладзіміраўна Будчан нарадзілася ў г. Нясвіжы 2 лютага 1998 г. Скончыла СШ № 4. Вучыцца ў БДПУ імя Максіма Танка на гістарычным факультэце. Захапляецца вакалам, напісаннем вершаў. Сталая ўдзельніца розных конкурсаў і навуковых канферэнцый. Вучыцца на выдатна. Вершы пачала пісаць у дзіцячым садзе, сябар абласнога народнага клуба "Жывіца", раённага літаратурна-музычнага аб'яднання "Валошкі". Вершы ўвайшлі ў калектыўных зборніках "Незабудкавыя таямніцы" абласнога народнага клуба "Жывіца", "Слова Купалы да творчасці кліча". Друкавалася ў раённай газеце "Нясвіжскія навіны".*

**Аб мове**

Я памятаю ціхі спеў бабулі
На мове роднай, што кранае даўніну…
Старанна вышытыя ручнікі, кашулі,
У куфэрак складеныя з пахам палыну.

Яна ўсім сэрцам адчувала мову,
Бо з ёю нарадзілася, жыла,
І ведала цану прамоўлененаму слову,
І нас, дзяцей, вучыла шчыра, як магла…

Каб мы не пагарджалі словам родным.
Гісторыя Радзімы з ім прайшла.
Каб слова роднае і нам прыйшлося годным,
Каб мова беларуская жыла!

*2015 г.*

## Вайна

Я так нядоўга жыў у роднай хаце.
Ды потым на вайну пайшоў,
Каб зберагчы сям'ю сваю і маці,
Каб не замоўк царквы старэнькай звон.

Каб не таптаці ворагі дарогі,
Каб не палілі вёскі, гарады.
Каб засыналі дзеці без трывогі,
Хацеў засцерагчы іх ад бяды…

Ды жыў нядоўга, жыў вайною лета..
Упаў з варожай куляй у жываце…
Загінуў я, і той загінуў немец,
І вестку сябар пра мяне нясе…

Я так нядоўга жыў, прабачце, людзі!
Ды недарэмна страчаны быў час,
Прагналі ворага, які б не быў магутны,
Вярталіся з вайны з вясной для вас!

## На Радуніцу

Старое люстэрка ў бронзавай раме
Са смуткам глядзела на нас са сцяны…
Былое застыла ў сівым тумане,
Ледзь чутны хвалюючы пах даўніны.

Льняным ручніком, што саткала бабуля,
Я выцерла пыл, павуцінне зняла,
Нясмела ў тое люстэрка зірнула
І позірк ад здання таго адвяла.

З дакорам глядзелі блакітныя вочы
Праз выцвіўшы вэлюм пражытых гадоў,
Чаму так нячаста прыходзіце, дочкі?!
Запомніце, любыя, сцежку дамоў!

## Памяці Максіма Багдановіча

З бясконцай глыбіні сусвету
Ляцела зорка на зямлю,
І закаханаму паэту
Шаптала горача: "Люблю"…

За шчырасць клапаткога сэрца,
За смеласць поглядаў, ідэй,
За талент, Богам што даецца,
За міласэрнасць да людзей.

Цябе чакала на спатканне
І марыла пры цёмным небе,
Што не надыдзе раставанне
З табой -
а большага не трэба…

Бліскучага не трэба ззяння
У зорным холадзе нябёс.
Адна душа, адно дыханне,
Адзіны, вымалены лёс.

Узвышанай душы натхненне
Сумела зорка зразумець.
І ў тое самае імгненне
Паэта пакахала смерць…

## Вясна

Вясна мая пад сонцам мая,
Нібы красуня маладая,
Зялёны боцікі абула,
Сукенку ў кветкі апранула.

Бярозам распусціла косы,
На лісце высыпала росы.
У гняздзе сагрэла птушанятак,
У кустах схавала зайчанятак.

Пазеляніла жыта ў полі,
Птушыны спеў -
на ўсім раздоллі.
Пусціла ў рэчку рыб увішных,
Квітнеюць яблыні і вішні -

Гасцямі ў іх ад ранку пчолы,
Над садам гул стаіць вясёлы,
І нас у госці запрасіла
Так шчыра, хораша і міла!

Вясна мая пад сонцам мая -
Яна такая клапаткая,
Прыход яе ад веку ў век
Чакае кожны чалавек.

## Выпадак каля крыніцы

Стаяла чарга да крыніцы святой
З надзеяю на ацаленне.
Цадзілі ў бутэлькі гаючы напой,
Забыўшы пра крыж і маленне.

Манах малады падыйшоў да людзей,
І голаў схіліў у паклоне,
Спагадліва, шчыра на ўсіх паглядзеў,
Раскрыўшы ля сэрца далоні.

Застыў у чаканні шумлівы натоўп,
Што скажа юнак сінявокі?
Да кожнай душы ціхі голас дайшоў,
Праўдзівы, сапраўдны, глыбокі.

Праменьчыкам сонечным быў той манах,
Ад злосці, ад бруду збавенне.
Прыціхла чарга, толькі слёзы ў вачах,
Крыніца дае ацаленне…

**Прабач**

Я ведаю, што ты яшчэ не спіш,
Ад думак не заснеш балючых…
Глядзіш на зоркі ў небе і маўчыш,
І мокры твар ад слоў маіх калючых.

Каб бачыла мяне ты зараз, мама,
Як я сама твой боль перажываю,
Прабач, мая душа табе аддана,
Адну сябе ва ўсім я дакараю…

Даруй, ты бачыш, як мне зараз горка,
Хачу з табою шчыра памірыцца -
Заўсёды разам будзе твая донька,
Твая любімая, маленькая дурніца…

***

Мова мая родная, шчырая, пяшчотная…
Ты з маімі думкамі ў душы.
Як зрабіць, каб ты для ўсіх была дагодная,
Каб гучала ўранку ты і ў начной цішы?..
*2013 г.*



*Мікалай Сцяпанавіч Бялевіч нарадзіўся 22 траўня 1938 года ў вёсцы Рутка II Навагрудскага раёна Гарадзенскай вобласці. У 1962 годзе закончыў Менскі медінстытут. Працаваў намеснікам галоўнага ўрача Капыльскага раёна, галоўным урачом Клецкага раёна. З 1985 па 2001 год - галоўным урачом санаторыя "Нясвіж".*

*Урач вышэйшай катэгорыі, выдатнік аховы здароўя СССР, заслужаны ўрач РБ. Зараз на пенсіі. Аўтар зборнікаў паэзіі "В часы досуга" (1995), "Тропою поэзии" ( 2003), "Порывы души" (2004), "Мелодии жизни" (2013).*

# *Мікалай Бялевіч*

**Успаміны**

Мой родны кут, дзе я радзіўся,
Цяпер стаіць асірацелы.
Царкву знялслі, дзе я хрысціўся,
Вакол бур'ян расце зжаўцелы.

Няма гумна, хлява і студні,
І хата без вакон стаіць,
Ды толькі вецер злы і нудны
У кронах клёнаў шапаціць.

А побач лес стаіць маўклівы,
Як сведка ўсіх жыцця падзей.
Ён знае ўсё і цярпліва
Хавае тайны ад людзей.

Быў перад лесам луг з травою,
З усходам сонца я ўставаў
І рана з першаю расою
Кароў на пашу выганяў.

Пасля вайны была бяднота,
Усім прыйшлося галадаць.
Адна ва ўсіх, адна турбота,
Паесці добра і паспаць.

Ляцяць гады са здрадным гулам,
Дзяцінства ўжо даўно прайшло.
І тое, што было ў мінулым
Жыццёвым мохам зарасло.

**Беларусь мая**

Цудоўны край мой беларускі,
Край шумных рэчак і лясоў,
Такі ты родны мне і блізкі
Чароўным подыхам лугоў.

*Прыпеў.*
Беларусь мая, маці родная,
Ты адзіная і свабодная.
Ганаруся табой, мая любая,
Аб табе дзень і ноч
толькі думаю.

На лузе кветкі пахнуць мёдам,
Буслы клякочуць у гняздзе,
Стаяць чароўным карагодам.
Усе дрэвы ў ранішняй расе.

*Прыпеў.*

Будзь ты заўсёды самастойнай
У сям'і народаў на зямлі,
І птушкай вольнай і свабоднай
У шчасці, радасці жыві.

*Прыпеў.*

**Зямля мая**

Ты сонцам абагрэтая,
Вятрамі абласканая,
Ты Богам увекавечана,
Зямля мая каханая.

Ты скарбамі багатая
Зямнымі і духоўнымі,
Для ўсіх ты - маці родная,
І мы ў цябе ўсе роўныя.

І на зямлі жывое ўсё
Народжана табою.
І мы табе адданыя
І целам, і душою.

Гасцямі мы часовымі
Жывём у тваёй красе.
І марамі жыццёвымі
Захоплены мы ўсе.

**Вясна**

Раўчукі бягуць, нібы слязінкі
Пад цёплым подыхам вясны,
Нясуць з сабой яны ільдзінкі -
Зімы-гарэзніцы сляды.

Падснежнік шле сваю ўсмешку,
Сагрэты сонечным цяплом.
Плывуць у небе яркай сцежкай
У абдымку хмары чарадой.

Зямля мая, мая Радзіма!
Я не знаходжу болей слоў.
З табой навекі пабрацімы
Адзіным подыхам вятроў.

**Табе**

Для цябе не знайду я тых слоў,
Каб данесці сэнс думак маіх.
Я табой зачараваны зноў,
Я лунаю ў пачуццях тваіх.

Мне б хацелася зорку дастаць
І табе на ўспамін падарыць,
Мне б хацелася песні спяваць,
Каб з табою адной толькі быць.

Мне б хацелася птушкай ляцець
І каханне на крылах нясці,
У блакітныя вочы глядзець
І сябе ў іх глыбінях знайсці.

**Яўхім і Ганна**

Яўхім аднойчы надвячоркам
У хату к Ганне заблукаў,
І тут пайшла ў іх гаворка
Аб тым, што новы час настаў.

- Мая старая ўчора з рання
Лякарства для мяне знайшла
Ды са свайго фінансавання
Мяне на раз перавяла.

Цяпер, гаворыць, так не будзе,
Маю зарплату не прап'еш.
На працу пойдзеш, валацуга,
Што сам заробіш, тое з'еш.

Яшчэ, гаворыць, ты пяройдзеш
На гаспадарчы свой разлік.
І ў краму кожны дзень
не пойдзеш,
Бо ты ўжо з малку піць прывык.

Суседка Ганна цярпяліва
Уздыхнула, выслухаўшы ўсё:
- О, Божа мой! Вось гэта дзіва
Цяпер на ўсё наша сяло.

Пасля разважліва спытала:
- А як з каханнем да мяне?
З табою пражылі нямала,
Я ўжо прывыкла да цябе.

Яўхім, пачухаўшы за вухам
І апусціўшы вочы ў дол,
Рукой дрыжачаю маўкліва
З кішэні выняў валідол.

- Цяпер аб гэтым не пытайся,
Бо гэта быў застойны час.
Перабудоваю займайся,
Цяпер, Ганулька, не да нас.

Не будзе гуляў больш, ні п'янкі,
Усё прайшло, як з печы дым.
Налі апошні раз у шклянкі,
Бо аслабеў я ўжо зусім.

**Дажыліся**

Дажыліся, спадары,
Мы да жудаснай пары.

На мізэрную зарплату
Ты не купіш сабе хату.

З дапамогай з-за граніцы
Лягуць зубы на паліцу.

Іх аб'едкаў нам не трэба
Дай свайго нам сала, хлеба.

Развалілі вы калгасы,
І прапалі ўсе прыпасы.

Цэны з кожным днём растуць,
Скора ўсё ў нас забяруць.

Калі ўлада ды ў кухарак,
Будзем мы сядзець без скварак.

А ў Савеце дэпутаты
Пішуць нам свае трактаты.

Трэба корпус дэпутатаў
Распусціць увесь дахаты.

Трэба трутняў з хаты гнаць,
Маладым уладу даць.

Трэба жыць нам, беларусам,
Самастойна, без прымусу.

Каб усе краіны свету
Паважалі нас за гэта.

Дай нам розум, мілы Божа.
Толькі ты нам дапаможаш.

*1991 г.*



*Вольга Васільева нарадзілася ў Нясвіжы у 1976 годзе. 1982 - 1991 - гады навучання у сярэдняй школе №1. У 1991 - 1995 гг. вучылася у Нясвіжскім педкаледжы, далей - у Менскім педуніверсітэце на музычна-педагагічным факультэце. Працавала выкладчыкам музыкі і спеваў у школах г. Менска. З пачатку 21-га стагоддзя працавала ў Нясвіжскім педкаледжы і Нясвіжскай школе мастацтваў. (канцартмайстар, ф-но). Вершы пішуцца з юнацтва на рускай і беларускай мовах.*

# *Вольга Васільева*

* * *

… Устаўшы, твар свой схіліш на далоні,
Калі сутонне крочыць па зямлі.
Убачу, што тваe сівыя скроні
Гады, нібыта снегам, замялі…

**МОЙ НЯСВІЖ**

Ты стаіш на зямлі між азёр і лясоў
У неабсяжных прасторах Радзімы,
Захаваўшы і веліч, і подых вякоў,
Горад мой, назаўсёды любімы.
Помняць многае замка старыя муры -
Танцы баляў, на возеры лодкі,
Як пад ветрам стагоддзяў шумеў парк стары,
Каралеўскія постаці продкаў.

Квітней, мой Нясвіж,
Старажытны і вечны!
Ты горда стаіш,
Ты будзеш нясці сваю веліч.
Хай праходзяць гады,
Ты такі непаўторны адзіны,
Векапомны і малады,
Горад мой пад крылом жураўліным.

І здаўна на багатай нясвіжскай зямлі
Развівалася наша асвета,
Беларусі адвечныя песні плылі,
Маладыя сталелі паэты.
Як прыгожая кветка вясной, расцвітай,
Мой Нясвіж, мілы горад Радзімы,
Незабыўны ніколі, азёрны мой край,
Ахінуты крыжамі святымі.

Колькі раз ад варожае зграі цярпеў,
Адбіваўся ад чорнай навалы,
Ты, Нясвіж, перамог і бяду адалеў,
Над табой сонца міру заззяла.
Дык, працуй і жыві, дабраслаўны з краёў,
Родны горад, свабодны навечна.
Ты прымаеш з павагай сваіх жыхароў
І сяброў сустракаеш сардэчна.

Квітней, мой Нясвіж,
Старажытны і вечны!
Ты горда стаіш,
Ты будзеш нясці сваю веліч.
Няхай праходзяць гады,
Ты такі непаўторны адзіны,
Векапомны і малады,
Горад мой пад крылом жураўліным.



## Віктар Дземеш

*Віктар Дземеш. Па адукацыі - эканаміст і журналіст.*

*Працаваў спецыялістам агравытворчасці ў Нясвіжскім раёне (у 1979 - 82 гг. - старшым эканамістам, в.а. галоўнага эканаміста на Нясвіжскім льнозаводзе ў Гарадзеі, у 1982 - 84 гг. - вядучым эканамістам на Нясвіжскім малаказаводзе). Працаваў у Барысаўскім раёне, знаходзіўся на адказных пасадах у СМІ. Зараз - на ўласнай гаспадарцы. Вершы бачылі свет у шэрагу раённых газет, у абласным і рэспубліканскім друку, а таксама ў штотыднёвіку "ЛіМ", часопісах "Маладосць", "Крыніца", "Неман". Выдаў кнігі “Барысаўскі мерыдыян”, “Барысе ў экслібрысе”. Сябар Саюза вольных літаратараў, Беллітсаюза “Полоцкая ветвь”.*

*Першыя творы былі змешчаны ў "Чырвонай змене" і "Знамя юности", дзе быў падтрыманы Вольгай Іпатавай і Уладзімірам Някляевым.*

*Працуючы ў цэнтральным рэгіёне Беларусі, шмат разоў сустракаўся з Нілам Гілевічам, смерць якога ўзрушыла, падштурхнула напісаць нізку вершаў светлай, незабыўнай памяці гэтага выбітнага, цудоўнага чалавека.*

# У ВЯНОК НІЛУ ГІЛЕВІЧУ

### Імя

Усе, хто свядомыя, у скрусе -
І роспач крывавіцца з ран:
Народны Паэт Беларусі,
Апошні памёр з магікан!

Апалі калматыя бровы,
У вачах не зайграе зара.
Ён, волат амаль двухмятровы,
Не выйдзе ніколі з двара.

Завялі агністыя словы,
Суцішыўся вечны змагар.
Дайшоў да астатняй высновы,
У журбе Беларусі абшар.

Паштар, можа год, можа болей,
Ён бегаў па вёсках - ляцеў,
Душой хлапчука наваколле
Ўцягваў, запомніць хацеў.

Пра тое, што ўбачыў, паперы
Шаптаў, нібы сябру навек.
У самае чыстае верыў
Крыштальны, святы чалавек.

Гісторыя ў спіс свой далучыць
Імя, што ў нябёсах дрыжыць,
Бо кожны радок жыць нас вучыць,
І чым у жыцці даражыць!

## Незваротнасць

Пад Лагойскам вясна ў разгары…
Не прыедзе ўжо ён сюды.
Разлятаюцца злыя хмары,
Сонца цешыцца,
знoўку ва ўдары,
Адыходзяць ад сну сады.
Як вясной паміраць нялёгка! -
Ды ашчэрыла зубы зло.
Рвецца нерв там,
дзе тонка-крохка,
І на лёсе ставіцца кропка:
Усё праходзіць -
ЖЫЦЦЁ прайшло!..
Сум і горыч разрэжуць грудзі,
Мае каты, мае ўрачы.
Колькі страх гэты мучыць будзе?
Памажыце боль сцішыць, людзі,
Незваротнасць перамагчы!…

## У сукрыстых нябёсах

Сцяг чырванню так палымнее,
Што боль сон зрывае з павек,
Што нема крычыць чалавек!..
Я, можа, не ўсё разумею,
Ды гэтая страта - навек.
Сцінаюць распятыя грудзі,
Сляза ўспаміны пячэ:
Ніколі Народных не будзе
На памяці нашай яшчэ!
Апошні! Апошні! Апошні!
З той жартаў не звіць,
што з касой.
І плачуць самлелыя пожні
Світальнаю зыркай расой.
Не ўзяўшы ні жэзл і ні посах,
Нічога зямнога, спярша
Хай там - у сукрыстых нябёсах -
Спачне ад пакутаў душа!..

## Адзін

Калі памірае Паэт,
Тады замаўкае і Слова.
І Боскае міласці свет
Не ззяе ўжо так адмыслова.
Ён чаўрае ў тлуме гадзін -
Неадваротна, паціху,
І ты застаешся адзін,
Сам насам з разбэрсаным ліхам.
Праменні яшчэ сонца тчэць,
Хапае ў ім ізатопу…
О, Божа, не дай мне здзічэць
Сярод нежывога натоўпу!
*01.04.2016 г.*

## Па вастрыі ляза

У горы, у журбе,
Са злом у барацьбе,
(Як смерці гады рады!),
Як жыць пасля ЦЯБЕ,
Як быць без слова ПРАЎДЫ?!
Ах, сэрца: тах, тах, тах -
Пусцілася ў скокі…
Боль - па ўсіх слядах!..
Хоць нават і не лёкай,
Ніхто не скажа так,
Як ТЫ - у брыво, у вока!
ТЫ самы яры быў.
ТЫ прама ў душы біў,
Хутчэй жа ж у душонкі.
Як ТЫ жыццё любіў, -
Мацней, чым нораў жонкі!
Шчымлівая сляза
Свідруе сны паэтаў,
Што смех кідаюць свету -
Звышмужнасці прыкмету,
І ўспыхваюць каметай,
Па вастрыі ляза
Танцуючы з імпэтам…

Хай панясуць затым
З харугвамі святымі,
Ды сутнасць жа не ў тым,
Хоць ШЛЯХ закрые дым -
У свеце маладым
Адчуем сіл уздым:
Мы зрушым горы з імі -
З ПАЧУЦЦЯМІ ТВАІМІ!
*05.04.2016 г*

**Дакор**

Вось і ўсё, і не ўбачым ніколі
Яго вершаў гарачых - ва ўпор,
Новых, свежых, і Муза ў спакоі,
І стаіць у баку, як дакор…
Толькі ён мог так рэзкія словы
Ў прастору бязмежжа кідаць.
Быў паэт - і паэт адмысловы,
Грамадзянін, па справах відаць.
Мы ідзём, і бліжэй наша мэта,
Ён бясстрашнасцю
браў у палон.
І ніхто не заменіць Паэта,
Каб так годна, так востра, як ён.
Не гартуй - і сумленне загіне!
Чым жа станем
затым даражыць?
Без Народных Паэтаў, краіна,
Як ты будзеш,
няшчасная, жыць?!
*10.04.2016 г.*

**Надзея**

Рэзкі, гучны, вясёлы, гарачы,
Як герой свой агораўшы лёс,
Пыл уклаўшы ў Праўду юначы,
Там, дзе трэба,
адмераць мог здачы,
Ты дарогай ішоў, поўнай слёз.
Хоць памёр -
а хутчэй жа загінуў, -
Боль не вытрываў
БОЖЫ ТВОЙ ДАР, -
Ты нашчадкам
НАДЗЕЮ пакінуў,
О, ПЯСНЯР, О ТРЫБУН,
О, БУНТАР!
З ёй, з надзеяй,
усё ж шанцаў ёсць болей
Па дарозе цярністай прайсці,
Перасіліць бясчассе ў падполлі,
Пераджыць неяк навалач болю,
Уключыць Неспатольную Волю,
Каб у думках аб дзецях, аб ДОЛІ,
Зноў змагацца -
За ШЧАСЦЕ ў жыцці!..
*12.04.2016 г.*

**Мэта**

На полі крывавага бою,
Дзе смерць без бінокля відна,
Паэт ахвяруе сабою -
Да рэшты, да кроплі, да дна.

Ён, як Аляксандр Матросаў,
Грудзьмі амбразуру бярэ,
Ён - бедны, галодны і босы,
Хаця і мароз на дварэ!..

Упаўшаму целам і воляй
Не дасць апусціцца ў гразь,
Ён боль не абыдзе ніколі,
Любому надзею падасць.

… Паэтам хачу, дзе апала,
Крутымі шляхамі ісці,
Каб гора і бедаў хапала -
Каб МЭТА свяціла ў жыцці!..
*21.04.2016 г.*

**Сцяг сумлення**

*Будызм дапамагае выйсці*
*з рэальнасці і жыць без пакут.*
*(з вучэння аб будызме)*

Паэт будыстам быць не можа,
Паэт на тое і паэт,
Што кліч бяды яго трывожа,
Ён у адказе за Сусвет.
Балады піша ён і оды,
І вершы злыя - не для моды,
Ўзнімае на дзіды народы;
Такога не састараць годы,
Нікому ён не гне паклон,
Радком ён рушыць перашкоды,
Ён крэпасці бярэ ў палон!
… Калі век вытанчана мучыць
Маю душу, - хай крые Бог -
Ён разняволенасці вучыць,
Кідае на фіёрд калючы,
Дзе пах азону, страх гаючы,
І я тады трублю ў свой рог.
Я - вой, я - віцязь, я - мужчына,
Я ўсё змагу, перамагу,
Калі на тое ёсць прычына,
(а іншае і немагчыма),
І сцяг сумлення зберагу!

**Дуб з дубровы**

Стройны, нібы колас,
Гнаў пакоры ціш,
Чуў ягоны голас
Сонечны Нясвіж.

Выступаў ён гучна,
Сходу браў акорд -
Ладны, а не штучны,
Горды, нібы лорд.

Супіліся бровы
Ці ўзляталі ўвысь -
Ён, як дуб з дубровы,
Целам быў калісь.

Потым старасць ела,
Не здаваўся ён,
А змагаўся смела,
Кожным словам пела
Радасць буйных дзён.

*25.04.2016 г.*

**Вершанараджэнне**

Зара аблокі ліжа,
Я гэта не сасніў,
Па вуліцах Нясвіжа
Ідзе бадзёры Ніл!

Цудоўная пагодка,
А, можа, гэта сон,
Паэтава паходка
З надвор’ем ва ўнісон.

Пясняр вялікі, першы,
А думкі аж гудуць,
І дзесьці ў сэрцы вершы
Шапочуцца, растуць.

**Размова з Нілам Гілевічам**

Мой Нясвіж цябе ў казках кружыў,
Растармошваў, я ведаю гэта.
Ты з любімым Нясвіжам дружыў,
О, Пясняр, ты ім так даражыў
На ўсё шчырае сэрца паэта.

Чую крокі твае я здалёк
Каля возера Дзікага ў парку,
Вось прысеў, бо знайшоў ты цянёк,
Можа, лаўку, а, можа, пянёк
Пад галін пераплеценых аркай.

Ніл Сымонавіч! Родны! Зямляк!
Без цябе цяжка жыць мне на свеце,
Дапамог бы слаўцом - як ні як
Ты ўсё ведаў, Народны паэце.

Ты арлiным паглядам сваім
І кашлатым брывом лёсы правіў...
Кожны верш твой - Рэспублiцы гімн,
Кожны верш твой - Рэспублікі слава.

Па нясвіжскіх сцяжынках іду,
Каб пачуць знакамітую фразу.
Ці на шчасце сваё, ці бяду,
У лясін дарагіх на віду
Я размову з табою вяду,
І на сэрцы лягчэе адразу.

*30.04.2016 г.*

**Новыя вершы**

На цэлы свет грыміць падзея -
Прымае Ніла Гарадзея.

Ён вершы новыя прывёз,
Чытаць іх будзе скора,
І селянін кідае воз,
Бядак забыў пра гора.

Цябе любілі, о, паэт! -
Хоць быў такі брывасты,
Прыгожы, нібы макаў цвет,
Але - не задавасты.

Хоць славаю дастаў да гор,
І сам вялізны ростам,
Ты - не Бураўкін, не - Рыгор,
Ты просты, вельмі просты!

Цябе і помню, і люблю,
Зямляк, тытан з Лагойска,
З табой сто спраў перараблю,
З табой і чарку прыгублю
Па-брацку і па-свойску.

*1984 г.*

# З НЯСВІЖСКАЙ МАЗАІКІ

***Алаізе - з любоўю і ўдзячнасцю***

### Мой горад

Ты лёсам зусім не прыніжан,
А нават, дык, наадварот...
Іду маладым я Нясвіжам
І часу кручу калаўрот.

Мой горад з легенд не знікае,
На ім - ні ярма, ні кляйма,
Тут дух Радзівілаў блукае,
Хоць "Пане Каханку" няма.

З турыстамі разам на замак
Гляджу - наглядзецца б навек!
Бо лепшы ў краіне, бо самы,
Які мог стварыць чалавек.

У Храме Гасподняга Цела
Я рады з Езусам пабыць,
Дзень цэлы па вуліцах смела
Хаджу і хацеў бы хадзіць.

Па парках разложыстых крочу
З высокім імпэтным агнём.
Прыгожы ты, горад мой, ноччу,
Дзівосны ты, горад мой, днём.

Ты даў мне сардэчныя лекі,
Душы дараваўшы спакой,
Я буду з табою навекі,
Ты будзеш навекі са мной.

### Праслаўлю да нябёс

Я на імшы стаю і плачу,
Мяне працяў да дна арган,
І я ў Нясвіжы нешта значу,
Я тут - паэт, я тут - васпан.

Вясёлы, злосны, дэспатычны -
У розных іпастасях я -
Але не трус меланхалічны,
Сангвінік смела-халерычны,
Узрыўны - гэтым я прывычны,
Я - рамантычна, паэтычны:
Паэзія - любоў мая!

На грубасць уключаю грубасць:
О, пан, бястактнасць патушы!
З прыветнымі
ўсплывае любасць,
Аж сэрца ўздрыгвае ў душы,
Хоць вершы пра яго пішы.

Такое і ва ўсіх бывае:
То ледзь ідзеш, то аж ляціш!
Нясвіж, цябе не забываю,
Я помню пра цябе, Нясвіж!

Арган дрыготка нервы ліжа,
І паднімае, і нясе
Над зыркай плошчаю Нясвіжа,
І горад любы - бліжай, бліжай,
А з ім - і людзі яго ўсе!

Мяне падняў ён у юнацтве,
Ён даў дарогу мне і лёс,
З ім я заўсёды буду знацца,
Яго праслаўлю да нябёс.

### Кліч рамантыку

Падкоўваю - азёры - зверху,
Мне з маёй мары даль відаць,
Не верыш - правядзі праверку,
Каб потым болей не гадаць

Ільсняцца хвалі - зырка, штатна,
Спускаецца, як птушка, ціш.
Тут прыгажосці - аж занадта:
Фотагенічны ты, Нясвіж!

Людзей ля замка - безліч, мора,
Нібы мурашак у бары,
І так і сёння тут, і ўчора,
Любога ў абарот бяры.

Распавядзі аб тым, аб гэтым,
Легенду ўспомні праз гады,
Лагодай летняю сагрэты,
Сам на хвіліну стань паэтам
І кліч рамантыку сюды.

## Неспатольная годнасць

Нібыта цяпельца прыроднае
Пад векам халодным і злым -
Нясвіжскае, любае, роднае -
Ты ў сэрцы навечна маім!

Людзьмі - дарагімі і шчырымі,
І тымі буслямі, што зноў
Вяртаюцца - вечныя - з выраю
Расхлістана-шпаркай вясной.

Касцёлам, царквою, каплічкаю
Мой дух ты трымаеш зямны
І зыркай, вясёлаю знічкаю,
Што ноччу праслізгвае ў сны.

Спакоем упэўненым, гордасцю,
Бо ведаюць горад усе,
І неспатольнаю годнасцю,
Што прышласць з сабою нясе.

## Цудоўны для ўспамінаў кут

Пяць год аддадзены Нясвіжу,
Шкада, што не застаўся тут.
Я не адну тут з’ездзіў лыжу,
І не адну запоўніў нішу,
Бо гэта плюс майму прэстыжу:
Цудоўны для ўспамінаў кут.

Не раз і здані Радзівілаў
Я бачыў - Божа, колькі іх!
Мяне ўсё гэта не дзівіла.
Я знаў: жывуць яны, і міла
Мяне прыцягвала іх сіла,
Не адпускала ні на міг.

Цвіло каханне ў вершы звонкім,
Калі я ля азёр гуляў,
Душа ўмірала, перапонкі
Нямелі, шэпт чуваць быў тонкі,
Паненак, стан іх гнутка-гонкі
Вачыма ў мроях я люляў.

Найпрыгажэйшы горад свету,
Нясвіж! Ты казачны навек!
Прытулак беднаму паэту,
Што радуецца сонцу, лету
І верыць, верыць у прыкмету:
Тут кожны - добры чалавек.

## У Ангельскім парку

Я не браў кілішак, не куляў я чарку,
Мой закон жалезны, мой закон сухі.
Ангелы гуляюць па Ангельскім парку
І смяюцца срэбрам - я ўсё ж не глухі.

Ноччу, калі месяц, днём пад сінявою,
Ты прыйдзі на месца, ды і сам прыкмець -
Крылы за спіною, німб над галавою:
Бегаюць, лятаюць - як іх зразумець?

Бог іх пасылае, каб Нясвіж вясёлы
Быў, каб дух іскрысты плыў, каб баляваў,
Каб вяселле чулі гарады і сёлы,
І каб у Нясвіжы кожны пабываў.

Не крычаць, не шкодзяць, не чапаюць нават
Ні паглядам пільным, ні слаўцом якім,
У Ангельскім парку - ангелаў выявы,
Як прыемна ў парку адпачыць такім.

**Ручныя хвалі**

На возеры Дзікім - не дзікія хвалі:
Ручныя, ласкавыя, нібы той пух,
Вандроўнікі ўсмешкі ўнутры не хавалі,
Іх стогн прыкмячалі, іх шэпт прывячалі,
Іх смех сваім смехам, як сонцам, вянчалі,
І хвалі іх позірк на спінах гайдалі -
Марудны, спакойны і вечны той рух.

На возеры Дзікім - ні лодак, ні вёсел,
Тут нельга купацца, тут можна глядзець,
Як ноч травы росіць, як месяц іх косіць,
Як млосна зямелька дажджу ў неба просіць,
Як нібы з-пад кросен - барвовая восень,
Якую там нехта і не пераносіць,
Стараецца ў золата дрэвы адзець.

**Сейлавічы сеюць хлеб**

Даўно ступеў іржавы серп,
І памяць булькнула ў тарфянку,
Няма ўжо больш
даўнейшых верб,
І не чакае Яся Янку...
... Вунь Сейлавічы сеюць хлеб, -
Глядзеў князь Радзівіл ад замка.

Тут ласка вырасце з дабром,
Як іх з душой пасееш, дружа,
Я адчуваю час нутром,
Я ад гадоў знямогся дужа.

Зайду ў спакойныя двары
І абдымуся, з кім папала,
І Бог здаволены ўгары
З мяне пацешыцца нямала.

Жыве на вёсцы даўніна,
Былое помняць яе людзі,
Нясвіжскай славы старана,
Яна такой і далей будзе.

... Вунь Сейлавічы сеюць хлеб, -
Глядзеў князь Радзівіл
ад замка...
... І ўспамінае ржавы серп
Сваіх і Ясечку, і Янку.



# Уладзімір Жылка

*   *   *

Што я такое?
Як усе імкнуўся ўверх,
Як усе я лез увысь,
І мне мнілася, што ўсё!
Ды тут, раптам, раз -  і ўніз.

Ламаў галаву,
Хрыбетнік ламаў,
Ды веру ў сябе
Бярог, не губляў.

Чарнобыль мінуў,
Ды пазнаў тых няўзгод,
Што іншым хапіла б
На некалькі год.

А, выжыў,
Хоць рукі аблезлі,
Сляпы,
Ды як падчапуруся,
Бы малады!

*Уладзімір Трафімавіч Жылко нарадзіўся 30 жніўня 1945 года ў горадзе Алатыр Чувашскай АССР. У 1947 годзе сям'я пераехала ў Нясвіж. У 1963 годзе з залатым медалём скончыў СШ №2 г. Нясвіжа, паступіў на фізічны факультэт БДУ. З-за траўмы вучобу прыйшлося прыпыніць. Працаваў грузчыкам, слесарам. У 1970 годзе Уладзімір Трафімавіч быў прыняты  на працу ў Нясвіжскі РАУС, а ў жніўні 1971 года паступіў на завочнае аддзяленне юрыдычнага факультэта БДУ, якое скончыў ў 1977 годзе. Працаваў суддзёй. Прайшоў шлях ад памочніка да намесніка пракурора.*

*Піша вершы на беларускай, рускай мове, займаецца перакладам твораў польскамоўных паэтаў-землякоў. Сябар раённага літаратурна-музычнага аб'яднання "Валошкі", абласнога Народнага клуба паэтаў і кампазітараў "Жывіца". Друкаваўся ў газетах "Мінская праўда", "Нясвіжскія навіны", вершы гучалі на рэспубліканскім і раённым радыё. Творы У.Т. Жылко ўвайшлі ў аблас-ныя зборнікі паэзіі "На парозе вечнасці" (2010), "Срэбны блюз", "Мне рамонкі цалуюць калені" (2011), "Расчыні ў вясну акно" (2013), "На парозе вечнасці" (2010), "Званы памяці", "У адно акенца"(2013), "Праз восеньскі ажур" (2014),. Аўтар зборніка "Пасля нас зацвіце тое зноў". На вершы Уладзіміра Трафімавіча напісаны песні.*

## Зубр і Тур

Два партрэты вісяць на бялюткай сцяне,
На абудвух - вусатыя лікі.
Нібы Зубр, а з ім Тур тут усталі бы ў сне,
Не прывіды - у яве ўзніклі…

Колас... Колас, а разам - Купала.
Колькі ж вы Беларусі далі?!
Як жа многа без вас нам не стала,
Песняры беларускай зямлі!

Вершы Коласа - дзядзька ў Вільні,
Беларускасць і простыя людзі,
Ды да іх я душою прыхільны,
То падмуркам ў жыцці хай мне будзе.

А Купалавы мроі і мары
Ў летуценні "Курган" узвялі…
Нам пашчасціла мець гэту пару
На сваёй, беларускай зямлі!

Вы - вялікія, усім зразумела,
Вы  вялікія - йшлі ўперад смела,
Вы за мову стаялі, за Беларусь.
І ў вяках застанешся ты, Белая Русь!

Шчасце маем усе ў сваім мы жыцці:
Што не ў Янкі, то можам у Якуба знайсці.
І ўзлёт у вышыню, і асновы ўсёй мур -
Нібы Зубр тут стаіць і паўказачны Тур.

## Беларускія нівы

*Па ідэі І. Буглая*

Красуюць навокал цудоўныя нівы
Між лясоў, уздоўж дарог зелянеюць палі.
Жаўруковых тут песень гучаць пералівы
Усхваляюць красу нашай роднай зямлі.

*Прыпеў.*

Беларускія нівы, беларускія нівы,
Як гонар і моц беларускай зямлі.
Беларускія нівы, беларускія нівы,
Вы ў сэрца маё назаўсёды ўвайшлі.

Мора пшаніцы, як золата хвалі
Вецер ціха калыша, калоссе звініць.
Працу сваю мы зямлі аддавалі,
У шчасці і долі Радзіме каб жыць.

*Прыпеў.*

Радуе вока грэчкі бялюткасць,
Лашчыць мне душу лёну блакіт.
І не стрымаць мне вялікіх пачуццяў:
Наша зямля - гэта наш дабрабыт!

*Прыпеў.*

Ды не проста вакол красуе прырода,
Мы рупліваю працай свае нівы ўзнялі.
То здабытак і плён беларусаў, народа!
Аддалі свае сэрцы мы роднай зямлі.

*Прыпеў.*

**Восень жыцця**

Лаўка ў парку…
старая жанчына…
Ёй шапоча апалае лісце…
Ты была тут
калісьці дзяўчынай,
Ну, а зараз не бачыш ты выйсця.

Бо даўно ўсё сышло.
А ці ўсё і было?
Ці, мо, мроі твае толькі гэта?
Мо пачуццяў там ззяла
высока святло?
- Дзе жаданае шчасцейка?
Дзе ты?!

Так, …мо ўсё і прайшло,
у нябыцце пайшло,
І жыццё паламала ўсе мары.
Нібы згінула колісь
тут шчасця святло…
Шчасця дай ёй, мой Божа,
не кары!

* * *

Хай упадзе хто,
Хай стане ў рост,
Ды зблізіць нас
Адзін пагост!

Там будзем роўныя мы ўсе!
Як Бог туды нас прывядзе.

**Мая кватэра**

***Дзверы:***

- Аб ахове пільна дбаем,
Позыў клямкі мы чакаем,
І сябе мы адчыняем
Тым, з дабром
хто к нам прыходзіць,
Так сустрэнем, прывітаем,
Як паводзіцца ў народзе.

***Калідор:***

- Топчуць!..
Блыкаецца хтосьці…
Гаспадар то, а то і госці.
Брудзяць дываны, падлогу,
Вось, знайшлі сабе дарогу!

Накідаюць стос абутку…
Ды не ведаў бы я смутку,
Каб мяне хоць паважалі,
За Пакой мяне прымалі.

Маю ж вешалкі, люстэркі…
Ім хутчэй бы да талеркі!
Добра жыць заўжды кабеты
Маюць у гэтым гнанні мэту:

Мужыкоў, каб варажыць,
Ля люстэрка пакружыць.
Для мяне павага ж гэта!
Я - паперадзе, не дзе там!

А мужык - віхор прыляпне,
Мо ад снегу ботам топне,
Кіне зрок на гаспадыню
З пахаў праглыне, мо, сліну

І адразу дзесь прысесці,
Каб зручней і піць, і есці…

Я ж Пакой! Хоць прахадны,
Маю я аж дзве сцяны!
Ці то цяжка зразумець?!
Я ж хачу павагу мець!!!

***Канапа:***

- Вядома, гэта не Анапа,
Дзе мора сінь і дзевак шмат...
А гэта ты! Мая канапа!!!
Тут я кароль і мецэнат!

***Старое крэсла:***

- Цябе заўжды перастаўляюць
То я, то жонка, госці, дзеці …
Нічога нават не пытаюць!
А колькі чула ты?..
І на смецце!?!?

***Тэлевізар:***

- Ты - адзіны надзейны
мой сябра.
Мае грахі не здасі нікому.
Не звернеш увагі
і на нязграбнасць,
Калі і як я прыйшоў дадому…

**Прыходзьце да мяне**

*(Думкі і запаветы старога чалавека)*

Прыходзьце да мяне, пакуль яшчэ жывы,
На ваш маладастой звярнуць магу я ўвагу,
Пакуль яшчэ хоць штось цячэ ў маёй крыві,
І здолею, мо, што аддаць Вам за павагу.



# Вольга Жэрка

*Вольга Якаўлеўна Жэрка нарадзілася 30 кастрычніка 1940 года ў вёсцы Палікі Думініцкага раёна Калужскай вобласці. У гады Вялікай Айчыннай вайны разам з маці была эвакуявана ў Беларусь. Усё дзяцінства і большасць гадоў юнацтва прыйшлі ў вёсцы Сычэва Нясвіжскага раёна.*

*Закончыла Карцэвіцкую сямігодку, затым вучылася ў Нясвіжскай сярэдняй рускай школе, у бібліятэчным тэхнікуме. Свой працоўны шлях пачала старэйшым рахункаводам у аддзеле сацыяльнага забеспячэння Нясвіжскага райвыканкама, затым працавала загадчыцай сектара ўліку райкама камсамолу, бібліятэкарам гарадской бібліятэкі. У 1971 годзе была абрана сакратаром Нясвіжскага сельвыканкама, дзе працавала 25 гадоў. Зараз на пенсіі. Друкавалася ў раённай газеце "Нясвіжскія навіны".*

*Аўтар паэтычных зборнікаў "Цветной звездопад" (2002), "Верю в судьбу" (2009), "Струны души" (2010).*

*Творы ўвайшлі ў калектыўныя зборнікі "Букет валошак" (2008), "З адценнем любові" (2008), "Мне рамонкі цалуюць калені" (2011).*

### … Не шкадуйце рабіну

Шмат песень пра яе спяваюць.
Усе сумныя яны. Чаму?
Яна ж, вясёлая, трывае
І ўсміхаецца дубку.
Не трэба шкадаваць рабіну.
Не трэба сумна так спяваць,
Не хіліцца яна да тыну,
Зусім не горкая на смак.
А тонкая - бо маладая,
Каханай, любай марыць быць.
Калі ёй так наканавана,
То ўжо нічога не змяніць.



# *Іна Калеснікава*

*Іна Генадзеўна Калеснікава (Уласенка) нарадзілася 10 траўня 1965 года ў вёсцы Пясчанка Салігорскага раёна Мінскай вобласці. Скончыла Гаўрыльшчынскую СШ, затым Горацкую сельскагаспадарчую акадэмію.*

*У 5-м класе напісала першы верш "Восень". Пасля друкавала свае вершы ў газетах "Ленинское знамя", "Вестник современника", "Ударны фронт", "Літаратура і мастацтва", "Чырвоны сцяг" ("Нясвіжскія навіны"). Піша больш аб прыродзе, пра любоў да роднай зямлі, пра каханне.*

*Іна Генадзеўна ўдзельнічала ў літаратурным конкурсе, прысвечаным 60-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Яе верш "Не дапусціць бяды" ўвайшоў у зборнік "Званы памяці". Акрамя захаплення паэзіяй з гадамі прыйшло натхненне пісаць пейзажы.*

*Пайшла з жыцця 3 красавіка 2017 г.*

**Лісточак**

Адарваўся лісток ад бярозы-матулі,
І нясе яго вецер далей і далей.
І ніхто яго больш да сябе не прытуліць…
Так здараецца часта ў жыцці між людзей.

Падрастае ў любові, турботах, пяшчоце
Той, хто матцы за ўсё на зямлі даражэй,
А надыдзе хвіліна - як кволы лісточак
Панясе па жыцці яго вецер надзей…

* * *

Старэнькая, маленькая,
У чым душа трымаецца?
Малітвы шле Ўсявышняму
І за жыццё змагаецца…
Даўно ўжо адзінокая,
Спазнаўшая ўсяго за век -
Міг шчасця, хоць кароткага,
І гора - поўны мех.
Не крыўдзіцца, не скардзіцца,
Як быццам, так павінна быць…
Гадоў паўнее скарбніца
І трэба неяк жыць.
Была калісьці зграбнаю,
Гарэла ўсё ў руках,
Танкляваю, прывабнаю,
З іскрынкай у вачах.
З каханым разам зведала
Бяссонніцу начэй -
Тады яшчэ не ведала,
Што шчасцейка ўцячэ…
Вайна… Вайна-разлучніца
Ўсё заблытала ў жыцці…
Цяпер свой крыж пакутніцы
Да скону ёй нясці…
Старэнькая, маленькая,
У чым душа трымаецца?
Малітвы шле Ўсявышняму
І за жыццё змагаецца…

## Мая вёска

Вёска майго дзяцінства
З простаю назвай - Пясчанка.
Ты назаўжды мне блізкая,
Родная і жаданая.

Вёска майго сталення.
Мне цікава даведацца:
Колькі жыло пакаленняў
Здаўна на гэтай зямельцы?
Хто былі мае продкі?
Дзе мне знайсці адказ?
Час няўмольны і жорсткі -
Мінулае - у крыжах…

## Да роднай хаты

Да роднай хаты - сотні вёрст…
І з цягам часу адчуваю:
Чым болей дзён, тым болей я
Чагосьці важнага губляю.
І думкі зараз аб адным -
Бацькі на вёсцы засталіся,
Няма дачкі, далёка сын
(На чужыне ці прыжыліся?).
Я разумею, ім цяпер
Не так патрэбна дапамога,
Як цеплыня, дабро, давер…
А тут … такая вось дарога!
І спраў усякіх чарада,
Хоць гэта, быццам, не прычына,
Калі адчуеш, што бяда
Глядзіць адкрытымі вачыма…
Сарвацца б з месца кожны раз,
Як сэрца, думкі падказалі.
Дарма! Абставіны і час
Заўсёды ўмовы дыктавалі.
Адпусцяць толькі раз у год,
Як кажуць, толькі паказацца.
Рукой кранешся да варот,
А ўжо пара і развітацца.
Мізэрна мала тых часін,
Што правядзеш ў роднай хаце.
Як быццам ты не родны сын,
І не дачка ты ў роднай маці…
На жаль, усе мы так жывём,
За невялікім выключэннем,
Што пакідаеш родны дом,
А потым просіш прабачэння…

## Прыцяжэнне

Ёсць адна мясціна на зямлі,
Дзе чужым не будзеш ты ніколі,
Гэта - вёска, дзе жывуць твае бацькі,
Гэта - рэчка, луг, лясы і поле.
Там усё знаёма да драбніц,
Бо сляды пакінула дзяцінства
Тут грыбы былі, там - россыпы чарніц,
Рэчка вабіла смуглявую дзяўчынку.
Ведаеш у вёсцы кожны дом.
Гэта - назаўсёды разам з намі.
У сэрцах мы захоўваем цяпло,
Тое, што бацькі нам даравалі.
Вернемся сюды і праз гады,
Бо радзіма мае прыцяжэнне.
Дзе б ні ездзіў ты і дзе б цяпер, ні жыў -
Будзеш помніць месца нараджэння.

## Бацькам

Як многа значыць у жыцці сям'я!
Я лёсу дзякую за бацьку і за маці.
Яны - крыніца невычэрпная цяпла,
Аснова і ўмова майго шчасця.
Спяшаюся заўсёды ў родны дом.
Тут для душы маёй гаючае лякарства -
Пяшчота і бацькоўская любоў,
Якая не канчаецца, не гасне…
Сюды і боль, і радасць я нясу.
Сумую, калі нечакана бачу
Матулі патаемную слязу
Ці смутак на вачах у бацькі.
Куды б шляхі мяне не завялі,
Я сэрцам, родныя, заўсёды з вамі.
Што ёсць цудоўней, лепей на зямлі,
Яднання непаўторнага з бацькамі?

## Восеньскія фарбы

Восеньскія фарбы з залацістым бляскам.
Ападае лісце, усцілае дол.
Лес такі прыгожы, як у дзіўнай казцы -
Палыхаюць дрэвы, нібы той касцёр…
Ад рабіны стройнай не адвесці вочы,
Чырванню заліта, гронак - не злічыць…
Хараствам здзіўляе ўсё, што ёсць навокал.
Тут душа заўсёды зможа адпачыць.
Восень-прыгажуня не прабудзе доўга.
Адчуваю подых маразоў, зімы.
Так ужо заведзена ў матухны-прыроды -
Цёплым дням на змену - снежаньскія дні…

* * *

І дай табе Божа не збіцца з дарогі,
Народ, дарагі мне, народ мой свабодны!
Зарана яшчэ ўздыхнуць нам з палёгкай -
Час вельмі імклівы цяпер, неспакойны.
Чым будзе напоўнены заўтрашні дзень?
Хацелася б верыць - усмешкай дзіцяці.
Вядома ж, чым болей шчаслівых дзяцей,
Тым болей на свеце шчаслівых і маці.



# Андрэй Козел

*Андрэй Уладзіміравіч Козел нарадзіўся 10 кастрычніка 1987 года ў п. Новагарадзейскі Нясвіжскага раёна. Скончыў Нясвіжскі дзяржаўны каледж імя Якуба Коласа па спецыяльнасці "Фізічная культура", пазней - завочна - БДПУ імя Максіма Танка ("Беларуская мова і літаратура. Журналістыка"). Два гады настаўнічаў у Мінску. З 2010 працуе ў рэдакцыі раённай газеты "Нясвіжскія навіны" загадчыкам тэхнічнага аддзела. Жыве ў Нясвіжы.*

*Вершы пачаў пісаць у 14 гадоў на рускай мове. Дэбют у друку адбыўся ў 2011 годзе ў раённай газеце "Нясвіжскія навіны". Пачынаючы з 2012 пачаў спрабаваць пісаць на роднай мове з не зусім стандартных жанраў - верлібраў, пункціраў, версэтаў, крыху пазней звярнуўся да напісання і класічных вершаў. Ад таго часу піша толькі на беларускай мове. Творы друкаваліся ў газеце "ЛіМ", часопісах "Дзеяслоў" і "Маладосць". Спрабуе таксама перакладаць рускіх і беларускіх аўтараў.*

*Захапляецца творчасцю Алеся Разанава, Міхася Стральцова, Іосіфа Бродскага і іншых паэтаў.*

* * *

Я адпускаю  
ў былое,  
тых, хто чужым  
цяпер мне стаў.  
Хто на пытанне:  
"Ты са мною?.." -  
Нічога мне  
не адказаў.

І хто пайшоў  
дарогай іншай  
сярод мільёнаў  
тых дарог.  
Я тут не Бог,  
трымаць каб лішніх,  
і асуджаць,  
я тут -  
не Бог.

* * *

Забыты дом на ўскрайку лесу.
Нібы малы туды залезу,
каб паглядзець як памірае,
што для сям'і цяпло стварае...

Былі тут гоман і вяселле,
зімовы гул і мрой трызненне;
тут забыццё было і смутак,
жалоба, смерць і болю скрутак.

Дом для дзяцей быў,
для дарослых.
Ён будаваўся так няпроста!
У ім жылі любоў, пяшчота,
цяпер - трава і адзінота.

Стаю разгублены, разбіты
ля студні. Пацукі сярдзіта
хаваюць пысы ў завуголлі,
з акна звісае дрэва голле.

На крыж забіты аканіцы,
рыпяць галосячы масніцы,
ды зруб пахілы, дах у лаце,
і дзверы б'е скавыш у хаце.

**Трамвай**

Трамвай ляціць, сняжынкі б'е,
Цікуеш снег ты праз акно.
І шэнціць мне, шанцуе мне:
Як добра, што не на метро.

Напэўна не - не падыду:
Не хопіць смеласці як след.
Патрэбных слоў я не знайду! -
Пусты цяпер мой моўны свет.

А я б сказаў табе так шмат -
Пра гэты дзень, сябе, людзей.
Ды моцна так, мацней стократ
Так рвецца сэрца ад грудзей.

Ужо на працу не паспець!
Магчыма, больш яе няма?!
Цяпер глядзець, давай глядзець
У вочы лепшага нам дня.

Трамвай ляціць, і снег - у такт,
Бы ладзяць звонкае святло!
І ладна як, і добра так,
Што гэты раз не на метро.

* * *

Верш недапісаны лёг на стале…
Можа, мне мроіцца? Можа і не?
Слоў не хапае - узяць - дапісаць.
Лёг я на ложак - не хочацца спаць.
Што мне падкажа апошні радок -
дым тытунёвы, гарбаты глыток?
Дзе ён падзеўся сакральны матыў?
Можа быць, сёння яго я згубіў?
Вокны з жалеза, сцены - турма:
марыў я марна і верыў дарма.
Што тут паробіш? Натхнення няма!
Слоў не падкажа, канешне, сцяна,

дый не прашэпча ніколі і столь,
іх прадыктуе радасць ці боль.
Зараз пачуццяў якраз не стае -
верш недапісаны лёг на стале…

**Адзінота**

Зайшла заўчора Адзінота:
Кранула грыф, адкрыла ноты;
Зайграла лад тугі, няпросты;
Дастала пульт, ўключыла кросны.

І нешта ткала - шлях, дарогу -
Кілім жыцця, перасцярогу:
Каб не баяўся дзесьці збочыць,
Ішоў хутчэй, глядзеў у вочы.

Каб не забыўся на рашэнні,
І грошы поўныя кішэні…
Ўзяла туга мяне, маркота,
Хоць і выходны быў, субота.

Я гнаў журбу, дурныя думкі,
Схапіў кілім, злажыў у сумку.
Пайшоў на двор - далёка кінуў,
Пясок - наверх яшчэ і гліну.

І расхадзіўся раптам вецер.
Ды завываў усё, вярэдзіў.
Халодны дождж ламаў мне плечы.
Я недзе чуў, што час залечыць.

**Сэнс**

Быццам давершаны, ды не пачаты,
самы спакойны і самы зацяты;
бачны знутры, не разгледжаны звонку,
самы глухі, а яшчэ - самы звонкі;
ды векапомны, хвілінназабыты,
з тых, хто не пройдзе ў дзверы адкрыта;
мерыць зіму хто чаканнямі лета,

сонцам схаладжаны, ветрам сагрэты;
вольны - ў каробцы, нявольны - на волі,
хто дадае замест цукру зноў солі;
вузкі, малы я, таксама - шматмерны,
той, хто заўважны звычайна і ў цемры,
я - сумны сэнс смешнаватай прыметы,
Кожным пачуты, Нікім  - зразуметы.

* * *

Я вярнуся ў найновым абліччы,
і ніхто не пазнае мяне.
Пазнікаюць і зменяцца лічбы,
мае думкі вятрыска знясе.

І застыне час вольнай хадою
на бяздонных зрэнках вачэй.
Захлынуцца цяжкай тугою
гэтым разам мне будзе лягчэй.

Я ўсяго часцінка на полі,
на бязмежным паркалі крыві,
механізм я нялепшае долі,
алавяны салдацік Зямлі;

павярнуся ў найновым абліччы,
можа, птушкай, а можа, дажджом,
для таго, хто сябрам палічыць
і хто дзверы адчыніць у дом.

**Дадому**

Усё ж такі вецер мяне супакоіў:
Падзьмуў - і душу маю разам спатоліў.
Я мог бы сказаць табе, вецер, так многа
Пра зменлівы шлях свой, крывую дарогу.

Пра тое, што сёння мне так не шанцуе!
Што несправядлівасць мне вочы цалуе! -
Усё запрашае хутчэй падзівіцца
На той краявід, ад якога не спіцца.

Бо я тут ніхто, і абставіны лёсу,
Як будзе патрэбна, наточаць і лёзы,
Як надта захочуць, пакінуць і шнары,
Якім бы я зараз не здаўся б удалым.

Таму не чакай, ветрык, ты дыялогу!
Я - злосны мядзведзь, што ідзе пад бярлогу.
Ты дзьмі, не спыняйся: я маю патрэбу
Ісці і хістацца з парывамі ветру.

**Рыса**

Клаўся снег на мяне калярова, карункамі,
не даваў больш сабрацца на гэты раз з думкамі,
замінаў, як ніколі, напэўна, да гэтага,
астудзіўшы мяне, так надзейна сагрэтага.

Выйшаў з хаты - прайсціся зімы намалотамі:
даць разбегчыся думам свавольна, з прыгодамі,
не збівацца каб ім той гаворкай з задругаю,
бо яе я ўсё роўна чамусьці не слухаю.

За сталом думы лезлі, глыбокія, плыткія,
часам - добрыя, светлыя, часам - і брыдкія.
Я з надзеяй пайшоў скласці думку адзіную,
каб данесці яе прад сваёю сябрынаю.

Снег ішоў на мяне калярова, карункамі.
Ён дзяліўся са мною здагадкамі, думкамі.
Я ж растаўся ўжо, ідучы скрыжаваннямі,
з мінакамі былымі, з былымі спатканнямі…

І пайшоў адваротна дарогаю новаю.
Быў і з роздумам новым, і з новай асноваю.
Падвёў рысу пад тлустаю назвай "мінулае",
ды адрэзаў з душы ўсё набраклае, чулае.

Думы склаў на паліцы, завесіў гардзінамі:
не дарэмна блукаў сам з сабою гадзінамі,
лёд падэшвай душыў і са снегам, са слотаю.
… Я ў пятніцу выйшаў, вярнуўся - суботаю.

## Здрада

Лісты бязмежнай, худой адзіноты
шапталі, грызлі крывавыя ноты,
ладна гудзелі, прыгожа спявалі!
Гук разлятаўся на мільёны караляў…
Іх мы хадзілі з табою, збіралі…

Дождж маляваў дажджавыя малюнкі,
прывід лунаў, пакідаючы думкі.
"Хто я такі?" - кідаў я праз прастору.
Збянтэжаны вецер нёс тыя словы,
цягнучы іх, ды праз вецце, праз кроны.

Гладзіў сумёт тваіх вараў душою.
Колькі мы ўжо не знаёмы з табою?
Ператвараліся ў тузін ўсе лічбы,
той знак пытання зрабіўся як клічнік,
шлях мой апошні - ён стаўся як лішні.

Гронкі жыцця чырвоныя трушчыў,
сок выпускаў, пакідаючы гушчу,
з даўніх падзей, што прынеслі нам мукі,
сэрца вагання празмерныя грукі…
Рукі ў крыві. Не трымай мае рукі…

## Шлях

Махае ветах ціха мне
Сваёю квадраю на выспе.
І мне здаецца, што я ў сне:
Знайшоў адказ і, пэўна, выйсце.

Хлусню адсеяў - чараўнік,
Рву ілюзорнае няшчасце.
А шлях мой з відавоку знік -
Гляджу праз тубус у міжчассе.

І цяжка мне трымаць адказ,
Бо шлях мой ные, патухае.
А я крычу: "Не ў гэты раз!"
Ды ён не слухае, згарае.

Цяпер лягчэй мой будзе бег:
Адказ кішэнь не адрывае.
Пясок кладзецца, нібы снег.
І, нібы снег, за мной растане.

Прасека бачыцца за мной.
І дрэвы ломяцца і гнуцца:
Прагал… спустошаны сабой,
Туды мне болей не вярнуцца.

Гучыць шматкроп'ем мне наказ -
Знутры вядзе сваё змаганне:
Ці быў калісьці я - адказ?
Ці стаў я для каго пытаннем?

## Пісьмо

Давай пачнём усё спачатку:
Твой першы погляд,
мой уздрыг.
А час будзённых спраў заціх…
Пісьмо чакае пад пячаткай.

Давай пачнём усё спачатку -
З дзяцінства,
з самых першых дзён,
Дзе шчэ канец не так відзён,
І не гніюць расткі пачатку.

Давай пачнём, дзе ёсць пачатак:
Мы не пілі там кроў-віно,
І ўрач у белым паліто
Не надзяваў сваіх пальчатак...

Давай пачнём усё спачатку!
Мы немалы сплацілі кошт,
За тое, што не клалі ў кош
Клубком спавіўныя пачаткі.

Давай пачнём усё спачатку!
Нам трэба толькі зразумець,
Ці можа прыпамінаў медзь
Узбагаціць калі нашчадкаў?

Давай пачнём усё спачатку!
Хоць скалыхнула нашу клець
Стварэнне
з гучным імем Смерць,
Пісьмо чакае пад пячаткай…

## Памылкі

Калі пасыплюцца падзеі,
Пачнуць шукаць, хто вінаваты.
Маўчаць тут будуць дабрадзеі,
Што так крычалі ўсе зацята.

Свабода будзе лепшы хабар
І канцэнтрат падзей для здрады.
Забудуць хутка, хто ёсць сябар,
Пад смачным водарам улады.

І не ўзгадаюць, што за плата
Бывала ў нас паміж сабою:
Як прыкрывалі спіну брата
Мы ў няроўным тым двубоі.

Калі ж у твар нам кінуць глінай,
Не баючыся памыліцца -
Мы пойдзем,
з торбай успамінаў
І жменяй роднае зямліцы.



*Круглік Людміла Ўладзіміраўна нарадзілася 10 верасня 1949 года ў г. Нясвіжы, Менскай вобласці. Скончыла Нясвіжскую сярэднюю школу № 2, Берасцейскі педагагічны інстытут імя Пушкіна. Працавала выхавацелем дзіцячага садка, загадчыцай, у апошні час выхавацелем ГПД гімназіі № 1 г. Дзяржынска, Менскай вобласці. Мае вышэйшую прафесійную катэгорыю. Ветэран адукацыі. У 2009 годзе быў выдадзены першы зборнік "Мелодия души", пад дзявочым прозвішчам Людміла Камісарава. Друкавалася ў мясцовай газеце "Узвышша", часопісе "Вожык", "Бярэзінскай панараме", "Пухавіцкім весніку", газеце ЛІМ. З'яўляецца аўтарам кніг "Осенняя рапсодия" (2013 г.), "Аромат фиалки" (2014 г., выдавецтва "Печанко"), "Знічкі лістапада" (2015 г., выдавецтва "Каўчэг"), "Весенняя лазурь" (2016 г., выдавецтва "Калорград"). Прымала ўдзел у праекце "Беларуссю зачараваны", сярэбраны лаўрэат міжнароднага інтэрнэт-конкурсу "Большой финал", 2016 г.*

# *Людміла Круглік*

**Аднаўленне**

Прысела сонейка ў далоні,
Душы кранаючы струну.
Прырода, што была ў палоне
Павейкі ўскінула ад сну.

Вясна гарэзліва смяецца,
Губляе рэха ля ракі.
Вясёлай песняй адгукнецца
З галінкі, дзе сядзяць шпакі.

Лунае бусел у нябёсах,
Вітае родны свой куток.
Хвілінка шчасця дорыць лёсу
Душэўнай цеплыні глыток…

Прырода, што была ў палоне
Павейкі ўскінула ад сну…
Прысела сонейка ў далоні,
Каб у жыцці знайсці вясну.

**Кроплі дажджу…**

Кроплі дажджу на прамоклай дарозе,
Вецер ганяе кругі па вадзе,
Хуценькім крокам жыццё наша пройдзе -
Глянеш назад і не знойдзеш нідзе.

Кроплі дажджу барабаняць па даху -
Збегла дзяцінства з юнацтвам ва ўзрост.
Толькі не час будаваць сабе плаху,
Мне б ухапіць птушку шчасця за хвост.

З ёю падняцца да белых аблокаў
Сцежкай натхнення, надзеяў і мар.
Сэрцам зрадніцца з зямлёй сінявокай -
Возера, парк і знаёмы бульвар…

Кроплі дажджу на прамоклай дарозе,
Сцішыцца ён, і не знойдзеш нідзе.
Толькі хвілінку раса, нібы слёзы -
Момант жыцця і кругі па вадзе…

**Востраў слёз**

Рака Няміга, востраў слёз,
Каплічка, а на ёй распяцце,
Там моліць сына Боска маці -
Вясною, летам і ў мароз.
Рака Няміга, востраў слёз…

Афганістан - герояў лёс
Гучыць не скончанаю песняй,
Ніхто з іх болей не ўскрэсне,
Не пойдзе ў поле на пакос.
Афганістан - герояў лёс…

Не шкадаваў свінец жыцця
Хлапцоў чарнявых, рудых, русых,
Сыноў Расеі, Беларусі …
Каменны саван - забыццё.
Не шкадаваў свінец жыццё.

А над гарою чорны дым…
Ляціць па небе грузам "дзвесце",
Дамоў да матухны, нявесты,
Ваяр бязвусы, малады.
А над гарою чорны дым…

Айчыны лепшыя сыны.
Сябры збяруцца ля магілаў,
І пойдуць горкія ўспаміны
Чужой, бязлітаснай вайны.
Айчыны лепшыя сыны.

Рака Няміга, востраў слёз.
Там ля каплічкі да распяцця
Звяртаецца з малітвай маці
За сына ў лютаўскі мароз.
Рака Няміга, востраў слёз…

**Малітва маці**

Спачываюць гукі, цмяна ў хаце,
Лапы звесіў з лавы шэры кот.
У куце малітву шэпча маці,
Каб жылося дзецям без турбот.

Каб не ведалі ніколі стомы,
І здароўя пасылаў ім Бог,
Каб заўжды вярталіся дадому
І з вялікіх, і з цяжкіх дарог.

Лашчыць позіркам ікону маці
З думкай:
"Дзе дачушка? Дзе сынок?"
І цалуе крыжык, як распяцце,
Каб Анёл абараніць іх змог.

Ёй самой ад іх так мала трэба.
Каб не забывалі праз гады,
Хаты, дзе застаўся водар хлеба,
Дзе матуля рада ім заўжды.

У куце малітву шэпча маці,
Каб жылося дзецям без турбот.
Цішыня наўкол і змрочна ў хаце,
Толькі ў сне вуркоча шэры кот.

**Люблю восень…**

Люблю я восень - лістапады,
Жыллё шукае павучок.
І сонца на сцяжынкі саду
Яшчэ пакажа свой бачок.

Люблю калі свавольнік-вецер
Лістоту гоніць між дарог,
І цмяны з прахалодай вечар
Расой кладзецца на парог.

Калі плыве па паднябессі
Птушыны развітальны клін,
І чырванее ў сонным лесе
Каліна - лета напамін.

Калі дажджы складаюць гамы,
Апошні ліст на сцежку лёг…
Няма ў душы ніякай драмы,
Блукае сэрца між дарог.

Люблю разважліваю восень
За фарбы, цішыню і сум,
Яна між волі мне прыносіць
Натхненне і імкненне дум.

**Надыход ночы**

Схавала сонца за пагорак
Апошні залаты прамень,
Кладзецца ціхі надвячорак,
Спякоту адганяе ў цень.

Сціхаюць спраў руплівых гукі,
Крадзецца змрок, як шэры кот,
І ноч да долу цягне рукі,
Адзначыўшы свой надыход.

Адчыніць куфар свой багаты,
І месяц зазірне праз плот.
Рассыпле жоўтыя зярняты,
Якіх не злічыш і за год.

Замкнула сонца ў хаце дзверы,
Схаваўшы залаты прамень.
І ноч пануе ў сонным скверы,
Накрыла клапатлівы дзень.

**Памяць**

Ад былых незваротных гадоў
За падзеямі нам не схавацца.
Усплывуць яны з памяці зноў,
Як малітва святому распяццю.

Толькі летась па сцежцы пайшоў,
Ды спяшаецца думкай дарога.
Вось і снег ужо скроні знайшоў -
Не стаміліся хуткія ногі.

Немагчыма нам жыць і любіць
Без падзей,
што схаваны ў мінулым.
Мы не зможам аднойчы згубіць
Родны кут наш і голас матулі,

Што калыску люляла ўначы
І спявала да сну калыханку,
Рэхам памяці песня гучыць,
Лашчыць сэрца, як вечар заранка.

І з глыбіняў крынічнай вады,
Са шляхоў, дзе дубы векавыя
Паўстаюць зноў былыя гады,
Па слядах крочаць, нібы жывыя.

І квітнеюць увесну сады,
Новы дзень пракладае дарогі…
Ды вяртаецца памяць туды,
Дзе жыцця камяні і парогі.

**Прабачце**

З нерухомасці незваротнай
Пазіраюць продкі на нас,
Кожны з іх дарагі і родны…
Як цяпер не хапае вас.

А калісь, за нораў свавольны
Пралілося нямала слёз.
Мы вярнуць гэты час
не здольны,
Каб падоўжыць зямны іх лёс.

Запазнелае прабачэнне
Задуменна шэпчам штораз.
Зорка з неба міргне знаменнем,
Што даўно даравалі нас.

Але гэтага проста мала,
Каб на сэрцы стала лягчэй,
Не вярнуць іх з былое далі,
Не прыбраць слязінку з вачэй.

Адляцяць хутка ў вырай гусі,
Кола лёсу падлічыць час.
Боскай маці ў храме малюся,
І прашу прабачэння за нас.
……………………………………
Як цяпер не хапае вас.

**Душа**

Душа - таямнічы прытулак,
Дзе мноства пачуццяў жывых,
Знайшлі зацішны завулак
Ад позіркаў прагных людскіх.

Жывуць там самота і шчасце,
І радасць з слязою ўдваіх.
Раз-пораз прарвецца ў нянасце
Балючы, нястрыманы крык.

Уражанням знойдзецца месца
Заўсёды ў прытулачку тым,
І восень трывожыць мне сэрца,
І казка чароўная зім.

Вясна і дзівоснае лета,
І сінь невялічкай ракі
Блукаюць у думках паэта,
І вось - ужо верша радкі.

## Адчуць

Ці здольныя адчуць мы крык душы,
Калі яна яшчэ не стогне з болю,
Калі яшчэ стаім ля той мяжы,
Дзе можна лютасць не пускаць на волю.

Ці здольныя адчуць мы крык душы
Таго, хто з намі побач назаўсёды,
Хто раіць нам: “Падумай. Не грашы…”
Як цяжка зразумець, прыйсці да згоды…

Памылак не пазбегнуць, аніяк.
На тое і жыцця шляхі-дарогі.
Паслухай жа сябе, мо, што не так…
Адкажа сэрца, прыйдзе на падмогу.

Калі б мы чулі крык сваёй душы,
Не залівалася б зямля крывёю.
Пачуй жа яе голас у цішы -
Не зарасце твой след густой травою.

## Ляцела думка

Ляцела думка паэта
За птушкамі ў паднябессі,
Спяшалася скласці песню
З апошніх хвілінак лета.

Збірала зерне натхнення
Між жнівеньскіх зарападаў.
З валошак, рамонкаў і мяты
Стварала букет імгненняў.

І восені пазалоту
Па сцежках жыцця шукала,
У мроі сваёй хавала
Пякучы камяк самоты.

Пад гоман дажджу і ветру
Здабыткі агністай верай
Насыпала на паперу,
Як зерне ў зямныя нетры.

За птушкамі ў паднябессі
Ляцела думка паэта,
Каб жнівеньскім ранкам лета
Стварыць з назіранняў песню.

## З сівых гадоў

*Паводле падання пра каханне*

Векавечнасць зямлі, яе нетры…
Колькі скарбаў там ёсць, таямніц.
Травы шэпчуцца голасам ветру.
Адгукаюцца ў спеве крыніц.

Шлях вядзе нас з Нясвіжа
ў сталіцу,
Пры дарозе, дзе спіць даўніна,
Як хлапец са сваёй маладзіцай,
Прыхіліліся дуб і сасна.

Колькі розных падзеяў,
спатканняў
Адбылося пад імі за век -
Горыч слёз і бяда, і растанне…
Вінаваты ва ўсім чалавек.
…………………………………

Маладзік цалаваў травы ў росах,
Дзе сустрэў прыгажуню юнак.
Закахаўся ў шаўковыя косы,
І яна. Ды ў жыцці ўсё не так.

Дуб з сасной берaглі іх сустрэчы,
І хаваў ад чужынцаў туман…
Шчасце доўжыцца можа і вечна.
Ды на ліха знайшоўся тут пан.

Ён падумаў: "Красуня-дзяўчына
Грошы дасць за яе Радзівіл.
У палац адвяду. Балярынай…"
Чорны морак накрыў небасхіл.

Сум растання.
Знаёмай сцяжынай
Цёмнай ноччу пабегла яна.
Каб суцешылі дрэвы дзяўчыну.
Стогне сэрца, наўкол цішыня.

У апошні, апошні разочак
У чаканні юнак малады.
Колькі слоў. Цалаваў яе вочы.
Мора слёз пралілося тады.

І ад болю за іх прытуліўся
Дуб магутны
ў той час да сасны…
Назаўжды, на вякі прыхіліўся,
Каб ніхто не парушыў іх сны.
………………………………..

У дзяцінстве знаёмай дарогай,
Колькі раз прыязджала туды.
Ды няма ўжо сасны.
Дзён не многа
Перажыў дуб з самотнай бяды.

А паданне? Яно засталося
Рэхам вечных зямных таямніц.
Маладзік зноў купаецца ў росах
Ля дуброў
і спрадвечных крыніц.

## Замілаванне

Люблю, калі мароз-мастак
Нябачна на акенцы
Карціну намалюе так,
Што замірае сэрца.

Люблю, калі павольны снег
На вальс запросіць вечар,
Калі з гары дзіцячы смех
Імчыць на санках вецер.

Як раптам зграйка снегіроў
Прысядзе на рабіне.
І, абдымаючы сяброў,
Заружавее іней.

Па снезе зарыпіць мароз,
Калі нагой чапаю.
І, што б не насурочыў лёс,
Жыццё, як ёсць прымаю.

**Збаўленне**

Калі надвячоркам самота
Трымае ў палоне душу,
Аловак бяру і з ахвотай
Кранальныя вершы пішу.

Імчаць там насустрач сумётам
Дзянькі мае ў санках з гары.
З сябрамі да сёмага поту
Будуем заставу ў двары.

А потым па снежнай дарозе
Шукаю кахання сляды.
Душа не баіцца марозу.
Бягуць на спатканне гады.

Гартае павольна падзеі
Сняжынак густы карагод.
Расправіла крылы надзея -
З палону ляцець без турбот.

Аловак бяру і з ахвотай
Кранальныя вершы пішу.
І ўраз адступае самота,
Што ўвечары грызла душу.

**Марысін парк**

*Паводле падання*

Куток Айчыны - сэрцу мілы,
Мой лёс, калыска і спакой.
Палац магутных Радзівілаў
Вартуе велічнасць вякоў.

А ў парку за сівой завеяй
Князёўны лёгкія сляды.
Шляхі жыцця і сум падзеі
Даносіць вецер праз гады.
…………………………

У век былы дачок магнатаў
Не мог кахаць прасталюдзін.
Калі ж здаралася - за краты,
А там да смерці шлях адзін.

Каханне ж позіркам гарачым
Запаліць вогнішча ў душы.
Багаты, бедны - не, не ўбачыць,
Што хтось між волі награшыў...
…………………………………

Князёўне маладой па лёсе
Сасватаны стары кароль…
Дзяўчыне словы, нават слёзы
Не дапамогуць. Толькі боль.

А пры двары прыгожы конюх,
І, як яго не пакахаць…
І сэрца замірае, стогне
Ад смагі шчасцейка спазнаць.

Але жыцця закон суровы.
І смерць - хлапца накрыла лёс.
Марыся ж да ўсяго гатова…
А ў парку ноччу быў мароз…

І раніцою на пагорку
Знайшлі яе здранцвелы стан.
І на душы магната горка
Ад думкі: "Вінаваты сам."

Было ўсё праўдай ці паданнем?
Ды помнікам стаіць камень.
І сонейка расою ўранні
Малюе там князёўны цень.

Палац магутных Радзівілаў
Вартуе велічнасць вякоў.
Куток Айчыны - сэрцу мілы…
Мой лёс, калыска і спакой.

**Дыялет**

Жоўты ліст закружыўся ў паветры,
Прытуліўся да нетраў зямлі…
Чалавек. І жыцця кіламетры
З роднай хаты аднойчы пайшлі.
Па сцяжынках з дажджамі і ветрам,
Дзе зярнятка спавіта ў раллі…
Жоўты ліст закружыўся ў паветры,
Прытуліўся да нетраў зямлі.



# *Зоя Кулік*

*Зоя Мікалаеўна Кулік нарадзілася ў вёсцы Грыцкевічы Нясвіжскага раёна. Бацькі працавалі на зямлі, і дзяцінства яе прайшло сярод прыгожых краявідаў цудоўнай беларускай прыроды. Скончыла сярэднюю школу ў Нясвіжы, Менскі педуніверсітэт. Працавала загадчыцай дзіцячага сада, намеснікам дырэктара па сувязях з грамадскасцю ў ЖКГ г. Нясвіжа, экскурсаводам у Нясвіжскім музеі. Друкуецца з 2000 года.*

*У 2014 годзе паэтычнае аб'яднанне "Мир" неаднаразова друкавала творы аўтара ў Вільні (Літва), у літаратурных альманахах, куды ўвайшлі вершы і апавяданні сучасных паэтаў і пісьменнікаў. Вершы ўвайшлі ў калектыўныя зборнікі "Званы памяці", "Букет валошак", друкавалася ў раённым друку, часопісе "Жыві, як гаспадар".*

**Зямля, што Богам цалавана**

Даўніны дзіўныя часы!
Маёй зямлі чароўнай сказы…
Для гонару, не для абразы
Вітаю продкаў і іх душы!
На дапамогу клікаць мушу
Айчыне любай з ранай рванай,
Няскоранай і занядбанай.
Мая Радзіма цяжка стогне,
Дзе знакамітая "Пагоня",
Чаму, Літва, ты абалгана,
Зняволена і разарвана?
Дзе Геркулес твой, дзе Астрожскі,
За што змагаўся Каліноўскі?

Бач, як забралі землі лоўка!
Плявалі ў душу, ілгалі зноўку.
Дзе твой Смаленск, Жамойць і Вільня?
Сатрапы рвалі табе крылле…
І нават мужная "Пагоня"
Не зберагала тваё сэрца,
Усе хацелі тваёй смерці.
Што засталося ад дзяржавы?
"Карона", "Кацька", Ленін Бравы -
Усе прылажылі сваю руку
І кінулі Літву на муку.
Ды і нашчадкі, прызнаць мушу,
Прадалі за тры грошы душу.
А праз стагоддзі мчыць "Пагоня",
Нам будзіць сэрца, скруху гоніць.
Штандарт уецца - шлях кароткі!
На варце продкі!
І вось жыве мая Радзіма!
І злом, і зайздрасцю ганіма,
А ў цэлым свеце гонар мае,
Дабром, Статутам казырае,
Уздымае галаву…
І можа, сам Пан Бог
Нам дапапожа
І будзе, як наканавана…
У зямлі, што Богам цалавана.

*1997 г., Менск.*

## Маці Айчына - пяць вякоў годнасці

*Ф. Якубовічу*

Рыцары зямлі маёй радзімай,
Мужныя святыя абаронцы,
Вашы душы даўно адляцелі ў вырай,
З тых замежкаў дзяржавы,
Што памяццю шчырай
Будзіць сэрца,
І верым… цярпліва, бясконца.
Па прымусу мы выю сваю не схіляем,
Гонар у сэрцы жыве, і палае душа.
Мчыць "Пагоня",

Варожыя зграі ганяе,
Праз вякі князь даспехі свае не здымае.
Гэй, Айчына!
Уздымі свае сцягі спярша!
Твая шляхта лягла на дарогах бясконцых -
Ім нягожа было ад "Пагоні" адстаць!
Помняць віцязяў слаўных і вецер, і сонца,
Ды курганы, ды памяць людская да донца.
Не скарыць іх, у вяках не схаваць, не дагнаць!
Ад жанчын тваіх трацілі розум кароны,
Іх цнатлівасць і вернасць здзіўляе ўвесь свет.
Не курганяць ім душу дукаты і троны,
Для іх сэрца - каханне і годнасць законы -
Ці то князь, ці гусар, селянін ці карнет.
Ты гаротная, Маці - Айчына - ліцвінка!
Ты чароўная - годнасць трымаеш у вяках.
І хоць доля твая, як у полі былінка,
Зберагла і сыноў, і дачок, і свой шлях.
"Па прымусу мы песні свае не спяваем,
З сэрца словы не ідуць, і не грае душа."
Мяне бацька вучыў, што цябе не мяняюць,
І ў журбе, і ў шчасці табе прысягаюць,
Мая любая мова,
Радзіма мая!

* * *

Ці ты голасам клічаш,
Ці ў думках турбуеш,
Усё на сэрцы запішаш
І мяне зачаруеш.
Сум нябёсаў блакітны,
Васілёк на замежку.
Запішы, не забудзься,
Маёй мамы ўсмешку!
І сцяжынку на хутар
Васіля,
майго дзеда,
І чарэшню, і ясень,
Смак духмянага хлеба,
Байкі татавы, казкі,
Што так душу кранал,
І гаротныя вочы
маёй бабкі Наталлі.
Кніжкі, былі пра княства,
Багдановіча песні.
І сырая салома
ля хлява на прадвесні.
Недзе там, сярод поля,
Мяне жаўранак кліча,
І звініць дзіўна рэчка,
І цвіце ў садзе вішня.
Голас любы дзяцінства,
Што ж табе ўсё няймецца?
Так мяне ты чаруеш,
І шчыміць тое сэрца…

*Травень 2013 г.*

* * *

Сябравала з ясенем
Тонкая асінка,
Абвівала голейка
Срэбнай павуцінкай,
Прыпудрыла лісцейка,
Стан свой выгінала…
Чаравала ясеня,
Ой, як чаравала!
На сваю сяброўку
Ясень заглядаўся.
Ад задзіры-ветру
За яе хаваўся.
А яна трымцела!
Так яму спявала!
Шкадавала ясеня,
Ой, як шкадавала!
Летам ліўся дожджык,
Сонца прыгравала…
Стаў магутны ясень -
Голлю месца мала.
Абапёрся цяжка -
Асінка стрывала.
Падтрымала ясеня,
Ой, як падтрымала!
Голаў узняў высока -
Сэрца задрыжала -
Белая бярозка,
Стрunка падрастала.
Пацягнуўся -
Побач асінка ўпала…
У парку плакаў дожджык,
Восень панавала.

*2016 г.*

* * *

Васілёк на замежку -
Маёй мамы ўсмешка.
Майго таты цнатлівасць
І зямлі маёй міласць.
Дзе на полі жытнёвым
Блакіты нябёсаў,
І цудоўныя пахі,
І шчымлівасць росаў.
Там дзяцінства вяночкі
І крык жураўліны…
Там шчаслівыя ночкі,
Там я сэрца пакіну.

* * *

Вось і адцвіла ты, ружа-кветка,
Белымі пялёсткамі апала.
Боль-судзьбіна сэрца пакрамсала
І апала, але ж не прапала.
Твой карэньчык кволы
ледзь прыжыўся
Сярод мальваў модных і півоняў,
Ды зямлі радзімай сок уліўся -
Расцвіла князёўнаю на троне.
Распусціла вэлюм белы, чысты,
Берагла цнатлівасць шыпам колкім.
Пахла ў садзе
водарам празрыстым,
Салавей спяваў табе на золку.
Заліваўся, гімны пеў каханню.
Абяцаў навек цяпло і сонца…
Кожнай кветкай з рання
да змяркання
Ты цвіла! І быў спадзеў - бясконца!
Адцвіла ж, апала кветка ружа.
Галінкі зламала ведзьма-стужа,
Заляцаўся вецер -
вэлюм увесь знявечыў,
Для яе салоўка болей не шчабеча.
Налятаў злы вецер-забіяка,
Над дзявочай доляй сябар -
дожджык плакаў…
Лісцікі павялі, кветачкі пажухлі…



# *Жанна Левітан*

*Жанна Левітан нарадзілася ў 1969 годзе ў гарадскім пасёлку Гарадзея Нясвіжскага раёна. Скончыла Гарадзейскую СШ № 1 з залатым медалём (1986), механіка-матэматычны факультэт БДУ (1992). Атрымала дадатковую адукацыю на спецфакультэце бізнесу і інфармацыйных тэхналогій БДУ па спецыяльнасці "Эканамічная кібернетыка" (1998). Працавала ў камерцыйных кампаніях Менска, была замдырэктара УП "Яхад-Трэйд".*

*Пісаць пачала з дзесяці гадоў і тады ж пабачыла свае вершы ў раённай газеце "Чырвоны сцяг". Друкавалася ў "Нясвіжскіх навінах", часопісе "Беларусь", вершы гучалі ў радыёперадачах студыі "Сябры" і па раённым радыё. Вершы ўвайшлі ў зборнікі "Срэбны блюз" (2010), "Мне рамонкі цалуюць калені" (2011).*

* * *

Бог паслаў чалавецтву
Паратунак дзівосны:
Віфлііемская зорка асвяціла нябёсы.
І гісторыя свету пачалася нанова
Самай слаўнай падзеяй - нараджэннем Хрыстовым.

Скрозь вякі напаўняе любоўю бясконцай
Дасылае надзею і ісціны сонца.
Найвялікшая радасць і шчасця аснова
Мір, дабро, чысціня - Нараджэнне Хрыстова.

**Вецер і ружа**

На дварэ мяце зіма, там снег і сцюжа.
А на акне, зусім адна, сумуе ружа.
Утульна тут, здаецца, як нідзе на свеце.
А ёй так хочацца туды, дзе снег і вецер.
А вецер стукае ў вакно, а вецер кружыць,
Не дакрануцца да яго прыгожай ружы.
Яна сустрэчы з любым дзень і ноч шукае,
Вось толькі шыба на спатканне не пускае.
Чакае ружа, што аднойчы дзень настане.
Яна станцуе з ветрам свой апошні танец.
І хай халодныя абдымкі так суровы,
Але за міг той ружа ўсё аддаць гатова.



# *Соф'я Любанец*

**Голас восені**

Трымціць у голлі павуцінне,
Адзета срэбнаю расой.
Яно нягучна, летуценна
Нібыта шэпча нам з табой:
- Жыцця чароўныя імгненні
Мільгаюць, нібы зарапад.
Парвеш ты нітачку натхнення -
І не вярнуць яго назад.
І нібы восені маленне
Ў трымценні гэтых павуцін:
Без гэтым светам захаплення
Не быў шчаслівы ні адзін...
Замры на міг каля галінак,
Дзе восень гутарыць з табой.
Хай ззянне крохкіх павуцінак
Заўжды жыве ў душы тваёй.

*Соф'я Ўладзіміраўна Любанец нарадзілася 25 снежня 1969 года ў звычайным нясвіжскім раддоме, аднак паколькі бацькі на той час былі студэнтамі менскіх ВНУ, у пасведчанні аб нараджэнні стаіць "месца нараджэння - г. Мінск".*

*У 1986 г. скончыла Карцэвіцкую СШ Нясвіжскага раёна, у той жа год паступіла ў Нясвіжскае педагагічнае вучылішча, якое ў 1988 г. скончыла з дыпломам з адзнакай па спецыяльнасці "Настаўнік пачатковых класаў". У 1989 г. паступіла ў БДУ, на той час імя У.І. Леніна, на філалагічны факультэт, дзе атрымала кваліфікацыю "Філолаг. Выкладчык беларускай мовы і літаратуры".*

*Працавала ў Міханавіцкай СШ Менскага раёна, у Навасёлкаўскай СШ Нясвіжскага раёна Менскай вобласці, у Дараўскай СШ Ляхавіцкага раёна Берасцейскай вобласці, атрымала некаторы вопыт журналісцкай работы ў рэдакцыі газеты "Ляхавіцкі веснік".*

*З 2004 года па цяперашні час працуе ў рэдакцыі газеты "Нясвіжскія навіны", з верасня 2011 года - намеснік галоўнага рэдактара. Выгадавала дзвюх дачок.*

*Акрамя работы, любіць мастацтва ва ўсіх яго жанрах, асабліва - музыку і жывапіс.*

**Зімовае**

Спыняе дзень свой хуткі бег,
І так пяшчотна, так старанна,
На глебе лужыны, бы раны,
Як бінт, хавае белы снег.
І беллю свеціцца абшар,
І ў цішыні застыла голле,
Не мерзне - дрэмле наваколле
Ў чароўным сне зімовых мар.
У хараstве спачылі дні,
І больш не точыць сэрца скруха.
І толькі чуйна ловіць вуха
Напеў зімовай цішыні.

* * *

Зіма прыйшла так нечакана,
Так хутка ўзвеялі завеі,
Што лапкі елачак рахманых
Ад нечаканасці здранцвелі.

І пазіраюць са здзіўленнем
Праз замець белай цішыні:
- Як прагледзелі мы імгненне
З'яўлення матухны-зімы?

**Калядная ноч**

Божа, як светла, як чыста - бы днём!
Месяц зямлю асвятляе,
У неба пазычаным зорным агнём
Снегу пушыначкі ззяюць.
Вунь яны ўсюды - на шыбах, платах,
Дахах  і дрэвах кашлатых…
Быццам анёлаў усмешкі ў вачах,
Дораць спакой вінаватым.
Гэтаю ноччу не трэба тужыць.
У сэрца сваё зазірніце -
Колькі там скарбаў нясметных ляжыць,
Колькі цудоўных адкрыццяў!
Бога усмешка ў сняжынках гарыць,
Усё даравць заклікае,
Бо толькі адно можа нас ажывіць -
Любоў, што карысці не знае.
І гэтай ноччу, дзе светла, бы днём,
Быццам маломy ягнятку,
Можа адкрыцца надзея нам зноў,
Каб усё пачалося спачатку.

## Усходняму

Я лавіла цябе, быццам сонейка,
Што блішчыць на азёрнай вадзе,
Толькі, як тыя пырскі халодныя,
Пралятаў ты скрозь пальцы мае.

Я лавіла цябе, быццам зорачку,
Што з нябёсаў уночы ляціць,
Хаця, праўда, ніколі, ніхто яшчэ
Тую зорку не здолеў злавіць.

І як памяць пра цуда нязбыўнае
Хай ляціць да нябёсаў тваіх
Гэты даўні і чысты, як ісціна,
Развітальны мой лёгкі ўздых.

Можа, зловіш яго і адчуеш
Дотык даўні рукі трапяткой,
Можа, успомніш далёку, тую,
Больш ніколі не быць мне якой.

… Ноччу чэрвеньскай цёмнае неба,
Рэдка знічкі мільгаюць па ім.
Тою рэдкай шчасліваю знічкай
Пралцеў ты па небе маім.

* * *

Бывай, акроплены расою, як рамонак,
Бывай, мой страчаны і вечна дарагі.
Няхай плывуць у небе чыстым над табою
Аблокі белыя, як знак маёй тугі.
Як добра бачыць мне хвілінкаю імклівай,
Што ты ўсё той жа - незгасальна малады,
Што не кранулі твар твой шэрасцю буркілівай
Ні змрок, ні сцюжа, ні мінулыя гады.
Жыві ж шчаслівы, бы праменьчыкам світальным,
Мой хутка страчаны і вечна дарагі.
Няхай плывуць над намі вэлюмам вянчальным
Аблокі белыя, як цень маёй тугі.

## Сумны тост

Сустрэнемся, дружа, і келіх паднімем
За ўсё, чаму век не бываць:
За шэпты лясныя, за змрокі начныя,
За зоркі, якім не заззяць,

За страчаны водар няўручанай ружы,
За словы, якіх не сказаць,
За цуда-краіны, дзе плошчы, як мроі,
Краіны, дзе нам не бываць.

Хай плавіцца свет за настыласцю шкла -
Мо, сум і адступіць паволі,
Бо ёсць усё ж нешта, чаго не зламаць
Ніякімі ўціскамі долі.

Яно існуе і жыве, быццам сон,
На самай мяжы зіхацення,
Што ахінае нябёсы і дол
У хуткай хвіліне натхнення.

І там, у сапраўднасці дзіўнага сну,
Пяе, як анёл, салавей,
Пра тую адзіную ў свеце, адну,
Пра ружу, што вечна цвіце.

* * *

Вам са мною ніколі не быць.
І мне з вамі не быць ніколі.
Кветкам шчасця не ззяць, не жыць
У чорным садзе чужога болю.
У валасах вашых ранні шэрань
Лёгкім водбліскам срэбра ззяе,
Быццам зоркі на чорным небе
Гэты водбліск душу кранае.
Вашай стомы нічым не сцешу,
Акрамя дабрыні й спагады,
І прайду, колькі трэба, пешшу,
Калі будзеце вы мне рады.

Толькі знаю: бясконца жыць
Немагчыма нам пад сінявою,
І мне з вамі ніколі не быць,
Вам ніколі не быць са мною.

* * *

Як навучыцца не чакаць
Ад нецярплівага - трывання,
Ад баязлівага - прызнання,
Ад бессардэчнага - дабра?
Як навучыцца не шукаць
У раўнадушнага - кахання,
У бездакорных - спачування,
У бессардэчнага - дабра?
Ды трэба проста перастаць
І спадзявацца, і чакаць.
Тады лягчэй вам будзе жыць.
Па немагчымаму тужыць
Патрэба знікне. І тады
Жыцця прайшоўшыя гады
У новым вобліку паўстануць
І сэрца мучыць перастануць.
Тады ты свет наноў убачыш,
І не другіх - сябе прабачыш,
Што доўга так дарма шукаў
У раўнадушнага - кахання,
У бездакорных - спачування,
У бессардэчнага - дабра.
Шукаў - і марна спадзяваўся,
Пакуль урэшт не разабраўся,
Што ад людзей не варт чакаць
Больш, чым яны вам могуць даць.

* * *

На вас гляджу і забываю
Ўсё, што прыйшлося пераэжыць,
І што спачынку я не знаю,
І што шчаслівай мне не быць.
І так душа адпачывае
На сінім дне вашых вачэй,
Што нават выплыць не жадае
І патанае ўсё глыбей.
І менш гараць старыя раны,
І голас ваш душой лаўлю,
Хоць, можа, зноўку гэтым самым
Ёй раны новыя раблю.



*Макаўчык Галіна Віктараўна нарадзілася на Капыльшчыне ў вёсцы Раёўка. Праз дзесяць гадоў сям'я пераехала на Нясвіжчыну. Скончыла БДУ. Працавала настаўніцай беларускай мовы і літаратуры ў СШ №3 г. Нясвіжа, школах раёна. Некалькі гадоў узначальвала Таварыства беларускай мовы ў Нясвіжы. Друкавалася ў раённай газеце "Нясвіжскія навіны", вершы неаднаразова гучалі на раённым радыё.*

# *Галіна Макаўчык*

## Будзем разам

Верасовы ранак у красе жытнёвай,
Чую перапёлак перазвон.
Адгукнецца сэрца шчодрасці вясновай,
Покліччу крынічка скажа наўздагон:

- Ты ідзі, спяшайся, чалавеча Божы,
Мо, цябе чакае хворы і стары?
Абагрэй душу ласкавым словам.
Чуласцю душы дапамажы.

І адчувае сэрцам небарака:
Не адзін на свеце белым ён.
Адракліся дзеці ды навокал
Ёсць спагада, шчырасць і любоў.

І суцішыцца сэрца старога,
І з з надзеяй ён гляне на свет:
- Я ж, здаецца, паміраў учора,
А цяпер - адкрыўся мне Сусвет.

Да цябе звяртаюся, сучаснік:
- Азірніся, паглядзі наўкол…
Можа, хто пакутуе? Пастой…
Можа, ты пачуеш плач сіроткі?

І калі зусім не ачарсцвеў душою:
Сцісне сэрца жаласцю вялікай.
Кажуць, што няма бяды чужое…
Будзем разам у горасці шматлікай.

Будзем разам, людзі, будзем разам!
Будзем разам усе мы назаўжды!
Адалеем цяжкасці і скажам:
- Калі разам - больш няма бяды!

**Душа мая**

Душа мая, ты - кволае зярнятка.
Трымціш на сонцы, рвешся ў небасхіл…
Ці прарасцеш, ці будзеш, як ягнятка,
Пакорнай Богу і ці хопіць сіл?

"А сіл няма", - шапчу сабе ў знямозе. -
Даруй мне, Божухна, грахі мае, даруй.
Шчаслівы, светлы шлях адкрый мне, на дарозе
У пошуках Цябе мяне ўмацуй!”

Бо без Цябе я толькі марна гіну.
Імклівы час бяжыць мне наўздагон.
Не адсячы мяне, бясплодную галіну,
Не кінь у вогнішча, не зрыні вон.

Забыліся тваё ўвешчаванне:
"Вы без Мяне стварыць не зможаце нічога".
Прымі ж, Уладыка, наша пакаянне
З надзеяй на Цябе, Усялітаснага Бога.

Ты - мір, любоў, Ты - цішыня і радасць.
Ты - свет, што льецца ў сэрца з вышыні.
Ты - сонца незгасальнае, Ты - вечнасць.
У сяленні райскія, адвечныя прымі!

Там, за парогам Вечнасці бясконцай
Чакаеш ты спаведнікаў Сваіх.
Усіх Ты прымеш:
У Цябе няма чужых.

Спытаеш нас: "А ці любілі вы
Бацькоў, дзяцей, бяздомных і калек?
І што вы добрага зрабілі
За ўвесь пражыты вамі век?"

Адчуўшы вінаватасць, пашкадуеш,
Што мала шчыравалі для людзей.
Да вечнасці сябе ці падрыхтуеш?
Ці будзе чыстаю душа, як у дзяцей?

Спяшайся, чалавек, тварыць дабро.
Нясі любоў, спагаду, шчасце людзям.
Каб Цар Нябесны, ўбачыўшы яго,
Сказаў: "Мы разам назаўжды з табою будзем!"

І радасці ўсяленскай несць канца:
Светабудова ў радасці, прырода.
Душа мая, услаў свайго Тварца,
Услаўце Бога ўсе народы!

**Роднай мове прысвячэнне**

Палоняць мяне гукі роднай мовы,
Душа натхнення просіць спакваля,
Хачу апець я ранак верасовы
І першую ўсмешку немаўля.

А больш за ўсё, што маю я на мэце:
Будзіць цярплівы, сціплы мой народ,
Каб ён спасціг: не горшыя мы ў свеце
І хопіць нам маўчаць, зацяўшы рот!

Успомнім свайго прашчура паходню,
Як бараніў ад ворагаў ён нас,
Пад Грунвальдам не здаў на здзек Пагоню -
Наш герб, крывёй асвечаны не раз.

Душу ратуе покліч жаўруковы,
Вяртае памяць, суцішае боль.
Мо, досыць карыстацца іншай мовай?!
Сваю шануй і будзь самім сабой.

Не, я зусім не супраць рускай мовы,
Мяне хвалююць змалку Пушкін, Блок…
Ды сэрца гоіць матчынае слова,
Славуты Багдановічаў "Вянок".

Я веру ў нашы мудрыя высновы,
Шчаслівым бачу край наш дарагі!
Хай нас з'яднае Беларусі мова,
Яе дубровы, пушчы і лугі!

**Маёй матулі**

Матулька родная, даруй,
Што ў ліхалецці год мінулых
Так рэдка да цябе прыходзіла, даруй!
Любоў маю адчуй, адчуй, адчуй!

Цябе не забывалася ніколі,
І памяць малітоўна шанавала,
Жыла як каласок у гонкім полі,
І горыч у душы так часта панавала.

Расла я кволаю дзяўчынкай,
Не раз, бывала, памірала,
Здавалася, надзеі аніякай:
Твая любоў мяне ўваскрашала.

А колькі ночак ты, матулька, недаспала:
Люляла, забаўляла, калыхала…
Пра шэрага каточка напявала,
Да ранку над калыскай шчыравала.

Дачушка падрастала, моцы набірала,
Сцяжынка ў прысадах у школу прывяла,
Чытаць буквар мяне ты навучыла
І з той пары я з кнігай сябравала.

Успамінаю рук пяшчотных дотык,
Вачэй ласкавых позірк засяроджаны,
Няхітры наш вясковы побыт,
Дзяцінства басанож і луг мурожны.

З табою размаўляю я, пачуй
Мой голас і трывожны, і самотны,
Сардэчны непакой душы маёй адчуй,
Чакаю я сустрэчы церпяліва.

Надыйдзе час - сустрэнемся з табою… -
І стане немагчымым раставанне…
Навек мы развітаемся з тугою:
Бо там - любві бясконцай панаванне.

Там - цішыня, там Вечнасць, там спакой і радасць
Святла, нікім не зґаснага, цяпло…
Адкрые Творца тайн Сваіх загадкі,
Спазнаем Найвышэйшай Ісціны дабро.

Матулька, родная, даруй!
Любоў маю адчуй, адчуй, адчуй!

**Каханне Марысі**

*(Летуценні Нясвіжскіх паданняў)*

Прачнуліся каштаны пасля спячкі,
У водары чаромхавым прастор.
І ўспомніцца князёўна мне, зямлячка,
Што столькі год глядзіць з далёкіх зор.

На сэрцы жаль, пяшчота і самота,
Зноў мроіцца дзівосная краса -
Яе жаноцкасць, вабнасць і пяшчота,
Як па плячах струменіцца каса.

У палацы баль, мазуркі льюцца гукі,
Цячэ ракой заморскае віно…

Марысін твар - абраз сардэчнай мукі,
А сумны позірк прагне за вакно.

Там за вакном каханне, радасць, шчасце,
Юначых рук жаданае цяпло,
Шчыміць душа і рвецца ўся на часткі:
"Я буду з любым што б там ні было.

Хоць любы і не княжацкага роду,
Ды верная і шчырая душа,
А бацьку князю трэба радаводу
З такім, як сам - вяльможаю спярша".

Нядоўга іх хавалі ліпаў кроны,
Нядоўга шэпт трымцеў іх на лістках,
Данеслі князю… І нясуцца стогны -
Бязлітасна караюць юнака.

У вежы замкавай няскоранае сэрца
Адчаем напаўняецца да дна,
Убачыць свайго любага імкнецца,
А што пасля - не думае яна.

Зімовы вечар ледзь гайдае дрэвы,
І цемра падпаўзае спакваля…
Ужо мароз складае ёй напевы:
"Марыська, любая, адзіная мая…".

Над помнікам князёўны лістапад закружыць,
Завея снегам замяце зямлю…
Здаецца мне: душа яе шчасліва тужыць,
І чую я: "Люблю, люблю, люблю!...".

**Маёй Беларусі**

Ты любоў мая, чыстая Белая Русь!
Гай бярозавы, шэлест дубровы…
Гладзь бліскучая сініх азёр,
Жаўрукоў пералётных чароды.

Пах духмяны разліты ў траве…
Жытні колас калыша прасторы…

І бярозкі стаяць у самотнай красе,
І святлом незямным свецяць зоры…

Ты мяне ўзгадавала, узрасціла дачкой…
Да цябе ўсёй істотай імкнуся…
Дала мову крынічную, спеўную мне…
Нізка ў пояс табе пакланюся.

Тут прашчураў магілы, тут спадчына вякоў…
Тут Багдановіч, Колас, Караткевіч і Купала…
Па-над хатаю жытло буслоў…
Зямелька родная, святая, дарагая!

Не здраджу табе аніколі,
І мовы матчынай не адракуся…
Да Айчыны маёй, да мовы маёй
Усёй істотай, усім сэрцам тулюся!

**Жыве, Максім, тваё імя…**

Наплывае думак навальніца:
“Што так рана ў вечнасць адышоў ад нас?"
Сябраваў ты з музай - таленту сястрыцай,
Шматпакутны край свой апяваў не раз.

Светлым, зорным шляхам ты ішоў, Максіме,
Не патраціў талент, што Гасподзь Бог даў…
Палажыў яго ты на алтар Радзіме,
Спадзяваўся, марыў, каб народ прыняў.

Ведай жа, Максіме, што змаглі мы гора:
Нам хапіла моцы, нам хапіла сілы:
Хваляю шырокай, вольнаю, як мора,
Любы край твой родны, мову адрадзілі…

Толькі вось марудна мова ажывае,
Наш народ павольна рушыць да сябе,
Іншай мовы хмара край наш накрывае…
Мова нашых продкаў, як вярнуць цябе?

Яснай, шчырай зоркай свеціш нам і сёння.
Люд наш абуджаеш ад цяжкога сну…
Далі неабсяжныя і вершнікаў Пагоні,
Памяццю нашчадка шчыра зберагу!



# Вера Мацнева

*Вера Іванаўна Мацнева нарадзілася 16 жніўня 1946 года на Украіне. У 1974 годзе з сям'ёй пераехала ў Нясвіж. Працавала сакратаром-машыністкай, кіраўніком гуртка па саломапляценні пры Нясвіжскім доме культуры.*

*Прымала ўдзел у шматлікіх раённых і абласных выставах твораў з самага рознага прыроднага матэрыялу: саломы, сухацветаў, баршчавіку, насення раслін, выстаўляла свае вышыванкі, выцінанкі. У 1999 годзе была прынятая ў Беларускі саюз майстроў народнай творчасці.*

*Друкавалася ў газеце "Нясвіжскія навіны", вершы і песні гучалі на раённым і рэспубліканскім радыё. Аўтар зборніка "Жизни дыханье второе" (2016). Творы ўвайшлі ў калектыўныя зборнікі "Срэбны блюз" (2010), "Мне рамонкі цалуюць калені" (2011).*

*Сябра раённага літаратурна-музычнага аб'яднання "Валошкі", абласнога народнага клуба паэтаў і кампазітараў "Жывіца".*

**Ганулі**

Лета цёплае прыйшло -
Радасць у Ганулі!
На канікулы ў сяло
Едзе да бабулі.

Бабка ходзіць ля яе,
Шые, варыць, мые.
Унучка танчыць і пяе,
"Дзівідзюшка" вые.

- Ты б, унучачка мая,
У хаце пыл працерла.
- У мяне баліць нага,
Я нагу нацерла.

- Мо паможаш мне хоць раз
Грады прапалоці?
- Ну, бабулька, -ёй адказ, -
Я ж зламлю пазногці.

- Я прайшу цябе пайсці
Ў краму і аптэку.
- Не, бабулька, час ісці
Ўжо на дыскатэку.

Бабка журыцца, злуе,
Шэпча: "Людзі, людзі!
І якая ж то з яе
Гаспадыня будзе?"

## Беларуская саломка

Гаспадыня ў полі жыта жала,
Залатыя снопікі вязала,
Каласкі з зярняткамі збірала,
А саломку роўненька складала.

Увосень і зімою, вечарамі,
Выплятала здольнымі рукамі
Птушак, коней, кветачкі, карункі -
Розныя дзівосныя дарункі.

І саломка па зямлі вандруе,
Прыгажосцю ўсіх людзей чаруе.
Вырабы цудоўныя здзіўляюць,
Беларускі край наш праслаўляюць.

## Бережыце зямлю!

Снег зямлю пярынай
Белай укрывае.
Цёпла ёй, зямліцы,
Мірна спачывае.

Кветкі сніць і травы,
Золата-калоссе,
Над жытнёвым полем
Птушак шматгалоссе.

Адшумяць завеі,
І вясна пачнецца,
Сонейка прыгрэе,
І зямля прачнецца.

І пасеюць людзі
Жыта і пшаніцу.
Гадаваць нам будзе
Ураджай зямліца.

Кожны хлебны колас
І валошку ў жыце,
Жаваранка голас,
Людзі, беражыце!

Каб сады квітнелі,
І шумелі нівы,
І жылі ўсе людзі
Мірна і шчаслівa.



*Ганна Палын (Ганна Віктараўна Пячкоўская) нарадзілася 2 лістапада 1984 года ў Менску. Скончыла інстытут правазнаўства па спецыяльнасці "Псіхалогія". Вядзе ўласную псіхалагічную практыку. З сынам і мужам жыве ў Нясвіжы. Піша вершы і празаічныя творы філасофскай тэматыкі.*

# *Ганна Палын*

* * *

На роднай, празрыстай, пявучай мове
Праз слёзы кажу табе гучныя словы,
Калі ты пачуеш - адчуць пэўна здольны,
Калі ты адчуеш, ты здольны стаць вольным.

Глядзі, твае рукі моц напаўняе,
Ты чуў даўні водар, што лес нараджае,
Ты бачыў вачыма, як сын нарадзіўся,
І як у той момант Свет запыніўся.

Маці да сэрца цябе прыхіляла
Зямля кожны крок твой цалавала
Гэта ўсё скарб - дабраславенне,
Нельга табе зрабіцца нікчэмным!

Нельга мець клопат толькі аб ежы,
Грошы лічыць і імкнуцца за межы.
Нельга людзей карыстаць быццам рэчы,
Свае турботы ім класці на плечы.

Ты - беларус, брат, сын, і ты - бацька,
Гэта адказнасць і гэта багацце.
Калі гэта ўсё адчуць сэрцам здольны,
Ты - чалавек, і ты здольны стаць вольным!



# *Алег Пракарына*

*Алег Вікенцевіч Пракарына нарадзіўся 24 ліпеня 1967 г., у в. Сіняўка Клецкага р-на Менскай вобл., Беларусь.*

*Закончыў мастацка-графічны факультэт Віцебскага педінстытута (1993). Лаурэат Артсесіі-1993 (г. Віцебск). У мастацкіх выставах прымае ўдзел з 1988 года. Так сама мае шэраг персанальных выстаў. Працуе ў розных тэхніках і жанрах - графіка, жывапіс, скульптура, аб'ект, інсталяцыя, перформанс. Жывапісная праца "Горад Сафія" знаходзіцца ў мастацкай галерэі г. Полацка, ёсць працы і ў асабістых мастацкіх калекцыях Беларусі, Расіі, Польшчы, Германіі, Грэцыі, Францыі, Ізраіля, Сірыі, Японіі, США. Удзельнік мастацкага праекта "ПАН-ТОН", які праходзіў некалькі гадоў у час Славянскага базару ў г. Віцебску.*

*Сябар Беларускага саюза майстроў народнай творчасці (1999). З 1998 г. кожны год удзельнічае ў рэспубліканскіх і абласных пленэрах разьбы па дрэве, якія праходзяць у розных гарадах Беларусі, Латвіі (2002).*

*У 2003 годзе - адзін з майстроў ад Менскага абласнога аддзела культуры ў тэхніцы разьба па дрэве - на свяце Дзён Беларусі ў Маскве.*

*Дыпламант Першага конкурса хайку ў Расіі ў рамках Фестывалю японскай культуры 1998. У ліку аўтараў альманаха "Тритон" (тры выпускі: 2000-2001-2002 гг., Масква). Удзельнік Другога Усебеларускага фестывалю народнага мастацтва "Беларусь - мая песня" (2004). Вершы ўвайшлі ў зборнікі "Надзвінне" (2004 г., Віцебск), "Букет валошак" (2008 г.), "Срэбны блюз" (2010 г.). Друкаваўся ў газетах - "Аргументы и Факты", "Нясвіжскія Навіны", "Нясвіжскі Час", "Полоцкий вестник", "Культура". Сябра Нясвіжскага літаратурна-музычнага аб'яднання "Валошкі" (2006). 26.01.2009 г. узнагароджаны дыпломам Менскага абласнога выканаўчага камітэта і спецыяльнай прэміяй года ў намінацыі "Народныя промыслы і рамёствы".*

* * *

Сонца з краю запаліла
Неба-неба, белы снег.
Залатым пяском, як хочаш,
Сустракай, шануй мяне.
Так зіма мяне закруціць,
Прабярэ да барады,
Сонца свеціць, зіму душыць,
Уцякай, зіма, куды.
Мы халодным
Днём кароткім,
Скачам, нібы вераб'і,
Ды цудоўна, так цудоўна
Жыць, як мы калісь жылі.
Але ж згаснулі дзянёчкі,
З сонцам плакала зіма,
Усё завеі шкадавала,
Так хацела быць адна.
Каб ніхто не марыў толькі,
Каб бялюткі снег ляжаў.
Мы ішлі сабе далёка.
Я ж табе не раз казаў,
Што кахаю ў гэту зіму
Быццам бы апошні раз,
Так душа заледзянела…
Кожны год…
Прабач мне, сонца…
Што кароткі такі час.

**Сноў**

*Бруева груша -*
*Шчасціць вам мушу.*

Сноў, ты ўгледзься -
Груша нас вітае,
Пад ёю спіць калматы кот,
А сонца косы распускае -
Апошні ловіць дзень зімы,
І сінім ценем пераходы
Лунаюць быццам бы агні.
Праз шэпат,
ды праз брэх сабачы
Самоты чутны переразвон
Над тонкімі нібы абцасы
Ільдзісты, востры водазгон.
Падкрадваецца звонку лета
Ў марах больш
за сем дзесяткаў год,
Што груша Бруева кранецца
І следам ёй, дыхне -
вясенні карагод.
Вось прадказальніца
Ўчарашнім днём
Са снегам кветкі размінула…
А потым -
Стома прамільгне,
Так усе растрачанныя скарбы
Зямля табе перадае.
А кветкі кідае ў нябёсы
маё дрэва
Каб ночы цемру перагнаць
Ды казку
Ў горад Сноў прыдбаць.

*5.4.2006 г.*

**Нясвіж**

*Фарны касцёл Божага*
*цела ў Нясвіжы.*

Я адчуваю чалавека,
Калі са мною размаўляюць
Ды вершаваныя сцяжынкі
Як подых часу прыкладаюць.
Манах мяне стварыў,
І Радзівілы -
Свой радавы магільны склеп
Нябожчыкам тут адчынілі.
Каменныя адбіткі,
Касцёла фарнага пакуты

Маёй журбы і радасці
Ў каштоўнасці закуты.
У прыгожых фрэсках ты
Адчуй тут погляд Бога
І падзівіся на мае муры,
Што захавалі веліч часу
І дзверы адчыні.
Гады, як зоркі ўдзень, знікалі
І сыдзе сённяшні ў небыццё,
Стагоддзі ўжо
чытаюць надпіс мой
З шаснадцатага веку,
А кожны думае сваё...
*...Пакланіся*
*святому храму твайму*
*ў страсе сваім*

## Нясвіж стаіць на плячах сарматаў

Нясвіж стаіць
на плячах сарматаў -
Стаіць і трымае ўсіх,
Распавядае, адзначыць
і здейсніць -
Мары нашчадкаў сваіх.

Нясвіж стаіць
на плячах сарматаў -
Сведчаць таму муры,
Узнёслыя на каменні -
Ім зносу няма і цаны.

Нясвіж стаіць
на плячах сарматаў -
Пакладзеных пад крыжы,
Вякамі адлічаныя імёны -
Навокал твае сыны.

Нясвіж стаіць
на плячах сарматаў -
Таму ён павінна стаіць,
Што гонар, павагу і годнасць -
У крыві сармацкай не збіць.

## SARMATIAE EVROPEAE

Ты ведаеш горад, які тут стаіць,
На вечных плячах сарматаў -
І скарбы мінулага,
й сённяшні дзень -
Прыгажосць
найкаштоўнасцей ўладных.

Рунеюць тут вечнае плыні часы,
Лёс у роспачы - ні расплатны -
Божы спакой маўчаннем ляці…
Як за рабінаю ў забыцці -
там дзе туман непралазны…

За вечаровымі дымамі - дзень
Ты побач ля зорнае цішы,
Змяняеш святло і ў свята,
дзе цень -
Даруеш далёкае ў кніжцы.

З-пад ветру нічутная
плынь ападзе,
У адчуты тым вершам горад -
А вечнай ўлады
няма ні ў каго…
І карта Сусвету змяніла даўно -
шляхецкі застаўся гонар.
*3.7.2013 г.*

## Полацк

*Надзее Стэфанаўне*
*Салодкай*

Сапраўды -
Уся самота ад бабіна лета -
Удзень спякота -
Ноччу зіма
Ў маім сэрцы.
Лясок журботы
Прарастае там ля вакна.
Восень краскам
Ссыпае гаркоту
Дзе пад дрэва,
Дзе ў мяхі,
Размывае слязьмі  намёты
Пераблытвае мае сны.
У восень гораччу сыдзе лета,
Сцішыць думкі свае пад сняжок
Трэба, восень, і мне журботы
Кінуць усе табе на парог.
Ты схаваеш за позіркам сонца
Водар мяты
І пах грыбны.
Чорным доўгім воласам ночы
Па  ржышчы ляцяць агні  -
Гэта восеньскія надзеі
Рэжуць, вострым лязом палі,
І Дзвіна нібы маладзее,
Пашырае свае берагі.

*17.9.2005 г.*

## Дамова

*...І манаху трэба духоўнік*

Манах маўчыць,чакае свету
А сам як белы матылёк
Далёкі, немагчымы на планеце
Напэўна,
час прыспешвае знарок.

Дарогаю гісторый
найкаштоўных
Тых камянёў, дзе каляровы свет,
Манах раскладвае
на чорнае вуголле
Ад рэшты, таямніцы доўгі след.

Там чуеш,
на глыбокім, шамаценне,
У вусны нібы словы -
нібы дождж
Духмяным полем
ад сцяны маленне,
Жыццё паміж сусветамі - апроч.

Рашэнне ажывае -
кружыць кола
Ніводнае душы
праз шмат гадоў,
І спавядае грэшныя прасторы
Манах за следам услед -
за лёс чужых дамоў.

*3.8.2011 г.*

## Вераніка

*...Энергетычная маса розуму Сусвету -*
*велічыня пастаянная*

Каб мне або табе - тут нарадзіцца
Павінен нехта і памерці,
Магчыма, ты не ведаеш пра гэта,
Або ты думаеш, што быць тут трэба вечна…

Свет - гэта ёсць жыццё і смерць,
Як - Вера - Ніка  - поглядам імгненным,
Нічога скончанага ў жывых -
І вечнае другім - што пахаваліся за шэрае каменне.

Весь свет на гэтым - зараз і табе…
Адно ж той чалавек - заўжды жыве…
Калі аб ім - хай нехта думае на гэтым свеце…
Цяпер ты ведаеш другому - не памерці.

І кожны ідэал на свяце ў жыцця -
І ў горы-радасці ўсе роўныя ў свеце -
І колькі тут трымацца:
Вырашылі - ты - душа і Дух,
Які лунае там, дзе пажадаюць нашы дзеці.

Таму так мала часу ў чалавека,
І разам нешта неабсяжнае ў марах -
Згадзіся - прачытай, аб тых  хто жыў - малітву…
Мо менавіта ён пайшоў -
Каб мы з табою, недзе побач - тут,
перакладалі фарбы на палітру.

*21.1.2011 г.*

**Анёл і Вільяна**

У ноч адходзілі знаёмыя сляды,
Шукалі шчасце да Вільяны,
Французскі тракт - ноч грае і ляціць,
Празрыстыя над Віліяй туманы.

На Віліі дзяўчаты, нібы зман,
Кахаюць, але што ім тыя хмары...
У Віліі адзін толькі Сцяпан -
Дажджы, напэўна, выспы абміналі.

І сонца ля яго заўжды,
Ты думаеш - шкада, што камень?
Вільяна гордая была - празрысты свет -
І добра, што яе зачаравалі.

Слязьмі злілі  - чужыя гарады
Адныя камяні трывалі зоры -
Употай золата  - Вілейскае красы,
Дзе душы  - нібы грэх у зорным полі .

Ад Віліі па паласе сляды
Дзяўчыны да Сцяпана паміж іншым,
Пад месячным святлом далёкія гады,
Ляцяць і не чакаюць зману…
Што ім каханым  - шчасце назаўжды
Празрыстыя над Віліяй туманы.
*21.6.2009 г.*

**Кросны - старыя дарогі**

Мы ткалі паясы,
Тым тыднем, быццам шлях,
Або дарогу…
Так, так  - старую вечную дарогу…
Хай паясы, не тое сонца,
Што б'е праз шэрае  ваконца,
Дарогу толькі тым падкажуць,
Хто будзе ткаць узор і ўзважыць…
Аб тым, што вецер вее ў полі,
Як жыць і дзе шукае долі,
Той вецер грае паясамі,
Як грае лісцем, грае намі…
Мы ткалі чорным - ткалі белым,
Адно ж жыццё наткала шэрым,
Касмічным пылам адцяняла,
Шматколернасць у нябыт зганяла…
Касмічны пыл - жыцця парады
Прыйшлі ўзорам, і мы рады
Адбіць старое нагаркое,
Уклаўшы ў вечнае - святое...
Так вераснёвымі начамі
Гуляе вецер паясамі
Жыцце ляціць - нябёсаў пыл,
Князёўны - пояс перажыў…
І зорачкі ў арнамент важка -
Жыццё з тым поясам няцяжка.
*7.9.2008 г.*

## Рэха

*Купалу і Коласу*

Там, дзе неба блакіт...
Перабітае крумкачамі...
Кружыць рэха...
Рэштkам чорным -
Выклікаючы сум .
З больш далёкіх краёў...
Дасылаючы разуменне...
У сёняшні дзень...
Што так блізка табе -
Купалы і Коласа пакаленне.
Іх стоды маўкліва...
Знаходжу падчас...
У сутнасці чалавечай...
Шукалі -й- яны свайго чытача -
У сугучнасці вечнай.
Прачытаны ад кандыдатаў навук,
І вайскоўцаў, дваранскага роду,
Хаця б з Нерчынскіх руднікоў -
Аўтэнтычна натхненне заўсёды.
І ўпэўнены тут, толькі ты,
Ушаноўвай мастацтва і творцу,
З іх часоў,
Выгараюць дубы -
Дзе павінна было быць сяброўства.
Не шкада, што між волі...
Вобразы маладых...
Зразумеюць сваю краіну...
І апошні іх свет - быццам рэха
Кожны творца знясе на Радзіму.

*6.9.2007 г.*

## Сустрэча з Купалам у вёсцы Сноў

Шляхі ўсе сходзяцца ля вёскі
З такою назваю чароўнаю, як Сноў,
У дрэвах мільгаюць сініцы, што пялёсткі
Жар-птушкі з назваю “Любоў”.

Разлятаецца каханне  па куточках
Ад Беларусі з даўніны,
І кожны згадвае, то з сумам, то з надзеяй,
Мільгне ў той час, як надыходзяць сны.
Дзве здані ў чыстым, белым полі,
Далонь у далонь, не адвядзі вачэй,
Усё тое, што шукаеш, твае мроі
У снах Радзімы, угледзься, дзе святлей.
Табе заўсёды ўсё тут да спадобы
Дзяцінства - рэчка - возера і лес,
І дрэва чыстае - бяроза,
І вожык, у сенцы неяк к нам залез.
Нас так далёка кідаюць дарогі,
Я азірнуся, дзень нібы пусты,
Увечары я ціха памалюся,
Сустрэча з вёскаю прадоўжыць мае дні.
...Мне сняцца сны аб Беларусі...
Так класік нам даўно казаў,
Магчыма, гэта і натхняла,
Бо ў Снове, ён таксама працаваў.

**Верш Івянецкіх мэроў**

Наканавана мне
выслухаць спевы,
Як з Налібам кахалася Волма,
І доўгія косы рачныя
Рассякаліся вострым мячом
На мяжы курганоў
І зялёнае пушчы-дубровы.
Вось табе і - вянец -
Прадказаў ты сабе...
Заглядаючы ў вочы...
Загінуўшых ваяроў.
Гэта доўга і цяжка -
Захоўваць бацькоўскую мару,
Тую спадчыну выткаўшы
Па ручніку
На пачатку стагодзя.
Уздымаецца казка з выявы,
Хуткай ластаўкі
Зносячы чарнату.

*28.5.2007 г.*



# *Сяргей Пракоф'еў*

*Сяргей Пракоф'еў нарадзіўся 4 снежня 1971 года ў Рэчыцы. Пазней разам з бацькамі пераехаў у Нясвіж. Скончыў СШ №1. У 1986 годзе паступіў у Гарадзенскі хіміка-тэхналагічны тэхнікум. Працаваў намеснікам загадчыка дзіцячага сада па гаспадарчай частцы. Зараз працуе будаўніком у ЖКГ.*

*Дыпламант конкурсу матроскай песні, які адбыўся ў Балтыйску ў 1991 годзе, лаўрэат і дыпламант конкурсаў аўтарскай песні ў Барысаве ў 1995 і 2002 гадах, дыпламант конкурсу аўтарскай песні і паэзіі "Вілейская хваля"(2007 год).*

*Друкаваўся ў раённай газеце "Нясвіжскія навіны". Вершы ўвайшлі ў зборнік "Званы памяці", выдадзены да 60-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў (2004), а таксама ў зборнік вершаў "Букет валошак" (2008) і зборнік "Срэбраны блюз" (2009).*

**Беларусь мая**

1. Прабачай мяне, Радзіма,
Маці, Беларусь мая,
У нашу цяжкую гадзіну
Да цябе звярнуся я.

Мабыць гэта сум,
А можа гэта сэрца крык.
Я не стары цябе вучыць,
Як далей жыць…

2. Хлебасольная краіна,
На ўсе рукі масцярыца.
Рабіць здольная, адзіна,
Каб ад гора як адбіцца.

Толькі ўсё не так, як трэба,
Як пісьменнікі жадалі,
Як спявалі,
Як цябе кахалі!

3. Гэта вось народ ад лапцяў
Да пявучай птушкі ў клетцы,
Колькі ён крыві патраціў
У няволі, у ліхалецці?

Ды ахвярам, мне здаецца
Прыйдзе ўсё ж канец,
Ад цяпла і душ, і сэрцаў
З церну высахне вянец.

4. Прабачай мяне, Радзіма.
Маці, Беларусь мая,
На прасторныя даліны
З цеплынёй дзіўлюся я

Мабыць гэта сум,
А можа да цябе любоў,
Прыйду ад доўгіх дум
Я ў кут бацькоў.

**Матуля**

Не ў забаве сваёй,
Аб любові жанчыны
Гэты сумны напеў
Шматгалоссем пяю.
Як зарніцу ў нябёсах,
Як крык жураўліны,
Так люблю я матулю маю.

Я на вуснах яе,
Я ў вачах яе дзіўных
Застануся заўсёды
Малым хлапчуком,
Хлапчуком неабсяжнай
Радзімы,
У сэрцы матчыным
Зорным кутком.

На падраненых крылах
Вяртаюцца птушкі,
Да старонкі сваёй,
У радзімы сяло.
Ты, як ціхая песня рачулкі,
Вясноўвага ранку святло.

Падзівіся, вакол -
Ажываюць бярозы
І квітнеюць сады
Каля хат, нібы сны.
Не глядзі,
Гэта, мама, не слёзы.
Гэта кроплі дзіцячай вясны.

Гэта ночы твае,
Што ты мне даравала.
Гэта рукі твае,
Як набыткі цяпла.
Як люблю я цябе,
Толькі гэтага мала,
Каб вярнуць табе тое,
Што ты мне ў дзяцінстве дала.



# *Тамара Прыгун*

*Тамара Міхайлаўна Прыгун нарадзілася 29 верасня 1950 года ў Нясвіжы. Скончыла Менскае дзяржаўнае музычнае вучылішча імя М.І. Глінкі па класу баяна і Беларускую дзяржаўную кансерваторыю. Працавала настаўнікам па класу баяна і акардэона ў музычнай школе № 10 г. Менска, намеснікам дырэктара ў сярэдняй школе № 125. З 2000 года жыве і працуе ў Нясвіжы, з'яўляецца кіраўніком народных калектываў "Вяночак", "Ліра", "Акцэнт".*

*Аўтар-выканаўца. Песні ўвайшлі ў калектыўныя зборнікі "Срэбны блюз", "Незабудкавыя таямніцы". Аўтар зборніка песенных твораў "І льюцца песні па-над родным краем". Друкавалася ў раённай газеце "Нясвіжскія навіны". Удзельніца раённых і рэспубліканскіх радыёперадач. Сябра раённага літаратурна-музычнага аб'яднання "Валошкі", абласнога Народнага клуба паэтаў і кампазітараў "Жывіца".*

## Хай жыве Беларусь

*Музыка і словы Тамары Прыгун*

Мілая, цудоўная Радзіма,
Люблю я прыгажосць тваіх бяроз,
Люблю, як журавы ляцяць у вырай,
І шчыпле твар зімой люты мароз.
Сваім каханнем моцна даражу я,
Бо без яго не маю я жыцця.
Мая калыска, родная Радзіма,
Берагу цябе я, як дзіця.

*Прыпеў.*

Хай квітнее мой край,
Хай жыве Беларусь,
І блакітным над ёй будзе неба!
Я краінай сваёй заўжды ганаруся,
І другой мне Радзімы не трэба.

Хочацца аднойчы дакрануцца
Да крынічнай чыстае вады,
З галавой у травы акунуцца,
Як ў дзяцінстве хочацца заўжды.
І раскінуць ўшыркі свае рукі,
Прытуліць матулю да сябе.
Любая, цудоўная Радзіма,
Ад усёй душы люблю цябе.

*Прыпеў.*

## Спявае душа

*Музыка і словы Тамары Прыгун*

Пунсавее зорка, надыходзіць ранак,
Дакрануўся ветрык да зямлі,
І напоўніў сэрца харaством світанак,
Абудзіўшы рэчкі і палі.

*Прыпеў.*

Спявае душа, і сэрца хвалюе,
Кліча у далеч зямля.
Прыгожа квітнее і шчыра працуе
Белая Русь мая.

Заіграў гармонік пералівы звонка,
Самі ногі просяцца ў пляс.
Хутка прыгажэе родная старонка,
Бо радзіма шчодрая ў нас.

*Прыпеў.*

Калі ж нашы песні ўсім вам да спадобы,
Запрашаем у госці шчыра вас.
Зычым вам здароўя, нашы хлебаробы.
Да сустрэчы новай, у добры час!

*Прыпеў.*

## Ой, ляцелі гусі

*Музыка і словы Тамары Прыгун*

Ой, ляцелі гусі ды каля крыніцы,
Захацелі гусі выпіці вадзіцы.
Праляталі нізка, крылы намачылі,
Не змаглі падняцца, не хапіла сілы.

*Прыпеў.*
Птушкам патрэбны моцныя крылы,
Дальняю дарогай далятаць у вырай.
Птушкам патрэбна вялікая сіла,
Ранняю вясною сустрэцца з Радзімай.

Ветрык падхапіў іх ды панёс высока,
Подых яго ў рэчцы калыхаў асоку.
Шапацелі дрэвы, ім дапамагалі,
Вельмі птушкам цяжка, яны добра зналі.

*Прыпеў.*

Надышоў ўжо вечар, птушкі знемагліся,
Вырашылі сесці, вады напіліся,
А ўранку гусі да сонейка ляцелі,
У небе жаўрукі ім гучна песні пелі.

*Прыпеў.*

## Нясвіж сінявокі

*Музыка і словы Тамары Прыгун*

Горад мой, мой любы Нясвіж,
Казка мая, маё хваляванне,
Ты прыгожы нават, як спіш,
І асабліва прыгожы ўранні.

Люблю азёр тваіх берагі,
Люблю блакіт бягучых аблокаў.
Твае веснавыя палі і лугі,
Усё хараство не акінеш вокам.

*Прыпеў.*
Нясвіжская зямля, зямля маіх бацькоў,
Мой горад дабрыні, надзеі і кахання,
Кожную хвіліну і спакон вякоў
Я веру ў хуткае з табой спатканне.

Люблю цябе, як ты пад дажджом,
Маланка на небе, хвалююцца дрэвы,
Гэта цуда і забыццё,
У сустрэчу з табой, любы горад я веру.
Люблю я твой квяцісты абшар,
Ратушу, замак, масты і ўзгоркі,
Калыска мая, ты збыццё маіх мар,
Горад ты мой, Нясвіж сінявокі.

*Прыпеў.*

**Архідэя**

*Музыка і словы Тамары Прыгун*

У марах і летуценнях я з табою заўжды,
Жыццё маё і натхненне, гэта ты, толькі ты.
Я дакрануся да неба, зоркі разам здыму,
Што для кахання трэба, ведаць мне аднаму.

Прыпеў *(2 разы)*.
Як у люстэрка гляджуся ў цябе я
І лячу з табой, як у сне,
Кветка ты мая, архідэя,
Ты - палова мяне.

Надышло расставанне, у неба ўзмыў самалёт,
Што ж будзе з нашым каханнем, адкажы мне, пілот.
Я стаю на балконе, у сэрцы горыч ды жаль.
Нашу мелодыю ціха зноў іграе раяль.

Прыпеў *(2 разы)*.

## Пралесачка

Аднойчы на ўзлесачку з'явілася пралесачка,
Маленькая пралесачка ранняю вясной.
Яе саграваля сонейка сваім ласкавым позіркам,
Дожджык паіў пралесачку цёплаю вадой.

*Прыпеў.*
Пралеска, пралеска, пралесачка,
Маленькая цуда-кветачка.
Ты прыгажуня, кветачка
І талісманчык мой.
Блакітнымі пялёсткамі
Чаруеш дзяцей і дарослых ты,
Вабіш сваёй прыгажосцю,
Сваёю дабрынёй.

## Кацяняты

У падваротні каля хаты, напярэдадні вясны,
Нарадзіліся кацяняты, былі прыгожыя яны.
Адзін з малых блакітна-шэры, а другі чарнявы быў,
Трэці белы, як папера, вельмі ён гуляць любіў.

*Прыпеў.*
Прыг, скок, прыг, скок, скачуць кацяняты,
Прыг, скок, прыг, скок, бегаюць заўзята.
- Мур, мяў, мур, мяў, - кліча маці-кошка, -
Мур, мяў, мур, мяў, хадзем есці крошкі.

Вось аднойчы пёс суседскі напалохаць здумаў іх,
Ён схаваўся ў падваротні, пачаў гаўкаць на малых.
Кацяняты ва ўсе бокі паўцякалі, хто куды,
Кошка разам тэж наўцёкі, каб далей ад той бяды.

*Прыпеў.*
- Вось як, вось як, - кажа маці кошка, -
Вось як, вось як, мае малыя крошкі.
Мур, мяў, мур, мяў, уважлівымі будзьце,
Мур, мяў, мур, мяў, асцярожнасць не забудзьце.

Шарык, лежачы ля будкі, зразумеў учынак той,
Падышоў да іх ён хітра, здумаў браць іх дабрынёй.
Ён і так, і гэтак шчыра пасміхаецца малым,
А яны, пра ўсё забыўшы, у гульні кінуліся з ім.

*Прыпеў.*

- Вось як, вось як, - кажа маці кошка, -
Вось як, вось як, мае малыя крошкі.
Кожны ўчынак хай ён добрым будзе,
І ніхто з вас яго не забудзе.



*Аляксандр Міхайлавіч Раманчук нарадзіўся ў вёсцы Яжавічы Клецкага раёна ў 1960 годзе.Закончыў Шчэпіцкую васьмігадовую школу, затым Гарадзенскае ПТВ № 7 электратэхнікі. Працаваў у Клецкай раённай сельгастэхніцы ў 1977-78 гг. Затым служыў у Савецкай Арміі на Далёкім Усходзе. Пасля арміі працаваў у калгасе "Кастрычнік" электрыкам. Жыў у вёсцы Шчэпічы. У 1992 годзе пераехаў у в. Салтанаўшчына Нясвіжскага раёна, дзе жыве і цяпер. Пісаць вершы пачаў у пачатку 2016 года. Друкаваўся ў газетах "Нясвіжскія навіны", клецкай раённай газеце.*

# *Аляксандр Раманчук*

## Роднай мове

Родная мова! Як мёд ліповы,
Ты і салодзіш, і лечыш,
Песняй цудоўнай, ласкавым словам
Сэрца маё прывеціш.
Дзедавы казкі ў далёкім дзяцінстве
Ткалі свае асновы,
Матчыны песні пра белую вішню
Ў душу ўпляталі словы.
Быццам глыточак вады гаючай
У поўдзень спякотны летам,
Гукаў тваіх напеў пявучы
Вабіць чароўным светам.
Ты, як раса з палянаў сунічных,
Ад смутку і горычы лекі,
Гоманам чыстых бароў крынічных
Са мной застанешся навекі.

* * *

Калі б мне вярнуцца зноўку -
Назад праз сорак гадоў -
Да дзеда на леснічоўку
Пад засень магутных дубоў!
Прайсці па знаёмых сцежках,
Вады напіцца крынічнай,
Там пахне чабор на ўзмежках,
І водар плыве сунічны.
Там час не спяшае ў дарогу,
Кукуе зязюля вёсны,
І дзякуюць людзі Богу,
Што ўсё грунтоўна і проста.
Ноччу трывожна прачнуся,
Сасніўшы буслiны клёкат,
Я, мабыць, туды не вярнуся,
Бо ехаць вельмі далёка…

**Дуб**

Дуб, што жолудам я пасадзіў
У далёкім дзяцінстве малечай,
Быццам волат падняўся
над домам маім
І расправіў магутныя плечы.
Ён ужо не баіцца завей
і дажджоў,
І пад ветрам тугім не згінаецца.
Моцнай хваткай
магутных сваіх каранёў
Дуб за родную зямлю
трымаецца.
І калі я прыходжу
з далёкіх шляхоў,
Ён прыветна мяне сустракае,
Быццам роднаму брату
з сунічных бароў,
Ён здалёк сваёй шапкай махае.

**Вёсцы**

Вёска мая, Яжавічы,
Мілы бацькоўскі куток,
Падаюць летнія знічкі
Зоркамі ў цёплы пясок.
Сонца цябе саграваe,
Ветрык калыша траву,
Ранак расой умывае
Дом, у якім я жыву.
Шчасця, дабра і згоды,
Долі ў тваё жытло.
Хай абмінуць нязгоды
Вокан тваіх святло.
Мілы куток Беларусі,
Белы шыпшыны цвет!
Ранняй вясною гусі
Крылом расхінаюць свет.

**Бацькам**

Які цудоўны шлях дадому,
Да мілай хаткі, да цябе!
І цяжкі мех дарожнай стомы
Ў парозе родным упадзе.
Прыехаў сын - і свята ў хаце,
З каморы бацька штоф прынёс,
І неўзаметку плача маці,
Хаваючы расінкі слёз.
"Сынок! Ты сніўся гэтай ноччу.
Здароўе як? Ты пасталеў…"
І добрай ласкай свецяць вочы,
Як сонца ў ясны, летні дзень.
Сынок, а скроні пабялелі,
А вочы ўжо не так глядзяць.
Вунь дрэвы ў садзе састарэлі,
Як ластаўкі, гады ляцяць…
І ў роднай хаце той на годы
Ўспаміны, як вада, плывуць.
І буду я сынком заўсёды,
Пакуль бацькі мае жывуць.

* * *

Здаецца, што я тут часова жыву:
Вось годзік яшчэ пратрываю,
Ад шуму і тлуму сябе адарву
І ў вёску дамоў пакульгаю.
А горад не хоча
назад адпускаць,
І сам над сабой я смяюся.
У небе на селішча
людзі ляцяць,
А я ўсё ніяк не збяруся.
Жыву па-старому,
хоць сэрца шчыміць
І вёсен багата прайшло,
А лодка жыцця
ўсё на месцы стаіць,
Бо лёс паламаў мне вясло.

* * *

Перада мною раздарожжа
І зранку не задаўся дзень,
І хто з сяброў мне дапаможа
З душы сагнаць
сумненняў цень?
Якой цяпер пайсці дарогай,
Куды ступіць ці павярнуць?
А людзі слушна дапамогуць:
"Ідзі, куды і ўсе ідуць".
А можа, не туды мне правіць,
І цесна ў купе ўсім брысці,
Ну, хто мне скажа і параіць,
Ісці з усімі ці не йсці?

**Нясвіжскія замалёўкі**

* * *

У замку ўсё як належыць. Карціны, экспанаты, багатая мэбля, раскоша. А жыццём не пахне. Пахне музеем.

* * *

У непагадзь возера мяняе колер з блакітнага на шэры. Чаму так? Мабыць, на нешта злуецца.

* * *

Бабулька прадае грыбы. Яны мне не патрэбны, а купіць хочацца ўсе, каб зрабіць ёй прыемнае.

* * *

Жоўтыя лісточкі, як залатыя манеты, усцілаюць дол перад касцёлам у Нясвіжы. Глядзець на іх хораша, а збіраць чамусьці не хочацца.

* * *

Гадзіннік на Ратушы адбівае час. Ці дзень? А можа - год? Вялікая таямніца.

* * *

Нясвіжская брама стаіць, як маналіт. А пад арку зайсці не хочацца. Здаецца, што там холадна…



# *Віктар Трусевіч*

*Віктар Віктаравіч Трусевіч нарадзіўся ў 1961 годзе ў в. Затур'і Нясвіжскага раёна . У 1976 годзе скончыў Затур'янскую васьмігадовую школу. У 1984 годзе - Лідскі індустрыяльны тэхнікум. Друкаваўся ў часопісах "Полымя", "Маладосць", "Беларусь", "Салон", "Родная прырода", "Вожык", "Першацвет", "Бярозка", "Вясёлка", газетах "Культура", "На страже Октября", "Мінская праўда" і інш. Творы ўвайшлі ў літаратурныя альманахі "Пяром і сэрцам з Нясвіжам"(1994), "Нясвіжскія вытокі" (1995). Друкаваўся і ў літаратурна-мастацкіх выданнях "Дзень паэзіі - 90", "Дзень паэзіі - 92". У вершах закранаюцца маральна-этычныя праблемы, тэма годнасці чалавека, Афганская і Чарнобыльская тэма, праблема роднай мовы. Аўтар зборніка "Датуль жыве народ" (2002). Памёр у 2003 годзе.*

**Першае спатканне**

***Ірыне***

Нават вецер сціх пад вечар,
І злагодзіўся мароз.
Крочу к любай на сустрэчу
Між заснежаных бяроз.

І трапеча ў хваляванні
Сэрца птушкай маладой…
Наша першае спатканне,
Быццам першы снег зімой.

*1978 г.*

**Паэзія**

Якой ёй быць -
гадаем мы штодня.
Прыгледжанай,
прыгожай
ці нязграбнай?
Галоўнае - заўсёды каб яна
Не штучнай выглядала,
а сапраўднай.

## Сон

Я сёння прысніў жанчыну,
Якой ніколі не бачыў,
З вільготнымі тварам, вачыма,
Відаць, ад доўгага плачу.

Яе запытаў нясмела:
 - Хто Вас так пакрыўдзіў,
Пані?..
І доўга яна глядзела,
Сказаўшы на развітанне:

- Была я раней патрэбнай,
Жаданай і неабходнай.
А сёння вось стала дрэннай,
А сёння стала нямоднай…

Мяне адракліся дзеці,
А я іх жа гадавала…
Нічога страшней на свеце
Няма …
І пайшла памалу…

І думаў я доўга ўранні,
Нахмурыўшы сумна бровы,
Бо зразумеў: тая Пані
Была маёй роднай Мовай.

*1993 г.*

* * *

Не спяшайся са словам,
душа, на паперу.
Пачакай крыху,
сябра надзейны - аловак.
Праз пакуты хай пройдзе
душа ў поўнай меры,
Каб спазнаць смак улады
пад веліччу Слова.

*1995 г.*

## Балада

Жыў у пасёлку Чалавек
Усё жыццё ў галечы, брудзе.
Ён рана зведаў страшны здзек,
Які штодня цярпелі людзі.

Не меў ні жонкі, ні дзяцей,
І верыў, мусіць, толькі ў Бога.
Ён кожны дзень пытаў людзей:
"Вы што, не бачыце нічога?.."

Данеслі злыя языкі
Гаспадару. І неяк ноччу,
Каб ён не бачыў слёз людскіх,
Нябогу выпалілі вочы.

Стаў жыць у горшай ён бядзе,
Але штодня маліўся Богу,
І ўсё звяртаўся да людзей:
"Вы што, не чуеце нічога?.."

Данеслі злыя языкі
Гаспадару. І той, бяздушны,
Каб стогнаў ён не чуў людскіх,
Аддаў загад - адрэзаць вушы.

Ні чуць не мог ён, ні глядзець,
Ды зноў і зноў маліўся Богу,
Пытаўся ў змучаных людзей:
"Вы што, не хочаце нічога?.."

Не дапамог яму зноў Бог.
І Гаспадар паставіў кропку:
Каб праўду гаварыць не мог,
Яму свінцом залілі глотку…

Вось так і ты, Народзе мой,
Калісьці знатны і вялікі,
Стаў, разгубляўшы гонар свой,
Сляпым, глухім і без'языкім.

*1994 г.*

* * *

Ён спатыкаўся, нешта мармытаў,
Ужо ссівелы, пажылы мужчына,
Ды аніхто на гэта не зважаў,
Усе спяшалі, беглі міма, міма…

- Ну, вунь адзін набраўся, як свіння, -
Пагардлівым прамовіў хтосьці тонам.
- Падумаць только среди бела дня…
- Куды глядзіць міліцыя сягоння?..

А ён усё падняцца спрабаваў,
З балючаю грымасаю на твары,
Але зваліўся, сціх і перастаў.
Падкручыўшы нагу на тратуары.

Пасля пад'ехаў "чорны варанок" -
Заскрыгацелі жаласна калёсы…
Як на спектакль, глядзеў за ўсім здалёк
Натоўп людзей, абураных і злосных.

- Бывае, што ты зробіш, перабраў…, -
Ўсміхаліся, праходзячы, мужчыны…
А ў бальніцы доктар аж стагнаў:
"Эх, каб раней на нейкай чвэрць гадзіны…"

*1989 г.*

## Надзея

У хвіліны няўдач-завеяў,
Што прыносяць з сабою мукі,
Не спяшайся губляць надзею,
Апускаць у адчаі рукі.

Да апошняй сваёй хвіліны
Не здавайся на міласць лёсу…
І надзея цябе не пакіне -
Прыйдзе радасцю шматгалосай.

*1987 г.*

## У Калдычэўскім лагеры смерці
***Маналог аднаго з ахвяр***

Мы з'явіліся на гэты свет
у розны час:
мой дзед,
мой бацька
і я.

А пакідалі яго разам:
у выглядзе чорнага дыму
праз трубу
крэматорыя.

*1988 г.*

## Удава

Пажаўцела ніцая трава.
Сумныя, не шэпчуцца бярозы.
Над магілай бедная ўдава
Выцірае раз за разам слёзы.

Толькі месяц шчасна пажылі,
Толькі месяц - гэтак крыўдна мала.
І ніхто не знае на зямлі,
Як яна адзінага кахала.

Ды і ён за свой кароткі век
Не паспеў уволю накахацца…
Што цяпер рабіць, калі ўдаве
Сёлета мінула дзевятнаццаць?..

*1994 г.*



# *Аксана Шкрэд*

*Аксана Пятроўна Шкрэд нарадзілася ў Нясвіжы 3 траўня 1976 года ў сям'і медыкаў. Мае чэшска-польскае паходжанне, спавядае праваслаўную веру. Адукацыя вышэйшая. Скончыла СШ № 1 з залатым медалём, БДЭУ.*

*Асноўны кірунак у творчасці - проза. Пагаджаецца з думкай Ф. Ніцшэ: " Тое, што нас не забівае, робіць нас мацнейшымі".*

*Друкавалася ў раённай газеце "Нясвіжскія навіны", рэспубліканскім штотыднёвіку "Вместе".*

**Прысвячэнне**

Нясвіжская зямля - азёрны край,
Сваёй гісторыяй славуты,
Дзе замак Радзівілаў і шумлівы гай
Мінулага нагадваюць трывогі і пакуты.
У памяці вякоў да нашых дзён
Жывуць легенды і паданні,
Нясуць яны на крылах, нібы сон,
У краіну слаўных подзвігаў, кахання.
Ляцелі гукі струнаў там, да вышыні,
І пад чароўнае гучанне клавесіна
Нязгаслага кахання загараліся агні -
Бясцэнны скарб ва ўсе часіны.
Нясвіжская зямля падаравала
Імёны, што гучалі на ўвесь свет,
Праз шмат вякоў мастацтва іх здзіўляла
І ў гісторыі пакінула глыбокі след.
Радзімы нашай прыгажосць апета
Шчырасцю прасякнутым радком.
І назаўжды пісьменнікі, паэты
З Нясвіжам застаюцца сэрцам і пяром.

## На кірмашы

На Нясвіжскім кірмашы
Неблагія барышы.
Тавар на дзіва гожы -
Былі бы толькі грошы!
Прынесла баба парсючка,
А дзядок прывёў бычка.
Цётка з дальняга сяла
Курак рабых прынясла.
Гляньце, нашы мужыкі
Схапілі дзевак пад бакі
Ды пусціліся ў скокі -
Квас быў добры і не толькі .
Грай, гармонік, люд, скачы
На Нясвіжскім кірмашы.
Пагуляем ад душы
На зароблены барышы.
За бурачок і яблычак румяны,
За каравай прыгожы і духмяны,
За смятанку і смачныя каўбасы,
Да якіх тут кожны ласы.
Пакаштуеш з бочкі мёду,
Адчуеш смак яго і водар.
Пакуль не звёўся люд працоўны,
Будзе наш прылавак поўны!

## Лета

Нам усмешку дорыць
Лета залатое,
Лашчыць і бадзёрыць
Сонца цеплынёю.
Над кветкамі чаруе
Руплівых пчолак рой,
Па кропельцы рыхтуе
Мядовы ён напой.
А на луг квяцісты
Нанеслі пэндзлі мастакоў
Стракатых, залацістых,
Бялюткіх матылькоў.
Ад рамонкаў і валошак
Трапіш у лясок,
Там, глядзі, у кошык
Просіцца грыбок.
Спеласцю духмянай
Вабяць нас суніцы…
І раптам станеш п'яны
Пахам касавіцы.



# *Валянціна Штоп*

*Валянціна Сяргееўна Штоп нарадзілася 07.08.1994 года ў маляўнічай вёсцы Занкі Свіслацкага раёна Гарадзенскай вобласці. Свае першыя вершы пачала пісаць яшчэ ў школе. Спачатку для сяброў і блізкіх, а потым для ўдзелу ў школьных канцэртах. З цягам часу вершы з вясёлых фантастычных уяўленняў маленькай дзяўчынкі перараслі ў меркаванні дарослага чалавека. Скончыўшы адзінаццаць класаў Свіслацкай школы № 2 імя М. П. Масонава, паступіла ў Гарадзенскі дзяржаўны каледж мастацтваў, дзе працягвала пісаць вершы. У 2014 годзе атрымала чырвоны дыплом і пераехала жыць і працаваць у Нясвіж, дзе і працягвае сваю творчую дзейнасць. В. Штоп працуе рэжысёрам Дзяржаўнай установы культуры "Нясвіжскі гарадскі маладзёжны цэнтр".*

**Я адтуль**

Я адтуль жа, адкуль і ўсе вы.
Разам з вамі хаджу і спяваю,
Я зямлю сваю адчуваю,
Яе спеў вясёлы такі.
Каля дрэва грыміць і грукоча,
Каля поля заве зноў і зноў
Усіх дачок сваіх і сыноў,
Паспявае пад сонейкам збожжа.
Каля шуму машын
і праз вокны не будзе
Чутна спеву зямлі.
Кожны з нас быў такім,
Кожны з нас быў глухім.
Мы ж - усе з вамі людзі
З самых розных мясцін.
Усё, што ёсць, было і раней.
Наша спадчына ціха чакае,
Калі ў голас хто заспявае
Дый зайграе
ад сэрца мацней!

## Бясконцы сум

За кожным чалавекам, ёсць свой бясконцы сум,
Свая палітра дзённая няўдачы,
За колерам душы ёсць колер шэрых дум
Якія цягнуцца, каб іх Сусвет убачыў.
І крок за крокам ён усё бліжэй -
Ні праца не ўратуе, а ні грошы,
Ты можаш скочыць на ступень вышэй,
А ён і там табе залепіць вочы!
Змагацца з гэткім прывідам бясконца -
Вось чалавечая суцэльная бяда!
Бо думкі свецяць, свецяць шчырым сонцам,
Калі працуе добра галава!

## Чалавекам стаць

З маленства ў матчынай любові
Знаходзіла прытулак для сябе.
А кажуць, што дзіця
з радзімай кроўю
Ўсю мудрасць мацеры бярэ.
А я маўчу, адвожу погляд і іду
Да працы, да людзей,
Каб толькі не сядзець у хаце.
У галаве: “Дзе грош узяці?
Ці хто палюбіць?
Ці каго знайду?”
Пытанняў многа, менш адказаў
І блытаюся па зямлі….
Усе добрымі
мы нарадзіліся адразу,
А потом самі ўсё на глум звялі.
Але клубок
не можа вечна віцца,
Трэба і ў жыцці сваім спыніцца
Не для таго,
каб штосьці даказаць,
А каб сябе ж у рукі ўзяць.
Пайсці сваёй дарогай!
Свяціць або гарэць,
Маўчаць або грымець,
Пісаць або казаць,
Мне ж трэба чалавекам стаць!

## Так проста быць шчаслівай

Так проста быць шчаслівай
Так цяжка быць шчаслівай,
Бо не хапае сілы
Для шчасця працаваць,
І кожны дзень, як дзіва,
І кожны час, як дзіва,
З яскравымі вачыма,
З усмешкай сустракаць.
Рука з рукою разам,
І я с табою разам,
Пачуцці, думкі, назвы
Мы можам памяняць.
Абы глядзець у вочы,
Глядзець у твае вочы
І днём і нават ноччу,
Магчымасць мець абняць.
Цябе мой чалавеча,
Цябе мой чалавеча,
Уткнуцца ў твае плечы,
Каб зноў шчаслівай стаць.

*Святлана Валянцінаўна Шынкевіч нарадзілася 27 красавіка 1968 года ў вёсцы Казлы Нясвіжскага раёна Менскай вобласці. У 1990 годзе скончыла філалагічны факультэт БДУ з чырвоным дыпломам. Працавала ў в. Казлы выкладчыкам беларускай і рускай моў і літаратур. Зараз выкладае ў Аношкаўскай сярэдняй школе-дзіцячым садзе.*

# *Святлана Шынкевіч*

### Рай на зямлі

Не шукай ты далёкага раю,
І чужых ты зямель не хвалі,
Гэты рай я сама ўжо тут маю
На бацькоў урадлівай зямлі.

Тут бруяцца шырокія рэкі,
І сады бы ў раі тут цвітуць.
Ветру шэлест запомніш навекі,
Пушчы казкі-быліны пяюць.

Ці ж мы ведаем, як там, у раі,
Толькі наш беларускі край
Нас так цешыць
птушыным граем,
Песня льецца аж цераз край.

Можа хто паспытаў, не знаю,
Райскіх яблыкаў водарны смак,
Але я ўраджай тут збіраю,
У сваіх беларускіх садах.

Хто не ведае чырвань папінкі,
Хто антонаўку ў рукі не браў,
Хто ў садзе ранютка расінкі
Басанож па траве не збіраў.

Невідушчы ўсё раю шукае
І не бачыць німб над раллёй.
Я ж уласна яго ствараю
На зямлі і ў душы сваёй.

## Легенда пра Коханавічы

Многа легендаў, паданняў нямала
Бабуля мая мне казала не раз.
Яна ў маленстве мяне гадавала,
Памерла і ўжо не паўторыць для вас.
Хачу расказаць я пра вёсачку тую,
Дзе бабка жыла, гаспадарку вяла.
І хатачку мела сваю, хоць малую,
І назва адкуль гэтай вёскі пайшла.
Коханавічы.… Якая прыгожая назва,
Тут хаты стаяць у палоне святла,
Чакаеце ўсе ад мяне вы расказа,
Ну што ж, падзяліцца я з вамі прыйшла.
Калісьці была тут адна толькі хата,
Дзяўчына-красуня ў той хаце жыла.
Сватоў прыязджала да дзеўкі  багата,
Ды згоды нікому яна не дала.
Няўжо так любіла адна заставацца?
Мо сэрца каменнае мела яна?
Чаму не хацела з хлапцамі і знацца,
І ў хаце сядзела адна да відна.
Прычына адмовы была вельмі простай:
Тайна кахала яна каваля,
Што жыў у суседняй жа вёсцы ля моста,
Але гадоў з пяць як другая з ім шлюб узяла.
Меў добру жонку, дачушку, два сына,
Ім аддаваў усё сэрца сваё,
І пра каханне прыгожай дзяўчыны
Нават у думках не мог уявіць сабе ён.
Ды толькі аднойчы яна папрасіла
Выкаваць моцны на брамку замок,
Бо стары, мабыць, недзе згубіла,
Ды і які са старога ўжо толк.
Новы замок каваль зрабіў хутка,
Дзеўцы-красуні на хутар занёс
І ўчаставала яна яго прутка,
А ён усё распытваў пра дзеўчыны лёс.
- Што ж ты вякуеш адна адзінока?
Чаму ты, красуня, замуж не йдзеш?
Хлопцаў сваёй прыгажосцю чаруеш,

Многіх, напэўна, са свету звядзеш.
- Мілы каваль, не дзівіся, дай рады.
Мне з гэтых хлопцаў ніводны не люб.
І не давай мне пустыя парады,
Толькі б з табою пайшла я на шлюб.
Моцна здзівіўся Коханаў Віця,
(Я не сказала, звалі так каваля).
Але ў душы патаемныя ніці
Раптам скруціліся, выйшла пятля.
- Што ты гаворыш, млода дзяўчына!
Я ўжо стары ды і маю сям'ю…
- Ты мне нічога, каваль, не павінен,
Што ж тут такога, цябе я люблю.
Лепей звякую адна адзінока,
Чым за нялюбага замуж пайду,
І не лічу я ніякім папрокам:
Крыж адзіноты-кахання нясу.
Тут ён сустрэўся з вачыма дзяўчыны:
Погляд яе яму шмат расказаў
Ураз заспяшаўся, не меў хоць прычыны,
Але з-за стала ён імгненненька ўстаў.
- Ты гэта значыць… Мне трэба вярнуцца,
Бо ўжо хапіліся, дзе гэта я.
З патрэбай якой ка мне можаш звярнуцца,
Ты ведаеш хата стаіць дзе мая.
- Патрэбы ніякай не будзе больш, вер мне,
Нам  бачыцца нельга, - сказала яна,
Сакрэт ты мой знаеш, ды лёс не павернеш,
Ні мне, ні табе не патрэбна мана.
Рушыў дамоў наш каваль без кручыны:
Не, Божа мой, ён не кіне сям'ю.
Што яму тое прызнанне дзяўчыны,
Моцна кахае ён жонку сваю…
Так і пражыў ён у вёсцы ля моста,
Дрэнна аб ім аніхто не казаў,
Век звекаваў свой будзённа і проста
І лішніх размоў аб сабе не прыдбаў.
Толькі хто знае, адкуль у дзяўчыны
Дзеткі з'яўляцца штогод пачалі,
Пяцёра дачушак і тры ладных сына
Мамачцы мілай шчасце далі.
У хатачцы роднай, як жыць стала цесна,

Сталі хацінкі свае будаваць.
Вёска як бачыш у міг вырастала,
Трэба было гэту вёску назваць.
Вось і сабрала матуля ўсіх разам:
- Я ўжо старая, дзеткі, зусім,
Хутка пamру і даведацца час вам,
Дзеці чые вы, і бацька дзе сам.
Моцна яго я калісьці кахала,
Коханаў Віця мне засціў святло,
Дзесяць гадоў як яго ўжо не стала,
Кохана Віці, вы - дзеці яго.
Хочу, каб бацьку свайго ўспаміналі,
Імя хачу ўвекавечыць яго,
Трэба, каб вёску сваю мы назвалі
Коханавічы… Ён варты таго.
З тых часоў даўніх гадоў прайшло многа,
Вёска ж і сёння ля лесу стаіць,
Бабуля мая там схадзіла дарогі,
Казкі, паданні яе не забыць…

**Прапаў без вестак**

*Прысвячаецца памяці*
*Аксяневіча Антона Антонавіча*

Каторы раз чытаю дзецям на ўроку:
- З вайны сустрэлі мацяркі сыноў…
А мой дзядуля знік у страшным змроку,
Прапаў без вестак, не прыйшоў дамоў.
Дзве дочкі ён пакінуў быў у сорак трэцім,
Маёй матулі не было і двух гадоў.
І як жа цяжка прачытаць было ў канверце
"Прапаў без вестак" - чорны прыгавор.
Казалі, што дайшоў ён да Берліна,
Бясстрашным быў, ірваўся смела ў бой,
З агню ён выхапіў маленькага румына,
Ад кулі немку засланіў сабой.
Паранены ў плячо, быў у шпіталі,
Ды не хацеў лячыцца ані дня,
Пакінуў медсанбат не з-за медаляў,
Пісаў пісьмо: "Вайна, брат, не гульня!"
Яшчэ было пісьмо: "Чакайце, дзеткі,

Нясу вам перамогу на штыку!"
І кожны дзень збірала дачка кветкі,
Каб уручыць татусеньку ў руку.
А потым злы канверт: "Прапаў без вестак…"
Надзею ад дзіцяці адабраў.
І невядома, чый ён той палетак,
Дзе бацька не жывым - не мёртвым стаў.

**З нагоды юбілею**

Сто трыццаць год таму назад
Прамень дабра, святла, пяшчоты
Пачуў Усявышняга загад
Спусціцца ў нашыя балоты.
Таптала цемра Беларусь,
Народ стагнаў пад жорсткім катам,
І я не ведаю, чаму
Быў гэты край спрадвек пракляты.
Дачок палегла і сыноў
У маім краі ў той час багата,
Хто мову ратаваў з акоў,
Той быў на вісельні распяты.
І мова б згінула, каб Бог
Не глянуў у куточак гэты,
Прамень святла паслаць нам змог,
А для якой, спытайце, мэты?
Зярняткі два былі ў зямлі,
Святла й цяпла даўно чакалі,
Прамень убачыўшы, ўзнялі
Свае галоўкі і спыталі:
- Чаму забыты Богам край
Не можа меці сваёй мовы?
- Навошта нам чужынцаў гай,
У якім лятаюць толькі совы?
Узняліся зернеткі, узраслі,
Іх шэпт далёка разлятаўся,
І хто пачуў яго калі,
Сваёй дарогі не цураўся.
Ускрэсла мова і народ,
Чужынцы збеглі з жалем, у скрусе,
Назад не будзе ім варот,

Адчыненых у Беларусі.
Загадкі тут зусім няма,
Зярняткі добры мелі голас -
Сто трыццаць год таму назад
Прыйшлі да нас Купала, Колас.

**Памяці Максіма Танка**

Спяшаюся ў школу ранкам,
Сцяжынка ўецца, бы змяя…
Учора верш Максіму Танку
Свой прысвяціў на золку я.

Нібыта з ім, жывым паэтам,
Вяду гаворку я ў цішы.
І адзываецца пры гэтым
Душа яго святлом угрэтым
У маёй дапытлівай душы.

Адценні фарбаў самых ясных,
Метафар свежых васількі.
І, быццам зоркі
з высяў згаслых,
Таемна вабяць яркім бляскам
Яго самотныя радкі.

Зырчэй ад рос
быў творчы росквіт!
Чаго крануўся ў лёце дзён
Радком сваім, -
не кане ў прошласць,
А будзе граць святлом бярösты,
Нам несучы свой слаўны плён.

* * *

Што ёсць на гэтым свеце?
Зацалаваная шчака!
Смяюцца ласкавыя дзеці -
Мае сыночкі і дачка.
Я халады свае не помню,
Пякучыя забуду крокі.
Працяг жыцця -
трохкрылы помнік:
Мая дачушка і сыночкі.
Вы падымаецеся ў вырай,
Вы тры вытокі з ручайка,
Жывіце доўга, светла, шчыра,
Мае сыночкі і дачка.
Пачнеце новае вы веце,
Гадоў вясёлых чаўнікі.
Што ёсць радней
на гэтым свеце?
Мая дачушка і сынкі!!!

* * *

Дзе дзед мой
з перамогаю канаў.
Няма дагледжанай магілкі
Сярод бярозкавай сям'і,
А толькі прозвішча на абеліску,
які паставілі ў гаі.
Прайшлі гады…
Дзяцей вучыць у школе
Спачатку стала мама, потым - я,
Расказваць аб няшчасці
і нядолі,
Якія нам з сабой сабе
нясе вайна.
І кожны раз, чытаючы на ўроку:
- З вайны сустрэлі
мацяркі сыноў…
Я бачу вобраз дзеда, бы здалёку,
Яго я ўспамінаю зноў і зноў.



# *Валянціна Шчарбакова*

*Валянціна Васільеўна Шчарбакова нарадзілася 23 верасня 1974 года ў Нясвіжы. Скончыла СШ № 3, Нясвіжскае педагагічнае вучылішча(1994 г.), філалагічны факультэт БДПУ імя М. Танка (2002 г.), інстытут культуры Беларусі (2013 г.).*

*Працавала загадчыцай Крамянецкай пачатковай школы Лагойскага раёна. З 1998 года - бібліятэкар Нясвіжскай цэнтральнай раённай бібліятэкі імя Паўлюка Пранузы.*

*Кіраўнік раённага літаратурна-музычнага аб'яднання "Валошкі".*

*Укладальнік кніг "Пастыр добры зямлі нясвіжскай"(2012), "Нясвіжчыны духоўныя крыніцы" (2015), аўтар духоўна-асветніцкай перадачы на раённым радыё "Абуджэнне"*

*Друкавалася ў часопісах "Планета Семья", "Вожык", газетах "ЛіМ", "Наша слова", "Краязнаўчая газета", "Нясвіжскія навіны", "Нясвіжскі час".*

*Творы ўвайшлі ў калектыўныя зборнікі "Званы памяці", "Букет валошак" (2008), "З адценнем любові" (2008), "Шчабятушкі", "Незабудкавыя таямніцы", "Срэбны блюз" (2010), "Мне рамонкі цалуюць калені" (2011), "На парозе вечнасці" (2010) і інш.*

***

У бяздонне коціцца зямля.
Там, дзе панавала колісь ціша,
Бура нарадзіла немаўля
І яго ад раніцы калыша.

Бура пахрысціла неспакой,
Ды кумой назвала навальніцу,
І галосіць стомлена званіца
Ля царквы забытай і старой.

Чаму народ на службу не ідзе?
Ён дарог не ведае да храма.
І святар у сцішанай журбе
Просіць Бога папярэдзіць драму.

* * *

Праз пакаянне - да Хрыста,
Праз ачышчэнне ад святыняў,
Ідзём да вечнага жыцця
Паміж сучасных рухаў, плыняў.

У мітусні зямнога дня,
У помесі святла і бруду…
Святымі поўніцца зямля,
Каб мы паверылі ў цуда.

* * *

Я шукаю дарогу да храма.
І вы таксама?
Я шукаю дарогу да Бога,
А іх так многа
Сярод гронак жыццёвых драм.
І ўзводзіцца новы храм
Узнясення Гасподня
У Нясвіжы ўчора і сёння.
Ужо крыжы ўпіраюцца ў неба,
Там для душаў
патрэбная глеба …
Толькі кожны шукае сам
Шлях адзіны ў Божы храм.

* * *

Жнівень плача ціхімі слязьмі,
Быццам толькі ён і вінаваты,
У тым, што лета скончаны
дзянькі
І верасень збіраецца на свята.

Так не хоча сэрца забыцця
І надзея цепліцца малая,
Што мне хопіць усяго жыцця
На дарогу ад зямлі да Рая.

* * *

Ападае лістота на дол.
Памірае апалае лісце.
Так і мы ападзём і зноў
Узрасцём у нябёсах вышніх.

Пойдзем проста на вольны шлях.
Для душы цішыні папросім
Нам застаўся апошні ўзмах
І самотна заплача восень.

Патанае жыццё ў дажджах.
У турботах не бачна просінь.
Міласэрнасць ў Божых вачах
Ад пакутаў на неба ўзносіць.

* * *

Чалавецтва ўцякала ад бяды.
Плакалі ад роспачы матулі,
Бо яны сыноў усёй зямлі
Ад вайны сабой не захінулі.

Штосьці дзеецца паўсюль зусім не так,
Як яны, гаротныя, гадалі.
Нараджаць складаней, чым знішчаць,
Толькі іх чамусьці не спыталі.

## Малітва

А я дзяцінства ў госці запрашу,
Не, не на доўга, толькі на хвіліну,
Каб аднавіць стамлёную душу
І веру адрадзіць у Айца і Сына.

Прайсці па лузе росным басанож -
Вады крынічнай адшукаць струмені.
Прад абразамі, на якіх Гасподзь,
Мне б ціха апусціцца на калені.

Маліцца за бацькоў і за дзяцей,
Каб за дабро яны дабром плацілі,
І шчыра, не губляючы надзей,
За Беларусь у Госпада прасілі.

* * *

Кружыцца верасень ў вальсе лістоты
І да самоты рукою падаць.
Як не спазнаць у жыцці адзіноты,
Як навучыцца ўсім спагадаць?

Шлях адшукаць на дарогах Сусвету
Той, што мяне да дабра давядзе.
Хай не адкрыю я новай планеты,
Даведацца толькі б, дзе шчасце жыве.

## Не забі!

Не забівайце сваіх дзяцей!
Ім хопіць месца на Беларусі.
Хай светлым будзе пагляд вачэй
І жыць не станеце ў вечнай скрусе.

Не забівайце! За гэта вам
Яны пяшчотай сваёй аддзячаць.
Спяюць усе песні пра любых мам…
І над магілай калісь заплачуць.

*   *   *

Паэзіі святая мова
Ўздымае душу да нябёс.
Ды будзе для ўсіх не новым:
Паэзія - пакутны лёс.

Як сэрца сціснe завіруха,
Завея замяце шляхі.
І стане так адчайна глуха
Без слоў паэта на зямлі.

А ён,
слязой змачыўшы сшытак,
Акрылены натхненнем зноў,
Шукае для сябе і іншых
Як праўды, справядлівых слоў.

А знойдзе - зноўку акрыяе,
І струны запяюць душы.
Як быццам ў вароты Рая
Яго ўжо нехта запрасіў.

**Не асуджаю, а малюся**

*Музыка Сяргея Пракоф'ева*
*Словы Валянціны Шчарбаковай*

Свет злы - яго не перайначыш.
Ён прыніжае, душыць, б'е.
Як быццам бы ля пекла скачам,
У танцы д'ябальскім усе.

Уверх спяшаемся імкліва,
Уніз ніколі не глядзім.
Дабро ўжо стала нейкім дзівам.
І ў пачуццях - болей зім.

Гады растрачаныя лічым,
Яны ў нябыт пайшлі дарма.
Багацце стала новым знічам,
Не вера,
што з глыбінь прыйшла.

Мы забываемся на Бога,
Руйнуем вечныя крыжы.
Ды толькі вось, калі трывога -
Тады крычым: "Дапамажы!"

Згінаемся ў паклонах шчырых,
Нам слёз гаручых не шкада …
Так спадзяюцца людзі злыя
На міласэрнага Хрыста.

Я ж ведаю, што не дарэмна
Лілася кроў з яго вачніц.
Скалечаную векам веру,
Каб наталіць і ажывіць.

І зноў малю аб паратунку:
Маёй краіне дай святла.
Дай, Божа, ёй душу жывую.
Каб Беларусь мая жыла.

*   *   *

*Прысвячаецца*
*Станіславе Вятр-Партыка*

Веяў лёс завеямі,
Душу рваў на часткі.
З сумнымі падзеямі
Растаўляў ён пасткі.

Толькі Бог узрадаваў,
Асвяціў шлях сонцам,
Дзень сягоння радасны
І такі бясконцы.

Вам вітанні светлыя,
Пажаданні шчырыя,
Вы, як птушка белая,
Прыляцелі з выраю.

У роднай Беларусі,
У сваім Нясвіжы,
Сярод люду мілага
І да неба бліжай.



# *Станіслаў Суднік*

*Станіслаў Вацлававіч Суднік нарадзіўся 21 верасня 1954 года ў в. Сейлавічы Нясвіжскага раёна. Закончыў Сейлавіцкую сярэднюю школу. 22 гады адслужыў у войску. Падпалкоўнік запасу. З 1994 года жыве ў Лідзе. Рэдактар газеты "Наша слова" і часопіса "Лідскі летапісец".*

*Першы верш надрукаваў у капыльскай раённай газеце "Слава працы". Друкаваўся ў "Полымі", "Маладосці", "ЛіМе", іншых выданнях. Аўтар кніг паэзіі "Пагоня за мову", "Мой Грунвальд", "Лідскія скрыжалі", "Літва".*

*Сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў з 2001 года.*

***Гэты аповед пісаўся з пачуццём глыбокай падзякі да ксендза Юзафа, пробашча парафіі Святой Сям'і ў горадзе Лідзе, чыя святая малітва цудоўным чынам засланіла аўтара ад вялікай бяды.***

# ПІЛІГРЫМКА ДАДОМУ
## (Сказ)

*У імя Айца, Сына*
*і Духа Святога*

**Ясь і Кацярына**

Наўскрай сейлаўскіх валокаў,
вольных і багатых,
На грудочку, з-за гаёчку
выглядала хата.

А ля тое ля хаціны -
вішанькі ды кветкі,
А ў хаціне - Кацярына
ды малыя дзеткі.

А навокал той хаціны -
ды палі, абшары,
А не сеяны, не жаты,
а адны папары.

А ў хлявах стаіць жывёла,
з голаду рыкае,
А чаму ніхто на пашу
бедну не ганяе?

Дзе вы, пане-гаспадару,
пані-гаспадыня,
Што так раптам пацямнела
светлая хаціна?

Ой, раслі тут, расцвіталі
вішанькі ды кветкі,
А ля вішаняк гулялі
васілёчкі-дзеткі.

І палі тут заараны
як штогод бывалі,
І каровы-галяндэркі
ў стойлах не рыкалі.

Ясь тут добра гаспадарыў
на сваіх валоках,
Сэрца з радасці спявала,
і святлела вока.

Жонка ў Яся Кацярына,
ружа-маладзіца,
Стан танюткі, твар вясёлы
радасцю іскрыцца.

Жыць бы ім ды разжывацца,
завіхацца спора,
Каб жа толькі не спаткацца
ды з бядою - горам.

А бяда яна цікуе
лісам з-пад калоды,
Шле ганца да пана Яся
сам пан – ваявода.

*- Прыбірайся, пане Ясю,*
*ў барвы палкавыя,*
*Клічуць-клічуць цябе, Ясю,*
*трубы баявыя.*

Субіраўся хутка Ясю,
на каня сядаўся,
Сваёй мілай Кацярыне
шчыра абяцаўся:

*- Я вярнуся, Кацярына,*
*з той вайны праклятай,*
*Даглядай жа, Кацярына,*
*дзетачак і хату.*

Кацярына даглядала,
сеяла, касіла,
Што далей, вазіла возам,
што бліжэй, насіла.

У саху валы ўпрагала
ды сама арала,
І кароў сама даіла,
і пшаніцу жала.

І касіла, не прасіла
нечай дапамогі,
І расой халоднай мыла
маладыя ногі.

Цэпам цяжкім малаціла
жыта на гуменцы
І чакала, выглядала
Яся ля акенца.

Як чакала Кацярына
светлае часіны,
Прычакала Кацярына
чорнае гадзіны.

Настудзіла босы ногі
ў вешняе вадзіцы,
І ў гарачцы раптам злегла
наша маладзіца.

Захварэла Кацярына
хворасцю цяжкою,
Цяжка беднай Кацярыне
варухнуць рукою.

Плачуць дзетачкі малыя
каля хворай маткі,

Клічуць дзетачкі малыя
дарагога татку.

Толькі татка іх з далечы
ды ніяк не едзе,
Толькі мамка іх да печы
падыходзіць ледзьве.

Шэпчуць бабкі-варажбіткі
розныя замовы,
Лечаць бабкі-варажбіткі
зёлкамі і словам.

Аж нішто не  памагае
ад ліхой напасці,
Нікне, чэзне, знемагае
ад хваробы Каця.

І вясна бярэцца ў сілу,
ззяе ярка сонца
Аж нічога ўжо не міла
за сляпым аконцам.

Тужыць конічак на стайні
з нечасачай грывай,
Зарастае быльнягамі
неарана ніва.

Божа, Божа! Хто ўратуе
бедную сямейку?
Божа, Божа! Хто пачуе
хворай маці енкі?

Хоча ўстаці Кацярына,
але сіл не мае,
Хоча плакаць Кацярына,
слёзаў не хапае.

Каб заснуць як Кацярыне,
сон жа не прыходзіць,
Мусіць, мусіць, Кацярына
ўжо зусім даходзіць.

Раптам бачыць Кацярына
сон ці то на яву -
Дзед з сівою барадою
сеў у кут на лаву.

Дзед сядзіць, маўчыць, не кажа
ні аднога слова,
Толькі чуе Кацярына,
чуе яго мову:
- *Падымайся, Кацярына,*
*ды ідзі да вёскі,*
*Там стаіць за крайняй хатай*
*гонкая бярозка.*

*Ты да тое да бярозкі*
*цесна прыхіліся*
*І за ўсе свае ты беды*
*шчыра памаліся.*

І пачула раптам сілу
Каця ў сваім целе,
І ўзнялася з той нямілай,
хворае пасцелі.

І пайшла пaціху Каця,
ледзь ступаюць ногі,
І пад вечар адалела
цяжкую дарогу.

Цяжка ўпала на калені
перад той бярозай,
А малітву не пускаюць
енкі, плачы, слёзы.

***Малітва Кацярыны***

*Не табе малюся, белая бяроза,*
*А табе малюся, Усемагутны Божа!*

*Не прашу нічога для сябе балеснай,*
*А прашу я долі*
*для дзяцей бязгрэшных!*

*Як зямля сырая мне накрые грудзі,*
*Забяруць іх з хаты*
*ды чужыя людзі.*

*Ой жа ж ці як будуць*
*іх там гадаваці,*

*Але, пэўна ж, будуць*
*з іх там збыткаваці.*

*Будуць да работы*
*іх стаўляць маленькіх,*
*Будуць да бядоты*
*прывучаць слабенькіх.*

*Не прашу я, Божа,*
*каб іх там любілі,*
*А прашу я, Божа, каб хаця не білі!*

*Не пра тое дбаю, што*
*падымуць рана,*
*Не пашлі ж ім, Божа,*
*ды ліхога пана!*

*Не прашу, каб цяжка*
*дзеці не рабілі,*
*А прашу, каб трошкі*
*іх хаця кармілі!*

*Як грахі я маю, Божа, адпусці,*
*Дай жа маім дзеткам,*
*дай жа падрасці!*

*Перш, чым здамся ў рукі*
*лёсу свайму злому,*
*Можа павярнуў бы Яся ты дадому.*

*Хай бы ён вярнуўся*
*ды да роднай хаткі,*
*Хай бы быў у дзетак*
*ды радзімы татка.*

*А як будзе ў Яся жонка маладая,*
*Хай яна не будзе ды да дзетак злая.*

*Ты даруй мне, Божа,*
*што прашу замнога,*
*Бо яшчэ на свеце не бывала тога,*

*Каб было ў чужыне*
*ды сіроткам міла,*
*І каб мачыха дзіцяці*
*матку замяніла.*

*Хоць прасіць баюся,*
*ды надзею маю,*
*Плачу і малюся, літасці чакаю*

*Не шкадуй мяне ты, белая бяроза,*
*Пашкадуй мяне ты,*
*Ўсемагутны Божа!*

І без сіл упала
наша Кацярына,
Ноч там праляжала
нежывой жанчына.

А як зрання збеглі
промні залатыя
На гукі-галіны,
на лісты малыя,

Каця ачуняла
і на ногі ўстала,
Ледзь што памятала,
ледзьве што пазнала.

Толькі чуе Каця –
сілы прыбывае,
Толькі знае Каця –
зноў яна жывая.

Каця да бярозы
хоча прытуліцца,
Каця сваім цудам
хоча падзяліцца.

Толькі бачыць Каця -
на галіне ніжняй
Нешта незвычайнае,
падыходзіць бліжай.

Там фігурка з дрэва
на гуку стаіць,
Там Хрыстос з дарогі
сеў быў адпачыць.

Мусіць, мераў доўга
сцежкі і дарожкі,
Покуль не дабраўся

ды да той бярозкі.

І пачула Каця,
бы гавораць ёй:
- *Шчырая ты, Каця, вераю сваёй,*

*Ты не бойся, Каця, памаліцца дрэву,*
*Каменю і сонцу, ветрыку павеву.*

*Вечару маліся і пачатку дня,*
*Бо дзе ёсць малітва,*
*там заўсёды Я!*

*І не важна, просіш*
*ты жыцця ці хлеба,*
*Тое атрымаеш,*
*што папраўдзе трэба.*

*Не за просьбы вашыя*
*вам даецца ўсё,*
*А за дзеі вашыя, вашае жыццё!*

І заціх той голас,
быццам не было,
Над фігуркай згасла
яснае святло.

Ды сама фігурка
на гуку стаіць,
Кінулася Каця
ўсё сяло будзіць.

Да бярозы збегліся
з усёй вёскі людзі,
Каця ім гаворыць
аб вялікім цудзе.

Верaць ёй – не вераць,
што тут гаварыць,
Ды аднак фігурка
на гуку стаіць,

Ды здарова Каця,
што ўжо памірала,
І дайшло да вёскі –
шчасце іх спаткала,

Што Хрыстос, напэўна,
сам наведаў вёску,
А фігурка тая –
светлы вобраз боскі -

Для ўсіх Сейлавіч да веку
абярэгам будзе...
Да аднога чалавека
парашылі людзі.

А фігуркі з дрэва
прыбіраць не сталі,
Па-над ёю ўмела
стрэшку змайстравалі.

Да яе маліцца
хадзіць вёска стала,
Так маленькая капліца
з цуда тут паўстала.

І пайшла зноў Кацярына
з сошкай і касою,
Больш не ўмыецца жанчына
горкаю слязою.

Зноў падоены каровы,
і зямля ўзарана,
Русы косы, чорны бровы,
і сама як панна.

Закурылася дарога
пылам з-пад падводаў,
Едзе Ясю з перамогай
з дальняга паходу.

Біўся Ясю ў многіх бітвах
па-геройску, мужна,
Быў наш Ясю просты шляхціц,
а цяпер харунжы.

Мякка цокаюць падковы
па зямлі-пясочку,
Едзе Ясю з грозных бітваў
не з пустым мяшочкам.

Мякка рэжацца дарога

колаў абадамі,
Едзе Ясю з перамогай
ды з дабра вазамі.

Вязе Ясю Кацярыне
сукні і каралі,
Вязе футры, і тканіны,
паясы і шалі.

Рада, рада Кацярына
сукні прымяраці,
Ды паціху зачынае
ў бок іх адкладаці:

*- Не казаў бы мне ты, Ясю,*
*сукні адзяваці,*
*Не вялеў бы мне ты, Ясю,*
*футры апранаці,*
*Не дарыў бы мне ты, Ясю,*
*перлы, дыяменты,*
*Не лічыў бы ты, мой Ясю,*
*звонкія манеты.*
*Не было б табе, мой Ясю,*
*перад кім лічыці,*
*Не было б табе, мой Ясю,*
*ды каму дарыці,*
*Каб не тое велька цуда,*
*што са мною стала,*
*Без якога б я, напэўна,*
*ў доле ўжо ляжала.*

Расказала Кацярына
пра сваё здарэнне,
Пра сваю хваробу злую
і пра ацаленне.

На каня сядае Ясю,
едзе да бярозы,
Дзе нядаўна Кацярына
пралівала слёзы.

Злез з каня, перажагнаўся
і сказаў малітву
І злажыў падзяку Богу
за вяртанне з бітваў.

А другі раз памаліўся
за сваю ён Кацю,
За яе здароўе, сілы
над усім багаццем.

Памаліўся і раз трэці
за дачку і сына,
Каб даў Бог здароўя дзецям
і даў мір краіне.

І стаяў перад фігуркай
грозны ў бітвах пан,
Аж упаў лісточак з дрэва
Ясю на жупан.

*- Вось лісток упаў, як жа час ідзе,*
*Хутка, не аглядзімся -*
*снег тут упадзе*
*І пад снегам будзе*
*тут Хрыстос сядзець,*
*Каб у вочы людзям*
*з цеплынёй глядзець,*
*Каб з-пад гэтай стрэшкі,*
*сціснуты марозам,*
*Бараніць нас грэшных*
*з гэтае бярозы.*

І паехаў Ясько
ды да сваёй Каці,
І казаў ёй Ясько
на вазы складаці

Сукні і спадніцы,
Лісы і куніцы,
Перлы і каралі,
Паясы і шалі,
Боты і жупаны,
Шаблі, ятаганы...

Не паехаў Ясю
ды за свет няблізкі,
А паехаў Ясю
на кірмаш нясвіжскі.

А як быў у Яся
ды тавар харошы,

Атрымаў наш Ясю
неблагія грошы.

Ехаў Ясь да князя,
князя Радзівіла,
Да таго, з кім разам
у паход хадзілі.

І расказваў Ясю
пра здарэнне з Кацяй,
І прысіў дазволу
цэркву збудаваці.

І зямлі кавалак
каля той бярозкі
Ясь прасіў прадаці
на патрэбу вёскі.

І сказаў князь Ясю:
*- Землю не прадам,*
*Той кавалак сейлаўцам*
*я бясплатна дам.*

*Ці ж яны спрадвеку*
*краю не служылі,*
*Ці на той кавалак*
*мо не зарабілі?*

*І як выйшаў, збыўся*
*ў вас там гэткі цуд,*
*То хай мае цэркву*
*сейлавіцкі люд.*

*А як будзе з біскупам*
*цяжка што рашыць,*
*Скажаш, што прыедзе*
*Радзівіл прасіць.*

Ехаў Ясь у Вільню
біскупа благаць,
Каб дазвол на цэркву
хутка атрымаць.

А тады, як дойдзе
да таго пара,
Каб даў біскуп сейлаўцам
шчэ і святара.

Атрымаў ад біскупа
Ясь добрае слова:
У імя Айца, і Сына,
і Духа Святога.

Дрэва Ясь купляў,
цесляроў наймаў,
Шрубы, краты і завесы
ў кузнях замаўляў.

І застукалі сякеры,
зазвінелі пілы,
Памажы нам, Божа,
памажы нам мілы!

Ля гасцінца на Магільна
цэркву будавалі,
Цесля справу ведаў пільна,
людзі шчыравалі.

І вазамі ўжо з-пад лесу
дрэва пацягнулі,
І ўжо сохнуць пад навесам
чэсаныя шулы.

Не сышлі даўгія годы
ды за справай тою,
Бо рабілася народам
шмат што талакою.

А таму праз год не болей
цэрква ўжо стаяла,
Пахла лесам, пахла полем,
з небам размаўляла.

І прыехаў біскуп з Вільні
храм той асвячаці,
І пачаў той біскуп пільна
ды ў людзей пытаці,

Што за віхры праляцелі
ды па гэтым свеце,
Што так раптам захацелі

цэркву сваю мецi?
Паказалi яму чынна
тонкую бярозу,
Пад якою Кацярына
пралiвала слёзы,

Паказалi яму месца
той жыццёвай буры
І прасiлi яго ўнесцi
ў цэркаўку фiгуру.

І не ведаў бiскуп хмуры,
як яму тут быцi,
І рашыў ён, што фiгуру
трэба асвяцiцi.

Ды як толькi па травiцы
ён ступiў з дарогi,
Сэрца стала калацiцца,
задрыжалi ногi,

І над дрэвам тым узняўся
сноп жывых праменняў,
І раптоўна аказаўся
бiскуп на каленях.

Стала ясна, што нiчога
тут свяцiць не трэба,
Што ў той мiг яго самога
асвяцiла неба.

І малiўся бiскуп з жарсцю
ды да той святынi,
Верыў сам, што доля – шчасце
край той не абмiне.

А пасля малiтвы ў рукi
ўзяў фiгурку з дрэва
І ў царкву панёс пад гукi
незямнога спеву.

Так было, i гэтак стала,
з тых часоў далёкiх
У царкве яна стаяла
ў алтары пры боку.

Верыў цвёрда люд наўкольны
цудадзейнай сiле,
Каб бяду цi грэх адолець
моцы тут прасiлi.

Быў Хрыстос iх чуць дабрэйшы,
чым за светам недзе,
Быў Хрыстос тут свой, тутэйшы,
кожны гэта ведаў.

Можа грэх казаць такое,
толькi ж людзi – людзi
Так было парой старою,
так i далей будзе.

Як прасiлi ласкi Божай,
так не перасталi
А цi варты ты, цi гожы,
моцна не зважалi.

Да фiгуркi з найпiльнейшай
просьбай прыступалi,
Бо Хрыстос быў свой, тутэйшы,
ён паможа, зналi.

**Бацюшка Мiкола**

*Слаба, слаба Ясю*
*бiўся з маскалямi,*
*Бо ўжо ж валадараць*
*ды яны пад намi,*
*Бо ўжо ж нашы нiвы*
*ды пазабiраны,*
*Бо ўжо ж нашы конi*
*ды пазаязджаны,*
*Бо ўжо ж наша воля*
*ды пазацугляна,*
*Бо ўжо ж наша мова*
*ды падратавана,*
*Бо ўжо ж нашы хлопцы*
*ды Маскву будуюць,*
*Бо ўжо ж нашы дзеўкi*
*маскалят гадуюць.*

Адгрымела другое паўстанне,
Не вярнулi спрадвечную волю,

Шляхта дзеліць капцы і кайданы,
А мужык дзеліць рабскую долю.

Засталася адна яшчэ вера,
Што змагала і беды, і жаль,
Ды захопнік не ведае меры,
І да веры дабраўся маскаль.

Уніяцкія цэрквы, капліцы
Пад маскоўскую руку бяруць
І маскоўскім папам - чужаніцам
Нашы храмы і люд аддаюць.

Як чынілася такое
ды паўсюль наўкола,
Быў у сейлавіцкай цэркве
бацюшка Мікола.

Богу ён служыў і людзям
праз гады даўгія
Не баяўся земскіх суддзяў
у часы ліхія.

Як паклікалі Міколу
ў Вільню да Сямашкі
І сказалі, што ўжо болей
уніі нямашка,
Што ў маскоўскім праваслаўі
будзе люд тутэйшы,
Будзе шлях яго яскравы,
будзе лёс лягчэйшы.

Ды адказваў ім Мікола,
бацюшка вясковы:
- *Чуў ад вашых я і болей*
*ласкавыя словы,*
*Толькі лёгкай не пральсціўся б*
*Вашай я дарогай,*
*Ў якой веры я хрысціўся,*
*З той пайду да Бога.*

З-пад Магільна пыл, грукота,
войска наступае,
Прэцца конніца, пяхота
па дрымотным краі.

Войска сілай мо капа,
ды надзвычай злое,
Везла сейлаўцам папа
ды з Масквы самое.

Едзе бацюшка Мікола
ў кайданы закутым,
Сталі людзі грозным колам
у адчаі лютым.

Бараніць рашылі цэркву
ад чужой чужыны,
А салдаты ўжо да бою
ўзялі карабіны.

- *Што за бунт?* – ідзе наперад
малады паручнік, -
*Паважаць мы нашу веру*
*тут усіх навучым,*

*Будзе ў шчырым праваслаўі*
*жыць народ тутэйшы,*
*Будзе шчыра Бога славіць*
*моваю найлепшай.*

Войт Пятровіч цяжкім крокам
выйшаў перад людам:
- *Ці не вылезе вам бокам*
*гэтая аблуда,*
*Тут няма законаў вашых*
*і павек не будзе,*
*Ты нас зброяй не настрашыш,*
*не баяцца людзі.*
*Бунт дык бунт, не першым разам*
*нам тут бунтаваці*
*Зноў касцямі ўсе паляжам*
*за Радзіму-маці.*
*Наша цэрква, наша вера,*
*і Хрыстос тут свой.*
*Хто парушыць першым меру*
*і пачне тут бой?*

Ды падняўся тут на возе
бацюшка Мікола,
Ледзь трымаецца ў знямозе,
глянуў навакола.

Рукі выцяг у кайданах
да самога неба:
- *Не патрэбна смерцяў, ранаў*
*і вайны не трэба.*
*Я стары пайду да Бога,*
*а вам трэба жыці,*
*З гэтай сілаю нічога*
*нам не парабіці.*
*Іхня ўлада, іхня сіла,*
*ну а наша што ж?*
*Наша ж тут зямелька міла,*
*і наш тут Хрыстос.*
*Хай тут будзе што ўжо будзе*
*год і два, да ста,*
*А вы верце, верце, людзі,*
*веруйце ў Хрыста.*
*Я малю вас саступіці*
*і не ліць тут кроў,*
*Буду я за вас маліцца*
*між чужых муроў.*
*Апусціце карабіны,* -
мовіў ён вайсковым,
*Мы той вэрхал беспрычынны,*
*зменім Божым словам.*

І народ спыніўся глуха,
бабы не галосяць,
А салдаты ж ужо з цэрквы
іхня ўсё выносяць.

Лаўкі вынеслі, званочкі,
абразы выносяць.
І маўчаць людскія вочы
і аднога просяць:

- *Як вам моцна не патрэбна*
*тут пасеяць буру,*
*Не чапайце, не чапайце*
*вы Хрыста фігуру.*

Поп маскоўскі глянуў крыва
на фігурку тую
І пачуў, якое дзіва,
моц з яе святую.

І сама рука ўзнялася
ў крыжавым знаменні,
І поп раптам апусціўся
тут жа на калені.

І стаіць паручнік моўчкі,
і стаяць салдаты,
І чакаюць усе нейкай,
нейкае расплаты.

І з каленяў поп падняўся
і сказаў: *"Хай будзе,*
*Каб тут вэрхал не пачаўся,*
*каб сцярпелі людзі".*

Так фігурка засталася
ў цэркве той стаяці,
Сілай Боскаю, святою вёску ахіляці.

Пазабылася паціху,
як той дзень хістаўся,
Збегла шчасце, збегла ліха,
а Хрыстос застаўся.

Памяць уніі далёкай,
памяць нашай веры,
Памяць тых часоў нялёгкіх
і чужой халеры.

І так восемсят гадочкаў
адцяклі вадою,
Покуль новыя нягоды
не прыйшлі з вайною...

**Капліца**

Груша мірна стаяла пад сонцам,
Грушкі спелі паціху ўвысі,
Ветрык вольны
ў нябёсах бясконцых
Лёгка ветразі-хмаркі насіў.

Не было аніякай прычыны,
Каб парушыць адвечны спакой,
Каб бясконцай бяды і кручыны
Разгарнуць незатканы сувой.

У сувоі тым розныя ніткі,
Бег па іх калісь долі чаўнык,
Ды не суджана сталася выткаць,
Абарваў перапуджаны крык.

Закрычаў сам, здаецца, свет белы,
Сонца згасла між гора цямна,
Крык сыходзіў ад душ анямелых -
Пачалася ізноўку вайна.

Забіралі ўсіх сейлаўцаў гвалтам,
Хто хацеў - не хацеў, а ішоў.
Стала многа ў Расіі салдатаў,
Стала мала ў хацінах бацькоў.

Недзе там у далёкіх краінах
Смерць чакала з іржавай касой,
І касіла хлапцоў і мужчынаў,
Траціў ніткі той даўні сувой.

Фронт надходзіў
жалезнай пачварай,
Богу дзякуй, крыху не дастаў,
То гусцелі, то рэдзелі хмары,
Недзе там ля Баранавіч стаў.

Ну а потым пайшло, паняслося -
Дом Раманавых рухнуў у пыл,
Сонца волі нібыта ўзнялося,
Ды ўсё выйшла на даўні капыл.

Не паспелі той волі пабачыць,
А пабачылі шаблю, бізун
Бальшавіцкай навалы лайдачай,
І тэрор, і наезд, і хапун.

Ну а потым на змену палякі
З панскай пыхай нязводнай ішлі,
І не меней даваліся ў знакі,
І таксама не волю няслі.

Зноў чырвоныя...
Побач пад Слуцкам
Хлопцы нашы паўсталі за край
Невядомай зямлі беларускай,
Ім краіну сваю падавай.

Не далі, а пабілі, пасеклі,
Разагналі па кулі зямной,
Знемагліся і ўрэшце аселі,
Нашу землю рассекшы мяжой.

Па жывому наш край падзялілі,
І за Бучнымі сталі слупы,
І ўжо болей за Куль не хадзілі,
І ў саветах застаўся Капыль.

А ў нас Польшча ўваскрэслая стала
З-пад няволі праз сотню гадоў,
Толькі мала яна спагадала
Бедам нашых збяднелых радоў.

Пастарунак зрабілі ў засценку,
Жондзіць стаў
у нас польскі жаўнер,
Да парадку па кроку маленькім
Пачалі мы даходзіць цяпер.

Быў парадак той просты і ясны:
Стой, маўчы перад панам, як пень,
Пасміхайся начальству прыязна,
То, глядзі, і пражыў добра дзень.

А як не...
Вось Вінцэсь раз на Трэцяе мая
Быў паехаў на поле араць,
Дык улан тут вярхом налятае,
І без словаў нагайкай хвастаць.

- Як жывеш, хам,
у польскай дзяржаве,
То і польскую песню спявай,
Па закону ж усё тут, па праву,
Ды нагайку ты не забывай.

Хоць не так ужо моцна маўчалі...
Раз Савіцкі з размаху ўсяго
Пану быў аплявуху ўсандаліў.
Наляцелі, схапілі яго.

Атрымаў аж паўгода вязніцы
І паўгода аб тым шкадаваў,
Што на болей не змог

прылаўчыцца,
Што адзін толькі раз пану даў.

* * *

Вось пры гэтай народнай свабодзе,
Пры бязмежнай свабодзе маўчаць
Капітан да папа раз прыходзіць,
Каб жаўнераў сваіх спавядаць.

- Трэба ключ ад царквы і не болей,
Ксёндз з Нясвіжа прыедзе ўсяго...
Ключ узяў, толькі болей ніколі
Ўжо назад ён не верне яго.

Не адразу, але не чакалі
Нейкіх вельмі законаў якіх,
Цэрквы шмат дзе палякі займалі
І рабілі касцёламі іх.

Як у нас, то нібы і без здзеку,
То нібы і па-праўдзе ж усё,
Пакідалі ж у Кунасе цэркву,
А для Сейлавіч будзе касцёл.

Хто ж не верыць у праўду такую,
Хай Вінцэся спытае таго,
Ці нагайкі хай сам пакаштуе,
Глядзь, і яснасць прыйшла да яго.

Што ж касцёл...
Вось аднойчы на ранку
Падагналі пад дзверы вазы,
Каб на гэтых вясковых фурманках
Везці ў Кунасу стуль абразы.

І былі шчэ жывыя старыя,
Помніў хто як за восемсят год
Да таго тут стаялі ўсе тыя,
Хто тады называўся народ.

Як тады абразы выкідалі,
Дык цяпер шмат культурней было,
Дык цяпер акуратненька клалі...
Ці ж няведама? Панства прыйшло.

Кнігі, метрыкі, крыж і кадзіла,
І паперачкі ўсе да ліста,
Ну а зверху на воз палажылі
І святую фігурку Хрыста.

Паскрыпелі вазы па дарозе,
Недалёка да Кунасы той,
Заставалася вёска ў трывозе
Са сваёй апусцелай царквой.

А назаўтра ўздоўж Сейлавіч громам
Послух з хаты да хаты ляціць,
Што Хрыстос наш вярнуўся дадому
І што зноў на бярозе стаіць.

І пабеглі засценак і вёска,
Каб на гэтае цуда глядзець,
І лятуць, і лятуць пагалоскі,
Справа зноў не да бунту тут ледзь.

Прыляцелі і ўланы імкліва,
І нагайкі гатовыя ў ход,
Ды сягоння рашучы на дзіва
І зусім тут без страху народ.

Капітан, разабраўшыся ў рэчах,
Даў загад везці ксендза сюды.
Люд згадзіўся, ніхто не пярэчыў,
І ніхто не баяўся бяды.

Ксёндз з Нясвіжа прыехаў таксама,
Што ён мае з той справай рабіць?
Як выносілі Езуса з храма,
Ён маўчаў, то і зараз маўчыць.

Паглядае народ у зняменні,
Ну а ксёндз да бярозы ідзе,
І пакорна стае на калені,
І паклон перад дрэвам кладзе.

І ў малітве застыў ксёндз у ціхай,
А за ім паспаліты народ
Моліць Бога пазбыць тое ліха,
Што тут пляжыць усіх дзесяць год.

Моліць Бога, каб год хоць спакою,

Моліць Бога, каб мірна было.
Перад тою фігуркай святою
На каленях замоўкла сяло.

Розных вераў сабраліся людзі,
Розных вераў, а долі адной -
Гора з раніцы кожнага будзіць,
А нядоля кладзе на спакой.

І адна ў іх надзея на Бога
І на тую фігурку Хрыста,
На маленькі праменьчык святога...
Ксёндз з каленяў
ад дрэва прыўстаў.

- Я тут іншага выйсця не бачу, -
Голас ціхі, злагоджаны твар, -
І нішто не магу перайначыць,
Бо Хрыстос сам тут выбраў алтар.

Два разы ён на дзерава тое
Аб'яўляецца людзям служыць,
Дык пакіньма фігурку ў спакоі,
Хай тут Езус і далей сядзіць.

А каб мог ад дажджу затуліцца
Ці ад снегу, яшчэ ад чаго,
Мы збудуем навокал капліцу
І алтарык на славу яго.

Верх бярозы тады спілавалі,
Ад кары абадралі ёй ствол,
І пад крыж там алтар зладавалі,
І капліцу заклалі вакол.

Збудавалі капліцу. Пра тое
Не расказваў ніхто тут без слёз,
Як ля Сейлавіч месца святое
Не пакінуў іх любы Хрыстос.

І пайшоў наш народ пад капліцу,
Як ён быў у адзінстве вялік,
Субіраліся тут памаліцца
Праваслаўны, а з ім каталік.

Хто па-польску прасіў,
хто - па-руску,
Кожны меў сваіх клопатаў стос.
І радзеў за ўвесь край беларускі
З нашых Сейлавіч наскі Хрыстос.

* * *

Сніцца сон капітаншы аднойчы,
Што ўжо холад, зіма і слата,
Што дрыжыць там у сіверы ночы
Без апраткі фігурка Хрыста.

І ўстае, і ідзе да машыны,
Плашчык шые,
Хрыста каб накрыць.
Адабральна шапталі жанчыны,
Што так добра ўдалося зрабіць.

Адчыніўся касцёл, і паволі
Пачалі тут па-іншаму жыць,
Ды ішлі і ў хваробе, і ў болі
Да каплічкі малітву зладжыць.

Часта бачна было, як якая
Бабка поўзае ў снег там ці ў дождж
І ахвярна між дошак піхае
Можа злот, а мо дробненькі грош.

Ці здараліся цуды? Хто знае,
Толькі вера ў фігурку жыла.
І магчыма, што сіла святая
Нам плашчом абарончым была.

Бо ўставалі на ногі паціху,
І ўжо нейк прылаўчаліся жыць,
І багацей ставалі пакрыху,
І маглі што-нішто адлажыць.

І сабраліся з сіламі неяк,
Каб мець ксендза свайго на сяле,
І прыехаў ксёндз Юзаф Даменяк,
Прынялі тут яго, як свае.

І плябань недалёка касцёла
Збудавалі для ксендза сялом,
Ды гісторыі скрыпнула кола,
І ўсё зноў паляцела на злом.

Што ж, адно пакаленне і толькі
Падрасло і ўступіла ў жыццё,
Разляцеўся зноў свет на асколкі
Пад свіст куляў і бомбаў выццё.

Перш саветы прыйшлі і з патоллю
Мелі з нашых людзей збыткаваць,
Бо чамусьці іх з хлебам і з соллю
Тут не выйшаў ніхто сустракаць.

Потым немец явіўся, і зноўку -
Страх, і слёзы, і кроў, і бізун,
Чуць не так настаўляе вінтоўку,
То аблава табе, то хапун.

Пераседзець вайну не магчыма,
Ты не рушай - зачэпіць сама,
Тне пачвара хлапцоў і мужчынаў,
І нікому ратунку няма.

Хто не трапіў на фронт,
тых на працу
Немцы ў рэйх адпраўляюць усіх,
Ды не знаюць яны, што не ўдасца
Ім рабамі зрабіць хлопцаў тых.

Гордай шляхты свабодныя дзеці,
Соль адвечная гэтай зямлі,
Не даліся ў Нямеччыну звезці
І з Баранавіч дружна ўцяклі.

А дадому не пойдзеш, не можна,
Зловяць зноў -
расстраляюць без слоў,
Вырашаў за сябе тады кожны,
Многа хто ў партызаны пайшоў.

І вайна, як вайна пачалася.
Кожны куст, кожны пень,
кожны лоўж
На прышэльца агнём агрызаўся.
Ну а вёсцы было за ўсіх горш.

Кожны дзень тут паліцыя, немцы,
Хто што хоча бярэ, ты маўчы,
Ну а ноччу загрукае ў сенцы,
Паспрабуй жа цяпер закрычы.

Насланнё, што зусім не чакалі,
І няяснага сэнсу дасюль.
Неяк ноччу ксяндзоў пазбіралі,
У Нясвіж, у турму - адусюль.

Ну, і з Сейлавіч ксендза таксама
Павялі - гэткі лёс на вяку,
Расстралялі ўсіх, кінулі ў яму
Недалёка Нясвіжа ў Гайку.

І застаўся касцёл сірацінай,
Пастарунак запхнулі ў плябань,
Свет сухою трымцеў чарацінай
Перацерпець ліхую наслань.

Людзям больш тут не стала дарогі,
Ды таго, хто смялей ці хітрэй,
Непрыкметна скіроўвалі ногі
Да каплічных замкнёных дзвярэй.

Хай Хрыстос за замком, ён пачуе,
Ён не кіне наш край у бядзе.
У плябані паліц'я балюе,
Ды Адась ужо хлопцаў вядзе.

Ноччу вытнуць адчайна і строга,
Пастарунак затхнецца ў агні,
Не адпусцяць нікога жывога,
Божа, жорсткасцю іх не віні,

І, як можаш, даруй. Толькі позна
Целам іх ужо што даравацъ,
Пры дарогах, на могілках розных
Тыя хлопцы даўно ўжо ляжаць.

Адпусці Ты грахі іхнім душам,
Як да тога прыйшоў ужо час,
Шмат законаў з нас
кожны парушыў,
І за гэта спытаецца з нас.

Ды, калі нам прыходзіцца ў рукі
Браць вінтоўку для бітвы за край,
Нашы душы на пеклавы мукі,

Божа, молім Цябе, не аддай.

Што ёсць зло, што - дабро,
нас вучылі,
А як раптам - не той, не таму,
Мы хацелі дабра, а грашылі,
Падаруй, Божа, нам і яму.

* * *

Ксёндз забіты, спалілі плябань,
Ды на месцы касцёл і капліца,
Люд ідзе хоць пад вечар,
хоць зрань,
Хоць пад дзверы, абы памаліцца.

Дацярпелі. Сканала вайна,
Дагарэла апошнім пажарам,
Па-над краем ставала яна
Камунізму прывідная мара.

Гола, бедна, галодна паўсюль,
А з трыбун палымяныя словы:
- Вы сябры пачакайце пакуль,
Хутка свет вы забачыце новы.

А пакуль, егамосць, у пятлю,
Калі ласка, без лішняе мовы,
У калгас аддавайце зямлю,
Аддавайце каня і карову.

І вялі, і вязлі, аддавалі,
Кожны сам сваю долю вяршыў.
Што з нязгоднымі станецца, знalі -
Недалёка зусім Рымашы.

За пусты працадзень працавалі,
Знaлі словы “брыгада”, “звяно”,
Нейкім цудам аднак выжывалі,
А якім, не вядома яно.

У касцёле застаўся старэйшым
Быў Лазоўскі - закрыстыян,
А мо быў ён у званні і меншым,
Мо пры ксендзы
быў толькі фурман.

Ды ўзлажыў на сябе абавязак,
Немудроную службу цягнуў.
Дзе харугвы, дзе крыж, дзе абразак,
Пільнаваць выпадала яму.

Шлюб узяць ці дзяцей пахрысціць,
Людзі пхаліся нейк у Нясвіж,
А памрэ хто - касцёл адчыніць,
Трэба даць і харугвы, і крыж.

Так паціхеньку ўсё і ўтраслося,
І бяды не чакалі ўжо больш,
Спадзяванне аднак не збылося,
Справа зноў павярнула на горш.

**Пустадомкі**

*Як збіралі пустадомкаў*
*з гарадоў і сёлаў,*
*Зачынялі пустадомкі*
*цэрквы і касцёлы.*

Наш край жыве адвеку з Богам,
Багоў тых шмат, а Беларусь адна,
Было, калісьці верылі ў Сварога,
Пасля быў час і вера ў Перуна.

Пасля хрысціліся, ды нейк без ладу,
Хто клаў паклон на захад,
хто на ўсход.
І лезлі ў веру з кіпцюрамі ўлады,
І душу бараніў, як мог народ.

І паўставалі ад бяды і гора,
Падзячныя, ахвярныя,
жалобныя крыжы,
Я памятаю гэта, нібы ўчора,
Было крыжоў на вёсцы без мяжы.

На кожным скрыжаванні іх стаяла,
Дзе тры-чатыры, а дзе пяць.
Нікому гэта тут не замінала,
Ды як магло святое замінаць?

Былі крыжы агорнутыя ўвагай
І сапраўды агорнуты былі,

Бо фартушкамі з верай і павагай
Былі завешаны ад верху да зямлі.

Што быў той фартушок?
Кавалак палатна,
Ды сутнасць тут была такая -
Ён першым быў,
што здольвала сама
Зрабіць рукамі дзеўчынка малая.

І той найпершы выраб юных рук
На крыж ішоў ахвярай Богу,
За тое, што даў схільнасць да навук,
Што адчыняў жыцця дарогу.

Віселі фартушкі дзяўчат усіх радоў,
Што тут жылі спрадвеку-веку,
Віселі фартушкі пяцьсот гадоў,
На колькі памяць
дазваляла чалавеку.

Аднак жа насланнё ліхое
Не спіць не дрэмле, дбае, як уцяць,
Прымае партыя рашэнне злое,
Каб бой рэлігіі чарговы  даць.

З трыбун вяшчалі камуністы,
Сякеры бралі актывісты,
Каб землю тую барбарыствам
Напоўніць, подласцю і свінствам.

* * *

Сякера выцяла аб крыж,
І толькі трэскі паляцелі,
Чаго ж стаіш, чаго ж маўчыш,
Народ мой мілы, як здранцвелы.

Чаго стаіш, чаго маўчыш?
Бо не народ тут, а атава,
Народ да шчэнту тут звялі ж,
У тым то і была ўся справа.

Бо бацькі тут не бачыў сын,
Не чуў яго парады, слова,
Пра дзеда толечкі ўспамін,
Сяды-тады якая мова.

Вайна вынішчвала мужчын
Стагоддзе за стагоддзем люта,
Пад дзёрн магілаў лёг ліцвін,
Радзіўся беларус з пакутаў.

Якім павінен беларус той быць?
Рахманым, добрым, памяркоўным,
Каб катаў-ленінцаў любіць,
І каб было яму ўсяроўна.

Хто рэжа крыж, хто крышыць звон,
Хто паліць цэркву, як паходню,
А ён зямлі не чуе стогн,
Ён на спагаду больш не годны.

Яму забралі з жартаў смех,
Яму забралі з казак цуды,
Далі гарэліцу для ўцех,
Далі гарэліцу для згубы.

А каб не вымер без пары,
Далі магчымасць трохі красці,
Крадзе малы, крадзе стары
І ў крадзяжы тым мае шчасце.

З калгаса ўкрасці - то не грэх,
І добра - без крыжоў сяло,
Бо міма крыжа перці мех
Мо б трохі сорамна было.

А так нясі - маўчыць Ісус,
Не замінае крыжа цень,
Такі настаў твой, Беларусь,
Савецкі, новы, ясны дзень.

* * *

І ў Сейлавічах, хай Бог крые,
Нідзе ні крыжа, а-ні-ні,
З хат пазбівалі крыжыкі малыя,
Пустэча ўсюды, дзе ты ні зірні.

І косцел абвясцілі зачыніць,
І будзе тут цяпер пад збожжа склад,

І не далей, як за чатыры дні
Наступіць тут савецкі лад.

А людзі што? Забралі абразы,
Разнеслі па засценку,
раздалі па хатах,
Прывыклі ўжо за многія разы
Чарговага ўлагоджваць супастата.

Калі ж палезлі да капліцы,
Каб і з яе замок сарваць,
Народ адважыўся ўхітрыцца
І актывістам тым салгаць.

Стаіць пахілая капліца,
Не маляваная ніколі,
Папхнеш і можа паваліцца,
А можа і сваёю воляй.

- Стаяць там венікі і граблі,
Каб ля касцёла прыбіраць, -
Казалі актывістам бабы, -
Нашто вам дзверы тут ламаць?

Ключа няма, замок іржавы,
Яшчэ кавальскае работы,
І моцна кованы, на славу,
Каму збіваць яго ахвота.

Так і застаўся не крануты
Замок, а разам і капліца.
Хрыстос пад тым замком замкнуты,
А люд не хоча адступіцца.

Прыходзяць па нядзелях людзі,
Замок той ржавы адмыкаюць,
І будзе хай яно, як будзе,
Але ружанец адспяваюць.

І так было даволі доўга.
Аж дзіва ўлада сатварыла,
Паправіла ў Нясвіж дарогу
І аўтабус па ёй пусціла.

І лепшымі варункі сталі,
Каб да касцёла дабірацца,
І нейк паціху перасталі
На той ружанец субірацца.

І стала ціха ля капліцы,
Адно бывала дзе пад вечар,
Каму ўдаецца падзівіцца,
Як нейкая старая ўкленчыць,

Паўзе па коле на каленях
І просіць ласкі ад нябёсаў,
Ці ад хваробы пазбаўлення,
Ці аблягчэння каму лёсу.

Не, не сабе, бо ў нашым краі
Сабе не просяць дапамогі,
За блізкіх модлы тут складалі,
А сам жывы, і дзякуй Богу.

І пхне савецкую капейку
Бабуля ў шчыліну капліцы.
Як тут рабілася ад веку,
Так і працягвала рабіцца.

Харугвы, крыж для пахавання
З касцёла ўзятыя былі,
Іх для далейшага хавання
Таксама некаму далі.

Ну, а пасля, як давядзецца
Каму ў засценку паміраць,
То ўсё начынне застаецца
Ў гэтай хаце і чакаць

Наступнай смерці будзе сціпла,
Пакуль на службу прызавуць.
Вярнуўшы з могілак з малітвай
У тую хату занясуць.

Так вандравалі з хаты ў хату
Харугвы з крыжам па сяле,
Няслі сваю цяжкую вахту
І неслі функцыі свае.

А колькі дзе ім пастаяць
Адно, мо, ведаў Бог у небе,
То год даводзіцца чакаць,

А то праз месяц у патрэбе.

Як хто адходзіў на спачынак,
То тут адразу ўспаміналі,
Дзе прыпынілася начынне,
Каго апошняга хавалі.

Ішлі жалобнай эстафетай,
Ніводнай хаты не міналі,
То ў той сям'і, то ў гэтай
Няўмольна родных тут гублялі.

**Гэлька і Адась**

Бяда наш край ніколі не мінала,
Ды кожны раз, як бы пасля зімы
Народа сіла
свежаю травою прарастала,
І з той травою прараслалі мы.

Чуць-чуць ярмо палегчае на фунт,
А ўжо, глядзі,
мы выпрамляем плечы,
І зноў мы ёсць, і зноў мы тут,
І зноў нясём мы гонар чалавечы.

Ды часта, вельмі часта
ў краі тым было,
Калі ў мужчынаў абвісалі рукі,
Жанчыны бралі рэй, і ўсё ішло
Паводле нашых прашчураў навукі.

Жаночых чараў ведаем мы чыны,
Ад іх парушан ні адзін статут,
Але на шмат мацней
за чары аднае жанчыны,
Калі ўстае ў адным парыве
бабскі гурт.

Былі часы, здаралася навала,
Ці мор, ці пошасць, ці вайна ішла,
Гурба жанчын саху ўпрагала
І баразну вяла вакол сяла.

Той баразны непераможнай сілу
Адолець ліха ў векі не магло,
Вадой ліло, агнём паліла,
А нечапаным заставалася сяло.

І ў Сейлавічах сталася такое,
Вайной.
Па Касцяневе партызаны йшлі,
А ў вёсцы паліцаі, як на тое,
Убачылі і абарону занялі.

Вось-вось пачнецца
самы люты бой,
А на аселіцы між імі чарада кароў,
Хто пераможа ў страляніне той,
А што кароў паб'юць, то пагатоў.

І тут жанчыны наляцелі з вёскі,
І, пэўна, жонкі паліцаяў там былі
І той адважны, бой геройскі
Пачаць мужам па-просту не далі.

Пайшлі спакойна
з Касцянева партызаны,
Скубуць каровы на аселіцы траву,
І лечыць самагонкай
камендант не раны,
А хворую ад бабскіх крыкаў галаву.

* * *

Прайшло, сплыло,
як і не раз сплывала,
Шмат што забылася з падзеяў тых,
Жанчына толькі анідзе не забывала
Адказнасць за дзяцей,
за ўнукаў і за ўсіх.

Той год быў цяжкі, як ніколі,
Пасхлі ячмень, авёс і жыта,
Пасхла між лета бульба ў полі,
Трава гарачынёй пабіта.

Ізноў жа, не было ніколі,
Апошні загрымеў набат,
Буслы на Шумскага тапалі

З гнязда павыкідалі буслянят.

Здараліся, што яйкі выкідалі,
І ведаў люд, што будзе год сухі,
Але, каб буслянят, не памяталі
Старыя нават выпадкаў такіх.

Рабіць няма чаго - адно маліцца,
Прасіць, каб дожджык, хоць які,
Ды хіба зможа хто тут даступіцца
Да Бога цераз нашыя грахі.

Збірае Гэлька бабаў зрання
І кажа: “Трэба ставіць крыж!
І каб мужчын тут ані звання,
І каб ні словачка ў Нясвіж!”

Як некалі цягаць саху хадзілі,
Каб вёску ад няшчасця адарацъ,
Так і цяпер, адно што прыхапілі
Пілу сякеру, іншы панарад.

Сабраліся з засценка
Броньці, Ані, Мані,
Данусі, Вэрці, Караліны, Ядзі,
А быў там загадзя
і брус падрыхтаваны,
І з возам конь узяты на брыгадзе.

Зарэзалі і крыж звязалі,
Як некалі вялося, без цвікоў,
Цвіка бо ў крыж ніколі не ўбівалі
У тым краі з прадзедаўскіх вякоў.

Дзе ставіць, ясна.
Хоць тут скрыжаванняў
Было адвеку не адно, не два,
А трэба выверыць усё да звання,
Каб потым не балела галава.

Найбольш падходзіць
выган пад канюшню.
На вуліцы паставіць нельга,
бо знясуць,
За плот, у агародчык
ставіць слушна,
Калі ж дазвол гаспадары дадуць.

Народ наіўны, веруючы ў права,
У плот той верыў,
бы ў дзяржаўную мяжу,
А навакол бяспраўная дзяржава,
Пра камуністаў нават не кажу.

На скрыжаванні тым чатыры хаты,
Адна згаджаецца
крыжу куточак даць,
Капаюць асцярожна, каб і грады
Пры гэтым моцна
ўжо не патаптаць.

За плот у агародчык, у прыватны
Пастаўлен крыж ад сушы абярэг.
На выгляд слаўны
крыж той і выдатны,
І так прывычны
між вясковых стрэх.

Начальства згледзела
ўсё тое пад абед,
Да сельсавета метраў сто было.
Стаіць як абаронца той ад бед
Адзіны крыж на ўсё савецкае сяло.

Бягуць пытаць, хто ставіў і калі,
І хто адважыўся
начальства не спытаць.
І Гэльку першай на аловак узялі
І пагражаюць моцна пакараць.

- Не бойся, Гэлька, -
ёй жанкі сказалі, -
На штраф мы скінемся,
хоць колькі там дадуць,
А што пасадзяць, не перажывалі,
Не верылі ў такое і ўсё тут.

У паніцы нясвіжскае начальства.
Паўстаў той крыж
адзін на ўвесь раён
І збіў з іх раптам
пыху самахвальства,

За крыжам тым ізноў народ відзён.

Забіты, ціхі, памяркоўны,
Пастрэлены і зведзены ў калгас,
А неўміручы і нязломны
І пераўжыць збіраецца ўсіх вас.

Вось што “дурныя бабы” нарабілі,
Кіпіць ад злосці першы сакратар.
Паслаць здымаць,
каб бабы там пабілі,
Па партыі страшэнны будзе ўдар.

Тут трэба ціха, непрыкметна
Зняць ноччу, каб ніхто не чуў,
Каб знік у марыве дасветным
Той крыж, як прывід уваччу.

* * *

А летам ноч кароткая, вядома,
І вёска спіць, знябыўшыся за дзень,
Ды вось у цемені ад дома
Яшчэ цямнейшы выпаўзае цень.

За ім другі, і моўчкі, ані гуку
Ідуць пад крыж і лезуць у гарод,
І ўжо адзін бярэ рыдлёўку ў руку,
Другі ланцуг мяркуе цераз плот.

Ланцуг той звякнуў, і тады ад хаты
Паўстаў і трэці цень,
наперарэз тым шась,
Нявысакі і добра лысаваты
Ступае цвёрда да крыжа Адась.

- Вы што прылезлі, хлопцы,
бульбу красці?
То ж бо не ў час, яшчэ не парасла.
Тады з якой такой напасці
Сюды нячыстая вас сіла прынясла?

Ступіў да крыжа і без стуку,
Без шуму, лаянкі, маўчком
Пераладжыў з рукі на руку
Прывычны, ёмкі, важкі лом.

- Сыдзі, Адась, бо мы, сам знаеш,
Знясом адгэтуль гэты крыж,
А ты, што нам тут замінаеш,
Будзь пэўны, добра пасядзіш

- Я адсяджу, а ты адлежыш,
не знаю толькі дзе,
Ці ў бальніцы, ці ў магіле,
як Бог руку павядзе.

І сведкаў не было ў размовы той,
Мо толькі неба ці сам Бог,
Вялі тут вера і бязвер’е бой,
І хоць ніхто ў той бітве не палёг

Была атрымана тады тут перамога,
На месцы быў назаўтра крыж.
Адасю не было тады нічога,
Навокал Гэлькі панавала ціш.

Быў шэсцьдзесят першы,
здэцца, гэта год,
Ці год туды, ці год сюды.
Забылі людзі, не забыў народ,
І ў памяці не сцерліся сляды.

Згніе той крыж, паставяць новы,
А потым, не дасце салгаць,
На тым жа месцы крыж сталёвы
Адасяў зварыць і паставіць зяць.

Памёр Адась, і хату прадалі,
І там даўно ўжо новы гаспадар,
А крыж нібыта абярэг зямлі
Штоноч глядзіць у бездані Стажар.

Бясконцы свет,
мы толькі парушына,
Наш шлях зямны ў Сусвеце -
толькі міг,
Ды ёсць на тым шляху хвіліна,
Што кожны з нас адказвае за ўсіх.

Стаяў у тую ноч Адась пад крыжам,
А на крыжы распяты быў народ.
І стала ў тую ноч яму
да ўваскрашэння бліжай,
Хаця цярпець было
шчэ трыццаць год.

## Два праслы плота

І час прыйшоў. Як тое куранё,
Што скідвае шкарлупіну яйца,
Скідаў наш край камуны лахманнё,
Вяртаў сваю дзяржаву з небыцця.

Слабенькай, жаўтадзюбаю краінай
Мы выбіраліся,
хто з даляў, а хто бліжай,
Хто выграбаў з глухіх,
гнілых нізінаў,
А сейлаўцы выходзілі ад крыжа.

Яны былі шчэ ў большасці жывыя
І мелі дастаткова яшчэ сілаў,
І запаведзі помнілі святыя
І доўг перад Радзімай мілай.

* * *

Сышліся Ёзік,Стась, два Франкі,
І маладых таксама падышло,
Заляскалі і весніцы, і брамкі,
І варухнулася ізноў сяло.

Што ж Ёзік той
ахрышчаны быў колісь
Тут першым у дваццатыя гады,
І вось гісторыя, зрабіўшы кола,
Яго ізноў паклікала сюды.

Рамонт патрэбны і парадак,
І грошы трэба для ўсяго,
І штурханулі людзі ўладу,
Каб хоць калгас той даў чаго.

І два калгасы добрым чынам
Да справы гэтай падышлі,
Дзе матэр'ялам, дзе машынай
У тым пачатку памаглі.

Калгас "Світанне", калгас "Слава",
Дзе ўся парафія жыве,
Прынялі ўдзел у добрай справе,
Бо ж хлопцы там былі свае.

Булыга з Кендышам - старшыні,
І Толя Ярашэвіч аграном...
Без іх то, можа б, не звяршылі
Той годны, слаўны Божы дом.

Булыга шчодраю рукою
Даў бляхі аж на ўсю страху
Ў той час, калі яшчэ пустое
Жыццё ледзь лепшала крыху.

Ну а Мысліцкі ўсё завершыў,
Мастак вядомы, свой жа зноў,
Што, як Драздовіч наш тутэйшы,
Быў слаўным майстрам дываноў.

Тых дываноў ужо мо болей
Нідзе не знойдзеш, каб шукаў,
А вось алтар у тым касцёле
Нам майстра руку захаваў.

А як народ? Бо знялі здаўна,
Што наш касцёл і цэрквай быў,
І разам з шляхтай праваслаўны
Шырока люд у вёсцы жыў.

Бо як ламалі нас улады,
Ніхто нікога не пытаў.
А як самім прыйсці да ладу,
Як сам народ уладай стаў?

Тут справа можа быць не гладкай,
Тут можна ўзяцца за грудкі,
Дайсці да гвалту, беспарадку,
Як у чучмэкаў там якіх.

Ды наш народ адвеку дружны,
І верай нас не раз'яднаць,

Трываў ён беды разам мужна,
Здалеў і волю ён стрываць.

Дзве грамады рашылі ціха:
Як быў касцёл - касцёлу быць.
І нейкай варажнечы ліха
Здалелі ў вёску не пусціць.

Наадварот, як сталі згодна
Рублі на той рамонт збіраць
То праваслаўныя свабодна
Рашылі ўсе, каб грошы даць.

І дружна ўсё тады рабілі,
І быў народ у тым вялік,
І ў працы нейк усе забылі,
Хто праваслаўны тут, хто каталік.

* * *

Было ўсяго, і гаманілі,
І не маглі дайсці да ладу,
Нарэшце ўсё пастанавілі
Аддаць пад Гэльчыную ўладу.

Ажыў касцёл, святыя словы
Ізноў, як колісь загучалі,
Ды пра фігурку, пра Хрыстову
Нічога ксендзу не казалі.

І ад такой народнай волі,
Хто хочаш мог тут разгубіцца,
Бо ксёндз быў тутака ў касцёле
Ну а Хрыстос быў у капліцы.

Ішлі гады, мужнеў народ,
І з воляй зноў вярнулі веру,
Што ўжо пазбеглі ўсіх нягод,
Камуны выперлі хімеру.

І хоць яшчэ на плошчах сцягі
І крыкі звыклыя: “За волю!”
І вочы поўныя адвагі,
І ў сэрцах поўна яшчэ болю,

Ды край паверыў у свабоду,
Як верыў увесь час у Бога,
Народ ізноўку стаў народам
І не баяўся больш нічога.

Пайшлі ў касцёл сыны і дочкі,
Хто мо не верыў, верыць стаў,
І камуніст былы ў куточку
Паціху пацеры шаптаў.

На Бажантарні ўзялі хвояў,
І на шчыкеты іх пусцілі,
Ды гаспадарскаю рукою
Касцельны двор агарадзілі.

Рабілі хутка, бо спяшалі,
Каб справу тут не прагуляць,
На шулы дубу не шукалі,
Давай хваёвыя стаўляць.

Стаяў той плот гадоў з дзясятак,
І, ясна, шулы пазгнівалі,
Ды паўставаў у нас парадак,
І трохі ўжо і ўлады дбалі.

Каб чалавек наш прыбадрыўся
І знаў, што больш ён - не жывёла,
І сельсавет нейк раздабрыўся
На плот бетонны для касцёла.

Ды, як заўжды, не далічылі,
Ці ўкраў мо хто, а мо пабілі,
Бо вось двух праслаў не хапіла
І трохі меншы двор зрабілі.

І праз такую вось работу,
Хоць сам плот зроблены “на ўра”,
Капліца выйшлася за плотам.
І вось тады прыйшла пара

Згадаць пра нашую фігурку,
Штот сорак год стаяла пад замком,
З часоў,
калі ад злыдняў і прыдуркаў
Яе адстаялі гуртом.

За сорак год, мо ў раз той першы
Тады капліцу адчынілі,
Замок зразалі, бо канешне,
Што ключ за гэты час згубілі.

Ну а ў капліцы ўсё, як трэба -
Хрыстос у плашчыку сядзіць,
Праз сорак год на землю з небам
Бы трохі здзіўлена глядзіць.

Глядзіць на люд - не наглядзіцца,
Ён зноў сустрэўся сёння з імі.
Прыйшлі дзядзькі і маладзіцы,
Якіх ён помніў шчэ малымі.

Глядзіць на тых, якіх ніколі
Раней не знаў у тыя годы,
Ды пазнае аднак паволі,
Якому прыналежаць роду.

Фігурку ўзяўшы, далікатна
Ў касцёл занеслі і з пашанай
Паставілі ў алтар ашчадна
Ў святой удзячнасці адданай.

Эх, край язычаскі, айчынны,
Мы твой парадак не забылі
І для фігуркі першым чынам
Зноў плашчык новенькі пашылі.

Фігурка хай стаіць спакойна,
Ды Гэльцы ўсё не да спакою,
Патрэбна ладна і прыстойна
Паладзіць тут з праблемай тою.

Бо кінуць проста так капліцу,
Што раптам па-за плотам стала,
Ну, безумоўна, не гадзіцца,
І ўжо ніяк не выпадала.

І дакупіла Гэлька плоту,
Назад капліцу ўгарадзіла
І велізарную работу
Там для парадку прарабіла.

Ну што сказаць на ўсё на тое -
Святая зроблена работа...
А ці з адданасці святое,
Ці з-за тых двух праслаў плота?...

**Бажантарня**

Эх, край язычаскі, паганскі,
Цябе нічым не адалелі,
Праз час крывавы, ашуканскі
Твае ўсе звычаі ўцалелі

Старыя могілкі наўскараі,
Здалёк ад Сейлавіч буяюць,
Наколькі памяць дазваляе,
Іх Бажантарняй называюць.

Там выдма ад часоў лядовых
Пяску налезла на балота.
Амаль квадрат да пораў новых
Дайшоў праз часу закалоты.

На выдме той значны магілы
З часоў даўнейшых і да сёння,
І сосны грузныя на схілах
З наўколлем ціхенька гамоняць.

Што сто гадоў назад, што дзвесці,
А што і ў дваццаць першым веку
Вясной ці ўвосень не далезці
Туды праз гразі чалавеку.

Здараецца каму памерці,
Хоць трактар клiч, хоць так нясі,
Хоць ты прасі - няхай пацерпіць,
Пакуль не стане той гразі.

Што ж, Беларусь, якое дзіва,
Што недзе гразь, балота, твань,
З-за той гразі яна мо жыва,
Мо перацерпела наслань

Няшчасцяў розных і бядотаў,
Але ж даводзіцца сказаць,
Што векавечнае балота
Было часамі не стрываць.

Не, людзі, то яны без скаргаў -
Гразь - не агонь, не апячэ,
Але начальства часта прагла
Зрабіць народу, “каб лягчэй”.

Дарогу справіць? Не, бо грошы
Патрэбны тут, а дзе ж узяць,
Але як хочацца харошым,
Не быць, дык хоць бы выглядаць.

Улады польскія спачатку
Сабе той клопат прынялі:
Вазіць нябожчыкаў з Прыдаткаў
На Бажантарню? На кані?..

Там кіламетраў шэсць мо будзе...
Не, трэба нешта тут рабіць,
Ці як паны, то ўжо не людзі?
Рашылі шляхце дагадзіць.

І недалёка ад святыні,
На гэткай ладненькай гары
Аж два гектары аддзялілі
Для новых могілак. - Бяры!

Бяры, то добра, толькі нешта
Выгодзе той не рад народ,
Ніхто не пачынае першы,
І так цалюткія пяць год.

Глядзеў, глядзеў на тое войт:
- Не хочаце дабра - не трэба.
Я сілай вам не буду ў рот
Ні землю тую пхаць, ні хлеба...

У чым жа справа, што такое,
Што там на гэтай Бажантарні,
Ці там святое, ці ліхое,
Што сейлаўцаў туды так цягне?

Народ жа з гэтае нагоды
Не меў уладам што сказаць,
А толькі ўпарта год ад году
Працягваў там сваіх хаваць.

Адгадка наступіла толькі
Праз восемдзесят з лішнім год,
На Бажантарні правялі раскопкі,
І праяснеў падзеяў ход.

Што там - “капцы”, пра тое зналі
З маленства Сейлавічы ўсе,
Але ні з чым іх не вязалі
І забывалі пакрысе.

А варт было змяніць там назву
І на капец сказаць: “Курган”, -
Як тут уздыбіўся адразу
Сівой гісторыі дзірван.

Пад час раскопак, цуд ды годзе,
Сляды славянаў адшукалі,
Што ў адзінаццатым стагоддзі
Сваіх нябожчыкаў хавалі

На гэтай самай Бажантарні,
То бок, за тысячу гадоў,
Ну а магілы хрысціянаў
Ляглі ля прадзедаў-дзядоў

Ужо ў наступныя стагоддзі,
Не адракаючыся іх.
Ніхто тут ліній не выводзіў,
А клалі проста ля сваіх.

І, нават, калі ўсе забылі,
Што значаць гэтыя капцы,
Іх душы продкаў не пусцілі
З той Бажантарні адысці.

Прывезлі князя Радзівіла
Хаваць аж з Англіі ў Нясвіж,
А сейлаўцаў нязнанай сілай
Збірае Бажантарні ціш.

З Баранавіч прывезлі Броньку,
А з Менска Казіка вязуць.
Бяруцца ў рост танклявыя сасонкі
І песню вечнасці пяюці.

І мёртвыя на абароне Краю
Стаяць адной нязломнаю сцяной,

Стаяць і ад жывых чакаюць,
Што тыя споўняць абавязак свой.

Як прыпадзе вам
марывам прыраннім
На Бажантарні глянуць зверх магіл,
Вы ўбачыце ў жалобным ззянні
Гярбоў шляхочых цэлы небасхіл.

Яны, як зоркі, ззяюць -
а не свецяць,
Яны блішчаць, а цеплыні няма,
Так продкі наракаюць дзецям
За кожны дзень пражыты надарма.

Прыдзі сюды, і ціхенька пастой,
Хай пахвальбы цябе пакіне сверб,
Згадай, чым і калі шляхочы свой
Ты ўзвысіў ці зняславіў герб.

Няхай ты слаўны недзе там,
Ля ног тваіх хай свет ляжыць,
Прыдзі сюды, сваім дзядам,
Ты ўсё, як ёсць, так і скажы.

**Канец гісторыі**

Аднак пара нам з Бажантарні
Вярнуцца ў Сейлавічы зноўку,
Бо час яшчэ хоць вельмі ранні,
Ды ўжо рыкае дзесь кароўка,

Ды сонца, бачыш, звыкла зноў
На неба ціхенька ўсплывае,
Ажно з-за самых Бузуноў
Рабочы дзень свой пачынае.

І промень па касцельных шыбах
Слізгне, не можа зачапіцца,
І на крыжы танюткім німбам
Кароткай хвіляй заіскрыцца.

А побач згорбленай старою
Стаіць самотная капліца
І непатрэбнаю, пустою
Гатова, здэцца, паваліцца.

Хоць Гэлька ўсё ўнутры прыбрала,
Не сходзіць стуль самоты цень,
І дзе фігурка перш стаяла,
Стаіць стары прасохлы пень.

Стаіць камель ад той бярозы,
Якая Кацю памятала,
Што нашы радасці і слёзы
Мо тры стагоддзі назірала.

Стаіць камель, што алтаром
Быў сам ужо пад сотню год,
Што вытрымаў эпохаў злом,
Дваццатага стагоддзя ход.

І стала ясна - нельга так,
Каб кінуць, рынуць і пайсці,
Бо наш народ жа не лайдак,
Да ладу зможа сам дайсці.

Капліцу нельга занядбаць,
І той бярозавы камель
Не можам мы вось так аддаць
Уласнай воляю цяпер.

І абнавіўшы ўсё ўнутры,
Зрабіўшы чысціню і лад,
Праз два гады ці, можа, тры
Фігурку ўнеслі зноў назад.

І стала ў Сейлавічах зноў
Так як бывала тут адвек,
І выглядала, што ішоў
Сваёй дарогай чалавек.

І выглядаў ва ўсім спакой,
Не турбаваў праблемны лёс,
Бо быў на месцы родны, свой
Тутэйшы самы, наш Хрыстос.

Стаіць фігурка на камлі,
А той камель ёсць сам народ,
І разам быць ім на зямлі
Мо, сотні, тысячы, мо, год.

* * *

Прыйшоў гісторыі канец,
Няма чаго больш і дадаць...
А з неба месяца шчарбец
Спрабуе людзям нагадаць

Пра марны шлях іх на зямлі
І пра нябесны вечны шлях.
А ўнізе баразны раллі,
А ўнізе жыта на палях.

І ім не кінуць тых палёў,
Пакуль ужо не панясуць,
Ім не пазбыцца мазалёў,
Іх з мазалямі пакладуць.

З капліцы ў вечнасць правядзе
Паглядам сумным іх Ісус,
Ён не пакінуў у бядзе
І не пакіне Беларусь.

Ён будзе далей тут сядзець
Як сэнс жыцця, як цэнтр Сусвету,
А мо каму і прыпадзе
Пра ўсё даведацца, пра гэта...

* * *

Пачнецца лета, пойдуць зноў
Па ўсёй краіне пілігрымы
Да праславёных абразоў,
Да слаўных, велічных святыняў.

І зварухнецца Беларусь
Ад той хады на славу Богу,
Але сюды не прывядуць
Нікога гладкія дарогі.

Тутэйшы ксёндз зрэдзьчас калі
Падыдзе да капліцы з людам,
Кабета ўпаўшы да зямлі,
Папросіць у фігуркі цуду.

І будзе цішыня, як лёс
На белых крылах тут лунаць,
І ласку Божую Хрыстос
Адсюль нам будзе пасылаць...

* * *

Няхай жа будзе гэты сказ
Маёй уласнай пілігрымкай
Да той фігуркі, да ўсіх вас,
І да ўсяе зямлі радзімай.

Я доўгую прайшоў дарогу,
І вось з душы бы скінуў камень,
Закончыў верш, і дзякуй Богу
Тут на зямлі і ў небе...
*Аман.*

*Закончана 31.03.2017 г.*



# Станіслава Вятр-Партыка

*Станіслава Вятр-Партыка нарадзілася 27 траўня 1930 года ў Нясвіжы. У гады Вялікай Айчыннай вайны знаходзілася ў ссылцы ў Казахстане. Праз шэсць гадоў пераехала жыць у Польшчу, у горад Тарноў. У пяцідзесятыя гады пасля заканчэння сярэдняй школы вучылася ў педагагічных інстытутах Кракава і Варшавы. Трыццаць гадоў працавала выкладчыкам рускай мовы і літаратуры ў сярэдніх школах горада Тарнова.*

*Пісаць вершы пачала рана. У Польшчы яе вершы спачатку друкаваліся у гарадскіх газетах, а пазней - у выданнях ваяводства і рэспубліканскіх СМІ.*

*Многія творы Станіславы Вятр-Партыкі прысвечаны саёй малой радзіме, любові да роднага Нясвіжа, некаторыя ўспаміны, звязаныя з Казахстанам.*

*Усё сваё пасляваеннае жыццё Станіслава Вятр-Партыка звязала з старажытным горадам Тарновам: займалася грамадскай дзейнасцю, вяла асветніцкую работу на радыё, арганізоўвала паездкі ў Беларусь, шматразова наведвала родны горад. Дзякуючы яе творчасці Нясвіж стаў прыцягальным для тарноўцаў і ўладаў горада. Менавіта таму ўлады Тарнова ў 2009 годзе выступілі з ініцыятывай падпісання дамовы аб супрацоўніцтве паміж Тарноўскім раёнам і горадам Нясвіжам. У гэтым жа годзе дамова была падпісана.*

*За сваю дзейнасць Станіслава Вятр-Партыка была ўганаравана шматлікімі дыпломамі, прэміямі і дзяржаўнымі ўзнагародамі Польшчы.*

**Малітва**

Я павінна вярнуцца, мой Бог літасцівы,
Мне патрэбна, о Божа пранесці свой крыж!
Там пакінутых спраў вельмі шмат, як на дзіва -
Ты, дазволь у каханы вярнуцца Нясвіж.

Мне адсюль праз Мялец, Белавежу і Пільзна,
Дзесь блакітную пацерку, каб адшукаць.
Каля Слуцкае Брамы шчасліваю трызнай
Будзе Ёська галодны рагалік чакаць.

Мне да пана Ананькі патрэбна забегчы
І да пані Крашэўскай часопіс аднесці.
У гамак пад каштанам на хвілю прылегчы
І аб мілай старонцы размову павесці.
Добры Божа, хацела б з'явіцца туды я,
Каб сабраць фотаздымкі ўроскід на доле,
Там пакінула скрыні ў камодзе пустыя
І самотных жукоў без надзеі на волю.

Паглядзець, "Жабка Эрдаль" як танчыць уранні,
Сцежкай, Ванду наведаць хаця б на хвілінку -
Неабходна ў Нясвіж… кветнічку на верандзе
Хоць прылашчыць лісточкі, галінкі, сцяблінкі.
Можа скача на конях, а можа йдзе пешшу
Князь таксама ў Нясвіж, на свой замак зірнуць.
А я, можа, застану штандары на вежы -
Гэтак час у мінулае крыху вярнуць?

Кажушок закапанскі амаль яшчэ новы
Назаўсёды застаўся нясвіжскаю казкай,
Не сагрэе мяне ўжо зімою пуховай -
Ціш малітвы лагодзіць мой сум шчодрай ласкай.
Добры Божа, ў Нясвіж мне дазволь на хвіліну -
Там пярсцёнак з бурштынам, гадзіннік і ... сон
Век стаіць прад вачыма жывая карціна,
Толькі сэрца з Нясвіжам пяе ва ўнісон.

*Пераклад Наталлі Бордак.*

29.10.07.

**Родная зямля**

Хай далёка, хай межы і лес,
Ды за імі чароўны ёсць горад.
Там русалка і бронзавы “pies”…
Успамінаў дзяцінства там мора!

Там над возерам з ранку да ранку
Брама Слуцкая замак пільнуе…
Нібы зноў тут ёсць пане Каханку,
І Нясвіжскае княства пануе…

Я ўжо тут,
я прыйшла пакланіцца
І ні помніць ніякага зла,
Да радзімых магіл прыхіліцца,
Я к табе па пяшчоту прыйшла.

… Як раней,
стаяць хаты на горках,
Як раней, тут радкамі каштаны,
Як раней,
скрыпяць дзверы ў каморках,
Як раней, не падмазаны брамы.

І на шыбах,
замерзлых пад ранне,
Узнікаюць той памяці знакі.
А на кухні падскоквае чайнік…
О, Нясвіж!
Ты ёсць наша Ітака!!!
*Пераклад Уладзіміра Жылко.*

## Песня

Малы гарадок на ўсходзе.
Белы мой дом сярод дрэў,
Голас трубы над вадою,
Чуцен вайскоўцаў тут спеў.

Белы мой дом пад каштанам,
Шыбаў крыштальны там бляск.
Раптам узнік твар заплаканы,
Дзесь мільгануў, потым згас…

Вернецца рэха ўспамінаў:
Пахне мацейка, як лёс.
Чуеш ты подых Радзімы,
Вочы блішчаць мне ад слёз.

Чуюцца крокі на сцежцы,
Скрып старой брамы, наш сад,
Гукі сціскаюць сэрца,
Першыя губы, іх смак…

Недзе і рэха тых крокаў,
Пахне мацейка, як лёс,
Першы той ранак у змроку,
Хустачка мокрая з слёз…

Малы гарадок на ўсходзе
Белы мой дом сярод дрэў,
Усё там прайшло
і не пройдзе…
Уланаў не чуцен больш спеў.

У казармах няма болей войска,
Шуміць ім Катынскі лес.
І лёс нашай белай бярозкі
Нясвіжскі не ўспомніць бэз.
*Пераклад Уладзіміра Жылко.*

## Гэта дзіўна

Гэта дзіўна,
Гэта пачынае непакоіць,
Ты чуеш усё:
Як матылёк уначы лятае,
Як мур гаворыць басам рэха,
Як шэпчуць нам мінулыя гады.
Часам ты чуеш нават гукі руху
Вялікай Мядзведзіцы.
Ты той, хто ў цішы
Адрознівае скаргі цякучай ракі
Ад плачу кропель,
Заціснутых у сталакціце.
Ты той, хто чуе,
Як расце трава,
Як буяе жыццё,
Як надыходзіць смерць…
Толькі, ведаеш…
Зусім не чуеш,
Як б'ецца маё сэрца.
*Пераклад Уладзіміра Жылко.*

**Пытанні**

А дзе тая зорка?
Дзе яна ёсць?
А дзе тая сцежка?
Яе дзе пачатак?
А дзе ёсць той ключ,
Пад чыім дыванком?

Як жа жыць без зоркі,
без сцежак,
без ключа,
без цябе.
*Пераклад Уладзіміра Жылко.*

**Пытанні**
(зрыфмаваныя)

Дзе тая зорка,
Што ў небе мне свеціць?
Дзе тая сцежка,
К табе што вядзе?

Як гэта можна?
Без зоркі, без сцежкі,
Ключ дзе, што злучыць?..
…Як жыць без цябе?!!
*Пераклад Уладзіміра Жылко.*

**Мне цябе дала твая матуля**

Узрасціла цябе, калыхала,
Ад зімовых завей засланяла.
Перанесла ўсе цяжкасці, хібы,
Пацеркі шчасця нанізвала нібы.
Узрасціла цябе, калыхала,
Пажагнаўшы ў жыццё
адпраўляла.
Берагла, як магла, хоць і здалю,
Але шчасця мінулі нас хвалі.

Зараз, Яська,
хоць ты ўжо на небе,
Усяроўна ў жыцці ёй патрэбен.

Узрасціла цябе, калыхала,
А мне зорка цябе даравала.
І ўзяла я, як іскру ў далоні,
Свет жыцця майго,
Боскі ты промень.
*Пераклад Уладзіміра Жылко.*

**Некалі мела тваю ўсмешку**

Некалі мела тваю ўсмешку,
Твае пагляды, твае вечары.
Кожны твой жэст,
Кожнае натхненне,
Кожную тваю думку.
Мела некалі ў тваёй далоні
Сваю далонь.
І было мне гэтага замала.
Хай бы было досыць.
А зараз?
Зараз мне аб табе
Засталіся толькі ўспаміны.
Ці можа хто-небудзь сказаць,
Што гэтага мала?
*Пераклад Уладзіміра Жылко.*



# Вікторыя Жукевіч-Дзівота

### Заміж біяграфіі

*Я не нарадзілася ў Нясвіжы. Не жыла ў Нясвіжы.*

*А менавіта там павінна была нарадзіцца і гэта зямля магла быць краем майго дзяцінства. Тая зямля была як з байкі, пра якую я пачула з успамінаў маёй маці.*

"...Акружаная морам зелені, шматлікімі лугамі! Якіх там не было кветак! З прыходам вясны, квітнелі сады, а кожная хата была акружана садам. Пахла ўсё. Спевам птушак, шумам збожжа і ветру прасякнуты задуменны спеў жанчын. Так было. Гэта ніколі не забуду. Гэта быў цудоўны свет..."

*Так пісала мая маці ў дзённіку-рукапісе, які знаходзіцца ў Шчэціне.*

*Бацька быў высокі, прыгожы, смуглявы. Валасы зачэсаны ўверх, чорныя. Любіў прыгожа апрануцца. Хадзіў неяк спружыніста. Падабаўся жанчынам, а я была вельмі шчаслівая, калі хто-небудзь казаў мне, што я вельмі падобная на тату.*

*Мой бацька, Рыгор Жукевіч, нарадзіўся 3 сакавіка 1914 года ў Нясвіжы. Заўчасна страціў бацькоў, выхоўвала яго старэйшая сястра Эльжбета, жонка вайсковага асадніка Бенедыкта Семянкевіча, інваліда вайны з бальшавікамі.*

*Бацька скончыў школу ўнтар-афіцэраў ў Пружанах і служыў у якасці ўнтар-афіцэра ў 11-м палку лёгкай артылерыі ў Баранавічах.*

*На пачатку верасня 1939 года ваяваў пад Модлінам, брыгада пераехала ў Варшаву.*

*Тата прымаў удзел у абароне Варшавы, у чыне сяржанта артылерыі, пазіцыя яго аддзялення размяшчалася па вуліцы Ліпавай.*

*Пасля капітуляцыі Варшавы быў адпраўлены немцамі ў лагер у Горы Кальварыі. Быў перададзены - у сувязі з тым, што быў родам з Беларусі - савецкім уладам, пасаджаны ў вагон для жывёлы, поўны салдатаў, які вёз польскіх ваеннапалонных на ўсход.*

*На станцыі Пагарэльцы (Наваградскае ваяводства)*

*смела ўцёк з цягніка, пакінуў транспарт і вярнууся дадому.*

*Гэта быў пачатак лютага 1940 года. Адмарозіў руку, якую доўга лячыў. Некаторы час хаваўся ад савецкіх уладаў - на шчасце, тэрыторыя дазваляла схавацца - хутары знаходзіліся недалёка ад лесу, затокі. Непадалёку жыла і вялікая радня. Адмарожаную руку бацька лячыў у Клецку ў доктара Крашэўскага. І сёння тата адчувае ў далоні боль - вялікі і ўказальны пальцы не маюць апошняй фалангі.*

*У чэрвені 1940 года ён ажаніўся з маёй мамай, Анастасіяй Чарнабай, жылі за 6 кіламетраў ад Нясвіжа ў вёсачцы Лань на хутары, размешчаным у маляўнічым куточку на горцы каля лесу, з якой была відаць уся ваколіца. Такое выгоднае размяшчэнне адыграла важную ролю ў далейшым лёсе майго таты.*

*Ад радні па бабцы Паўліне, у дзявоцтве Фалітар, адышло каля 20 г. зямлі, вялікі кавалак лесу і лугу ў маёнтку Ляхі.*

*Баба Паўліна, як расказвала маміна цётка, Ганна Пякарская, была прыгожай жанчынай, і ў першую чаргу ўмела "лячыць"... можа ад яе ў спадчыну я атрымала сваё прызванне - стала доктарам.*

*Дзед Жукевіч памёр падчас эпідэміі чумы, а бабка Паўліна - у выніку дарожна-транспартнага здарэння: уз'юшаныя коні, якія цягнулі брычку, імі кіравала бабка сама, панеслі. Сёстры бацькі казалі, што ён быў вельмі падобны на маці.*

*Тата быў моцным, спартыўнага складу, прыгожым і высокім чалавекам. Выдатна ездзіў конна. Калі падчас маіх школьных канікул ездзілі да цёткі Аляксандры, заскокваў, амаль як Кміціч, на каня і галопам скакаў па палях і лугах. Нават у сталым узросце не аб'ходзіў ніякіх ні равоў, ні платоў - проста іх пераскокваў.*

*У цёплую чэрвеньскую ноч 1941 года савецкія салдаты арыштавалі бацьку. На падворку здзекаваліся з бацькі і знялі з ног афцэрскія боты. Вывелі з дому, але пра "афіцэркі" не забылі!*

*Мама, цяжарная мной на сёмым месяцы, засталася адна ў перавёрнутай хаце, сярод парваных вайсковых дакументаў, фатазымкаў, сувеніраў, дыпломаў бацькі, якія савецкія салдаты выкінулі на падворак і падпалілі гэтыя ненавісныя польскія знакі...*

*... Я нарадзілася ў 1941 годзе ў Краснаярскім краі ў Канску. У 1946 годзе мы з бацькамі пераехалі ў Польшчу і пасяліліся ў Коле. Тут скончыла агульнаадукацыйны ліцэй і ў 1959 годзе паступіла ў Медыцынскую акадэмію ў Познані. Дыплом урача атрымала 15 красавіка 1965 года. Пасля двухгадовай адпрацоўкі ў Калабжэгу, атрымала накіраванне аспірантам у Поль-*

*скую медыцынскую акадэмію ў Шчэціне. У гэты час уступіла ў шлюб з Томашам Дзівотам, капітанам, з якім да гэтага часу шчасліва наладжваецца наша сумеснае жыццё. У 1971 годзе ў нас нарадзіўся сын. Атрымала дзве медыцынскія спецыяльнасці: гінеколага-цытолага і фізіятэрапеўта-валеолага. Шмат год узначальвала аздараўляльны генікалагічны шпіталь, займалася ў асноўным лячэннем бясплоддзя.*

*Апошнія 44 гады з мужам жывём ў Свінавуйсці, абодва на пенсіі. Наш адзіны сын Гжэгаш быў галоўным лаўрэатам XXV Міжнароднага паэтычнага конкурсу імя Яна Спевака, але скарапасціжна памёр у 30 гадоў.*

*Маёй вялікай любоўю з'яўляецца Нясвіжская зямля, яе людзі, гісторыя і сучаснасць. Ёй прысвячаю зараз сваё жыццё. З'яўляюся сябрам Таварыства несвіжан, якое ўсталявала памятную табліцу ў касцёле ў Коле.*

***Падрыхтавала***
***Зоя Сілкова.***

## Старая брамка

Зачыненая шчыльна ўздоўж на клямку,
Блакітным колерам, нязвыкла, не пазнаць -
Пафарбаваная, стаіць ля студні брамка,
Плот загадаў сюды нікога не пускаць.
Ніхто не ходзіць праз яе, ніхто не крочыць,
Ні ўдзень, ні ўвечары, а толькі ў дзіўных снах…
Старая зашчапка "крыжом" ахоўным сочыць
І сцеражэ ў садочку родны пах.
Яна адкрытая, шырокаю душою
Ў хату запрашала завітаць,
Дзе свежы хлеб, сурвэткаю льняною
Ўсіх падарожных была рада сустракаць.
І глечык малака для стомленых дарогай
Заўжды бадзёрыў і галодных наталяў …
А дзе цяпер мой дом і агароджа -
За што іх лёс сурова пакараў?
Гляджу ў мінулае на квецень сліў і вішань
Праз вольную адтуліну сука,
На росквіт той раздольны, шчодры, пышны,
Што з брамкай звязаны праз звенні ланцуга.
*2015 г., ліпень.*
*Пераклад Наталлі Бордак.*

## Сон аб Нясвіжы

Ад колькі год сніцца мне сон.
У ім стары дом між высокіх крон.

Я шукаю ў ім найдарожшых сваіх,
Былі недзе там, і люблю я іх.

Бачу прыгожае поле і квецень белых садоў,
Гэта толькі сон, сон мінулых гадоў.

У ім маладая кабета з букетам руж белых,
Гэта маці мая, мой Анёл - ахоўнік смелы.

А малады мужчына крочыць побач з ёй,
Не проста цень, гэта бацька мой.

Сёння няма тут слядоў тых дзён,
Сёння бляск возера толькі відзён.

Змянілася ўсё, даўніх сцяжын не хапае,
А ў сэрцы жаль, а з вока сляза сцякае.

Свіцязі чары і сонца бляск
Замілоўваюць нас.

Тут ветру шум і птушак спеў,
А ў сэрцы боль і часам гнеў.

Сніцца мне сон ад колькіх гадоў -
Пакінуты дом між прыгожых садоў.

Калісь мо вярнуся, мо прыеду сюды,
І будзе Нясвіж як са сну мне тады.

Бяру сёння жменьку зямелькі той
На магілу пад крыж матулі маёй.

Калісь мо вярнуся, мо прыеду сюды,
І будзе ўсё зноў, як са сну мне тады.
*Ліпень 2005 г., Нясвіж.*
*Пераклад Зоі Сілковай.*

## Айчына

Чым для мяне ёсць Айчына?
Тым усім, што любіла мая маці,
Квітнеючым лугам, пахучым палеткам збожжа,
Блакітным загонам ільну,
Дарогай, што ўецца сярод красовых бяроз,
Кнігай, песняй, якую ўжо не чуваць...

Успамінамі...

Айчына - гэта адкрыты вагон, які едзе з Сібіры,
Чырвоная пісанка, пададзеная некім на вакзале,
Гэта словы малітвы, якой навучыла мама:
... хлеба нашага штодзённага...

Айчына - гэта жаль і туга па тым, што страчана,
Што жыло ва ўспамінах маіх блізкіх....

Гэта рады крыжоў на раскіданых могілках
І знак белага арла ў кароне,
Гэта Ясная Гура, і шрам на цёмным твары Мадонны,
І асалода позірку ў Вострай Браме.

Маю Айчыну ўтвараюць таксама людзі,
Якіх люблю... многіх ужо няма...
І самых найблізжых, і са старонак гісторыі...

Айчына мая сягае ад Нясвіжа да берагоў Балтыкі
І вяртаецца да мяне на хвалях успамінаў...
*2008 г.*
*Пераклад Зоі Сілковай.*

## Калі б пабыць птушкай...

*Для Евы Гадыцкай-Цвірка*

... Палятаць на Нясвіжам,
А потым над Ланню,
Укленчыць у Слуцкай Браме
Перад нясвіжскай Паняй,

Прысесці на студні,
Застукаць у вароты,
Зайграць кійком на збанках,
Што тырчаць над плотам,

Паляцець над “Качаноўскім” лесам,
Над “Ляхамі” бабці Паўліны без аглядкі,
А як гэта нядзеля,
Да Сейлавіч скочыць на аладкі,

А на канец паляцець
Да дамка зялёнага, красовага
На спатканне з панам Анатолем,
Наладзіць невялікае застолле,

Выпіць налівачкі,
Паспытаць фаршмаку
І паслухаць аповесць аб тым фальварку,
Што называўся Юзафінак,
Які Гадыцкія, падобна, у карты праігралі,
А мае Чарнабаі яго неўзабаве прыдбалі,
Паслухаць таксама пра бабцю “царыцу” Антаніну...
Прачнуцца... і ўсё згіне...
*10.09.2012 г.*
*Пераклад Станіслава Судніка.*

**Вясна ў Нясвіжы**

*Бацькам*

Белыя бэзы, што пахнуць моцна,
Белыя кветкі ў лузе пад сонцам,
Белых палотнаў над рэчкай палосы,
Белыя хмары ў белых нябёсах.

Белы голуб над белаю Фарай,
Белай мазуркі цнатлівыя пары,
Белы бусел гучна клякоча,
Белай бярозы голле траскоча,

Белае сонца ззяе ярчэй,
Што тут белае ўспомніць яшчэ...

Белыя гусі, белыя козы,
Белыя домікі, белыя лозы.

Беласнежная грэчка з “Пана Тадэвуша”,
Белымі дзьмухаўцамі атачоная Уша,
Белым маляванае дрэва ліп і каштанаў,
Белыя пукі руж з песенькі ўланаў.

Белая, купчастая каліна,
У белай сукенцы дзяўчына,
Белыя рамонкі да грудзей туліць.
Белы арол і Белая Русь,
Гэта ўсё разам не абагуліць.

У белай кашулі мужчына ноччу вырваны з дому,
У белай скукенцы
Дзяўчына з дзіцем пад сэрцам,
У вагоне для быдла едзе ў Сібірскі край невядомы.
*Нясвіж, 2007 г.*
*Пераклад Станіслава Судніка.*

## *Андрэй Козел*

# Перастварэнне класікі

*Іосіф Бродскі*

**Пісьмо**

Шкада, што цябе не заспеў летні лівень
У цёплую ноч на балтыйскім заліве.
Не бачыла ты чараўніцтва тых ліній.

Прыліў, які так прыемна крануць мне рукамі,
Пясок, дзе найбольш сустракаецца камень.
Пейзаж не мяняецца гэты вякамі.

Шкада, што мы зноўку не сядзем на поезд,
Які праміне часавы гэты пояс,
Па стрэлцы, якую схіляе на полюс.

Што не адлюструе ў купэ вечарынку
Акно, дзе так часта змяняюць карцінку,
І мы не прачнёмся ўранку ў абдымках.

Позна… Ноччу…
Усе кропкі і коскі пазначыў - і нарэшце дакончыў.
Адрас. Пошта.
Не хвалюйся, я не прысвячу табе больш ні радочка.

Ціха. Гукі
Па начах да мяне далятаюць ў пакой не адразу.
Літар рухі.
Я пішу - не чакаю ніколі адказу.

Думкі. Рыфмы.
Гук застаўся, святло, і цяпер - дастаткова.
Лічбы-міфы.
Я званіў, для таго, каб пачуць твой голас.

Коннік стане.
Стане коннік, а ложа ракі ветрам круціць.
Бераг… Грані…
Я люблю, без патрэбы ў вяртанні пачуццяў.

***Іосіф Бродскі***

**Зімовым вечарам у Ялце**

Са мною - леванцінскі твар сухі,
што прыхаваны воспінкамі ў бачкі,
як ён шукае цыгарэту ў пачцы,
на безыменным персцень залаты,
адбіўшы дзвесце ват на самы край,
і мой крышталік выбліск не трывае;
я жмуруся - тады ён прамаўляе,
пры гэтым дым глынуўшы: "Выбачай".

Зімовы Крым. На Чарнаморскі бок
прыходзіць холад як бы для забавы:
не ў стане пратрымацца больш сняжок
на вастрыях ды лёзах у атавы.
Пустуць рэстарацыі. І жах
ад дыму параходаў і іх бруду,
ды прэлых лаўраў добра чутны пах.
"Ці будзеце вы поскудзь гэту?" "Буду".

І так - усмешка, прыцемак, графін.
Буфетчык воддаль, пасціскаўшы рукі,
дае кругі, як малады дэльфін,
вакол хамсой запоўненай фялюгі.
Жоўтафіёлі - спрэс. Акна квадрат.
Сняжынкі, што праносяцца самотна…
Імгненне, прыпыніся! Ты не так
выдатна, колькі станеш незваротным.

*Уладзімір Высоцкі*

**Спявак ля мікрафона**

Даступны ўсім вачам, спалонены святлом,
Звычайную пачаў я працэдуру -
Ля мікрафона стаў, як перад абразом…
Не-не, здаецца, перад амбразурай.

Не даспадобы мікрафону я,
Дый голасу майму даўно не рады!
Як раптам з губ зляціць маіх хлусня -
Узмоцніць тут жа словы ён няпраўды.

Промні б'юць ад рампы мне пад рэбры,
Пражэктары - у твар - нібы так трэба!
А з бакоў - святло ад ліхтара,
Гарачыня!.. Гарачыня!

А шэльма ён, танчэйшы вастрыя -
Слых бездакорны, чуе фальш да ёты.
Яму пляваць, што не ў гуморы я,
Але спяваць павінен шчыра ноты.

Сягоння зноў я моцна так хрыплю,
Змяніць танальнасць ўсё ж не рызыкую.
Калі душой я раптам пакрыўлю -
Ніколі ён не выпраміць крывую.

Промні б'юць ад рампы мне пад рэбры,
Пражэктары - у твар - нібы так трэба!
А з бакоў - святло ад ліхтара,
Гарачыня!.. Гарачыня!

На шыі гнуткай гэты мікрафон -
У галавы - змяінае вярчэнне.
Як толькі змоўкну - тады ўджаліць ён!
Спяваць да смерці трэба мне, да ачмурэння.

Не варушыся, не рухайся, не смей!
Я тваё джала бачу, назіраю!
І я нібыта - заклінальнік змей:
Я не пяю - а кобру заклінаю!

Промні б'юць ад рампы мне пад рэбры,
Пражэктары - у твар - нібы так трэба!
А з бакоў - святло ад ліхтара,
Гарачыня!.. Гарачыня!

Ён ненасытны, быццам птушаня -
І з роту ён выхоплівае гукі.
У лоб залепіць дзевяць грамаў - не раўня.
Рук не падняць - гітара вяжа рукі!

Ізноў не будзе гэтаму канца!
Што ёсць мой мікрафон? Куды ён меціць?
Ля твару ён, як лампада ля вянца,
Я не святы, і мікрафон не свеціць.

Промні б'юць ад рампы мне пад рэбры,
Пражэктары - у твар - нібы так трэба!
А з бакоў - святло ад ліхтара,
Гарачыня!.. Гарачыня!

Прасцей за гамы мелодыі мае,
Ды толькі зб'юся з праўдзівага тону -
Адразу моцна па шчоках маіх б'е
Цень нерухомы зноў ад мікрафона.

Даступны ўсім вачам, спалонены святлом,
Што мне чакаць? Зацішша або буры?
Ля мікрафона стаў, як перад абразом…
Не-не, здаецца, перад амбразурай.

*Роберт Раждзественскі*

**Чалавеку трэба мала…**

Чалавеку трэба мала:
каб шукаў
і каб набыў,
што ў жыцці так не хапала.
Сябра мець,
каб вораг быў.

Чалавеку трэба мала:
каб сцяжынка ўдаль вяла.
Каб жыла на свеце мама.
Колькі трэба ёй -
жыла…

Чалавеку трэба мала:
пасля грому -
цішыню.
Светла-сіні край туману.
Лёс -
адзін
і смерць -
адну.

Ранкам - свежую газету,
і каб людзі ўсе - радня.
Ды ўсяго адну планету:
каб была яна
Зямля!

І -
міжзорную дарогу,
мар пра хуткасць на шляху.
Гэта, думаю, -
нямнога.
Гэта, наагул, - крыху.

Перамогу, можна срэбра.
Невысокі п'едэстал.
Чалавеку
мала
трэба.
Толькі б дома хто чакаў.

*Марына Цвятаева*

**Хто створаны з каменя, хто створаны з гліны…**

Хто створаны з каменя, хто створаны з гліны, -
А я серабруся, міргаю!
Мне справаю - здрада, імя мне - Марына,
Я - тленная пена марская.

Хто створаны з гліны, хто створаны з плоці -
Труна тым, пліта над магілай.
- Хрышчоная ў чашы марской - і ў палёце
Мяне так няспынна разбіла!

Скрозь кожнае сэрца, скрозь сеткі і чары
Праб'юся я хутка свавольна.

Мяне - ці не бачыш гарэзы-кучары? -
Зямною не вынайдзеш соллю.

Здрабнюся на кожным гранітным калене,
Штохваляю я ўваскрасаю.
Няхай жыве пена - вясёлая пена -
Высокая пена марская!

*Марына Цвятаева*

**Я стол накрыў на шасцярых…**

Чытаю які раз радкі
І зноўку выпраўляю словы:
"Я стол накрыю для шасці…"
Ты памыліўся. Ёсць жа сёмы!

Вам вельмі сумна ж ушасцёх.
На тварах - дождж ідзе,
бруіцца…
Як за такім сталом ты мог
На сёмую мяне забыцца…

Тваім нявесела гасцям.
Графін крыштальны -
бесклапотны.
Самотна ім, самотны - сам,
А непазванай - больш самотна.

Так сумна, і ліхтар, бы знік,
Ды некранутая вячэра.
- Як мог забыцца ты на лік?
- Як памыліўся пры лічэнні?

Як мог ты сэнсу не знайсці,
Што тыя шэсць
(браты два, трэцці -
Ты з жонкай сам і шчэ бацькі)
Усё ж - ёсць сем, бо я на свеце!

Ты стол накрыў на шасцярых,
Ды шасцярыма свет не вымер.
Чым пудзілам сярод жывых -
Хачу быць прывідам - з тваімі,

(Сваімі)… Быццам ліхадзей,
Душы ніводнай не крануся! -
На месца вольнае хутчэй
Забытай сёмаю саджуся.

Але кульнула я бакал!
Усё, што прагнула праліцца, -
І соль з вачэй, цячэ кроў з ран -
З абруса плаўна - на масніцы.

Няма расстання і труны!
І дом не спіць, і зніклі чары.
Як на вяселле - цень бяды,
Я - ёсць жыццё далёкай мары.

…Ніхто: не брат, не сын,
не муж,
Не сябар хай - ды папракаю:
- Ты, стол хто ставіў
на шэсць - душ,
Хто на мяне забыўся - з краю.

*Булат Акуджава*

**Давайце прыпыняцца ў гамане**

Давайце прыпыняцца ў гамане,
На нейкі час спыніўшы свае словы.
Так адгукнецца лепш у галаве
Вышэйсказаных намі слоў аснова.
Давайце прыпыняцца ў гамане…

Давайце прыпыняцца і ў хадзе,
Глядзець вакол уважліва і строга.
Каб выпадкова двойчы абы-дзе
Не збочыць да няправільнай дарогі.
Давайце прыпыняцца і ў хадзе…

Давайце мы, нарэшце, памаўчым,
Казаць мы любім гучна свае словы.
І менавіта з-за такіх прычын
Нам не чутно сяброўскае прамовы.
Давайце мы, нарэшце, памаўчым…

Нам стане бачна ў гэтай цішыні,
Што мы адны - нікога больш наўкола.
Мы думалі: імчымся на кані,
А самі проста бегалі па коле.
А думалі: імчымся на кані…

Мы верылі - галоўнаму бываць,
Сябе лічылі кімсьці з тых нямногіх.
І думалі: вось-вось ужо відаць
Шчаслівы паварот тваёй дарогі.
Жыцця зварот, дзе шчасця не адняць…

Вякоў гады імчаць - усё адно
І, без сумнення, хутка ўсе праедуць.
А з намі так нічога й не было,
Ды і наўрад ці здарыцца што-небудзь.
Ды і наўрад ці здарыцца што-небудзь…

давайце прыпыняцца ў гамане,
давайце прыпыняцца і ў хадзе,
давайце мы, нарэшце, памаўчым.

*Ганна Ахматава*

**Тваёй любові не прашу**

Тваёй любові не прашу.
Яна надзейна ўжо схавана…
Павер, што я тваёй каханай
Раўнівых пісем не пішу.

А я б табе прапанавала:
Дай вершаў ёй маіх радкі
І мой партрэт намаляваны -
Бо так ласкавы жаніхі!

Дурніцам гэтым лепшы плён -
Перамагаць, каб без умовы,
Чым з сябрам светлыя размовы
І памяць першых мілых дзён.

Калі ж ад шчасця ўсе грашы
Ты пражывеш
з сваёй сяброўкай,
Для перапоўненай душы
Ўсё стане прыкрым,
тлумным, горкім -

То ўрачыстай ноччу ты
Не падыходзь. Я ўжо не тая.
Дый чым магу дапамагчы?
Ад шчасця я не ацаляю.

*Генадзь Шпалікаў*

**Па няшасці, ці да шчасця**

Па няшчасці, ці да шчасця,
Помні, што прасцей:
Больш ніколі не вяртайся,
Дзе бываў раней.

Нат, калі на папялішчы
Будзе што яшчэ,
Гэта стане толькі лішнім
І табе, і мне.

Жыць мінулым так зацята
Лепш забараніць,
І душу, прашу, як брата,
Больш мне не губіць.

Бо рвану забытым следам -
Свой прыспешу ход -
На валёнках і паеду
Ў сорак пяты год.

Ў сорак пятым адгадаю,
Божа, там жа мы! -
Там і маці маладая,
Бацька мой жывы.



# *Анатоль Бутэвіч*

*Анатоль Іванавіч Бутэвіч (літаратурны псеўданім Максім Валошка), нарадзіўся 15 чэрвеня 1948 года на хутары Язавец Нясвіжскага раёна. У 1956 годзе сям'я перасялілася ў в. Баяры. Вучыўся ў Вяліка-Ліпскай васьмігадовай школе. У 1966 годзе скончыў Сноўскую сярэднюю школу і паступіў на філфак Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Пасля першага курса працаваў летам у Нясвіжскай раённай газеце "Чырвоны сцяг". Пасля заканчэння вучобы ў 1971 годзе працаваў рэдактарам Беларускага тэлеграфнага агенцтва, намеснікам рэдактара газеты "Чырвоная змена", дырэктарам рэспубліканскага выдавецтва "Мастацкая літаратура", у ЦК ЛКСМБ і ЦК КПБ. Старшыня Дзяржаўнага камітэта па друку ў 1990 - 1992 гадах, міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь (1992 - 1994), міністр культуры і друку Рэспублікі Беларусь (1994 - 1996). У 1996 - 1998 - Генеральны консул Рэспублікі Беларусь у Гданьску. У 1998 - 2000 Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Беларусь у Румыніі. Мае дыпламатычны ранг Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Рэспублікі Беларусь.*

*Сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў з 1994 года. Працуе ў сферы дзіцячай літаратуры, гістарычнай тэматыкі, публіцыстыкі, крытыкі, у галіне перакладу. Друкавацца пачаў у 1969 годзе. Аўтар кніг для дзяцей "Прыгоды лісціка-карунчыка" , "Прыгоды памаўзлівай Рыскі", "Як акіян з кропелькай барукаўся", "Прыгоды Віруса Шкодзі", "Расстайны пах асоту". Выйшлі гістарычныя кнігі для дзяцей з серыі "Сем цудаў Беларусі" - "У гасцях у вечнасці", "Званы Нямігі", "За наміткай гісторыі", "Адвечны покліч Радзімы", "Славутыя родам сваім", "Перуновага племені дзеці", "На далонях вечнасці".*

*Асобным выданнем у 2010 годзе выйшаў раман "Каралева*

*не здраджвала каралю, або Каралеўскае шлюбаванне ў Навагародку" пра чацвёрты шлюб караля польскага і найвышэйшага князя літоўскага Ягайлы і Соф'і Гальшанскай. Аўтар кніг "Таямніцы Мірскага замка. Падарожжа па сівых мурах з Адамам Міцкевічам", "Таямніцы Нясвіжскага замка. Падарожжа ўглыб стагоддзяў з Уладзіславам Сыракомлем", "Таямніцы Крэўскага замка. Падарожжа па нашай гісторыі з Вітаўтам Вялікім". У 2014 годзе выйшла кніга апавяданняў "Пацалунак на фоне гор".*

*У 2013 годзе ўбачыла свет кніга, прысвечаная Нясвіжчыне, "Я адной табе належу", дзе змешчаны аповесці "У кожнага свае Баяры", "Апошняе ігрышча" - пра падзеі на Нясвіжчыне ў былой Заходняй Беларусі. Працяг яе "Распасажаны дом" надрукаваны ў часопісе "Полымя" ў 2016 годзе. У 2016 годзе выйшла кніжка-казка "Як Данік у Радзівілаўскае метро трапіў".*

*Ганаровы грамадзянін горада Нясвіжа.*

## НА ПАЧАТКУ БЫЛО СЛОВА. І СЛОВА БЫЛО - Б Е Л А Р У С Ь

***Рэфлексія спасціжэння Радзімы***

**Божа,**
**Адвядзі ад Беларусі**
**Здраду,**
**Вераломства**
**І вайну.**

***Генадзь Бураўкін.***

*На пачатку было Слова, і Слова было ў Бога, і Слова было Богам.*

*Яно было на пачатку ў Бога:*

*усё праз Яго пачалося, і без Яго нішто не пачалося з таго, што пачало быць.*

*У Ім было жыццё, і жыццё было святлом людзей.*

*І святло ў цемры свеціць, і цемра не агарнула яго…*

*Было Святло сапраўднае, Якое прасвятляе кожнага чалавека, што прыходзіць у свет.*

*У свеце было, і свет праз Яго пачаў быць, і свет Яго не пазнаў;*

*прыйшоў да сваіх, і свае Яго не прынялі;*

*а тым, якія прынялі Яго, веруючым у імя Ягонае, даў уладу быць дзецьмі Божымі,*

*якія не ад крыві, ні ад хацення плоці, ні ад хацення мужа, а ад*

*Бога нарадзіліся.*

*І Слова стала плоццю, і ўсялілася ў нас, поўнае мілаты і праўды; і мы бачылі славу Ягоную, славу, як Адзінароднага ад Айца.*

*Ян сведчыць пра Яго і ўсклікаючы кажа: Гэта быў Той, пра Якога я сказаў, што Той, Хто ідзе за мною, апярэдзіў мяне, бо быў раней за мяне...*

***Паводле Яна Святое Дабравесце.***

На пачатку было слова.

І слова было ў Бога.

І слова было - **Б Е Л А Р У С Ь.**

Не, гэта не святатацтва і не блюзнерства. Гэта праўда. Простая і звычайная. Звыклая, святая і адвечная. Як свет, адвечная праўда.

Бо і сапраўды на пачатку ўсяго нашага, беларускага, было слова **Б е л а р у с ь.**

І словам тады была наша **Б е л а р у с ь.** У ім, у слове гэтым, бруіла і пульсавала жыццё. Быў сэнс для жыцця, і было жыццё многіх і многіх людзей і пакаленняў, родаў і асобаў, якія вынікова намагаліся ўвасобіць слова ў справу. І слова тое станавілася жыццядайным промнем, нязгасным знічам у змроку, паклічнай паходняй на шляху з цемрадзі да святла.

І было яно сапраўдным і праўдзівым святлом, якое сваёй усяіснай пранікальнасцю прасвятляе, ажыўляе і перастварае кожнага, хто да яго датыкаецца альбо з ім судакранаецца, хто імкнецца да яго, прагне яго, як здарожаны і знябожаны падарожнік прыпадае да ратавальнай крынічкі, глытком асвяжальнай вады аднаўляе свае сілы - каб далей ужо без святла гэтага не жыць. Каб самому паверыць у стваральную моц слова і захапіць верай іншых, падняць з каленяў, узвысіць да святла і неба сілай ягонай зваблівасці. І, не схіляючы галавы, нястомна ісці на покліч гэтага святла, святлом разганяючы цемру на сваім шляху.

І слова тое станавілася плоццю, увасаблялася, учалавечвалася ў душы людзей. Душа ж людская - несмяротная. Значыць, і слова святое **Б е л а р у с ь** насычалася несмяротнасцю, станавілася паклічным, уздымным і стваральным. Ад веку і давеку. Ад мінулага праз час сённяшні - да будучыні.

Але на самым пачатку пачаткаў слова гэтае апераджала людзей і справы, і памкненні іхнія, бо было раней за іх, раней за плоць і свядомасць іхнюю. І як Дух насіўся над бясплоднай пустыняй, так і слова, набрынялае існасцю, ускрыленае надзеяй, насілася над светам, пакуль не знайшло прыстанішча свайго, пакуль ад Бога не нарадзілася

і не апусцілася на зямлю белакрылай пташкай - і абжыло яе, і духам сваім ажывіла, і адметнасцю сваёю пазначыла.

Калі ж набыло слова жывую плоць - сталася Бацькаўшчынай, Айчынай, калыскай, краем і загонам родным, зямлёю тутэйшай,ператварыла яе ў палетак засеяны, і дагнала тое, што апярэджвала людзей і дзеі іхнія, і пераўвасобіла безыменнасць ягоную ў рэальнасць і дадзенасць з найменнем зразумелым, непаўторным, дарагім і адзіным на ўвесь свет - **Б е л а р у с ь**.

І там, дзе шчырасцю сваёй парупіўся пра справу беларускую і адзін, і другі, і трэці, гурт зычліўцаў і спагаднікаў утварыўся, справа святая паўстала.

*"Ты, мой брат, каго зваць Беларусам,*

*Роднай мовы сваёй не цурайся..."*, - як бы падслухаў нараджэнне новага і захапіўся ім Алесь Гарун.

Праўду, праўду кажу табе - т а к было на пачатку. Як сведчыць Біблія: *"Дух дыхае, дзе хоча, і голас ягоны чуеш, а не ведаеш, адкуль прыходзіць і куды сыходзіць: так бывае з кожным, народжаным ад Духа"*.

Так было і са словам родным **Б е л а р у с ь**.

Калі ж завалодала яно тымі, хто паверыў у яго, хто прыхінаўся як да найпершага жыццёвага апірышча, сталася тады сутнасцю і рэальнасцю іхняй, гісторыяй і днём сённяшнім, надзеяй і будучыняй.

А хто паверыў у яго, той здабыў жыццё вечнае, як вечнасцю надзелена зямля беларуская, дадзеная нам Богам. І дух той, што слова святое разносіў па свеце, увасабляўся ў душы ўсё новых і новых спавядальнікаў, прыхільнікаў і абаронцаў яго.

І пачалі людзі будаваць дом свой - беларускі дом, запаўняць прагал у бязмежнасці космасу. На той зямлі пад валошкавым небам, якую Бог дараваў ім і блаславіў яе. І рос, узвышаўся дамок у калысцы сусвету нароўні з усімі, хто побач і вакол жыў. І прынялі, і зразумелі жыхароў ягоных суграмадзяне сусвету, і падтрымалі, і паспрыялі, каб жыццё ў дамочку было годнае, самабытнае і людскае.

І ўсё новыя прыхільнікі слова таго станавіліся беларусамі, набывалі і засвойвалі адметнасць сваю, мацавалі веру ў яго збаўчую сілу, каб духам сваім і дзеямі захаваць дабрадзейнасць зямлі беларускай, якая гаючымі крыніцамі з-пад сэрца Зямлі жывілася.

Тыя ж, хто прытуляўся да духу святога беларускага і насычаўся ім, шукалі прытулку душы не таму, што бачылі цуды на гэтай зямлі і квапіліся на багацці і даброты яе суседзяў, а таму, што карцела засеяць яе пладавітым зернем, каб есці хлеб зямліцы гэтай маглі новыя спавядальнікі і шанавальнікі слова беларускага. Каб спагадалі *"не пра ежу*

*прахлую, а пра ежу, што застаецца на жыццё вечнае"*. Гэткую спажыву давала толькі тое адзінае і сапраўды святое слова з назовам нязгасным - **Б е л а р у с ь**.

Гэта і ёсць хлеб жыцця, бо сказаў Ісус: *"Я ёсць хлеб жыцця; хто прыходзіць да Мяне, не будзе галодны, і хто верыць у Мяне, не спрагнецца ніколі"*.

Дык ідзіце ж да хлеба нашага штодзённа святога, і насычайцеся ім, і карміце дзяцей сваіх, і сейце зерне новае для хлеба таго, імя якому - **Б е л а р у с ь**. І ўзвышайце працай сваёй, і гартуйце духам нязломным, і асвятляйце святлом непагасным з вышыняў. Каб усе ўбачылі святло і паверылі ў незнішчальную і давечную існасць ягоную, і не баяліся, што адгоніць яно прэч - як малаверных, альбо няверных, альбо сумніўных, альбо зусім аслеплых. І для такіх дух беларускі пануе над зямлёй, засеянай зернем ягоным, каб праз хлеб наш надзённы, *"той хлеб, што сышоў з нябёсаў"*, далучыцца да плоці, да праўды і існасці святой і светлай, увасобленай у несмяротным і простым слове - **Б е л а р у с ь**.

І калі наважыцца хто блюзнерыць са слова гэтага, зневажаць нявер'ем, выракацца і насміхацца з дадзенага Богам, не стане ў таго ні сілы, ні духу, ні моцы, ні розуму, не будзе яму ні спагады, ні даравання, акрамя граху і забыцця ўсеагульнага. Бо моц сапраўдная не адно намерамі высокімі створана, не ў словах хваласпеўных хаваецца, а працай стваральнай і нястомнай выпеставана. Не сажнеш там, дзе не пасеяў.

Бо сказаў Ісус: *"Ніхто, увайшоўшы ў дом дужага, не можа зрабаваць рэчаў ягоных, калі спярша не звяжа дужага, і тады зрабуе дом ягоны"*.

Сейце ж і збірайце столькі хлеба духаноснага, каб дужымі быць і шчодрымі, а не слабымі і хцівымі, каб у веры ўмацавацца, а не знябожыцца ў нявер'і, каб стаць відушчымі, а не сляпымі.

Бо навучацца і спазнаюць ісціну ўсе, хто пазбегне маркоты і няшчырасці, прагнасці і агрэсіўнасці, хто слова, якое было на пачатку, пачуе і панясе яго ў душы сваёй. А хто прыйдзе да яго - стане відушчым і знойдзе апірышча ў жыцці. І перастане быць рабом, бо сын у доме сваім застаецца жыць вечна. А калі б усе былі сынамі беларускімі, то і справы рабілі б свае беларускія.

Бог абараняў і абараняе тварэнне сваё, па слову Ягонаму спраўджанае, - святую і несмяротную Беларусь. Яе надзейным абярэжнікам на ўсе прышлыя часы стаў імклівы вершнік з папераджальна наструненым мячом. З Божае ласкі лунае над нашымі палеткамі і нівамі, барамі і лясамі, рэкамі і азёрамі дух апякункі нашай і заступ-

ніцы святой Еўфрасінні Полацкай. Насуперак ліхадзейным ветравеям і спапяляльным вогнепалам шмат стагоддзяў вартуе ён спакой і суладдзе на нашай зямельцы, не дае нам зняверыцца і апусціць рукі.

Сваёй духоўнай моцай перасцерагае ён ахвотнікаў зваяваць і знявечыць гэтыя загоны, святлом ад добрасці людской атуленыя, потам і крывёю чалавечай набрынялыя. У час неабходны кліча ўздымаць меч пагоні нашай, каб апусціць вострае лязо на шыі прыхадняў-нягоднікаў. Каб прапала ахвота ў рознай набрыдзі жартаваць з гаспадарамі зямлі гэтай, дараванай ім Богам. А вось для людзей добрых і шчырых  дабрадзейная зямліца гэтая здаўна ахвотна растуляе свае далоні, прывячае іх, спрыяе стаць на крыло.

І ўскрыленыя Божай любасцю, абнадзееныя Ягонай спагадлівасцю дзесяткі, сотні, тысячы беларусаў па нараджэннні і тых, хто стаў такімі па прыналежнасці да зямелькі гэтай, з'яднаных адзіным памкненнем, згуртаваных адзінай верай у несмяротнасць Айчыны нашай, выходзілі бараніць дзень заўтрашні. Дзеля нас і да нас звернуты справы іхнія, каб не забылі цябе, Краю родны, каб не сталі чужынцамі на сваёй зямлі, каб не адракліся, не прадалі і не аддалі ў палон.

І нікому-нікому не зацьміць духоўную моц, не адпрэчыць святасць гэтай зямлі. Бо той, хто глынуў вольналюбнага духу святога, хто мае зрок і слых, у каго не адабрала памяці і чуйнасці, не заблудзіцца, не збочыць, не спалохаецца.

А над палеткамі і над прасторамі роднай старонкі нашай нібыта з высокіх вышыняў - а мо з-пад самага сэрца маці-зямлі? - асвечаны жыватрворнай моцай святога Еўфрасінеўскага крыжа ціхутка і даверліва, спавядальна  і шчымліва, што ажно дух перацінае, гучыць і рассяваецца:

*Магутны Божа! Ўладар сусветаў,*
*вялізных  сонцаў і сэрц малых,*
*над Беларусяй ціхой і ветлай*
*рассып праменне Свае хвалы.*
*Дай урадлівасць жытнёвым нівам,*
*учынкам нашым пашлі ўмалот.*
*Зрабі свабоднай, зрабі шчаслівай*
*Краіну нашу і наш народ!*

Заклік гэты нагадвае і нам пра святы і просты абавязак: берагчы і шанаваць тое слова, што было на пачатку. Шанаваць, ашчаджаць, берагчы і як найвялікшы скарб перадаваць спадчыннікам нашым - каб не звялося яно, беларускае слова, не расцерушылася і не звеялася

ветрам у бязмоўнае прадонне сусвету.

Хіба ж не пра тое дбаў наш дагэтуль не пачуты Мацей Бурачок, калі з усёй шчырасцю маліў-заклінаў: *"Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!"*, бо *"шмат было такіх народаў, што страцілі найперш мову сваю, так як той чалавек прад скананнем, катораму мову займе, а потым і зусім замёрлі"*. Услухаймася - і памацнеем, пачуйма - і падужэем, акрэпнем і духам, і верай.

Веру ў адзіную, Богам пасланую, святую і непаўторную краіну нашую - **Б е л а р у с ь**.

У Айчыну і Бацькаўшчыну народа майго, маіх продкаў і маіх нашчадкаў - веру.

У Радзіму несмяротную многіх і многіх былых і маючых быць пакаленняў, што воляй сваёй і няўтомнай працай, узносячы хвалу Богу, зямлю беларускую стваралі і ствараюць, - веру.

У народ яе шматаблічны і верай, і мовай, з працы рук сваіх узбагачаны і талентам непаўторным асветлены, цягавітасцю і нязломнасцю пазначаны, непакорай і непадатнасцю ні ворагам, ні злому лёсу ахрышчаны, - веру! Добрым, спагадлівым і цярплівым стаў народ мой, што праз пакуты і здзекі, няласку і горыч - насуперак усяму захоўвае сам сябе і самаіснасць сваю, самабытнасць нашую.

Праўду, праўду кажу вам: хто знаецца са словам і духам беларускім, хто шануецца імі, той несмяротны. Той праз вякі цікавы і жаданы субяседнік у сусвеце. Той не пачуе роспачнага і крыўднага: *"Чаму ж, чаму не разумееце вы мовы маёй? Чаму выракаецеся слова майго? Хіба ж забыліся вы, што на пачатку было слова. І слова было ў Бога. І слова было -* ***Б е л а р у с ь****?"*

І святло, і палымянасць слова таго - ад пушчанскіх Знічаў з язычніцкіх капішчаў, ад купальскіх кастроў і валошкавых ранішніх заранак, ад прасветленай працы нашых першахрысціян, што ахвярнасцю сваёй мацавалі дух, гартавалі волю. Зыркай светласцю запальвае слова тое ратавальныя і ачышчальныя агеньчыкі грамнічных свечак у храмах нашых спрадвечных, што продкамі на зямліцы нашай дабраслаўнай пастаўлены, каб помніць і шанаваць святое Слова Божае і слова ўздымнае - **Б е л а р у с ь**.

Поклічны ж водбліск тых радаводных агнёў гаючым цяпельцам свеціцца сёння ў спражаных заваёўным полымем прыхадняў замках і палацах, цэрквах і касцёлах, кляштарах і друкарнях, якія скрозь паўставалі на ветравеях гісторыі як гняздоўі беларускай і хрысціянскай славы, што з-за сценаў іхніх ускрыліла на вышыні. І адтуль пазірае на абярэжную свечку чырвонай Камянецкай Белай вежы, і перагукваецца з ёю, і знітавана з сэрцам кожнага, як галаснікамі

гучнымі знітавана з небам непаўторнасць нашая - Барыса-Глебская Каложская святая цэркаўка на магутнай далоні бацькі-Нёмана.

І рэхам між пакаленнямі пракочваецца слова тое, што захоўвае славу і праўду пра няскораны ні войнамі, ні лёсам сталец наш першадзяржаўны - старадаўні і працавіты Новагародак, з якога моцай аб'ядначых памкненняў першага караля нашага Міндаўга паўстала дзяржава - агульная для многіх, Вялікім Княствам Літоўскім названая.

Не, нездарма кожны паяднаны са словам святым Беларусь услед за прарокам нашай свабоды і нязводнасці беларускай Янкам Купалам нязмушана паўтарае, шэпча і выдыхае:

*Я буду маліцца і сэрцам, і думамі,*
*Распетаю буду маліцца душой,*
*Каб чорныя долі з мяцеліцаў шумамі*
*Ўжо больш не шалелі над роднай зямлёй.*

Шчодрым, умалотным, жыццястойкім і вынослівым аказалася даўняе радаводнае сяйво. Ні марозы, ні сонцапёкі, ні бязводдзе, ні залевы, ні нядбальства і абыякавасць не вынішчылі, не высушылі, не звялі на нішто тыя пасевы, не заглушылі пустазеллем і пустаслоўем тое чаканае і жаданае, мілоснае і непаўторнае, тое простае самароднае і высокагучнае Слова, якое было на пачатку.

І каласіцца яно сёння, і красуе, і пульсуе жыццём - гэтае Богам нам дадзенае і Богам для нас захаванае слова **Б е л а р у с ь**, з якога пайшлі і запачаткаваліся мы. З якім жывём і жыцьмем.

Гаючым глытком узмацняе яно сілы пераконаных, жывой вадой акрапляе пачуцці бязверных, поклічным уздымным звонам заклікае да сябе заснулых і абыякавых.

Праз вякі, праз вятры, праз нягоды гучыць яно - то ціхім шэптам, то гучным рэхам, то мальбой, то пакаяннем, то заклікам.

Хай бачаць светлазорыя нябёсы, хай гонкім асвяжальным ветрыкам шуміць над зямлёй, хай кажуць народы сусвету давеку:

"**Б е л а р у с ь** жыве!"

*Усё мае свой час, і гадзіна кожнае дзеі - пад небам.*

*Ёсць час нарадзіцца, і час памерці, час насаджаць, і час вырываць пасаджанае.*

*Час забойства, і час гаення; час разбураць, і час будаваць;*
*час плачу, і час весялосці; час бедаваць і час танцаваць;*
*час раскідаць камяні, і час збіраць камяні; час абдымаць, і час ухіляцца абдоймаў;*

*час шукаць, і час губляць; час ашчаджаць, і час выкідаць;*
*час раздзіраць, і час зашываць; час маўчаць, і час прамаўляць;*
*час кахаць, і час ненавідзець; час вайне, і час міру.*

*Якая карысць таму, хто працуе, з таго, над чым ён працуе?*

*Бачыў я гэты клопат, які Бог даў сынам чалавечым, каб мелі сабе турботу.*

*Усё Ён цудоўным зрабіў сваім часам і вечнасць паклаў ім у сэрца, хоць не кемяць яны ў тых справах, што Бог учыніў, ад пачатку і да канца...*

*Уведаў я, што ўсё, што робіць Бог, застаецца навекі; Ён робіць так, каб багавейна ступалі перад абліччам Яго.*

*Што было, тое ёсць і цяпер, і што будзе, тое было ўжо; і пакліча Бог мінулае.*

***Кніга Эклезіяста, альбо Прапаведніка.***

## МАЛІТВА ЗА БЕЛАРУСЬ

Веру
У адзіную і непарушную,
Богам дараваную,
Святую і непаўторную
Краіну нашую -
Б е л а р у с ь.
У Айчыну
І Бацькаўшчыну
Народа майго,
Продкаў маіх і маіх нашчадкаў -
Веру!
У Радзіму несмяротную
Многіх і многіх
Былых
І маючых быць пакаленняў,
Што воляй сваёй непахіснаю
І дбайнаю працай няўтомнаю,
Узносячы Богу хвалу,
Зямлю беларускую
Доўга стваралі і сёння ствараюць, -
Веру!
У народ яе -
Шматаблічны і верай, і мовай,

З працы рук сваіх узбагачаны
І талентам шчодра асветлены,
Цягавітасцю і нязломнасцю
Адметна пазначаны,
Непакорай ды непадатнасцю
Многа разоў ахрышчаны, -
Веру!
Добрым, мудрым, спагадлівым і цярплівым
Стаў народ мой,
Што праз пакуты і здзекі,
Няласку і горыч -
Насуперак злому і хіжаму лёсу -
Захоўвае сябе
І самаіснасць сваю,
Самабытнасць нашую...
У народ мой давеку беларускі -
Веру!

## "НЕ ТРЭБА МНЕ БЕРАГ ТУРЭЦКІ…", або ХУТАР НЕ ВЁСКА, А ЖУРАВЫ НЕ САЛАЎІ

***Рэфлексія хутарской настальгіі***

Стаяла сярэдзіна восені. Цёплай і надзіва вабнай. Такой ласкавай асенняй пары Янак не помніць даўно. Таму і на дачы сваёй паспеў усё парабіць, усё ўпарадкаваць, а цяпер толькі забаўляўся, як казала ягоная Янка, купаючыся ў прыродзе і непаўторна прыемным наваколлі. Бойкі на язык Янак не бліскаў на яе вачыма і не браў да вушэй жончыны словы. Проста працягваў свае "дзіўна назіральныя справы - бібікі біць" - так падначвала Янка, калі ёй патрабавалася падмога, а Янак не стамляўся лашчыць вочы ў далёка-глыбокім блакіце.

На неба ён мог пазіраць гадзінамі, ніколі не стамляўся і не расчароўваўся. Для яго нябесная вышыня ніколі не была аднолькавай, а тым больш нецікавай. Неба заўсёды заварожвала Янка сваімі незвычайнымі здольнасцямі архітэктара і будаўніка ў адной асобе. Такіх дзівосных і сапраўды незямных канструкцый, каб і хацеў, не прыдумае ніводзін, хай сабе самы найлепшы зямны дойлід. Нават Янак, былы галоўны архітэктар раённага цэнтра, вочы якога бачылі не адну сотню розных праектаў, які лічыў сябе не апошнім чалавекам у будаўніча-

стваральнай справе, не мог прывыкнуць да нястомна творчай нябеснай дзейнасці. Праўду кажучы, ён дагэтуль не верыць і ў тое, што нябесныя палацы і рэзідэнцыі ствараюцца самі сабой, без папярэдняй творчай задумы, без чужога разумнага ўмяшання.

Гэтае Янкава захапленне выявілася яшчэ ў далёкім ужо дзяцінстве. Калі пасвіў кароў на хутары, любіў класціся на мурожную траўку, падкладваў рукі пад галаву і да мурашак у вачах узіраўся ў неба. І такія мроі апаноўвалі яго тады, адносілі так далёка, а мо высока?, ад зямных клопатаў, што ажно не хацелася нічога рабіць. Не, гэта не зусім праўда, бо калі б нехта паклікаў яго наведаць тыя нябесныя гарады-паселішчы, Янак кінуў бы ўсё зямное і хоць на крылах, хоць на веніку паляцеў бы хай сабе на сёмае, хай на дзясятае ці якое там яшчэ неба. У мроях то ён бываў там не раз. Але вось каб рэальна, каб папраўдзе, то не выпадала ні разочку.

Ягонае захапленне было бязмежным. Нават тады, калі каровы, вызваленыя ад пастуховай апекі, дачасна кіравалі па ўтравелай палявой дарозе на свае надворкі, хлопец не апускаўся з нябеснай вышыні на зямлю.

Вось і цяпер было акурат тое самае. Янак так захапіўся нябеснай будоўляй-перабудовай, што нічога іншага не бачыў, нічога не чуў, акрамя аднаму яму чутнай вабнай нябеснай мелодыі.

Ды нечакана нешта трывожлівае варухнулася ў ягонай душы, штосьці нязвыклае для вуха змусіла наструніць слых. У лагодную нябесную музыку дысанансам уварвалася нейкая трывожная нотка. Янак не адразу сцяміў, што гэта курлыканне жураўоў. Даволі вялікім клінам яны ляцелі ў свой далёка-далёкі вырай. Ды, відаць, дарога гэтая была не надта вабнай, бо такой тугой і болем гучала іхняя развітальная песня, што, здавалася, здрыгануліся тыя нябесныя пабудовы, якія толькі што вабілі Янкаў зрок. У мужчыны неспадзеўкі нагарнулася на вока трывожліва трапяткая плёнка-намітка, засвярбелі вейкі, і нешта калючае варухнулася ў грудзях. Каб не нечаканае і самахоць набеглае кашлянне, то мо гэты балючы камяк у горле наогул перахапіў бы дыханне. Янак кашлянуў, гарляк здрыгануўся, камяк праскочыў некуды ўнутр, дыхаць стала лягчэй.

"Журавы-жураўлікі вы мае дарагія, як жа я вам спачуваю, - хацелася вымавіць Янку, але журавы ўсё-адно не пачуюць, а тут блізка была ягоная Янка, якую ён не хацеў турбаваць сваімі надта эмацыйнымі перажываннямі. І таму толькі ў думках пажадаў: - Добрай дарожанькі вам, родныя, - і дадаў, уздыхнуўшы: - І хуткага вяртання дадому".

Праводзіў позіркам журавоў, і набегла на памяць колішняе, даўняе.

Тады Янак жыў на адным з нясвіжскіх хутароў. Быў зусім малы. Нават у школу яшчэ не хадзіў. Ды некаторыя літары ўжо ведаў, але асабліва любіў "крывыя", як казаў ягоны бацька, малюнкі ў часопісе "Вожык". І ўсё ж найбольш падабаліся яму вершы. Праўда, ён тады не разумеў, што гэта такое. Але, слухаючы дэтэктарны прыёмнік у дзеда Косціка, не мог адарваць вуха, калі там гучалі такія шчырыя, такія блізкія і амаль што Янкавы словы - пра марозны звонкі вечар, пра санкі на снежным прасторы, пра дрыготкія ад марозу зоркі на небе і нават пра іхнія белыя ад квецені вішні. Што гэта былі менавіта вершы, ён не ведаў, як не маглі патлумачыць і ягоныя бацькі, для якіх куды больш зразумелымі былі клопаты хлебасеяў, чым высокія паэтычныя матэрыі. Душой яны адчувалі, а вось каб давесці гэта да сыночка, не хапала слоў.

Той дзедаў прыёмнік наогул быў для Янка дзівосным адкрыццём далёкага ад хутара свету і самым першым настаўнікам. Чаго толькі не пачуў ён з чорных слухавак.

І вось аднойчы…

Бываюць жа нечаканыя супадзенні. Янак зразумеў гэта нашмат пазней, паверыў у прадвызначэнне і не раз праверыў на ўласным вопыце. У ягоным жыцці даволі часта здаралася так, што нешта перадуманае, прымроенае станавілася праўдай, збывалася. Акрамя хіба што падарожжа на сёмае неба. А таму, што мусіла неўзабаве стацца, папярэднічала нечаканая і напачатку не зусім зразумелая падзея: ці то нечая показка, ці то нешта пачутае па радыё альбо ад людзей, ці то нейкае іншае прадказальнае сведчанне.

Так было і тым разам.

Па хутары пачалі гуляць пострахі, што неўзабаве ўсіх ягоных жыхароў будуць перасяляць у вёскі. Не пытаючыся іхняй згоды, але дзеля іхняга ж дабра. Хопіць быць здзічэлымі хутаранамі, пара жыць у калектыве. Пра гэта на адным з ранішніх нарадаў на калгасным двары прагаварыўся брыгадзір. Гэта быў удар абухом па галаве. Ведама, што для таго і б'юць, каб балела. Але пакуль не было афіцыйнага загаду, хутаране верылі і не верылі пачутаму. Хоць ужо не аднойчы пераконваліся, што нават адно слова з вуснаў любога начальніка неўзабаве станавілася явай. Таму не раз і не два перагаворвалі брыгадзіравы словы, перабіралі іх па костачках-літарах, абмацвалі з усіх бакоў: дзесяць разоў адмерай, перш чым адзін раз адрэжаш. І не выключалі, што такое можа сапраўды стацца. Бо вунь у суседніх раёнах былой іхняй Заходняй Беларусі на самай справе пачалося ссяленне хутароў.

Праўда, не асабліва ахвочыя да такога, казалі, што там адбывалася ўсё выключна добраахвотна, без прымусу. Калі не захочаш, то і не паедзеш у вёску. Ды разумелі сяляне: там добра, дзе нас няма, а кожны начальнік сваё слова хваліць. Навучаныя, а мо лепш сказаць правучаныя жыццём, нядаўнія гаспадары ўласнай зямлі, а цяперашнія беззямельныя навабранцы-калгаснікі, на сваім гарбу спазналі і той прымусовы абавязак, і зверху спушчаную добраахвотнасць. Вядома, што кожнаму свая бяда баліць, ды бяда ж і яднае, гуртуе.

Янкавы бацькі непакоіліся асабліва: кожнаму свая болька ў галаве. Хоць і ніколі не жылі, як у Бога за пазухай, не былі багатырамі, ды не мелі абсалютна ніякага жадання бурыць свае няхай сабе не вельмі шыкоўныя пабудовы, агораныя зусім нядаўна сваімі ўласнымі высілкамі, і перціся невядома куды. Ад дабра дабра не шукаюць.

Калі гэту трывожлівую гаворку ўлавіла Янкава вуха, ён спалохаўся мо яшчэ больш за бацькоў. Бо невядома, што такое гэтае перасяленне, куды адбудуцца пярэбары, што і як там будзе. А яму ж на будучы год у школу ісці. Ды і прывык Янак да хутарской вольніцы. Прызвычаіўся так, што іншага і ўявіць сабе не мог. І не хацеў. Таму ўнутры ў хлапца нечакана пасяліўся такі страх, мацнела такая трывожліва-трапяткая напружанасць, што часам ажно есці не хацелася. Першы раз на маміна запытанне, што з ім, прамовіў, што нічога. Але на яе пільны недаверлівы позірк адказаў:

- Не паеду я ў тую вёску.

І каб апярэдзіць далейшыя маміны допыты, патлумачыў:

- Я не люблю вёску. Цесна там.

Якое пытанне, такое і адпавяданне.

Маці і сама не рвалася туды, але такая сынава рашучасць насцярожыла яе. І каб заспакоіць сына, параіла схадзіць да дзеда Косціка. Паўбуханкі хлеба аднясе, якую пазычала, а заадно весялей будзе там. Дзед умеў іграць на гармоніку, ды і дзедава "радзіво" расказвала шмат цікавага.

Янак пайшоў. Дзеда ў хаце не было - касіў траву для каровы на блізкім поплаве. А баба Воля, каб заняць унука, параіла паслухаць радыё, мо казку якую пачуе.

Янак уключыў прыёмнік. Звыкла круціў туды-сюды чорнае колца, пакуль у навушніках не загучала нейкая мелодыя. Янак мо і прапусціў бы яе, але ж вельмі чуллівай падалася яна, яе трывожлівыя словы моцна зачапілі нейкую нябачную душэўную струну. І Янак пачаў слухаць.

*Летят перелетные птицы*
*В осенней дали голубой,*

*Летят они в жаркие страны,*
*А я остаюся с тобой.*

Як толькі прагучала "а я остаюся с тобой", Янак да болю ў вушах напружыў слых - каб не прапусціць ніводнага гэткага жаласлівага ў вуснах нябачнага спевака слова. Здавалася, той стараецца спецыяльна для Янка, спявае толькі яму, бо зразумеў ягоныя пачуцці, намагаецца падтрымаць іх.

*А я остаюся с тобою,*
*Родная навеки страна;*

Голас гучаў пераканаўча, выклікаючы ў Янка шчымлівае суперажыванне. Ён ажно мыляў губамі, паўтараючы за спеваком ягоныя праніклівыя словы:

*Не нужен мне берег турецкий,*
*И Африка мне не нужна.*

Словы гэтыя так кранулі Янка, так даткнуліся да ягонага патрывожанага магчымым пераездам сэрца, што ўнутры нешта пахаладзела. Запяршыла ў горле, нахапіўся кашаль.

Дык гэта ж песня пра іх! Пра іхняе ссяленне з хутара. Пра ягоныя, Янкавы, пачуцці. І як гэта той нябачны спявак ведае пра іхнюю бяду? Як здолеў адчуць яе? А мо ён і сам хутаранін? Мо і яму загадалі перасяляцца, а ён не хоча? Бо вунь, бачыш, што спявае: "Не нужен мне берег турецкий, и Африка мне не нужна". Янак то й не ведаў, калі казаць папраўдзе, што такое тая Афрыка, і дзе той турэцкі бераг. Але песня была яму такая блізкая, такая балюча кранальная, такая свойская, што ён ажно рот разявіў, каб не прапусціць ніводнага слоўка:

*Немало я стран перевидел,*
*Шагая с винтовкой в руке,*
*И не было горше печали,*
*Чем быть от тебя вдалеке.*

Бачыш, спявак пабываў ужо ўдалечыні ад свайго дома. Але быў там з вінтоўкай у руках. Значыць, на вайне быў. А гэта зусім іншая справа. Мусовая. Не з уласнага жадання пашыкаваць дзесьці ўдалечыні ад роднага парога сыходзіў з дому. Клікаў абавязак бараніць сваю хату, сваю зямлю, сваю краіну. Як зусім нядаўна рабілі гэта Янкавы суседзі-хутаране.

Чым больш услухоўваўся Янак у словы песні, у яе мелодыю, тым больш мацнела ў яго нежаданне з'язджаць з хутара. Свайго хутара.

Дзе і цяплей, і весялей, і самае мо галоўнае - так прасторна, так вольна, так сонечна, як не будзе нідзе. Ні-дзе! Тым больш, што ён ужо і лясок свой пасадзіў. Каля плоту, які іхні агарод аберагае. Панапрыносіў вясной і восенню з недалёкага Школьнага лесу бярозак, асінку, колькі хвоек. Пару елачак пасадзіў. І што дзіўна нават самому - усё прыжылося, пачало расці. А цяпер што - пакінуць усё гэта чорту лысаму? Як кажа мама: кінуць-рынуць і лецьма ляцець у белы свет як у капейку?

А спявак усё паддае эмоцый. Ужо і сэрца Янкава пачало стукаць мацней, гучней, хоць ён ніколі не адчуваў яго і нават не ведаў, дзе яно знаходзіцца.

*Летят перелетные птицы*
*Ушедшее лето искать,*
*Летят они в жаркие страны,*
*А я не хочу улетать,*
*А я остаюся с тобою,*
*Родная моя сторона;*

На гэтых словах сэрца Янкава ажно зайшлося: гэта ж трэба так пранікліва, так праўдзіва, так балюча.

*Не нужно мне солнце чужое,*
*Чужая земля не нужна.*

"Не. Я так-сама не хачу ні-ку-ды ляцець, - ледзь не паўтарае Янак. - І я застаю-ю-юся з табою".

Ён ажно крахтаць пачаў, як дарослыя падчас цяжкай працы. А тады нечакана адчуў, што гэтыя словы нейкімі нябачнымі малаточкамі моцна стукаюцца ў скроні, чаго раней ніколі не было.

"Не, непатрэбна мне чужое сонца. Мне і свайго хапае. І зямлі хапае. Не трэба мне чужой. Не хачу ні ляцець адсюль, ні з'язджаць".

Спявак закончыў, а Янак усё ніяк не можа астыць ад ягоных эмоцый. Так зачапіла, што хоць ты плач. Ён то мо і заплакаў бы, каб палягчэла - не раз рабіў так, калі было ад нечага асабліва горка і крыўдна. Дапамагала. Але ж побач была баба Воля. Не выпадае перад ёю слёзы ліць, смяяцца будзе.

А чужая зямля, чужая вёска яму і праўда непатрэбныя. Цвёрда рашыў: ён застанецца тут, на сваім, на іхнім хутары. Хай бацькі, калі хочуць, едуць, а ён не паедзе. Схаваецца і не паедзе.

Гаспадаром слова аказаўся дашкольнік Янак.

Неўзабаве нясмелыя людскія гаворкі пра ссяленне сталіся праўдай. Разбурылі хату Янкавых бацькоў, раскацілі па бярвенцу. Што паламалася, а што пагрузілі на падводы і ў вёску павезлі. Там пачалі

новае жытло ладзіць. Вясной тое адбылося. А да восені ўжо стаяў новы зруб з моцнага яшчэ старога бярвення і свежа-жоўтых сасновых уставак.

Калі бацькі абвясцілі пра рэальны і канчатковы пераезд, Янак і праўда схаваўся. Не, не ў сваім недарослым лясочку, што каля агароднага плоту, які ўжо валяўся паламанымі лёсткамі. У самым сапраўдным лесе, што Школьным называецца. Некалі яны разам са старэйшымі хлопцамі, якія ўжо ў школу хадзілі, змайстравалі там шалаш-будан. У хованкі гулялі. У вайну. Добра было адстрэльвацца шышкамі ад надакучлівага "немца-захопніка", які так і наравіў патрапіць у будан. Асабліва яловыя шышкі былі ў патрэбе. Калі смальнеш катораму нападоўцу па ілбе, у таго ажно іскры з вачэй пасыплюцца. Ды хваёвыя шышкі былі зручнейшыя - набярэш у жменю некалькі і шпурляеш разам, хоць адна ды пападзе. Мо таму ніхто дабрахоць не хацеў станавіцца немцам. Але ж гульня патрабавала.

Бацька, калі заўважыў сынаву адсутнасць, адразу зразумеў, дзе ён хаваецца. Бо не раз казаў Янак, што не паедзе ў вёску, на хутары застанецца. Хай сабе і адзін. Бацькавай здагадцы і жураўлі паспрыялі. Калі ішоў у лес да будана, над ім у небе не надта высока жураўліны клін паплыў. У вырай выпраўляліся птушкі. У восеньскай цішыні іхні развітальны крык здаваўся сапраўдным плачам. Янкаў бацька падняў вочы ўгару, цяжка ўздыхнуў і пакіраваў да шалаша. Янак жа не вытрымаў. Як толькі дайшоў да вушэй жураўліны плач, уся напруга і перажыванні апошніх дзён паліліся горкімі слязамі. Не саромеўся нават бацькі, рыдаў-галасіў да знямогі. Бацька пачаў супакойваць сына, казаць нешта суцешнае, ласкавае. Ды ў Янка ад гэтага ненатуральнага спалучэння бацькавай лагоды і жураўлінай трывогі ледзь не істэрыка пачалася. Хлапечы плач перайшоў у горкае рыданне. Ікаць пачаў.

- Не паеду я ў вёску. Ка-заў не паеду, зна-а-ачыць не па-еду, -- заікаўся Янак. - Едзьце адны-ы-ы. Не хачу я чужое зямлі-і-і, - як дарослы, паўтараў сын словы пачутай у дзедавым прыёмніку песні, якая цвіком засела ў галаве. - Бо і сонца чужое там. Усё там чужое. Тут нашае! Тут маё! Чуеш, нават жураўлі плачуць па сваім. Па нашым. А я хіба горшы-ы-ы за іх? Не пае-е-еду!

- Добра, сынок, добра, - суцяшаў бацька. - Не паедзеш. Пайшлі дадому, мая ты любачка.

Ледзь угаварыў бацька сына. Сам ледзь не плакаў. Падняў Янка на рукі, прытуліў да грудзей, нешта ласкавае шэпча ў вуха. Пакуль данёс да падводы, сын заснуў, супакоіўся, толькі часам нервова ўздрыгвалі рукі на бацькавай шыі. Каб не будзіць і не трывожыць, бацька ціха папрасіў суседа Віцю, які дапамагаў ладзіць пярэбары, узяць лей-

цы і пакіраваць канём. Сам жа акуратна сеў на падасланае сена, ямчэй прытуліў сына, і падводы з апошнім хатнім скарбам крануліся.

Але на гэтым не скончыліся Янкавы прыгоды. Ён ніяк не мог прывыкнуць да вёскі. Яму і праўда было тут цесна. Нервавала перанаселенасць, людская мітуслівасць, мільгаценне перад вачыма. Не было таго прастору і супакаення, як на хутары. І нават калі Янак пайшоў у школу, пачаў знаходзіць хоць нейкае паразуменне з вясковымі хлопцамі, настальгія, праўда, тады ён гэтага слова яшчэ не ведаў, напоўніцу даймала яго. Проста яму хацелася на сваё котлішча. Яму было там так цёпла, нібыта ў выраі. І ён сагітаваў вясковых хлопцаў - аднагодкаў і старэйшых за сябе - хадзіць у хутарскі шалаш-будан, што ў Школьным лесе. Спачатку ў вольныя ад школы дні хадзіў туды адзін, любіў ціхенька пасядзець пад празрыстымі бярозкамі, назіраў за наваколлем, слухаў ціхую песню лясную. Пасля разам з хлопцамі гулялі там у вайну, шышкамі адбівалі напады "немцаў".

А пасля адзін асабліва шустры сямікласнік зрабіў нечаканую прапанову:

- Што нам гэты шалаш. Давайце зямлянку выкапаем. Сапраўдную. Партызанскую.

Ідэя захапіла хлопцаў. Доўга думалі, як больш скрытна і хутка зрабіць гэта. Дадумаліся. Знайшлі недзе ў вёсцы дзве рыдлёўкі, занеслі іх у будан. А калі надаралася вольная часінка, беглі туды гуртам і пачыналі працаваць. Адны капалі зямлянку, іншыя адносілі і рассыпалі пад кустамі зямлю, каб не выдавала іхняга сховішча.

Паступова выкапалі даволі глыбокую яму. А як накрыць яе, каб сталася сапраўднай зямлянкай і каб не відаць? Дапамаглі старэйшыя хлопцы.Назбіралі ў лесе паваленых дрэўцаў, галін, крыжнакрыж паклалі іх над ямай. Зверху накрылі яловымі лапамі. А на іх насыпалі зямлі, нарвалі і пасадзілі травы, ягадніку. Нават дзёрну недзе адарвалі і паклалі зверху - каб не вельмі заўважна. Дзірку-ўваход, пакуль не прыдумалі нічога іншага, прыкрывалі лапнікам. Зямлянка атрымалася што трэба. Толькі вось лаз пакуль быў ніякі. Здымалі лапнік і скакалі ўніз. Туды то яшчэ паўбяды. А вось як выбрацца, была цэлая праблема.

Башкавітыя хлопцы знайшлі выйсце. Надыбалі ў лесе сухую яліну. Абламалі яе галіны, пакінуўшы каля ствала толькі стырчакі. Апусцілі ў дзірку-ўваход. Атрымалася лесвіца, хоць і слабая, праўда, але ўсё ж-такі…

Часта ладзілі каля зямлянкі розныя забавы. Часам хаваліся ў ёй ад нечаканага дажджу.

І вось аднойчы Янак ледзь не загінуў у той самімі зладжанай

зямлянцы. Бальшуны-весялуны жывым хацелі закапаць яго. Жартам, вядома. А выйшла, што на самай справе.

Летнім нядзельным днём вялікім гуртам прыйшлі да зямлянкі хлопцы. Гулялі ў вайну, палілі касцёр, пяклі ў ім бульбу - неабабраную, з прыгаркай, як сапраўдныя партызаны. Нечакана лінуў дождж. Схаваліся хто ў будане, а хто ў зямлянцы. Янак таксама скокнуў у зямлянку. Многія спяшаліся апусціцца ў яе, таму на лесвіцы пааб-ламвалі шмат галін-прыступак. Калі дождж перастаў, пачалі вылазіць. Старэйшыя то хутка зрабілі гэта, а вось меншым і шанцавала менш. Прыступак было мала, гліністая зямля, што накрывала зямлянку зверху, размокла, стала слізкай. Хлопцы карабкаліся ўверх, але адзін за адным падалі ўніз. Неўзабаве ў зямлянцы засталіся толькі Янак і ягоны сябар Андрэй.

- Ага, вы не хочаце вылазіць, то як сабе хочаце, - пачулі яны насмешліва-пагардлівы голас самага забіякаватага вясковага пад-шпарка Франуся. - То і сядзіце там, партызаны.

І хлопцы пачалі завальваць выйсце яловымі лапамі. Спачатку Янак з Андрэем прымалі гэта за жарт.

- Ага, давайце, давайце, - казаў Янак і паспрабаваў нават заспяваць тую пачутую ў дзеда песню: - Бо я застаюся з табою, радная навекі страна…

Той далёкі ад іх верх са смехам адказаў:

- Ну і заставайся на здароўе. А мо і навекі. Пайшлі, хлопцы.

Гэтае "пайшлі" напалохала зямлянкавых вязняў.

- Што вы робіце, немчура? Не закапвайце нас. Партызаны адпомсцяць.

Жартам крычалі. Але хутка жартаваць перахацелася. Тыя, што наверсе, на адыход закідалі дзірку мокрай зямлёй-граззю.

Янак з Андрэем спачатку крычалі, пасля прасілі дапамагчы. Адказам было поўнае маўчанне. Перапалохаліся не на жарт. Пачалі недаламанай лесвіцай тыркаць у лапнік, што закрываў выйсце. Але дарэмна. На галаву сыпаліся іголкі, хлёпала зверху гразь.

- Эй, немчура, не трэба мне бераг турэцкі, - гукнуў Янак словы дзедавай песні, як называў ён яе.

- А Афрыка вам патрэбная? - пачулася насмешлівае пытанне знадворку.

Не зразумеўшы жарту, Андрэй спешна прамовіў:

- Не-не, непатрэбная. Сабе забярыце…

- А нас выпусціце, - працягнуў Янак.

Хутка абодва хлопцы, закапаныя ў зямлянцы, былі мокрыя, як цуцыкі. І ад страху цяклі струменьчкі поту па спіне, і ад дажджавой

вады вымаклі, што цадзілася з гразі. Яны былі ў адчаі. Нават дыхаць стала цяжэй. Пачалі плакаць, адзін аднаго супакойваючы:

- Не плач, слязамі бядзе не паможаш. Трэба нешта прыдумаць, - казаў Андрэй. - Партызаны ж таксама ў пераплёты траплялі. Давай думаць.

- Хіба што птушак пералётных паклікаць. Журавоў, - меркаваў Янак. - Каб падказалі бацькам, дзе нас шукаць.

- А мо папрасіць, каб забралі з сабою, - праз слёзы прапанаваў Андрэй.

- Ну, раз смяешся, то будзем жыць, - падтрымаў сябрукоў настрой Янак, хоць самога страх апаноўваў усё больш.

Нічога талковага прыдумаць хлопцы не маглі. Чым бы ўсё гэта закончылася, то ніхто з іх і паняцця не меў. Мо страцілі б прытомнасць у гэтай прамоклай зямлянцы без паветра. І тады…

Аднак жа не пераводзяцца на свеце добрыя людзі. Знайшоўся такі чалавек і ў іхняй кампаніі. Петрыкаў Славік, бацька якога падчас вайны быў у партызанах. Вярнуўся Славік да зямлянкі, гукнуў:

- Вы тут, хлопцы? Жывыя?

Тыя закрычалі адразу, як толькі пачулі нечыя крокі:

- Не немцы ж вы, дастаньце нас. Выпусціце.

Славік з усёй сілы сцягваў з выйсця пацяжэлыя ад гразі лапы ельніку. Сам вымазаўся, як чорт. Але калі выцягнуў наверх Янка з Андрэем, тыя былі яшчэ большымі чарцянятамі. Твары і вопратка вымазаныя, мокрыя. І дзе тут разбярэшся - ад вады, ці ад слёз цяклі па шчоках брудныя рагі.

Пра тое, што адбывалася ў хатах недарэчлівых партызан пасля іхняга вяртання, то і казаць не хочацца.

Але больш у тую зямлянку ніхто не хадзіў. Абсыпалася яна, завалілі яе лапнікам і іншымі рэшткамі дрэў. На тым партызаншчына для хлопцаў скончылася. А Янак зразумеў, што і вяскоўцы бываюць добрымі і спагадлівымі. Хоць, праўда, не ўсе. А што, хіба паўсюль жывуць адны дабрадзеі?

Жураўліны клін даўно схаваўся ў трошкі захмараным небе, аціхла над дачным надзелам жалобная песня-развітанне, а Янак усё плаваў і плаваў думкамі-ўспамінамі па сваім далёкім хутарскім дзяцінстве. І толькі, калі ягоная Янка ўжо даволі гучным голасам, бо дагэтуль ён на яе не рэагаваў, паклікала дапамагчы, Янак нібыта прачнуўся, міжволі ўздыхнуў, зірнуў на апусцелае ад журавоў і дзівосных пабудоў неба і пайшоў на жончын голас, мармычучы сабе пад нос: "Не нужен мне берег турецкий, и Африка мне не нужна…"

## ПАРУШАНАЕ ВЯСЕЛЛЕ

Мінула сорак дзён як памёр Раманаў бацька. Разам з сяльчанамі родзічы сходзілі на могілкі, пастаялі каля ягонага апошняга прытулку, памаўчалі, паўспаміналі, прыгубілі па кроплі магазіннага напою і паразыходзіліся - жывым дбаць пра жывое.

Гэтым днём усе сыны з нявесткамі, дачка з зяцем і ўнукамі засталіся на начлег у бацькоўскай хаце. Каб скрасіць адзіноту маці і духам родным падсілкавацца.

Раману ж заманулася перабраць бацькавы паперы. Даўно хацеў, ды стрымлівала маці: не час. Хоць якія там паперы - за дзесяткі гадоў сабраныя квіткі аб уплаце падаткаў і стрыховак. Ён безуважна перабіраў нікому непатрэбныя фінансавыя сведчанні гісторыі жыцця вялікай сялянскай сям'і. У кожнай хаце іх, напэўна, цэлыя пукі. Прывыклі абачлівыя сяльчане хаваць любую паперку: на ўсякі выпадак.

Быў тут і добры жмут даўніх аблігацый, бо і на гэта даводзілася траціць мазольную капейчыну. Да таго ж - "добраахвотна". А цяпер хоць у печ - каму патрэбны такія грашовыя зберажэнні.

З цікавасцю разглядваў Раман франтавыя трохкутнікі. Гэта бацькавы пісьмы, калі той пасля вызвалення ад немцаў пайшоў у савецкае войска. А вось ордэна і медалёў тут не было, відаць, у іншым месцы ляжаць.

Раман разгарнуў звычайныя школьныя сшыткі, складзеныя папалам. У іх малапісьменны бацька засведчыў сваё працоўнае стараннe. Дзень за днём, з году ў год няўмелай рукой і амаль друкаванымі літарамі запісваў: калі, дзе і што рабіў у калгасе. Араў, малаціў, касіў, сеяў... Араў, малаціў... Выхадных было балюча мала.

Нечакана вока зачапілася за канверт з традыцыйным навагоднім малюнкам савецкага часу. О, гэта нештачка новае сярод аднастайнасці квіткоў. Яшчэ больш здзівіў надпіс: "Пасля смерці"... З нецярпеннем і хваляваннем разарваў канверт: што і каму адрасаваў бацька пасля смерці?

На лісціку ў клетачку знаёмым почыркам было выведзена: *"Сымон з Загрушша ўдаў мяне ў сорак чацвёртым"*. І больш нічога.

Рамана як варам абдало. Вось якую таямніцу праз усё жыццё хаваў бацька! А яны ж і так, і сяк, і на цвярозую галаву, і пад чаркай выпытвалі ў яго, ці ведае, хто "паспрыяў" яму адведаць нямецкай бярозавай кашы ў нясвіжскім карцары. Ды "цвёрда трымаўся юнак на дапросе..."

Гэтулькі часу насіў у сабе боль! Але чаму боль? Мо спагаду? Ці дараванне. А мо грэблівасць да здрады і помслівасці? А мо проста

дзяцей сваіх шкадаваў?

Раманавы развагі паплылі следам за трагічным фактам сямейнай біяграфіі. Бацька не часта расказваў пра тое здарэнне. Яно ледзь не каштавала яму жыцця. І тады не засталося б ні гэтага пісьма, ні сына, каб яго прачытаць, ні братоў і сястры, каб паслухаць журботны бацькаў аповяд. Адно маладая ўдава, якая не паспела і жонкай пабыць. Расказваў ён з гумарком, не жаласна, а наадварот - як бы з нейкай знарочыстай ажыўленасцю, прымружаным вокам пазіраючы на слухачоў.

- Зося, а Зося, дак ты пойдзеш за мяне? - у каторы раз пытаўся Сцяпан і цікаваў за рэакцыяй дзяўчыны.

- За цябе? Карча старога? - таксама звыкла адказвала Зося і дадавала: - Паўку вазьмі. Яна табе пара. На дваіх сто гадоў будзеце мець.

- Не сто, - папраўляў Сцяпан, - а сто тры. Ёй жа семдзесят. А ты і праўда малая, калі да ста лічыць не ўмееш...

- Малая - не малая, а твой Петрык яшчэ да вайны з ігрышчаў праводзіў. І замуж узяць хацеў.

- Не нацкоўвай брата на брата. Ён меншы, калі папрашу - саступіць. Ды і на вайне ён...

Далей за такія жарты-перапалкі справа не заходзіла. Не да вяселляў было: каторы год пад немцам і Нясвіж, і іхні хутар Язавец, як і ўся Беларусь. Хоць, відаць, нядоўга яму тут паскудзіць. Усё мацней і гучней грукоча на ўсходзе. А адтуль машыны з чырвонымі крыжамі вязуць і вязуць параненых гітлераўцаў - у Баранавічы ці мо яшчэ далей.

Хутарскі палітык дзед Ігнась як адрэзаў:

- Да восені спрындзіцца фашыст. Не вытрымае нашага напору...

Але перш чым спрындзіцца, немцы разлютаваліся не на жарт. Не адно харч вымятаюць з і без таго пустых гумнаў ды скрыняў, на людзей пачалі паляванне. Ловяць па вёсках і мястэчках моладзь і ў Нямеччыну вывозяць.

- Няма каму ім снарады кляпаць, - зноў падвёў сваю базу дзед Ігнась. - Перабілі мы іхніх гансаў, цяпер, як той казаў, мусім самі сабе смерць вырабляць...

- Ат, сціхні ты, стары вяшчун, бо і праўда накаркаеш. Пабяруць нашых дзетак, - сварыліся на яго мацяркі, у якіх адно дзеўкі і засталіся ў хатах. Не хапала, каб, крый Божа, і сапраўды абязлюдзела жытло.

Аднак чуткі на хутар даходзяць змрочныя. Там зрабілі аблаву, там ранічкай усіх маладых з хат пазабіралі, там загадалі бацькам прывесці "на перапіс" паўнагадовых дзетак...

Ды нехта прынёс ратавальную вестку: нібыта не бяруць немцы тых, хто замужам. Ці было тое праўдай, невядома. Але невялікі хутар Язавец - каля двух дзесяткаў хат і вакольныя вёскі пачалі часта перагуквацца буханнем барабана ды пералівамі гармоніка. Баронячы жыццё, хапаліся за саломінку. У спешцы, аднак, не парушалі здаўна заведзеных звычаяў. Былі і заручыны, і сваты, і запоіны - усё як мае быць. Бо вяселлі ж не прывідныя спраўлялі, а на ўсё жыццё - каб разам ажно да магілы. А калі яна пакліча, то хто ж яго ведае.

- Давай, дачушка, і ты засцярогу прымі, - неяк падчас снедання папрасіла маці Зосю.

- Якую засцярогу? - здзівілася тая.

- Каб у Германію не забралі.

- Дак мне што - у лесе схавацца? Малы, з кустоў відаць будзе...

- Не выдурняйся, ведаеш пра што я, - казала маці. - Вунь і Нюра Мікалаева бярэцца з Валодзікам Паўлавым. А да цябе ж даўно Сцяпан Кіневіч падлабуньваецца. Бачу я...

- Ну і сказала! - запярэчыла Зося. - Ён жа на дзесяць гадоў старэйшы. Я што яго - на печ падсаджваць буду?

- Ну то будзеш немцам смаркачы падціраць, калі забяруць, - злавалася маці. - Або на заводзе якім спіну гнуць прымусяць...

Зося адчувала рацыю ў гэтых словах, але не адважвалася прыняць рашэнне: страшна, калі немцы забяруць, але ж і Петрык лепшы за Сцяпана, амаль гадок яе...

Аднак і сама добра напужалася, калі аднойчы досвіткам з Загрушша, вялікай вёскі, што бліжэйшая да іхняга Язаўца, прыляцела збялелая сяброўка Жэня і дрыготкім голасам выпаліла:

- Ой, Зосечка, што робіцца, што робіцца! Усіх дзяўчат і старэйшых хлопцаў палавілі паліцаі. У Нясвіж павязлі. Казалі, адправяць у Германію...

Ужо не толькі маці, а меншыя Воля з Саняй цвярдзілі адно і тое ж: ідзі замуж, ды ідзі замуж, калі з намі жыць хочаш...

- Зараз палячу, - агрызалася Зося. - Хапае мяне нехта за ваш замуж...

Як там было і што, невядома, але праз два дні да Зосі пасватаўся Сцяпан.

Перад вянчаннем у Сноўскай царкве адны вясельнікі сабраліся ў Сцяпанавай хаце, другія - у Зосінай. Прапусцілі па чарцы і пад гармонік Васіля Пулікоўскага Сцяпанавы госці перабраліся да маладой. Убралі стужкамі коней, паселі на падводы, каб рушыць у Сноў - вянчацца.

- Во-во, акурат цяпер немцаў і не хапае, - змрочна пажартаваў нехта. - Самі сабраліся, самі на коней паселі. Не трэба ніякага клопату - проста ў Берлін і рванём...

- Сціхні ты, балаболка, каб табе зарвало, - накінулася Зосіна маці. - Дабрэшашся. Цябе як чалавека запрасілі, а ты вярзеш абышто.

Але і па дарозе ў царкву, і калі вярталіся назад, не пераставалі цікаваць за дарогай: каб і праўда якія гіцлі ў нямецкіх фрэнчах не выскачылі.

А ў хаце маладое адпусцілі тармазы: гулялі, спявалі, весяліліся як і некалі, за Саветамі. Добра, што чэрвеньскія ночы цёплыя - ледзь не да самае раніцы тамілі ногі і Васілёў гармонік. Заадно яшчэ раз ацанілі хутарскія перавагі: вёска далёка, не чуюць ні немцы, ні паліцаі. Не прымчацца на пах самагону.

Ды пралічыліся аптымісты.

- Уставай, сынок, я ўжэ аладак напякла. Пастынуць, - будзіла маці Сцяпана. - І госці паўставалі ўжэ. Паснедаем і да маладое пара. Каб не запазніліся каравай дзяліць. Бо тады на дас позно прыедзеце.

Сцяпанавы госці, якіх ён прывёў на начлег дамоў, і праўда ўжо нецярпліва тапталіся па надворку: мучыла вядомая мужчынская хвароба: смага. Праз хвілю яны ахвотна падсілкоўваліся аладкамі, мачалі іх у вялікую скавараду з натопленым здорам, заганяючы самагонкай. А ў сенях раптам трывожна замітусілася Сцяпанава маці.

- Праходзьце, праходзьце, - таропка паўтарала яна. - Мы толькі за стол селі. Позно снедаем, бо позно спаць клаліся...

- Ну, чаго прыціхлі? - знарок гучна прамовіў адзін з нечаканых наведнікаў. - Самі п'яце, а нам не даяце? Непара-адак, та-скаць, - апошія словы трэба было разумець як "так сказаць".

- Дак мы што, - разгубіўся Сцяпан. - Запрашаем... - Сярод прышлых паліцаяў ён пазнаў сваіх гадкоў - Паўла і Косціка з Загрушша, ведаў Ваціка і Геніка з Ліпы - некалі разам на танцах польку адбівалі, ды і цяпер часам на ігрышчах сутыкаліся. Яшчэ двое былі невядомыя.

- Ага, запрашаем, - паўтарыла адразу некалькі галасоў. - Сядайце, хлопцы. Во і шклянкі пустыя ёсць...

- Нязваны госць горш за... - хацеў ціхенька прашаптаць нехта з застольнікаў, але набрынялы ўчарашнім пачастункам голас выбухнуў як у бочку.

Сцяпанава маці моцна таўханула гаваруна ў плечы, а меншыя сёстры падскочылі да няпрошаных гасцей і наперабой пачалі клікаць за стол.

Пакуль госці - і вясельныя, і самапрышлыя - кулялі за здароўе маладых, Сцяпанаву галаву свідравала адно: "І чаго раптам прыперліся? З рулямі сваімі. Ды так рано? Не просто ж выпіць захацелася?" Ён час ад часу зіркаў на Косціка - старэйшага сярод іх не па гадах, а па пасадзе, хоць якая яна ў яго, то чорт з ёй разбярэцца. Але той, здавалася, быў спакойны, піў і закусваў як не ў сябе.

"А мо і праўда рашылі выпіць на дурніцу? - супакойваў сябе Сцяпан. - Не забяруць жа мяне ў тую клятую Германію. Не тыя гады. Ды і здароўя няма, праз гэто і ў савецкае войско не ўзялі. Інвалідам прызналі. Белабілетнік. Косцік ведае. Але ліхо іх знае, што ў іх наўме..."

- Ну, дак мо, хлопцы, вы з намі і да маладое пойдзеце? - спытаў Сцяпанаў сват Юрак, калі ад Зосі прыбег яе брат з запросінамі прадаўжаць вяселле.

- Можам, та-скаць, і пайсці, - за ўсіх адказаў добра падагрэты Генік.

Ішлі сцежкай, што вілася між высокага ўжо жыта. А за імі, нібыта падглядвалі, цікавалі блакітнымі вочкамі васількі. Кожны з двух гасцявых бакоў баяўся нечаканасцяў. Адны - што паліцаі пачнуць нешта рабіць. Другія - што найбольш гарачыя госці стануць разбягацца. Так з узаемным наструненым чаканнем і прыйшлі на двор маладое. Косцік нават букецік валошкаў нарваў для нявесты.

Там, калі ўбачылі нечаканае шэсце на чале з узброенымі паліцаямі, ледзь не ўтрупелі. Асабліва Зосіна маці і сёстры. Каб зняць разгубленасць, гарманіст Васіль на ўсе мяхі рэзнуў звыклы тут марш "Прощание славянки". Але гэта толькі паддало жалю і трывогі. У многіх нагарнуліся слёзы.

Зосіна маці кінулася запрашаць за сталы, балазе, усё ўжо выстаўлена.

- Ага, просім, усіх просім, - шчыравала Зося ў спадзеве гарэлкай прыгасіць страх запрошаных гасцей і прытупіць пільнасць няпрошаных.

Але няпрошаныя вагаліся. Косцік падыйшоў да Сцяпана, нешта пашаптаў яму. Той маўчаў, але было бачна, як збялелі шчокі, нават ад вушэй адхлынула кроў. Пасля паклікаў Зосю, схіліўся да вуха. Яна як закрычыць:

- За што-о? Не аддам! Не пушчу!

- Ціха, дачушка, ціха, - намагалася супакоіць маці, хоць у самой халодны пот плыў між лапатак.

Разумеючы, што зараз можа пачацца непапраўнае, Косцік закрычаў:

- Спакойна! Спакойна, та-скаць, паны-таварышы! Вас мы не чапаем. З намі пойдуць Сцяпан, Васіль, - ён тыркнуў пальцам на маладога і на гарманіста. - Дзед Ігнась...

- Дзед Ігнась? - жахнуўся нехта з гасцей. - Яму ж за семдзесят!

Косцік нібыта не пачуў.

- І Мікалаеў Мішка, - дадаў Косцік. Гаварыць яму заміналі крыкі, плач і галашэнне.

- Дайце хоць вяселле дагуляць... Хіба ж вы нелюдзі?

- Хай каравай падзеляць...

- Малады ж нават не пераспаў з маладою...

А Васіль, як бы ратуючы сітуацыю, паправіў на плечуках рамяні і на ўсю гармонікаву моц зноў рэзнуў марш. Усё тое ж "Прощание славянки". Галашэнне набрала моцы, пачалася мітусня, гучалі праклёны, просьбы...

- Перастань, Васіль, душу рваць. Не выціскай у людзей слёзы, - папрасіў Сцяпан. - Урэж лепей польку. Мо апошнюю...

Сцяпан узяў Зосю, і маладыя закружыліся ў танцы. Спачатку вытанцоўвалі няспешна, спаважна, як бы з одумам, затым усё хутчэй і хутчэй, пакуль у шалёным кружэнні перад вачыма не замітусіліся твары, будовы, платы.

Хісталася зямля, на яе навальвалася неба, падалі ніц дрэвы, а полька віравала. Тупацелі па выплесканай нагамі - хоць кацiся - сцежцы, хромавыя боты, чапляліся за стырчакі скошанай травы дзявочыя туфелькі, а полька не збаўляла тэмпу.

Веерам разляталіся спадніцы і сукенкі, паляцелі з плячэй кавалераў фрэнчы, а полька набірала сілы. Яна нібыта прыняла ўвесь адчай, усю нечаканую тут злосць і горыч, выплюхнулася нястрымнасцю і неўтаймоўнасцю - як толькі вытрымліваў Васілёў гармонік.

- Кола ўлева...

Памяняліся патрнёрамі, і зноў полька з прытупамі адчайна дратавала ўтравелы надворак, як бы некаму за нешта помсціла.

І раптам нехта спатыкнуўся, нібы на перашкоду напароўся. Паляцеў потырчу. Гэта ў Сцяпана адарвалася з грудзей прышытая кветка, пад ногі ўпала. І першы шафер, каб не наступіць, крутнуў партнёрку ўбок, сутыкнуўся з іншай парай, не ўтрымаўся. Але імгненна падхапіўся, ногі самі справіліся са збоем. Танец ані сцішыўся, ані замарудзіўся.

- Кола ўправа...

Адно толькі Сцяпанава маці жахнулася: "Ой, кепска будзе!", прыціснула да рота патрэсканую руку з невыводнай пазелянеласцю ад лебяды, а другою ціхенька перахрысціла сына: "Хай беражэ цябе

Бог, сыночак!"

Па-заліхвацку, як ашалела, скачуць маладыя. Мільгацяць у вачах вясёлыя чарцяняты. Зацятасць і радасць на разгарачаных тварах.

- Кола ўлева...

Самотна пазіраюць на маладых мацяркі і старэйшыя госці. Але і ў тых, і ў тых слёзы з вачэй коцяцца. Ды не звяртаюць на іх увагі танцоры - за пот выдаюць. Бо - вяселле ж. А на вяселлі толькі вясёлыя скокі...

- Усё, хопіць, та-скаць, - нечакана спыніў музыканта Косцік. Хоць каня ў галопе не адразу стрымаеш, ды імгненна аціхла музыка, таропка разыходзіліся з кола задыханыя вясельнікі. - Вядзіце, бо познімся, - загадаў сваім паплечнікам, а сам пачаў суцяшаць: - Не галасіце, та-скаць, іх за сведак клічуць. У Баранавічы. На адзін дзень. Пакуль вы падзеліце каравай, яны вернуцца...

Канчаць вяселле давялося адной Зосі. Ды якое гэта ўжо было вяселле - без маладога, без музыкі, без настрою і з невядомай будучыняй. Гадалі, за што пабралі, хто ўдаў, што далей будзе. Ніякай віны не знаходзілі. Партызанам памагалі? Дык хто ім не даваў хлеба з салам альбо не хаваў на сваім гарышчы? Нехта ў Савэраве цягнік пусціў пад адхон? Дык напэўна ж не дзед Ігнась. Некалі кокнулі ў жыце трох адсталых ад сваіх немцаў? То даўно ж было, пасля таго ўжо некалькі паліцаяў мусова з жыццём развіталіся.

Нічога госці не прыдумалі, папрасілі адразу ж дзяліць каравай - хуценька паадавалі свае капейчыны, дарункі і порстка па хатах паразыходзіліся: крый Божа, адумаюцца, вернуцца, яшчэ некага забяруць...

- Мне б да начальніка вашага, - плакала, адно і тое ж паўтараючы, Зося. Але далей за дзверы яе не пускалі. - З вяселля я. Вось і самагонкі з кілбасой прынясла. Са свайго вяселля, - паказвала пярсцёнак. - Не дагулялі. З-за стала забралі мужыка, - яна ўпершыню вымавіла гэтае слова, і нешта ажно ёкнула ўсярэдзіне. - Ніхто не ведае за што. Сцяпанам завуць. Сцяпан Кіневіч. З Язаўца. Яго Косцік, паліцай з Загрушша забраў...

За адзін дзень пешкі дайшла Зося да Баранавіч - амаль дваццаць кіламетраў. Ногі падбіла, знясілела ад трывогі, а ёй ніхто нічога сказаць не можа. Усе на немца-начальніка спасылаюцца. Вось да яго і прагне дабіцца Зося. Ужо і гарэлкай частавала не аднаго, і гасцінцамі з вясельнага стала, а толку ніякага. Нарэшце нехта з паліцаяў злітаваўся:

- Няма тут твайго Сцяпана. У Нясвіжы ён. У былой савецкай турме.

"О, Божухна! Гэта ж яшчэ амаль сорак кіламетраў! На носе ноч, хадзіць забаронено... За што ж я вам амаль усе каравайныя грошы аддала, каб вы папухлі?"

- А мо і ў Гародзяі Сцяпан, - пасеяў сумненне іншы. - Я чуў, што туды павязлі арыштаваных...

- Ты не перажывай, Сцяпан, і не таіся, - суцяшае праз перакладчыка камендант. - Мы ўсё ведаем.

- Нічога вы не можаце ведаць, - даказвае сваё Сцяпан. - Бо і не было нічога.

- Калі б не было, не быў бы і ты тут. Нам Сымон Козел усё чыста пераказаў. І пра партызан, і пра твае паходы на чыгунку. Не адбрыквайся, ведаем, што начуюць яны ў вас і харч ад вас маюць...

Камендант пералічвае Сцяпанавы грахі, а той намагаецца ўспомніць: хто ж гэты даносчык?

"Сымон Козел... Козел... Ага, - раптам прасвятлела ў галаве: - Казёл, а не Козел... Сымон з Загрушша. Бач, Козелам стаў. Цьфу, Казлом ты быў, Казлом і застанешся... А помслівы ж, халера. Дараваць не можа, што некалі я разбіў яго гвязду. Падчас калядавання. Напіўшыся, ён пачаў чапляцца да нашай кампаніі, абражаў дзяўчат, адабраў мех з накалядаванымі каўбасамі. Каб супакоіць задзіру, я хацеў трэснуць па яго галаве. Але ён прыкрыўся гвяздай. Не вытрымала яна, парвалася. А цяпер вось не вытрымаў ганарысты Сымон. Ну што ж, няма ў яго доказаў. Не нашай кампаніі Казёл..."

- Прызнаешся - адразу адпусцім, яшчэ паспееш на сваё вяселле, пакаштуеш караваю, - усміхаецца камендант.

- Не прызнаюся, бо няма ў чым, - адно і тое ж цвердзіць Сцяпан. А сам бакавым зрокам бачыць, што за спіной стаіць вярзіла, у якога пудовыя кулакі ажно свярбяць. Але як толькі адвядзе руку і запытальна зірне на каменданта, той адмоўна круціць галавой.

Сядзіць Сцяпан перад немцам, чакае прысуду, а самому нечакана дзіцячая гульня на памяць прыйшла.

"Адгадай, у якім вуху звініць?"

"У левым".

"Не адгадаў - у правым".

У яго ж раптоўна зазвінела і ў левым, і ў правым. Бо смальнуў усё-ткі вярзіла, не стрымаўся, гад. Кулакі ж, відаць, трэніраваныя. Такі звон у галаве, што аж вочы на лоб лезуць. Толькі камендант лаяцца на вярзілу пачаў, жывадзёрам называе, грубым малатабойцам.

Адвялі Сцяпана ў камеру. А там дзед Ігнась, Васіль, Мішка і шмат-шмат іншага народу. Усім адно і тое ж абвінавачанне - шкодзілі

немцам, якія вызваленне прыняслі.

"Ага, вызваленне... Хіба што ад жыцця, -- думае Сцяпан. - Вунь колькі пахаванак папрыходзіло на хутар, у суседнія вёскі. А ў Загрушшы сам бачыў, як вешалі хлопцаў - за партызанку. Цяпер нас вызваліць хочуць... Вызваліцелі знайшліся, мацъ вашу... Але калі ў вас такія стукачы, як Сымон, то трасцу вы што-небудзь ведаеце..."

З кожным днём нарастае вастрыня допытаў. Ужо і камендант паблажлівасць страціў. Зламалі руку Мішку. Старому Ігнасю, сабакі, расквасілі нюхаўку. Нават Васілю, якога тут найлепш ведаюць, бо часта граў на іхніх выпівонах, і то добра рэбры пералічыў той вярзіла.

А за турэмнымі сценамі з кожным днём грукат франтавы мацнее. Па начах зарывам пажараў бліскае закратаванае аконнае шкло: савецкія самалёты бамбяць ворага.

- Але каб і нас часам не зачапілі, - перажываюць вязні. - Бо хіба ноччу разбярэш, дзе немцы, а дзе свае.

- А днём хіба відаць, што ў гэтай турме ты сядзіш, а не немец з паліцаем? - змрочна жартуе іншы. - Хіба што кальсоны свае выстаў, каб пазналі...

- Жарты жартамі, а і праўда можам загінуць, - цвяроза разважыў Сцяпан.

Гуртам вырашылі: калі чарговай ноччу пачнецца бамбёжка, выламім краты і рванём на вуліцу. Горай не будзе. Бо ўсё адно кожную ноч варанок наведваецца. Да раніцы не ведае перадыху. Пусцеюць турэмныя камеры. Люцеюць немцы. Дрыжаць ад страху за свой лёс паліцаі. А таму выслужыцца стараюцца, б'юць сваіх не горай за немцаў.

У роспачы вярнулася Зося дадому. У хаце цьмяна гарэла карасінавая лямпа.

- Усё, мама, няма нашага Сцяпана.

- Сплюнь, дачушка. Што ты гаворыш? - перахрысцілася маці.

- Няма, бо не кажуць дзе. У Баранавічах няма. Адны ківаюць на Нясвіж, другія - на Гародзяй. Усе грошы вясельныя аддала, а не выкупіла. Брэшуць...

- Сціхні, дачушка. Трэба шукаць, - уздыхнула маці. - Мо хоць хто з забраных знойдзецца.

- Я не ведаю, куды кінуцца. Ды і страшно адной па немцах гойсаць...

- Папросім Шуру, сястру Сцяпанаву. Яна казала, што пойдзе.

Раптам у акно нехта пастукаў. Маці насцярожылася.

- Сцяпан! - кінулася да дзвярэй Зося. Ды маці заступіла дарогу:

- Я сама выйду.

Яна адсунула засаўку ў дзвярах і адступілася, прапускаючы на святло чалавека.

- Смелая вы, цётка Волька, - замест прывітання прамовіў прышлы. - Адразу дзверы адсоўваеце...

- А чаго нам баяцца. Нікога ж не забілі. А горай не будзе... Мы думалі...

- Ведаю, што Сцяпана чакаеце, - перапыніў начны госць.

- Мама, хто там? - падышла Зося. - А-а, Сымон, - прамовіла расчаравана.

Маці з Сымонам з Загрушша ўвайшлі ў хату.

- Чаго так позно? - спытала Зося. - Каменданцкая ж гадзіна ўжэ...

- Мне можна. Ды і не бачыў ніхто.

- З чым жа ты прыйшоў, Сымонко? - трывожна запытала маці. - Мо што пра Сцяпана пачуў?

- Чуў. У Нясвіжы ён.

- Адкуль ты ведаеш? Кажуць, мо ў Гародзяі, - не згадзілася Зося. - Мне ніхто нічога толкам не сказаў.

- Калі кажу, ведаю. Заўтро гатоў з табою пайсці. Мяне там усе ведаюць.

- От добро, - усцешылася маці. - Схадзі, дзіцятко, - папрасіла дачку.

Зося насцярожана зірнула спачатку на маці, пасля на Сымона. Дзяўчаты добра ведаюць ягоны юрлівы і памаўзлівы характар. Не адну да сораму давёў. А тут яшчэ маці прапанавала:

- А ты ў нас пераначуй, Сымонко. Заўтро раненько і пойдзеце. Скарэй будзе.

- А дзе ён ляжа? - трывожна запярэчыла Зося.

- Нічого, я і на лаве лягу, - таропка згадзіўся Сымон.

Усю ноч Зосіна маці не звяла вачэй. То прыслухоўвалася, то выходзіла ў сені - нібыта па малой патрэбе. А сама цікавала, ці ляжыць на лаве нечаканы госць.

Ранічкай да Зосі прымчаліся Сцяпанава маці і сястра Шура. Павойкалі, пабедавалі і рашылі, што Шура разам пойдзе.

Сымон незадаволена скрывіўся:

- Вялікай кампаніяй цяжэй будзе да начальства даступіцца. І ў турму.

- Нічого, затое ў дарозе смялей, - суцяшалі мацяркі.

Па дарозе Сымон увесь час каля Зосі трымаўся. Расказваў, які злосны і дапытлівы нясвіжскі камендант, як моцна ахоўваецца турма. Шура ж наравіла знарок ушыцца між імі, каб адцясніць Сымона.

Калі выйшлі на шашу, ён прапанаваў:

- Давайце раздзелімся. Мы з Зосяй пойдзем у Нясвіж, а Шура ў Гародзяй.

- Чаго? - здзівілася Зося. - Ты ж казаў, што Сцяпан у Нясвіжы.

- Казаў. А мо за гэты час яго ў Гародзяй перавязлі?

- І што я буду рабіць у Гародзяі? - спытала Шура.

- Забярэш Сцяпана і на Язавец вернешся.

- А хто мне аддасць яго без цябе?

- Але траім небяспечна ў Нясвіж заяўляцца, - палохаў Сымон.

Нечакана ён схапіў Зосю за руку:

- Скажы, Зося!

Тая неўразумела зірнула на Сымона, на прыдарожныя прысады і злосна выхапіла руку.

- Зося, пачакай, не спяшайся, - угаворваў Сымон. - А ты ідзі, - - кінуў Шуры. - Мы дагонім.

- Пусці, Казёл! - рэзка прамовіла Зося і вырвалася з рук. - Вось якая твая помач? Сыдзі з вачэй, плюгавец. Бо абязвечу.

- Зося, Зося, - паўтараў Сымон.

- Сціхні, памочнік драны. Вон адгэтуль, каб не смярдзеў! Бач, дадумаўся! - страх дадаваў сілы і рашучасці. - Абыдземся і без цябе, казёл смаркаты.

- І праўда, шуруй ты адгэтуль, пакуль цэлы, - уставіла сваё Шура, але больш спакойна. - Абыходзіліся без цябе, курашчуп, і цяпер абыдземся. Лепей ідзі...

Дзявочая незгаворлівасць астудзіла Сымона. Ён не рашыўся нахабнічаць, плюнуў і збочыў з шашы.

- Ну і чорт з вамі. І з вашымі партызанскімі паслугачамі. За дурною галавою нагам бедным. Звяжыся з баб'ём, то клопату не абярэшся. Задушыцеся вы, - і схаваўся ў маладым прыдарожным ельніку.

Ні з чым вярнуліся на Язавец Зося з Шурай. Не даступіліся да Сцяпана, хоць абабеглі ледзь не ўсё нямецкае начальства. Не даведаліся нават, ці жывы. Галашэннем сустрэлі іхні расказ свацці, аднак не пераставалі адна адну супакойваць.

- Не плач, мая ты свацейка, - суцяшае Сцяпанаву маці Зосіна. - Мы і без таго наплакаліся за вайну. У нашых слязах утапіліся б не адно германцы, а і ўсе іхнія клятыя памагатыя.

- І ты не плач, свацейка, - адказвае Сцяпанава маці. - А кажаш ты праўду - наплакаліся на ўсё жыццё. Каб напаіць іх нашымі слязамі, то патруціліся б, падохлі б...

І абедзве зноў зайшліся ў галашэнні.

Ночы на пачатку ліпеня былі асабліва неспакойнымі. Акрамя паветраных налётаў горад абстрэльвалі "кацюшы", гарматы і бог ведае што яшчэ. Сцены турмы ажно ходырам хадзілі. А варанок не спыняў сваіх ходак. Забралі Мішку - аднаго са Сцяпанавых спадарожнікаў. Напружанне было гранічным. Рашучасць вязняў таксама.

Нечакана дзверы адчыніліся.

- Іван, Васіль, дзед Ігнась - на выхад, -- загадаў Косцік, той, што прывёз іх сюды.

- Бывайце, хлопцы, - прамовіў на развітанне дзед Ігнась. - Калі хто ацалее, перадайце нашым, каб ведалі, дзе мы былі.

- І вы таксама перадавайце, - пачуліся галасы.

- Давай, давай, не хлюпай носам, - падганяе паліцай.

- Надаваўся за жыццё. Як той казаў, не палохай, - выявіў нечаканую храбрасць дзед Ігнась.

Вязняў пасадзілі на падводу і вырушылі на баранавіцкую шашу. Неба на ўсходзе ірдзела бляскамі далекаватых яшчэ выбухаў. Ехалі моўчкі. Кожны думаў пра сваё, але ўсе разам пра адно і тое ж - як уратавацца.

Каля павароту на вёску Малева паліцаі спыніўся.

"Усё, капцы, - пранеслася ў Сцяпанавай галаве. - Але проста так не дамося. Памалоцім і іх. І рулі іхнія адбяром. Іх жа ўсяго двух".

Сцяпан непрыкметна таўхануў Васіля. Той згодна кіўнуў галавой.

- Ідзіце… Дадому ідзіце, - нечакана прамовіў Косцік. - Няма часу з вамі важдацца.

"Ведаем мы вашыя хітрыкі, - падумалася Сцяпану. - Страшна ў вочы пазіраць. Хочаце ў спіну кулю ўсадзіць, маць вашу..."

- Давайце, толькі порстко. І не азірайцеся, - пачаў падганяць Вацік.

- Ага, дам я вам порстко, - не стрымаўся дзед Ігнась.

- Не пеpажывай, дзед, - супакойвае Васіль. - Мы паможам. Бывайце...

- Назаўсёды бывайце, та-скаць, - адказаў Косцік. - І пастарайцеся больш не мазоліць вочы.

"Патрэбныя вы нам, як сабаку блохі..." Вязні нерашуча тапталіся, баючыся нечаканага стрэлу ў спіну.

- Чаго марудзіце? Ну, бяжыце ж, сукі! - не вытрымаў Вацік і націснуў на курок.

Куля грукнула аб камень шашы, зрыкашэціла і прасвістала каля самага Васіля. Усе ўцялі галовы ў плечы і паціху рушылі наперад.

- Сам ты сука, - войкнуў Васіль і пазіраў на кроў, што палілася

з кісці правай рукі. - Як жа я буду на гармоніку граць?

- І ўсе вы - сучыя дзеці. Нямецкае сукі, як той казаў! - дадаў дзед Ігнась. - Я ж гаварыў, што да восені спрындзіцца немец. Ажно і восені яшчэ няма, а вам ўжэ хэндэ-хохаўскі капут наступіў. Першы раз, як той казаў, памыліўся дзед...

Хутаранцы прыбавілі кроку. Але стрэлаў больш не было.

- Паехалі ў Малева коней набіраць, каб драпаць разам з немцамі, - выказаў здагадку Васіль...

- Мама, ці ведала ты Сымона з Загрушша? - нечакана спытаў Раман.

Маці чамусьці пабялела, вусны яе здрыгануліся і на пытанне адказала пытаннем:

- А нашто табе?

- Ды проста так, - схітрыў ён. - Чуў недзе гэтае імя...

- Ведала, сынок. Памёр ужэ. Пасля вайны быў недзе прапаў. Але потым вярнуўся ў Загрушша. Конюхам рабіў. Злы быў - як сабака. Нават коні не любілі яго. Неяк п'яны напаў на жарабка. А той падковай яму ў пах. Памучыўся колькі дзён і сканаў... А чаму ты пытаеш? - дапытвалася маці.

- Не, нічога. Проста згадалася, - адказаў Раман і схаваў бацькаву запіску ў кішэню.

## "ТАТКА, ПРЫЯЗДЖАЙ..."

Дзімка ўжо дзве гадзіны як ходзіць па дзедавай дачы. Хоць і не ўпершыню, ды яму тут заўсёды цікава. Шмат кветак, рознай гароднiны. А даўгалыгія гладыёлусы ажно большыя за трохгадовага Дзімку - ён сам мераўся з імі. Ёсць тут і ўвогуле нешта загадкавае і незразумелае. Вышэйшае не толькі за яго самога, а і за бабулю Веру. Нават дзед Сяргей выцягнутымі ўгору рукамі не дастае да круглай, аточанай жоўтым вянком, шапкі гэтай расліны. Бабуля называе яе сланечнікам і кажа, што ён у дзеда ўдаўся: такі ж высокі і худы. Але Дзімка ведае, што бабуля кажа няпраўду, бо дзед таўшчэйшы за гэтага велікана і шапкі такой не носіць. Бабуля ж дадае, што зімой гэты даўгалыгі велікан пачастуе ўсіх сваімі смачнымі семачкамі.

Дзімка і на гэты раз не надта верыць бабулі, бо дзе той сланечнік можа купіць семак? На дзедаву дачу не прыязджаюць жанчыны з вялізнымі мяхамі, якія прадаюць семачкі на мінскім рынку. Дзімка са старэйшай сястрычкй Ленай сам бачыў іх. Але з бабуляй ён не

спрачаецца: хай кажа, а ён пасмяецца зімой, калі сланечнік не знойдзе семачак.

У будынку Дзімку таксама не сумна. Там столькі сабраных дзедам цікавостак, што дагэтуль не можа ўсе перагледзець. Бывала, так захопіцца дзедавымі машынкамі, што не чуваць яго і не відаць. Тады бабуля знарок гучна і доўга шукае ўнука, прытворна пытаючыся ў Ленкі:

- Лена, Леначка, а ты не бачыла, дзе гэта наш Дзімка?

- Не, бабулечка Верачка, не бачыла, - сур'ёзна адказвае дзяўчынка.

- Ну гэты Дзімка, ну Дзімка, - не зразумець: ці то бабуля злуецца, ці то на свой недагляд наракае. - Ну проста Дзімка-невідзімка.

Тады Лена гучна смяецца і пачынае клікаць:

- Дзімка-невідзімка, хадзі сюды. Цябе сланечнік шукае.

Дзімка спачатку маўчыць, а тады шусь з другога паверха і да Ленкі. Ён прывык верыць старэйшай сястрычцы, яна часта заступаецца за яго.

Акрамя машынак Дзімка захапляецца дзядулевымі кніжкамі. Асабліва з малюнкамі. Такія ёсць і ў іхняй мінскай кватэры. Ён любіць слухаць, як чытае казкі тата. Ніхто не ўмее так, як ён. Нават мама, бывала, заслухаецца, завіхаючыся каля пліты і гатуючы для Дзімкі і ўсіх аднасямейнікаў вячэру. А гатавала мама заўсёды смачна. Дзімка ніколі не пакідаў на сваёй талерцы нічога не з'едзенага.

Вось толькі цяпер мама не заўсёды сама завіхаецца каля пліты. Апошнім часам яе часта не бывае дома. І тады кухарам становіцца хмуры тата. Але ў яго не атрымліваецца так смачна. Казкі ён чытае лепш, чым гатуе. Як спячэ яечню, то яе ніяк не могуць пажаваць Дзімавы зубкі. Тата тады хмурыцца яшчэ больш, злуецца, прымушае есці. Дзімка так стараецца не пакрыўдзіць тату, што ажно слёзкі дрыжаць на вейках. Старэйшая сястрычка хітрэйшая. Яна напхае поўны роцік, жуе-жуе тую яечню, а пасля шусь у туалет. А там смеццепровад. Яму ўсё адно, якая тая яечня. Дзімка ж лісліва просіць тату:

- А ты мне казку пачытай. Я люблю слухаць.

Тата хоць і не надта ахвоча, але бярэ ў рукі кніжку. Відаць, ён і сам захапляецца чытаннем, бо твар яго святлее, і пра яечню кухар ужо не ўспамінае.

На дачы ж Дзімка толькі гартае кніжкі, сам чытаць яшчэ не ўмее.

Цяпер жа ён захапіўся іншай справай. Ды так, што забыўся на ўсё і пра ўсіх. Не чуе нават, што яго бабуля шукае.

- А дзе гэта наш Дзімка-невідзімка? - пытаецца бабуля ў

Леначкі і хітра так пазірае на яе, быццам кажа ёй: "Ты ж ведаеш. Праўда? Ты ж большая за Дзімку - табе хутка пяць гадочкаў будзе".

- Не-а, бабулечка Верачка, не ведаю. Праўда-праўда, - хітае галоўкай у знак доказу ўнучка. І сама пачынае клікаць: - Дзімка, ну Дзімка, пакажыся.

Але маўчыць хлопчык. Не абзываецца. На другім паверсе дачы, які дзядуля называе незразумелым яму словам "мансарда", Дзімка знайшоў чарговую цікавостку. Гэта даўнейшы тэлефон-трубка. Калісьці быў рэдкім і модным. Бо з кнопачкамі. На іх цяпер і націскае Дзімка. Проста так. Цікава, як яны пстрыкаюць.

Папстрыкаў Дзімка, нібыта нумар нейкі набраў. Тады прыклаў тэлефон да вуха, быццам пачуць нешта захацеў. Але маўчыць трубка, не адгукаецца.

Дзімка пакруціў яе, паглядзеў на кнопкавыя лічбы. А тады зноў набраў нумар. Паднёс слухаўку да вуха. І ціха-ціхенька гаворыць:

- Алё, татка, вазьмі трубку, - шэпча ён, прыкрываючы тэлефон каля рота рукой, як запраўскі канспіратар. - Гэта твой Дзімка гаворыць.

Маўчыць тэлефон. Але Дзімка не спыняецца: мо не чуе татка. І ён крышачку гучней пачынае расказваць яму:

- Тата, я тут ужо дзве гадзіны гуляю. А цябе няма...

Маўчыць трубка. Ды не маўчыць Дзімка. Расказвае-жаліцца тату:

- Я гуляю тут, а цябе няма. Ты чуеш? Прыязджай, татка...

Не адзываецца слухаўка.

Не ведае бедны Дзімка ўсіх перыпетый, што апошнім часам захліснулі іхнюю сям'ю. Не разумее, дзе падзеліся ранейшыя згода ды лад, калі яны ўсе разам хадзілі ў парк, гайдаліся на арэлях, нават на аглядным коле падымаліся. Наведваліся ў звярынец, дзе шмат розных жывёлін, якіх Дзімка з Ленай толькі па тэлевізары бачылі. Адным словам, весела і радасна было ўсім разам.

А тады нечакана сталі нейкія дзіўныя рэчы адбывацца. То доўга мамкі дома не бывае, і таму тата злуецца і панура сноўдаецца па пакоі. А калі мама вернецца, нейкая стомленая, без усмешкі і ад яе не вельмі прыемна пахне, тата толькі злосна зірне, змаўчыць, пакуль дзеці не паснуць, а затым ужо дае волю словам: выгаворвае, на чым свет стаіць. Тая ж апраўдваецца, просіць прабачэння, абяцае, што ніколі больш не будзе такога. Але мінае час, і яе знікненне паўтараецца зноў.

Трываў-трываў Дзімкаў тата, а тады, відаць, каб напалохаць маму, сам знік. Доўга не было яго дома. Не толькі Дзімка з Ленай плакалі, мама, было відаць, турбавацца пачала. Калі ж тата вярнуўся, пры ўсіх рашуча прамовіў да мамы:

- Калі яшчэ раз паўторыцца твой загул, - Дзімка ніяк не зразумеў гэтага слова, не магла пазней патлумачыць і Лена, - я сыду.

Што азначала гэтае "сыду", дзеці таксама не зразумелі.

А калі тата перастаў начаваць дома, мама тлумачыла, што ён у ад'ездзе - у камандзіроўцы ў далёкім горадзе, нейкую складаную работу робіць. Дзімка сумаваў асабліва, бо перастаў чуць казкі, якія некалі так хораша чытаў тата. Мама ж часцей станавілася ўсё больш вясёлай, нават калі прычын для гэтага не было. Тады яна не толькі казак не чытала, а нават не гатавала вячэры, якую некалі так любіў Дзімка.

Дзеці ўсё часцей сталі бываць на дзедавай дачы. Дзед забіраў іх з горада на сваёй "Таёце" - Дзімка вельмі добра ведаў усе маркі аўтамабіляў, нездарма таму захапляўся дзядулевымі машынкамі. Хоць і не надта весела без таты і без мамы, ды ёсць чым час заняць.

Вось і цяпер Дзімка знайшоў сабе занятак, які мо дапаможа пачуць тату ці яшчэ лепей - убачыць яго. Размаўляе ён з тэлефоннай трубкай, спяшаецца сказаць тату самае галоўнае.

А знізу чуваць галасы бабулі і Леначкі: клічуць яго. Аднак Дзімка не выдае сябе, не адказвае. Як жа ён перапыніць размову з татам? Нельга. Трэба расказаць, як сумна Дзімку без яго. Так доўга не прыходзіў ён дадому і сюды не едзе. Няма каму кніжку пачытаць. Бабуля таксама ўмее чытаць, але ў яе не так хораша атрымліваецца.

- Прыязджай, татка. Я кніжку знайшоў, - падахвочвае Дзімка бацьку.

Маўчыць трубка. Не адгукаецца бацька. Не чуе сына. Дзімка пачынае гаварыць гучней. Гэты голас першай пачула бабуля. Яна па лесвіцы падымаецца на мансарду. Бачыць нечым занятага Дзімку і ўжо гатова паклікаць яго: "Ага, вось ты дзе, Дзімка-невідзімка..." Але нешта спыняе яе. Бабуля прыслухоўваецца.

- Татка, пачуй мяне. Гэта я, твой Дзімка. Я люблю цябе. І маму люблю. Прыязджай, татка...

Бабуля Вера ажно хіснулася, а потым ціхенька павярнулася і пачала асцярожна спускацца па драўляных прыступках: каб не зарыпелі, каб не напалохалі Дзімку. А ён усё трымае слухаўку каля вуха, чакае адказу. Вусны ж самі шэпчуць:

- Ты пачуеш, татка, ты прыедзеш. Праўда ж?

Бабуля заміргала вачамі хутка-хутка, каб стрэсці непатрэбную кропельку, якая нечакана затуманіла позірк. Тады падхапіла на рукі Леначку, пачала моцна-моцна цалаваць. Тая ж нічога не разумее, ашчаперыла бабулю за шыю і шэпча ёй на вуха:

- Бабулечка Верачка, я так люблю цябе. Як маму і тату.

- І я цябе, маё ты сонейка. І нашага Дзімку-невідзімку.

Пакуль яны цалаваліся-мілаваліся, з мансарды спусціўся Дзімка. Падышоў да бабулі і прызнаўся:

- Я званіў татку. Ён сказаў, што прыедзе, - зірнуў на Ленку і дадаў, ківаючы ў знак праўды галавой: - Праўда, прыедзе. Праўда ж, бабуля?

І пазірае ў яе вочы так пільна-пільна. У самога ж за вейку нечаканая слязінка зачапілася, а губкі самі па сабе скрывіліся.

Бабуля не паспела нічога прамовіць, як раптам адбылося нешта зусім нечаканае. Яна заўважыла, як Дзімка рашуча крутнуўся і кулём кінуўся да лесвіцы, што вяла на мансарду. На бягу ён моцна гукаў:

- Гэта татка звоніць! Татка звоніць… Я ж казаў!

Аказалася, што калі яны размаўлялі, зазваніў тэлефон. Мабільны, той, што ў бабулі. Дзімка першы пачуў гэты званок, кінуўся да свайго, што на мансардзе, тэлефона-трубкі. Ён нават не чуў, як бабуля спыняла яго:

- Дзімка, гэта мой тэлефон звоніць! Дзі-імка-а…

Дзімка не спыняўся. Ён з усіх сваіх трохгадовых сіл, дапамагаючы рукамі, карабкаўся па лесвіцы. Хутчэй туды, уверх, угару. Там жа тэлефон… па якім татка звоніць…

## ЯК САСНА З БЯРОЗАЙ ПАСЯБРАВАЛА
### *Казка*

Адбылося гэта ранняй вясной. Як толькі стала прыграваць сонейка, шышкі на лясной сасне з гладкіх і стройных сталі ператварацца ў шурпатыя і бухматыя. Адна лускавінка адставала ад другой, цягнулася насустрач сонцу. Тады ў цёмнай шышкавай глыбіні можна было ўбачыць маленькае чорнае зернейка. Дагэтуль яно хавалася ад прыродных нягод і цікаўных вачэй у цёплм і ўтульным доміку. Атуляла зернейка празрыстае крыло-ветразь. Калі ж сасну пачынаў хістаць ветрык, ветразь ажываў і варушыў зернейка.

І вось адно нецярплівае зернейка выпырхнула на волю, яму захацелася пагушкацца на ласкавых ветравых хвалях. Гэта ўбачылі іншыя. Што тут пачалося! Адно за адным з шышак выскоквалі ўсё новыя зернейкі. Іхнія крылы-ветразі мігатліва блішчалі на сонцы. Гарэза-вецер падхопліваў зернейкі ў свае далоні і веерам рассыпаў у паветры. Гэты мітуслівы клубок нагадваў патрывожаны пчаліны рой.

Неўзабаве тое першае зернейка адарвалася ад сваёй маці-сасны, ад роднага лесу і паплыло-паляцела ў далёкую далеч. Нечакана ветрык пачаў падымаць яго высока ўгару. Сэрца ў зернейка заходзілася ад вастрыні адчуванняў і ад сваёй уласнай здатнасці.

- Бывайце, родненькія, - закрычала яно. - Я лячу да сонца… Да самага сонца!

І мо з-за вялікай узрушанасці, а мо ад нечуванай радасці зернейка не пачула папярэджання сваіх аднапляменнікаў:

- Не спяшайся, зернейка. Не адрывайся ад зямлі. Угары вельмі горача, згарэць можна…

Але зернейка не чула іх. Яно ахвотна забаўлялася з ветрам. Вось зернейка над вялікім полем. Вось унізе заблішчала незвычайнае люстэрка.

- Гэта возера, - патлумачыў ветрык.

Затым унізе пачалі мільгаць шырокія асфальтавыя і вузейшыя палявыя дарогі. Зернейка бачыла вялікія вёскі, мітуслівыя гарады. Па вуліцах снавала шмат людзей. Многія пазіралі ў неба, засланяючы даланёю вочы ад сонца. Зернейку здавалася, што яны вітаюць яго, запрашаюць у госці.

І яно пачало апускацца. Ляцела так хутка, што ад страху ажно галава закружылася.

"Каб толькі не ўпасці пад колы аўтамабіля", - падумала зернейка.

Яму так захацелася папрасіць дапамогі ў сваіх сяброў, што стала азірацца навокал. Ды дзе ты ўбачыш іх, калі зернейка адляцелася мо на дзясяткі кіламетраў.

Але дапамог ратавальны ветрык. Ён падхапіў зернейка пад пахі, паклаў на сваё мяккае крыло і няспешна панёс над самай зямлёй. Супакоілася зернейка, пачало цудоўнымі пейзажамі любавацца. А тады нечакана папрасіла ў ветру:

- Адпусці ты мяне на волю. Хачу на зямлю, у свой лес, да маёй матулі сасны.

- Я то адпушчу, - адказвае вецер. - Але твая маці-сасна вельмі ж далёка адгэтуль.

- Нічога, як-небудзь дабяруся да роднага лесу.

- Ну глядзі, не пашкадуй, - адказаў вецер, сцішыўся і лёг адпачыць пад разложыстай ялінай.

Зернейка пачало апускацца. Ды не было лесу там, куды наважыла прызямліцца. Унізе чарнела асфальтам шырокая дарога, па якой насустрач адна адной імчала мноства вялікіх і малых машын. Спалохалася зернейка, пашкадавала, што адарвалася ад сваёй сямейкі.

А чорная дарога ўсё бліжэй. Усё больш гучна і страшна гудуць машыны.

"Ну, усё, - падумала зернейка. - Так недарэчна давядзецца загінуць".

Яно напружыла ўсе свае сілы, пахітала ў паветры ратавальным крылом-ветразем і заплюшчыла вочы.

А калі расплюшчыла, убачыла, што ляжыць на мяккай, хоць і высахлай за зіму траве. Зусім побач узвышаецца дзіўнае дрэва. Галінкі без іголак, кара белая.

- Не бойся мяне, я бяроза, - патлумачыла дрэва. - Нікому благога не раблю. Хоць і расту не ў лесе, а каля дарогі, выратую цябе. Калі ты, вядома, захочаш.

Згадзілася зернейка, паабяцала не адрывацца ад бярозы. Сцішылася яно, заснула, у сухую траву схаваўшыся і цесна-цесна да сваёй ратавальніцы-бярозкі прціснуўшыся.

Так мінуў не адзін дзень. Сонейка ўсё больш саграваля зямлю. Дажджавыя кропелькі яшчэ больш адбельвалі белую кару бярозы, шчордра палівалі зернейка. Неўзабаве на бярозе з'явіліся першыя клейкія лісточкі. Унізе зазелянела трава-мурава. Зернейка і не заўважыла, як моцна прыляпілася да зямлі. А калі захацела адарвацца, не магло. Аказалася, пругкі карэньчык прабіўся з зернейка і стаў урастаць у зямлю. Цяпер ужо, каб і захацела, не адлялелася б яно ад бярозы.

Неўзабаве на свет вылузаўся кволы сасновы парастак. Каля самай бярозкі. Усё вышэй клікала яго шчодрае сонейка. Ад ветру бяроза захінала.

"А мо і добра, што тут маё сховішча, - падумала зернейка. - Ніхто не крыўдзіць мяне, белая бярозка ад розных няшчасцяў аберагае".

Так мінуў адзін год, другі. Расце сабе сасонка, сілы набіраецца. Так цесна прыціскаецца да сваёй ратавальніцы, што і не адарваць.

А тады пачала сасонка ўслед за сонейкам сваёй галоўкай вадзіць, цяпло яго ловячы. Не заўважыла, як адзін раз абвіла бярозавы ствол, пасля яшчэ раз, і яшчэ, і яшчэ…

Неяк на шашы, што вядзе ў Нясвіж, спынілася машына. З яе выйшлі тата з мамай і іхні сынок Коля. Любуюцца бярозкай, яе густалістай кронай. А тады сынок як закрычыць:

- Тата, мама, паглядзіце, хто каля бярозкі расце!

Зірнулі тыя і надзівіцца не могуць: як гэта сасна так цесна вакол бярозы абвілася? Не ведаюць яны, што гэткім чынам маладая сасонка аддзячвае сваёй ратавальніцы, аберагае яе ад розных нечаканасцяў. Бо вядома, што ўдвух заўсёды лягчэй бараніцца.

Прызнаюся, што гэты цуд прыроды сапраўды знаходзіцца на дарозе Нясвіж - Гарадзея. Будзеш ехаць у Нясвіжскі замак, спыніся, падзівіся і моцы духу набярыся, сапраўднаму сяброўству павучыся.



# *Уладзімір Бруй*

*Уладзімір Дзмітрыевіч Бруй, нарадзіўся 8 жніўня 1948 года ў гарадскім пасёлку Гарадзея Нясвіжскага раёна.*

*У 1971 годзе закончыў Менскі дзяржаўны педагагічны інстытут замежных моваў, атрымаў дыплом перакладчыка англійскай і французскай моваў.*

*Жанаты, мае дзвюх дарослых дачок і траіх унучак.*

*З 1972 па 2002 гг. настаўнічаў у школах Нясвіжскага раёна.*

*З 2003 г. пэўны час працаваў перакладчыкам у Сірыйскай Арабскай рэспубліцы і заходнеафрыканскай рэспубліцы Гвінея (Канакры).*

*Першыя апавяданні (некаторыя пад псеўданімам Ігнась Адамскі) друкаваліся ў перыядычных выданнях, у прыватнасці, у газетах "Нясвіжскія навіны", "Настаўніцкая газета", у хрысціянскім часопісе "Благодать".*

*Некаторыя творы пад агульнай назвай "Лазневыя замалёўкі" гучалі на Беларускім радыё.*

*З 2011 года У.Дз. Бруй з'яўляецца кіраўніком Менскай абласной філіі хрысціянскага літаратурнага аб'яднання "Благодать".*

*У 2015 г. у ААТ "Брэсцкая друкарня" выйшла кніга апавядаў-успамінаў "Нябесны банк".*

*У 2016 г. там жа надрукаваны зборнік апавяданняў і аповесцей "Трэцяя Бярэзіна".*

*У 2016 г. стаў сябрам Саюза беларускіх пісьменнікаў па рэкамендацыі В. Аксак і Ул. Арлова.*

*Урыўкі з пакуль неапублікаванага рамана "Два жыцці - адзін лёс" пад назвай "Удава і сірата" апавядаюць пра незвычайны жыццёвы лёс маленькай дзяўчынкі, якая была знойдзена ў лесе партызанамі, калі яны вялі жорсткі бой з нямецкім гарнізонам пры набліжэнні рэгулярных войскаў Чырвонай арміі. Вызначыць яе бацькоў ці сваякоў не сталася магчымым, і дзяўчынка была ўрэшце дастаўлена ў дзіцячы дом, дзе медыкі ацанілі яе прыблізны ўзрост у сем месяцаў, а дырэктар запісаў яе ў адпаведныя дакументы пад іменем Вікторыя ў гонар будучай перамогі над фашыстамі.*

## УДАВА І СІРАТА

***(урыўкі з рамана "Два жыцці - адзін лёс")***

У першую вясну бабуля з унучкай самі справіліся з пасадкай бульбы, праўда, не без дапамогі суседа Расціслава Ладуцькі, які ўзяў каня ў калгасе. Засеялі таксама грады. Усяго зямлі было 30 сотак. Ні пра якую школу ніхто і не ўзгадваў. Трэба было штодня глядзець за агародам ды казой Дуськай. Увесь рацыён старой удавы і малой сіраты складаўся з варанай бульбы, казінага малака і яек ад чатырох курак.

У месяцы жніўні скончыліся дровы. Бабуля Ганефа (усе клікалі яе менавіта так, а не Ганнай, як у пашпарце) сказала ўнучцы пайсці да сваяка, які жыў праз дом і працаваў у калгасе конюхам, ды папрасіць, каб запрог ў калёсы каня.

Дзядзька Міхась выслухаў блытана выкладзеную, але ў цэлым зразумелую просьбу дзяўчынкі і, ні слова не кажучы, пайшоў у стайню і выйшаў адтуль з хамутом на правым плячы і збруяй у левай руцэ. Звыклым рухам кінуў паклажу на калёсы, што стаялі непадалёк, затым накіраваўся ў адгароджаны двума радамі жэрдак загон. Там узяў за грыву шэрую кабылку, пагладзіў яе па мордзе, злёгку паляпаў па шыі, і тая без усялякай радасці, але паслухмяна рушыла ў бок калёсаў. Там яна цярпліва чакала, пакуль Міхась нацягне ёй на шыю хамут, накіне на спіну вупраж.

Дзяўчо са страхам пазірала, як ён стаў ззаду і пачаў выцягваць з-пад збруі доўгі хвост. Ёй здавалася, што кабылка абавязкова брыкне дзядзьку Міхася капытом, як заўжды гэта рабілі іншыя коні, калі хлапчукі спрабавалі вырваць у іх з хваста некалькі валасоў, каб звязаць іх разам, а пасля начапіць на роўны арэхавы дубец. Зразумела, што такім чынам атрымлівалася вуда, якой можна было выцягнуць з азярца ці з копанкі карасіка або невялікага ліня. Але супраць гэтых яе чаканняў кабылка ўсім сваім выглядам выказвала поўную пакорлівасць лёсу.

- Машка - рахманая, - упершыню звярнуўся нарэшце стары маўчун да дзяўчынкі і ўважліва паглядзеў ёй у вочы. - Не баішся?

Віка нерашуча пацiснула плечукамі.

- Не бойся, справішся, - адказаў за яе стары, - куды табе, сіраце, дзецца. А цяпер слухай уважліва. Калі заедзеш у лес, з дарогі не зварочвай, пакуль не знойдзеш свабодную палянку, каб завярнуцца. Калі пасадзіш калёсы на пень, век адтуль не выберашся, пакуль ваўкі цябе і Машку не з'ядуць. Сама ты не бойся, на цябе такую худзенечкую ніводзін воўк не паквапіцца, а вось Машку будзе шкада, без яе калгас - не на другі, дык на трэці дзень напэўна разваліцца. Лейцы ўнацяг трымай, каб за што-небудзь не зачапіліся, але і рэзка іх не цягні. Ну што яшчэ? Пад ногі ўвесь час пазірай, каб за пень ці корань не спаткнуцца ды пад кола не трапіць. Зразумела?

Віка кіўнула галавой, падышла да воза і нясмела ўзяла ў рукі лейцы.

- Чакай, - сказаў дзядзька Міхась, - а ты ведаеш, што браць можна толькі сукі, ніякіх жэрдак, доўгіх галінак. Нарвешся на лесніка - цябе ён можа і пашкадуе, а з мяне скуру злупіць.

- Ведаю, - адказала Віка.

- Тады едзь, з Богам.

Спачатку ўсё было добра. Машка тупала спакойна і роўна. У лесе Віка строга трымалася ўсіх павучанняў дзядзькі Міхася. Яна паглыбілася ў лес, знайшла ўдалае месца, каб развярнуць калёсы і, спыняючыся праз дваццаць-трыццаць метраў, прывязвала лейцы да дрэва ці вялікага куста ляшчыны, а сама хадзіла вакол па абодва бакі дарогі, збірала самыя вялікія яловыя сукі і масціла іх на калёсы. Радуючыся таму, што ўсё складваецца так удала, яна старалася ўкладваць сукі як мага вышэй, выбраўшы самыя доўгія і ўткнуўшы іх уздоўж бакавых дошак. Калі, здавалася, воз быў нагружаны настолькі, што вышэй дацягнуцца дзяўчынка проста не магла, яна накіравала кабылку дадому.

Выехалі на дарогу. Пачаўся невялікі спуск. Машка адчула некаторую палёгку і паскорыла крок. Гэта не насцярожыла Віку, хутчэй ўзрадавала, што крыху раней будзе дома. Але тут пачаўся правы паварот дарогі. Не паспела дзяўчынка прытрымаць каня, як калёсы нахіліліся налева, і з іх вывалілася ледзь не палова грузу. Прыйшлося ўкладваць тое, што выпала, на ранейшае месца.

Цяпер ужо Віка своечасова стрымлівала Машку перад кожным чарговым паваротам, але зноў, дазволіўшы ёй разагнацца на прамым участку, не заўважыла ўрослы ў зямлю вялікі камень. На гэты раз ужо дзве трацiны дроў вывалілася на правы бок. Дзяўчынка бяссільна

апусцілася на зямлю і дала волю слязам. Час ад часу яна выцірала твар рукамі, рукі аб сухую траву, з-за чаго шчокі яе пакрыліся бруднымі палосамі. Да канца лесу заставалася зусім няшмат. Як аказалася, на гэты раз яна не здолела ўмацаваць, як след, доўгія сукі ўздоўж бакавых дошак і зноў пацярпела няўдачу, ужо абмінуўшы ўзлесак на самым выездзе. Ёй захацелася ўсё кінуць, ускочыць на калёсы, хвастануць Машку з усіх сіл па ўпаранай спіне лейцамі і гнаць яе галопам, як гэта часам рабілі бясстрашныя, хвацкія хлапчукі, да самай стайні.

- Ага, - адказала сама сабе на гэтыя думкі Віка, - столькі працы, а заўтра хтосьці пад'едзе, усё акуратна складзе на сваю фурманку і не запытаецца, каму дзякуй сказаць. Ды не, няма дурных!

Яна зноў склала груз, цяпер ужо павольна, каб ямчэй прыладзіць адзін да аднаго кожны кавалак драўніны. Між тым, сонца ўжо схавалася за вершалінамі дрэў, а з боку вёскі здаўся вершнік.

- Дзядзька Міхась, - падумала Віка. - Пэўна, будзе сварыцца, што так затрымалася. Добра, што хоць з Машкаю нічога не здарылася.

Конюх пад'ехаў рыссю, паглядзеў на заплаканы і выпацканы твар дзяўчынкі і, ні слова не сказаўшы, развярнуўся і паехаў назад.

Віка дабралася да дома, праехала праз двор да самага хлява, разумеючы, што калі ёй давядзецца насіць дровы ад вуліцы, то на гэта сыдзе ўвесь наступны дзень. Яна скінула груз па абодва бакі падводы і паехала прама па бульбянішчы.

Бабуля ўся змарнавалася ад доўгага чакання і ў апошнія тры гадзіны раз за разам падыходзіла да абраза Божай Маці і малілася за сваю адзіную апору, астатнюю ў гэтым жыцці. Убачыўшы, як малая накіравала каня па бульбянішчы, яна, стоячы на парозе хаты, толькі пляснула рукамі, потым склала іх на грудзях і падумала, што няма розніцы, з якіх барознаў пачынаць капаць бульбу. Падушаныя клубні не прападуць, іх з радасцю з'есць Дуська. А калі б яшчэ быў кабанчык ...

Дзядзька Міхась паспеў за гэты час заехаць дадому ды павячэраць, таму сустрэў Віку ў добрым настроі.

- Ну што, працаўніца, - прамовіў ён, не выпускаючы з рота самакруткі, - нябось, напакутавалася. Але без пакуты няма вучэння, а навука дарагога варта. Наступны раз ужо будзе лягчэй.

Дзяўчынка вярнулася дадому, з апошніх сіл памылася і, не дакрануўшыся да зваранай бабуляй заціркі, звалілася на ложак і імгненна заснула.

Назаўтра, Віка прачнулася раней, чым звычайна ад гучных стогнаў і ляманту. Бабуля Ганефа, сагнуўшыся, хадзіла па хаце, выходзіла ў двор, зноў вярталася ў дом, пастаянна сціскаючы левай рукой

вялікі палец на правай руцэ. Ён моцна распух, і што ні спрабавала бабуля прыкладаць да яго - ад настояў розных траў да мачы - паратунку не было.

Так прайшоў цалюткі дзень. У наступную раніцу бабулька не змагла ўстаць з ложка. Унучка спрабавала яе карміць, але старая адмаўлялася. За ўвесь дзень яна толькі зрабіла некалькі глыткоў вады.

Прайшла яшчэ адна ноч і дзяўчынка зразумела, што бабулі трэба доктар. Яна прыгадала, што шмат чула ад дарослых пра фельчара Струева. Усе аднадушна адклікаліся аб ім, як добрым медыку, вельмі чулым і спагадлівым чалавеку. Вікторыя і ўсе вучні вельмі паважалі яго жонку Марыю Дзянісаўну, якая была завучам у іх школе. Струевы жылі ў вёсцы Павяцце, цэнтры калгаса і сельсавета.

Віка пайшла да суседа Расціслава Ладуцькі і папрасіла ў яго ровар. Пачуўшы, якая бяда здарылася са старою Ганефаю, дзядзька Росцік адразу ж вывеў з хлява ровар. Ён узяў у рукі ключ, каб апусціць для малой сядло, але яна сказала, што ўсё роўна не дастане да сядла і ёй зручней будзе ехаць, перакінуўшы нагу праз раму. Сярод яе аднагодкаў і ўсёй вясковай дзятвы вельмі прыкметнай узроставай мяжой быў момант, які на словах выяўляўся наступным чынам: ён (ці яна) ездзіць на ровары пад раму альбо праз раму.

Фельчара Віка знайшла дома. Ён адразу ж сеў на свой ровар і паехаў з ёй у Блізкае Таполева.

Агледзеўшы бабулю, Струеў сказаў, што заўтра ж трэба браць фурманку і везці яе ў амбулаторыю. Там ужо ўзяць накіраванне, а затым падавацца ў бальніцу.

Суседзі дапамаглі пагрузіць бабулю ў фурманку, папярэдне паклаўшы і ўтаптаўшы некалькі бярэмяў саломы і пакрыўшы яе зверху старой даматканай посцілкай.

Ехаць да райцэнтра трэба было 12 кіламетраў, амаль усю дарогу праз лес.

Фельчар не пайшоў у амбулаторыю сам, а чамусьці паслаў дзяўчынку папрасіць доктара выйсці на вуліцу і агледзець бабулю і выпісаць ёй накіраванне ў бальніцу. Віка паслухмяна ўвайшла праз веранду ўнутр будынка і ўбачыла на калідоры шмат людзей. Там былі стары і малы. Усе лаўкі і табурэткі былі занятыя, а сёй-той стаяў, прыпёршыся да сцяны або да ашалёўкі дзвярэй. Усе выглядалі стомленымі ды занятымі толькі сваімі думкамі. На дзяўчынку ніхто не звярнуў увагі, і, зрабіўшы нерашуча некалькі крокаў, яна спынілася і, не адважыўшыся звярнуцца да каго-небудзь і спытацца, за якімі дзвярыма знаходзіцца доктар, павярнулася і выйшла на вуліцу.

Вакол будынка не было ні дрэўца, ні нават куста, пад якім

можна было б схаваць бабулю ды схавацца самім. Між тым стаяла незвычайная для жніўня спёка і духата, а сонца ўздымалася ўсё вышэй і вышэй. Вычакаўшы каля гадзіны - дзяўчынцы ж гэты час здаўся вечнасцю - фельчар сам пайшоў у амбулаторыю, прабыў там нядоўга і выйшаў з павесялелым тварам.

- У мяне там знаёмая ў лабараторыі, - сказаў ён, як быццам самому сабе.

Нарэшце з'явіўся доктар. Ён паглядзеў на твар бабулі, памераў яе пульс, пазіраючы на свой прыгожы наручны гадзінннік.

- Калі я вырасту, стану доктарам, - падумала Віка, неадрыўна сочачы за кожным рухам гэтага самавітага і лепш, чым фельчар Струеў, апранутага мужчыны, - абавязкова з першай зарплаты куплю на сцяну ходзікі, а з другой - такі ж наручны гадзінннік…

Праз пару гадоў, убачыўшы больш хупавы гадзіннічак з жоўтага металу, які ўсе дзеці аднадушна лічылі "чыстым золатам", на руцэ настаўніцы матэматыкі, яна перавядзе стрэлку гэтай мары з медыцыны на педагогіку і пачне прыкладаць такое старанне ў вучобе, што настаўнікі будуць ставіць яе ў прыклад усяму класу.

А цяпер яна здрыганулася і ўнутрана напружылася, пачуўшы некалькі незразумелых слоў, якія сказаў доктар, мабыць, агучваючы дыягназ, сярод якіх яна выразна вылучыла наступныя: позна ... трэба было ўчора ...

Праз некалькі хвілін Струеў накіраваў фурманку на другі край гарадка.

Развітваючыся з унучкай, бабуля з усіх сіл спрабавала ўсміхнуцца, а Віка, якая з слоў фельчара, лекара і персаналу прыёмнага пакоя зразумела, што надзеі на выздараўленне практычна няма, не магла ўтрымацца ад слёз. Яна ціхенька абняла самага дарагога і адзіна блізкага чалавека і, усхліпваючы, прыпала да бабуліных грудзей. Тая ледзь чутна прамовіла:

- Ты там не бойся адна. Перад сном маліся перад абразом Маці Боскай. Я хутка папраўлюся і прыеду дадому.

* * *

Прайшло некалькі дзён. Ледзь не кожную гадзіну дзяўчынку наведвала думка аб тым, што людзей ў лякарні трэба наведваць ды абавязкова не з пустымі рукамі. Наведаць хворага, у яе разуменні значыла прынесці яму штосьці смачненькае …

Яна зноў накіравалася да суседа Расціслава Ладуцькі.

- Дядзька Росцік, я хочу наведать бабулю.

- Дык што, даць табе ровар? - спытаўся мужчына.

- Не…, - толькі і вымавіла дзяўчынка ды замаўчала, апусціўшы галаву і перабіраючы свае тоненькія пальчыкі.

- Ай, ну што ж гэта я адразу не скеміў, - мужчына лёгенька пастукаў сябе па ілбе. - Бабулі ж трэба нешта аднесці.

Ён пайшоў у сад і хутка вярнуўся з вялікімі, прыгожымі жоўтымі яблыкамі, па тры ў кожнай руцэ.

- Вось глядзі, такіх у гэтую пару ні ў кога ва ўсёй акрузе няма. Смак антонаўкі, але ж гэта ранні сорт, некаторыя ўжо нават пачынаюць падаць.

Віка вельмі любіла яблыкі, асабліва антонаўку, якую бабуля запякала ў печы. Яна была ўпэўненая, што і бабулі таксама вельмі да спадобы такі ласунак. Бліжэй пад вечар маленькая гаспадыня распаліла печ, зварыла ў ім чыгунок бульбы, потым выграбла жар і выклала на чарэнь яблыкі. Праз некаторы час па хаце разнёсся цудоўны водар.

Раніцай Віка паднялася як звычайна, падаіла Дуську, дачакалася, калі да дому падыдзе вясковы статак з пастухом.

Вярнуўшыся ў дом, яна працадзіла надоенае малачко, з'ела з ім некалькі яшчэ цёплых бульбін. Затым зняла з тоўстага цвіка, убітага ў сцяну побач з печчу, самаробную сетку-авоську, паклала яе на ўслончык і адставіла ў бок засланку печы. Яблычкі, здавалася, глядзелі на яе і голасна гукалі: З'еш мяне! Мяне! Не, мяне, мяне!

Віка глянула па баках, але паперы або газеты ў хаце не вадзілася з часу ад'езду бацькоў. Ды і пры іх заўжды была праблема, калі трэба было нешта загарнуць. Газет яны ніколі не выпісвалі, а паперы - адкуль ёй было ўзяцца? Яна стала вымаць яблыкі па адным і ўкладваць кожнае на дно авоські.

- Буду несці асцярожненька, што ім зробіцца, - падумала Віка і, узяўшы ў руку гэтую сваю няцяжкую і прыемную ношу, выйшла з дому.

Праз некалькі хвілін дзяўчынка ўвайшла ў лес. Успомніўшы пра свае нягоды і гаручыя слёзы, сведкам якіх стала толькі яшчэ больш негаманлівая, чым яе гаспадар Машка, яна толькі ўсміхнулася, падобна таму, як дарослы чалавек можа ўсміхнуцца праз многія гады з нагоды даўніх дзіцячых гарот і крыўдаў. Дзяўчынцы здавалася, што Машка, фурманка, яловыя сукі - усё гэта засталося ў далёкім мінулым, а з ёю была толькі радасць ад таго, што праз пару гадзін бабуля возьме ў руку яблычак, паднясе яго да рота і, надкусіўшы далікатную мякаць, абавязкова скажа: "Ой, як смачна!"

Свежае і жыватворнае паветра, якое яшчэ не сустрэлася з дзённай спёкай, бадзёрыла і надавала сілы. Настрой уздымалі спевы

птушак. Яны даўно ўжо прачнуліся, з усіх бакоў неслася буркаванне, шчэбет і свіст, якімі шчодра напоўнялася ўся бязмежная прастора. Нядаўна пачалася па-сапраўднаму грыбная пара. Віка ўжо некалькі разоў варыла сабе грыбны супчык з лісічак, падбярозавікаў. Маслякі пасля таго, як яна па некалькі гадзін здымала непрыемную ліпкую плёнку, ад якой чарната з рук не сыходзіла некалькі дзён, яна старалася не браць. Баравічкі яна злёгку аскрэбвала ножыкам, рэзала на кавалачкі, насаджвала на суровую ці простую ў некалькі столак нітку і вывешвала сушыць з сонечнага боку дома.

Вочы дзяўчынкі міжволі пільна ўглядаліся ў прагалы паміж кустамі і дрэвамі, хоць яна выдатна разумела, што калі нават трапіцца велізарны прыгажун чырвонагаловік, то не зможа пакласці яго ў сетку, таму што ён сапсуе пах яблыкаў ды і наўрад ці самы свежы і цвёрды грыб вытрымае дарогу туды і назад ... Тут бы ёй задумацца аб трываласці печаных яблыкаў, але дзяўчынка весела ішла, часам нават падскокваючы і лёгенька размахваючы рукамі, наўпрост забыўшыся пра сетку ў правай руцэ.

Пачуліся выразныя мерныя гукі: "Ку-ку, ку-ку". Яны заглушылі ўсю астатнюю музыку лесу. Дзяўчынка пайшла павольней, затым пачала лічыць гэтыя падвойныя ўдары незвычайнага звана, але неўзабаве падумала, што лік будзе недакладным, таму што яна прапусціла пачатак. Потым яна падумала: "Як выдатна было б, калі б зязюля праспявала гэта для бабулі! Узрост даўжынёю ў сто пяць гадоў быў для Вікі нейкі заморскай далечай, схаванай у аблоках горнай вяршыняй. І тое, і другое ў яе ўяўленні не мела ні пачатку, ні канца, але яе, хай і небагатае, веданне жыцця ўжо змясціла ў сябе такую простую рэч, што старыя павінны паміраць, іх трэба класці ў труну і адносіць на могілкі.

Услед за гэтым прыйшла думка пра тое, што ёй таксама можа пагражаць смерць, і што яна ў лесе можа быць не адна, і гэтыя гукі прызначаны зусім не ёй, а якому-небудзь іншаму чалавеку. Добра, калі лесніку, паляўнічаму або грыбніку. А калі раптам гэта нядобры, злы чалавек і знаходзіцца зусім побач? А можа, нават сочыць за ёй, хаваючыся за дрэвамі, і робіць гэта ўжо даўно?

Віка прыпынілася, агледзелася вакол, затым паскорыла крок і ледзь не пабегла, але ўсё ж прымусіла сябе ісці роўным, досыць хуткім крокам. Некалькі разоў яна азірнулася і супакоілася, бо наперадзе ўжо ўзніклі разрывы паміж кронамі дрэў. Дзяўчынка адчула, што адышлі ўсе яе страхі, вярнулася прадчуванне радаснай сустрэчы з адзіным на ўсёй зямлі родным чалавекам, яна адчула лёгкасць ва ўсім целе і асабліва ў руках. І тут яна ўбачыла, што сетка была амаль пустая!

Праз яе вочкі не пратачыліся толькі рэшткі скурак, ды і з іх апошнімі кроплямі спадала на дарогу ліпкая мякаць.

Пальцы бязвольна расціснуліся, і сетка звалілася на ўтаптаны жвіровы грунт. Шырока расплюшчанымі, ашалелымі вачыма дзіця ў поўным здранцвенні глядзела на гэтую карціну. Ні кроў, якая льецца з горла толькі што засечанай курыцы, ні закаціўшае вочы казляня, у шыю якога ўпіўся востры нож і многія іншыя жудасныя сцэны, якія выпадкова траляліся малой на вочы, не выклікалі такога жаху. Гэта былі неабходныя гаспадарчыя справы, звязаныя з простай неабходнасцю здабываць пражытак, каб не памерці з голаду. Тут жа страшней за ўсё была поўная нечаканасць і непапраўнасць таго, што здарылася, памножаная на ўласную неабачлівасць. Зноў, як нядаўна ў гэтым жа лесе, каля раскіданых ля калёсаў дроў, слёзы засцілі ўвесь навакольны свет. Дзяўчынка нічога не бачыла і не чула ўласнага крыку - а можа, яго і не было, можа, яна проста знямела, а дзіка крычала толькі яе нутро?

Ачуняўшы, Віка зрабіла некалькі крокаў, затым вярнулася, нагнуўшыся так павольна, нібы нешта здарылася з яе спіной, падняла вымазаную сетку. Калі яна ўвайшла ў пасёлак, то адчула, як пячэ скура на твары ад высмаглых на пякучым сонцы слёз. Ля калодзежа, адкуль ужо быў відзён будынак лякарні стаяла напалову напоўненая вадой выдзеўбаная калода, у якой было больш за палову вады. Мабыць, гаспадары ўжо падрыхтаваліся да вяртання каровы з пашы на абедзенны перапынак і дойку. Скарыстаўшыся крыху іржавай, але чыстай кансервавай бляшанкай, што стаяла на камені, дзяўчынка напілася вады з пачэпленага на корбу вядра, затым вымыла твар, а потым ужо і злашчасную авоську.

У бальніцу дзяўчынку не пусцілі. Хтосьці сказаў, што з хворымі можна размаўляць праз акно, таму што ў такую спякоту ўсе вокны былі расчынены насцеж, а нехта падказаў, дзе знаходзіцца бабуліна палата. Дарасламу сапраўды можна было зазірнуць у любое акно, але якое там адзінаццацігадовай малечы? Віка падышла да патрэбнага акна і пачала падскокваць, з усіх сіл выцягваючы шыю і падымаючы бародку. І трэба ж - першай яе ўбачыла менавіта бабуля, якая ляжала ў куце, бліжэй да ўваходных дзвярэй. Яна звярнулася да сваіх суседак, тыя пабеглі да санітаркі, неяк упрасілі яе, і праз хвіліну тая ўжо выйшла да дзяўчынкі, узяла яе за руку і завяла ў палату.

Віка кінулася бабулі на грудзі і залілася слязьмі. Цяжка сказаць, чаго было больш у тых слязах - жалю да нямоглай старой ці гора аб страце прызначанага ёй пачастунку.

Бабуля пяшчотна гладзіла яе па галаве, а рухаць яна магла толькі

адной рукой. Калі ўнучка супакоілася, пачала распытваць яе пра тое, што адбываецца ў вёсцы, колькі малака дае Дуська, як нясуцца куры. Віка пачала расказваць, як несла бабулі печаныя яблыкі ад Расціслава Ладуцькі, але зноў расплакалася і не змагла працягваць з-за нястрымных рыданняў. Бабуля пачала яе суцяшаць і казаць, што яе тут вельмі добра кормяць. Калі ў дзверы зазірнула ўсё тая ж санітарка, старая папрасіла яе прынесці належны ёй на абед кавалачак хлеба, каб пачаставаць унучку.

Віка ішла дадому і доўга смактала, нібы карамельку, кавалачак чорнага хлеба.

* * *

Увечары, дачакаўшыся вяртання з працы суседа Расціслава Ладуцькі, дзяўчынка папрасіла яго наступнай раніцай "адагнаць" (менавіта так казалі ў іх вёсцы: "адагнаць", а не "ўзараць" або "разагнаць") пару баразёнак бульбы. Віка разлічвала, што да абеду справіцца з імі, а дзядзька Расціслаў падчас абеду разгоніць яшчэ дзве. Але яе планам не наканавана было збыцца. Як толькі маленькая гаспадыня ўзялася за працу і ледзь адолела палову баразны, як надвор'е сапсавалася, пайшоў моцны дождж. Праз некалькі хвілін - не тое, што капаць бульбу, а проста ступіць на поле - было немагчыма, ногі гразлі ў зямлі, як у балотнай твані. Але да вечара некалькі разоў паказвалася сонейка, і яна ўсё ж выбрала разараную бульбу, аднак не стала апускаць яе ў склеп, а высыпала на зямлю, спадзеючыся, што ў бліжэйшыя дні надвор'е наладзіцца, і клубні хоць трохі падсохнуць. Але і гэтым чаканням дзяўчынкі не суджана было спраўдзіцца. Дажджы ішлі практычна кожны дзень.

Кожны дзень, раніцай і ўвечары міма дома, у якім жылі бабуля і ўнучка, праязджаў у брычцы старшыня сельсавета. Высокі, статны, з вайсковай выпраўкай мужчына, прозвішча ў яго было польскае - Рудлеўскі. Бабуля аднойчы сказала пра яго: вось гэта мужчына, сапраўдны польскі афіцэр.

Аднойчы ён спыніўся і спытаў:

- Дзяўчынка, чаму ты капаеш бульбу адна? У цябе сваякі ёсць?

- Бабуля, - адказала Віка, - але яна цяпер у бальніцы.

Старшыня задуменна паківаў галавою, пастаяў крыху, пастукваючы пугай па халяве ялавага бота, спытаў у дзяўчынкі, як яе завуць, павярнуўся і, больш ні слова не кажучы, пайшоў да сваёй брычкі.

Наступнай раніцаю ён з'явіўся ля дома Вікі на гадзіну пазней, чым звычайна, але не адзін - з брычкі высыпалася гурба дзятвы, як

аказалася, выхаванцаў дзіцячага дома. Большасці з іх было гадоў трынаццаць, самае вялікае - чатырнаццаць. Рудлеўскі пайшоў да дома Расціслава Ладуцькі, прыцягнуў з падмогай траіх хлапчукоў яго плуг. Затым разагнаў гэтым плугам ўвесь палетак праз адну баразну. Запрогшы каня назад у сваю брычку, ён паклікаў да сябе юную гаспадыню і сказаў, што ў абед астатнюю частку разарэ Ладуцька, а сам ён пад'едзе вечарам і адвязе дзяцей назад у дзіцячы дом.

Бліжэй да канца працы, бачачы, што ўся бульба хутка будзе выкапана, Віка ўзгадала, што ў вёсцы ёсць абавязковы парадак частаваць усіх людзей, якія ўдзельнічалі ў уборцы самага важнага для сельскай сям'і ўраджаю.

На гэты раз яна пайшла да іншай суседкі - гэта была маці Расціслава Ладуцькі - і сказала ёй пра сваю праблему. Бабка Антаніна дала ёй кавалак сала і расказала, як пасмажыць на ім бульбы. Потым, спытаўшы, колькі ў Вікі работнікаў, дала яшчэ вялікую патэльню і ... бутэльку самагонкі. Ёй было зусім няўцям, што работнікі былі хлапчукі і дзяўчынкі, якіх у дзіцячым доме да выпіўкі ніхто не прывучаў. Сама Віка да гарэлкі не дакранулася, але з велізарным задавальненнем паспрабавала смажанай бульбы. Не ўсе, але сёй-той з дзетдомаўцаў прылучыўся да каламутнай вадкасці, і да прыезду старшыні сельсавета большасці "дэгустатараў" стала дрэнна. Твары дзяцей, якія атруціліся, сталі бледна-жоўтымі, яны пачалі ванітаваць. Юная гаспадыня гатовая была скрозь зямлю праваліцца ці бегчы, куды вочы глядзяць, толькі б не сустрэцца са старшынём сельсавета.

Рудлеўскі як мог пасарамаціў дзяўчынку, але не стаў высвятляць, адкуль у яе ўзялася самагонка. Хутчэй за ўсё, падумаў, што з бабуліных запасаў, але якое можа быць нараканне на стагадовую жанчыну, якой нават і дома няма.

Віка залілася горкімі слязьмі, але, у сваю чаргу, не стала выдаваць жанчыну, якой яна была так ўдзячная за сала і неверагодна смачную смажаную бульбу.

Прыкладна дзён праз пяць, вяртаючыся з працы, старшыня зноў спыніў сваю брычку, і Віка хуценька выбегла яму насустрач.

- Паслухай, дзетка, - сказаў ён, і ад тону, якім былі вымаўлены гэтыя словы, у дзяўчынкі адлягло ад сэрца і знікла пачуццё віны за прамашку з самагонкаю, якое дагэтуль не пакідала яе. - Сёння патэлефанавалі з лякарні, сказалі, што трэба забраць тваю бабулю. Заўтра раніцай я звяжуся з калгасам, там дадуць каня і пару чалавек, і ты з імі прывязеш яе дадому.

Па вяртанні дадому бабуля ўжо не размаўляла і практычна ні на што не рэагавала - у бальніцы яе разбіў яшчэ адзін удар.

Цэлы дзень Віка неадлучна сядзела каля ложка бабулі, узіраючыся ў непазнавальныя рысы пакрытага глыбокімі маршчынамі твару, які моцна змяніўся за час знаходжання ў бальніцы, чакаючы, што яна вось-вось расплюшчыць вочы і загаворыць.

- Хутка зусім сцямнее, - падумала дзяўчынка, - трэба схадзіць па ваду.

Раней яна старалася браць крыху больш за палову, а на гэты раз, не заўважыўшы цяжару, зачарпнула амаль поўнае вядро.

Па дарозе да возера і назад ёй прыйшлі на памяць школьныя сяброўкі. Большасць з іх яна даўно ўжо не бачыла, таму што не хадзіла ў школу. Яна ўзгадала адзін з іх улюбёных заняткаў, які быў іх агульнай і вялікай таямніцай. Аднойчы весялушка Ванда, ідучы па дарозе ў школу, сказала:

- Дзяўчаты, а давайце зойдзем у краму.

Сяброўкі здзіўлена пераглянуліся.

- А навошта? - спыталася адна.

- У цябе, што, грошы ёсць? - спыталася другая.

- Я вам скажу, а вы нікому не разбалбочаце?

Дзяўчынкі пакляліся вечным сяброўствам, і Ванда сказала, што часта заходзіць у краму і, пакуль прадаўшчыца займаецца пакупнікамі, - добра падабраць момант, калі іх не адзін, а два ці больш - яна робіць выгляд, што разглядае прылавак, а сама нюхае пах "падушачак" або "каўказскіх", а часам і іншых цукерак, якія разносіцца па краме. Гэта стала ў дзяўчатак абавязковым рытуалам. Прадаўшчыца спачатку падазрона сачыла за імі, але потым прывыкла, і, не бачачы нічога падазронага, перастала звяртаць на іх увагу. Выйшаўшы з крамы, сяброўкі абавязкова абменьваліся ўражаннямі, як моцна, як прыемна і якімі менавіта цукеркамі найлепш пахла ў гэты раз.

* * *

У клопатах па догляду за бабуляй і гаспадаркай прайшлі восень і зіма. Ганефа памерла ў красавіку. Усё, што адбывалася вакол, здавалася дзяўчынцы нейкім благім сном. Яе ніхто ні пра што не пытаўся і, тым больш, ні пра што не раіўся. Усё, што тычылася хаўтураў, рабілі жанчыны з усёй вёскі. Яны памылі і апранулі нябожчыцу, мужчыны прывезлі труну і пераклалі ў яе закамянелае цела. Віка ніколі раней не бачыла бабулю такой светлай, спакойнай і прыгожай.

Казу і курэй суседзі зарэзалі на памінкі. Калі ўсе разышліся, дзяўчынцы не хацелася ісці ў хату. Яна доўга сядзела на парозе, падцiснуўшы калені і абхапіўшы іх рукамі. Нарэшце стала нясцерпна

холадна, і Віка пайшла ў дом. Там было амаль гэтак жа сцюдзёна, як і на вуліцы: пакуль нябожчыца ляжала ў доме, печ ніхто не паліў, а памінальную вячэру гатавалі ў суседніх хатах.

Тры дні дзяўчынка сілкавалася рэшткамі ежы, а на чацвёрты, падалася ў канец вёскі, дзе жыў дзядуля Петрык, родны брат бабулі Ганефы. Ён быў шмат маладзей за сваю сястру, але ледзь рухаўся на дрыготкіх нагах. Першае, што Віка вымавіла пасля прывітання, было:

- Дзед Петрык, што мне рабіць? Мне няма чаго есці.

Стары паглядзеў на яе і сказаў:

- Давай прысядзем на лавачку, цяжка мне доўга стаяць на нагах ... Што рабіць, кажаш? Пакуль можаш пажыць у мяне. Але хто ведае, колькі я працягну? Хутка пачнуць ганяць на пашу жывёлу. Можна пайсці ў падпаскі. Будуць цябе карміць па чарзе, кожны дзень у другой хаце. А што потым, калі пачнецца школа? А ўзімку? Я табе скажу толькі адно: не чакай доўга, а заўтра ж ідзі ў раён, прасіся ў дзетдом.

Ад слова "дзетдом" дзяўчынцы стала так страшна, што яна адсунулася ад старога і павярнулася да яго спіной.

Ён пагладзіў яе па худзенькім плечыку і загаварыў далей:

- Там цябе будуць карміць, там будзеш хадзіць у школу. Павер мне, гэта самае галоўнае: калі вывучышся, потым будзеш жыць, як чалавек...

## *Міхаіл Валько*

*Міхаіл Антонавіч Валько нарадзіўся 10 студзеня 1931 года ў вёсцы Мікалаеўшчына Стаўбцоўскага раёна. Скончыў настаўніцкія курсы ў Нясвіжы. Працаваў настаўнікам у Дзятлаўскім раёне. Служыў у арміі. Скончыў Севастопальскае вайсковае вучылішча, служыў у горадзе Молатаўск Архангельскай вобласці. У 1956 годзе прыехаў у Нясвіж. Працаваў у школах Стаўбцоўскага і Нясвіжскага рвёнаў. З 1961 года - настаўнік Нясвіжскай СШ № 2. У 1963 годзе закончыў філалагічны факультэт педагагічнага інстытута імя Максіма Горкага.*

*Аўтар зборнікаў паэзіі і прозы "Позні вырай"(2008), "Бібьом"(2010), "Эстафета"(2014).*

*Друкаваўся ў газетах "Нясвіжскія навіны", "Нясвіжскі час", вершы ўвайшлі ў калектыўныя зборнікі "Пяром і сэрцам з Нясвіжам" (1994), "Букет валошак" (2008), "З адценнем любові" (2008).*

*Быў сябрам раённага літаратурна-музычнага аб’яднання “Валошкі”.*

*Пайшоў з жыцця 18 студзеня 2014 года.*

## *З ненадрукаванай спадчыны*

### ДЗЕД СЦЯПАН ТРЭНІРУЕЦЦА

Дзед Сцяпан - немалады ўжо чалавек: размяняў ужо дзявяты дзясятак. Шмат чаго бачыў і перажыў ён за свой доўгі век. Сказаліся

на яго здароўі і фінская вайна, і Вялікая Айчынная. Пачаў скардзіцца на слабасць у нагах. Раней часта ў цёплае надвор'е выходзіў на падворак. А зараз больш часу праводзіць у хаце. Дзед Сцяпан - выдатны суразмоўца. Я пачуў ад яго шмат цікавых гісторый. Заходжу я і зараз да дзеда. І кожны раз застаю яго гарызантальна ляжачым на сваёй канапе. І рукі складзены на грудзях.

- Дзедка, чаму Вы так рукі складваеце? - пытаюся я.

- А гэта, галубчык, я трэніруюся, - не то жартам, не то ўсур'ёз адказвае дзед. Я больш ні аб чым не пытаюся. Бо ведаю, на што дзед Сцяпан намякае, пра што думае.

## РОДЗІЧ КУПАЛЫ

Была восень 1944 года. Барысаўскі санаторый быў за вайну так разбураны, што нельга было ім карыстацца.

Таму, у тую восень санаторый з Барысава быў перанесены ў Нясвіж, у будынак радзівілаўскага замка. Разам з адміністрацыяй у Нясвіж прыехалі многія супрацоўнікі. Так нясвіжцамі сталі сем'і Чыжоў, Лісоўскіх, Кажушкоў, Аўлачынскіх, Гвоздзікаў і іншых.

Я хачу засяродзіць увагу чытачоў на асобе Мар'яна Аўлачынскага.

Гэты чалавек быў у санаторыі галоўным кармільцам: працаваў кладаўшчыком. Ад свае суседкі Ядвігі Лісоўскай я даведаўся, што гэты самы Аўлачынскі быў сваяком Янкі Купалы. У паэта была сястра Лёдзя, якая выйшла замуж за Раманоўскага. А ў той Лёдзінарадзілася дачка. Тую дачку пазней выдалі замуж за Яна Аўлачынскага. Вось ад яе і нарадзіўся Мар'ян Аўлачынскі.

Я аднойчы хацеў распытаць у яго сёе-тое… пра Янку Купалу. Але ён сказаў, што гэта было даўно, я быў малы і нічога не помню.

Вось такі быў родзіч у Янкі Купалы.

## ПАПОВА ГОРКА

*Гэтую легенду я пачуў ад жыхароў Нясвіжа старэйшага пакалення.*

На ўсходняй ускраіне Нясвіжа ёсць пасёлак Заазер'е. Ад гэтага пасёлка да Караліны ідзе дарога. Недалёка ад парку пры дарозе ёсць пагорак. Раней на ім нічога не расло. А зараз гэты пагорак пакрыты сасоннікам. З боку возера будаўнікі адкрылі кар'ер і бралі пясок. У

незапамятныя гады на Нясвіжчыне праводзілася паланізацыя насельніцтва. Але гэтай справе заўпарціліся праваслаўныя святары. Тады да іх былі выкарыстаны рэпрэсіўныя меры. На вышэй названым пагорку была збудавана цагляная капліца без вакон і дзвярэй. У тую капліцу і памясцілі зняволеных. А пасля ўваход замуравалі.

Зараз на той горцы ніякай пабудовы няма. А вось назва ў народзе захавалася.

## РУКАПІСНЫЯ КНІГІ

З гісторыі вядома, што першымі летапісцамі былі манахі. Яны былі пісцамі і перапісчыкамі. Не толькі перапісчыкамі рэлігійных кніг, але і перапісчыкамі свецкіх твораў.

Не выключана магчымасць, што такое рабілася і ў Нясвіжы, у прыватнасці ў касцёле.

Мне давялося некалькі разоў быць экскурсантам у мясцовым касцёле. Нам паказвалі пахавальную крыпту пад касцёлам. Аднойчы мне аднаму было дазволена падняцца на другі паверх, які знаходзіцца з заходняга боку, дзе стаіць помнік Сымону Буднаму. Там я ўбачыў скрынку памерам 1 м на 0,5 метра. Тая скрынка была запоўнена рукапіснымі кнігамі. Не ведаю, што ў тых кнігах запісана, бо не было часу іх разглядаць. Але па іх таўшчыні і колькасці можна меркаваць, што ў іх нешта важнае. І, відаць, пісаліся не адзін дзесятак гадоў. Ксяндзы мяняюцца, а скрынка стаіць. Чакае, калі да яе дакранецца чалавечая рука, рука даследчыка ці музейшчыка.

## *Вольга Жэрка*

### ДАРУЙ МНЕ, СТАСЯ

Чамусьці цяпер, калі жыццё адлічыла ўжо нямала гадоў, я ўсё часцей успамінаю адзін выпадак са свайго дзяцінства. Было мне тады гадоў пяць ці шэсць, а можа сем. Цяжкія пасляваенныя гады. Мая матуля і яе сястра з двума дзецьмі жылі ў чужых людзей. Не было, як кажуць, ні кала свайго, ні двара, бо мы былі бежанцамі. Такім крыўдным словам называлі тых, каго ваеннае ліхалецце вымусіла пакінуць радзіму.

Аднойчы я прыйшла да сяброўкі дзяцінства Стасі, каб ісці гуляць. Яна ж у гэты час збіралася есці. Стася вынесла на двор і паставіла на лаўку талерку з крупнікам, а сама пайшла ў хату па хлеб. А мне так захацелася гэтага крупніку (жылі мы галаднавата), што я, ні аб чым не думаючы, схапіла лыжку і пачала яго сёрбаць, і глытаць, нават не жуючы. Калі Стася выйшла з лустай хлеба, я ўжо адышлася, але заўважыла, як яна здзіўлена паглядзела на талерку, у якой крупніку засталося менш паловы, але нічога не сказала…

Я ўсё думаю і не ведаю, чаму пазней, хоць бы жартам я з ёю аб гэтым не гаварыла, хаця помню заўсёды. Потым яна рана выйшла за-

муж і выехала ў другі раён. І мы больш не бачыліся. А калі я даведалася, што Стася пайшла з жыцця, зноў успомніла гэты выпадак. І цяпер, калі вару і ем крупнік, у мяне на вочы набягаюць слёзы.

Пра сваё нялёгкае, але, як тады нам здавалася, цікавае дзяцінства, і пра гэты выпадак я расказваю сваім дзецям, унукам, сябрам, але ў Стасі я не папрасіла прабачэння…

І хаця цяпер гэта ўжо вельмі позна, але ўсё роўна, даруй мне, Стася, за з'едзены крупнік. Вялікі дзякуй, што тады ты мне нічога не сказала, бо нават цяпер не ведаю, што я магла б табе адказаць…

Успамінаючы сваё нялёгкае дзяцінства і гледзячы цяпер на сваіх унучак і ўсіх дзяцей, я радуюся за іх. Радуюся, што яны маюць усё, што пажадаюць. Ёсць што смачнае паесці, хораша апрануцца, заняцца нечым цікавым у розных гуртках і многа чаго іншага, чаго ў нас, дзяцей ваенных гадоў, не было.

Маладыя людзі цяпер са школьнай парты выбіраюць сваю будучую прафесію і настойліва ідуць да ажыццяўлення мэты. Для іх створаны ў краіне ўсе ўмовы: багатыя бібліятэкі, доступ у Інтэрнэт, заахвочванне самых таленавітых дзяржавай. І самае галоўнае - мы жывём у міры і згодзе.

Дай Бог, каб ніколі нідзе на планеце не было войн, не галадалі дзеці. Каб заўсёды над намі было чыстае неба і свяціла яркае сонейка. А пра тых, хто цаной сваіх жыццяў падарыў нам гэтае шчасце, заўсёды павінны помніць мы, нашы дзеці, унукі і ўсе будучыя пакаленні.

Вельмі хочацца, каб менавіта моладзь узяла з сабою ў жыццё багаж любові да Радзімы, да людзей, каб былі яны справядлівымі, добрымі і шчырымі. Каб ніколі не забывалі дарогу да мемарыялаў, помнікаў, брацкіх магіл. Хочацца, каб маладое пакаленне было вартае сваіх продкаў. Тады будзе толькі радасць, не будзе такіх сумных, як у мяне, выпадкаў.

## З ЛЮБОЎЮ

Шуміць вясна. Усё абуджаецца. Журчаць ручайкі, шчабечуць птушкі, распускаюцца покаўкі, на, здавалася б, назаўсёды заснуўшых белым сном дрэвах, ажываюць трава і ўсе жывыя істоты. А як яны жылі ў моцныя маразы, як перанеслі холад і голад? Магчыма, кожны па-свойму. І вось маладая вясна раскрыла свае абдымкі. Як быццам гэта трэці дзень стварэння Сусвету, калі Бог загадаў зямлі вырасціць зеляніну, траву, дрэвы. З глыбіні зямлі дыхае жыццё…

Адчуўшы цяпло, зацвітаюць падснежнікі, зеляне трава, якбы па асабліваму пахне паветра, а ў небе ласкава ўсміхаецца сонейка.

Хочацца, каб і людзі ўсміхаліся і дарылі адзін аднаму радасць, каб свет быў чысцей і дабрэй.

На душы радасна ад незямных, няўлоўных, але так выразна адчуваных пераліваў вясенняга святла і ад чакання нечага асаблівага…

Сімвалічна, што разам з вясной на зямлю заўсёды прыходзіць сапраўды вялікае свята - Вялікдзень, Светлае Хрыстова ўваскрашэнне, глыбінны сэнс якога - перамога жыцця над смерцю, дабра над злом.

Вясна… Усё ідзе сваім парадкам, як і патрэбна. Гэта - бясконцасць часу, вечныя і такія новыя законы прыроды. І вось хочацца сказаць:

Усміхайцеся болей, сябры,
Усміхайцеся часцей, пяшчотней.
Бо любіць без усмешкі няможна,
А любоў… нічога няма мацней.

## ФАНТАЗЁРКА

Заўсёды цікава назіраць за фантазіяй матухны-прыроды, а яна больш багатая і разнастайная, чым у чалавека. І цяжка зразумець, калі і ў якую пару года, гэта фантазія найбольш дзіўная. У ёй цікава ўсё і ўсюды. Але пры назіранні за гэтай фантазёркай узнікае так многа "чаму?". Асабліва ў дзяцей, ды і ў дарослых таксама, на якое не заўсёды знойдзеш дасканалы адказ.

Чаму, цягнучыся да сонца, прабіваюцца нават праз асвальт ці вырастаюць на страсе расліны? Як жа яна, гэтая расліна любіць жыццё! І тут міжволі усплываюць у памяці радкі з рамана М. Астроўскага "Як гартавалася сталь": " Самае дарагое ў чалавека - гэта жыццё...". Гэтыя словы ў пэўным сэнсе можна аднесці і да расліны. А чаму не ўсё адразу жаўцее і ападае з дрэва лісце, чаму яно рознакаляровае, чаму снег белы, а трава зялёная? Чаму так загадкава (таямніча) і нават жудасна шуміць лес, асабліва калі ты ў лесе адзін? Адкуль гэты цуд - рэха? А паводзіны птушак, звяроў і насякомых... Чаму расліны на цудоўнай паляне ўсе рознай формы, велічыні, цвітуць рознымі колерамі, і пах у іх розны? І, наогул, колькі жывых істот і раслін у прыродзе, колькі з іх лекавых?

На гэтыя пытанні таксама ніхто не адкажа. Расліны ўсе не вывучаны, а чаму? Яны ж з'явіліся на зямлі па апісанні Біблii на трэці дзень пасля стварэння Свету.

А можа, гэта і не так важна. Важна тое, што ўсё ў прыродзе сваім існаваннем, выглядам радуе, вабіць вока, спрыяе добраму

настрою і дае прастор фантазіі. А пытанне "Чаму?" - было, ёсць і будзе. І гэта цудоўна, бо заўсёды будзе пошук, пазнанне і адчуванне нечага новага, нязведанага і незвычайнага, а гэта таксама фантазія, злучаная з навукай.

## КАБ НЕ ПЛАКАЛІ БЯРОЗЫ

- Бабуля, а чаму кажуць "жывая прырода"? Хіба ж дрэвы, зямля, трава жывыя?

- Вядома, жывыя. Яны, як і чалавек, дыхаюць.

- Дыхаюць? - здзіўляецца дзяўчынка. І, прыхіліўшыся да дрэва, а потым да зямлі вухам, слухае.

- Няпраўда, яны не дыхаюць. Вось калі чалавек дыхае, то і чуваць, і бачна, а каля дрэва і на зямлі я нічога не пачула і не ўбачыла.

- Так, мая маленькая, яны дыхаюць нябачна і нячутна, - адказала бабуля. Яны не ўмеюць гаварыць і спяваць, але ад іх замест галасоў ідзе водар, замест песень і музыкі ў прыродзе гучыць мелодыя ліўню і чуецца нябесная таямнічая "светамузыка" пры раскатах грому і сполахах маланкі... А дрэвы - яны не толькі дыхаюць, але і стогнуць і нават плачуць. Стогнуць пад моцнымі парывамі ветру, трымаючыся сваімі каранямі за зямлю. А плачуць, калі на дрэве бязлітасна пракручваюць дзіркі ці няправільна надразаюць.

- Я не буду піць сок бярозы, бо гэта яе слёзы, - сказала дзяўчынка.

- Не, мая родная, сок - гэта не слёзы, а вельмі карысны для здароўя чалавека напітак. І калі правільна бярозы ці клёны надразаюць, то ім гэта не шкодзіць.

Усё жывое, у тым ліку і прырода, а яна сапраўды жывая, павінна прыносіць радасць і карысць. Драўніна ідзе на будаўніцтва, з яе вырабляюць паперу, мэблю і яшчэ шмат чаго. Сок, ягады, кветкі, многія расліны лечаць людзей і дораць ім сваю энергію і непаўторную прыгажосць. Аб гэтым ты даведаешся, калі будзеш добра вучыцца.

А чалавек, які з'яўляецца самай разумнай жывой істотай, павінен рабіць усё магчымае, каб не толькі карыстацца, але і зберагчы гэтую прыгажосць, гэтае багацце.



# *Генадзь Казак*

*Генадзь Іосіфавіч Казак нарадзіўся 24 верасня 1954 года ў вёсцы Кудзінавічы Капыльскага раёна. Закончыў сярэднюю школу ў Салтанаўшчыне (1972 г.). У тым жа годзе паступіў ў БДУ на аддзяленне беларускай і рускай мовы і літаратуры. У 1977 годзе прызначаны настаўнікам Цімкавіцкай СШ імя Кузьмы Чорнага Капыльскага раёна. Праз два гады стаў дырэктарам Саска-Ліпкаўскай васьмігадовай школы. У 1984 годзе стаў лектарам па пытаннях культуры і медыцыны Нясвіжскага райвыканкама. З 1989 года - настаўнік СШ № 3 г. Нясвіжа. З гэтай установы Генадзь Іосіфавіч і пайшоў на заслужаны адпачынак.*

*Падрыхтаваў да выдання кнігу гістарычнай прозы "Упершыню ў Нясвіжы". Друкаваўся ў калектыўным зборніку "Цімкавіцкая сярэдняя школа імя Кузьмы Чорнага. Гісторыя і сучаснасць" (укладальнік прафесар Алесь Бельскі), у раённых газетах Нясвіжа і Капыля.*

## МЁД

Калі вам гавораць: дзікі мёд - не верце. Чаму? Тлумачу неда-сведчаным.

Адамашненых пчол, як, прабачце кароў ці свіней, не бывае! Прынцыпова, бо жывуць яны па сваіх, вызначаных пpародай, правілах і законах. Напрыклад, вясной, пасля таго, як трутні апладнілі адзіную матку, іх астатнія пчолкі проста выкідваюць з вулля на галодную смерць. Як непатрэбшчыну!

Уяўляеце, жанчынка, як толькі закругліўся яе жывоцік, праганяе мужыка. На галодную смерць… Як непатрэбшчыну таксама! Як трутня…

## МОЖНА

Сын маме на канцэрце:

- Ім, музыкантам, што, шпаргалкамі карыстацца можна? Не хаваючыся!.. А мне на кантрольнай - нельга?.. Пратэстую!

## У ПЯЧОНКАХ

Я так люблю жанчын, што ўсе яны ў мяне даўно ў пячонках. О! Колькі ж у мяне пячонак?!

## ВАРТАЎНІК

- Кім працуеш?
- Я бензінсмен!
- Як гэта?
- Я - начны вартаўнік на платнай аўтастаянцы!..

## АЖАНІЦЦА - НЕ ТУЖЫЦЦА

- Дачушка, я ажаніцца сабраўся!
- Віншую, тата, нарашце рашыўся, віншую!
- Дык ведаеш, атрымліваецца… не зусім…
- А што?
- Ды папярэдняя мая сяброўка хлопчыка чакае… А ажаніцца задумаў з другой…
- Што?! Ну ты даеш, бацька… гэта ж што ж атрымліваецца, твая ўнучка будзе старэйшай, чым твой сын? А сын - мой брацік? Так? Цётка маладзей за пляменніцу?.. На народзіны не забудзь запрасіць!

Татачка ты наш добры!

## ДОБРЫ?

- Я не куру, не п'ю гарэлку, віно і нават піва.
Мне хутка сорак гадоў! І я не жанюся…
Пахваліце мяне: я ж добры чалавек!

## ДЖАКОНДА

Хлопец шукаў-шукаў падобную да Джаконды, бо ўсе сцвярджалі, што яна - узор жаноцкасці, потым задаў сабе пытанне: а ці сапраўды гэта так? А суседская Надзейка што, не Джаконда? Не! Яна - Надзейка!!!

# *Зоя Кулік*

## ВЕНЕРЫНЫ СЛЁЗЫ

*Маёй бабе Наталлі*

Сцяўшы рукі, міжволі адчуваючы, як дзервянеюць ногі, Наталля з адчаем углядалася ў далёкую, ужо чуць бачную белую плямку сярод шэрых чалавечых постацяў, што бясконцай плынню ўсё ішлі і ішлі абапал іх хутара палявой дарагой на Клецак з самага ранку. Зрэдку сярод іх трапляліся нейкія гарматы, якіх больш цягнулі на сваіх плячах салдацікі, чым змарнелыя коні. Саветы адступалі…

Твары людзей у армейскіх мундзірах былі разгубленыя, чорныя ад пылу і дыму. Засмяглыя, прыпадаючы да вядра на калодзежы, яны хмура, не падымаючы вачэй, пілі сцюдзёную ваду і моўчкі спяшаліся, спяшаліся… Камандзіраў сярод іх яе хлопцы згледзелі адразу, падняслі конаўку, старэйшы, Колік, вынес чысты ручнік. Спыніўшыся пад ясенямі, якраз каля Наталлінага гумна, камандзіры прыселі на збялелую ад пылу траву, дасталі нейкія паперы. Наталля бачыла, як старэйшы афіцэр спачатку нахмурана паглядзеў на яе хлопцаў, якія прылеглі побач з ім да ясеня, а потым, змучана ўсміхнуўшыся, пры-

гарнуў адной рукой малодшага, Сярожу і папрасіў кавалак палатна. Наталля прынесла ільняны ручнік і спалохана назірала, як ён абматаў акрываўленую руку. Камандзіраў было двое: адзін, зусім маладзенькі, можа крыху старэйшы за яе Коліка, і вось гэты, паранены, сталы, змучаны чалавек.

Васіль, які зранку спрабаваў касіць замежак ад Калянкавага поля, паставіў касу пад маладую яблыньку і прысеў побач з імі.

- І што гэта будзе? - хмура запытаў ён у старэйшага, скручваючы цыгарку з дамашняга самасаду.

Той глянуў з-пад ілба на дзяцей, на Наталлю:

- Вайна, браце, што тут гаварыць.

Малодшы афіцэрык раптам калюча зірнуў Васілю ў вочы, сарваў рамонак каля сцяжынкі, расцёр яго ў пальцах:

- Ну, а вы, западники, видимо довольны, что советская власть уходит?

Наталля бачыла, як перасмыкнулася ў Васіля шчака і звычна ўпарта адтапырылася ніжняя губа:

- Не ўсе заходнікі скакалі, як саветы прыйшлі, не ўсе радуюцца, што адыходзяць.

Старэйшы глянуў запытальна:

- Партыйны?

- Білета не маю, але калгас тут стварылі, - Васіль згорбіў шырокія плечы, павярнуў галаву да ўстрывожанай Наталлі: - Дай людзям паесці.

Наталля заспяшалася ў хату, адрэзала кавалак сала, узяла бохан хлеба. Некалькі цыбулін выдрала ўжо з градаў, калі варочалася да калодзежа. Закруціла ў чыстую палатніну. Васіль нешта думаў, стоячы каля камандзіраў, а старэйшы з іх, паклаўшы здаровую руку яму на плячук, прамовіў:

- Я не супраць, ці так, ці гэтак, можа ты і маеш рацыю. А там разбяромся.

Прытрымліваючы руку, ён кінуў малодшаму:

- Пойдзем!

Васіль агледзеўся на яе, доўгім позіркам паглядзеў у вочы, моўчкі забраў клунак, і пайшоў следам. Як касіў, як выйшаў ранкам з хаты ў белай споднай кашулі - так і пайшоў… Ёй так хацелася закрычаць, дагнаць, вярнуць яго дадому. І памкнулася, і зрабіла крок, але раптам стрэла позірк дзіцячых вачэй і змаўчала…

Непаслухмянай рукой Наталля перакрысціла яго ўжо далёкую постаць. Шэрую плынь яшчэ доўга разбівала белая пляма шырокіх плячэй яе чалавека, аж пакуль не схавалася за прыгоркам жыліцкой

дарогі. "Пайшоў, нават не азірнуўся! А як жа яна, дзеці!? А можа не азірнуўся, бо баяўся застацца. А застанецца, камандзір сказаў, заб'юць. Але ж ён не камуніст. Можа не даведаліся б пра той калгас…" . Думкі мільгалі, а сама знешне спакойна, адчуваючы разгубленыя позіркі дзяцей, каб не растрывожыць малых, пашыбавала дахаты, забыўшыся пад ясенямі і вядро, і конаўку.

II

Недзе за Мацылёўшчынай грымнула, і ў неба падняўся слуп дыму, а потым шуганула полымя. Наталля здрыганулася і спалохана прытуліла да сябе малодшых хлопчыкаў. Там, за сялом, на поплаве, гарэў самалёт з чырвонымі зоркамі, а непадалёк лётчык змярцвела абвіс на парашуце, і яго панесла недзе за могілкі ў Дубраву. Сыны рвануліся бегчы ў той бок, але Наталля, праглынуўшы горкі камяк: "Нават не азірнуўся!" - загнала дзяцей у хату.

У небе зноў загуло - самалёты з крыжам ішлі высока, можа на Мінск, а мо і далей.

Заўсёды прамая, з высока паднятай галавой, маленькая і зграбная, Наталля за нейкі час згорбілася і нічога не заўважала наўкол. Яна ведала, што Васіль мусіў пайсці з войскам, бо застрэляць немцы і яго, і сям'ю, а так можа пайшоў і пайшоў, сям'я што вінаватая. Але ж сэрца ірвала крыўда, трывога за дзяцей, і так разбягаліся думкі, што галава нясцерпна забалела, і старэйшы, Колік, адразу адгукнуўся, глянуўшы на яе скрыўленае, збялелае аблічча:

- Хадзем, мамо! Паляжыце трошкі, а я вось дакашу мяжу.

Сціснуўшы галаву хусткай, Наталя прылягла за печчу на палаткі. "Сынок мой ! Табе ж трэба было на вучобу ехаць, і вось такая бяда!"

Сямнаццацігадовы хлопчык, дробненькі беленькі, Колік не ўдаўся ў бацьку ні худзенькай постаццю, ні рашучасцю. Толькі характар-крамень, ды яшчэ ў вачах нешта такое, што адразу людзі ставяцца да яго, як да сталага мужыка. Наталя, наглядаючы, як расце старэйшы сын, употай ганарылася, што ён падобны да яе дзеда, дарадца на ўсю акругу. І Колік - лепшы вучань наўкрэст, а дома - гаспадар. Наталля ўткнула галаву ў падушку, каб крыху суняць боль і заспакоіцца. Перад вачыма стаяў Васіль, вялікі, як мядзведзь, і добры… Усе яны, Казюкі, як іх дражнілі ў сяле, былі мажныя і прыгожыя хлопцы. Працавіты, рана застаўшыся сіратою, без бацькі, Васіль узяў яе за жонку ў сямнаццаць гадоў. За прыгажосць, за радавітасць, а найбольш, за голас. Ох, і спявала! Наталля ўсхліпнула. Пайшла, хоць

і замалады быў, ды гаспадар: зямля, хата, у сяле не апошні род. Першыя гады на руках насіў. Ідуць удваіх са Снова на свой хутар, падхопіць на рукі маленькую, худзенькую Наталлю і ўсю дарогу паказвае, дзе чыя палоска зямлі на прыдатках. Рад быў, што людзі зямлю купілі ў Наруцавіцкага графа, тады і яны ўсё, што сабралі за зямлю аддалі, бо чатыры сыны раслі. Калі меншы, Яначак, памёр ад глоташнай, вось тады перастала Наталля спяваць. А Васіль ірваўся да работы, купляў зямлю, бо сынам хацеў дастатку. Потым зачасцілі хадакі на хутар недзе з-пад Капыля. Наталля сціснула рукі ад роспачы. І казалі ж яму - ды дзе там. А цяпер - вось…

Цяпер ужо каторы дзень ідзе вайна! Наталля адкінулася на спіну, успамінаючы, як зранку ў нядзелю прыпёрся сусед, Бан, як дражнілі яго хлопцы. "У баку Баранавічаў чорны-чорны дым засцілае неба. Там, напэўна, нешта гарыць на аэрадроме, ці мо на чыгунцы. Мусіць немец, халера на яго, усё ж такі напаў!" - тупаў ён наўкруг яе Васіля. Васіль хмура адмоўчваўся, нешта напружана думаў, думаў…

Увіхаючыся каля печы, тады Наталля разумела, як яму цяжка, але змоўчала. Ох, чула сэрца! Запрасілі яго ў гэты калгас. Нічога добрага і адразу не было. Прыйшлі свае ж, мацыліўцы, і выратоўвай, Васіль! Ты заўсёды быў у нас сумленным дарадцам ды добрым суседам, як і дзед твой, і бацька. Хай спакойна спачываюць! Саветы прыйшлі, трэба неяк ратавацца. Ну, як ратавацца?! Калгас трэба ствараць, - Васіль запытальна і ўпарта выставіў падбародак. Як добра ведала Наталля яго гэты цвёрды, настойлівы погляд, рашуча паднятыя плечы! Ведала, турбавалася і ганарылася, нягледзячы ні на які жаночы абярэг і трывогу!? Васіль агледзеў паніклых суседзяў:

- Пан Яноўскі з'ехаў, двор застаўся добры. Хто не мае зямлю - з тым прасцей, а вось вам, Хаманы, дзяліцца трэба, бо млын забяруць ды яшчэ і вышлюць, не разбіраючыся, што вы тры сям'і на гэты млын збіралі.

Так у Мацылеўшчыне стаў калгас, а Васіль там дняваў і начаваў. Доўгімі вечарамі, седзячы каля лямпы, нешта выводзіў у сваім сшытку, шаптаў, лічыў, нават у Коліка пытаўся тое-сёе. Навошта гэта было яму? Свая гаспадарка добрая, хлопцы растуць.

Зямлю куплялі - нават падушкі папрадавалі. Цяпер усё звёў у калгас. А яна падняла за возам калгасным пучок ільну, то ледзь не прыбіў. Першы раз на яе замахнуўся. От, каб усе былі такія, як ён. А так у калгас пайшлі, Васіль нікога не даў засудзіць, а глядзяць паво́ўчы, ды і на яго таксама. Колік неяк сказаў бацьку: "Вось, Вас, тата, бальшавікі і накормяць, і абуюць!.. Яшчэ паглядзіце!"

Ох, і злаваў. А сын меў рацыю. Уся гаспадарка на ім ды на

матцы. Суседзі злуюць, а за што? І нічога ж тыя Саветы не дапамаглі. Уцягнулі Васіля нетутэйшыя людзі. Добры ён, сэрцам за ўсіх… Ох, і калгас прападзе, і Васіль пайшоў…

Наталля падняла галаву і паправіла хустку. Трэба ісці. Цяпер усе справы ізноў на ёй ды дзецях. Яна пастаяла, тужэй завязала вузел: "Пайшоў!!! І не аглянуўся! Сэрца як накрыла каменем, так і не ўздыхнуць. - А як аглянуцца яму? Аглянуўся б - застаўся! Хіба адарвешся ад дзіцячых вачэй! А так, можа, хоць яны ацалеюць. Але ж пайшоў! Пакінуў! Хоць у сваёй хаце, сярод сваіх, але ж на волю лёсу! Здаецца б галасіла немым крыкам! Ды дзеці, Колік… Ох, мой Божа!

III

Раптам моцна грымнулі дзверы і ў хату заскочыў калгасны конюх, Чарнабайчык:

- Дзе Васіль? Там людзі ў Янове жыўнасць разбіраюць, кажуць, пакуль немцаў няма, трэба калгас падзяліць.

Наталля глянула на Коліка:

- Ідзі, сынок, а то застанемся ні з чым.

Калі старэйшы сын пабег з Чарнабайчыкам у Яноў, Наталля сумна ўсміхнуўшыся, выцягнула дзежку, каб рашчыніць хлеб:

- Бо няведама, што будзе, трэба хлеба назапасіць.

Мясіла тугое цеста і ўспамінала, як Васіль Чарнабайчыка выратаваў ад турмы. Тады толькі-толькі калгас стварылі. Міколка з Чарнабайчыкам паехалі па даручэнні калгаснікаў у Стоўбцы, бо там шмат было жалезных прылад: плугі, цвікі. Вось тады для заходнікаў гэта жалеза было за дзіва. І прыхапілі за калгасныя грошы і сабе тое-сёе ў гаспадарку мужыкі. Вядома, вочы разбегліся, тут такога не дакупішся. От крычалі на сходзе, на былых панскіх парабкоў людзі, а Васіль не дапусціў да суда: "Грошы хай вернуць, а турма абыдзецца." Слухаліся яго! А Чарнабай працаваў сумленна, разумеў, якой бяды сям'я мінула.

Не даў Васіль і крыжы зняць з царквы. Крыкнуў на Малойлу, які заскочыў ужо на званіцу:

- Злазь! Ні ты іх ставіў!

- Цьфу! - плюнуў Малойла, але да царквы больш не палез.

Мясцовы поп быў вельмі здзіўлены. Чакаў другога, бо ганаровы Казюк, як за вочы называлі яго сяльчане, ніколі перад бацюшкам шапку не здымаў, не сябраваў ніколі. А вось такі, яе Васілька, справядлівы… Колік вярнуўся на дзіва хутка. Каня, якога выдалі яму з калгаса, на мосціку адабраў Адам, Васілёў сваяк.

- Навошта вам, - сказаў, - усё роўна пастраляюць.

Наталя збялела. Бегла ў сяло наўпрасткі, праз жыта, і дагнала такі, схапіла каня за аброць, тузанула з усяе сілы да сябе: "Не былінка я, дзеці ў мяне, ламацца ад усякага не маю рацыі. Землю, как абрабляў, бо пракляну і збэшчу, што света не ўбачыш! Васіль вернецца - за ўсё адкажаш!" Крычала, але каня адпусціла, зразумела раптам, што ўсё роўна каня адбяруць, не гэты слуп, то немцы. Паглядзела, бездапаможна апусціўшы рукі, услед Адаму і папляласа па мяжы дадому…

Начавалі ў картоплях. Бульбяныя кусты ўжо браліся цвісці.

Кінула коўдру ў разоры і прытуліла да сябе дзяцей. У хаце здавалася страшна, па гасцінцы звечара ўжо грамыхалі нямецкія танкі ды матацыклеткі. Цяпер вакол было ціха, толькі недзе за лесам палыхалі зарніцы ці то ад пажараў, ці то ад навальніцы. Наталля ляжала на яшчэ цёплай, угрэтай за дзень летнім сонцам зямлі і бачыла перад сабою ў цёмным зорным небе тую далёкую, ясную зорку, аб якой любіў спяваць яе Колік. Зорка "Венера"!

- Чаму праз гэтую зорку склалі верш і песню? - спытала яна тады ў Коліка.

- Таму што, баюць людзі, пад гэтай зоркай нараджаюцца самыя прыгожыя жанчыны, - адказаў сын. - А некалі, у старыну, лічылі, што там і жывуць багіні.

- А мы, простыя бабы, што ж? - захвалявалася Наталя.

- А вы, венерыны слёзы, - засмяяўся тады Васіль.

"Васіль! Дзе ты? Ці думаеш пра нас? Куды ж завядзе цябе гэтая ваенная дарога?" Ляжала Наталля, прыціскаючыся да роднай зямлі, як да збавіцелькі, і не ведала, колькі гора, турбот ёй яшчэ трэба перажыць. Не гадала, што пройдзе Васіль усю вайну і вернецца да роднай хаты ўвесь зранены, што зберажэ яна дзяцей, што адзін з сыноў будзе лётаць у гэтым небе лётчыкам. А самы разумны яе, Колік, так і застанецца каля бацькоў, араць, засяваць зямельку.

Ляжала, глядзела на зорку Венеру і раптам убачыла маленькую бялявую дзяўчынку, якая бегла па светлым праменьчыку прама ад далёкай зоркі да яе. Яна прыхілілася да Наталлі, пагладзіла яе мокры ад слёз, ці мо ад дажджу твар і ціхенька прашаптала: "Спі, бабуля!"

## ДЗЕД

Я напісала гэтае апавяданне не проста, як успамін пра свайго дзеда, гэта аповед пра чалавека, які ў сваім жыцці ўвасобіў тую частку гісторыі нашага краю, што ўжо забываецца ды і не кожнаму зразумела. Вось такое тады было жыццё, такія клопаты і справы. А лёс краіны і чалавека пераплятаўся неразрыўна праз усё 20-е стагоддзе. Лепшыя

людзі ўвасаблялі ідэі роўнасці, справядлівасці, чалавечай годнасці. У многіх краінах свету, паверыўшы ў ідэю камунізму, народы праз крывавыя войны, барацьбу, паступіўшыся асабістым дабрабытам падымалі штандарты новага жыцця. Уперадзе заўсёды ішлі лідары, будзь то маленькая вёска ці краіна. Гэта было жыццё з вераю ў будучыню. Гэта была самаахвярнасць і вялікая любоў на сваёй радзімы.

Вось такое "Сэрца Данка" білалася і ў грудзях дзеда Васіля. Можа прачытаўшы гэты кароткі летапіс яго жыцця, стане больш зразумелым той далёкі час, які тычыцца кожнага з нас, бо менавіта ён паўплываў на лёс нашых сем'яў, стаў неад'емнай часткай нашай гісторыі.

Ён быў нейкім не такім, як усе людзі. І, што цікава, для ўсіх, хто яго ведаў, нават для чванлівага чыноўніка, была зразумела яго перавага. Відавочна пранікнёны позірк, шчырасць, шырокія плечы, упартая пасадка галавы, прамыя словы.

Сваю асаблівасць ён адчуваў з дзяцінства. Яшчэ калі вельмі рана, у няпоўныя шэсць год, раптам застаўся без бацькі - такога моцнага і здаровага, такога надзейнага - і стаў адзіным мужчынам, спадкаемцам. Бацька прайграў маёмасны суд свайму брату і, ад жалю, крыўды, з гарачкі ўзяўся вырываць таўшчэзныя паўметровыя шуі і… надарваўся. А каму ж было яго спыніць?!

Гарачы, няўрымслівы, упарты. Прызнаны дарадца і войт у сяле і раптам … такая здрада, па тым часе, на яго погляд, малодшага брата, які ажаніўся з удавою старшука ды раздзяліў так старанна паміж імі абоімі наладжаную гаспадарку. І калі гэты раздел можа і дадаў бы клопату бацьку, Мітрафану, то яго ранняя смерць зруйнавала жыццё ўсёй радзіны, а малога Васіля асіраціла ды яшчэ зрабіла адзінцом-мужчынам у сям'і. Як маці ні налягала, а і маслабойню, і сыраварню ўсё ж прыбраў да рук "здраднік" Адам. А зямельку берагла, нават дочкам пасаг не адважылася даць ні кавалачка. Ды яны, пакуль рос Васіль, і не патрабавалі. Адна, Ганна, пайшла замуж за багатага перахрэста габрэя, які дзеля яе застаўся ў Радзівілаў на службе ў Радзімонтах эканомам. І гэта любоў была і з яе боку таксама шчырай і адданай усё жыццё. А меншая, Марыля, спявуха і весялуха, замуж не спяшалася. Наогул, у іх родзе дзяўчаты заўсёды былі прыгожыя, годныя, ды яшчэ і разумныя. Нездарма з пакалення ў пакаленне перадавалася быль, што мясцовы пан шчыра заляцаўся да іх прабабкі. І толькі вайна з французам, дзе ён злажыў буйную галаву, засцерагла панскі род ад мезальянсу. А наогул, ці лічалася б гэтае каханне ў той час для пана Яноўскага мезальянсам? Нездарма ж перадавалася байка з даўніх часоў, што прыйшоў Капуста Федар сюды атаманам з Дону

на дапамогу сыну Вітаўта паваяваць татараў. Ды так і застаўся, а Яноўскі, на той час быў у яго сотнікам. А чаму ўжо потым стала наадварот, аднаму Богу вядома. Толькі Капусты сялом кіравалі, колькі яно сябе помніць. Ва ўсіх Капустаў ад таго далёкага продка засталася вялікая павага да каня-працаўніка і сябра, воіна. Васілёва любоў да коней была дзіўнай і амаль на мяжы пакланення. Племянны рысак, куплены ў крэдыт, чуць не пусціў сям'ю па свеце. Так Васіль марыў завесці племянны статак! Мабыць, кроў казака ўсё ж гуляла і па яго жылах. А бабка грэх свой прыкрыла ў замужжы, але лабатыя асілкі-хлопцы вельмі ж падобныя былі на таго пана Казюка. Нават мянушку ім прыляпілі - Казюкі. Сяло ёсць сяло: усё ведае, прыкмячае. Вось і Васіль рос шыракагрудым, моцным. Вясковую чатырохкласную школку праглынуў з разбегу, але далей вучыцца як? Трэба было брацца за гаспадарку. Адзін мужчына. У сямнаццаць гадоў, каб быць спадкаемцам, Васіль ажаніўся. Закахаўся! Як прывык усё атрымоўваць упартасцю! Заляцаўся - пакуль не згадзілася Наталля, хоць аб каханні з яе боку не было мовы. Але ж яе цётка Маня ды і бацькі зудзелі кожны дзень: "Адзінец, зямлі многа, хлопец малады, добры." Ён быў добры, працавіты. Малодшы за жонку на пяць гадоў.

Прыгожы, разумны хлопец вельмі хутка не здаволіўся інтарэсамі адной сваёй сям'і. Сяло, ужо прывычна, як і яго бацьку з дзедам, прызнала сваім старастам. Васіль сустракаўся з землямерамі, бо людзей пачалі ссяляць на хутары, зямлю наразалі па балах і людзі яму давяралі. А дома збіраў з сям'ёй кожную капейчыну, бо з'явіліся адзін за адным сыны, патрэбна было прыкупіць зямелькі. Наруцаўскі граф, нешта заварушыўся, пачаў прадаваць дробнымі палосамі дзялянку каля Каменкі. Прыкупілі амаль тры дзесяціны ды хутар нарэзалі ў добрым месцы: яшчэ больш шасці дзесяцін, ды кусок ляску, рэчка блізка, лужок. Жыві, Васіль!

І ён кінуўся ў працу. Будаваў новую хату, гумно, распланаваў сядзібу, пасадзіў са старэйшым сынам, Мікалаем, сад. Жонка, Наталля, маленькая, але ладная, вельмі пасавала яму, яго ўпартаму годнаму характару, такая ж годная, з ганарліва пасаджанай галавой: дарадца, берагіня сям'і.

Хлопцы раслі. Колю, старэйшага, за сына неяк не ўспрымаў, бо ён нарадзіўся, калі Васілю было сямнаццаць. Амаль брат. І папіхаўся з ім на роўных, і да Наталлі раўнаваў не як сына. Дзіва! А той рос добрым, паслухмяным, у матчын род - дробненькі. Ад кніг - цяжка адарваць. Вучыўся - на ўсю акругу! І вельмі маці шкадаваў. Дзеля яе на ўсё быў гатовы. Калі на праўдзе, дык меншым дзецям ён быў як бацька, бо Васіль, пытлівы, разважлівы чалавек, і ў такі пераломны

час, калі захісталіся ўстоі ды традыцыі, ад палітыкі ўбаку не застаўся.

Як і адкуль да яго, хай сабе і не зусім цёмнага селяніна, прыйшла гэта палітыка ў глыб беларускай вёскі цяпер сказаць цяжка. Мужыкі вакол яго гуртаваліся заўсёды, камандаваць вяскоўцамі ён звык, але, калі ў трыццаць дзявятым прыйшлі бальшавікі, першы калгас у Мацылеўшчыне быў створаны ім і мацылёўцамі. Потым перайшлі ў панскую сядзібу, у Яноўшчыну. Акрамя таго, што панскі маёнтак апанавалі былыя парабкі, якія і жылі тут, пры двары, людзі без зямлі і сродкаў, у калгас, маючы моцны давер да Васіля, сабраліся і заможныя сяляне.

Цікава, што і адкуль зразумеў Васіль, але яшчэ толькі размовы ішлі пра надыход саветаў, а ён ужо тлумачыў мужыкам: "Дзяліцеся, якія вы "кулакі", скваркі не бачыце па паўгода! Дзяліцеся, бо сашлюць!" Выратаваў такім чынам не аднаго "кулака", і з яго сяла на самай справе нікога не высяляюць.

Новая ўлада спрачацца з ім не спяшалася, бачылі павагу людзей, ды і шчыра кінуўся Васіль у новае жыццё, з радасцю прыняў новыя законы. Аднак часта, па вечарах, калі мужыкі пасля доўгіх размоў і бясконцых цыгарак, ажно ў цемры, каля лямпы аблокі плавалі, доўга сядзеў, нахмурыўшы бровы, і ў лад сваім думкам круціў лабатай галавою. З чым ён не згаджаўся, што яго мучыла і не задавальняла?

Дома цяпер яго бачылі рэдка. Наталля з дзецьмі цягнула гаспадарку. У калгас здалі ўсё, але каля дома працы хапала, спадзяваліся на сябе. Неяк падняла жонка пучок ільну на дарозе, што выпаў з калгаснага воза, дык Васіль гнаў яе да калектыўнага гумна : "Не бяры чужое!" Каб усе былі такія!

Трэба было калгас развіваць. Сабралі грошы ў "общак" ды паслалі двух калгаснікаў у Стоўбцы. Там былі цвікі, сякеры, веялкі - ну ўсё тое, чаго не хапала якраз заходнім сялянам "пры паляках" - жалеза. Паехалі былыя панскія батракі з сялянскімі грашыма на добрых сялянскіх конях, ужо цяпер калгасных. Так Васіль думаў прывучаць былых парабкоў быць гаспадарамі, клапаціцца аб калгасе. А яны за чужыя грошы прыкупілі і для сябе тое-сёе. Схавацца не ўдалося. Загуло сяло: "Пад суд іх, злодзеяў! З бана не будзе пана!"

Стаў мой дзед перад людзьмі: "Аддаць іх у турму - навек загубіць і іх, і іх сем'і. Хай працуюць і дзецям сваім закажуць! Не аддам."

А ў вокны ўжо грукатала вайна. Ішлі армейцы. І прывычныя да ваенных дзеянняў на гэтых землях людзі, яшчэ ў першую, з германцам, цікавалі за адступаючымі з трывогай, але рабілі звычную сялянскую працу. Гэта быў час, калі дзень год корміць. Касіў і Васіль.

Ды ў адрозненннi ад суседзяў добра разумеў, што немцы будуць нішчыць парасткі новага жыцця на гэтай зямлі, і яму не паздаровіцца ў першую чаргу. Наколькі згарэла, счарнела яго душа ад болю за жонку і сыноў, што кідаў на волю лёсу - гэта вядома яму аднаму. Але была і надзея, можа і да сям'і чапляцца не будуць: "Што ўзяць з бабы з малымі". І пайшоў з пяхотаю, нават слова не сказаў Наталлі. Гэта быў другі дзень вайны, 1941 год.

Як жылося Наталлі ў час акупацыі, нават не расказаць. Тыя, каго Васіль выратаваў ад раскулачвання, не зразумелі, аказваецца, чаго яны пазбеглі, а зберагалі лютую злосць да яго і калгаса. Абрабавалі гаспадарку Васіля, абадралі страху, выграблі прыпасы на зіму. Нічым не дапамагалі нават сваякі, акрамя хадатаўскай радні Наталлі. А вось парабкі, што ад нястачы ўжо апынуліся ў паліцыі, хоць словам перасцерагалі ад небаспекі, ды лютавалі на падвор'і наўмысна, а жыць давалі. Лепей кажучы - выжываць.

Ды вось прагучаў у канцы зімы слых. Завёўся ў лясах пад Ляхавічамі партызанскі атрад, а камандуе ім Капуста. І ўся акруга, як адзін чалавек, паверыла, што гэта Васіль. Якую харызму павінен быў мець чалавек, каб адно імя яго вышыхтавала ўсіх па струнцы. Наталлю болей не чапалі. А таму Капусту, камісару партызан, які потым меў генеральскі чын, уся наша сям'я праз усё жыццё была ўдзячна за выжыванне. Наогул, у сталым узросце, калі я ў інтэрнэце кінула кліч аднафамільцам і мы стварылі згуртаванне "Ганарымся прозвішчам Капуста", была амаль не здзіўлена, што сотня Капуст адгукнулася, ды ўсе асобы вельмі цікавыя і паважаныя ва ўсім свеце. (Прыклад: і Гельмут Коль - Капуста.)

Хутар жыў, ціхенька выратоўваў параненых вайсковых і адпраўляў у лес. Пяклі партызанам хлеб. Цераз гэты хутар прайшоў і Валодзя, які ў хадатаўскіх ды капыльскіх лясах стварыў потым атрад. Вось да яго і бегаў старэйшы сын сямнаццацігадовы Мікалай. А пайсці назаўжды яму не дазволіў Валодзя. "Матку з малодшымі тады ўжо сапраўды расстраляюць." Так і жылі.

А Васіль, на самай справе, ваяваў на фронце. Пяхота - праз усю вайну. Чатыры разы паранены ў галаву, апошні з падняццем чэрапа. Тры ордэны, медалі. Вярнуўся дадому ў 45-м, хоць і мог бы застацца старшыною. Вельмі ўжо падабаўся ён свайму камандзіру, гэтакаму ж беларусу - земляробу, як і ён. І было яму сорак год. Родная старана цягнула магнітам. Панішчанае здароўе, зруйнаваная гаспадарка, абрабаваны калгас. Усё трэба спачатку пачынаць. А ён бярэцца! Не шукае лёгкага жыцця, а бярэцца! Не помсціць здраднікам-суседзям, а ладзіць дабрабыт! І зноў звычна, адкуль такая адданасць да радзімай

стараны, такі лагодны розум і жорсткі прынцып сцержанёвы ў справах і пачуццях, такая годнасць чалавечая!? Калі мне сёння не хапае адвагі процістаяць подласці - я ўспамінаю дзеда і бацьку, якія, нават і часта сабе ў страту, ніколі годнасць не гублялі. Ніколі! Праз вякі ідуць такія людзі па зямлі і трымаюць яе на сваіх плячах.

І зноў, звычна, сяло выбірае сваім лідарам Капусту Васіля. Але ён, хворы, змучаны вайною чалавек і, напэўна, там, на франтах, добра зразумеў ужо двулікасць і асабістасць гэтай як бы народнай улады. І з ёю ён не ў ладах. Прама ў вочы "брые" раённаму гаспадару, былому палкоўніку: "Чым больш тоўстыя пагоны - тым большы злодзей." І той глытае. Чаму? Ведае, што Васільз вайны прыйшоў з адною лыжкаю, грэбаваў чужымі лахманамі, ніколі не ўзяў чужога, нават трафейнага? І нас вучыў. Можа, і людзі яго за гэта паважалі: за яго адданасць, шчырасць, уменне павесці за сабой, падняць сцяг, бачыць ідэю, дасягаць мэту.

Аднойчы, пасля яго смерці, мужыкі, дымячы цыгаркамі каля кузні, дзе быў іх "штаб" у вольны вечаровы час, размаўлялі пра мясцовае начальства. Дражнілі за падман ды косткаязычнасць. І раптам я, што прыехала разам з бацькам на кані з сенакосу, пачула, як стары Міканор сказаў: "Так, такога, як Васіль, цяжка пашукаць. Як пачне гаварыць, дык за ім і на плаху не боязна." І ўсе згодна ківалі галовамі. Народная мудрасць, як і народная слава, - агнём не выпаліш і не зменіш. Цікава, што калі аб'яднаны калгас даверыў Васілю Мітрафанавічу сельскі савет, царкву ў сяле закрыць ён не даў, пакуль працаваў, але святароў чамусьці не паважаў. Як не паважаў і тых кіраўнікоў, што з урадлівага, працавітага краю зрабілі галыцьбу.

Цяжкая хвароба, былыя раны працаваць доўга не далі. Я памятаю яго са слязьмі на вачах, калі па тэлебачанні дэманстравалі "Ціхі Дон" Шолахава. Таемныя струны душы ягоадгукнуліся на гэты твор яшчэ больш эмацыянальна, чым на кнігі.

Заўсёды чыста выбрыты, каратка падстрыжаны, ахайна апрануты, нават у самыя цяжкія свае хваравітыя дні. Ён сядзеў на лаўцы каля хаты і ў свае семдзясят год быў самы прыгожы і разумны для мяне, а я думаю не толькі для мяне, паважаны дарадца і ўплывовы чалавек. Я яго любіла нейкай шчымлівай, любоўю. Задуменна апусціўшы сваю пародзістую лабатую галаву, мой дзед сустрэў мяне ў сярэдзіне сямідзясятых гадоў, калі я збіралася ў будатрад, нечаканым выказваннем: "Каб вярнуць маю маладосць, я б быў супраць гэтай улады!" Разгубіўшыся ад нечаканасці, я актывістка і камсамольскі важак, абняла яго галаву і сказала: "Гэта толькі наш калгас такі, а ўсюды парадак. Усё будзе добра!" Ён усмешліва паглядзеў мне ў вочы,

крыху памаўчаў, абвёў позіркам неба: " Дай-та Бог! Дай-та Бог!"

*Жнівень 2016 г.*

***P.S.***

*Цікава, што дакументы аб калгасе 1939 г. у Мацылёўшчыне згублены. А ўзнагароды і вайсковыя дзедавы фотаздымкі, якія ён падараваў у школьны музей в. Грыцкевічы яшчэ ў 70-ым годзе (а гэта - ордэны Славы, Чырвонай Зоркі), бясследна зніклі з музея. Што сказаць вам, нелюдзі?.. "Сышоўшыя з круга свайго будуць знішчаны па аднаму".*

## ВЯСКОВАЯ СПОВЕДЗЬ

Вёска памірала.

Яна ўжо даўно глядзела на белы свет абыякава, але, нібы саромеючыся, прыкрывала стомленыя пустыя вокны-шыбкі празрыстымі кустамі бэзу і каліны, здзічалымі ружамі. Яшчэ сягды-тагды варушыліся яе здранцвелыя ад векавой цяжкай работы пальцы-вулачкі, дзе збіраліся адзінокія, змарнелыя старыя, каб пасядзець на лавачках, выпраміць спіну, пагаварыць аб жыцці.

Вёска іх слухала, цяжка ўздыхаючы, жывучы іх успамінамі і надзеямі.

Вёска ўслухоўвалася ў размовы і дзядоў, і прадзедаў гэтых людзей, перажывала з імі іх лёс, ганарылася, плакала, шкадавала, баялася.

Але тады надзеі было больш. Надзея была заўсёды, нават калі яе збіраліся спаліць паліцаі, нават калі амаль знікла моладзь. А вёска жыла! Бо ўсе гады звінеў дзіцячы смех, няхай сабе ўлетку, але ж кожная хата сустракала ўнукаў, рыхтавалася. І вёска адчувала сябе патрэбнай. А яшчэ, самае галоўнае, у яе заўсёды была галава. Яна ніколі не была сам-насам. Гэтаю галавою былі розныя людзі, але клопат пра вёску быў заўсёды адзін - усе яны стараліся, каб вёска жыла, каб варушылася, каб сеяла і збірала ўраджай, атульвала сваіх дзяцей.

Вёску празвалі Вясёлае. На самай справе яна доўгія гады называлася Пузава. Нейкі "барин-шутник" усё тутэйшыя вёсачкі абазваў часткамі цела дзеўкі-блудніцы. Так яны і жылі: хто ў Галавачах, хто ў Зубках, а хто і ў Цыцкавічах. Потым нейкія назвы змянілі. Так і Пузава стала Вясёлым. Вельмі ж цудоўна тут спявалі вясковыя дзяўчаты. Ідуць з сенакосу - песню і ў навакольных вёсках чуваць: можна на вячоркі збірацца. А вёсцы падабалася і старая назва, і новая. Людзі ж ўсё адно свае, родныя.

І вось сёння вёска памірала насамрэч. Некалькі старэнькіх бабуль разгублена збіліся ў куточку двара пад ліпай-векавухай. Па свежаскошанай траве, каля асірацелай хаты, завіхалася прыезджая шматлікая радня апошняга старажылы і галавы вёскі - Івана Куляша. Вёска збірала Івана ў апошні шлях.

Яны, гэтыя Куляшы, заўсёды тут верхаводзілі. Вёска добра іх памятала ўсіх: і бацьку Івана - Юзіка, і дзеда - Фёдара, але гэтага, Ваньку, асабліва цаніла і шкадавала. Але ж і ён яе любіў і ніколі ні ў чым ёй ні здрадзіў! Вёска разумела, што перад пахаваннем Івана павінна нагадаць яго дзецям і суседзям, які ён быў, яе галава. І таму завяла яго сына ў цьмяную каморку старой хаты, дзе стаяў бацькаў куфар, у які, абаронь Божа, нікому доступу не дазвалялася. Куфар быў старынны, яшчэ, мабыць, прадзедаў. Дзіва, як ён сцалеў у тых пажарах ды зямлянках.

Сын Івана, Іван Іванавіч, па мясцовых мерках быў буржуй, жыў у горадзе, меў сваю фірму. Але буржуй быў нейкі няправільны, залішне чалавечны, спагадлівы. І ківаючы галовамі, суседкі сцвярджалі: "Куляшова костка, якраз як быцька!"

Вёска ведала, што яны мелі на ўвазе. Бацька быў галавою вёскі не проста па прызванні. Ён быў апораю і надзеяю многім сем'ям з маладых год, яшчэ з тых пор, як амаль з кожнай сям'і паліцаі забралі сталых мужчын і пастралялі ў Капылі як камуністаў, як актывістаў. Вёска ж была партызанкай!

Нават цяпер, апаясаная найпрыгажэйшымі лясамі, ледзь звязаная з белым светам палявымі дарогамі, вёска жыла сваімі традыцыямі і законамі. А тады, у вайну, толькі паліцаі ды партызаны і знаходзілі да яе дарогу. Шмат бяды нарабілі паліцаі: вёску амаль усю спалілі, мужчын пабілі. Маркотна гледзечы вачыма рэдкіх агеньчыкаў у чорную памінальную ноч, вёска ўспамінала, як яе Іван, адслужыўшы ў Германіі армейскую службу, вярнуўся сюды, дадому, хоць і неаднойчы запрашалі спраўнага салдата застацца вучыцца "на генерала", як казала яго маці. Але маці была адна, і была вёска, якая патрабавала яго гаспадарскіх рук, і была зямля, якую ён вельмі шанаваў. Так Ванька стаў гаспадаром вёскі. І дзе б ён не працаваў: у сельсавеце, на ферме, на трактары - вёска ведала: Іван Кулеш дапаможа, Іван Іосіфавіч дарадзіць. Цераз яго пайшлі вучыцца малодшыя дзеці тых, каго згубілі фашысты, бо было за кім - Іван Кулеш даглядаў за іх сем'ямі. І вось дзіва! А можа вялікая чалавечая мудрасць? Ён дапамагаў сем'ям тых паліцаяў, што згубілі яго бацьку. Вёска дзівілася, абуралася і вучылася дараваць. "Боская справядлівасць - дзеці павінны жыць сваім жыццём. Што будзе, калі "вока за вока"? - казаў ён. І вёска згадзілася. І помсты

не было…

А куфар важка заскрыпеў скрыняю і зноў схаваў бацькоўскі скарб: паперы на прысады, лісты з арміі, граматы і падзякі, разбярэдзіўшы сынава сэрца яшчэ адной нязвыклай старонкай бацькоўскай натуры - пяшчотай, уменнем ласкава, летуценна пісаць лісты да маці ў родную вёску.

Скончылася памінальная ноч.

Вёска разумела, што яе споведзь патрэбна была і ёй, і гэтаму маладому Куляшу, які даўно адарваўся ад роднай вёскі і жыў гарадскімі турботамі. Яна ведала, што "яблычка ад яблынькі недалёка падае" і сын Куляшоў, Іван Іванавіч, застаўшыся сам-насам з вёскай, пачуе яе споведзь, яе смутак і адзіноту. Лёгкі туман пад першымі промнямі сонца схаваў вёсчыны маршчыны. Яна ўмылася ранішняй расой, памаладзела.

Іван Іванавіч стаяў каля бацькавых веснічак і ўглядаўся ў абрысы вёскі. Над хатамі кружылі два буслы. Можа развітваліся, а можа…

Вёска згледзела, як малады Іван Кулеш распраміў плечы, рашуча яшчэ раз агледзеў наваколле. Вёсцы на імгненне здалося, што гэта постаць старога Івана ўладарна прайшла да роднай хаты.

"Неабыякавыя людзі, гэтыя Куляшы, - з надзеяй уздыхнула вёска. І гэты вось сын Івана - Іван, будаўнік, відаць таксама"

Вёска ведала: ён паехаў…пакуль…

## ТАНГА ДЛЯ ДВАІХ

Яна вельмі хвалявалася, як пройдзе гэта вяселле. Здаецца, зусім нядаўна нарадзілася Волечка, нарадзілася, як надзея на Яго сталасць, на самаўтаймаванне Яго, як мужа і бацькі, як абярэг таго кахання (употай так думалася), якое ніяк не хацела сыходзіць з Яе сэрца, хоць душыла Яна гэтае каханне слязьмі і крыўдай.

Волечка была Яго адлюстраваннем: дзіўна, які ён быў прываблівы па-мужчынску, так яна, забраўшы ўсе Яго рысачкі, вырасла знешне па-хлапечы няўклюднай, але такой абаяльнай, і ранімай, і разумнай, як Ён. Яна спахапілася, што зноў думае пра Яго з замілаваннем. У сэрцы цяжка варухнулася думка, што прайшло шмат гадоў, а Яна любіць малодшую дачку шчымлівай любоўю, бо Волечка глядзіць на яе Яго вачыма, гэтак, як Ён, смяецца, нават трошкі касалапіць, як бацька. Прызнацца нават сабе ў такой, як ёй думалася крамоле, Яна не хацела, не магла. Дзяцей трэба любіць роўна, гэта ўсім вядома. І старэйшую, Віку, яна не проста любіла, ганарылася ёю. Яна была падтрымкай, сяброўкай, шчаслівым успамінам пра

лепшыя гады кахання. Вясёлая, гаспадарлівая, яна падаравала Ёй такую ж крапышку-ўнучку. Бог мой, унучку!..

Прыдзірлівае вока нават самай лепшай "добраахвотніцы" не знойдзе на ёй прыкмет надыходзячай старасці. Наадварот, сіла і прыгажосць Яе неяк, аж нават забуялі, а не проста расквітнелі. Яна адчувала, як закалабродзіла яе жаночая сіла пасля другога замужжа. Вызваліўшыся ад гэтай пранізлівай балючай першай дзявочай любові, няспыннай рэўнасці, дазволіўшы другому мужчыне быць побач, Яна атрымала здольнасць адчуваць простую фізічную асалоду, без трывогі, без балючага самаедства, бо Ён параўноўвае яе са сваёй чарговай палюбоўніцай. Гэтыя думкі ў самы нечаканы момант прымушалі яе ўздрыгваць і загарацца раўнівай чырванню.

І Ён такі, гэты гад, параўноўваў! А потым бег да іх альбо проста мяняў адну за адной, бо яны ж амаль вешаліся на Яго, не саромеючыся людскіх вачэй, і гэтак жа кідаў, не задумваючыся. А на Яе рэўнасць грэбліва фыркаў: "Знайшла саперніц." Можа, гэта і стрымлівала доўгія гады, бо ў кожнага свой спорт - каму "бег трусцой, а каму бег па бабах".

Схамянуўшыся, Яна яшчэ раз агледзела спіс гасцей. Волечка настаяла, каб быў бацька з бабуляй. Ды Яна і не спрачалася. Дочак Ён любіў. А яшчэ самой сабе Яна баялася прызнацца, што вельмі хоча, каб Ён пабачыў, якія яны, іх дзяўчаты, выраслі і якая Яна гаспадыня і без Яго; як яна добра жыве з мужам.

Волечка сапраўды замуж выходзіла добра: хлопец спакойны, забяспечаны, з дзяцінства сябруюць, сваты - добразычлівыя. З гэтага боку хвалявання не было. Халадок унутры не адпускаў, а рукі перабіраюць яшчэ раз святочнае ўбранне: прыгожая, зусім яшчэ маладая, паспяховая, каханая, паважаная. Заспакойліва пагладзіўшы сабе плечы, Яна правяла пальцамі пад вачыма і, ганарліва ўскінуўшы галаву, выйшла ў залу.

Гасцей яшчэ не было. Прыгожа аздобленая зала, поўныя прысмакаў сталы - усё як трэба. Але цела раптам пакрылася "мурашкамі", а твар загарэўся нервовай гарачкай. Яна з цяжкасцю прымусіла сябе паглядзець у той вугал, адкуль пайшла на Яе такая трывожная хваля.

Яе вочы сустрэліся з Яго вачыма.

- Ух, якая ты!

- А ты праглядзеў, праглядзеў!..

Яго вочы абабеглі яе ўсю: яны былі захопленымі, яны былі задуменнымі, яны былі… шчырымі. Жывучы ў адным горадзе, яны не бачыліся, аднак Яна ведала, што ў Яго ёсць маленькая дачушка і маладая жонка.

Светлы касцюм і рубашка "апаш" падкрэслівалі, як Ён пасталеў. Яна зразумела, што сённяшняе вяселле Яна чакала, чакала гэтага моманту праз Яго. І гэты позірк таксама чакала, такі захоплены, замілаваны позірк.

Ён вёў Яе вачыма праз увесь вечар: Ён глядзеў на Яе, калі сядзеў за сталом, Ён не адводзіў вачэй, калі танчыў з дачкой, калі размаўляў са сваякамі, калі нервова курыў. Гэта была ўзнагарода!?

Гэта была мука!?

"На каравай запрашаюцца бацькі маладой!" - моцна загучала ў дынаміку.

Спалохана схапіўшы за руку мужа, Яна пайшла да стала. Ён застаўся недзе ззаду ўсіх сваякоў. Дачка ўсмешліва глядзела Ёй насустрач.

## КАПЫЛЬСКАЯ МІСТЭРЫЯ
***Аповесць***

Дзень быў змрочны і замарочаны. Яна любіла, каб усе справы разлягаліся на паліцах і па сваім часе ды чакалі яе гаспадыньскага вырашэння, а не гармідарыліся, як сёння, нечакана і недарэчна. Асабліва цяпер гэта яе нервавала, бо дзень быў распланаваны даўно, да яго рыхтаваліся, і толькі надвор'е, здавалася, унясе свае карэктывы ў адзенне. Надвор'е ўнесла і не толькі ў адзенне. Ледзяны дождж і нечакана цёплы вецер зжэрлі амаль увесь снег, і бруднае месіва снегу і гразі на дарогах і ў полі збівала цікавасць і святочнасць паездкі да сяброў у таямнічы Капыльскі край, у лясісты куток, аб якім многа разоў распавядалі ў яе маленстве, і заўсёды шмат заставалася недасказанага, нязведанага.

Быў ужо снежань. І добры маразец, і пухнасты наст снегу вабіў туды, у прыгожы казачны лес, да цудоўных шчырых людзей. А тут вось такое! Надвор'е!

А яшчэ зранку патэлефанавала дачка. Яна ехала па справах у іх горад і з задавальненнем паведаміла, што заскочыць дамоў. Таму, як клапатлівай маці, ёй трэба было падрыхтаваць і прысмакі, і ласункі сваёй любай дачушцы. І хоць дзяўчына стала ўжо дарослым чалавекам, для яе вялікай радасцю было пачаставаць, аблашчыць у радзімым доме сваю адзіную галінку і яшчэ раз парадавацца яе росквіту і чароўнай прыгажосці. Аднак, з мужам плануючы паездку, яна, смакуючы ў думках тамашнія прысмакі, абед не рыхтавала і цяпер кінула збіраць рэчы для дарогі, і таропка ляпіла так упадабаныя з дзяцінства дачушкай варэнічкі.

Як на злосць, муж затрымліваўся, аддань справе, якую рабіў. "Выміраючы зубр вытворчага кіравання", - называла яго дачка. І вельмі пяшчотна любіла, ганарылася. Ну, і дзіва! Усе кропелькі яго пазбірала!

Бегаючы паміж кухняй і каморкай, яна клапатліва напакавала добры вандзэлак дачушцы, падпрасавала і сабрала ўборы для сябе і мужа, раз-пораз паглядаючы ў акно: ці не змянілася надвор'е? Ці не пад'ехала машына дачкі? Надвор'е не змянілася. Дробны дожджык даядаў снег. Дачушка прыехала. Як заўсёды, на бягу распавяла свае навіны, парадавалася, што з'явіўся бацька, падлыбала маміны варэнікі і, пакінуўшы пасля сябе непаўторны пах водару дзявочых духоў, змакрэлага мехавога каптурыка скураных нагавіц, ізноў памчала вяршыць свае справы - вытанчаная, прыгожая, сучасная.

Яны пераглянуліся з мужам, замілавана ўдыхаючы няўлоўны чароўны пах роднага дзіцяці, і замітусіліся са зборамі. Дзень пераваліў за поўдзень.

Снежаньскія прыцемкі пачынаюцца рана. І, хоць выбраліся, здаецца, каб патрапіць у час, не паспелі выехаць за Нясвіж, цемра абляпіла машыну з усіх бакоў. Але дарога была добрая, роўнай стужкай кідалася пад калёсы. І яна, ямчэй умастаколіўшыся на пярэднім сядзенні, заспакоена пазірала на ўтульныя вокны прыдарожных вёсак. Муж уключыў ціхую музыку, і толькі, раз-пораз, металічны голас навігатара парушаў прыемныя думкі падарожнікаў.

Да Бабоўні дамчаліся неўпрыкметку. Навігатар загадаў куды павярнуць, і дарога павяла далей. Але, здаецца, стала яшчэ цямней, недзе зніклі прыдарожныя знакі і слупы з засветкаю. Дождж сеяў непрыкметнай морассю, і, сяды-тады выплываючыя з пацёмкаў будынкі, нахохлена пазіралі чорнымі ваканіцамі. Яна трохі занервавалася:

- Зараз у Слуцк прыедзем.

Па яе меркаванні, дарога даўно павінна была прывесці падарожнікаў у Засцеб'е, адкуль рукой падаць да ляснога фальварка, але Лотвіны праехалі даўно, а павароту не было. Металічна звякнуў навігатар:

- Вы сышлі з маршруту!

Тут ужо неяк таргануў плячыма і муж. Мясцовасць незнаёмая, кругом цемра, дарога пачалася яма на яме.

- І не баісь! - як заўсёды, паспрабаваў заспакоіць яе ён, - некуды ж выедзем, поле не лес.

Раз-пораз аб'язджаючы выбоіны і лужыны, іх маленькі "мінівэнчык" храбра прабіраўся па разбітай палявой дарозе.

Напружана пазіраючы ўперад, яна не заўважыла, як з яе боку машыны з'явіўся светла-шэры сабака. Ён моўчкі як бы ляцеў побач, і зусім светлая поўсць на яго скуры адсвечвала мокрымі кроплямі дажджу. "Адкуль ён узяўся?" - не паспела падумаць яна, як сабака вялікім скачком апярэдзіў забуксаваўшую машыну і ўсеўся наперадзе на самай дарозе. Ашчэрыўшы вялікія зубы, ён натапырыў загрывак і загарадзіў сабою праезд. "А каб цябе! Яшчэ і ты тут!"

Муж з цяжкасцю вывеў машыну з каляіны і, чартыхнуўшыся на сабаку, ужо каторы раз паспрабаваў звязацца па мабільніку з сябрамі, тэлефон плёў абы-што. Дзынкаў абы-як, і ён прызнаў:

- Трэба варочацца на трасу, а там разбярэмся.

Сабакі ўперадзе ўжо не было. Муж выйшаў на дарогу, у святле фар прайшоў пару метраў перад машынай, азіраючыся, колькі дазваляла цемра, і раптам застыў на месцы, нібы аслупянеўшы. Яна выйшла таксама, бо ён не адклікаўся. Падышоўшы, міжволі сціснула перад сабою рукі, а затым паражагналася.

Уперадзе дарога абрывалася вялікай ямай, на дне якой, далёка ўнізе, блішчала вада, гэта былі, напэўна, глінішчы або пясчаны кар'ер.

Не прамовіўшы ні слова, яны хуценька вярнуліся ў машыну. Добры кіроўца-муж развярнуўся амаль на месцы. Далёка ў полі на міг мільганулі ў святле доўгія, амаль распластаныя ў паветры выявы некалькіх сабак.

На пад'ездзе да трасы запрацаваў мабільнік. Яшчэ адна пара гасцей, іх добрыя сябры, таксама зблудзілі на дарозе. Але, дзякаваць Богу, нікуды не збочылі, аднак таксама прыехалі якраз на гэта перакрыжаванне.

Папрасіўшы пачакаць іх, муж весялей уладкаваўся за рулём, тым больш, што агні машыны сяброў на дарозе ўперадзе былі добра відаць здалёк.

"Мінівенчык", пакрэхтваючы, выбраўся на асфальт. Весела пабег наўздагон суседу і, раптам, завіскацеў усімі тармазамі, стаў як укопаны. Збялелы муж недаверліва ўзіраўся ў цемру, а яна ізноў міжволі перахрысцілася. На перакрыжаванні стаяла вельмі худая жанчына, у белай спадніцы і чорным паношаным паўпаліто. Клюка, якой яна падперла сваё знямоглае цела, была амаль вышэй за яе. З-пад белай спадніцы віднеліся босыя пачарнелыя ногі, і ў святле фар уся выява стварала дзікае ўражанне нерэальнасці.

- Містыка нейкая! - прамармытаў муж.

Не прайшло і хвіліны ад новага ўзрушэння, як падляцела шыкоўная белая "аўдзі" сяброў, і паазбаўлены якіх-небудзь замарочак, рэалістычны Аляксандр ужо крычаў:

- Бабуля! Як нам праехаць у Новую Гуту?

- Сама не ведаю, дзетка! Вось зараз будзе ехаць машына - дык едзь за ёй, яна прывядзе!

Сапраўды, з боку Капыля на вялікай хуткасці ішла машына. Шафёр нават не павярнуў да іх галавы, але дзве машыны чамусьці даверліва рванулі следам.

Усе разам мігам дамчалі да непрыкметнай павароткі на тое Засцеб'е, і пярэдняя машына, не зніжаючы хуткасці, амаль паляцела па раз'езджаных каляінах. Следам, як танк, імчала аўдзюха. А маленькі "мінівэнчык" ледзь паспяваў за імі, слізгаючы ў снежным месіве.

- Хачу дадому, - скурчылася яна на крэсле, але прамаўчала і ўткнула нос у шалік.

Свет фар "аўдзі" добра абрысоўваў пярэднюю машыну, і яе выявы здаваліся нейкімі страшнымі, несучаснымі. Жалезныя парэнчы грузавічка, бо гэта быў такі невялікі грузавы аўтамабіль, нічым не пакрытыя, стваралі сабою шацёр, пад якім віднеліся нейкія поўныя мяшкі, скрынкі і, яна магла паклясціся: тырчала над бартом нешта падобнае на кулямёт ваенных часоў.

- Зусім з глузду з'ехала! - нервова пацерла яна скроні і пакасілася на мужа, які, не адрываючы вачэй ад дарогі, адчуў, як заўсёды, яе настрой.

- І не баісь! - ізноў паўтарыў ён і следам за "аўдзі" крутануў машыну пад вялікі шлагбаум.

Грузавічок, не разбіраючы дарогі, памчаў прама і, у імгненне вока, знік у на хвіліну ад'ехаўшых варотах цёмнага бярвенчатага частаколу, за якім яна згледзела вялізны, асветлены цмянымі фанарамі ангар. Там мітусіліся постаці нейкіх мужыкоў у падпяразаных на ваенны лад куфайках, з аўтаматамі і стрэльбамі на плячах. Гэтак жа імгненна вароты зачыніліся, і толькі іх дзве фары асвятлялі пляцоўку, бо Аляксандр павярнуў сваю машыну за нейкі жалезны плот і ўжо прыладкоўваўся на стаянку. Уперадзе цьмянымі вокнамі адсвечваў невялікі асабняк. Але вакол было цёмна, ціха, іх ніхто не сустракаў.

Яны з мужам выйшлі з чумазага "мінівэнчыка", ачмурэла азіраючы асяроддзе.

- Сюды ці не сюды? - асцярожна падала яна голас.

- Машыны гаспадароў! - заспакоіў Аляксандр.

Раптам яны ўсе зарагаталі, парадаваўшыся, што прыбылі на месца, хоць і не без прыгод.

Прайшлі крытую тэрасу, патузалі нейкіх пару дзвярэй і, не сустрэўшы нікога, уваліліся гурбою ў прыгожыя сені, дзе аднекуль са сцяны выскачыла прыгажуня ў ваеннай гімнасцёрцы і пілотцы,

белым накінутым халаціку.

Яны ўсе вытарашчылі вочы. Сюрпрызы працягваліся. Тым больш, што маладзіца настойліва патрабавала іх праверыцца на ўсялякую заразу, каб  не занесці ў "зямлянку" хвароб.

- Распранайцеся! - рагаталі ўжо ўсе.

Чароўная гаспадыня і паважны гаспадар - вялікія знаўцы і патрыёты свайго краю - вырашылі арганізаваць вечарыну ў стылі "мілітары".

Добрая вячэра, утульная паляўнічая зала, цудоўныя суразмоўцы наталілі яе душу даўно не адчуваным спакоем. Прыгожыя людзі свяціліся духоўнай прыгажосцю, вытанчанасцю разважанняў, і яе розум працаваў з задавальненнем, бо наўкол крышачку іранічна, але вельмі лагодна глядзелі і слухалі яе байкі, разважанні і, галоўнае, разумелі.

Зразумеўшы, што за размовамі забылася ў час выпіць свае лекі, яна прайшла на кухню, каб узяць шклянку вады. За вуглом лесвіцы стаяў вялікі більярдны стол, і на ім ляжаў: прыгожы малады воўк! Яна ажно здрыганулася ад нечаканасці, але потым зразумела, што гэта вельмі ўдала зробленае чучала.

Не стрымаўшыся, яна падышла бліжэй. На дзіва мяккая поўсць абласкала яе далонь. Падзівіўшыся цудоўнаму колеру поўсці, жанчына злавіла сябе на думцы, што, на самай справе, ёй вельмі шкада гэтае ваўчанё. Навукоўцы кажуць, што ваўкі жывуць сем'ямі і вельмі падобныя ў сваіх адносінах да людзей.

"Не, чалавек - горшы, ён здрадзіць, а звер - ніколі".

Яна адвярнулася ад празрыстых ваўчыных вачэй-гузікаў і пачула, што ў сені нехта стукае.

Гаспадар выйшаў на тэрасу. Праз прычыненыя дзверы гучаў голас сталага мужчыны.

- Можа ўжо не грэць болей лазню, Аляксеевіч? Ці як?

- Тушы! Тушы! - з добрым настроем пажартаваў гаспадар.

- Тушыць можна толькі святло ды пажар, -  не прыняў яго жарт дзед. -  Русы-беларусы.

І незадаволена грымнуў дзвярыма.

З гэтым голасам да яе вярнулася адчуванне таямнічасці і нерэальнасці гэтай ночы. Нешта павяло яе да выхаду. Накінуўшы сваё паліто, яна выйшла на крытую тэрасу. Цьмяны ліхтар асвятляў памяшканне і на верхняй прыступцы яна ўбачыла старога, але яшчэ вельмі, на погляд, моцнага чалавека, які дзіўна і вельмі знаёма курыў цыгарку. Цыгарка прыляпілася да ніжняй губы і як бы жыла сама па сабе. Прыжмуранае вока пакасілася на яе. Ну якраз, як яе бацька, калі ён

смаліў самарошчаную табаку.

- Ну што, дзяўчынка! Кампанія не даспадобы ці што?

І голас, гэты голас таксама насіў родныя інтанацыі чароўнай мясцовай гаворкі, аднолькава прыгожай што на Капыльшчыне, што на Нясвіжчыне.

- Ды не, кампанія добрая. Так, ніколі не была ў вашых мясцінах. Шкада, што цемната, відаць, прыгожы край: лес, вёскі лясныя. Вырашыла хоць падыхаць паветрам ляснога бору.

- Лес, праўда, цудоўны. А вёскі паміраюць, як усюды. Не будзе вёскі - прападзе зямля, мова прападзе ўшчэнт. З горада зямлю можна абрабляць - ды любіць яе нельга, а без любові ўсё гіне. Адбілі людзей ад зямлі, ад сялянскай працы. Некалі па кавалачку людзі збіралі надзелы, у спадчыну толькі хлопцам перадавалі, каб род не перасёкся, - ён як бы гаварыў сам з сабою і задумліва глядзеў недзе ў цемру. - А колькі хлопцаў нашых пагінула за радзіму, а, значыць, і за зямельку сваю. А цяпер што? Зараз ізноў памешчыкаў пасадзяць, а ўнукі нашы па гарадах ды заграніцах плёндраюць. Ужо і не хочуць гэтае працы, а калі хацелі, дык хэнць адбілі. Не далі.

Яна згодна паківала галавой і, каб перавесці размову, асцярожна запытала:

- Напэўна вайной тут ціха не было, чула, што партызанская зона ў вас пакрывала амаль усю Капыльшчыну.

- Войны па нашых мясцінах заўсёды, як усюды для людзей мэнка, вялікі боль. Каб іх спрэндзіла, хто гэтыя войны пачынае, каб іх халера пабрала.

Усё не нажаруцца зямелькі чужой. А колькі чаго трэба таму чалавеку!? Спакой ды цяпло, дзеці ды яда. Ды каб род жыў, пушча стаяла, сонца грэла, моладзь любілася, старыя куток мелі! Але ж людзей на свеце многа, вось сумлення ўсім і не хапіла ў Бога.

А мы, мясцовыя жахары, так і жывём на гэтым свеце: лішняга нам не трэба, чужога не жадаем. Але і нашага не чапай! Прыйшоў ты к нам з дабром - жыві, працуй. Але не шкодзь, калі цябе наша зямелька прыгрэла і людзі з дабром. Цярплівы наш народ!

Стары змоўк. Адляпіў ад ніжняй губы амаль скураную да нельга цыгарку, прыпаліў ад яе новую і пакасіўся на госцю:

- Ты, дзяўчынка, пэўна ведаеш, што не толькі ў нашых лясах ды балотах спакон веку людзі жылі. Стаяла некалі магутная дзяржава, гарады, войска, рамёслы - усё мелі. На ўвесь свет ішла пра яе гаворка. І быў закон у гэтага Княства - да апошняга палоннага гнаць чужынца, адбіраць сваіх людзей. І ўсе гэта ведалі. Свае трымаліся ў сваім коле, трымаліся сваёй зямлі, берaглі пушчы, птушак, звяроў. Кожны род

меў свой абярэг - татэм. Людзі верылі, што звяры, птушкі іх аберагаюць, а можа нават яны таксама людзі, толькі ў другім абліччы. І менавіта свайму татэму пакланяліся. У нашых мясцінах люд паважаў ваўкоў, лічыў воўка ахоўнікам свету нябожчыкаў, а воіны мясцовыя на бітву часта апраналі воўчыя скуры - так яны лічыліся неўміручымі. Ды і не дзіва! Некалі чалавек жыў побач з ваўкамі ў пушчы, канкурываў з імі ў паляванні. І воўк здзіўляў розумам, вынослівасцю, арганізаванасцю зграі, сямейнай вернасцю.

- Пра воўка памоўка, а воўк тут, - сцепанулася госця, ведаючы, што многія вераць ва ўсяведнасць ваўка. - Лес жа наўкол.

І больш уважліва прыгледзелася да дзеда: прыродная мудрасць мясцовага жыхара, ці можа нейкі ў мінулым навуковец? "Мясцовы філосаф", - вырашыла яна.

А стары працягваў:

- Чужынцы сем разоў думалі з чым ісці да нас - з мячом ці з хлебам. І шмат каму наша зямля стала радзімай. Многа вякоў прайшло. Чаго толькі не было! І ўвесь гэты час мы, мясцовы люд, вядзём род свой, сваю радзіму трымаем ды з Божай ласкай з добрымі людзьмі дружым, а ворага заўсёды гонім. Цярпенне - да часу.

Ён пакрахтаў, прыжмурыў вока ад дыму цыгаркі ці мо ад наплыўшых думак, яшчэ раз глянуў на прыціхлую жанчыну і, відаць задаволены яе ўвагаю, загаварыў ізноў цудоўнай мясцоваю моваю, якая гучала для яе сэрца, як песня.

- Так, дзяўчынка, было і ў гэтай вайне.

Тое, што ён называў яе, сталую жанчыну дзяўчынкай, варочала ў любае дзяцінства і так зачароўвала сваёй незвычайнасцю і цяплом, што лацвей уладкаваўшыся на шырокай лаве, яна гатова была слухаць яго бясконца.

- У сорак другім годзе немцы ўжо спрабавалі завесці ў нас свае парадкі, а мясцовых жыхароў ператварыць у быдла. Фронт грукацеў пад Масквой. Там было зразумела, дзе свае, дзе чужыя, а тут хочаш жыць - паспявай круціцца. І на сям'ю трэба здабыць, і хлопцы-партызаны хлеба просяць, і немец гумы дае - апошняе выграбае. У лясных вёсках адсядзецца таксама не ўдавалася. Партызаны трушчылі нямецкія гарнізоны больш, чым той твой фронт, а немцы тады каралі жыхароў, бамбілі лясы.

Як з'явіліся ў нас партызаны - многа гаворана. Гэта і ваенныя акружэнцы, што не паспелі ў сорак першым годзе далучыцца да асноўных войск, і параненыя салдаты, падлечаныя на хутарах, і, можа, засланыя ўжо ў сорак другім дэсанты.

Але многа было ў партызанах і мясцовых хлопцаў. Па розных

прычынах. Але я думаю, што памяць продкаў, як і ва ўсе часы, абудзіла гонар людзей  і гістарычную нянавісць да захопнікаў.

"Чаго прыперліся!? Чаго вам мала?! Ну дык наешцеся нашай зямелькі ўволю. Не будзі ліха!"

Дзед патрос кулаком недзе на захад.  Ох, і адчайныя сярод іх былі. Не тыл, а фронт утварылі партызаны фашыстам у нашых краях. Спрабавалі немцы выкурыць мсціўцаў з лясоў, але партызанская зона існавала,  і часцяком сунуцца туды немцы баяліся. А зона жыла сваім жыццём, моладзь ваявала, але і асабістага не пазбегнеш у такія гады. Асабліва калі падраслі чароўныя дзяўчаты ў вёсках, а з вёскамі партызаны ладзілі.

Восенню сорак другога  ў гэтых мясцінах, у Лаўскім лесе пасля шматлікіх баёў партызанская брыгада выбрала месца для стаянкі. Атрады, па партызанскіх законах, стаялі на лясных ускраінах, бо немцы бамбілі і з самалётаў і абстрэльвалі з пушак сярэдзіну пушчы. Так ці гэтак, вырашылі зімаваць тут.

У Лавах абсталявалі шпіталь. Варту шпіталя і навакольных сёл даручылі звязу мясцовага хлопца Вінцуся.

Смелы да бязбашанасці па маладосці быў хлопец. Але гэта яму і дапамагала. Дзе пешшу, дзе на конях, звяз, як лятучы, трымаў пад кантролем партызанскія граніцы.

Яшчэ год назад  Вінцусь прыйшоў у партызаны з маладым ваўком.

Падабраў недзе ваўчанё з пакалечанай лапай, вылечыў яго. Вось той і прывязаўся да чалавека. Усюды побач быў:  і за канём паспяваў, і за палутаркай. Стаяў моўчкі, калі Вінцусь з кім  гаварыў і глядзеў пранізліва, заўсёды гатовы абараніць гаспадара. Нават хутчэй сябра, таварыша, бо воўк ніколі не лашчыўся, а Вінцусь ніколі не раздаваў яму загады. Яны разумелі адзін аднаго без слоў.

Наогул, дзіўны быў воўк. Светла-шэрая, амаль белая поўсць на шкуры і цёмныя палосы ўздоўж лап, празрыстыя халодныя ўважлівыя вочы.Здавалася, ён разумее ўсё, што творыцца наўкол.

Адну Яньку, дзяўчыну Вінцуся з суседняй вёскі, падпускаў да сябе Уладар - так называў яго хлопец.

- О, Властитель лесов и  гроза немцев видно к Яньке поскакали, - блазнавалі партызаны.

З Янькай было ўсё сур'ёзна. За Вінцуся яна збіралася замуж. А Ўладара мела права кундышыць за грыву бялявых пасмаў на галаве, выбіраць калючкі, торгаць за маленькія прыгожыя вушы.

- Не псуй мне звера, - панарошку хмурыў  бровы  Вінцусь, - Што ён табе твой Лазутка, ці кот.

Але Янька толькі смяялася, а Ўладар сарамліва адводзіў вочы, і відаць было, што яму гэта вельмі падабаецца.

На пачатку снежня Янька і Вінцусь вырашылі, што вайна вайною, а трэба ладзіць вяселле. Бацькі не супраць. А хоць бы і супраць! Маладосць, каханне! Гэта ж не цяпер. А тады трэба было ўсё па закону. Вырашылі, што дабраслаўляць будзе камандзір. Ганарова!

На пачатку ж снежня і немцы вырашылі, што з партызанамі трэба разбірацца ўсур'ёз. У Капыль, Нясвіж, Слуцк пачалі прыбываць нямецкія салдаты і паліцаі. І хоць аперацыю трымалі ў сакрэце, партызаны разумелі, што немцы іх не пакінуць у спакоі. Але паразважалі, што сярод зімы, у завеі ў пушчу не сунуцца.

А ў Нясвіжы, у нямецкім гарнізоне працаваў перакладчыкам немчык - Рэхант. Некалі Радзівілы запрасілі яго бацьку працаваць па догляду маладога парка, які пасадзіла вакол замка жонка Радзівіла Генрыха - Марыя Дарота дэ Кастэлян.

Шмат саджанцаў прывезлі тады з Берлінскіх школак-пітомнікаў. Тады прыехаў і бацька Рэханта, немец з Берліна, каб навучыць мясцовых садаводаў даглядаць пасадкі.

Перад самай вайной бацькі Рэханта вярнуліся ў Германію, а немчык застаўся. Чаму, мне гэта невядома. Калі прыйшлі фашысты, Рэхант пайшоў працаваць перакладчыкам у гміну. Але, відаць, нешта заляцела ў душу хлопца ад гэтай зямлі, ад гэтых тутэйшых людзей. Дзе на самай справе ён адчуў Радзіму? Відаць тут. І таму, атрымаўшы звесткі, што восем батальёнаў карнікаў пачалі абходзіць размяшчэнне брыгады партызан з трох бакоў, занялі навакольныя сёлы Пясочнае, Касцюшы, Восава і вось-вось начнуць наступ, Рэхант пачаў шукаць, праз каго перадаць партызанам гэтыя звесткі. Ён выязджае з камандай СС у Пясочнае, дзе гітлераўцы спрабавалі сярод мясцовых жыхароў знайсці праваднікоў праз незамярзаючыя балоты ў Лаўскі лес. Нейкім чынам Рэхант перадае свае звесткі тамашнім людзям, а тыя - бацькам Янькі.

Дзяўчына прымярала вясельную белую сукенку, калі пачула размову аб наступленні немцаў. Накінуўшы чорнае плюшавае паўпаліто, яна, не зважаючы на матчын енк, кінулася бегчы ў Лавы. Не ведала Янька, што ўжо ўсе дарогі заняты фашыстамі, а па ўскрайках пушчы стаяць паліцаі з сабакамі. Адна думка вяла дзяўчыну - папярэдзіць! папярэдзіць! Яна спадзявалася прабрацца ў сяло сцяжынкай, праз балота абапал Кляцішч.

Цяжка дыхаючы, Янька з жалем агледзела брудны ніз карункаў на вясельнай спадніцы і, цясней абматаўшы галаву матчынай хусткай, збочыла ў хмызняк каля дарогі.

І тут з'явіліся яны. Як яна не пачула гэтую матацыклетку?! Можа яны сядзелі ў засадзе?..

Дзяўчыну нават не пыталі, куды яна бяжыць. Тоўсты немец тузануў яе за адзенне і шпурнуў на лазовы куст. Двое другіх рагаталі:

- Partizanen schwein!

Янька ўжо не адчувала ні холаду ад мёрзлай зямлі, ні бачыла, як насоўваецца над пушчай ноч. Яе шчаслівая вясельная ноч! Яна ўжо не адчувала нічога.

А з неба з ледзяным спакоем глядзела на грэшную зямлю далёкая бліскучая зорка.

Наступленне на партызан немцы пачалі на прысвятку. У наступ ішлі не толькі нямецкія салдаты, але і танкі, бранявікі.

Асабліва цяжка было байцам-партызанам трымаць фашыстаў у кірунку Лаваў, дзе быў партызанскі шпіталь. Асноўны атрад з цяжкасцю адбіваўся ад нечаканага штурму, і камандзір арганізоўваў эвакуацыю шпіталя.

Патрэбна было затрымаць немцаў хаця б на тры гадзіны.

У засаду, супраць некалькіх соцень узброеных да зубоў немцаў, ісці вызваўся звяз самых маладых, адчайных хлопцаў пад началам Вінцуся. Іх было васямнаццаць, і амаль усім ім было таксама васямнаццаць гадочкаў. Заселі хлопчыкі на кляцішчанскім пагосце, дзе стаяла старая каплічка.

Старыя людзі гаварылі, што некалі было тут старадаўняе капішча. Вось тут, на гэтым пятачку, зарослым старымі дрэвамі, сярод чыстага поля, партызаны адбілі некалькі атак фашыстаў. Кажуць людзі, палажылі германца шмат, але канчаліся боепрыпасы. Вінцусь паслаў аднаго з хлопцаў па дапамогу. А сам падняў партызан у рукапашны бой. Калі дранцвеючымі рукамі біў штыком у ненавісныя морды захопнікаў, краем вока зглядзеў, што разам з хлопцамі ў бой пайшлі ваўкі. Белы Ўладар прывеў зграю бяссмяротных. Яны моўчкі стаялі поплеч з партызанамі! Яны рвалі зубамі фашысцкіх нелюдзяў! І кулі нямецкія не бралі бессмяротных продкаў.

Шпіталь выратавалі.

Хлопцы са звяза Вінцуся паляглі ў гэтым баі.Усе! Але, баяць людзі, калі скончыўся бой, белы Ўладар адводзіў у бок старога капішча праз поле сваю неўміручую зграю, і стала яна на васямнаццаць галоў большая.

Стары змоўк. Прыкурыў яшчэ адну цыгарку, павярнуўся да скамянелай жанчыны:

- Тым хлопцам, што пайшоў па дапамогу, быў мой бацька. А з тых часоў у нашых мясцінах на ваўкоў не палююць.

Ён устаў, пагрукатаў ялавымі ботам і па прыступках тэрасы, аглядзеў цёмны абшар:

- Згубілі хлопцаў, ды гэтакіх хлопцаў!

Расправіў спіну :

- Трасца іх матары!

- Божа мой! - толькі і змагла прамовіць Яна.

Ён ізноў прыязна пакасіў на яе вокам і дадаў:

- Янька з той пары ў гэтыя снежаньскія дні з'яўляецца ў нашых мясцінах.

Асабліва на той развілцы, дзе яе замучылі.

Кажуць людзі, што яе бачылі.

А Белы Ўладар з таварышамі таксама рыскае ў гадаўшчыну бою партызан. Вартуе неўміручая зграя ад навалачы сваю зямлю. А як жа!

У пушчы, недзе далёка пачуўся стрэкат кулямётнай чаргі, яму падтаквала воўчае выццё.

Дзедава цыгарка ўжо свяцілася на дварэ.

- Пачакайце! - яна махнула дзеду рукой. - А што гэта за база насупраць? Паляўнічыя?

- Няма тут нікога. Пушча вакол.

Капыльскія лясы добра зберагалі свае таямніцы. Над зямлёй гучала рэха памяці.

У хаце было цёпла, гаманілі, вялі свецкую размову госці. Шкляныя мёртвыя вочы воўка на більярдзе з пагардай сачылі за чалавечым тлумам.

Варочаліся дадому яны за поўнач. Выехаўшы на добрую дарогу, муж задуменна паглядзеў на цёмнае поле, далёкі лес і прамовіў:

- А гэты сабака выратаваў нам жыццё, - і ціха дадаў: - Калі гэта быў сабака.

Яна не адазвалася.

Як і тысячы, мільёны гадоў назад жанчына ціха сядзела побач са сваім мужчынам, і перад імі адкрывалася высокае зорнае неба.

Гэтак жа, як і перад яе продкамі, перад ёю халодным спакоем ззяла далёкая яскравая Зорка Венера.

Зорка таямніча глядзела на Зямлю, на жыццё, на людзей, на іх войны, на каханне, на працу і прыгажосць, на іх адданасць, гонар.

Хто мы? Аб тым ведае толькі Маці-Зямля, якая верціць гэтае кола гісторыі роду чалавечага.



# *Наталля Плакса*

*У метрыцы -1957- месцам нараджэння Наталлі Васільеўны Плаксы пазначана вёска Малева, адкуль родам і мама. Але на той час бацькі жылі сваёй сям'ёй ва ўласным дамку ў Грыдзеве - вялікім хутарскім паселішчы за лесам, у бок Міцькавіч.*

*Прывольнага Грыдзева не памятае, бо на трэцім годзе жыцця перабудаваліся ў Карцэвічы. Як казала мама, бліжэй да школы. Вучылася ў мясцовай васьмігодцы; атэстат сталасці выдалі ў СШ № 3 Нясвіжа. Не адно школа - вучылі і выхоўвалі найлепшыя ў свеце бацькі, штодзённая вясковая праца і блізкі лес. 1976, філфак БДУ. З уступных экзаменаў, лекцый і заняткаў самыя цёплыя ўспаміны - пра Ніла Гілевіча і Алега Лойку.*

*Пяць гадоў песціла маленькіх у Саскаліпкаўскім дзіцячым садку, пакуль у працоўнай кніжцы не з'явіўся запіс, які болей не скасоўваўся: Карцэвіцкая школа, выкладчык роднай мовы і літаратуры.*

*Вершы і краязнаўчыя артыкулы ды эсэ друкаваліся ў газетах "Нясвіжскія навіны", "Прамень" (Стоўбцы), "Чырвоная зорка" (Узда), "Культура", "Краязнаўчая газета", часопіс "Вожык", зборніку "Галасы роднай старонкі" (2007 г.), у кнізе “Добры пастар зямлі нясвіжскай” (2012 г.), зборніку “100 словаў” (2017 г.). Дзясяты год для раённага радыё Нясвіжчыны рыхтуе аўтарскія штотыднёвыя краязнаўчыя выпускі "Хвілінка нясвіжазнаўства".*

*У выдавецтве кніга "Кунтуш Радзівіла або 100 эцюдаў новага нясвіжазнаўства"*

## *З дарогі ў вечнасць*

### КАСЦЫ НАД НЯСВІЖАМ

- Бачыш, унь, Касцы, - гаварыла мне малой мама, калі позна

ўвечары вярталіся з далёкага поля.

- Дзе? Унь там? Над Нясвіжам?

- Не, трохі правей, над Асмолавам, - падказваў тата.

Я ўглядалася ў вечаровае неба і хутка знаходзіла тры яркія зоркі сярод мігатлівай драбязы. Аднолькавыя, адна ў адну, на адной лініі, як хто адмераў, яны і сапраўды нагадвалі спраўных касцоў-малайцоў, што занялі свае пракосы і гоняць іх роўна і згодна.

Сёння ўжо ведаю, што тыя тры прыўдалыя агеньчыкі - з сузор'я Арыёна, а назва Касцы - з народнай астраноміі, як шмат іншых - Кучкі, Сіта, Птушыная дарога…

Праз гады прыемна чуліць разуменне, што даўні беларус, наш вясковы чалавек, нават у небе бачыў зямны свет, сваё, звыклае, паўсядзённае, роднае.

І недзе там, у Божым аддаленні, на сцежках Птушынага шляху, бы вырай у Беларускую Вечнасць - мама і тата, і ўсе, хто некалі, вяртаючыся з поля, бачылі ў зыркай высокай сінечы свае небесныя сенакосы.

…А сёння Касцы акурат над Нясвіжам.

## СЕРП

Аднойчы на вушаку старой хаты, сівой, выпаласканай дажджамі, выпетранай на марозе і сонцы, убачыла серп. Ён даўно страціў бляск, быў цёмна-рыжы, хоць не іржавы. Без ручкі: мабыць, яна, драўляная, цягам часу згніла і звалілася. Пакратала - у рукі не даўся, моцна трымаўся вострым канцом у шчыліне між бярвёнаў.

…Уявілася, як гаспадыня прыйшла на абед ухадзіцца па гаспадарцы, уваткнула бліскучы сярпок на хаду пры дзвярах, каб неўзабаве падхапіць яго зноў і заспяшацца ў поле.

Няма ўжо даўно той увішнай жняі. У хаце, даведалася ад суседкі, гаваркой жанчыны з дагледжанага расфарбаванага дамка, ніхто не жыве амаль 20 гадоў.

А ён усё яшчэ трымаецца па дарозе ў Вечнасць.

## СТУПА - ГЭТА РЭЧ!

Чула не раз, як чалавек, ахвотны да вострай мянушкі-прылепкі, абразліва кідаўся словам, называючы дзяўчыну ці жанчыну ступай. Быццам не мае тонкага ды гнуткага стану, а да ўсяго мажная і няўві-

шная, непаваротлівая - ступа! Цяпер жа такое параўнанне амаль не пачуеш. Не, не таму, што тыя "няўвішныя", а хутчэй далікатна развażлівыя і душэўныя гаспадыні звяліся - рэальных ступаў няма!

Хіба ў слоўніках, энцыклапедыях, музейных сховах і экспазіцыях. Дарэчы, ступа - слова ў розных значэннях. Ад манументальных рэлігійных збудаванняў да ціхай нетаропкай хады. Што да нашай - каб натаўчы, здрабніць і нацерці - на сучаснай кухні ёй даўно прыдумалі замену.

Хачу заступіцца за ступу, а разам і за ўсіх "няўвішных" беларускіх жанчын. Ступа - гэта рэч! Калі тая, гаспадарчая, што стаяла ў сенцах, у каморках, на гумне, то блізка на метр у вышыню, цяжкая, сапраўды амаль незварушная. Як надаралася яе гады ў рады перамяшчаць, то ставілі пад нахіл (на кант) круглае дно-подыюм і перакочвалі. Ліпавая - крыху лягчэйшая, дубовая або з граба - цяжэй ці не ўдвая. Затое, як казаў квачоўскі дзед, служыць будзе вечна!

Вечна, каб не папілавалі, не пасеклі на дровы, не кінулі ў агонь разам з неразлучным сябрам - таўкачом.

Прыгадваецца і зусім аддалена вясковае, вясёла народнае: ступа ды таўкач, рэчы - сімвалы. Чым не салодкая парачка! Намёк на эротыку, адным словам. Вядома ж, былі і жарцікі на гэты конт, ад якіх дзяўчаты хораша чырванелі…

Мне пашанцавала. У вёсцы Квачы знайшлася знаёмая сям'я, людзі немаладога веку, дзе ступу не выкінулі, а далі ёй цану. Адтуль рарытэт перакачаваў на лецішча і далейшае зберажэнне-захаванне. Бо ступа - гэта рэч!

## ПРЫКАЗКА З-ПАД ХВОЙКІ

Наняў аднойчы альхоўскі паўпанак чалавека на дзень загон ўзараць. Згаварыліся на плату - нейкія грошы і, як належыць, абед. Стараўся араты, паўдня працаваў і шмат ўзараў. Але ў поўдзень замест добрага падмацунку атрымаў адчэпнае, на адзін глыт. Узлаваўся, паараў крыху ды залёг пад хвойкай да вечара.

У канцы дня з'яўляецца гаспадар прыняць работу ды разлічыцца. Агледзеў, здзівіўся: а што ж так? "Якая пішча, гэдак і плуг свішча," - давёў спрадвеку вядомае араты. Ды, як бачна, яшчэ і паздзекаваўся з багатага наймальніка, назваў яго ежу няўклюдна нетутэйшым словам.

Трапна сказанае - ці то з радасці або расчаравання, са злосці або захаплення, пасля роздуму ці ў гарачай спрэчцы - нярэдка прыкмя-

чалася, падхоплівалася ды рабілася адметным і ходкім народным творам.

А мне тая прыказка, не занатаваная ні ў якіх фальклорных зборах, дарагая яшчэ і пахвальнай адзнакай самога Ніла Гілевіча.

## БЭЛЬКА З ДОМА ЖЫЛКІ

Трапіў неяк сучасны паэт на радзіму Шэкспіра. З трапяткім адчуваннем падыходзіць да хаты, што ўзгадавала сусветнага генія. А перад ім - будзённае відовішча, перабудова, цесляры з сякерамі на рыштаваннях… Узяў паэт і панёс з сабою адно трэску з дома Шэкспіра*, за што падаўся вялікім дзіваком.

Пэўна, крыху дзівацтвам выглядала і тое, як я ўзіралася на бэльку ў дома паэта Ўладзіміра Жылкі, што ў Макашах. Стоячы ў сенцах ацалелай і ўтульнай сялянскай хаты, я шукала артэфактаў-зачэпак - і вось табе, калі ласка! - з тае бэлькі быццам сачылі за мной, як намаляваныя, вочкі сучкоў. О, здаецца яны свяцілі мне іскрынкамі смалы з далёкае вышыні! Не сцёртыя часам, заставаліся сведкамі той пары, калі парог пераступаў круглатвары хлопчык, што любіў чытаць кніжкі і мала цікавіўся дзіцячымі гульнямі.

Хаце паэта за сотню гадоў. Змяняліся яе гаспадары - і кожны нешта змяняў, перарабляў. Цяпер тут асталявалася вельмі працавітая і гаспадарлівая пара. Уладзімір і Наталля з ахвотай і гонарам паказваюць сядзібу, двор, агарод. Адзін перад адным расказваюць пра свае пераробкі, каб асучасніць і падмацаваць старую будову.

Але неяк своечасова перапыняюцца. Далікатна змаўкаюць, уважаючы на мой інтарэс. Тут для мяне, у гэтай хаце, у нязбыўным музеі паэта - свае святыя куточкі, свае экспанаты. Карціць пaглядзець на адпаліраваную дотыкам рук старасвецкую клямку ў дзвярах, каваныя цвікі ў вушаку, сцяну ў каморы ды… бэльку з сучком.

** "Трэска з дома Шэкспіра" - верш Максіма Танка.*

## ХЛОПЧЫК І ЖЫЦЦЁ

Хлопчыку каля чатырох гадкоў. Ён мілы і пацешны, вясёлы і задуменны, гарэзлівы і цікаўны. Любіць забегчы ў суседскі двор да бабы Гэлі, паганяць гусак, да дзядзькі Лёніка, што гадуе адзінае на вёсцы жарабятка.

Бацька хлопчыка, працуе на ферме. Заўзята паліць, рэгулярна падкрадае, каб гэтак жа рэгулярна піць. І амаль за кожным словам мацюкаецца, незадаволены ўсім і ўсімі. Маці, клапатлівая, рухавая,

але таксама і чарку не адсуне, і моцнага слоўка доўга не шукае.

Хлопчык заняты сваім: разглядае каменьчыкі ў ручайку, чырвоных жучкоў у траве, збірае жоўтыя лісцікі на сцежцы, ловіць сняжынкі. Пакуль яго апякуюць анёлы. Пасля гадоў пяць-шэсць школьная настаўніца будзе даводзіць адвечныя добрыя ісціны.

Яшчэ колькі часу - і незаўважна стане як бацька…

## ГЕРАСТРАТЫ І СТРАТЫ

На прыгажосць, мілую затульнасць, зялёна-квяцістую разнастайнасць і шчодрасць гэтай мясціны не магла не адгукнуцца нават самая няўдзячная душа.

Торбы арэхаў, мяхі жалудоў, збанкі чарніц і ажыны, кошыкі маслякоў напоўніш-панясеш, а па дарозе - з невялікай азярынкі - і ўюноў нацягаеш. Ды прыхопіш да ўсяго абярэмкі гаючай духмені: ядлоўцавай, чабарова-святаяннікавай, рамонкава-верасовай… От жа салодкая хвіліна - як надарыцца ў самы прыпар ісці па дне-дыване Ванжоўца! А гэта не лапік які, не пядзя - зямлі на добры фальварак сярод палявога прастору.

Ды знайшоўся "ўладар", які наслаў сюды пачвараў-бульдозераў.

Не ў аднаго былога хутаранца-грыдзеўца скацілася па твары бліскучая расіна - запяклася на шчацэ: "Навошта?!"

Заўчасны сыход самога крыўдзіцеля прымалі без варожай зласлівасці - спачувальна-маўкліва, з задуменнай развагай, нібы ў тым была Божая воля за балючую страту.

## АСЕННІ ЖАЎРАНАК

Апошнія дні лістапада. Суботняй раніцай еду ў Мінск. Апранулася легкавата - крыху падмярзаю ў сваім "эканомкласе". Перад Дзяржынскам (звычайны малюнак для нашых электрычак) у вагон заходзяць двое, адзін з акардэонам. Ну, думаю, нешта з ардэнаноснага Дробыша зараз забацаюць. Або яшчэ што вясельна-рускамоўнае ці настальгічнае, каб падбадзёрыць сонны непрачнуты народ.

Сама - нуль увагі, далей паглыбляюся ў сваё.

А тут, быццам аднекуль, здалёку…

"… само-о-отным жаўранкам звініць і плача ма-а-ай".

З куляшоўскага паднябесся заляцеў, зазвінеў мелодыяй чароўнага спеву асенні жаўранак. Слухала, гледзячы ў акно. І не заўважыла, як стала цяплей. Здаецца, і апранулася па надвор'і.

Спявайма ж беларускае - каб сагрэцца, каб выжыць!.

## ХАЙ ЗАТАНЕ

Сустрэла даўнюю знаёмку. Тая шмат скардзілася на адно, другое, трэцяе… Каб весялей закончыць размову, засмяялася-пажартавала: "Як казала мая бабуля, хай яно затане."

Прыгадалася, што і мая цётка Маня, якая адзінока жылагаравала і да вайны, і пры немцах, і ў самы росквіт "развітога" сацыялізму, таксама ой як часта з сэрцам гэтак жа прамаўляла - не праклён, а як замову. Каб ліхое-нялюдскае знікла, прапала, падзелася куды. Пайшло на дно!

Мо і нам трэба часцей паўтараць тую мантру продкаў? Авось дапаможа?

## НА ПЕРАМЕНЫ

Сырое, шэрае, бязважка-незварушнае, млявае перадзім'е застаялася анамальна доўга.

А неяк пад вечар усхадзіўся вецер. Грымеў бляхай на даху, трос маладыя рабінкі, рваў кару на старых бярозах, вымятаў закуткі і гнаў заляжалую непатрэбшчыну прэч, немаведама куды. Выйшаў дзядзька Рыгор на ганак паглядзець, што робіцца. Пастаяў, паўзіраўся:

- Няйначай на перамены…

- Ага, чакай. Праз гадзіну аціхне, - азваўся сусед Сенька, які таксама высунуўся з хаты глянуць на свет Божы.

- Э-э-не, брат, гэта не так сабе… Чакай не чакай, без змен быць не можа.

Дасвецце наступнага дня займалася ўжо над неабсяжна белым прасторам.

## НЕ СПЫНЯЙСЯ

Пасля ўпартага трохдзённага снегападу пракладваю ў глыбокім снезе новую лыжню. Цяжкавата. Але заўзята прастую паўз лес. Снег важка парыпвае пры кожным кроку. Чуюцца яшчэ нейкія гукі. Мо гэта ценькаюць сініцы? Спыняюся. Так, яны. Але неўзабаве прыціхлі. Рушыла далей - зноў зазвінелі і, здаецца, суправаджаюць мяне ўздоўж узлеску. Спыняюся - прыціхаюць, еду - звіняць.

Зважай, чалавеча: вітаюць таго, хто ў дарозе, хто кладзе новы след. Спынішся, прыстанеш - то як і няма цябе. Суцяшайся тады хіба

што адвечным апраўданнем-заспакаеннем: добраму чалавечку добра і ў запечку.

## ПІВОНЯ НЯСВІЖСКАЯ

Умеем мы, беларусы, дакараць сябе часам, усіх пад адзін капыл: свайго, маўляў, не шануем, роднага не трымаемся. А як паслухаю нашу 90-гадовую весялуху і жартаўніцу бабу Яньку, дык настрою і веры набіраюся. Вось і сёння ўранні кажа:

- Бачыла, Зоня з Хведаркам на аўтобус далася, мусіць, капуста прыелася - цьвіксаў захацелася. Новую коўту пачапіла, на галаву барэт прыстроіла, не раўнуючы, півоня нясвіская.

Радуюся - не, не абмяняе мая суседка сваё "ў " і "хв" на нейкае там "фэ". З хвартухом ды з коўтаю … век жыць будзе.

## ВЁСКІ НЯСВІЖЧЫНЫ

Сыходзяць у вечнасць стагоддзі,
Мінаюць імкліва гады…
Жывуць у супольнасці-згодзе
Карцэвічы, Ліпа, Казлы…

Плугі на раллі пакідалі,
Сціскалі, як косы, мячы -
За долю сваю ваявалі
Малева, Баяры, Квачы…

Яны мо і сёння чакаюць
Сыноў, што за волю ляглі;
У Святыдзень
заўжды памінаюць
Аношкі, Сычы, Гусакі…

Ці злыя завеі лютуюць,
Ці спёка, ці студзіць раса,
Ці ранне, ці вечар - працуюць
Астроўкі, Прасці, Затур'я…

У клопатах дні прамінаюць,
І свята, як покліч вясны.
Гасцінна сталы накрываюць
І Сейлавічы, і Бузуны.

На цяжкасці не зважаюць -
Ты толькі прыслухайся, глянь,
Як хораша, звонка спяваюць
Лявонавічы і Лань.

Пачуеш - і вусны паўтораць
Імёны, што продкі далі.
На бацькаўскай мове гавораць
Амлынцы, Грыцы, Смалічы…

Нясвіжчыны родныя вёскі…
Гляджу на іх зноўку і зноў -
Салтанаўшчана… Навасёлкі…
Альхоўка…Асмолава… Сноў…

*2000 - 2017 гг.*



# *Уладзімір Пярцоў*

*Уладзімір Васільевіч Пярцоў, эстрадны драматург і рэжысёр. Нарадзіўся ў Кіеве, скончыў факультэт журналістыкі Кіеўскага універсітэта.*

*Пераехаў у Менск. У 1987 годзе стварыў тэатр "Хрыстафор", паралельна - эстрадны кіеўскі дуэт, вядомы пад назвай "КРОЛИКИ". У 1995 годзе прыпыніў супрацоўніцтва з "Хрыстафорам", пераехаў у Нясвіж. Супрацоўнічаў практычна з усімі вядомымі эстраднымі выканаўцамі: Кларай Новікавай, Яфімам Шыфрыным, Янам Арлазоравым, Яўгенама Петрасянам і іншымі. Піша вершы, апавяданні. Аўтар зборніка "Тонкий слой интеллигенции", "Последний закон Ньютона", "Пока мы площадь переходим...". У сааўтарстве з вядомым нясвіжскім хірургам Ігарам Богушам напісалі кнігу па гісторыі медыцыны на Нясвіжчыне "О наших веках и средневековьях".*

## ВЕЧНАЯ ТЭМА

*Сёння большасць жанчын хвалюе пытанне: як схуднець?*

*Схуднець можна, і чалавецтва ўжо ў гэтым налаўчылася: бег, гімнастыка або шэйпінг. І, вядома, дыеты: "японская вішнёвая", "польская сокавая", "часночная", "ўсходняя", "асбацэментная", "амерыканская салата прыгажосці". І наша простая айчынная дыета "Што б яшчэ такое з'есці, каб схуднець?"*

*Самыя адчайныя галадаюць. Ну, гэтыя альбо ад лішку волі, альбо ад збегу абставінаў. Ніжэй падаецца аповяд адной жанчыны, які так і завецца:*

## Як я галадала сем дзён

У нас тут на працы нядаўна з'явіўся адзін, новенькі, карацей. Такі ўвогуле, нічога асаблівага. Карацей, нашы жанчыны ўсе назад на абцасы ўсталі. Узгрувасціліся ... Я сяброўцы сваёй, Лізе адной, так і кажу:

- Нашы - то, - кажу, - ходзяць міма яго, хістаюцца, як этажэркі, але ён на іх, - кажу, - нуль увагі. Лізка-то мяне выслухала, потым кажа:

- Ты чаго гэта сама ў дождж на такіх абцасах прычоўгала? Ці баішся паводкі?

Я кажу:

- Таму што ён на мяне таксама. Лізка, ты дастань мне што-небудзь такое, 46-га памеру. Каб я надзела, дзверы адкрыла - і яму пачалі рабіць штучнае дыханне!

Яна кажа:

- Ты калі апошні раз лезла ў 46-ы памер?

Я кажу:

- У трэцім класе, а што?

Яна кажа:

- У мяне ёсць тое, што табе трэба. Але куды ты яго нацягнеш? На бігудзі?

Я кажу:

- Што ж рабіць?

Яна кажа:

- Галадаць! Яны цяпер усе худых любяць, каб яны падавіліся. Тыя і іншыя.

Я ўспомніла, што ў яго над сталом такі здымак з часопіса. Ды вы бачылі: ні то французанка, ні то кітаянка ... Ды яны ўсе падобныя: тут пуста, тут няшмат, а ўнізе дзве тронкі тырчаць, каб было чым за глебу чапляцца ... Карацей Лізка кажа:

- Дзе ён?

Я кажу:

- Яго як раз у камандзіроўку, на тыдзень.

Яна кажа:

- Гэта шанец. За тыдзень ты павінна дайсці да 46-га памеру.

Я кажу:

- Можа, я і дайду, толькі ўжо не вярнуся.

Яна кажа:

- А каханне! Успомні Ганну Карэніну.

Я кажу:

- Дык, што рабіць?

Яна кажа:
- Нічога не ясі, п'еш адну ваду.
Я кажу:
- Шмат?
Яна кажа:
- Убачыш.

Дзень першы. Галадаю 45 хвілін. Настрой выдатны. Нашы жанчыны ўсміхаюцца - яны яшчэ нічога не ведаюць. Абед. Усе пайшлі ў сталоўку. Выпіла вады, паглядзела ў люстэрка. Сказала гэтай францужанцы: ха-ха! Пасля абеду - моцна хочацца есці. Зноў выпіла вады, паглядзела ў люстэрка, сказала, ха-ха! Атрымалася, але хрыплавата. Дома. Уключыла тэлевізар. Фермер з Саратава казаў пра кармы. Я пра іх думала. Усю ноч.

Дзень другі. Вельмі хочацца есці. Увесь дзень піла ваду, спярша так, потым прама з крана. Пакуль яна не скончылася. Прыйшоў хмурны слесар, сказаў, лопнула труба. Хутка пайшла дадому.

Дома. Вельмі моцна хочацца есці. Трэба пачытаць. Божа ж мой! Яны ж там усе ядуць, ад слова жаруць. І каралева Марго, і графіня Мансаро ... О! "Вікантэса ўсміхнулася герцагу, адламала крылца дзіка і зжэрла без хлеба і солі"! А ўсё астатняе дажрала юная маркіза. Дзіцячыя, між іншым, таксама. "Калабок, калабок, я цябе з'ем". "Матылёчак-прыгажун, ешце варэнне ..." Не хоча, сволач такая.

Ноччу снілася жар-птушка. Паўпатрошаная.

Дзень трэці. Раніца: як хочацца есці. Дзень: як хочацца есці! Вечар: як хочацца жыць! На працы: памятаю, што піла, памятаю, што ваду, памятаю, што шмат. Не памятаю, з чаго менавіта. Зрок, рукі, ногі запаволіліся. Але нюх абвастрыўся да слёз. Суседка несла сасіскі - я ўзяла след. Сасіскі "аматарскія" - след ўчарашні.

Ноччу снілася Ганна Карэніна. Клікала да сябе.

Дзень чацвёрты. Увесь дзень заносіла. Перш на вуліцы, потым у трамвай, потым з трамвая. На працы зносіла тры разы, пакуль хтосьці не зачыніў фортку.

Дома. Палезла ў ванну - не магу пагрузіцца. Выпіла вады - не магу ўсплыць. Кінула на картах, колькі мне засталося. Карты ўпарта паказваюць каля мяне нядобразычліўцу з вострай касой і пясочным гадзіннікам і бубновага караля - у казённым доме з надпісам "Сталовая". З-за каго я пакутую?

Зноў снілася Ганна. Кажа:
- Ты хутка?
Дзень пяты. Трэба ўставаць.

Дзень шосты. Трэба ўставаць.

Дзень сёмы. А можа, не трэба? Самаадчуванне выдатнае. Апетыту няма, затое зрок - дай Бог кожнаму: выдатна бачу, што дзеецца на зямлі, пад зямлёй. Спаўзла ўніз, глянулася ў люстэрка. Адтуль на мяне зірнула француженка і спытала па-руску: ну, дагулялася? Сабрала сілу волі, і мы ўтрох пайшлі на працу: я, сіла волі і ўсё, што ад нас засталося. Па дарозе ветрам знесла капялюш, разам са мной. Зачапілася за трамвай. У трамваі паглядзелі на мае калені - саступілі месца. Я глянула таксама - заплакала.

На працы. Начальнік кагосьці цьмяна нагадвае. Я сказала: Калабок, Калабок, я цябе з'ем. Начальнік выпіў вады. З валідолам. Назад спускалася праз чатыры прыступкі. На трэцім паверсе вылецела ў акно.

Начавала на акацыі.

Уночы прыйшлі графіня Мансаро, каралева Марго і жанчына ў белым з "хуткай дапамогі". Яна сказала:

- А ну, злазь, знайшла час!

Дзень. Дзверы палаты расчыніліся, на парозе стаяў ён з кветкамі і во-о такой перадачай.

Я сказала:

- А цяпер я вам падабаюся?

Ён пачырванеў і сказаў:

- Вы мне заўсёды падабаліся. Асабліва да таго

Ну, увогуле, раней.

Я як закрычу:

- А навошта ж тады я! ... а як жа ... а гэта ... А француженка на сценцы!!

Ён кажа:

- А, гэта каляндар. Зараз там коні.

Я кажу:

- Так? Тады пакіньце, калі ласка, вашага каня, гэта значыць перадачу, і прыходзьце праз два дні. Я гэта хутка!

## ПАПУГАЙ МІШО

Гэта апошняя гаспадыня яго так называла - Мішо. На французскі манер. У яе любімага Бальзака быў такі балбатлівы персанаж, таксама Мішо.

Або ў Гюго?

А як яго клікалі з самага пачатку, з дня нараджэння - хронікі

маўчаць.

Папугай Мішо быў малюсенькі, але гаманкі дашчэнту. Ён днямі сядзеў перад сваім адлюстраваннем у маленькім люстэрку і ў нечым яго горача пераконваў. Рабіў ён гэта нястомна, з нейкім камсамольскім агеньчыкам. Часам беручы суразмоўцу на спалох, часам ціснучы тамсям на сумленне. Часам ён зрываўся з жэрдачкі і павісаў ўніз галавой, як бы збіты абсурднасцю чужых аргументаў!

Аўтар пазнаёміўся з ім у сваёй старой настаўніцы, у Людмілы Паўлаўны! Сядзім неяк, гутарым у яе ў кватэры. Чуваць, нехта паралельна з намі размаўляе, нехтаі відавочна непрыемны. Людміла Паўлаўна, хто там у вас? Дзе? Ну, на балконе. А-а, на балконе! .. Пайшлі на балкон, а там, сярод спрэсаванага гадамі балконнага друзу стіць, нейкая паўудовіная клетка, а ў ёй сядзіць невялікі папугай і гутарыць сам з сабой. Убачыўшы нас, папугай папярхнуўся, як бы яго засталі знянацку, адвярнуўся і заспяваў нешта нейтральнае, здаецца: “У лесе нарадзілася ялінка”. Спяваў ён старанна, з пачуццём, разгойдваючыся і зморгваючы скрадлівую слязу. Неўзабаве яму надакучыла прыкідвацца, ён перапыніўся на "вязе конік дровы" і зноў пачаў нешта горача даказваць суперніку ў люстэрку, прычым, у адрозненне ад песні, злосна.

Настаўніца распавядала, як ён упершыню трапіў у дом, вясной. П’яніцы-сужонцы знізу, кажа, патэлефанавалі ў дзверы, сказалі: “Дабрыдзень, Людміла Паўлаўна, віншуем з восьмым сакавіком!” - І сунулі мне ў руку нешта мяккае, - гэта вам, са святам вясны і працы! Я кажу, Толік, гэта што? Ён кажа, гэта хвалісты папугай, звярніце сваю ўвагу! Яго жонка Святлана кажа: Людміла Паўлаўна, гэта не папугай - гэта проста Амурскія хвалі, бачыце, які ён хвалісты, мяне літаральна ўкалыхвае! Мы яго завём Мішо. Я кажу, Света, навошта мне папугай, ды яшчэ такі хвалісты? Яна кажа, таму, што ён гаворыць, нам страшна, а вы настаўніца літаратуры, вы памірыцеся, дайце тры рублі! Кажу, Света, ты б з гэтага пачынала! А як ён да вас трапіў? Толя кажа, ды заляцеў ў яе адкрытую фортку, а мы елі. Ён сеў да мяне на талерку і кажа: дай пятачок на метро!

Забярыце, Людміла Паўлаўна, дзе я яму набяруся пятачкоў?!

Калі я яго прынесла ў кватэру, распавядала Людміла Паўлаўна, ён тыдзень маўчаў. Думаю, зноў падманулі, паразіты. Не падманулі. Аднойчы я сяджу працую. Тры гадзіны ночы, лямпа свеціць, гэты папугай сядзіць збоку, ужо абжыўся. Гляджу, перабіраецца бліжэй да мяне. Да краю стала, бокам, бокам невялікімі крокамі, спыніўся ля локця. Я не паварочваюся, але адчуваю, глядзіць. Я адарвалася ад ліста, кажу, ну, што глядзіш, маўчун? Ён уздыхнуў раз, другі, відавочна

памяўся і пытаецца: “Ты, - кажа, - якой нацыянальнасці?” Я сказала. Ён, мабыць, супакоіўся, таму што з гэтай хвіліны пачаў паступова гаварыць; да вечара пайшоў практычна ўразнос. Цытаваў Шэкспіра ў арыгінале, хоць і вельмі неразборліва.

Ну, наконт Шэкспіра, гэта яна, вядома, пажартавала. Яго - то і людзі не чыталі, акрамя, зразумела, Людмілы і самога Шэкспіра.

Такая гэта была дзіўная казурка.

Наогул, распавядаць пра папугая, які гаворыць, ды яшчэ чужога - пусты занятак. Усё роўна ніхто не паверыць. Вось, дарэчы, успомнілася. У свой час аўтар быў знаёмы з адной дзяўчынай-вентролагам. Вентролаг - гэта, кажучы па-простаму, які гаворыць жыватом. Толькі гэтыя цяжкія словы да яе ніяк не ляпіліся - была яна нармальнай, больш за тое сімпатычнай дзяўчынай па імені Валянціна. Найнармальнейшай, калі не лічыць гэтага яе рэдкага дару.

У яе была вялікая "гаваркая" лялька Каця. Яна з гэтай лялькай працавала на эстрадзе - поўны фурор! Вось Валя брала гэтую Кацю, садзіла да сябе на калені, далей пачынаўся, як кажуць нашы, "цырк на дроце". Напрыклад, Каця паварочвалася да вас і пыталася: “Ну, што, так і будзем маўчаць?!” На ваш невыразны адказ Каця па-дзявочы хіхікала і брала размову на сябе. Каб канчаткова не ўпасці ў яе вачах, вы цяжка ўцягваліся ў размову, нават спрабавалі тупа вастрыць, адказваючы на яе вясёлыя прыставанне. З боку гэта было падобна на размову юнага гугняўца Бураціна, які толькі што выйшаў з-пад сякеры таты Карла, з нахабнай, спрактыкаванай ў гаворцы і сяброўстве Мальвінай. Галоўнае, Валя - гаспадыня лялькі - сядзіць тут жа, як бы збоку і моўчкі назірае гэты дыялог з боку, усміхаецца.

Жах!

Асабіста аўтар рэдка бываў у больш дурным становішчы. Поўнае раздваенне асобы! З аднаго боку, вось Каця балбоча з табой, спявае прыпеўкі і нават падморгвае - але ж гэта лялька, мёртвая матэрыя. З іншага боку, вось жывая Валя сядзіць сабе нерухома, моўчкі пазірае сваімі прыгожымі вочкамі то на цябе, то на ляльку, і яе сімпатыі відавочна на баку апошняй. Дык, з кім я размаўляю?! Валя спыняе сеанс, смяецца: ну, як?!

Ну, так - плечы мокрыя, дзякуй за кампанію!

Прыкладна такія ж пачуцці адчуваў аўтар, гутарачы з тым Мішо. Не размаўляючы, маўляў, Кеша разумны, а Попка - дурань! А менавіта гутарачы. І атрымліваў, часам, такія адказы, што ўздымаўся і сыходзіў, ахоплены сумненнямі і чамусьці прысаромлены ...

Гэта не перакажаш.

Кажуць, папугаі жывуць вельмі доўга. Не ведаюць і хлусяць! Па-першае, гледзячы якія папугаі. Напрыклад, хвалісты можа жыць 15 гадоў. Можа нават больш, толькі хто яму дасць. Або памрэ ад суму, калі своечасова не навучыцца гаварыць; або знікне праз фортку ці яго зжарэ вульгарны непісьменны кот, якому пляваць на таленты і адукацыю.

Зусім, дарэчы, як у людзей.

А вялікі папугай, вядома. Вялікі папугай - іншая справа. Вялікі папугай, як напісана, можа радаваць гаспадара больш за 120 гадоў.

Толькі дзе ж узяць цяпер такога вялікага гаспадара?

Перавяліся на Русі волаты!

## ПЕСНІ ГОР

*У Беларусі, як вядома, жывуць беларусы. Беларусы, у сваю чаргу, бываюць розныя: смешныя, рахманыя, шумныя, непітушчыя, а таксама іншыя ў асартыменце. У гэтым лёгка пераканацца, калі пахадзіць па гэтай сціплай краіне, якая знаходзіцца ў Бога на асаблівым рахунку, у адмысловай тэчцы, падкладзенай пад ножку стала, каб не хістаўся. Бо тэчка тая тоненькая.*

*Гэта прыказка.*

Такім чынам, справа была ўвесну, у Беларусі, менавіта 9 траўня. Як гаворыцца, "гэты дзень Перамогі ..."

Ехаў па горадзе аўтобус, вёз звычайных пасажыраў. Была раніца, зеляніна, вялікае травеньскае сонца. Хацелася нечага добрага.

На адным прыпынку ў аўтобус увайшоў ветэран. Невялікага росту, у кепцы, у такім жа пажылым пінжаку, цяжкім ад жоўтых медалёў. Пры гэтым было прыкметна, што ён з раніцы ўжо злёгку, паколькі яму ўжо шмат не трэба, а цяпер едзе на сустрэчу з радзеўшымі пабрацімамі. Ветэран ўсміхаўся нечаму свайму, ветэранскаму, пры гэтым меў у сваім гардэробе невялікі канфуз. Тое месца, якое ў мужчынскіх портках павінна быць зашпіленым, як мяжа на замку, было як раз не зашпіленым. Накшталт: памежнік кінуў пост і пайшоў таксама святкаваць. Разам з замком і сабакам.

Так. І вось ветэран разам з усмешкай і гардэробам стаў побач з сядзеўшай маладой жанчынай і заўсміхаўся больш, чым раней, як салавей. Відаць, успомніў, які ён таксама быў прыгожы. А жанчыне яго свята, як той казаў, да сценкі. Яна пакасілася на яго гардэроб, потым яшчэ раз, потым паднялася і перасела. Атрымалася, накшталт саступіла месца. Ветэран, не спыняючы ўсміхацца, сеў, затым спыніў

гэтую справу, усмешкі. Успомніў, што яму саступілі месца, а ён не падзякаваў. Не добра. Вось ён зноў заўсміхаўся і пайшоў сказаць вялікі дзякуй. А гэтай маладой дурніцы здаецца, што ўсе на яе глядзяць, яна пачынае нервавацца і абурацца. Ды нейк па-сучаснаму крыўдна і рэзка. Прычым, ветэран-то ні сном, ні духам! Ён хацеў, як лепш, а тут абагульняльнае "панапіваюцца, казлы!" ... І вось ён і стаў дурань дурнем са сваёй Перамогай, узнагародамі і адыходзячымі пабрацімамі. І ад гэтага задрыжалі ў яго вусны, і пальцы на руках заварушыліся разгублена і горка, і паўза ў аўтобусе павісла вялікая і дурнаватая.

Сітуацыю выраўнаваў высокі хлопец з чорнымі кучаравымі валасамі. Ён устаў, узяў ветэрана за дрыготкую руку і сказаў: "Бацька, яна маладая, яна вас не зразумела". Затым адвёў яго на месца, між іншым намякнуўшы пра гардэроб, і пайшоў да сябе. На тым справа і скончылася, аўтобус паехаў, людзі пагрузіліся ў сваё. Ветэран трохі пасядзеў, схіліўшы галаву, затым да яго пастунова вярнулася ўсмешка, практычна цалкам. Потым ён зноў перастаў усміхацца, прыўзняўся і стаў круціць галавой - успомніў, што забыўся падзякаваць ужо хлопцу. Не добра. Вось ён да яго падышоў, пагледзеў на яго чорную кучаравую шавялюру і задаў самае лагічны ў гэтай сітуацыі пытанне:

- Хлопец, ты грузін?

- Не, бацька.

- Значыць, - сказаў ветэран, - ты не ведаеш Песню гор?

- Не ведаю, бацька.

- Тады, - сказаў ветэран, - давай пацалуемся.

Хлопец падняўся, яны паважліва расцалаваліся, ветэран пайшоў да сябе. Праз хвіліну твар яго зноў набыў заклапочаны выгляд. Ён падышоў да хлопца:

- Я забыўся сказаць табе дзякуй, сынок.

- Нічога, бацька, усё нармальна.

Ветэран зноў наткнуўся на яго чорную шавялюру:

- Чуеш, ты выпадкова не грузін?

- Не, - адказаў хлопец.

Ветэран патаптаўся, як бы асэнсоўваючы навіну, і рэзюмаваў:

- Значыць, ты не ведаеш Песню гор?

- Не ведаю.

Ветэран зноў падушыўся, накшталт прыдумляючы апраўданне гэтай недарэчнасці. Але нічога новага не прыдумаў.

- Тады, - сказаў ён пасля паўзы, - давай пацалуемся.

Хлопец падняўся, яны зноў трохразова па-хрысціянску пацаваліся. Аўтобус, які назіраў гэтую справу, таксама заўсміхаўся. У сярэдзіне накшталт нават пасвятлела, і кіроўца два разы выглядваў у

сваё люстэрачка, чаму там у яго за спіной нязвыкла добра? ... Увогуле, на гэтым справа не скончылася. Праз хвіліну ветэран зноў стаяў над хлопцам, цікавячыся яго паходжаннем і на прадмет ведання Песень гор. Атрымаўшы несуцяшальны адказ, добранька яго абдумаў і зноў прапанаваў палепшыць яго горыч пацалункам. Хлопец зноў падняўся, яны зноў шчыра расцалаваліся. Прычым, хлопец рабіў гэта спакойна і добразычліва, накшталт толькі па гэта сёння і ехаў. Людзі ж, якія ўваходзілі, і пасажыры, якія сядзелі - назіралі гэты "пейзаж пасля бітвы" і рэагавалі кожны ў сілу свайго розуму, чакаючы, чым гэта ўсё скончыцца.

А скончылася гэта так. Ветэран, якога падганяў толькі яму вядомы горны інстынкт, счакаў трохі на сваім адзінокім месцы і зноў апынуўся каля хлопца:

- Ты не памятаеш, сынок, я цябе пытаўся наконт, ты грузін?

У аўтобусе на гэта ўжо засмяяліся зусім, мужчыны гучней, жанчыны танчэй.

- Не, - гучна і спакойна адказаў хлопец, - не, я не грузін. Я габрэй.

У гэтым месцы аўтобус чамусьці замоўк. Ветэран таксама. Ён недаўменна паміргаў, для нечага пакратаў чорны ад людскіх далоняў поручань. На твары яго праступала глыбокае горкае расчараванне.

- Значыць, - рэзюмаваў ён ужо канчаткова і як бы сам сабе, - значыць, ты не ведаеш Песню гор, так?

- Чаму, - усміхнуўся хлопец, - я ведаю не адну песню гор. Ды што там - я іх ведаю практычна ўсе!

- Тады, запявай!

Хлопец падумаў і абраў найбольш прыдатную да сітуацыі Песню гор:

- На рэчцы, на рэчцы, на тым бережочку мыла Марусенька белыя ногі ...

Ветэран падхапіў дрыготкім тэнарком:

- ... мыла Марусенька белыя но-о-гі ...

Так яны выйшлі ўдваіх ужо з другой Песняй гор і змяшаліся з натоўпам старых смешных людзей у кветках і медалях.

Гэты Дзень Перамогі, як той казаў, порахам прапах ...

І вядома, нечым яшчэ ...



*Зоя Анатольеўна Сілкова (23.07.1980). Нарадзілася ў г. Нясвіжы. У 1984 г. разам з бацькамі пераехала ў г.п. Гарадзею. У 1997 г. скончыла Гарадзейскую сярэднюю школу № 1. Скончыла Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтваў па спецыяльнасці бібліятэкар-бібліёграф. З 2002 па 2006 год працавала ў Сейлавіцкай сельскай бібліятэцы Нясвіжскай ЦБС. У 2006 г. перайшла працаваць у аддзел бібліятэчнага маркетынгу Нясвіжскай цэнтральнай раённай бібліятэкі. У 2011 г. узначаліла аддзел абслугоўвання і інфармацыі. Жыве ў г.п. Гарадзея Нясвіжскага раёна. Друкавалася ў раённай газеце "Нясвіжскія навіны".*

# *Зоя Сілкова*

## ГУЛЬНЯ СА СМЕРЦЮ

Пасляваенныя гады ... Яны былі цяжкімі ў жыцці людзей, якія перажылі Вялікую Айчынную. Тым не менш, пражыць у вёсцы было лягчэй, чым у горадзе, і многія заставаліся. Засталася і Юлія Міхайлаўна Дзмітрыева з дзецьмі. Быў цёплы сонечны жнівеньскі дзянёк. Непадалёку ад вёскі на выганку былі сабраныя коні з усяго раёна. Столькі коней адначасова яшчэ не бачылі вяскоўцы. Паглядзець на гэта незабыўнае відовішча прыбеглі і Слава з Алай Дзмітрыевы, Маша Семяновіч і Стасік Крэпскі. Славе, праўда, мама вельмі строга загадала схадзіць да краўца на прымерку (да 1-га верасня было дагаворана пашыць касцюм) і ён неўзабаве адправіўся ў суседнюю вёску Андрушы, а пяцігадовым Але з Машай проста назіраць за коньмі надакучыла, і яны вырашылі "спячы" бліны з яек і пяску. Але для гэ-

тага трэба было пайсці да матушкі (яна абяцала даць ім па яйку). Так што змовіўшыся, кожны пабег па сваіх справах. Вяртаючыся з прымеркі ад краўца Слава звярнуў увагу на заворанае поле. Ён падышоў бліжэй, прыгледзеўся і заўважыў: з зямлі тырчыць незвычайная ручка. Нагнуўся працягнуў руку ... і дастаў гранату. Колькі радасці было ў дзевяцігадовага хлапчука, не перадаць словамі. Ціхенька схаваўшы гранату, ён хутка пайшоў дадому. Па дарозе мроіў планы, як ён са Стасікам распужае коней гранатай, як тыя будуць разбягацца, а конюхі не змогуць іх стрымаць. З гэтымі думкамі і дайшоў да вёскі хлапчук.

- Стасік, глянь што я знайшоў. Пайшлі на выган, паспрабуем зрабіць выбух, - паклікаў сябра Славік, і яны, абодва, пайшлі да вішняку.

Сяброў угледзелі і Маша з Алай. Маючы адбыцца выбух зацікавіў дзяўчынак, і яны вырашылі дапамагчы хлапчукам. Дзеці як мага стараліся падарваць гранату: вешалі на вішняк і кідалі ў яе камяні, кідалі на зямлю і не маглі зразумець: што робяць не так. У рэшце рэшт, Але з Марыяй гэтая валтузня надакучыла, да таго ж, да гэтага часу яны жудасна прагаладаліся і пабеглі дадому да Дзмітрыевых. З'еўшы сваё яйка з хлебам, дзяўчынкі выбеглі ў двор. І тут пачуўся выбух ...

Ад спалоху дзеці закрычалі, а потым пабеглі. Слава і Стась ляжалі на зямлі і стагналі. Ала падбегла да брата і плачучы пачала разглядаць, што з ім. Убачыўшы шмат крыві вакол, яна пабегла да бацькоў Стася. Бо ў іх ёсць конь. Крэпскія да гэтага часу прынеслі свайго параненага сына і запрэглі каня, але па параненага Славу не пайшлі. Спалоханая і разгубленая Ала бяжыць назад да брата, што рабіць, яна не ведае. Маці як раз у гэты дзень паехала ў Мінск да сваякоў і павінна была вярнуцца толькі ўвечары, а стрыечная сястра на працы ў Андрушоўскай школе. Ад каго чакаць дапамогі? Куды бегчы? А дапамога ўжо была побач! Матушка ўжо аказвала першую дапамогу. Заўважыўшы Алу, яна крыкнула:

- Бяжы да дзеда Пракопа, ён коней пасе. Хай хутка запрагае каня.

І Ала пабегла. Яна бегла з усіх ног. Ну вось нарэшце і луг. Здалёку стала крычаць:

- Дзядуля Пракоп, матушка просіць запрэгчы каня. Майго брата трэба тэрмінова везці да доктара.

Дзед Пракоп усё зрабіў хутка. Яны павезлі Славу, а Ала пабегла сустракаць маму. Юлія Міхайлаўна, даведаўшыся, што адбылося, не заходзячы дадому, паспяшалася да сына.

Усе ўдзельнікі гісторыі, на шчасце, засталіся жывыя. Хлапчукі

пацярпелі больш: Славе адзін асколак прабіў сцягно, другі, прабіўшы правую руку, прайшоў па касой, закрануўшы грудную клетку, трэці навылёт прабіў левае плячо. Са Стасікам адбыўся сапраўдны цуд: граната ўзарвалася прама ў яго ў руцэ, адарвала толькі мезінец. Больш ран на целе не было.

Дзеці яшчэ доўга знаходзілі снарады, гранаты, міны і гулялі з імі. І каштавала гэта гульня вельмі дорага - у большасці выпадкаў яе ўдзельнікі аддавалі сваё жыццё.

## ALBO TEN, ALBO TEN

Гісторыя гэта адбылася напачатку XX стагоддзя. Дзве дзяўчынкі смеючыся ішлі па дарозе. І вось каля куста бэзу яны ўгледзелі лаўку.

- Каця, гэта ж месца, дзе сустракаюцца паненкі з кавалерамі. А ці не паслухаць нам, аб чым у іх ідзе размова?

- Давай, Юлька, схаваемся пад гэтым кустом і будзем чакаць.

Сяброўкі схаваліся. Праз нейкі час да лаўкі падышла прыгожая пара. У даме дзяўчаты пазналі сваю маладую настаўніцу пані Піну Рэйзмунд, а вось польскі афіцэр ім быў не знаёмы.

- Пані Піна, - прамовіў закаханы афіцэр, - ці ты станеш мне жонкай?

Але паненка адмовіла. Вычарпаўшы ўсе магчымыя довады, і не дабіўшыся поспеху, афіцэр вырашыў угаварыць паненку, параўнаўшы маладых жанчын з маятнікам гадзінніка:

- Пані Піна, зараз вы, як і ўсе паненкі 18-20 гадоў, думаеце: "Tylko ten, tylko ten, tylko ten", але час не стаіць на месцы, і ў 25 гадоў вы, як любая іншая, будзеце думаць: "Albo ten, albo ten, albo ten, albo ten". Пройдзе час. І пасля трыццаці гадоў у галаве ў вас будзе толькі: "Byl jaki, byl jaki, byl jaki". Пані, дык вы пойдзеце за мяне?

Адказ сяброўкі не пачулі ад ледзь-ледзь стрыманага смеху.



# *Алесь Стадуб*

*Стадуб Алесь (Аляксандр Дзям'янавіч) нарадзіўся 24.04. 1938 г. у в. Юшавічы Нясвіжскага раёна Менскай вобл. Скончыў 10 класаў у Нясвіжы. Пасля службы ў войску закончыў Усесаюзны інстытут імя Крупскай (музыка, клас гармоніі). Узначальваў маладзёжны хор у Яраслаўлі. Там закончыў філфак педінстытута. Выкладаў у школе, працаваў у мясцовых газетах. У 1972 г. пераехаў у Ліду, дзе быў намеснікам старшыні таварыства «Веды». Друкаваўся ў абласных і рэспубліканскіх выданнях. Аўтар кніг: "Твае вочы", "Вузел (трыялеты)", "Споведзь натхненнем", "Летапіс пачуццяў", "Калінавыя гроны", "Сюжэт на фоне адвячорку", "Водгук ісціны", "Скрыжалі", "Мільянерка", "Дотык волі", "Шэпты крыл", "Вандроўка між гадамі" і інш. Сябар СБП з 2007 года.*

## З КНІГІ "ВАНДРОЎКА МІЖ ГАДАМІ"

Дастаткова расказаць пра сябе,
каб загаварыла эпоха.
**Генрых Ман**.

*Спакуса падбухторвала пачаць дзённік, ды супыняў час - яго недахоп. Цікавае запісваў на лістках перакіднога календара. Ад аднаго Дзеда Мароза да другога. Год пралятаў, як метэор. Каб вёў дзённік, больш напісаў бы пра Каляды, пра Вялікдзень, пра шчадроўнікаў, пра кукольнікаў. Памяць дзённіка захавала б пра наш вясковы аркестр, у якім сам іграў на скрыпцы, пра публікацыі ў раённай, абласной і рэспубліканскай газетах.*

*Можа, і гэтага не было б, што тут, каб не брат Іван. Ён за чаркай у нашай сястры Ніны параіў напісаць пра наш род. Проста*

*сказаць. Але не простая гэта работа. Гэта пра далёкае і блізкае, пра пазаўчарашняе, пра цяжкае маленства, пра вандроўку між гадамі стадубаўскага роду.*

*Жыццёвай дарогай кожны ідзе, і не кожны аглядаецца. Я агледнуўся, не ўсё ўбачыў. Але ж агледнуўся.*

**Метэор памяці**

Запомнілася, тата паклікаў схадзіць па сена перад калядной куццёй. Вечар халодны і цёмны. Калі адчыніў хлеў, карова перастала жаваць, напэўна, натапырыла вушы, думала, падкінем што-небудзь.

Я ўзяў трошкі пахучага і крохкага мурагу і выйшаў. Тата павярнуў драўляную закрутку, якая прыціскала дзверы. Не было моды замыкаць. Ён ступіў па рыпучым снезе, здзівіўся яркай зорнасці.

- На ўраджай. Паглядзі на неба.

Яно ўсё блішчала далёкімі белымі зярняткамі. Адны маленькія, іншыя вялікія. Свяціліся і над галавой, і над гарызонтам. Большыя трапяталі. Можа, ад холаду, а можа, ад калядной радасці. Успомніў пачатак верша:

*Дружа, кінь на неба вока.*
*Колькі зорак, колькі зор!*
*Як прывабна, як далёка*
*Зззяе, свецячы, прастор.*

У хатах праз дарогу жаўтлява свяцілі вокны ад слабых газавых лямп ці газовак.

- Чуеш, трэснула? - ціха пытаецца бацька і перапыняе дыханне, пасля папярэджвае: - Зараз зноў трэсне. - І патлумачыў: - Ад марозу сцены пэнкаюцца.

Але не трэснулі, пакуль стаялі.

Холад хапаў за рукі, лез пад мой караткаваты кажушок.

Сена, духмянае і халоднае, рассцілалі тонкім слоем на шырокім, старым стале. Мама накрыла яго настольнікам у шашачкі з белымі фрэнзлямі. Днём я выбягаў за ёю ў сені, калі выходзіла адчыняць куфар і выбіраць гэты настольнік.

З адчыненага куфра ішоў вільготны пах. Ён, напэўна, ад сувояў палоцен, круглых, падобных на бярозавыя калодкі без кары. Пах ішоў і ад перабіранак: настольнікаў, капаў, ручнікоў, ад святочнага адзення, саматканай бялізны, ад убораў на летнія і зімовыя святы.

Мне паглядзець хацелася ў прыскрынак з тонкіх, жаўтаватых ад часу дошчачак. У ім - на правай сценцы куфра - было ўсё незвычай-

нае. Рукі свярбелі падняць лёгкае вечка і паперабіраць тонкія пярсцёнкі, старыя металічныя грошы, клубочкі каляровых нітак, белыя падкоўкі завушніц. Тут захоўваўся пластмасавы, з тонкім вушкам, шакаладнага колеру крыжык. У цэнтры яго праз перламутравае вочка відаць была Маці Боская з доўгай пальмавай галінкай у правай руцэ.

Мама летам даставала з куфра ўсё, каб паглядзела на яго гарачае сонца, каб пахістаў лянотны вецер. Ой, каб ускочыў, не вылез бы. Глыбакаваты той куфар.

Гэта дзядзька Іван, мамін брат, такую вялікую цацку змайстраваў. Была традыцыя везці куфар на шырокім возе, куды выходзіла маладая замуж. Так прыгожы куфар прыехаў з-пад Аліхоўскіх хутароў за Карцэвічамі ў Юшавічы, кіламетраў з дваццаць. Трасучыся і пылячыся, праз Нясвіж.

Не ведаю, што думаў бацька пра новую жонку. Не ведаю, што думала маці, едучы з дому ў жаніхову хату на ўсё жыццё.

Першы раз, гады са два да гэтага, бацька жаніўся з нейкай маладухай. Яна была з Гавязны. Пасля родаў жонка скора памерла. Памерла і дзіця. Бацька застаўся самотным удаўцом.

Цяпер ехаў з новай жонкай.

У дзяўчат з Юшавіч вочы разбягаліся: куфар вялікі. Пэўна, поўна пасагу. Дзямяну зноў на прыгожую жонку пашанцавала. Яна паводзіла вачыма то ўправа, то ўлева. З-пад светлай хусткі ў вішнёвыя бобкі блішчалі чорныя, як смоль, валасы. Яна першы раз бачыла гэтых дзяўчат і жанчын, з якімі пасля ў добрай згодзе жыла да глыбокай старасці.

Былі і юшаўскія лёгка і прыгожа апранутыя па-летняму. Час якраз пасля Пятра.

Раптам, калі пад'язджалі да хаты маладога, нізенькая Адарка, яго мачаха, як гонячыся за курамі, каб выгнаць іх з агароду, пусцілася з дзеркачом наперарэз фурманцы. Бацька імгненна скочыў з воза і, як клешчамі, абхапіў мачашыну руку, пацягнуў сярдзітую на той падворак, адкуль яна выбегла.

Адарцы не падабалася, што пасынак не паслухаў яе і ажаніўся з тою, каго выбраў...

У старое рэшата па покуці бацька паклаў дзве-тры жменькі ўпартага і шаматкога сена. Маці на тое сена паставіла мурзаты ад сажы вялікі гаршчок з цёплай куццёй, дастаўшы з печы.

Часам у нас не было ячменю на куццю. Тады днём раней я, узяўшы сіта, ішоў да суседзяў. Дзед Аляксей, усё зразумеўшы, першы кіраваў у свіран. Ён павольна нязграбнымі рукамі перастаўляў на

кубелец з салам металічны лагун і сыпаў мне з саламянай асьміны. сшытай-змацаванай распаранай лазой, трошкі халаднаватага ячменю. Ралы, я борздзенька спяшаўся дадому. Скупы дзед - майго роднага дзеда брат - любіў малых. Таму рабіў ласку. Стрымана пазычаў, чаго б не папрасіў.

Першая Каляда посная. Вячэраючы, мы думалі пра заўтра: пра мачанку, пра каўбаску, пра аладкі, здорам свіным мазаныя. Таму елася трошкі нехаця.

Памятаю, перад вячэрай тата даставаў з шufляды таўставаты малітоўнік і ўпаўголаса набожна чытаў. Хрысціўся. І мы - таксама. Ён - са шчырасцю. Рыхтык перад Богам. Падымаў вочы на абразы, якія глядзелі на нас з покуці. Мама, здаецца, раўнадушна адстойвала. Мы, малыя, механічна хрысціліся. Пасля, як замоўленыя, вячэралі.

Назаўтра бацька зноў даставаў той малітоўнік і ўпаўголаса прачытваў усю абедню. Укленчыўшы, спяваў: "Тебе поем".

Калядныя вечары не для работы.

Пасля змяркання не пралі, не шылі, не рамантавалі.

Калі добра сцямнялася, да нас збіраліся суседзі: Верка Ўладзіка Пабокі, Зоня - бацькава сястра па мачасе. Вінцэсь Крук, Ганна - унучка дзеда Аляксея. Ні ў кога не збіраліся, толькі ў нас. Прыцягвала дабрыня і пявучы голас гаспадара. Пасля, падросшы, да каго я не заходзіў вечарам, кожная сям'я ў адзіночку бавіла час. У нас жа была поўная хата.

Расшпіліўшыся, але не здымаючы ні кажухоў, ні бравэрак, сядалі, хто дзе папала: на ложку, на лавах, стаялі каля цёплай пяцілюфтовай печкі. Трохі паразмаўляўшы пра ўсё і пра нічога, Верка камандавала:

- Ну то давайце паспяваем. - І да гаспадара: - Даставай кантычку.

Самай любімай песняй тых вечароў запомнілася "Неба і зямля".

Таму і запомніліся словы:

*Неба і зямля* (два разы) *ныня таржаствуюць.*
*Ангелы людзям* (два разы) *весела сказуюць.*
Прыпеў:
*Хрыстос радзіўся,*
*Бог ваплаціўся.*
*Ангелы спяваюць,*
*Паклоны даюць,*
*Чуда, чуда павядаюць.*

Колькі розных песень стварыла здольнасць народная: і абрадавых, і лірычных, і патрыятычных. Не пералічыць. Душа стварыла

аб радасці і горы, аб чым марыла, аб чым перажывала. Стварыла і гэтую.

Калі спявалі прыпеў, пераклікаліся мужчынскія і жаночыя галасы, брат Іван станавіўся за мамай на ложку і дырыжыраваў. Ён толькі не зводзіў вачэй з таты, каб той хоць не заўважыў яго пакеплiванне. Спявалі няправільна па-беларуску, няправільна па-руску. Спявалі, вымаўляючы па-мясцоваму. Хоць не так, але ж тое святое.

Каб вёў дзённік...

У першыя калядныя дні нам, падлеткам, думалася пра шчадроўнікі. Ды не было з чаго зрабіць шматражковую зорку-гвязду. Дзядзька Уладзік, зайшоўшы ранкам, жартам запытаў у мяне:

- Што ты сам сабе думаеш?

- Абечка няма, таму і думае, - паскардзілася мама, здымаючы са скаварады круглы падсмалены бульбяны блінец.

- То хадзем, у мяне валяецца на гарышчы нейкі абечак.

Каб вёў дзённік, хапіла б месца і для суседкі - Ніны Абрамовіч. Яе муж рана памёр ад хваробы - рак страўніка. Хірургі, разрэзаўшы жывот, паглядзелі - і зашылі. Яны адправілі мужчыну ўміраць дома. Была запушчана невылечная хвароба. Шмат каго з мужчын заўчасна занеслі на могілкі. Пілі без меры таннае віно, ляжалі на траве сырой зямлі, баялі байкі, прыдумляючы смешнае, рэзаліся ў карты. Памерлі, а жыццё прадаўжалася. Іншыя робяць тое самае, не думаюць пра заўтра. Есць Федзька рэдзьку, есць рэдзька Федзьку.

Каб вёў дзённік, напісаў бы, як велікодным надвячоркам збіраліся каля Янскіх з поўнымі кішэнямі пафарбаваных яек. З Міцем Герасімавым ніхто не хацеў у яйкі біцца. Яго заўсёды мацнейшыя.

- З кім памацавацца? - звычайна прапаноўваў ён.

Крыху кульгавы кравец Міця даўнавата аддзяліўся ад братоў, абшываў паўвёскі, а можа і цэлую вёску верхнім мужчынскім адзеннем. Меў грошы, сцярог кожную капейку. Выбітыя яйкі дома еў доўга па адным.

Хто не шкадаваў яек, падыходзіў да яго і, сціснуўшы ў руцэ, каб толькі відаць быў носік таго яйка, падстаўляў. Пасля крыўдна шкадаваў, што сваё разбілася - увагнулася.

Нацешыўшыся гэтым спаборніцтвам, мужчыны курылі і глядзелі на танцы падлеткаў, будучых жаніхоў і маладзіц. Антон Цвірка, граючы на двухрадцы, не шкадаваў ні пальцаў, ні свайго гармоніка. Антон быў пад добрай "мухай". Як не кажы, свята! Хоць і не каталіцкае, хоць не Антонава. Але ж свята. Яму заплацілі, і ён іграў. І смачна пачаставалі нават.

Каб вёў дзённік, напісаў бы не толькі пра зорнае неба, і шаматкое сена, не толькі пра шчадроўнікаў і кукольнікаў, не толькі пра вясковы аркестр, у якім гралі дзве скрыпкі, труба, кларнет, паўакардыён і грукатны бубен з нацягнутай белай сырой авечай шкурай. Напісаў бы, як весела было нам і як цяжка. І сёння весела жывецца некаторым. Бацькам жа, як і даўней, не надта. Кожны час нараджае сваё непажаданае.

**Дарога**

У кожнага яна свая. І адвядзе, і прывядзе. З радзімы і на радзіму. Куды не заводзіла мяне! І заўсёды вяртала ў Юшавічы. Цяпер тут я свой і не свой. Мяняюцца дарогі, мяняюцца лёсы. Але застаецца адно нязменным - любоў да мясцін, дзе нарадзіўся і рос. Бацькі даўно аджылі сваё, а мяне ўсяроўна цягне сюды, на кругі свае.

Так было і сёння. Так было шмат гадоў таму.

Прыехаў я з Ліды ў Нясвіж. Некалі ён здаваўся вялікім горадам, бо іншых не бачыў. Ніводнага разу не думаў пра пачатак Нясвіжа, яго рост і ўшыркі, і ў вышыню. Гісторыя мяняла горад на вачах вякоў. На маіх вачах амаль не мяняўся. Пра гэта падумаў нечакана, і пра іншае таксама: чым жа дапяць у Юшкавічы? Той паўнюткі аўтобус, з якога ступіў на прывакзальны асфальт, мінуў, напэўна, Клецк. Цікава, а чаму не Клецак? Як Слуцак, як Полацак.

Прытуліўшыся ў цяньку да халаднаватай цаглянай сцяны з арнаментам, меркаваў, чым жа ў Юшавічы. Было акурат паміж снеданнем і абедам. Рэйсавы мігам бы тыя чатырнаццаць кіламетраў праляцеў бы. Але ж чакай яго аж да надвячорка.

На жнівеньскім блакіце ні хмаркі. На вакзале ніводнага знаёмага. Пуста. Нават кіяскёрка дзяўбе носам над газетамі. Пятніца. Гэта ў нядзелю рух. Спяшаюцца: хто - збыць, хто - набыць.

Пасярод пустой вуліцы нетаропка прабег невялікі дварняк з доўгім чырвоным языком. Якраз, як той, што некалі трымаў сусед таго гадзіннікавага майстра, у якога, вучачыся ў Нясвіжы, у дзесяцігодцы, я кватараваўся. Гаспадара колішняга сабакі даўно няма. Няма і тога сабакі. Гэты можа вырас праз некалькі пакаленняў. Недзе бяжыць. Як той, пярэсты. І кропелькі не перайначыла пакаленне. Гэты сабака, мусіць, рахманы. Сярдзітага не пусцілі б з ланцуга.

Цягнула ў кнігарню. Не было на каго пакінуць цяжкаватую сумку. У ёй хлеб і да хлеба. Я ўсё-такі рашыў схадзіць. Выходзячы на тратуар, прыкмеціў, як недалёка затармазіў грузавік з доўгім кузавам. Нават добра не глянуў у той бок, дзе зарыпелі тармазы. Мала хто

куды едзе, мала хто спыняецца, стукнуўшы дзверцамі. І раптам запытальна і моцна:

- Куды ты?

Я павярнуў галаву: Косцік, брат мой малодшы.

Ён пакіраваў сюды, думаючы, можа каго падкіне.

Грошай не браў. Нават з незнаёмых. Добрая душа. Калі толькі медзякі ці папяровыя пакінуць на сядзенні.

КамАЗ, прытка выбегшы з Нясвіжа, мусіў час ад часу збаўляць хуткасць. Тонкая асфальтаванка сапсавалася: яма на яме. Брат злаваўся. Не тыя ўжо нервы. Гады бралі сваё. Чарнела шчаццё на барадзе і сківіцах. Стадубаўскі нос больш звычайнага выдаваўся наперад. Нават, можа, залішне. Некалі Косцік прыгажун быў. Як і ўсе маладыя. Толькі не вымаўляў чыста "рэ". Адкуль у яго такое? Ніхто з нашага роду не картавіў. Некаторы час у яго раслі крывыя ногі. Пасля дугі выраўняліся. Цяпер пра гэта ўсе забыліся, як і забыліся, што доўга любіў смактаць светла- гумовую соску, якую называў "пах!". Памятаю, мама, падкідваючы перад сабой картавага, весела спявала:

*Гоп, чык, чупа-чык,*
*Чырвоная жычка.*
*Любі мяне, кавалерык,*
*Хоць я невялічка.*

Думалася, што такое жычка? Аказваецца, гэта чырвоная стужка. Можа, і яе некалі, маладой, заплятала ў косы чорных валасоў. Можа, яна падлеткам была невялічкая. Мама наша не скажаш, што высокая. Кабета сярэдняга росту, трошкі вышэйшая за бацьку. Каб хадзіла на высокіх абцасах, дык амаль высокай выглядала б.

Мацерыныя чорныя валасы перадаліся Косціку. Ён іх прыгладжваў зграбнай пяцярнёй заўсёды на патыліцу. Прыціскала іх шапка-аладка. У шчылінах патрэсканых пальцаў, якія спрытна круцілі паслухмяны чорны круг руля, трошкі чарнела. Шафёру ніколі не хапала часу шанаваць рукі. Работа такая. То ў матор лезь, то ў кузаў што-небудзь кідай. Не пісар. І кожны дзень, кожны месяц, кожны год. Нават калі ў адпачынку, не адмываў з-за работы.

- Ну і дарога, - абураўся брат.

- Не ведаеш, якой некалі была, - азваўся я.

- А ты памятаеш?

- Яшчэ як, - пахваліўся адразу. І расказаў. - Некалі ўчастак ад Караліны да Слаўкава быў укладзены разгалістымі хваёвымі ці яловымі галінкамі. Хто і калі ўклаў імі, не ведаю. Але грэбля падымалася вышэй ад балота, якое кісла з абодвух бакоў той дарогі. Справа тое

балота ўпіралася ў гарызонт качаноўскага пясчанага ўзгорка, злева разлягалася да затурэнскіх і селавіцкіх паплавоў. Адсюль, з гэтага балота пачыналася рыбная і задумённая рэчка Уша. Яна спяшалася праз старажытны Нясвіж на захад, аж пакуль трапляла за карэліцкімі Ярэмічамі ў Нёман. Ой, на той грэблі трасло, - пашкадаваў я тых, каго трасло. - На той грэблі дзве фурманкі ледзьве разміналіся.

Успомнілася вяртанне з кірмашу. Ясь Жук, тата і я сядзелі на возе, на тым, чаго конь не паспеў утрыбушыць - на сене. Я - спераду за фурмана. Але дрэннага. Падвёў тату і гаспадара. Усё з-за драўлянай дудачкі, на якой граў. Тата купіў яе ў той дзень, пасля тая дудачка з патрэсканым на ёй чорным лакам доўга валялася ў сенях сярод ламачча.

Іграў, іграў, а вітыя з канапель лейцы з'ехалі і заблыталіся за пярэднюю вось воза. Конь спыніўся. Абодва - і бацька, і Ясь - скаціліся. Разблыталі. Адзін сварыўся на фурмана, другі хваліў дударыка.

- Усе лейцы выпэцкаў у коламазь, смаркач. Каб мой, памятаў бы гранне.

У Яся тады не было яшчэ сына. Толькі дзве дачкі.

- Будуць прыкметныя, пярэстыя, - жартам супакойваў бацька і раптам перавёў размову. - Пярэстыя лейцы, як той твой падсвіначак, - і засмяяўся, пасля дадаў: - Рухава і спрытна ўцякаў ён ад жыда. Добра, што грошы ў тваёй кішэні.

Было якраз у кірмашовы дзень. У сераду і ў пятніцу вяскоўцы прывозілі на сваіх вазах прадаваць свіней-кормнікаў і падсвінкаў. Скуплялі яўрэі. Пасля недзе прадавалі альбо нанятыя перараблялі на каўбасы, каб зноў з тых жа сялян пры панскай Польшчы забіраць апошнія грошы.

У той дзень і Ясь прадаў свайго падсвіначка.

Перавальваючыся цераз высокія аглобіны адзін з аднаго боку, другі - з другога, стараліся перакуліцца на воз. Бацька пажартаваў:

- Ці то мы паменшалі ад тых пару кілішкаў, ці воз падрос?

Ясь гігікнуў і пашкадаваў:

- Пакуль да Слаўкава даедзем па гэтай абрыдлай грэблі, у галаве гарэлкі не застанецца. - І дадаў пасля невялічкага маўчання: - Толькі грошы змарнавалі за пару кілішкаў. - Пасля да мяне: - Грай, добра грай. Толькі лейцаў глядзі. - І нокнуў на каня.

Косцік усміхнуўся. Пэўна, дудачку ўспомніў. А можа, парсюка рабога. Ён зноў трошкі затармазіў. Якраз гналі вялікі гурт пярэстых калгасных кароў. Першыя рагулі неахвотна саступалі машыне. За намі ўпрытык прыпыніўся чырвоны легкавік. Пасля абагнаў і панёсся, як на пажар.

- Аж не верыцца, што некалі драўляная аж да Слаўкава грэбля была.

- Пакуль шараваршчыкі не высыпалі, была яна, гэтая драўляная дарога. Чуць памятаю і тую шараварку.

Палякі, хто меў коней, прымушалі вазіць пясок, адбываць шараварку. Слаўкаўцы вазілі са сваіх узгоркаў і высыпалі аж да Караліны. Юшаўцы - з Вермаковай гары туды, дзе было гразка. Так паднялі вузкую дарогу для праезду ад Зыдароў да Андроніка, кавалак дарогі між балотам каля Данілкавага хутара.

Мы, малыя, бегалі тады глядзець, як працуюць старэйшыя.

Накідвалі на вазы бляклага жвіру, аж коні ледзьве з месца воз зрушвалі, каб выехаць на цвёрдую дарогу. Некаторыя хлопцы пасля лажыліся жыватамі на рыжы, выпалены сонцам узгорак, калупалі сухімі травінкамі між зубоў. Іншыя ганяліся за пісклявымі дзяўчатамі. Тых, што пападаліся, абхоплівалі за талію і скідалі ўніз, дзе нядаўна стаялі фурманкі пад пагрузкай.

У тыя дні заходзіў часам да нас бацькаў брат Уладзік, родны не па мацеры, і жартам прарочыў:

- Палякі робяць дарогі. Па іх жа і ўцякаць будуць.

Бацька адмоўчваўся. Ён ведаў, Уладзік сустрэне каго-небудзь і наплявузгае, што Дзямян сказаў пра дарогі.

Тады ў Юшавічах не было ні радыё, ні газет. Людзі не надта ведалі, што дзеецца на свеце.

Цяпер жа, каб не гэты разбіты асфальт, даляцелі б з братам да Юшавіч куляй.

На ўзгорку, дзе канчаліся слаўкаўскія палі і пачыналіся ракаўскія, папрасіў Косцю прыпыніцца. Ён затармазіў. Пасля па-гаспадарску абышоў свой КамАЗ і падумаў, што адразу далей памчымся.

Я абвёў вачыма наваколле, нібы ўпершыню бачыў яго, і ўсхвалявана пахваліўся брату:

- Якая прыгажосць!

- Што? - запытаў ён.

- Наваколле прыгожае, прастор які!

Тут якраз канчаецца ўзвышша Капыльскай пукатай грады. На фізічнай карце Беларусі яна афарбавана ў пясчаны колер.

- Якая прыгажосць, - паўтарыў радасна я. - Мы знаходзімся больш як за дзвесце метраў над узроўнем мора. Якое наўкола беларускае прыволле! Так даўно тут разам стаялі. Ніколі не прыпыняліся спакойна паглядзець, палюбавацца прыгажосцю Радзімы.

Брат як першы раз убачыў усё на далоні. Злева Затур'я, Кунаса, чорнай палоскай далёкі лес, куды гурбой хадзілі з вёдрамі па чарніцы.

Справа ў лагчыне Траянава, Пнівада, чуць вышэй - Кудзінавічы, далей кудзерка сосен каля Кукаўской царквы.

- Мы ўсё спяшаемся і спяшаемся. З-за гэтага не бачым белага свету. А ён такі непаўторны, такі чароўны!

Насустрач хлопец круціў пядалі ровара. Параўняўшыся з намі, пацікавіўся:

- Матор адмовіў?

- Ды не, прасторам любуемся.

Ён глянуў у адзін бок, у другі і пазайздросціў:

- Вялікае шчасце здзіўляцца таму, да чаго людзі прывыклі.

**Спадзяваліся**

У той далёкі вераснёўскі год была нядзеля з ледзь прыкметным туманам, роснай раніцай, хмарным небам. Усе жылі вялікай пераменай. У суботу 16 верасня па той бок польска-савецкай граніцы палалі вогнішчы, шмат вогнішчаў. Няўжо, каля іх грэліся салдаты? Восеньская ноч халодная. А мо гэта сімвал?

Назаўтра здарыўся пералом.

На цямочку савецкія танкі рушылі на захад. Адзін танк, ідучы цагяльнянскім полем, пасля заграз у асушальнай канаве паміж сенакосамі. Мы, малыя, хацелі пабегчы паглядзець, але дарослыя забаранілі. Вайна ёсць вайна. Дзеці тады не баяліся смерці, бо не ведалі, якая яна неміласцівая - і вайна, і смерць. Польскія жаўнеры з прыгранічнай стражніцы, якая стаяла на ўзгорку надалёка ад Бруіхі, дзе дазвалялі юшаўцам здабываць на зімовае паліва торф, пастралялі ў наступанцаў з карабінаў і зразумелі, што гэтым не спыніш усходняе войска, пабеглі ў бок Нясвіжа.

Калі першая хваля Чырвонай Арміі схлынула, юшаўцы, паснедаўшы, сыходзіліся пагаварыць - хто цішком пабедаваць, хто весела парадавацца. Што галава, то і розум. Бедныя малазямельнікі ведалі, што ім нямашака чаго траціць. Багацейшыя сумавалі, што абагуляць усё - і поле, і коней.

- Глянь, вунь нейкія ідуць. З флагам нават над сабой.

Юшаўскі шматдзетны, рыжы Шмойла, шавец, падбухторыў вяскоўцаў пайсці ў Рымашы, што ў суседнім савецкім раёне Капыльшчыны - на той бок граніцы, і пабратацца з калгаснікамі.

Да натоўпу ўсё больш далучалася цікаўных. Так набралася мужчын з сорак. Напэўна, не менш.

Ішлі з добрым намерам, з надзеяй пазайздросціць, як заможна жывуць калгаснікі пры савецкай уладзе. Беглі поруч і малыя, і пад-

леткі. Цікава ж! І бацька таксама не ўстрымаўся. Яго радня па маці жыла ва ўсходняй частцы Беларусі.

Праз парваны на світанку танкамі дрот граніцы нас не пусцілі. Пагранічнік на ўгаворы Шмойлы і іншых з натоўпу паўтараў не на роднай нам мове адно і тое ж: "Нельзя".

Усе думалі, што дарога за былы кардон да бальшавікоў адкрыта. Але ж дарма.

У вызваленчым паходзе 17 верасня 1939 года ўдзельнічала 700 тысяч чалавек, 6 тысяч гармат, 4,5 тысячы танкаў, 4 тысячы самалётаў.

Здалёк, можа, за паўкіламетра, калі не менш, хаты рымашоўцаў выглядалі запушчанымі. Людзей - ані повідам. З другой ці з трэцяй да нас хаты выйшла з пустым кошыкам сухарлявая, чуць гарбатая кабета. Якраз яна, ідучы, глянула на натоўп заходнікаў і пайшла сабе, падганяная клопатам. Яна нібы сказала: "Прапалі мы, прападзяце і вы".

- Няўжо ў іх не хапіла мелу пабяліць сцены хатаў? - пацікавіўся нехта ў натоўпе пад сцягам.

- Завядзёнка не тая, - сказаў другі.

У Юшавічах палякі патрабавалі бяліць вонкавыя сцены хатаў, каб прыгожыя былі, камяні каля хат, каб кожны дзень па-святочнаму выглядалі.

- Прапусціце нас, таварыш, - папрасіў Гурбанец.

- Нельзя! Приказа нет, - адказаў зноў той жа пагранічнік.

Другі, што поруч стаяў, маўчаў, як без языка.

З тога канца Рымашоў паказалася трое хлопцаў. Убачыўшы нас, яны спыніліся. Адзін паказаў пальцам на калону. Па гэтым пальцы зразумець можна было: "Глянь на дурняў!" Адзін засвістаў. Нават моцна. Вартавы аглянуўся. Хлопцаў як і не было, недзе схаваліся.

Ні Шмойла, ні іншыя больш не прасілі пагранічніка, каб прапусцілі. Дарма!

- Ну такім чынам да свідання, - сказаў, як пакепліваючы, малы ростам Гурбанец.

- До свидания, - адказаў пагранічнік і падумаў задаволена: нарэшце адчапіліся.

Трошкі адышоўшыся, нехта ў натоўпе зарагатаў моцна. Гэты смех яшчэ некалькі чалавек падхапіла.

- Не смейцеся з правадыра, - невыразна, як з кашаю ў роце, адказаў Платун Максім. Ён меў на ўвазе Шмойлу і яго акцыю, якая правалілася.

Шмойла глянуў на мураванку Гурэцкага, польскага асадніка, і падкалупнуў:

- Далёка ён сёння. Напэўна, драпака даў.

Людзі ведалі, што польскія ўлады раздавалі зямельныя ўчасткі да сарака пяці гектараў былым сваім афіцэрам і чыноўнікам, якія вызначыліся ў польска-савецкай вайне 1919-1920 гадоў. Чым вызначыўся Гурэцкі, яны не ведалі. Ды і зямельны ўчастак быў не надта вялікі: гектараў, можа, з 20, калі не менш. Быў ён чалавек не маладога веку. Дзеці пры старым не жылі. Што ім тая зямля, тое поле пры граніцы, дзе ні дарог, ні радыё! Наўкола хутары. Добра, што ў суседняй Цагельні ўсе каталікі. Амаль усе.

Абыходзячы ямы на дарозе, Шмойла трошкі адстаў. Ён адарваў той сцяг - кавалак чырвонай матэрыі - ад дрэўка і кінуў палку ў Ксавэраву яшчэ не скошаную зверху бульбу. Тое, што было нядаўна сцягам, таксама, каб ішоў адзін, скамячыў бы і выкінуў у тую ж бульбу. Аднак сорамна перад людзьмі. Шмойла скамячыў чырвоную анучку і запіхнуў у левую кішэню портак, не заўважыўшы, што чырвоны ражок трошкі тырчаў.

Былая калона задуменна доўга маўчала. Задуменна маўчаў і наш бацька. Каюк яго аўчынам. Раней кожнай восенню, калі мелася наступіць снежная зіма, людзі, зарэзаўшы авечак на мяса, прывозілі да яго аўчыны, каб, перарабіўшы іх, можна было аддаць краўцу на пашыў кажухоў. Бацькаву работу вяскоўцы высока цанілі. Прывозілі на выраб і тыя цагяльнянцы, і затурэйцы, і ракаўцы. Цяпер у калгас усіх загоняць. Ні авечак тых людзі не будуць трымаць, ні прыгожых кажухоў дзяўчаты і хлопцы шыць не будуць. Ніхто слова не скажа, будзе адно цвёрдае "нельзя".

З боку Рымашоў загуло. Людзі агледзеліся. Ішла не спяшаючыся калона палутарак. Бацька падняў руку і, калі машына прыпынілася, папрасіў кіроўцу:

- Таварыш, падвязі майго хлопца. - Ён паказаў на мяне, малога. Той, можа, насуперак статута, дазволіў мне заскочыць на падножку аўтамашыны.

Наблізіўшыся ў вёсцы да тых, хто ішоў са Шмойлам, Уладзік Пабока сказаў:

- Я ведаў, што вас не пусцяць у Рымашы. Няма чым хваліцца. - І засмяяўся: - Хэ-хэ-хэ.

Шмойла вінавата апраўдваўся:

- Пагранічнік сказаў: "Нельзя".

- Насмяшылі нас тыя салдаты. Не салдаты, а нейкія навамодныя чэрці. Шапкі з рогам, - абгаварыў чырвонаармейцаў малы Гіраеўскі.

Раптам, калі ўсе збіраліся разыходзіцца, наўздагон пачулася хрыпаватае:

- Мужчыны, мужчыны!

Усе аглянуліся. Да людзей спяшаўся Платун Максім. Ён трошкі засопся, але, прыпыніўшыся, хукнуў ад сябе з грудзей і сказаў:

- Заўтра ж панядзелак. Я толькі зайшоў у хату, а Манька, дачка мая, пытаецца, ці трэба заўтра ў школу.

- Надта ж твая Манька да ўрокаў ліпучая, - засмяяўся Пабока. - Хай адпачне ад урокаў. - І дадаў: - Скора па-іншаму будуць вучыць.

- Надта ты ўсё ведаеш? - не ўтрымаўся мой бацька.

Ён ніколі не канфліктаваў з Уладзікам. Як бы там ні было, а праз пляц суседзі. Толькі хацеў, каб гэты Уладзік выказаў сваё наконт вучобы дзяцей.

- Ведаю, таму і не маўчу, - адказаў Уладзік, былы польскі жаўнер. Ён абвёў пранізлівым поглядам мужчын, якія стаялі каля рыжага Шмойлы, і дадаў: - Запомніце, усе мы на сваёй скуры адчулі, што палякі не прызнавалі нашу беларускую нацыю, спынілі нашыя газеты, зачынілі родныя школы. Да 1921 года Заходняя Беларусь мела чатыры сотні родных школ, дзве настаўніцкія семінарыі, пяць гімназій. Ці не Платунова Манька, як і вашы дзеці, - ён паказаў дзержаком рыдлёўкі на людзей, - паўтаралі за настаўнікам Барткевічам чужыя словы "Кто ты естэсь? Поляк малы! Які знак твуй? Ожэл бялы!"

Нехта з натоўпу моцна сказаў:

- А можа, Барткевіч нехаця мусіў вучыць?

- Запомніце, што кожная ўлада - гэта гвалт, - сказаў Пабота і тут жа дадаў: - Пры царах - на царскай. Пры паляках на польскай. Прыйдзе да ўлады іншы кіраўнік, зноў будзе нас адвучваць ад нашай роднай мовы, ад нашай культуры. А мы ж усе - беларусы! І праваслаўныя, і каталікі. Нашы карані тут, і нашых дзядоў, і прадзедаў. А тут жа, калі каталік - значыць паляк. Абсурд!

- Праўду сказаў чалавек, - пацвердзіў Гілатун.

- Канешне, правільна, - нехта адказаў у натоўпе.

- Правільна то правільна, але ўсяго вы не ведаеце, - сказаў Уладзік Пабока. - У дамове 1921 года меўся артыкул, па якім польскія ўла-ды бралі на сябе абавязацельствы прадастаўляцьЗаходняй Беларусі правы па развіцці нашай культуры, аднак Польшча не выканала гэтага. Яна фактычна стала на шлях каланізацыі і паланізацыі. Нават замест тэрміну "Заходняя Беларусь" выкарыстоўвала тэрмін "Усходнія крэсы".

На могілках каля капліцы зазвінела.

- Няўжо прыехаў бацюшка і будзе абедню праводзіць?

- Пазнавата ўжо.

- Але ж абедня ад слова "абед".

- Хопіць, мужчыны, мітынгаваць.

- Праўда, пазнавата ўжо.

- Маліцца ніколі не позна.

Не кожны вясковец выказаў сваё. Людзі разыходзіліся, каб зноў сустрэцца на абедні. Там яны не столькі думаць будуць пра Бога, колькі пра заўтра: пра калгас, пра Салаўкі, пра мову. Праўду сказаў Уладзік Пабока: любая ўлада - гэта гвалт.

**Ішлі паміраць**

- Гэтыя ні за што не падвезлі б, - гледзячы на калону нямецкіх аўтамашын, сказаў дзядзька Ўладзік.

- Каго не падвезлі б? - азваўся, не паварочваючы галавы, Кастусь Ванагель. Ён таксама, стоячы на прыгуменні каля Ўладзіка, сам здзіўлена глядзеў на зялёныя аўтамашыны. Яны ўжо шмат дзён ішлі, і юшаўцы добра наглядзеліся, але здзіўленне брала верх: так шмат немцаў, такая сіла. Калі гэты наступ скончыцца? Ідуць і ідуць, канца і краю не відаць.

Тады, у першыя дні вайны з Саветамі, немец кінуў на Ўсходні фронт вельмі шмат адборных дывізій. Яны спяшаліся ўсімі дарогамі Беларусі, Украіны, Літвы.

Ванагель праз паўзу перапытаў:

- Каго, кажаш, не ўзялі б?

- Ну гэтага, - адвёўшы руку, паказаў на мяне малодшы бацькаў брат і напомніў Кастусю: - Пазалетась, калі кагалам са Шмойлам вярталіся з-пад Рымашоў, - і глянуў на мяне, - яго ваенная машына траха да хаты не падвезла.

Калі калона скончылася, Уладзік смела і ціха сказаў:

- На смерць ідуць. Думаеш, у тых Саветаў менш людзей і танкаў? Адных казакоў не злічыць.

- Маўчы ты, - боязна прыпыніў яго Ванагель. - Калі яны ішлі, ты маўчаў. Баяўся. Можа, хто з іх ведае па-нашаму і наставіў бы сюды дула.

Ён глянуў на Янскую гару. Адтуль паўзла новая калона. Уладзік нервова, як сам сабе:

- Чорт ведае, у які час мы жывём! То з усходу дзьме, то з заходу.

- Жыта шкада, - забедаваў Ванагель. - Столькі пабэрсалі. Яно сама пачынае красаваць. А тут пячэ зверху. Дождж бы капнуў, ды нямашука.

- Сам сабе ты як хочаш думай, а я скажу сваё. - Уладзік паглядзеў наўкола і падняў галаву на суразмоўцаў. - Мая такая думка: не спынілі

гэтых гергетуноў пад Брэстам і Беластокам - не спыняць каля Мінска і Смаленска.

Ванагель, як не чуў, здзівіўся:

- Глянь ты, зноў трыма радамі. А Божачка!

Мне не спадабалася пра тое, што не спыняць немцаў ні каля Мінска, ні каля Смаленска. І я наважыўся перабегчы вуліцу.

- Куды ты, малы? Перад самай калонай нельга. Стрэльнуць яшчэ, - цвёрда спыніў мяне дзядзька Ўладзік.

Ішлі зноў трыма радамі. Пасярэдзіне куртатыя тоўстыя коні цягнулі доўгія трубы цвёрдых гармат. Справа спяшаліся транспарцёры. Злева рухаліся запыленыя гергетуны. На задніх садзіўся руды пыл. Усё ад тога пылу было рудое: і хаты, і жыта. Вецер не дыхаў, але ён трошкі зганяў з паўночнага захаду гэтае вялікае і густаватае рудаўё пылу, перамеленае ўздоўж цвёрдай вуліцы, перамолатае калёсамі. Гэтае рудаўё непрыкметна хілілася на нашы хаты, якія стаялі ўздоўж дарогі.

Кастусь Ванагель, патаптаўшыся, паклыпаў дадому. Пэўна, успомніў: работа чакае. Дзядзька Ўладзік тым часам ціха да мяне, каб ніхто не чуў:

- Дзе ты дзеў тую вінтоўку, якую з жыта прывалок?

Я паціснуў плечукамі і спуджана запытаў:

- Якую вінтоўку? Ні ў якое жыта не хадзіў.

Дзядзька зноў хацеў узяць на мушку хітрасці. Ён сказаў патрабавальна і цвёрда глянуў мне ў вочы.

- Ну калі салдаты ў вас снедалі.

Ён жыў праз вуліцу ад нас. Хата насупраць хаты. Ён нічога не рабіў, гадзінамі сядзеў каля стала і не спускаў вачэй, паглядаючы, што робіць старэйшы брат - мой бацька. Як шпіёнам, усё жыццё паглядаў, калі сядзеў каля стала. Бачыў, як на тым тыдні раннім ранкам заходзіла да нас двое салдат. Яны, запрыкмеціўшы на двары барадатага чалавека, папрасілі паесці. Мама якраз дастала бульбу з печы на сняданак. З гаршчка вілася нетаропкая пара. Як ім адмовіш паснедаць? Хлопцы маладыя ўцякаюць ад вайны. За мінулыя паўтара гады мы трошкі прывыклі да Саветаў. Усё-такі ў школе вучыліся на роднай мове. Праўда, на Ўсход нас не пускалі. Але бацька цішком праз былую граніцу бегаў да сваёй радні па мацеры. Тое, што прыносіў, можна было і тут набыць, можна было абысціся без таго цукру, солі, кавалка мыла. Але ўсё-такі цягнула да родных.

Дзьмухаючы на пальцы з гарачай бульбай, страсаючы ліпкія лушпіны, запівалі абодва салдаты халоднай вадой. Малака ў нас не было. Мама прыглядалася да іх, нядаўніх падлеткаў. Нават не спытала,

адкуль яны родам. На плечуках абодвух не было пагонаў. Не да чыну - уратаваць бы чупрыну.

Седзячы на ложку, глядзела на згаладалых, думала, што недзе родныя хвалююцца за гэтых хлопцаў. Зброі яны таксама не мелі.

Паснедаўшы і падзякаваўшы, накіраваліся на ўсход - на Бабоўню. Гэтая вёска знаходзілася ўжо ў Капыльскім раёне, за былой граніцай, якая падзяляла родную Беларусь на Ўсходнюю і Заходнюю.

- Не сказаў ім, каб каля дзотаў паспалі днём, - пашкадаваў бацька.

Тыя савецкія дзоты я ведаў трохі. На сенакосе старэйшыя мне паказвалі на Кудзінавічы, дзе кіламетраў за тры, ужо на савецкім баку, курэла за машынамі прасёлачная дарога. Казалі, што там бальшавікі робяць умацаванні.

Перабегшы, калі калоны прайшлі, праз гарачы пясок аж да костачак, я не захацеў заходзіць у хату, бо нікога ў той хаце не было. Бацька з малодшымі на сенаванні. Мяне пакінулі за гаспадара. Але ж які я гаспадар? Толькі адчэпнага. Нехаця глянуў на занавешаныя абы чым вокны і тут жа заспяшаўся да Колі Гурбанца. Бацька заўсёды супроць маёй дружбы з тым Колем. А мне з ім лёгка. Прываблівала прастата, шчырасць, бескарыслівасць. Гэты башавэлак, як яго называлі, вучыўся абы як.

Ён якраз у гумне перакідаў салому на ток, каб, паклаўшы на рэзгіны, занесці ў хлеў на падсціл.

- Хочаш нешта раскажу? - пахваліўся я.

- А смешнае? - зірнуў на мяне Коля.

- Смешнае - не смешнае, а пакуль немцаў не відаць, слухай.

Можа, і не ўспомніў бы я цыгана, калі б Колю не ўбачыў у гумне.

- Ну то слухай. Значыць, зайшоў цыган да аднаго чалавека, скажам да твайго бацькі.

- А чаму не да твайго? - перабіў Коля.

- У нас гумна нямашука. Не перабівай. Зайшоў наняцца малацьбітом. Гаспадар рэжа і рэжа хлеб. Цыган пытаецца: "Навошта так многа?" Гаспадар адказвае: "Нарэзана, як з'едзена". У гумне цыган запытаў: "Навошта так многа скідаеш на ток снапоў?" Гаспадар адказаў: "Скінута, як змалочана". А цыган: "Я за парогам, як дома". І пайшоў сабе.

- Глянь, зноў калона, - здзівіўся Коля.

Раптам, даехаўшы да Колявай хаты, адзін раварыст упаў з ровара, аж ровар зазвінеў. Праз момант да яго падскочыў малады афіцэр, танклявы і высокі, і пачаў крычаць, каб той тоўсты ўстаў і

ехаў далей. Пра гэта мы здагадаліся па інтанацыі і жэстах. Старэйшы апраўдваўся, што выдыхся, што абрыдла круціць педалі, што ён гатовы вось тут памерці. Малады начальнік выхапіў наган і патрос перад суайчыннікам. Раварыст аб нечым папрасіў, можа, каб трошкі адпачыць. Малодшы схаваў зброю, дапамог тоўстаму ўстаць, дзвюмя рукамі абтрос пыл з яго: маладзец нямецкі салдат! Яшчэ крыху, і - Масква.

Змарыўся чалавек, змарыліся і нямецкія коні, якія валаклі грозныя гарматы. Людзі паміралі за Гітлера. Але за што стомленыя коні здыхалі? Яны, тоўстыя з кароткімі хвастамі, падалі, як гэты салдат. Іх ногі не маглі ісці далей на ўсход. Яны на юшаўскіх паплавах выгрызалі траву аж да чорнай зямлі. Есці хацелася. Часам коні пераварочваліся праз спіну і зноў выгрызалі да чорнага. Мы, малыя, падыходзілі да тых коней, глядзелі ім у сумныя вочы, шкадавалі, што лёс так абышоўся з імі.

Пасля, гады праз чатыры, мы ўбачылі некалькіх немцаў. Пазналі іх па адзенні. Яны без зброі ўцякалі на захад. Усе, хто ішоў у тых калонах трыма радамі, загінулі. Хто пад Мінскам, хто пад Магілёвам, хто далей. Каго забілі, каго замарозілі маразы ў снезе пад Масквой.

Гэтых, што ўцякалі на захад без зброі, таксама спасцігла нядалая доля. Іх арыштавалі сельсавецкія і адправілі ў Нясвіж. Яны пасля зноў хацелі ўцячы. Так расказвала настаўніца. Але злавілі зноў і адправілі будаваць. Самі разбамбілі, самі і будуйце.

Наступанцы некалі не думалі, у галаве не было, што ідуць на ўсход паміраць сярод шырокіх славянскіх палёў...



*Раіса Нікадзімаўна Хвір нарадзілася я ў 1948 годзе ў вёсцы Панюцічы Нясвіжскага раёна Менскай вобласці. Закончыла ў Высокай Ліпе васьмігадовую школу, а сярэднюю адукацыю атрымала ў Сноўскай СШ. Працавала на Менскім гадзіннікавым заводзе, затым паступіла на завочны факультэт Белдзяржуніверсітэта, была піянерважатай у Лысіцкай СШ, пазней перайшла на работу ў рэдакцыю Нясвіжскай раённай газеты "Чырвоны сцяг". Там стаж склаў 37 гадоў.*

*Цяпер на пенсіі, але працягвае супрацоўнічаць з райгазетай. Удзельнічае ў мерапрыемствах раённага аб'яднання "Валошкі", выступае ў школах з вершамі і прозай, расказвае аб прафесіі журналіста. Спявае ў хоры ветэранаў працы "Аптымісты".*

# *Раіса Хвір*

## АФРАДЫТА

На стале ляжала турыстычная брашура "Кіпр", над якой схіліліся дзве дзявочыя галоўкі. Адна светлая, другая - рыжавата-медная.

- Светка, глядзі, - сказала рыжанькая, зеленавокая Анюта, - вось месца ўказана, дзе з вады выйшла Афрадыта, багіня прыгажосці. Ляці туды, у Ларнаку.

Святлана ўздыхнула і адказала:

- Баюся, што ў мяне не хопіць грошай на такую паездку. Я ж крэдыт толькі выплаціла за кватэру.

- Ну, пазычым у Ларысы, яна мае валюту. Праз паўгода аддасі, яна ж чалавек свой, не скнара.

- Табе лёгка гаварыць, а я не адважваюся, бо толькі выйшла з аднаго доўгу і адразу ў другі.

Аптымістычная Анюта не здавалася:

- Дык Ларыска працэнтаў з цябе не возьме, гэта ж не банк. А ты падумай, пабываць на Кіпры, пакуль маладая - гэта здорава! Ды ёсць надзея пазнаёміцца там з багатым мэнам. Ты ж у нас прыгожая, думаю, не горшая, чым тая выкапнёвая Афрадыта.

Святлана задумалася, бо Анька прачытала яе даўнюю мару паехаць на Кіпр.

Яна павярнулася да сяброўкі і сказала:

- Анька, у цябе авантурная натура, ну як можна ехаць за пазычаныя грошы?

- Божа мой, усе пазычаюць. А ты ж адпускныя атрымаеш, таму не бядуй. І, наогул, чаму ты такая сумная, Светка, хто не рызыкуе, той не п'е шампанскага. Я сама пайду да Ларысы.

Сяброўка згадзілася. Назаўтра Анюта прынесла ёй 700 еўра і сказала:

- Ларыска дала крэдыт на сем месяцаў, ну гэта ж нармальна, улічваючы твой неблагі заробак.

- Угаварыла, так і быць, паеду, пагляджу свет і набяруся рамантыкі.

Самалёт на Ларнаку вылятаў з Мінска каля 9-ці гадзін раніцы, у аэрапорце пасажыраў было багата, яны памалу рухаліся на рэгістрацыю, падсоўваючы вялікія чамаданы на калёсіках і аб'ёмістыя сумкі. Святлана глядзела на стракаты людскі натоўп і паступова ўцягвалася ў гэтую вясёлую турыстычную гаману, якая нагадвала ёй цыганскі табар цывілізаванага 21-га стагоддзя. Яе здзіўляла, што людзі ехалі з малымі дзецьмі, нягледзячы на складанасці пералёту (як думалася ёй), што ўсе былі спакойныя, па-дарожнаму засяроджаныя. Прайшоўшы пашпартны кантроль, дзяўчына села ў зале чакання і агледзелася. Будынак аэрапорта пасля сёлетняга рамонту выглядаў унушальна, сцены са шкла і бетону былі манументальна велічныя, новыя, падлога бліскучая і крыху небяспечная з-за абсалютна гладкай паверхні. Нарэшце аб'явілі пасадку і пасажыры паехалі ў аўтобусе да самалёта, вялікі "Боінг" ужо гатовы быў прыняць у сваё нутро аматараў падарожжаў. Святлана заходзіла ў салон з лёгкай апаскай, бо ляцела ўпершыню. Села на сваё крэсла і паглядзела на суседзяў: ніхто і не думаў хваляваццa, людзі зручней уладкоўваліся на сядзеннях, клапатліва аглядалі дзяцей, даставалі часопісы, перагаворваліся. Дзяўчына супакоілася і падумала: "Ну чаго баяцца, я ж не адна лячу, людзі вакол, ды і лётчыкі зацікаўлены ў спрыяльным зыходзе палёту,

у іх жа сем'і, дзеці." Яна дастала з сумачкі мятны цукерак, кінула ў рот і пачала глядзець у акно. Самалёт ужо набіраў вышыню, і дарогі ўнізе здаваліся вузенькімі палосачкамі, зялёныя насаджэнні - казачнымі месцамі жыхарства гномаў, а вадаёмы - блішчастымі стужкамі. Святлана залюбавалася пейзажам і супакоілася, але на твары засталося, мабыць, нейкае напружанне, бо пасажыр на суседнім сядзенні сказаў, звяртаючыся да яе:

- Вы не хвалюйцеся, у наш час авіяпералёт - самы бяспечны від транспарту.

Дзяўчына паглядзела на мужчыну і адказала:

- Ну, не такі ўжо і бяспечны, бываюць жа аварыі ў палёце. І разбіваюцца людзі.

- Не болей, чым на зямлі, вы паглядзіце статыстыку дарожных здарэнняў, і на раварах трапляюць пад машыны. Урэшце, можна і дома ў кухні паслізнуцца і зламаць нагу.

Дзяўчына памаўчала, крадком паглядзела на мужчыну, і нешта ёкнула ўнутры. Уразілі блакітныя вочы, цёплыя, нейкія родныя. "Што гэта я? - падумала - не хапала ў дарозе закахацца. Ён, напэўна, жанаты, вось выйдзем на Кіпры ды разыдземся ў розныя бакі. Але які прыемны мужчына…"

Сусед нібы прачытаў яе думкі і сказаў:

- Давайце знаёміцца, раз ужо мы аказаліся побач, ды па славутым востраве разам паходзім. Пашукаем тое месца, дзе Афрадыта выйшла з марской пены на бераг.

- А Вы не спяшаецеся?-астудзіла дзяўчына пыл незнаёмца. - Я Вас не ведаю, Вы - мяне.

- Хіба гэта праблема? Мяне завуць Алік, можна Аляксандр, Саша, як Вам больш падабаецца.

- Я - Святлана, можна Светка, як заве мяне сяброўка.

- Ну вось і цудоўна, - адказаў Алік-Саша, - адпачывайце. Я бачу, што Вы спаць хочаце.

Сапраўды, Святлана амаль не спала перад дарогай, таму цяпер яе цягнула ў сон. Яна з удзячнасцю паглядзела на мужчыну і заплюшчыла вочы. Прачнулася, калі сцюардэса аб'явіла:

- Паважаныя пасажыры, наш самалёт прызямляецца ў Ларнака, прыемнага вам адпачынку. Экіпаж развітваецца з вамі і жадае ўсяго найлепшага.

На кантролі ў аэрапорце зноў працягнуўся ланцужок пасажыраў, але Света не засмучалася, яна радавалася, што добра перанесла палёт, уласна кажучы, праспала, і што на цудоўным грэчаскім востраве, пра які марыла яшчэ ў інстытуце, калі вывучалі антычную літа-

ратуру.

- Вы  рады, Святлана, што апынуліся на востраве сваёй мары? - пачуўся паблізу знаёмы голас.

- Адкуль Вы ведаеце, што гэта мая мара даўняя?

- Дык у Вас на твары напісана, і ажыўленне ў вачах.

Святлана нічога не адказала, накіравалася за сумкай да багажнага  транспарцёра. Ля выхаду з аэрапорта Алік зноў падышоў да яе і спытаў:

- Вы ў якім гатэлі будзеце жыць?

- У "Сэндзі Біч", гэта на беразе мора.

- Цудоўна! Я таксама ў гэтым гатэлі. Ну, як тут не скажаш: лёс звёў нас на берагах Міжземнага мора.

Да эрапорта падыйшоў трансферны аўтобус і павёз пасажыраў у гатэль.

Шасціпавярховы будынак яго быў вытрыманы ў класічным стылі,  побач раслі  пальмы, сінеў паўкруглы басейн. Такога ж колеру парасончыкі акружалі прыгожы вадаём. Света залюбавалася гэтым вясёлым відам, перавяла пагляд на мора, зеленавата-сіняе і адчула прыліў радасці: "Божа мой! Няўжо я тут? Як слаўна! Вось Анюта маладзец, што ўгаварыла мяне паехаць." Размясціўшыся ў нумары, яна легла на шырокі ложак і ўсміхнулася .Успомніла Аліка  і падумала: "А што, закруціць раман, як сяброўка казала. Усяроўна тут часу багата, ды і ўдваіх лепш".

Алік у сваім нумары таксама думаў пра яе: "Сімпатычная, валасы такія пшанічныя, а вочы: шэрыя, з іскрынкай. Ах, якая дзяўчынка! Шкада, што я жанаты. Але адразу гаварыць не буду, паглядзім, як пойдзе."

Пасля абеду ён знайшоў Святлану і запрасіў на мора:

- Не будзем траціць часу, пайшлі лавіць цёплыя промні і салёную ваду спрабаваць. І давай пяройдзем на "ты", мы ўсё-такі суайчыннікі.

Святлана згадзілася:

- Прымаецца. Толькі пачакай, вазьму парэа, я ж забылася.

Пакуль дзяўчына была ў гатэлі, Алік падумаў: "Навошта ёй закрываць такія цудоўныя ногі ці талію? Лепш так, каб вока цешыла."

Калі Святлана выйшла, ён не сказаў нічога і яны накіраваліся на пляж. Зняўшы шлёпанцы, ступілі на гарачы пясок, дзяўчына з непрывычкі войкнула, і кароткімі перабежкамі маладыя людзі пабеглі да лежакоў.

А потым зайшлі ў ваду, халаднаватыя хвалі лёгенька пастуквалі целы, белая пена з шумам каціліся на бераг. Святлана асмелілася і

паплыла, і з вясёлым настроем крыкнула:

- Вітаю цябе, радзіма Афрадыты! Дзе ты, прыгажуня антычная? Выйдзі, пакажыся. Я цябе чакаю.

Алік засмяяўся і сказаў:

- Якая ты рамантычная, Светка. А нашто нам Афрадыта? Ты ж не горшая, а можа, і лепшая. Ну, хто там памятае, якой яна была. Калі жадаеш, між іншым, буду цябе называць Афрадытай. Выйдзі, калі ласка, з мора.

Святлана паслухмяна ўстала, какетліва ўсміхнулася і пайшла паходкай мадэлі да берага. Светлыя валасы блішчэлі на сонцы, стройнае цела было ў празрыстых кропельках вады, і Алік усклікнуў:

- Ты прыгажуня, марская фея! Усё, вырашана: будзеш маёй Афрадытай, ты выйшла з марской пены і стала багіняй.

І нагадаў радкі з верша У. Высоцкага:

- Из пены уходящего потока
На берег тихо выбралась любовь.

Дзяўчына засмяялася:

- Ды ты рамантык, можа, і вершы пішаш.

- Пакуль не, але з табой навучуся.

Дзень праляцеў, як адно імгненне. І наступныя аказаліся такімі ж цудоўнымі, напоўненымі сонцам і морам, лёгкім фліртам, які паступова ператвараўся ў нешта большае. Ва ўсякім выпадку, з боку Святланы. Яна захаплялася мужнай, спартыўнай фігурай Аліка, яго пачуццём гумару і галантнымі адносінамі да яе, Афрадыты. А чаму і не пабыць багіняй на славутым востраве? Усё да гэтага схіляла: цікавыя экскурсіі, ласкавае сонца Кіпра, новыя людзі, экзатычныя мясціны, незвычайная смачная ежа па праграме "ўсё ўключана", бесклапотнасць. У апошні дзень Святлане стала сумна, не хацелася развітвацца з райскім жыццём і вяртаннем на радзіму з яе "ўмерана кантынетальным кліматам". Так прыкладна думаў і Алік і засмучаўся, што дзяўчына не стала яму блізкай, але баючыся разбурыць яе рамантычны свет, не схіляў да інтыму. "Лепш дома, у Мінску, няхай думае пра мяне добра".

У самалёце яны разглядалі здымкі, зробленыя крутым мабільнікам мужчыны, жартавалі, пілі таматны сок, што разносілі сцюардэсы. Пасля прызямлення выйшлі на вуліцу і апынуліся сярод шумнай плыні людзей і машын.

Святлана накіравалася да аўтобуса, Алік сказаў:

- Пачакай, Светка. Ты мне вельмі спадабалася, і я хацеў бы з табой сустрэцца. Дзе і калі?

- Ну, я не ведаю. Магчыма, у суботу, я выхадная. Думаю, ля

парка Чалюскінцаў.

- Добра, давай у шэсць гадзін.

Дома Светка разабрала сумку, расклала сувеніры і пазваніла Анюце. Тая прыімчалася хутка. Распытала пра ўсё, узрадавалася навіне пра знаёмства з Алікам і сказала:

- Ну, я так і думала. А дзе ж ён працуе?

- Казаў, што ў фірме па продажы камп'ютараў і айфонаў.

- О, значыць, не бедны. А жанаты?

- Я і не пытала.

- А дарэмна. Трэба ўсё было разведаць. Калі спатканка?

- У суботу, у шэсць.

- Глядзі ж, апраніся, каб з ног зваліўся, убачыўшы такую красуню.

- Ну, ты Анька, усё перабольшваеш, метафар у цябе заўжды багата, трэба было ісці на філалагічны, а не на сумны эканамічны.

- Не скажы, сёння эканоміка займае першае месца па ўсіх параметрах, без яе ніяк. Вось хто нам шые ўборы? Фабрыкі, што адносяцца да лёгкай прамысловасці. А ўсё трэба разлічыць: дзе выгадна купіць якасную тканіну, прыдумаць прыгожы фасон, падлічыць, колькі чаго пашыць…

- О, пайшло, паехала, Анька-эканаміст выступае.

- Ну, добра, маўчу, але сукенку табе падбяром.

Дружна вырашылі, што будзе лёгкая, блакітная сукенка з прыгожай брошкай.

У суботу ля парка Алік-Саша з нецярпеннем чакаў Святлану і маліў Бога, каб жонка Тамара не прыехала з дачы. Адносіны ў іх пасля дзесяці гадоў сумеснага жыцця былі далёка не рамантычныя, больш таго, дома склалася нервовая абстаноўка з-за паталагічнай рэўнасці яго законнай палавіны.

Сустрэча са Святланай перавярнула ўсё ў душы і жыцці мужчыны, ён дзівіўся сам сабе: вядомы лавелас папаўся, ён адчуваў, што гэта дзяўчына - не чарговае захапленне, а нешта большае. "І што будзе далей? Я ж не сказаў, што жанаты. Баюся страціць маю Афрадыту. Маю…Каб жа…"

Дзяўчына прыйшла нейкая лёгкая, усмешлівая. Алік працягнуў ёй тры белыя ружы і захоплена вымавіў:

- Якая ты… Ты лепшая з усіх Афрадыт.

- Вярніся на радзіму, рамантык, ты ж не на Кіпры.

- На жаль, але ты для мяне ўсё роўна Афрадыта. Куды накіруемся, мая слаўная?

- Давай на кола агляднае, хачу палёту.

- Ну што ж, ляцім.

Круцілася кола, вецер трапаў валасы Святланы, яна весела смяялася, Саша таксама быў у добрым настроі. Паглядзелі наваколле з вышыні і спусціліся на грэшную зямлю. Мужчына прапанаваў зайсці ў кафэ, выпілі кавы з булачкамі, пажартавалі на розныя тэмы. Саша хацеў сказаць пра спатканне на адной з кватэр, але ніяк не рашаўся. Штосьці яго спыняла: ці вялікае пачуццё да дзяўчыны, ці боязь пакрыўдзіць яе. А потым набраў паветра і прамовіў:

- Светка, я хацеў бы з табой паехаць на кватэру, там мы будзем адны, пасядзім, пагаворым, вып'ем шампанскага…

Святлана задумалася, затым згадзілася, ёй таксама хацелася пабыць з Сашам. Апошні прывёз яе да свайго сябра, які быў у ад'ездзе. Выпілі па келіху шампанскага, у дзяўчыны закружылася галава. А Саша падыйшоў да яе, абняў і прытуліў да сябе:

- Афрадыта, я хачу, каб ты была маёй, і толькі маёй, я кахаю цябе і ніколі не пакіну.

Дзяўчына не адхілялася, ёй было прыемна і трывожна ў дужых руках каханага мужчыны. Так, каханага, яна вымушана была прызнацца сабе ў гэтым. Лёгкі туман ахінуў яе і салодкая млявасць разлілася па целе. Яна толькі і здолела прашаптаць:

- Мілы…

Дома Святлана доўга не магла супакоіцца, хваляванне і адчуванне радасці не пакідала яе. Так пачаўся курортны раман, раней яна скептычна ставілася да такіх банальных гісторый, а цяпер нават не думала так. Ёй было добра з Сашам, яна бачыла і чула толькі яго, вакол не існавала ні мужчын, ні людзей увогуле. Маці заўважыла незвычайны стан дачкі і спытала:

- Што з табой, Светка? Ці не закахалася ты?

- Мама, я думаю, горш, проста жыць не магу без яго.

- Ну што ж, - усміхнулася маці. - На тое і маладосць. А ці ж добры хлопец?

- Лепшага няма.

- Ну, хай Бог дасць вам шчасця.

На адным са спатканняў Саша прызнаўся, што жанаты. Дзяўчына адрэагавала спакойна, але папракнула, чаму не сказаў раней.

- Я баяўся страціць цябе. Да таго ж, у нас з жонкай ужо даўно сапсаваліся адносіны, і не ты ў гэтым вінаватая. Стрымлівае мяне сын, яму восем гадоў, а так бы развёўся даўно.

Святлана стаяла задумлівая, сур'ёзная, яна не ведала, што рабіць у такой сітуацыі. І Сашу не хацела адправіць назаўсёды, і шкада было невядомага хлопчыка, што можа застацца без бацькі. Мужчына

спытаў:

- Ну, што ты рашыла?

- Пакуль нічога, мне трэба падумаць.

Разышліся яны сумныя, кожны пры сваіх думках.

Дома Святлана ўспомніла даўно прачытанае:

*Нам з табою лепш бы размінуцца,*
*Міма праляцець на паўкрыла,*
*Толькі я малюся той мінуце,*
*Што з табой на момант нас звяла…*

У наступны раз Саша прывёз з сабой сына Генку, жадаючы пазнаёміць яго са Святланай, каб паступова прывык. Але хлопчык адрэагаваў рэзка:

- Ты навошта мяна знаёміш з гэтай цёцяй? У мяне ёсць мама, і яна заўсёды будзе адна. А ты прыцягнуў нейкую шалаву і думаеш, што я буду з ёю сябраваць. Яшчэ чаго!

Бацька анямеў ад такога нахабства, а потым размахнуўся і моцна ўдарыў сына. Хлопчык адляцеў убок, падняўся і крыкнуў:

- Ты мне не патрэбен! Жыві са сваёй сцервай!

А потым нечакана пабег на праезджую частку дарогі, дзе шумела плынь машын. Саша застыў на месцы, а Святлана кінулася за хлопчыкам, у апошнюю хвіліну адпіхнула яго ад сіняга "Опеля" і ўпала прама пад колы…

З машыны выскачыў збялелы кіроўца, Саша падбег да Святланы, паклікаў яе, але вочы дзяўчыны ўжо глядзелі нерухома ў высокі блакіт…

Рыдаючы, мужчына абняў яе і прашаптаў:

- Афрадыта, сонца маё, як хутка ты закацілася…

## ВОЧЫ МАЦІ

*Светлай памяці маёй мамы*
*Лукер'і Іосіфаўны Хвір*
*прысвячаецца.*

Валасы жанчыны былі белыя, як вішнёвы цвет, што ўсыпаў шырокі двор.

Яна сядзела на лавачцы і сумна глядзела на руплівых пчолак, а яны гулі каля дрэўца, дружна збіралі жоўценькую пыльцу. Зялёная трава блішчэла аксамітам, пад вокнамі хаты раслі пяшчотныя нарцы-

сы, сядзелі яе любімыя жоўтыя кветкі. "Як хораша на свеце!"-падумала жанчына і ўздыхнула. Толькі не ўсё хораша ў жыцці, такім складаным, непрадказальным. А пачыналася цікава і весела …

У сям'і Смолкаў было сямёра дзяцей: чатыры дзяўчыны і тры хлопцы. Усе прыгожыя, блакітнавокія, як маці, ціхая і працавітая Алена. Яна навучыла дачок прасці, шыць і вышываць. Хаця малодшая, Маня, не вельмі хілілася да прасніцы ці варштата. Яна любіла танцы, вясёлыя пералівы гармоніка, шумныя кампаніі. Сярэдняя дачка, Вера, была, наадварот, працавітай, добрай і клапатлівай. І калі трэба было ісці "ў двор" пана Гартынга жаць збажыну, то яна ніколі не адмаўлялася. Збіраліся суседскія дзяўчаты, Зіна і Гэля, і ўтраіх ішлі ў Сноў. Ім падабаліся фантаны ў двары панскага дома, высокія дрэвы на роўных алеях, невядомыя кветкі з шырокімі пялёсткамі. Дасведчаныя людзі казалі, што прывезена гэта хараство з Польшчы, і пані заўсёды любіць незвычайнае.

На шырокай паласе жыта дзяўчаты займалі пэўныя ўчасткі, павязаўшы перад тым на галовы белыя хусцінкі, бралі ў рукі вострыя сярпы і работа кіпела. У поўдзень прыязджаў аканом і прывозіў абед. Усе садзіліся ў кружок і дружна чэрпалі з чыгуна смачны суп, потым было мяса, за ім - кіслае малако. Адпачывалі хвілін пятнаццаць і зноў жалі. Вечарам той жа аканом прывозіў злотыя за работу, запрашаў ахвотных на заўтрашняе жніво. Дзяўчаты згаджаліся, з вясёлым гоманам ішлі дадому. Такі спосаб зарабіць грошы ў вёсцы лічыўся нармальнай з'явай. Ды і якой дзяўчыне не хацелася мець новую спадніцу ці блюзку, купленую за свае грошы. А дома працавалі на ўласнай гаспадарцы, у якой былі коні і каровы, свінні ды авечкі. Работа ішла дружна, затое ў доме быў прыстойны дастатак. Як павырасталі дочкі, павыходзілі замуж, хто куды. Вера была сімпатычнай дзяўчынай, і хлопцы не абыходзілі яе ўвагай. А Сцяпан, аднавясковец, прапаноўваў руку і сэрца з умовай, што паедуць яны разам у Бразілію. Тады, перад вайной, многія беларусы ў пошуках лепшай долі выязджалі за мяжу. Але Вера не рашылася на такое далёкае падарожжа, яна не магла пакінуць бацькоў ды сясцёр. І хлопец паехаў адзін, а Вера выйшла за свайго хлопца, у іхняй вёсцы. Жыццё аказалася не такім, як уяўлялася дзяўчыне, але хіба нашы мары атаясамліваюцца з рэальнасцю? Такое бывае рэдка.

І ўсё ж трэба жыць, працаваць, гадаваць дзяцей, якія нараджаліся адно за другім. Але маленькі Іванка захварэў і памёр у двухгадовым узросце, медыцына да вайны была бяссільнай супраць многіх хвароб. Вера пагаравала, паплакала, а жыць далей трэба. Праз колькі часу нарадзілася дзяўчынка, і зноў невядомая зараза скасіла

маленькую. Веры не хацелася жыць, але пачалася вайна і за агульным горам сваё неяк прыціхла, але не забылася. Ратунак быў у працы, якой у вёсцы заўжды было многа. Да таго ж, трэба было наведваць старога бацьку (маці Веры памерла рана), зварыць яму, памыць. Калі ў сям'і нарадзілася дзяўчынка, Вера баялася за яе, дрыжала над дзіцем. Цяжкі лёс зноў падкінуў ёй выпрабаванне: дачка захварэла на залатуху, ёй пачало зацягваць вочкі. Няшчасная маці не ведала, што рабіць. Пачула ад людзей, што ў Вялікай Ліпе ёсць добры стары доктар, які ўмее лячыць тую хваробу. І панесла сваю трохгадовую Волечку на руках за пяць кіламетраў. Урач толькі галавой пахітаў і дакорліва сказаў:

- Не шкадуеш ты сябе, кабета, хіба ж можна такое дзіця на руках пяць вёрст несці…

- Дык дзіця ж слепне, доктар!

Вопытны лекар паглядзеў дзіця, падумаў, потым напісаў рэцэпт лякарства і сказаў рэгулярна змазваць ім вочы дзіцяці. Заплаканая маці дзякавала старому доктару і пайшла дадому. Волечка паправілася і Вера павесялела, ажыла. А тут вярнуўся з фронту гаспадар сям'і, закончылася вайна, і жыццё пайшло па новай каляіне. Праз год з'явілася яшчэ адна дачушка, праз два - яшчэ. Тры дзяўчынкі-кветачкі, маміны любіміцы. Але малодшая аказалася слабенькай, хваравітай. Калі яе зваліў адзёр, з Ліпы прыехаў малады доктар і спытаў, чым лячылі. Маці назвала лекі, а потым прызналася, што хворая ўсё расол прасіла. Доктар змрочна пажартаваў:

- Ну, далі б яшчэ раз расолу, то можна і дошкі рыхтаваць.

Вера залілася слязамі, а ўрач супакоіў:

- Ну, досыць, ужо цяпер усё будзе добра, вылечым. Толькі ізалюйце яе ад сясцёр, адзёр заразны.

Паправілася Танька, падрасла, а потым зноў насланнё: шкарлятына падкінулася. Ды такая цяжкая, што і дактары не давалі надзеі на вылечванне.

Вера плакала, стаяла вечарамі перад абразом, малілася, прасіла Бога не забіраць дачушку: " Госпадзі, за што ж мне такое? Чаму мае дзеткі ўсё хварэюць? Дапамажы нам, даруй мяне, калі саграшыла ў чым, пакарай мяне, а не дзіця маё. Яно ж бязгрэшнае, маленькае, будзь літасцівым, Божа."

Ці то гарачыя просьбы маці, яе малітвы, ці здольнасць арганізма дзяўчынкі супраціўляцца вярнулі яе да жыцця. Кволая, маленькая і аслабленая, яна ляжала ўжо дома на ложку ціхмяная, маўклівая. Вера давала ёй рыбін тлушч, а Танька не хацела піць тую гадасць, як яна называла. Маці стаяла і ўпрошвала, і колькі лыжачак удавалася ўліць

у непаслухмяны рот. Калі дзіця паправілася, Вера пайшла ў царкву і паставіла свечку, горача дзякуючы Богу за тое, што не дапусціў гора.

Ішлі гады, раслі дзеці, а потым выйшлі замуж. Радасць ад першых унукаў, перажыванне ўжо за іх. Дапамагалі старэйшай дачцэ, глядзелі яе хлопчыкаў.

Аднойчы большы хлопчык неяк выйшаў з-пад кантролю бабулі ў прамым сэнсе і накіраваўся самастойна ў магазін. А Вера пра гэта не ведала, бегала, шукала ля дому, сэрца калацілася ад хвалявання, слёзы набягалі на вочы, у галаве пракручваліся жудасныя карціны. Але ўсё закончылася добра: на двор верынай хаты зайшла Надзя, жанчына з другога канца вёскі і прынесла на руках непаслухмянага ўнука.

Праз некалькі гадоў захварэла ўнучка, дзіця сярэдняй дачкі. Ляжала ў Нясвіжы, а паправунку не было. Занепакоеная бабуля паехала ў горад, настаяла, каб Ленку выпісалі і забрала да сябе. Лячыла, чым ведала, а ўсё-такі паставіла дзіця на ногі.

Вялікі мацярынскі подзвіг, бязмежная любоў неаднаразова дапамагалі ў складаных жыцёвых сітуацыях дзяцей Веры. Калі старэйшаму сыну малодшай дачкі была патрэбна аперацыя ў Мінску, Вера, ужо маючы пажылы ўзрост, паехала з ім у бальніцу. А дачка саджала ў вёсцы агарод, паралельна вучыла навуковы камунізм, пераддыпломны экзамен у БДУ.

Пасля аперацыі хлопчык плакаў, яго трэба было насіць на руках, і жанчыне даводзілася нялёгка, потым яе змяніла дачка. Яна была ўдзячная маці за дапамогу. А праз колькі дзён у бальніцу прыехала Вера. Таня спытала:

- Мама, чаго ты ехала? Хай бы адпачывала, я ж тут сама.

Маці адказала:

- А я дома ўсё думаю, як там Ванюша? Не вытрымала, ды прыехала.

У дачкі выступілі слёзы на вачах, і не знайшлося слоў ад хвалявання.

Яна падумала: "Якая ў мяне мама, такіх мала…"

Хто, як не маці, адчувае, калі дзецям цяжка, калі ім трэба дапамога.

Тая нябачная пупавіна злучае яе з дзецьмі да канца жыцця, без іх ёй не спіцца, не адпачываецца. А думкі заўсёды з імі, ды ўнукамі. Хто, як не маці, спытае, ці цёплыя ў цябе калготкі, ці ёсць грошы?

Памятае Таня, калі ў яе быў маленькім другі сын, мама нечакана прыехала да яе і прывезла зімовыя боты, новыя, цёплыя.

Дачка сказала здзіўлена:

- Мама ,  як ты здагадалася, што мне трэба боты? Дзякуй табе, але ты ж клапацілася, ехала. Я купіла б сама…

- Калі табе з дзецьмі, ды яшчэ з такім пустым мужыком.

А пазней, калі Віця падрос, бабуля ўсё купляла яго любімыя піражныя "бульба". І наказвала Тані:

- Ты ж купляй яму "картофельку", ён любіць."

Маміна падтрымка… Яе заўсёды адчувалі дзеці, і маральную, і матэрыяльную. Калі малодшая дачка разводзілася з мужам (не склалася жыццё з тым, хто прамяняў сям'ю на гарэлку), мама сказала: "Нічога, дачушка, пражывём, мы з бацькам дапаможам, як трэба будзе. А з такім жыць не варта, нічога добрага не дачакаешся." І дапамагалі: калі дачка атрымала кватэру, бацькі купілі дыван, "каб Віцька не гуляў на халоднай падлозе", а дзед даў грошай на гадзіннік старэйшаму ўнуку, бо ў аднакласнікаў ва ўсіх ужо былі наручныя гадзіннікі.

Хоць самой нялёгка жылося, маці не падала духам, а ў крытычных сітуацыях дзяцей заўсёды іх падбадзёрвала: "Вось чулі песню? Не надо печалиться, вся жизнь впереди…" І нам станавілася лягчэй, бо адчувалі, што мама заўсёды з намі. Кожны вечар яна малілася за сваіх дзяцей і ўнукаў, хацела бачыць іх здаровымі і шчаслівымі. Больш нічога не жадала, нават пра сябе іншы раз забывала. Яна вельмі любіла марш "Развітанне славянкі" і казала: "Як чую гэтую музыку, чамусьці плакаць хочацца, так хораша."

Цяжкая праца за жыццё, два інсульты падарвалі здароўе, апошнія два тыдні яна не ўставала і цяжка гаварыла.

Перад смерцю Вера загадала малодшай дачцы, каб купіла ёй насоўку і хустку "туды" і паказала ёй. Дачка выканала, маці паглядзела і адобрыла. А яшчэ папрасіла, каб на пахаванні іграла духавая музыка. Дзеці так і зрабілі.

І калі паліліся жалобныя гукі труб, на душы ў малодшай дачкі стала лягчэй, неяк светла, на двары свяціла сонца, і трымаўся марозік. Цудоўны дзень, як наша мама была. Не была, а ёсць, заўсёды будзе ў памяці, як самае дарагое, што бывае на свеце. Дзякуй табе, мама, за ўсё: за вочы твае ласкавыя, блакітныя, як неба, добрыя, як душа твая чыстая, бессмяротная. Даруй, калі пакрыўдзілі неасцярожным словам…

## ДАЗВОЛ НА ШЛЮБ

Казімір Лазоўскі хадзіў па лесе, любаваўся прыродай, нешта запісваў у блакнот. А то раптам хмурыўся, спыняўся і загадкава ўсміхаўся. Старонні назіральнік мог бы падзівіцца такім пераменам

твару мужчыны. Але ўсё тлумачылася проста: ён быў закаханы і меў надзею на ўзаемнасць. Ну як можна быць абыякавым да слаўкаўскай прыгажуні Разаліі Астрэйкі, бацька якой меў свой герб з выявай Вострай брамы. Да яе сваталіся многія важныя, на брычках, у лісіных футрах, жаніхі, але ўсё марна. Дасведчаныя людзі казалі, што спаборцамі рукі знакамітай паненкі былі 80(!) сватоў, і ўсім дала ад варот паварот. А калі да панскага дому пад'ехаў на кані радзівілаўскі служка, статны, прыгожы, высокі - сэрца Разаліі затрапятала.

Казімір адразу спадабаўся ёй. Але, каб не выдаць сябе, хітрая паненка абыякава спытала:

- А чаго ж гэта пане экспедытар да нас заблукаў?

- Ды вось, людзі кажуць, - сароме ючыся, прамовіў Лазоўскі, - прыгажуня тут на выданні ёсць.

- Можа быць, можа быць, - праспявала Разалія. - Але яе трэба заслужыць.

- А чым жа? - пацікавіўся хлопец.

- Ну, абыходжаннем перш, розумам, сілай, - адказала паненка.

- Для гжэчнай паненкі на ўсё гатовы. Цалую вашы ручкі, яснавяльможная. Прашу дазволу выслухаць мяне.

І палілася лёгкая, дасціпная гутарка, з фліртам і смешкамі, з выразным паглядам гарачых вачэй. Узрушаныя маладыя людзі дамовіліся пра новае спатканне. Як на крылах ляцеў на сваім кані Казік дамоў, сэрца рвалася з грудзей. Паімчаліся радасна-трывожныя дні спатканняў, каханне лунала над імі залатымі павуцінкамі шчасця, лёгкі туман быў у галаве. А калі Разалія дала згоду стаць жонкай Казіміра, ён не помніў сябе ад шчасця, цалаваў каня, абдымаў дрэвы, зарываўся ў траву, смяяўся.

Але гарачы парыў закаханага астудзіла вестка аб тым, што без дазволу князя Антонія Вільгельма Радзівіла (гэта быў 1899 год) ксёндз Фарнага касцёла не дасць маладым шлюбу. І па гэты дазвол трэба было ісці ў замак. Хаця, як службовец магната, К. Лазоўскі бываў там, але на гэты раз ён пабойваўся. Непаслухмянымі нагамі падыйшоў да моста, ля якога ахоўнік спытаў:

- Хто ты і да каго ідзеш?

- Экспедытар Лазоўскі, іду да князя.

Па нейкай, невядомай для староннягa чалавека сувязі, ахоўнік перадаў гэта князю Антонію. Той загадаў апусціць мост і ўпусціць госця. Ён увайшоў і адразу атрымаў выпрабаванне ад ягамосці:

- Вось мае ручныя мядзведзі. Здолееш пазмагацца - атрымаеш дазвол на шлюб. Ну, калі не…. Сам вінаваты.

Лазоўскі ведаў пра такія княжацкія забавы, і сілу меў незвы-

чайную, і ўсё ж страшнавата стала. Але выхаду не было: дазвол на шлюб быў патрэбен. Сабраўшыся з духам і сіламі, Казімір падыйшоў да рыжага, калматага звера.

Той стаў на задні лапы, пачаў свідраваць сваімі маленькімі вочкамі чалавека.

Калі Лазоўскі наблізіўся, мядзведзь зароў, але Казімір хутка абхапіў яго дужымі рукамі і пачаў хіліць долу. Князь паціраў рукі і любаваўся двубоем, раз-пораз кідаючы "дапаможныя" слоўцы:

- Ну, давай, Казік! Куды? О, пся крэў, асцярожна! Холера ясна!

Барацьба чалавека і мядзведзя цягнулася некалькі хвілін, за якія Лазоўскі праліў сем патоў і быў на волас ад смерці. Але ў канцы сабраў усе сілы і паваліў звера на падлогу. Зняможаны, адышоў убок, а вясёлы князь паднёс яму келіх добрага віна.

- Ну ты і асілак! Люблю такіх служак. Што ж, даю табе дазвол на шлюб. І зайздрошчу, бо нявеста твая вельмі гжэчная, з добрага роду.

Падзякаваў Лазоўскі і пайшоў да ксендза. Так і ажаніўся са сваёй Разаліяй, павёз яе на родную Уздзеншчыну. Выгадавалі траіх дзяўчат, усе ладныя, прыгожыя. У 1944 годзе, аб'ехаўшы паўсвету, К.П. Лазоўскі, як і абяцаў, прывёз сям'ю ў Нясвіж. Тут жыве ўнучка Казіміра-асілка, якая і расказала гэту цікавую гісторыю.

## ЖЫЦЦЁ ЯК СОН

Як кружылася галава ад водару бэзу, што пышна цвіў ля хаты! Алёна не магла адысці ад пахучага куста, а побач стаяў каханы і пяшчотна абдымаў яе за плечы. Маладая пара забылася на час, ім здавалася, што яго так многа будзе наперадзе. Сустрэчы, ласкавыя словы, гарачыня пачуццяў…

Хто не быў у тым шчаслівым тумане? Бадай , усе, каму каханне падарыла радасць жыцця. Алёна адчувала сябе лёгкай пушынкай, якая ляціць на белым воблаку і якой так не хочацца на зямлю. Кожнай раніцай яна прачыналася з думкай пра яго, свайго Толіка, і днём марыла пра вечар, на рабоце беспрычынна ўсміхалася. Дзяўчаты-калегі жартавалі:

- Ну, зноў наша Ленка недзе далёка. Дзяўчына, вярніся на працу!

А яна шчаслівa ўсміхалася і пачынала гартаць зводкі.

Аднойчы Алёна прыйшла на работу і адчула, што нешта не тое вакол. І не памылілася: да яе падыйшла Таня і сказала:

- Прабач, Алёнка, але я чула што Толік ездзіць да другой дзяў-

чыны. Мне казалі, яна багатых бацькоў, прыгожая…

Алёна здранцвела, рукі сталі нібы чужыя, не слухаліся. Памаўчала, а потым сказала:

- Можа, гэта няпраўда, ён жа мяне кахае.

Таня адказала:

- Ну, не ведаю, але, як кажуць, дыму без агню не бывае.

Ледзь даседзела Алёна да канца рабочага дня, бо ўнутры ўсё гарэла, а сэрца не хацела верыць у здраду. Да таго ж, яна чакала дзіця. Такога не можа быць, каб Толік адрокся ад сваёй крывіначкі. Вечарам яна чакала хлопца ля іх месца, але той не прыйшоў. Дзяўчына не ведала, што і думаць. А потым з горыччу сказала сабе: "Значыць, праўду людзі кажуць. Ну што ж… Але чаму не сказаць прама ў вочы, а так подла знікнуць." Алёна пайшла па алеі, дзе раслі каштаны. Яны саспелі ў зялёнай шкарлупіне, а тая трэскалася і карычневыя, гладка адпаліраваныя плады падалі на зямлю. Алёна глядзела на іх і думала: "Вось так і маё каханне разбілася, упала… Але каштаны можна падняць, а вярнуць Толю ўжо нельга."

Дзяўчына рашыла нічога нікому не гаварыць і сваё гора адной гараваць. Толік прыслаў ёй пісьмо, у якім прасіў прабачэння і прызнаўся, што будзе жаніцца з другой.

Алёна змірылася з лёсам і пачала жыць далей. Яна ведала, што падабаецца Віктару, настаўніку адной са школ райцэнтра, але раней была захоплена Толікам, а цяпер ёй нікога не хацелася бачыць. Яна расцвіла і ажыла толькі з нараджэннем сыночка, гэтая маленькая істота перавярнула душу, напоўніла радасцю і сэнсам яе жыццё. Маці Лены не папракала дачку, яна дапамагала купаць хлопчыка, песціла, радавалася ўнуку. А як свяціліся вочы ў маладой мамы, калі сынок Юрка пачаў хадзіць, а потым гаварыць! Калі ён падрос крыху, Лена аддала сынка ў дзіцячы сад. Клопатаў прыбавілася, але зноў выручала маці, якая любіла ўнука і шкадавала дачку.

Аднойчы ля варот завода, дзе працавала Лена, яе сустрэў Віктар. Дзяўчына не здзівілася, але ўсё ж спытала:

- Віця, што здарылася?

- Ну чаму здарылася? Я хацеў цябе ўбачыць, пагаварыць, давай сустрэнемся вечарам ля возера.

Лена памаўчала, а потым сказала:

- Віця, ты харошы хлопец, і можаш знайсці сабе дзяўчыну. А я ўжо другога сорту, ды і сынок у мяне.

- Ты - лепшая за ўсіх! - горача запярэчыў Віктар. - Ты ж ведаеш, я цябе да арміі любіў, але ты не глядзела ў мой бок… Я прысвяціў табе некалькі вершаў, але саромеўся паказаць.

Лена не ведала, што сказаць хлопцу. На самай справе, ёй увогуле падабаўся гэты сціплы юнак, ён не захапляўся гарэлкай, як іншыя, не курыў, заўжды акуратна апрануты, сімпатычны. Але ўявіць сябе побач з ім не магла, яна думала, што Віктару не пара з дзіцём.

- Дык што? - спытаў ён, - прыйдзеш?

Яна павагалася і ўздыхнуўшы, згадзілася.

Дома расказала маці, тая адразу выказала сваю думку:

- І думаць няма чаго, ідзі, можа гэта твой лёс. Праўда, ён крыху занудны, бо прынцыповы, але затое не падмане і будзеце жыць.

На спатканне Віктар прынёс ружы, яркія, прыгожыя. Лена засаромелася, падзякавала і сказала:

- Як ты здагадаўся, што я люблю ружы?

- Ты сама як ружа, прыгажуня мая. Леначка, я прашу цябе стаць маёй жонкай. Юрка будзе маім сынам, не сумнявайся, я люблю вас абоіх.

Уражаная такой хуткасцю прызнання і прапановы, дзяўчына маўчала. Потым прамовіла:

- Я падумаю.

Маці яе такой навіне ўзрадавалася і сказала:

- Вось і добра, будзем рыхтавацца да вяселля.

Калі маладыя ехалі да ЗАГСа, кружыла белая завея, сняжынкі нібы танцавалі вясельны вальс. Пасля рэгістрацыі Віктар нёс на руках сваю жонку, яго перапаўняла шчасце, жаданне збылося. У Лены кружылася галава, ёй было хараша і лёгка. Жыць яны пачалі ў кватэры Віктара, набылі новую мэблю, а потым пабудавалі дачу. Там працаваў у асноўным муж, а калі жонка імкнулася дапамагаць, ён гаварыў:

- Ты ў мяне не для работы, ты - маё ўпрыгожанне. Твае пальчыкі павінны быць далікатныя і чыстыя, я сам зраблю, а ты пагуляй з Юркам, кветкі паглядзіце.

Прыйшоў час, і Алена нарадзіла сына, Віктар быў на сёмым небе, абсыпаў жонку ружамі, прынёс самых смачных цукерак. Яна смяялася і думала: "Няўжо можна быць такой шчаслівай? Мілы мой, слаўны муж, радасць мая…"

Лена жыла нібы ў шчаслівым сне, радавалася кожнаму дню, птушкам, аблачынкам, ветрыку. Па небе плылі бела-шэрыя воблакі, пышныя, па краях нязроўныя, нібы непрычэсаныя. Так здавалася Алёне і яна думала: "Сесці б на гэты пушысты "самалёт" і паляцець высока-высока…"

Падрастаў Вовачка, цешыліся бацькі, Віктар як заўжды, узяў на сябе клопаты пра маленькага, аберагаў Лену ад цяжкасцей, песціў. Але не ўбярог…

Аднойчы яна прыйшла з работы і адразу лягла на канапу. Мужа яшчэ не было, яна адчула сябе дрэнна і не магла зразумець, чаму. Прыйшоў са школы Юрка, паглядзеў, што мама ляжыць і сам пайшоў разаграваць ежу. Лена памкнулася ўстаць і выйсці на кухню, але пахіснулася і ўпала.

- Мама, што з табой? - спалохана закрычаў Юрка, - я пазваню ў "хуткую".

- Не трэба, сынок, зараз пройдзе, - спыніла Лена сына.

Ён стаяў каля яе і не ведаў, што рабіць. Тут прыйшоў Віктар, і Юрка далажыў яму ўсё. Той кінуўся да жонкі і катэгарычна заявіў:

- Леначка, я выклікаю "хуткую", не хачу рызыкаваць табой. Трэба ў бальніцу, праверыцца, каб быць упэўненым, што ўсё добра.

Медыкі забралі Лену, пачалося абследаванне і выявілася анкалогія, страўнік быў пашкоджаны поўнасцю… Лекары канстатавалі чацвёртую стадыю.

Віктар плакаў дома, каб жонка не бачыла яго слёз, маліўся перад абразом, прасіў Бога не забіраць яго Алёнку, яго шчасце. Хадзіў у баль-ніцу, прыносіў яе любімыя ружы, мыў жонку, расчэсваў яе цёмныя валасы, якія ад "хіміі" былі ўжо рэдкія і гаварыў, гаварыў… Ён хацеў, каб Лена не думала пра хваробу, чытаў цікавыя гісторыі. І толькі, калі бачыў, што яна стамлялася, змаўкаў і гладзіў яе валасы, з цяжкасцю стрымліваючы слёзы, якія прасіліся з вачэй. Лена, калі ёй станавілася крыху лягчэй, абдымала мужа слабой рукой і казала:

- Віцечка, я такая шчаслівая была з табой, дзякуй табе, мілы. Я хачу, калі мяне не стане, каб ты знайшоў сабе добрую жанчыну і ажаніўся, каб не пакутаваў доўга.

Віктар з запалам спыняў жонку і запэўніваў, што не жэніцца больш ніколі, а яна будзе жыць.

Лена трымалася мужна, праз сілу ўсміхалася, старалася не паказваць, як ёй балюча. Алёне зрабілі аперацыю, і яна пражыла яшчэ год і дзякавала Богу за тое, што бачыла дзетак, поўныя любові вочы мужа, сваю маці, белы свет.

Яна пайшла з жыцця ясным восеньскім днём, калі на дрэвах барвовым полымем гарэла лісце, і жоўтыя клёны ўсыпалі ім двор. Віктар ужо не мог плакаць, ён неадрыўна глядзеў на любы твар і не верыў, што развітваецца з каханай назаўсёды. Іграў духавы аркестр жалобную мелодыю, было шмат кветак і людзей, а ён не бачыў нікога, толькі прыціскаў да сябе сыноў і машынальна крочыў за труной…

Кожны дзень ездзіў на магілу, прыбіраў яе, ставіў у вялікія вазы ружы і расказваў Лене, як прайшоў дзень, навіны пра сыноў. Боль страты крыху прытупіўся, але сэрца яшчэ балела і не жадала змірыцца.

Віктар сам зрабіў праект помніка на магілу жонкі, прыгожы мармур з партрэтам каханай.

Аднойчы яму прысніўся сон, у якім Лена сказала, каб ажаніўся на бяздзетнай жанчыне, якая даглядала б і любіла іх сыноў. Ён доўга не мог прыйсці да сябе: "Як так можа быць? Мая мілая і там пра нас клапоціцца, думае. Божа мой, што ж мне рабіць?"

Праз два месяцы Віктар пазнаёміўся з жанчынай, якая не магла мець дзяцей. Надзея, так звалі гэту сціплую, мілую кабету, спадабалася яму. Што цікава: нарадзіліся яны ў адзін дзень, 13 студзеня. І гэтая дата, насуперак забабонам, аказалася для іх шчаслівай. Пажаніліся ціха, на вяселлі былі толькі самыя блізкія. Надзя не здымала партрэтаў Лены са сцен, не выкідвала яе адзення, бачыла, як Віктар беражэ памяць пра першую жонку. Ён ацаніў такую далікатнасць, у душы радаваўся, што не памыліўся з другім шлюбам.

Жылі яны дружна, Віктар шанаваў жонку, бо разумеў, што толькі ўзаемнае пачуццё і павага трымаюць сям'ю. У доме заўсёды былі кветкі, і каля дома яны раслі, як жыццесцвярджальныя яркія промні. А жыццё, як і сон, markdown рознае і непрадказальнае.

## ЗАВОБЛАЧНЫ ПАЛЁТ

У адным горадзе жыла дзяўчына, маладая, прыгожая, як веснавая кветка.

Колькі было радасці на выпускным вечары: школьны развітальны вальс, наперадзе самастойная дарога ў светлую будучыню, мары, каханне. Так і было адразу, бо Ната падабалася аднаму добраму хлопцу і адказвала яму ўзаемнасцю. Але яна разам з тым сурёзна рыхтавалася да паступлення на факультэт міжнародных адносін Белдзяржуніверсітэта. Залаты медаль і мэтанакіраванасць садзейнічалі ажыццяўленню мары. І вось дзяўчына ўжо студэнтка, радасць перапаўняе сэрца: яна будзе дыпламатам, пра што марыла даўно. Вучылася старанна, не прапускала заняткаў, ёй было ўсё цікава. Выдатна здала зімовую сесію і паехала да бацькоў. Тыя парадаваліся за дачушку.

І ўсё было б добра, калі б не выпадак… Ната пазнаёмілася ў сталіцы з цікавым маладым чалавекам, які быў начытаны, па модзе апрануты, сучасны ва ўсіх адносінах. Ён узяў над дзяўчынай своеасаблівае шэфства, пазнаёміў са сваімі сябрамі, якія заўсёды былі вясёлыя і бесклапотныя, ахвотна ішлі на кантакт. Ната ж аказалася крыху скаванай, сціплай. Аднойчы яе знаёмы,Фелікс, сказаў дзяўчыне:

- Паслухай, Натка, пара табе больш прывыкаць да сталічнага

жыцця, да розных навінак. Вось бачыш, якія ў нас хлопцы прасунутыя, а ты? Хочаш быць як мы?

Дзяўчына павагалася і спытала:

- А што ты маеш на ўвазе?

- Ёсць такая вясёлая траўка, ад якой нібы лятаеш на воблаках, эйфарыя яшчэ тая…

- А гэта не шкодна? - засумнявалася Ната.

- Што ты! У нас паўкурса гэтым забаўляецца, і нічога. Давай, станавіся абсалютнай мінчанкай. Заўтра прыходзь да мяне на кватэру, я прадэманструю табе гэты цудоўны маладзёжны сродак.

Вечарам дзяўчына думала над прапановай Фелікса і доўга вагалася, але цікаўнасць узяла верх, і назаўтра яна была ў гасцях. Спачатку хлопец пачаставаў яе чаем з пячэннем, потым прапанаваў:

- А цяпер давай расслабімся, атрымаем кайф. Бяры вось гэту цыгарэтку і памаленьку цягні. Смялей, тут нічога страшнага, варта толькі паспрабаваць, а там пойдзе як па масле.

Ната ўцягнула ў сябе тую курыльную сумесь, адчула лёгкае галавакружэнне і сказала:

- Мне чамусьці нядобра, не трэба…

Хлопец падбадзёрыў:

- Ну, першы раз усім цяжка, затое потым будзе лёгка і добра.

Дзяўчына пацягнула яшчэ раз, і раптам упала. Фелікс схіліўся над ёй, стараўся прывесці ў прытомнасць, але дзяўчына не рэагавала. Яшчэ па сутнасці дзіцячы арганізм не вытрываў моцнага атрутнага ўздзеяння, дзяўчына аказалася ў коме і не выйшла з яе…

Віноўнік-агітатар выклікаў "хуткую", дактары канстатавалі смерць. Фелікс, вядомы ў пэўных колах мажор, пачаў апраўдвацца:

- Яе ніхто не прымушаў, сама прыйшла, палятаць хацела…

У родным горадзе Нату праводзіла ў апошні шлях вялікая колькасць людзей, усе плакалі, спачувалі, бо дзяўчына была слаўная, сціплая. І раптам такое.

Бацькі рвалі на сабе валасы ад гора, не стала адзінай дачушкі, любімай, разумнай. Цяжка змірыцца з такім горам, і самае горшае, што невядома, чаму яе прывяла дарога да апошняга, чужога парога.

Бацька потым доўга думаў, як магло здарыцца такое з яго Натай, чаму ніхто не адгаварыў, навошта ёй было спрабаваць нейкую атруту. Няўжо паддалася на агульнае, “сучаснае” захапленне моладзі тым кайфам, які прыводзіць да трагічнага фіналу дзяцей. Няўжо ім мала розных добрых мерапрыемстваў і спраў, забавак нармальных? Што робіцца з сучаснай моладдзю, якая губіць сябе ў пагоні за сумнiўнымі радасцямі?

А што прыняла Ната? Аказалася, папулярная ў пэўнай часткі моладзі трава пад назвай "спайс" утрымлівае два віды і пасля адпаведнай апрацоўкі становіцца небяспечнай. Атрымліваюцца шкодныя рэчывы канабіноіды, штучныя заменнікі траў, якія моцна ўздзейнічаюць на арганізм. Атрута выклікае псіхалагічную і фізічную залежнасць, разбурае печань і лёгкія, згушчае кроў, ад чаго пакутуе мозг з-за недахопу кіслароду. Псіхаактыўныя рэчывы даводзяць чалавека да галюцынацый, аматары спайса кідаюцца пад машыны, скачуць з балкона, адбываецца параліч мышцаў, сутаргі, страта прытомнасці, кома. Тыя, хто спадзяецца, што падобнага з імі не здарыцца і прадаўжаюць курыць атрутную траўку, моцна памыляюцца, сведчаннем таму з'яўляюцца шматлікія паведамленні ў сродках масавай інфармацыі пра згубнае ўздзеянне спайсу і трагічныя фіналы. Акрамя таго, нават невялікае ўжыванне атруты прыводзіць мужчын да імпатэнцыі, а жанчын да бясплоддзя. Жудасныя вынікі "вясёлай" травы заканчваюцца далёка невясёла, хутчэй фатальна. Жаданне асобнай групы маладых не адстаць ад "новага" і атрымаць эйфарыю прыводзіць да незваротных выпадкаў.

Між тым, у жыцці нямала добрага і вясёлага можна знайсці, а не шукаць крывыя дарогі, і палёт завоблачны можа аказацца апошнім у жыцці, якое даецца ўсяго адзін раз.

## КАХАННЕ МАСТАКА

Дзяўчына была незвычайная, бо адрознівалася ад іншых. І тым, што ўмела чытаць і пісаць (а ў 20-я гады ў Заходняй Беларусі гэта здаралася нячаста), і тым, што апраналася акуратна і з густам. Яе цёмна-русыя валасы, хвалістыя, прыгожа абрамлялі авальны твар з выразнымі вачыма і выгнутымі бровамі. Сярэдняга росту, стройная і танклявая, яна нібы сышла з якой карціны 19-га стагоддзя і па нейкіх невядомых прычынах апынулася ў невялікай вёсцы.

Моладзь збіралася звычайна ля царквы ў Снове, дзе асабліва было людна ў дзень святых Пятра і Паўла. На фурманках і пешшу сюды збіраліся кабеты і мужчыны, дзяўчаты і хлопцы. Спачатку шчыра маліліся, калі ў храме ішла святочная служба, а потым усе высыпалі на двор. Там іх ужо чакаў сапраўдны кірмаш: вяскоўцы прадавалі сыры і масла, вішні і розныя ласункі. Моладзь са смехам і жартамі таргавалася, а больш - знаёміліся і заляцаліся. Сярод дзяўчат была і ліпнякоўская прыгажуня, якую звалі Зінай. А за ёю з цікавасцю назіраў малады хлопец. Ён таксама выдзяляўся сваім шляхецкім адзеннем,

інтэлігентным выглядам. Гэта быў Міхась Сеўрук, які прыехаў з Вільні да сваякоў у Сноў. Ён заканчваў гімназію, быў малады, поўны надзей і памкненняў. А яшчэ валодаў дарам Божым - умеў добра маляваць. І як кожны мастак, заўважаў усё прыгожае. Захапляўся, стараўся перадаць на паперы. Не мог ён не заўважыць і прываблівую Зіну, вочы і косы яе хлопцу нават у сне мроіліся. Аднойчы на кірмашы у Снове ён асмеліўся падыйсці да дзяўчыны.

- Скажыце, калі ласка, паненка, Вам падабаюцца такія святы? - спытаў Міхась. Зіна крыху збянтэжылася: такі незвычайны кавалер да яе звяртаецца. Але хутка справілася і адказала:

- Чаму ж не? Бачыце, колькі хлопцаў і дзяўчат. А сонейка якое ласкавае, як прыгожа вакол...

Сэрца ў хлопца білася няроўна, ён хваляваўся і радаваўся: якая дзяўчына! А рысы твару, такія выразныя і пяшчотныя, тонкі стан. З таго дня Міхась страціў спакой.

А сноўскі дзядзька яго жартаўліва дапытваўся:

- Што гэта ты, Міхась, на сябе не падобны стаў? Можа, вёска наша не даспадобы? Ці гарачыня? То ў Вільню едзь хіба.

- Што Вы? - горача запярэчыў Міхась. - Я не хачу ў Вільню!

Потым схамянуўся і дадаў больш спакойна:

- Не, проста я хачу намаляваць адзін партрэт, ды сумняваюся, ці змагу.

- Зможаш, сынок, зможаш, - падбадзёрыў дзядзька.

Міхась сказаў гэта наўздагад. А потым падумаў: а чаму не паспрабаваць? Намалюю Зіну... Як толькі ўсплыло яе імя, узнік перад вачыма і мілы воблік. Міхась агледзеў сябе, ці добра апрануты, застаўся задаволены і рушыў у Ліпнякі.

Летні дзень хіліўся да захаду, а ў вёсцы толькі ішлі з сенажаці. Ля дома Зіны хлопец спыніўся, бо заходзіць саромеўся. Тут на двары паказалася яе маці, цётка Ліза. Яна заўважыла Міхася, яго нясмеласць і злітавалася:

- Ну ідзі ўжо, калі прыйшоў. Чаго стаіш?

Хлопец падбадзёрыўся і ступіў на двор. А там было прыгожа: вакол дрэвы, маліннік, вялікі куст белых руж, бэз і буйныя півоні. Заглядзеўся на ўсю прыгажосць і не заўважыў, як з хаты выйшла Зіна.У светлай паркалёвай сукенцы, прывабная і свежая, нібы тая кветка ў садзе. Юнак і слова не мог вымавіць, стаяў і маўчаў. Гаварылі вочы, жывыя і страсныя, цёмныя, гарачыя...

Селі на лавачку, завязалі гаворку. Міхась думаў, як падступіцца да галоўнага. А потым рашыўся:

- Зіна, а што, калі я Ваш партрэт намалюю?

Дзяўчына сумелася, бо чула такое ўпершыню. Яно і не дзіўна, бо адкуль у невялікай вёсцы маглі быць мастакі. Ды яшчэ каб некага малявалі.

- Я падумаю, не ведаю, - адказала Зіна.

Юнак узрадаваўся:

- Тады я прыйду з фарбамі да вас. Можна ў нядзелю?

- Ну, нядзеля больш падыходзіць, работы менш.

Той нядзелі Міхась чакаў, як Бога. А Зіна яшчэ больш хвалявалася.

Зіна выйшла на двор, саромеючыся, павіталася з хлопцам. А ён, таксама бянтэжачыся, пачаў раскладваць фарбы, пэндзлікі. Папрасіў дзяўчыну распусціць валасы. І сам здзіўлена, з захапленнем глядзеў на іх цёмна-русыя хвалі, якія прыгожа ляглі на плячах. На выразныя, цёмныя вочы, на выгнутыя прыгожымі дугамі бровы. З хваляваннем Міхась узяўся за пэндзаль, але хутка асвоіўся, рука прывычна пачала выводзіць першыя штрыхі. У душы прачнуўся мастак, астатняе перастала трывожыць...

Зіна сядзела нерухома, думкі ў галаве блыталіся. Цётка Ліза пайшла ў хату, каб не перашкаджаць. А на вуліцы дзве цікаўныя кабеты за плотам назіралі незвычайную для вёскі з'яву. І толькі, калі адышліся, далі волю эмоцыям:

- От цяпер Зіна праславіцца, гэта ж партрэт яе будзе... А ці любіць ён, ці жаніцца думае?

Гэтым пытаннем амаль ці не ўся вёска была заклапочана. А Зіна не думала так сур'ёзна, ёй было цікава, што атрымаецца ў Міхася. Ён жа прыехаў яшчэ разоў пару, і партрэт быў закончаны. Дзівіліся родныя, ціха нямелі суседзі.

Толькі аднаго чалавека ў вёсцы гэта ўсё моцна непакоіла - суседскага хлопца Адася. Быў ён з заможнай сям'і, разумны, акуратны. І даўно паглядаў на Зіну. Яна нібы і хілілася да хлопца, але выгляду не паказвала. Былі думкі і пра Міхася, аднак да іх прымешвалася няўпэўненасць. "Ён граматны, з такой сям'і... А што ж я? Можа, ён толькі заляцаецца, а жаніцца не думае. Адась, што ні кажы, хлопец свой..."

У наступны раз, калі Міхась прыйшоў са Снова ў іх вёску,Зіна сустрэла яго не так ветліва, як заўсёды. Да таго ж, па вуліцы, як бы незнарок, хадзіў Адась. А перад тым бацькі дзяўчыны правялі з ёй гутарку. "Што той за хлопец чужы? Ну, маляваць умее... А ў вёсцы трэба зямлю мець, працаваць на ёй. Лепш ідзі за Адася, хлопец багатых бацькоў, свой."

Перакананні не падзейнічалі б, каб дзяўчына кахала Міхася. Хаця ёй падабаўся культурны, разумны юнак. Але пераважыла звычка

слухацца бацькоў, боязь незвычайнага, новага. І не з лёгкім сэрцам яна сказала Міхасю, каб не прыходзіў больш, бо яна выходзіць замуж. З болем у душы ішоў хлопец у Сноў, многа думаў. Дзядзька яго, як мог, суцяшаў: "Не сумуй, значыць, не твой лёс. Усё ў жыцці непрадказальна".

І сапраўды, яго шляхі-дарогі вядуць туды, куды чалавек і не падумаў бы. Жыццёвыя законы вызначаны для кожнага, і не дадзена нам прадказаць іх. А выйшла так, што Міхась паехаў вучыцца ў Вільню, потым вярнуўся ў Беларусь. У 30-х - 60-х гадах ён быў вядомым мастаком, яго карціны выстаўляліся ў многіх музеях і галерэях. М.К. Сеўрук ілюстраваў вокладку кнігі М. Танка "На этапах".

Паэт прыязджаў у Нясвіж і сустракаўся з мастаком. На вуліцы Садовай сёння дзейнічае кватэра-музей М. Сеўрука, яго пэндзлю належыць партрэт заслужанай артысткі Беларусі Лілеі Давідовіч, шмат палотнаў прысвечана ваколіцам Нясвіжа, людзям працы. А той даўні партрэт дзяўчыны з хвалістымі валасамі захоўваецца ў Яраслаўлі, у кватэры малодшай унучкі Зіны - Ірыны.

## *Аксана Шкрэд*

### СНЕЖНАЯ КАЗКА

Ёсць у матухны-прыроды чатыры прыгажуні дачкі: зялёнавокая Вясна, сонечнае Лета, залатакосая Восень і снежная Зіма. І кожная з іх сэрцу любая.

Але спакон вякоў ўсталявалася ў народзе думка, што старэйшая яе дачка Зіма - злосная зладзейка, бо апустошвае зямлю, пазбаўляючы жывёлу кармоў, крадзе цяпло і прымушае людзей хавацца па хатах, а звяроў па сваіх норах.

Штогод услед за восеннюз'яўляецца Снежная каралеўна ў шыкоўным футры і дыяментавай кароне, несучы за сабой срэбны шлейф завірух. А застае яна зямлю размоклай ад слёз-дажджоў і дрыжачай ад сырых халадоў.

- Неразумная мая малодшая сястра, - скардзіцца Зіма. - быццам і любіць кожнае дрэўца і кожную жывёліну, а пакідае дрэвы голымі, і ніводнага зярнятка няма ў полі для птушак - усё хавае перад маім прыходам…

І ціха ходзіць яна па апусцелых палях, садах і лясах ды клапатліва атуляе ўсё мяккай, пушыстай пярынай снегу. Увесь свет засынае ў снежнай цішыні. А каб гаманкія рэкі ды азёры не парушылі гэтай цішыні, загадала вернаму служку свайму - траскучаму Марозу - закаваць іх у лёд. Служка гэты і сапраўды працуе шмат і старанна.

Апрануўшы ў серабрысты шэрань дрэвы і размаляваўшы шыбы вакол цудоўнымі ўзорамі, пачынае ён гарэзіць - шчыпле ўсіх за насы, румяніць шчокі і пасмейваецца хітра. Злуюцца людзі, паціраючы пачырванелыя насы: "Ух і Мароз-чырвоны нос! Так шчыпле, так шчыпле!.. Хутчэй бы канец гэтай Зіме..."

А Зіма доўга пануе на зямлі: месяцы тры-чатыры, а то і пяць… Хоць не любяць яе і завуць "бязлітаснай". Ціхімі зорнымі начамі, калі ўсё наваколле замірае ў снежным сне, выходзіць яна задумённая са свайго лядовага палаца, ласкава схіляецца над кожнай схаванай пад снегавым покрывам раслінкай і спявае калыханку. І кожнаму маленькаму звярку ў норцы сніцца пяштотная Вясна, якая хутка прыйдзе і абудзіць да актыўнага жыцця.

У сэрцы Снежнай каралеўны таксама жыве любоў да ўсяго жывога на зямлі, але толькі адна матухна-прырода ведае пра гэта.

## КАГО СОНЕЙКА ЛЮБІЦЬ?

Грэючыся пад ласкавымі сонечнымі праменьчыкамі, заспрачаліся аднойчы кветкі: каго з іх сонейка больш любіць?

- Сонца выцірае мае слёзкі, пабліскваючы кропелькамі расы, прызнаўся пахучы ландыш.

- Але больш святла мне аддае, пахваліўся ганарлівы прыгажун нарцыс.

- І нас любіць, - запішчалі маленькія маргарыткі, высоўваючы з травы бела-ружовыя кветачкі.

- Сонейка, не забывай пра мяне, - папрасіла блакітнавокая незабудка, што сціпла цвіла па-суседству.

Выпешчаныя сонцам далікатныя рамонкі лічылі, што яны падобныя да яго…

Слухаючы іх размову, не вытрымала мудрая старая варона, якая драмала непадалёку, і каркнула:

- Каб не спрачацца, зірніце сюды!..

А там, на зялёным лужку, узяўшы ўгору жоўтыя галоўкі, усміхаліся сонцу дзьмухаўцы…

- Ах, які сонечны цуд! - усклікнулі разам усе кветкі, любуючыся дзьмухаўцамі…

А маленькія "сонейкі" на зямлі і не спрачаліся нават, бо ведалі, што вельмі любіць іх сонца, як і ўсё жывое навокал, аддаючы сваю пяшчоту і цяпло.

## ПРЫГОДЫ КАТА МАРТЫНА

*(гумарэска)*

Жыў-быў кот Мартын. І дажыў па чалавечых мерках да пенсійнага ўзросту. Выйшаў Мартын на "пенсію" і збіраўся бесклапотна правесці на печы свае апошнія дні, грэючы спіну і лапы ды ўспамінаючы гады працы. Быў Мартын у свае "зорныя" часы пагрозаю для ўсіх мясцовых мышэй. І прафесіяй сваёй, дарэчы, ён вельмі ганарыўся. Ганяў мышынае сямейства ў хаце і ў хляве, асаблівы азарт браў яго ў склепе. Бывала, халтурыў Мартын у харчовай краме. Плату атрымліваў рыбкай ці кілбаскай, альбо смятанай, на менш смачнае не згаджаўся. Жыві, здаецца, ды радуйся. Але, прызнацца, за яго кашэчы век гэтак абрыдлі Мартыну мышы, што не бачылі б іх вочы. І на заслужаным адпачынку яны кату спакою не давалі. Ляжыць пенсіянер на печы, хвастом мух адганяе, а нахабныя мышы так і зыркаюць з-пад печкі ды насміхаюцца:

- Ну што, стары? Скончылася тваё панаванне!

- Пайшлі вон з-пад маёй печкі. А то вось зараз злезу - з'ем! - гразіцца нямоглы Мартын.

Адляжаў на сваёй печы ўсе бакі - свет не мілы стаў. І вырашыў Мартын падацца ў горад да сына Ваські, які працаваў там у рыбахове. Захацелася паласавацца свежым карасікам.

- Куды паўзеш, ледзь яўкаеш? - сустракае па дарозе сябрук.

- У госці да свайго Ваські, рыбкай частавацца. Нябось, ты яшчэ не зведаў, як пенсіянеру на адным малацэ, - махае лапаю ў адказ Мартын.

Прыйшоў ён да сына. Вось толькі таму прапанова карміць бацьку-дармаеда не вельмі спадабалася. Васька быў катом сучасным.

- Будзеш справаю займацца, - кажа бацьку, - рыбку мясцовым катам збываць.

Райскае жыццё настала! Сынок рыбку "вудзіць", бацька бойка гандлюе непадалёку, пад кустом. І раптам, у самы разгар рыбнага гандлю, два падазроныя на выгляд каты ліцэнзію ў Мартына патрабуюць і пашпарт кашэчы: маўляў, ты хто, адкуль, па што прыплёўся ў горад?

- З вёскі я! - крычыць ён. - Кот Мартын па пашпарце.

Дакрычаўся і даяўкаўся да таго, што ледзь не "прышылі" яму незаконны гандаль свежым карасём. Відаць, "заклаў" нейкі кацяра, якому замест карася плотку прадалі.

Шчасце, што Васька выратаваў бацьку: выявілася, яго сябры "накрылі" старога.

- Адзін клопат з табою, - злуецца сын. - Сядзі лепей на печы з

мышамі!

Крыўдна стала старому кату. Махнуў з гора аблезлым хвастом і папоўз назад у родную вёску век дажываць ды, лежачы на печы, пра свае прыгоды распавядаць і мудрыя парады мышам раздаваць:

- Не ідзіце, мышы, па лёгкі хлеб. Хто шукае яго, хутчэй у "пастку" трапляе. Сам паспытаў гэтага хлеба…

## ПРАПАЛА СВЯТЛО

*(гумарэска)*

Адбылося, людцы, у нашым доме здарэнне амаль сусветнага маштабу. Раптам увечары прапала ў кватэры святло. І ў гэтай першабытнай цемры заварушыўся люд, залямантаваў, павыпаўзаў на лесвічныя пляцоўкі паглядзець, ці не канец свету настаў. Дзядок-ветэран з вялікага пярэпалаху згубіў ключ і ніяк не мог узлезці ў свой "нумар". Вырашылі сабраць надзвычайнае паседжанне жыхароў у адной з кватэр першага паверху. Гаспадар гасцінна запаліў свечку. На парадку дня стала пытанне: " Каму з'ездзіць па карку, каб вярнуў святло? Дзе шукаць вінаватага?"

Звоняць дыспетчару электрасетак, а ў тэлефоннай трубцы - бясконцае: "Піп-піп"…

- Назло шкодзяць! - вырашылі мужыкі. - Адрэзалі ад усяго свету. Ну, што за парадак у краіне?!

Грамадзяне ў пад'ездзе ўсе палітычна падкаваныя. Свет не бачыў гэткіх крытыкаў і аналітыкаў. А тут адсутнасць інфармацыі! Захваляваліся, чуюць нядобрае.

- Скаргу пісаць трэба, - падаў нехта голас з цёмнага кутка.

- Правільна, браток! Мэру горада! - падхапіў яго думку хор галасоў.

- Лепей Прэзідэнту, - падказаў ветэран, спецыяліст па скаргах.

Нарэшце сход згадзіўся пазваніць спачатку мэру. Зрабіць гэта даручылі дзеду, як самаму паважанаму таварышу.

- Не, я акуляры дома забыўся, - спужаўся той.

- Навошта табе акуляры, Пятровіч? Вунь дзяўчаты набяруць нумар хоць у Амерыку.

А дзед сваё гне: акуляры дома, ключ згубіў… маўляў, сваю праблему вырашыць не можа: як у хату родную трапіць. А тут усё ж такі справа адказная, як-ніяк, а закранае пад'ездны інтарэс.

Пакуль шукалі "крайняга", як маланка з неба, блиснула святло. Раз, другі і згасла. Ну, ці не здзек, га?

- Вой, родненькія, вайна. Зараз бамбіць пачнуць, - загаласіла

баба Шура.

- Цыц, кабеты! Век ад вас непарадак! - гаркнула моцная палова чалавецтва.

Узняліся тут жанчыны, адстойваючы свае правы. І пачалося! Народ у нас, ведаеце, гарачы як кіпень. Забыліся ўжо і пра мэра, і пра вайну. І, раптам, у самы разгар перапалкі з'явілася такое доўгачаканае і такое яркае святло, што аж дух захапіла, і ніводнага крыўднага слова больш не зляцела з языкоў, а захацелася радавацца светламу жыццю разам, усёй пад'езднай суполкай. Вось так бывае!

## ВЯСНОВАЯ КАЗКА

На палянках, яшчэ пакрытых снегам, пасля надакучлівай зімовай бяздзейнасці раптам абудзіліся, заварушыліся лясныя жыхары.

- Нешта спаць расхацелася, - ляніва пазяхнуў і пачухаў лапай патыліцу Міхаіл Тапчыжыч. - Здаецца, прадчуваю нейкія змены ў жыцці.

- Бр-р, хутчэй бы цяпло, - чмыхнуў носам вожык.

- Я ўжо апошнія арэшкі дагрызаю, высунула з дупла рыжую галоўку і пажалілася вавёрка.

- А маім гарэзам пара на траўку. Ды дзе ж яна? Вунь толькі кволы парастак вылез на свет, - сумна ўздыхнула матка пары сімпатычных зайчанят.

- Кар-р! Лятала я ўчора ў горад сяброўку пераведаць. Свежую навіну прынесла адтуль, - паведаміла варона і важна ўселася на голы куст.

- Ну, расказвай, сястрыца, што бачыла там?

- Кар-р, што-што… Снегу ўжо няма. Ручаі бягуць, звіняць…

- Кар-р-рацей - вялікія перрамены!

- Ціха! - сыкнуў касалапы. - Слухайце! Што за дзіўныя гукі?

У нябеснай вышыні жаваранак спяваў сваю пяшчотную песню - прадвесніцу новай пары. Усе прыціхлі ў захапленні і чаканні нейкага цуда…

І яно з'явілася ў вобразе юнай светлавалосай дзяўчыны, што павольна крочыла па зямлі і напаўняла празрыстае паветра далікатным водарам.

- Хто ты, прыгажуня? - усклікнулі зачараваныя жыхары лесу.

Дзяўчына ўсміхнулася. І ад яе ўсмешкі, зазззяўшай праменьчыкамі сонца, на кволым парастку расцвіла блакітнавокая пралеска, і кожная жывая істота адчула ласку і цяпло.

Гэта прыйшла Вясна! І абудзіла ў сэрцах радасць жыцця.

## ЗІМОВЫ СОН

На зямлі белым-бела… Бясконцыя прасторы, поўныя высакароднага спакою. Вакол ні гуку. У зацішным маўчанні горада чуецца толькі лёгкі шолах падаючага снегу, які, здаецца, агортвае ўвесь свет. Ляціць і ляціць з неба сняжынкі. Быццам бялюткія матылькі мільгаюць, кружацца ў паветры.

Апускаецца на сонны горад ноч, і неба, удзень яснае і празрыстае, як крышталь, пачынае іскрыцца срэбнымі зоркамі. Марозная зімняя ноч… Адна з тых начэй, калі неба быццам раскінулася шырэй, зоркі здаюцца вышэй, а ў ледзяным подыху ветру чуваць нешта таемнае, што ідзе з далёкага Сусвету.

… А снег падае і падае,такі пушысты і мяккі. Сцірае абрысы прадметаў, замятае ўсе шляхі і сцежкі ў мінулае, навявае снежныя мары… - і ў адно імгненне зямлю ахутвае чароўны і доўгі зімовы сон.

## ЗАЛАТАЯ ВОСЕНЬ

Нібы птушкі, узлятае ў паветра жоўтыя лісты, і, гнаныя ветрам, імчацца па паркавых алеях і вуліцах горада, дасылаючы на ляту развітальнае: “Бывайце…”. Здаецца, усё наваколле прасякнута трапяткім дыханнем восені. Яе пах немагчыма параўнаць з іншым. У ім гарманічна зліліся вільгаць зямлі і гаркаваты пах апалай лістоты, далёкі пах вогнішчаў і чысты водар апошніх восеньскіх кветак, яскрава ўспыхнуўшых на схіле адыходзячай пары…

Асенняя пара… Залатая журба і залатая пяшчота…

Радуюць вока рубінавыя гронкі рабін і раскоша спелых пладоў, усімі адценнямі золата палымнеюць дрэвы. Яркія і цёплыя фарбы надаюць восеньскаму пейзажу непаўторную прывабнасць.

Веліч і спакой, незвычайная цішыня, што пануе навокал, і навеяны ёю таямнічы сум, які патанае ў шэрай восеньскай дымцы, загадкавыя аблокі, што няспынна спяшаюцца ў далячынь, апусцелыя сады і дагараючыя "зоркі" астраў і хрызантэмаў нагадваюць, што настае развітанне. Павольна і ласкава завалодвае восень сэрцам і захапляе пачуцці. У палоне меланхалічнага зачаравання нашы запаветныя мары імкнуцца да тых недасягальных вышынь, якія так вабяць да сябе рамантыкаў… А на зямлі застаецца неўміручая надзея на тое, што жыццё працягваецца, і за расстаннем абавязкова будзе сустрэча.



*Зінаіда Паўлаўна Грабёнка нарадзілася 31 траўня 1956 г. у в. Масцішча Наваградскага р-на Гарадзенскай вобл.*

*У 1973 г. атрымала сярэднюю адукацыю ў Масцішчанскай сярэдняй школе. У тым жа годзе паступіла у Менскі інстытут культуры, які закончыла ў 1977 г.*

*Тады ж уладкавалася на працу ў Сноўскую сельскую бібліятэку Нясвіжскага раёна, дзе працуе і па сённяшні час. Друкавалася ў "Краязнаўчай газеце", "Нясвіжскіх навінах", часопісе "Бібліятэка прапануе".*

# *Зінаіда Грабёнка*

## ГІСТАРЫЧНЫЯ ЗАМАЛЁЎКІ ВЁСКІ СНОЎ

* * *

Цяпер у Снове, цэнтры вядомай гаспадаркі, мала хто ведае, што да вайны амаль на 90% вёска была яўрэйскім пасяленнем.

Дамы яўрэеў у асноўным былі дыхтоўныя, амаль пры кожным доме была крама, ці, як тады называлі, лаўка.

Напрыклад, была хлебная крама Шаевіча, выпіць піва можна было ў лаўцы Лейзера, млын належыў Дабкоўскаму. Па навакольных вёсках з розным таварам ездзіў Каплан.

У даваенным Снове былі дзве аптэкі. Адну з іх трымаў аптэкар па прозвішчы Мінц.

Стаялі яўрэйскія хаты ў асноўным у раёне цяперашняй вуліцы Нясвіжскай. Некаторыя захаваліся да нашага часу.

У Сноў па разнастайны тавар з іншых вёсачак прыязджалі сяляне. Вельмі славіліся сноўскія базары. Наведванне іх заўсёды было святам. Купіць там можна было ўсё, чаго душа пажадае.

Яўрэі, беларусы і палякі жылі дружна. Дзеці вучыліся ў адной

школе. Само мястэчка было сапраўдным культурным цэнтрам. Быў клуб, які тады называлі па-польску - Дом людовы. На танцы дзяўчаты павінны былі прыходзіць у зменным абутку.

Яшчэ ў даваенным Снове былі касцёл, царква і сінагога.

* * *

Аўтар тэксту пачула гэтую гісторыю ад Яніны Ўладзіславаўны Банкевіч (у дзявоцтве - Быкоўская. Дарэчы, у пачатку 20-га ст. на кватэры ў яе бацькоў жыў будучы паэт Я. Купала. Але гэта ўжо іншая гісторыя).

Сям'я Яніны Ўладзіславаўны была адной з нямногіх беларускіх сем'яў, пражываючых у Снове.

Яніне Ўладзіславаўне ў 1943 годзе споўнілася 13 гадоў. У той час яна сябравала з трымя яўрэйскімі дзяўчаткамі. Гэта былі: Эстэр Слонімская, Хайка Мінц і Цыля Гінзбург. Усе яны нядрэнна вучыліся ў школе, былі добрымі і выхаванымі.

У той трагічны дзень Яніна прачнулася ад таго, што маці галасіла і прыгаворвала: "Божа, што робіцца…". Адусюль даносіліся стрэлы. Людзі бегалі па вёсцы. За домам Быкоўскіх было жытнёвае поле. Людзі беглі туды, каб схавацца.

Дзве сяброўкі Яніны - Эстэр і Цыля дабеглі да в. Вольны Чэрніхаў (цяперашняга Баранавіцкага р-на), але былі схоплены паліцаямі, якія даставілі іх у Сноў. Некаторы час іх трымалі ў гумне. Яніна насіла з іншымі дзяўчаткамі туды ежу.

Многіх яўрэяў растрэльвалі ў цэнтры вёскі. Астатніх зшыхтавалі ў шарэнгу і павялі па дарозе Сноў-Нясвіж і там за 200 м ад дарогі расстралялі.

У кнізе "Памяць. Нясвіжскі раён" у сувязі з гэтай трагічнай падзеяй ёсць такія звесткі:

*"У ліпені 1943 г. у мястэчка Сноў прыехала паліцыя з г. Баранавічы каля 30 чалавек, з мястэчка Гарадзея каля 15 чалавек, з г. Нясвіжа каля 10 чалавек. Атрымаўшы заданне ад жандармерыі, яны выганялі людзей на вуліцу, а тых хто праціўіўся, рассрэльвалі на месцы. Каля 300 чалавек выгналі на вуліцу і пагналі па дарозе. Прайшоўшы паўтара кіламетры, звярнулі ў лес і пачалі праводзіць расстрэл. Групамі па 30 чалавек людзей падводзілі да ямы, распраналі, клалі ў яму тварам уніз і таксама расстрэльвалі. Пры гэтым не звярталі ўвагі на тое, што некаторыя з ляжачых у яме заставаліся жывыя. Іх завальвалі новай партыяй людзей і потым закопвалі".*

У агульнай колькасці было пахавана каля 1000 чалавек.

Некалькі гадоў таму назад на гэтым месцы быў пастаўлены помнік.

Але не ўсіх з той шарэнгі расстралялі. Брату і сястры па прозвішчы Пакер удалося ўцячы. Яны папрасілі схованкі на хутары, непадалёку ад в. Горкі. Рызыкуючы жыццём сваім і сваёй сям'і гаспадар хутара Слабко Сафрон Іванавіч схаваў маладых людзей у сябе, а праз некаторы час дапамог ім уцячы.

І вось гэты малады чалавек потым вывучыўся і стаў дырэктарам аднаго з прадпрыемстваў у Менску. А сястра працавала ў праваахоўных органах.

І ўвесь гэты час яны падтрымлівалі моцную сувязь са сваімі выратаванцамі. Гэты ўчынак простых беларускіх людзей заслугоўвае таго, каб пра яго памяталі.

Вось такія факты генацыду на прыкладзе невялікага беларускага мястэчка.

* * *

1946 год... Толькі што скончылася вайна. У краіне голад, разруха... Два хлопцы са Смаленска, удзельнікі вайны, даведаліся, што ў Беларусі жыць трошкі лягчэй, так-сяк можна пракарміцца. І вырашылі яны пакінуць родны горад і пашукаць шчасця ў чужых краях.

Развіталіся з роднымі, селі ў цягнік і едуць.

А вось ужо і Беларусь. Праязджаюць Оршу, Барысаў, нарэшцце - Менск.

Сышлі, пахадзілі па горадзе. Але разбураны Менск не прыйшоўся да спадобы.

Едуць далей. Прыехалі ў Стоўбцы. Селі ў другі цягнік - на Баранавічы. За вокнамі праплыла чыгуначная станцыя Гарадзея. Углядаюцца хлопцы ў незнаёмыя мясціны, гэтулькі праехалі, трэба хутчэй рабіць выбар, трэба недзе выйсці. Толькі дзе?

- Ой, што гэта..., - кажа адзін другому. Глядзі, галовы ад селядцоў валяюцца ўздоўж рэйкаў, а вунь і агрызкі ад яблыкаў. Значыць тут не так ужо дрэнна жывецца... Айда выходзіць..

... І быў гэта прыпынак Хвоева, ад якога да Снова, як вядома, толькі два кіламетры.

Хлопцаў-смаленцаў звалі - Якаў Аляксанкін (будучы Герой Сацыялістычнай працы, старшыня калгаса) і Васіль Панцялееў.

А далейшая гісторыя калгаса імя Калініна ці АК "Сноў" усім вядомая.

А каб не было там тых селядцоў?..

* * *

Жыў у пасляваенным Снове разам з маці хлопчык Лёня. Былі яны выхадцамі з Расіі, трапілі сюды адразу пасля вайны.

Хлопчык вучыўся ў школе, сябраваў з мясцовай дзетварой.

А ў летнія канікулы прыцягвала да сябе дзяцей рэчка Сноўка, якая была тады празрыстая, імклівая, паўнаводная. Як жа добра было вабіць на ёй вольны час...

... Прайшлі гады... Хлопчык Лёня скончыў мясцовую школу, вывучыўся, стаў вядомым журналістам Леанідам Фадзеевым, карэспандэнтам газеты "Известия" ў Маскве.

Але ніколі не забываўся ён пра сваё дзяцінства, пра в. Сноў з яе рачулкай.

І вось захацелася зноў пабачыць родныя сэрцу мясціны.

Прыехаў ён у Сноў, прыйшоў на бераг рэчкі і замест паўнаводнай, празрыстай Сноўкі ўбачыў канаву “с зелёной, затхлою водой", як напісаў ён у вершы, прысвечаным рэчцы.

Не ведаў ён у дзяцінстве, што тут будзе пабудаваны завод па выпуску крухмалу, а значыць трэба будзе недзе зліваць адходы, і рэчка Сноўка для гэтага вельмі спатрэбілася...

**Чаму мы, людзі, так робім?**

Старажылы і нават не зусім старыя людзі ўспамінаюць той факт, што побач са Сновам, па левым баку ад шашы Нясвіж - Сноў, быў вялікі курган, каля 30 метраў вышынёй. Гаварылі, што застаўся ён з вельмі даўніх часоў. Мясцовая дзетвара яго вельмі любіла.

Як забярэшся на яго, то відаць усё наваколле.

Але ў канцы 60-х гадоў яго разбурылі. Не было тады цікавасці да сваёй гісторыі.

І што там было ў тым кургане, якія тайны ён хаваў, быццам бы ніхто і не ведае...



# *Тадэвуш Грыгель*

*Тадэвуш Францавіч Грыгель, прафесар, доктар медыцынскіх навук, магістр фізічнага выхавання нарадзіўся ў 1931 годзе ў Нясвіжы. Скончыў пачатковую школу ў Качановічах, затым ў Нясвіжскую рускую школу. Вучыўся ў Беларускім дзяржаўным ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга інстытуце фізічнай культуры, які скончыў ў 1955 годзе. Атрымаў званне магістра фізічнай культуры. Вучыўся ў Медыцынскай акадэміі ў Шчэціне. Выдатны ўрач, грамадскі дзеяч ў многіх галінах. Сябар грамадскіх і культурных аб'яднанняў Польшчы, каталіцкіх арганізацый. Мае шмат публікацый аб дзейнасці ксендза Каласоўскага ў перыядычных выданнях Шчэціна і Нясвіжа. Яго ўспаміны ўвайшлі ў кнігу "Пастыр добры зямлі нясвіжскай", прысвечанай мітрафорнаму протаіерэю Дзімітрыю Хмелю.*

*Дзякуючы ініцыятыве Тадэвуша Грыгеля, які звярнуўся ў адміністрацыю горада Нясвіжа з пісьмовай просьбай аб рэстаўрацыі Слуцкай брамы, ёй была вернута былая раскоша. Не шкадуючы асабістых сродкаў і фізічных сіл, разам з сябрамі - нясвіжцамі, аднавіў 80 магіл забітых немцамі 5 жніўня 1942 года ў Гайках (каля в. Еськавічы), увекавечыў іх памяць, арганізаваўшы пры ўдзеле жыхароў Нясвіжа усталяванне помніка. Зярод загінуўшых у той дзень быў і бацька прафесара Грыгеля Франц Грыгель.*

*"З шчырай любоўю адносіцца да сваёй Радзімы, праслаўляючы яе ў польскай і замежнай прэсе, эрудыт, сапраўдны чалавек эпохі рэнесансу".( З матэрыялу Вікторыі Жукевіч).*

*Сябра Таварыства несвіжан. Валодае некалькімі музычнымі інсрументамі. Актыўны ўдзельнік літаратурна-музычных сустрэч у Нясвіжскай цэнтральнай раённай бібліятэцы.*

*Друкаваўся ў газеце "Нясвіжскія навіны", творы ўвайшлі ў зборнік "Нясвіж у сэрцы і снах".*

## НЕЗАБЫЎНАЕ

*Аддайце гонар памерлым,*
*а гісторыі праўду.*

Гэта было вельмі-вельмі даўно. Мой любімы другі клас чатырохгадовай вясковай школы ў вёсцы Качановічы. Як сёння бачу перад вачыма будынак школы, пафарбаваны ў карычневы колер, і дах з нержавелай серабрыстай бляхі. Школу пабудавалі польскія ўлады. Да гэтага часу заняткі праходзілі ў вясковых хатах. Першы і трэці класы займаліся ў адным памяшканні, а другі, у які я быў залічаны, займаўся з чацвёртым. Настаўніцкі пакой з'яўляўся і месцам жыхарства настаўнікаў. Даволі вялікі калідор, у якім мы нярэдка сваволілі, раздзявалка, і ўсёвідушчы добры вартаўнік.

У двары - спартыўныя пляцоўкі. Многа кветак, маладых дрэў. Вакол - прыгожы плот, прыгожая агароджа. Шкада, што падчас вайны школа згарэла, і нічога ад яе не засталося.

Як сёння бачу невысокага росту, сярэдніх гадоў мужчыну. Яго спагадлівы твар. Хуткі пагляд, густыя бровы, і валасы, прыцярушаныя сівізной. Белая кашуля, карычневы касцюм, такога ж колеру гальштук і чаравікі - усё падабрана з вялікім густам.

У памяці засталіся яго словы: "Добры дзень, дзеці. Я буду дырэктарам школы і вашым настаўнікам. Завуць мяне Вініцкі Фёдар Аляксеевіч." Ён карыстаўся прыгожай беларускай літаратурнай мовай, меў прыемны голас.

Яго марай заўсёды было тое, каб мы, яго вучні, выдатна займаліся, выраслі цудоўнымі людзьмі і годнымі грамадзянамі.

Рэалізаваць школьную праграму аднмачасова ў двух розных класах было нялёгка.

Я быў здольным вучнем і вылучаўся сярод сваіх аднагодкаў. Навука мне давалася лёгка, таму мае свавольствы часта Фёдарам Аляксеевічам былі незаўважанымі. Ён проста мяне любіў і цаніў. Калі-нікалі атрымлівалася так, што ніхто з чацвёртага класа не мог адказаць на зададзенае пытанне, тады я паднімаў руку і адказваў. Праўду кажучы, за адзін навучальны год я выдатна асвоіў праграму другога і чацвёртага класаў. Па просьбе маёй мамы Фёдар Аляксеевіч у кароткі тэрмін вывучыў са мной праграму трэцяга класа. У канцы школьнага года камісія з двух настаўнікаў прыняла ў мяне экзамен, і я стаў вучнем чацвёртага класа.

Сёння я магу смела заявіць, што Фёдар Аляксеевіч быў настаўнікам па прызванні. Не шкадуючы часу і сіл, ён перадаваў свае веды

вучням. Часта сустракаўся з бацькамі, наведваў вучняў дома. Асабліва нам падабаліся ўрокі на тэму беларускай прыроды, якую ён маляўніча прадстаўляў.

Пасля такіх урокаў мы не маглі не любіць і не цаніць прыроду роднага краю. Ён падкрэсліваў, што родную зямлю патрэбна любіць, як маці, што яе народ стагоддзямі пакутаваў ад сваіх і чужых. Фёдар Аляксеевіч часта паўтараў, што поспехі ў вучобе - гэта праяўленне павагі і любові да сваіх бацькоў, звычаі і традыцыі якіх мы павінны будзем захоўваць і працягваць. Добрая дружная сям'я - гэта святое святых, аснова ўсіх спраў і пачынанняў. Настаўнік стараўся ўпэўніць нас, што веды і навука дапамагаюць людзям жыць, адчуваць сябе паўнавартасным грамадзянінам.

Павінен заўважыць, што Фёдар Аляксеевіч аказаў вялікі ўплыў на станаўленне мяне як асобы, быў маім правадніком (дарадчыкам) і настаўнікам у жыцці. Ён разам з намі перажыў напаткаўшае нашу сям'ю гора - смерць майго бацькі, расстралянага ў Гайках (паблізу вёскі Еськавічы Нясвіжскага раёна).

Праходзілі год за годам. Я закончыў сярэднюю рускамоўную школу ў Нясвіжы, інстытут фізічнай культуры і спорту, медыцынскую акадэмію, стаў навуковым супрацоўнікам у галіне медыцыны, акрамя гэтага мне не чужыя музыка, паэзія, журналістыка, парапсіхалогія, таксама захапляюся пчалярствам і садаводствам. З Фёдарам Аляксеевічам мы часта перапісваліся, два разы я гасцяваў у яго у вёсцы Малева, і заўсёды мяне прымалі сардэчна і дружалюбна.

У жыцці майму вялікаму настаўніку не пашанцавала. Яму, чалавеку з вялікай духоўнай культурай, высокімі маральнымі прынцыпамі, не далі закончыць Баранавіцкі настаўніцкі інстытут і пазбавілі права выкладання за тое, што ён быў сапраўдным патрыётам сваёй роднай Беларусі.

Настаўнік жыў у сям'і брата Мікалая, а пасля яго смерці дапамагаў выхоўваць пляменнікаў. Вёў звычайны для большасці людзей лад жыцця, карыстаўся вялікай павагай сярод людзей. Зарабляў на жыццё тым, што пісаў абразы святых, карціны. Ганарыўся і радаваўся тым, што яго педагагічная праца дала добры плён. Фёдар Аляксеевіч назаўсёды застаецца ў маім сэрцы чалавекам з вялікай літары, сябрам і прафесарам. Наведваючыся на яго магілу, я кожны раз запальваю свечку і малюся за яго душу.

* * *

У жалобны дзень, у кашмараў ноч,
Карычневых зграяў вялікая сіла.
З таго часу мінула шмат доўгіх год,
І свет больш не плача аб гэтым паныла.

З раззяўленых пашчаў смяртэльных куль
Пякельны грукат…, пакінуў боль сховы,
Ахвяры, кроў і мае слёзы дасюль,
І крыж, і зніч, і бэз вясновы.

Раней гайкі, цяпер лесу ціш,
Спеў салаўя, пліта магілы,
Святы, самотны, польскі крыж,
На ім імёны час пакінуў.

*Пераклад Валянціны Шчарбаковай.*

**Налібоцкая песня**

Хай немцы з Радзімы нас гоняць,
А рускія кажуць: "За Буг!".
Страшэннымі карамі грозяць,
Не зменім мы шаблі на плуг.

І б'ёмся асатанела
Хоць вочы на лоб выпірае,
Ніхто нашых крокаў не зменіць!
Нам ці воля, ці яма сырая.

Кідаемся ў бітву шалёна.
Мы за радзіму і дом
Запал у вачах маладзецкі
З песняй мы ў бойку ідзём.

Радзіма, табе мы адданы,
І кроў за цябе мы пральём,
Паўсталі, каб зрушыць германца,
Табе мы свабоду нясём.

*Пераклад Уладзіміра Жылко.*



## *Валер Дранчук*

*Валер Дранчук, журналіст-эколаг, краязнавец, публіцыст. Нарадзіўся ў 1951 г. на хутары Гавязна (да 1939 г. аднайменны фальварак Нясвіжскага павета), у ваколіцах вёскі Ахрэмавічы Стаўбцоўскага раёна. Закончыў школу ў Гарадзеі. Працаваў на цукровым заводзе, з 1969 студэнт БДУ. Удзельнік студэнцкага будаўнічага руху. З дыпломам тэле- і радыёжурналіста накіраваны ў старадарожскую раённую газету. Працаваў таксама ў газеце "Звязда", у Вярхоўным Савеце і Кабінеце Міністраў, быў галоўным рэдактарам часопіса "Родная прырода". Заснавальнік і выдавец прыватнай газеты "Белавежская пушча" (1995 - 2008). Лаўрэат Еўрапейскай прэміі Генры Форда (1999) і прэміі імя Алеся Адамовіча. Аўтар кніг і грамадскіх ініцыятыў за ахову прыроднакультурнай спадчыны. Мае дзяцей Юлію і Цімафея, унука Платона. Жыве ў Нясвіжы.*

# ГАРНАСТАІ ТУТ БОЛЬШ НЕ ЖЫВУЦЬ

*Краязнаўча-даследніцкае эсэ на сумежжы гадоў:*
*лістапад 2016 - сакавік 2017*

О! Ці магчыма? Ці магчыма згвалціць гэты снег? Бялюткі і мякка пяшчотны, быццам прыгладжаны да чысціні і бляску далоняй начной завірухі? Снег мінулай зімы.

На жаль… я ведаю - гэта магчыма.

Ні адлігі з гразёю, ні вясна з анамальна ранні́м цяплом тут зусім не пры чым. Яшчэ стаяла белае зімовае надвор'е, і пад нагамі калядна парыпвалі сцежкі - вясна драмала дзесь за мройнымі далёкімі пагоркамі часоў Тамаша Макоўскага…




***"Nova Civitas". Фрагмент перамаляванай гравюры Тамаша Макоўскага, што сёння размешчаны на сцяне будынка побач Ратушнай плошчы. Студзень 2017 г.***

Што магло здарыцца на старажытных пагорках Новага Места ў Нясвіжы? Адкуль надышоў гэты да аглушэння падступны гвалт? Я адчуў яго не адразу і не вомегам, хоць за мной штохвілінна сачыла "вока" той, зламыснай пачвары.

Але адчуў менавіта ў пару беласнежжа і цноты, блукаючы паміж дрэваў, да якіх прыходзіў амаль штодня, рассоўваючы нагамі халодную сыпкую бель, пасля чарговай начной парошы…

Ёсць такое прыгожае паданне - а мо, тое чыстая праўда? - што гарнастаі, зверкі з белым футрам узімку, назаўжды пакідаюць мясціну, ды не! - паміраюць, калі ваколіцы іхняй сялібы губляюць свой першавобраз і чысціню, калі ператвараюцца ў шэрабудзённы краявід, заплямлены і зганьбаваны. І паміж ценяў старых дуплістых дрэваў застаюцца дробныя сляды, - магчыма, гэта ўжо не сляды, а тыя перадсмяротныя знакі.

Гэтае месца за Слуцкай Брамай, за возерам, што ў рэчышчы Вушы, на левабярэжных яе пагорках, адвеку завецца Новае Места. Такое "новае", што знаны радзівілаўскі гравёр і картограф Тамаш Макоўскі пазначыў яго на мапе-малюнку Нясвіжа ажно чатырыста гадоў таму (1605).

Слуцкая Брама: далей, на другім кіламетры, адна дарога зверне



***Слуцкая брама. Справа пагорак з дамкамі.***

ўправа на Клецак, леваруч - на Капыль і Узду, а дарога наўпрост пакіруе на Слуцак. За возерам (правая частка здымка) - узгорак з гістарычнай забудовай Дамкі.

Калі прайсці праз масток (ён бачны на здымку-малюнку ў правым верхнім кутку) і збочыць берагам возера ўправа глыбей, праз паўкіламетра будзем стаяць акурат на… месцы здарэння - апартаменты запэцканай цноты зеўраць грозна і ваяўніча, хоць у звыклабудзённым раскладзе гэта папросту будоўля, будаўнічая пляцоўка. Але сказаць так - яшчэ нічога не сказаць. Тое, што бачым, - не менш як падзея-прэцэдэнт, якую гісторыкі Нясвіжа пэўна занясуць у шэраг асаблівых, эпатажных.

Перад намі будучы офіс Нясвіжскага міжраённага аддзялення Камітэта дзяржаўнай бяспекі (КДБ).

Менавіта так. Сюды, на Новае Места, у гістарычную ахоўную зону "культурнай сталіцы" прыйшло брутальнае будаўніцтва. У траўні месяцы плануецца падсяленне. Для пачатку назавём гэтае месца так, як яно пазначана ў Дзяржаўным спісе гісторыка-культурных каштоўнасцяў Рэспублікі Беларусь - "Былы пасёлак лясніцтва". Старэйшыя жыхары помняць іншую назву, сваю, тутэйшую - "Дамкі" (а даўней і па-польску - “Domki”). "Там, у Дамках…", - любілі казаць. Альбо, паказваючы рукой: "Вунь там, за Дамкамі…". Дамкі стаялі навод-



***Вуліца Сымона Буднага за пасёлкам Дамкі - былая вёска Агароднікі. Сёння гэта досыць разбудаваная частка горада.***

шыбе, досыць высока, іх было бачна і з Ратушнай плошчы, і з-пад кляштарных сценаў насупраць, і з самога Радзівілаўскага палаца. Тут жа на пагорку, за Дамкамі жыла сваім ціхім жыццём вёсачка Агароднікі, цяпер адна з многіх вуліц Новага Места на ўскрайку горада.

Пасёлак лясніцтва складаў у сабе гарманічны архітэктурны ансамбль з 5-6 будынкаў. З іх відавочна пераважалі тры; на сёння яны і ёсць, паводле адмысловага Спісу, архітэктурнай каштоўнасцю Беларусі. У пашпарце ахоўнага аб'екта, які мне далі ў райвыканкаме, чамусьці не пазначаны архітэктурны стыль.

Тым часам менавіта стыль - так званы "закапанскі" - выдае адметнасць гэтых пабудоваў пачатку XX стагоддзя. Стыль, у якім да рысаў гарадскіх дамкоў і будынкаў душэўна дапасаваны фальклорныя матывы: высокі, дэкараваны г. званымі слыхавымі акенцамі, дах, дранкавы ці чарапічны, некалькі рознапамерных камінoў, чаргаванне геаметрыі вокнаў, адмысловы падмурак. І самае галоўнае, што будынкаў гэтага выразнага стылю ў Беларусі, апроч Нясвіжа, засталося зусім няшмат, лічы, адзінакропкавыя прыклады (Стоўбцы, Маладзечна, Браслаў, Глыбокае, Свіслач, яшчэ два ці тры адрасы). Дый захаванасць іх, самі ведаеце… Нясвіжскі варыянт калісьці папулярнага стылю даволі стрыманы, зусім непыхлівы, камерны; ягоная пластыка збліжа-



***Выразная панарама на пасёлак Дамкі адкрываецца з ходніка, як падымаемся на ўзгорак. Унізе, справа ад дарогі, рака Вуша з возерам Дзявочым. Два з трох - цэнтральны і правы будынкі архітэктурнага "трыпціху". Аўтарская хроніка, лістапад 2016*.**

ная з традыцыйнай беларускай, найперш сядзібнай, хоць і адрозніваецца падкрэсленай рафінаванасцю ды прасторавай атмасфернасцю.

Напраўду, можна адно падзівіцца, як удала дабраў архітэктар гэтае месца, як чула спалучыў яго асаблівасці з праектам: вынес будынкі на ўзвышак, падняў над возерам, апрануў у высока-стромкія ды мудрагелістыя дахі - глядзі, любуйся, народ!

"Будынак адміністрацыйнага прызначэння", як яго пайменавалі ва ўсіх афіцыйных паперах (вось яна, службовая канспірацыя!), размясціўся на пагорку злева, брутальна заступіўшы доступ да аднаго з трох падахоўных дамкоў левага сектару - сёння ў ім месціцца зубапратэзнае аддзяленне. На сцяне побач з уваходам ахоўная шыльда: прычыненне шкоды караецца па законе...

Я адчыніў дзверы дома "стаматалогіі" і, нягледзячы на спецыфіку апартаментаў, адчуў музейную атмасферу, спынены час. Вузкая стромая лесвіца злева вяла на мансарду… Загадчыца аддзялення Вольга Ратомская на маю просьбу падняцца на другі паверх катэгарычна адмовіла - толькі з дазволу галоўнага ўрача!

Прайсціся ў Дамкі - адна асалода. Ад цэнтра з Ратушнай плошчай - пятнаццаць ці дваццаць хвілінаў няспешнай хады. За Слуцкай брамай на два бакі азёрны краявід, злева адкрываецца панарама замка.



***Цэнтральны дамок з тэрасай (пярэдні план). Аўтарская хроніка, сакавік 2017 г.***

З погляду турыстыкі, якая быццам прапісалася ў Нясвіжы, гэты раён, улучна з Брамай - ці не поўная процілегласць Замкаваму комплексу. Дзесяцігоддзі акупаваны медычнымі службамі, "былы пасёлак лясніцтва" з будынкамі закапанскай архітэктуры пакуль аніяк не даступны турыстам. Пра гісторыю і ягоную цікавостку няшмат распавядуць і жыхары Нясвіжа. Ці не таму вока забудоўнікаў і рушыла сюды, на гэты ціхі востраў, дый інвестар, пэўна, доўга не вагаўся.

У каго з мінакоў не пытаў, што будуецца, мне адказвалі, інтанацыйна і па сутнасці, бадай, аднолькава: "Ну што? КДБ!". Часам, праз кароткую паўзу, дадавалі: "Улада ж у іхніх руках. Усё можна. І чаго яны сюды палезлі! У горадзе, хіба, месца няма?..".

Цікава і другое. Мне ніхто з жыхароў не сказаў: вось, маўляў, дамкоў не чапаюць, стаяць цалюткія, як стаялі - і тое добра, чаго ты бядуеш… Так не сказаў ніхто! Кожны па-свойму ўсведамляў факт страты і выказваў расчараванне.

Я мусіў спраўдзіць гэты нюанс для сябе, каб не запасці зусім на сваё, асабістае. І прыемна запэўніўся, што звычайны шараговы чалавек, без "тэорыі" ў галаве, не маючы нейкага адмысловага светапогляду, заснаванага на філасофіі краявіду, свабодных лініях далягляду, на зялёных малюнкавых відарысах, якія патрэбны чалавеку як

лекі, - лёгка рабіў выснову: будаўніцтва ў Дамках - гэта нешта не тое. Бадай, кожны задумваўся, уражаны: ці не нахабны выклік, нішчэнне, псаванне прыроды і чысціні, утульнага і асталяванага асяродку, што цешыў вока? Было, а цяпер няма… і не будзе.

**Жыхар вуліцы Горкага:**

- Яшчэ пазалетась бачыў, як там прыбіраюцца здаровыя дрэвы. З нечага ж дазволу гэта рабілі! Спачатку падумаў, санітарная высечка, прыбіраецца лішняе. Але хутка стала відаць, што будпляцоўка. Мусіла вісець хоць нейкая шыльда з назвай аб'екта, але яе не было дакладна. Я арнітолаг, і наведваў гэтыя пагоркі. Тут вясёлае добрае месца, заўсёды шмат птушак.

**Рабочы будоўлі:**

- Мая думка?.. У раёне паўсотні будынкаў, якія пустуюць. Ёсць і ў самым Нясвіжы. Няхай бы за які браліся. Абавязкова было сюды?..

**Жыхар вуліцы Зарэчнай:**

- Мне зверху добра відаць. Пытаеце, навошта… Як жа - каб была цішыня і спакой, каб ніхто побач - ні міліцыя, ні пракурор, ні Іван Іванавіч, а толькі Я. Вось чаго яны дамагаліся - гэтай поўнай ізаляцыі. І выгляд які - вось пабачыце, усё падбяруць пад сябе. Яны робяць не офіс, а рэзідэнцыю!

**Прадавец адзення ў цэнтры Нясвіжа:**

- Звычайнае безгалоўе. Горшы варыянт прыдумаць цяжка. Нейкая дурасць. Або дыверсія.

**Жыхар вуліцы Сыракомлі :**

- Як магло здарыцца?.. А як магло здарыцца, што ў цэнтры Еўропы расквітнее дыктатура? І ўсё, што цяпер бачым?..

Услед за суразмоўцамі і мне рабілася па-чалавечы шкада, што гэтак несамавіта, паспешліва разбураецца эдэмны малюнак старой часткі горада, якая тут, на паўднёва-заходнім баку нясе ў сабе своеасаблівы арэол і карону горада.

Нягледзячы на жыллёвы сектар, што цесным кальцом абля-маваў пагорак, тры сіметрычна расстаўленыя дамкі стваралі атмасферна-піктарыяльны, карцінна-малюнкавы відагляд. Ён быў дасканалы і завершаны. Нават час, час-мастак і час-разбуральнік, не парушыў яго абрысаў, не здаў аніякім абставінам на гвалт і знявагу. Карціна заставалася ў раме і на сваім месцы.

Больш за тое! Менавіта ў гэтай частцы, далей за пагоркам пачаў фармавацца сацыяльна-рэкрэацыйны і аздараўляльны сектар: раённая больніца, санстанцыя, у перспектыве (будуецца з 2012 года!) - раддом і жаночая кансультацыя.

Улада разумела наступствы рэзанансу, і галоўнае было займець "все бумаги". Аднак і гэта - збіранне ўсіх неабходных папераў - не спыняла ісці ў наступ, калі папераў тых не ставала. На момант узгаднення праекту з Акадэміяй навук (Цэнтр даследванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры, лістапад 2016) будынак быў амаль завершаны ў вонкавай частцы (!). Для мяне застаецца пытаннем, як маглі акадэмічныя эксперты прыняць такія фармальна абразлівыя ўмовы супрацы, нават калі навуковыя дачыненні маюць пратакольна "рэкамендацыйны характар".

Толькі на восьмым месяцы будаўніча-мантажных работ на аб'екце з'явіўся і адпаведны паштарт - не паводле прынятых стандартаў, ад першага забітага калка, а ў адказ на жорсткія санкцыі абласной інспекцыі Дэпартамента кантролю і нагляду за будаўніцтвам!

Затое тэмпы будоўлі ўражвалі - не раўнуючы, "план Барбароса" ў дзеянні: свядома спешны, агрэсіўны па сваёй сутнасці захоп тэрыторыі. Нашай культурна-гістарычнай плыні. Нашай памяці і нашай свядомасці.

## Пад навуковым кіраўніцтвам

Чыя ж сёння воля вяршыць лёс унікальнай аздобы горада? Ці ж не пакрадокс: сто гадоў шанавалі і берaглі, не накідалі пятлю, каб засіліць, а тут, глядзіш, сярод белага дня, гэта значыць - маючы розныя высокія рады, міністэрскія і акадэмічныя, інспекцыі і экспертызы - раптам пляжым і заварочваем, ламаем, руйнуем, зыначваем у нішто. Нават - не паверыце - пад персанальным навуковым кіраўніцтвам!

З архітэктарам Вадзімам Дражынам (менавіта ён прызначаны Міністэрствам культуры за навуковага кіраўніка "рэканструкцыі" ў гістарычных Дамках) мне карцела перамовіцца перш за ўсё. Як-ніяк, сам нясвіжскі, выхоўваўся на тутэйшых асяродках, рос, як завецца, "на лес" гледзячы. Я спытаўся ў Вадзіма Ўладзіміравіча, ці адчуваў ён свой абавязак адвесці пагрозу дзеля захавання малюнкавай цэласці асяродка, яго непарушнасці. Пытанне было нечаканым, мо, занадта нечаканым. Я перапытаў больш прамалінейна: чым ён кіраваўся, калі даваў сваю згоду на брутальнае падсяленне - руйнаванне ж краявіду было відавочнае?

- Пільнай, нават жорсткай неабходнасцю, - адказаў навуковы кіраўнік.

Што стаяла за гэтымі словамі, я зразумею праз колькі дзён, калі завітаю на прыём да старшыні райвыканкама… Аднак, паказальна, што сваю пазіцыю спадар Дражын патлумачыў яшчэ і няяснасцю



***Я палічыў: паміж будынкамі, старым, з мезанінам, і новым -- дваццаць пяць метраў. Навабуд літаральна падпёр "гістарычную спадчыну". Сёння іх падзяляе клумба і шэры плот. Аўтарская хроніка, снежань 2016 г.***

перспектывы ахоўных будынкаў, вельмі скептычна выказаўся пра іхні стан як досыць запушчаны, неўладкаваны. З чым нельга не пагадзіцца: узор закапанскай архітэктуры ў Нясвіжы патрабуе іншага догляду і больш ясных вызначэнняў на заўтрашні дзень. Разам з тым, падсяленне-2017 - ці не той "асінавы кол" у будучыню каштоўнасці, якую ніхто не адмяняў. Ці не ёсць гэта адпраўным пунктам якой-кольвек змовы - таемнай стратэгіі ўлады? Стратэгіі запаўнення і ўшчыльнення гарадской прасторы? Не толькі. Яшчэ - каб зняць адказнасць за Дамкі. Ці мала чаго ўжо нагледзеліся… Адным словам, і мясцовая ўлада, і службы-структуры, якія яе абслугоўваюць разам з "навуковым кіраўніцтвам", ці не ўскосна ставяць пытанне: якая будучыня чакае "закапанскі стыль" у культурна-гістарычным Нясвіжы? Пытанне, на якое яны ж і павінныя сёння адказаць.

**Гандаль гістарычнай каштоўнасцю: прэцэдэнт, які ствараецца**

Пра ўсё гэта - і што сіметрыю не варта было рушыць, і што канторы тут не месца, і пра іншае - я даводзіў шмат каму. Але адна

справа, гаварыць у Міністэрстве культуры, у Акадэміі навук, у аблвыканкаме, дзе вас стрымана паслухаюць, і зусім іншая - у раёне, на месцы. Менавіта тут, жывучы ў непасрэднай блізкасці гістарычных сцен, каранёў, паветра, і можна адчуць рэальнасць страты.

Таму, калі сустрэўся са старшынём раённай вертыкалі Іванам Крупко, пачаў з гэтай сентэнцыі:



***Ахоўная шыльда на цэнтральным дамку. Аўтарская хроніка, сакавік 2017.***

- Хачу ведаць, адкуль узялося гэтае зло, хто яго спарадзіў і хто абслугоўвае - як такое магло адбыцца: ваш горад - вашае ўсё - і раптам: будынак КДБ у гістарычнай зоне, калі ласка, з відам на возера! Ці ж да твару гэта Нясвіжу…

Не адразу, але слова за слова Іван Іванавіч "раскрыў карты". Дзесьці, слухаючы, я пагаджаўся і падтакваў. Ну, разумеў, што для насельніцтва раёна патрэбны цэнтр сацыяльнага абслугоўвання, а яго, паўнавартага, няма. Пабудаваць - сума з бюджэту, дый немалая. Вось, маўляў, і намалявалася схема для выйсця. Структура дзяржбяспекі аддае свой будынак для сацыяльна абароненых, а сама будуе новы офіс над возерам, у… закапанскім стылі.

Намагаюся ўявіць працэдуру гэтае здзелкі-абмену. На натуру пэўна ж прыязджалі самі начальнікі. Магчыма, нават самыя высокія. Глядзелі, узважвалі. А ці думалі пра наступствы? Няўжо адно пра тое, які від адкрыецца з вакна кабінета?

**Эксперты з завязанымі вачыма: "А чаму не?"**

Даводжу і за гэта адказваю: галоўная правіна ляжыць на Міністэрстве культуры. Менавіта тут падтрымалі фантазмы нясвіжскіх чыноўнікаў, якія пайшлі на размен (як часцяком цяпер кажуць - развод) культурнай спадчыны - далі ім зялёны калідор. Спачатку спрычынілася навукова-метадычная Рада міністэрства, потым само ж ведамства падпісала згоду-дазвол на будаўніцтва.

Доктар архітэктуры, педагог і даўні сябар міністэскай рады Армэн Сардараў лёгка прыпамінае тое абмеркаваньне: так, "былі ў Нясвіжы, глядзелі на месцы…"

Пытаюся, ці былі сумненні, спрэчкі прынцыповага кшталту - адносна магчымасці самога падсялення.

Ці скажа архітэктар пра захаванасць краявіду, пра небяспекі наступстваў, якія, пэўна ж, мусілі неяк адчуць эксперты, стоячы на месцы ахоўнай зоны?

- Месца я добра помню - прыгожае, над возерам, - сказаў Сардараў. Праз паўзу дадаў, што забудоўнікам былі дадзеныя рэкамендацыі, найперш, каб новы (адміністрацыйны! - *В.Д.*) будынак адпавядаў стылю гістарычных сядзібаў і не надта ўзвышаўся, не засціў краявід, не псаваў агульны малюнак, упісваўся сваім сілуэтам у статусны асяродак.

Вось жа не веру. Ні ў добрыя пажаданні, ні ў добрыя рэкамендацыі. Яны для паперы, для пратакола. Нежывыя і няпраўдападобныя. Перспектыва, рэальна бязрадасная, вырастала, паўставала перад чальцамі рады наўзвоч - а яе не ўбачылі. Ды яе нельга было не ўбачыць! Ці эксперты былі з завязанымі вачыма?.. Я ледзь не збіўся на крык.

Армэн Сяргеевіч мяне даслухаў. Прагледзеў здымкі фотахронікі, вярнуў флэшку і ахвотна паабяцаў:

- Трэба зірнуць у пратакол Рады: што канкрэтна прадпісана, якія зададзены параметры - па вышыні, па адлегласці. Я вазьму гэты пратакол, ён жа нікуды не дзеўся, спадзяюся. Трэба глянуць, злічыць з тым, што сёння маем. І тады можна будзе сказаць, ёсць парушэнні альбо няма…

Праз колькі дзён я патэлефанаваў. Сардараў зачытаў рэкамендацыі-фармулёўкі, якімі павінны былі кіравацца забудоўнікі.

- Бачыце, бракуе канкрэтыкі, прывязак да мясцовасці. Запіс такі, што няма за што і прычапіцца, нават у выпадку парушэнняў, - падвёў педагог-архітэктар.

Пісьменнік і краязнавец, ураджэнец Нясвіжскага краю, былы міністр Анатоль Бутэвіч - таксама, як і Армэн Сардараў, сябар Рады Мінкультуры. А да ўсяго, і ганаровы жыхар Нясвіжа, хоць жыве ў Менску. І ён выязджаў на месца, каб прыняць або не прыняць ініцыятыву мясцовай улады.

Пытанне - ці варта было даваць дазвол на падсяленне ў архітэктурным комплексе? - не ставіць суразмоўцу ў тупік. "А чаму не?" Маўляў, калі не чапаць старыя будынкі, па-людску абысціся з ландшафтам, не высякаць дрэў - дык і няхай, калі ласка! - упэўнена-бадзёра зрэагаваў спадар Бутэвіч.

- І не шкада было мясціны? Праз год, два яе будзе не пазнаць… У рэшце рэшт, пра тое, што гэта авантурныя нездаровыя планы, што

справа будзе скандальная - пра гэта радоўцы не думалі?

Здалося, мы - яшчэ жывыя людзі - раптам як перастаём жыць у гэтым часе, у сваім грамадстве і гаспадарстве, быццам атрымалі від на жыхарства ў нейкім іншым, бесклапотна бяспечным свеце, дзе і за правіны ніхто не спытае і адказу не папросіць…

## Ці ўся праўда, што за Слуцкай брамай "акапаліся" спецслужбы?

Чаму пра гэта пішу? Бо гэта абраза. Як анучай па твары. Магчыма, і нечым больш цвёрдым. Не адчуваць гэта хоць бы для прафілактыкі, а моўчкі зносіць - значыць, даваць хамаўладнаму асяроддзю прыйсці заўтра ці паслязаўтра ў наш агарод, у наш кветнік і распачаць тут чарговы гнюсны здзек. Нават, калі гэта не самае вялікае зло, якое чыніцца ў дачыненні да нашых культурных асяродкаў наогул і Нясвіжа ў прыватнасці, трэба крычаць: "Людзі, гвалт!".

Не ведаю, ці будзе пастаўлена станоўчая кропка на задуманым варыянце. Чым далей асэнсоўваю сітуацыю, тым больш падаецца яна авантурнай яшчэ і гэтым, другім сваім бокам - каму тут урэшце быць-гаспадарыць? Ну ніяк не паварочваецца мой розум, каб у Дамках за Слуцкай брамай "акапаліся" спецорганы. Бо гэта, як для мяне, калі не спецаперацыя, дык "сон розуму" дакладна.

Каб запэўніцца, звярнуўся ў Нясвіжскае міжраённае аддзяленне КДБ і папрасіў пракаментаваць дачыненне да названай будоўлі. На жаль, адказу не атрымаў. Начальнік Павел Сопат у тэлефоннай размове нервова пахіліў убок і ў рэшце рэшт параіў мне звярнуцца да яго "начальства" ў Менску. Запыт я накіраваў у той жа дзень 1 сакавіка на адрас Упраўлення КДБ па Менску і Менскай вобласці. Чакаю адказу. Не цешу сябе надзеяй. Але і не думаю, што атрымаю адпіску. Матывацыя "вяду расследванне" ў дачыненні падначаленай структуры альбо ўласна "сябе любімых" хоць трошачкі ўзбуджае і ўразумляе.

*Лістапад 2016 г. - сакавік 2017 г.*

# *Соф'я Любанец*

## У СЯБРОЎСТВЕ З МУЗАМІ

*Збіраючыся на сустрэчу з былым настаўнікам рускай мовы і літаратуры Сноўскай СШ Антонам Пятровічам Валевачом, якому назаўтра спаўнялася 90 гадоў, я доўга вырашала, якой тэме аддаць перавагу ў нашай гутарцы. Любові да дзяцей? Захапленню паэзіяй? Сакрэтам даўгалецця?*

*Аказалася, што і гэта далёка не ўсё, чым можа падзяліцца гэты цікавы чалавек.*

*Але спачатку - аб усім па парадку.*

Антон Пятровіч нарадзіўся ў Старых Навасёлках у звычайнай сялянскай сям'і, але з дзяцінства адчуваў прагу да навукі. Бацькі падтрымлівалі імкненне сына вучыцца, і ён паспяхова скончыў сем класаў польскай школы. Імпэту дабавілася пасля прыходу Савецкай улады. У Стоўбцах адкрыліся 6-месячныя настаўніцкія курсы, якія, па прызнанні самога Антона Пятровіча, сталі трамплінам для ўсяго яго далейшага жыцця. Затым было Нясвіжскае педвучылішча і філфак Белдзяржуніверсітэта, але ўжо пасля Вялікай Айчыннай.

Перад вайной малады настаўнік паспеў папрацаваць на Стаўб-

цоўшчыне - вёў злучаныя 1-ы і 3-і класы.

Фашысцкая навала парушыла ход спакойнага і, здавалася, такога ўжо наладжанага жыцця. Гады вайны Антон Пятровіч і зараз не можа ўзгадваць без слёз. Разбурэнні, бамбёжкі, гібель старэйшага брата і многіх добрых знаёмых аднавяскоўцаў і зараз з болем жывуць ва ўспамінах. У 1944-м, пасля вызвалення Беларусі, ён, як і іншыя яго равеснікі, з'явіўся ў ваенкамат, развітаўшыся з бацькамі. Як тады здавалася, назаўсёды. І тут пачуў нечаканае: "Вас не возьмем". Аказалася, што выйшаў загад не браць на фронт настаўнікаў. Савецкая ўлада клапацілася аб падрастаючым пакаленні - трэба было вучыць дзяцей. Так у тым далёкім і вельмі няпростым 44-м Антон Пятровіч трапіў не на фронт, а ў Навасёлкаўскую пачатковую школу загадчыкам. Затым 4 гады ўзначальваў Высакаліпскую сямігодку, а ў 1954 годзе быў пераведзены настаўнікам рускай мовы і літаратуры ў Сноўскую сярэднюю школу, якой і прысвяціў 22 гады жыцця, працуючы і проста настаўнікам, і намеснікам дырэктара па вучэбнай рабоце.

Захапленне літаратурай, асабліва паэзіяй, якое педагог з натхненнем перадаваў вучням, прывяло і яго самога да спробаў пісаць. Толькі падчас работы з дзецьмі, як прызнаўся мой суразмоўца, на вершы было вельмі мала часу. Лягчэй атрымлівалася проза - артыкулы Антона Пятровіча, прысвечаныя ў большасці сваёй школе і школьнаму жыццю, часта друкаваліся ў "раёнцы", а таксама ў газетах "Мінская праўда", "Настаўніцкая", часопісе "Народная асвета".

Побач з любоўю да паэзіі ў яго душы з маленства жыла і вялікая любоў да музыкі. Дзякуючы аднаму з настаўнікаў польскай школы, які некалі за адну зіму навучыў вясковага хлапчука іграць на скрыпцы і растлумачыў нотную грамату, Антон Пятровіч захаваў прыхільнасць да гэтага інструмента на ўсё жыццё. Затым пакрысе асвоіў і іншыя, "заразіўшы" гэтым захапленнем і сваю сям'ю: жонку Галіну Казіміраўну навучыў іграць на гітары, сына Антона - на баяне, а Зыгмунда - на скрыпцы. Разам з роднымі часта ўдзельнічаў у конкурсах мастацкай самадзейнасці. Давялося нават выступаць у Менску на рэспубліканскім аглядзе самадзейнай творчасці вясковай моладзі. Папуры з беларускіх народных песень і танцаў, што выконвала сям"я Валевачоў, нават гучала на рэспубліканскім радыё, якое давала рэпартаж з мерапрыемства. Актыўнымі ўдзельнікамі мясцовай самадзейнасці былі і вучні Антона Пятровіча, якіх ён усяляк падтрымліваў у іх творчых пачынаннях. Так, у школе нават быў выдадзены зборнік з вучнёўскіх вершаў, надрукаваных на звычайнай машынцы, толькі ў настаўніка ён, на жаль, не захаваўся.

Час, як вядома, няўмольны. Настала хвіліна расставання са

школай, аб рабоце ў якой зараз нагадваюць шматлікія граматы і падзякі ад раённага і абласнога аддзелаў адукацыі, што беражліва захоўваюцца ў архіве сям'і. Аднак, няма, як кажуць, ліха без дабра. На пенсіі, як з усмешкай зазначыў Антон Пятровіч, стала больш часу для любімага захаплення, якое прывяло яго ў раённае літаратурна-музычнае аб,яднанне "Валошкі".



*- Музыка і паэзія - гэта тое, без чаго я не ўяўляю сабе жыцця,* - сказаў мой суразмоўца ў нашай гутарцы. *- Яны радуюць, падтрымліваюць. Кожны новы надрукаваны верш - сапраўднае свята для мяне. А калі яшчэ людзі гавораць, што любяць чытаць мае вершы, што яны кранаюць душу і абуджаюць добрыя пачуцці, то гэта для мяне - найвышэйшая ўхвала.*

Дарэчы, над вершамі Антон Пятровіч працуе доўга. Перакрэслівае, папраўляе.

*- Проста нейкі баласт не павінен ісці людзям,* - лічыць ён. *- Паэзія - справа тонкая, і каб крануць чыю-небудзь душу, твор павінен быць адпрацаваны.*

А на пытанне, як жа прыходзіць верш, адказаў не адразу. Задумаўся, вымавіў:

*- Гэта цяжка растлумачыць словамі. Гэта нешта незвычайнае. Вось узнікне нейкая думка, і з'яўляецца адчуванне, што трэба пра яе напісаць. Пакуль не напішаш - няма спакою. Як быццам сядзіць у зародышы нешта, чаму трэба выбрацца наверх, і толькі чакае штур-шка, каб нарадзіцца ў словах. А бывае, нейкая знешняя падзея так закранае душу, што таксама з'яўляецца верш. Так, напрыклад, атрымаўся верш "Памяці М.А. Карчміта", дзе я выказаў сваё захапленне гэтым чалавекам і горыч ад яго страты.*

Дзеля справядлівасці трэба адзначыць, што адносіны паміж

людзьмі і Вялікая Айчынная вайна - галоўная тэма ў творчасці Антона Пятровіча. І раскрывае ён іх (асабліва першую) вельмі разнастайна: то задуменна-элегічным радком, то палымяна-ўсхваляваным, а то і смяшліва-сатырычным. Але ў гэтым паважаны чытач зможа пераканацца і сам, пазнаёміўшыся з вершамі.

Памятаючы пра "юбілейную" нагоду сваёй сустрэчы з Антонам Пятровічам, я, вядома ж, не магла не спытацца аб сакрэце яго даўгалецця. У чым ён - у пастаянным сяброўстве з музамі паэзіі і музыкі, у захапленні сваёй працай, ці яшчэ ў нейкіх з'явах жыцця? Адказ быў вельмі просты. Гэта - добрая сям'я. Антон Пятровіч і яго жонка Галіна Казіміраўна пражылі разам ужо 64 гады. Разам працавалі ў адной школе (ён - настаўнікам, а яна - бібліятэкарам), разам вялі хатнюю гаспадарку, разам выступалі на канцэртах, разам пасля выхаду на заслужаны адпачынак шмат гадоў хадзілі на групу здароўя, якую вялі тады ў сноўскай школе настаўнікі фізкультуры Аляксандр Шумейка і Аляксандр Компель. Гэтую групу наведвалі не толькі настаўнікі-пенсіянеры, але і людзі іншых прафесій. Там тры разы на тыдзень займаліся гімнастычнымі практыкаваннямі, гулялі ў валейбол, плавалі ў басейне, атрымлівалі шмат карысных парад ад урача Аляксандра Махнача, які таксама хадзіў у групу.

*- І зараз мы кожную раніцу пачынаем з гімнастыкі,* - сказаў Антон Пятровіч. - *Жонка ў адным пакоі, я - у другім, каб не замінаць адно аднаму. Напэўна, усё гэта і тое, што паміж намі заўсёды былі павага, старанне саступіць, зразумець і падтрымаць адно аднаго, і дапамагло нам дажыць да гэтага дня.*

Усмешка Галіны Казіміраўны, якая са згодай ківала галавой у такт словам мужа, пацвердзіла, што ўсё сказанае - праўда.

Яны выгадавалі двух цудоўных сыноў, старэйшы стаў спецыялістам у радыёэлектроніцы, малодшы - ваенным. Сыны падарылі бацькам чатырох унукаў, а тыя, у сваю чаргу, - пяцёра праўнукаў.

Дарэчы, Антон Пятровіч і зараз прысвячае сваёй спадарожніцы жыцця вершы, чытаючы якія, цяжка здагадацца, што іх аўтару - дзевяць дзясяткаў гадоў. Не два, не тры, а дзевяць. Удумайцеся ў гэту лічбу.

… А на развітанне Антон Пятровіч зайграў па маёй просьбе на скрыпцы. Гучалі родныя беларускія мелодыі - то заліхвацкі танцавальныя, то задуменна лірычныя - але на самай справе аднолькавыя ў галоўным: скрыпка спявала мелодыю Любові і Жыцця, якія, па вялікім рахунку, працягваюцца бясконца і не існуюць адно без аднаго.

*Антон ВАЛЯВАЧ*

## Незабыўны сябар мой!

*Аднасяльчаніну*
*А.В. Платуну прысвячаю*

Незабыўны сябар мой!
Узяла цябе вайна.
А мне чутны голас твой,
Поплеч ты са мной здаўна.

Неразлучны сябар мой!
За Радзіму бой ты вёў.
Хоць крывавы шлях быў твой -
Да Берліна аж дайшоў.

Неацэнны сябар мой!
Часта боль душу сячэ.
Ды агонь сагрэе твой -
Светла мне, жыву яшчэ.

Незаменны сябар мой!
Будзе ў шчасці твой народ
Ў Беларусі маладой.
Жыць-квітнець ёй з году ў год!

Спі спакойна, сябар мой!
Ўжо не будзе больш трывог.
Кветкі прынясём вясной,
Бо Айчыну ты збярог.

## Дзівосны свет музыкі

Дастаў музыкант сваю скрыпку,
І плаўна павёў ён смычком.
Я моўчкі стаяў пад акном -
Ён доўга іграў, без упынку.

Здавалася, бездапаможна
Пакутуе хтосьці жывы.
Так жаласны плач быў струны,
Што стала ў душы
мне трывожна.

Стаю я і слухаю міла.
Здаецца, што не да людзей
Звяртаецца скрыпка - вышэй,
Да тайнай нябеснае сілы,

Адчуць можа толькі якая
І боль, і маленне яе…
А скрыпка нястомна пяе.
То сціхне на міг, то рыдае.

Спявала яна і стагнала,
Малілася й плакала зноў.
І гукі ляцелі - без слоў,
А сэрца маё запалала.

Стаяў пад акном я здранцвела…
Ў дзяцінстве ўсё гэта было,
Цяпер на ўспамін
зноў прыйшло,
Калі ўжо жыццё праляцела.

Адкрыўся мне свет тады новы,
Дзівосны свет музыкі той…
І сэрцам я рад, і душой -
Ён шлях асвятліў мне жыццёвы.

## Ратуе людзей чалавечнасць

*Адносіны да дзяцей -*
*беспамылковая мерка*
*духоўнай вартасці чалавека.*
***Янка Брыль.***

Хвалюецца мора ля Ялты,
Шумяць экзатычныя дрэвы.
Дзяўчынка, убраная ў банты,
Нам светлыя дорыць напевы.

- Дачка ў вас вясёлая надта.
- Пацешная, любім яе мы,
І вучыцца ў школе выдатна,
Не маем ніякай праблемы.

- Ў бацькоў добрых -
добрыя дзеці.
- Ды каб жа бацькі!..
Мы - чужыя, -
Сказаў мне курортнік.
- На свеце
Бываюць бацькі і такія.

Аднойчы ў парку дзяўчынка
У рваных пялёнках ляжала.
Узялі мы сабе сірацінку,
І плакаць яна перастала.

Расчулілі моцна суседзі,
Кранула мяне іх сардэчнасць:
Святая святых - гэта дзеці.
Ратуе людзей чалавечнасць.

…Хвалюецца мора ля Ялты,
Шумяць экзатычныя дрэвы,
Дзяўчынка, убраная ў банты,
Нам светлыя дорыць напевы.

**Пачатак вясны**

Ў вільготнай,
бясснежнай прасторы
Пакінулі шапкі краты.
Вясна йдзе. І чорныя норы
Раззявілі дзіркі-раты.

Вось яшчарка жоўтая жвава
Шмыгнула у корань сасны.
І цешыцца шчыра, і рада,
Што дажыла да вясны…

А сонца ўсё грэе, шчыруе,
І ясны наскрозь далягляд.
Гняздо пакрысе рамантуе
Зноў бусел - наш кватарант.

І поступам плаўным, паважным
У зараснік качар імкнецца,
І з гонарам яўным, адважным
Ён з качкаю хоча сустрэцца.

І вось прытаіліся двое,
Харомамі свет ім здаецца.
Заціхлі ў чаканні абое,
Чарот нават не зварухнецца…

Па сцежках у парку вясенніх
Гуляюць за парамі пары.
Ім радасць цяпер і вяселле -
Ці яснае неба, ці хмары.

**Першы блін камяком**

Задумаў ажаніцца Станскі,
Змяніць жыцця сямейны лад.
На шлюб,
пакуль што грамадзянскі,
Марына згоду ўжо дала.

Сказала маці: - Павянчацца
Патрэбна вам было б і ў ЗАГС.
- Вы можаце не хвалявацца,
Бо гэта ж пробны
шлюб для нас…

Ўзышла Венера іх хоць ясна,
Пацехі ж - толькі два гады:
Рамантыка кахання згасла,
Нудота, дзеткі, нелады…

Прайшлі праверку паспяхова:
Марына з дзецьмі -
ў бацькаў дом.
А Станскі жэніцца нанова,
Бо першы блін быў камяком.

# *Наталля Плакса*

## СЕЛЯНІН З ДУШОЙ ПАЭТА

*Едучы міма, кінула позірк на знаёмую сядзібу: новы гаспадар прыбраў на мяжы старадрэвіну-грушу. Акурат збіралася зацвісці, здзівіць вясновай абновай. "Ай-яй, - зашкадавала я. - На аднаго паэта будзе менш".*

*Першапачатковы струменьчык мастацтва ва ўсіх яго праявах - вялікае душэўнае ўзрушэнне. Яно выяўляе творцу, які словам ці колерам, лініяй ці мелодыяй хоча занатаваць для вечнасці жывое, і таму нявечнае, імгненне.*

*Зацвіла груша, дождджык выпойвае поле, цёплым сырадоем пацёк над поплаўцам вечаровы туман, ходзіць у жыце ранак босы - і "расчульвалася да дна" перад зямной красой сэрца юшавіцкага паэта Івана Гурбана... складаліся вершы.*

Жыццё ў 77 гадоў пражыў нібыта звычайнае. Як ва ўсіх. Як у кожнага. Беднаватае дзяцінства. Скончыў у 1938 годзе 7 класаў польскай школкі, перажыў вайну, у 1950 годзе атрымаў пасведчанне аб заканчэнні Ўсесаюзных уліковых курсаў (аддзяленне рэвізораў), працаваў па спецыяльнасці ў мясцовым калгасе, пасля ў Нясвіжскай МТС, а яшчэ - загадчыкам магазіна, старшынём Юшавіцкага сельскага савета. Гэтыя біяграфічныя звесткі падаў сам Іван Яфімавіч у лісце,

дасланым яшчэ ў 1995 годзе на адрас літаратурна-краязнаўчага школьнага гуртка, з удзельнікамі якога мы стваралі тады зкспазіцыю "Літаратурная Нясвіжчына".

Ды за радкамі ўзгаданага ліста засталося шмат з яго лёсу. Не напісаў Іван Яфімавіч, як пазбаўлены быў пасады старшыні сельскага савета - не выканаў загад спілаваць і скінуць крыж з царквы; як яшчэ раней, у гады вайны, перахварэў на тыф і цудам выжыў, праляжаў тры тыдні амаль у непрытомнасці; як там жа, у Растове-на-Доне, дзе давялося працаваць на аднаўленні вугальных шахтаў, сустрэў аднойчы вешчуна, які, апрача іншых прадказанняў, заўважыў: "Ёсць у цябе нейкі дар, толькі не магу дакладна сказаць які".

**Дар**

Тым невядомым дарам быў паэтычны талент, што праявіўся, вельмі рана, калі вучыўся ў польскай школе, а яго настаўнікам быў вядомы ў будучым пісьменнік Пятро Бітэль. Літаратурныя спробы, чым далей, тым больш захаплялі. І ўжо ў майскім нумары часопіса "Работніца і сялянка" за 1949 год з'яўляецца першая публікацыя - верш "Пейзаж ураджаю". Пазней творы Івана Гурбана пачалі рэгулярна друкавацца ў нясвіжскай раённай газеце, "Звяздзе", "Савецкай Беларусі", "Сельскай газеце", часопісах "Маладосць", "Полымя", "Вожык", "Бярозка". На думку ж рэдактара часопіса "Вясёлка", менавіта пасля публікацыі ў гэтым выданні прыйшло да паэта сапраўднае прызнанне, бо *"ў дзяцей з'явіўся не проста новы аўтар, а мудры настаўнік, дзед-усёвед, верны сябар".* У 1979 годзе зведаў паэт шчасце трымаць у руках першы свой зборнік "Чубаценькі будзільнік". Пасля былі яшчэ два - "Пахі вясны" і "Калі ветрык спачывае", а таксама заўсёдныя публікацыі ў калектыўных зборніках, што выдаваліся на Нясвіжчыне. У 1994 годзе наш зямляк быў прыняты ў Саюз пісьменнікаў Беларусі. *"Збылася мэта ўсяго жыцця - быць прызнаным сярод таварышаў па пяры*, - піша пра тую падзею сын Анатоль. - *Яго віншавалі народныя пісьменнікі Іван Шамякін, Янка Брыль і многія іншыя. Я стаяў побач, бачыў яго шчаслівыя вочы... Да гэтага ён ішоў 45 гадоў".* Пазней падрыхтаваны былі Іванам Гурбанам яшчэ тры зборнікі для дарослага чытача, але выдаць іх не давялося. 1траўня 1999 года паэта не стала. Пахавалі яго на могілках роднай вёскі. Помнік з выявай творцы за пісьмовым сталом высіцца ля самай дарогі, па якой спяшаюцца на працу вяскоўцы. І здаецца, што ён не пакінуў гэты свет, глядзіць і цяпер на роднае наваколле ўдумлівым позіркам летапісца вясковага жыцця.

## Вясковы паэт

Гэтае азначэнне замацавалася за Іванам Гурбанам. Ён араў зямлю, саджаў агарод, амаль да апошніх дзён трымаў карову, сам даіў яе, даглядаў садок - жыў клопатамі працавітага і гаспадарлівага вяскоўца. "Сцяжыны ў полі як жывыя вены майго сялянскага жыцця-быцця", - пісаў ён, прызнаючы сваю крэўную сувязь з вёскай. А таму і вобразы, і тэмы сваіх твораў браў ад зямлі: ад свежай раллі, духмянай сенажаці, жытнёвага палетка. Гэтую асаблівасць паэзіі Івана Гурбана выдзяляе ў вершы-прысвячэнні "Іванава душа" паэт Мікола Маляўка:

*Як чытаў, дык пахлі вершы*
*І падснежнікамі першымі,*
*І раллёй, узнятай плугам,*
*І рачной вадою, і зялёным лугам...*

Паэтычны свет Івана Гурбана - гэта свет сялянскай працы. Працуюць усе: ветрык (“гоніць на жытнёвы палетак дажджавыя хмаркі”), туман ("цёплай коўдрай саграває травы першыя ў расе"), каса ("корм рыхтуе для жывёлы"), плуг ("у працы шчыры хват"), і працавіты ткач-павук ("на гары праспаўся ды за працу ўзяўся").

*А вечар, як і дзень,*
*Ён мае свой занятак;*
*Паціхеньку ідзе*
*Пагушкаць немаўлятак.*
*У кожнае жытло*
*Зайсці руплівцу трэба,*
*Даць зорачкам святло,*
*Каб упрыгожыць неба.*

У зборніках нашага земляка намаляваны, гаворачы словамі Уладзіміра Караткевіча, "прытульны, добры, цёплы, наш беларускі свет". Вершы, адрасаваныя найперш маленькім чытачам, дапамагаюць лепш ведаць роднае наваколле, бачыць яго прыгажосць, спрыяюць выхаванню пачуцця любові да свайго краю. З цёплага выраю наперакор снягам спяшаецца ў "кут свой дарагі" жаўрук:

*І хоць спрыяла выраю цяпло,*
*Ён прыляцеў да родных ніў, дадому,*
*Глядзіць з нябёс на поле, на сяло,*
*І спеўна так, і радасна малому!*

Большасць з апублікаванага Іванам Гурбанам - творы для

дзяцей, займальныя, вясёлыя, гарэзлівыя, павучальныя. Аднак сустракаліся аматарам паэзіі радкі, што гучалі стала і важка. Прамоўленае ў іх было праверана жыццём, уласным вопытам, сэрцам аўтара. І не дзіўна, што Ўладзімір Ліпскі прыгадвае юшавіцкага творцу як "прыкметнага несвіжаніна", лічыць яго паэзію "не вельмі кідкай і моднай, але жыццёва выверанай, з высокай мараллю і адрасаванай усім, хто хоча стаць Чалавекам".

*Любіць цябе святое маю права,*
*Зямля бацькоў і прадзедаў маіх!*
*Іх каранёў глыбокіх я - атава,*
*Што сок жывы бярэ з крыніц тваіх.*

Да глыбокадумных высноў паэт-філосаф прыходзіў, разважаючы падчас пра вельмі простыя рэчы, прадметы і з'явы сялянскага побыту, вясковай паўсядзённасці. Яны нярэдка выводзіліся ў назвы вершаў - "Будзільнік", "Рунь", "Паляўнічая стрэльба", "Попел", "Лісце дуба", "Насілкі". Жыццёвая трываласць і моц, важкасць і каштоўнасць усяго зямнога - адзін з тэматычных кірункаў зборніка "Паэт". Ён выдадзены да 90-годдзя Івана Гурбана і змяшчае шмат з таго, што захоўвалася доўгія гады, дзякуючы родным, толькі ў рукапісах.

*Надзелен попел моцным нечым,*
*Ён не знікае ў небыццё, -*
*Каб шар зямны вагі не зменшыў,*
*Каб век на ім расло жыццё!*

З вершаў Івана Гурбана паўстае асоба чалавека цвёрдых перакананняў, аптыміста і жыццялюба, глыбока веруючага, нястомнага рупліўца-працаўніка, назіральнага і разважлівага, надзвычай добрага і далікатнага, дасціпнага, з народнай хітрынкай і гумарам. Да гэтых азначэнняў дадам радкі з артыкула Ў. Ліпскага "Паэтычная душа Івана Гурбана": "Ён у маёй памяці - сціплы, негаваркі, паважлівы, шчодры, сяброўскі,… што ведаў кошт хлебу, любіў зямны рай, бачыў хараство наўкол, умеў цаніць людзей, 54выхоўваў дзяцей па сваёй сялянскай педагогіцы".

## З успамінаў

У краязнаўчым нататніку захоўваю шмат добрых слоў пра паэта, якія дапаўняюць яго вобраз. Ад Жанны Мікалаеўны Грабоўскай запісала пра яе аднавяскоўца: *"Хараша жыў з людзьмі, нікому крыўды не чыніў. Грушы былі ў яго вельмі смачныя, яблыкі, слівы. Пасём*

*каровы за яго сядзібай - абавязкова прынясе, пачастуе".* Сусед Іосіф Іосіфавіч Падамацька ўспамінаў, што была ў Івана Яфімавіча стрэльба і на паляванне ён хадзіў, але ніколі ніякай дзічыны дамоў не прыносіў: яго паляванне было не што іншае, як творчая вандроўка дзеля паэтычных трафеяў. Марыя Аляксандраўна Падамацька прыгадвала, што яе сусед часта тэлефанаваў да Паўлюка Пранузы, што быў ён заўсёды, калі завітваў да яе, нейкі неспакойны, усхваляваны, нібы чымсьці ўстрывожаны. І як пасля гэтага не прыгадаць словы П. Панчанкі: "Я вершы пішу, бо душа ўстрывожана любоўю і болем за кожнага з вас". Яшчэ далікатна дзялілася назіраннямі суседка: *"Быў ён нібыта адзінокі, хоць дзеці і ўнукі любілі яго, не забывалі, часта наведваліся".* Але ж і гэта не ў навіну: творчы чалавек крыху адасоблены ад людзей, бо любая творчасць, а тым больш паэзія, - інтымны працэс, засяроджанасць у сабе, напружаная работа душы і розуму. Паэт Мікола Чарняўскі ўхваляе заўсёднае імкненне Івана Яфімавіча вучыцца, удасканальвацца. Сын Анатоль гаворыць пра непадзельнае суседства ў бацькавым жыцці вясковай працы і творчасці: *"Пасём каровы, я - у адным канцы, бацька - у другім. Паглядаю, а ён увесь дзень не толькі за статкам сочыць, але яшчэ ўсё нешта запісвае. Ручка і папера былі заўсёды пры ім."* Дачка Людміла кажа, што менавіта родных бачыў бацька першымі слухачамі сваіх новых вершаў, глыбока паважае за набожнасць: *"Не памаліўшыся, за стол не садзіўся".* Унук Аляксанр Ратомскі сцвярджае, што дзед Іван для яго ўзор жыццёвага імпэту, дзейснасці, няўрымслівасці ва ўсім. Для другога ўнука, Далера Асоева, дзед таксама прыклад, бо чаму ж і ён у наш прагматычны час заўзята складае верш за вершам.

Памятаю, як дачка Ларыса, каб падараваць удзельнікам літаратурна-краязнаўчага гуртка зборнік "Чубаценькі будзільнік", які мела ў адзіным экземпляры, зрабіла выдатную ксеракопію, афарміла ідэальнай самаробнай кніжачкай. Кранае, што дзеці і ўнукі за вялікую каштоўнасць маюць той бацькаў і дзедаў дар, за дарагую спадчыну берагуць яго літаратурны набытак. Не прадалі, не перайначылі, даглядаюць і юшавіцкую сядзібу, хоць гаспадара няма амаль дваццаць гадоў.

І груша непадалёк ад хаты як некалі, так і цяпер кіпіць густой квеценню, гудзе пчоламі, духменіць адвечным водарам… каб не звяліся на нашай зямлі паэты.

## *Алег Пракарына*

### ЖЫЛІ Ў СНОВЕ ЯНКА КУПАЛА І ПАН БЫКОЎСКІ

Пакольк ў гэтым годзе Беларусь адзначае юбілей класікаў нашай літаратуры - Янкі Купалы і Якуба Коласа, хацелася б сказаць пра іх некаторы жыццёвы перыяд у нашым Нясвіжскім раёне.

**Якуб Колас** і нарадзіўся недалёка ад Нясвіжа. У 1898-1902 гадах вычыўся ў Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі, якая знаходзілася ў былым будынку Дамініканскага кляштара і зараз прыкладна там студэнцкі інтэрнат гэтага ж вучылішча - Нясвіжскага педагагічнага.

А, **Янка Купала** - працаваў у вёсцы Сноў памочнікам вінакура, пробным майстрам (меў пры сабе срэбную чарку з якой каштаваў на якасць выраблены вына) - з вясны 1907 па лета 1908 года. Трапіў ён у Сноў па запрашэнні свайго сябра - мясцовага жыхара Ўладзіслава Быкоўскага - яны разам вучыліся ў Менску на вінакура. Я. Купала

шукаў працу і Ў. Быкоўскі напісаў яму - што ёсць магчымасць працаваць у бровары памешчыка Марціна Гартынга. Бровар знаходзіўся ў Дольным Снове. Наогул, в.Сноў была падзелена на такія часткі - Сноў, Дольны Сноў, Горны Сноў, Новы Сноў, амаль як у Бібліі. Усе гэтыя назвы былі аб'яднаны на пачатку 60-х агульнаю назваю Сноў.

Я. Купалу прыязна і з разуменнем творчых памкненняў сустрэў яго "начальнік вінакурні" Сярніцкі. Яго жонцы Міраславе паэт прысвяціў верш -"З песень нядолі". Было ў Снове і каханне, сноўскай прыгажуні Купала прысвяціў верш -"На адвітанне". А пан Быкоўскі ў "Паўлінцы" - правобраз сноўскага сябра. Бровар, дзе працаваў Янка Купала стаяў каля даволі вялікага Сінілаўскага возера, якое зараз нажаль асушана. Да сярэдзіны 70-х, там за возерам быў вялікі курган на якім і я ў дзяцінстве паліў кастры, і там адзначалася свята Купалле - памятаю як ляцелі з гары палаючыя колы. Гэты курган быў там, дзе зараз, толькі побач, засталіся могілкі польскіх і рускіх салдат з 1-й сусветнай вайны. І ўсе гэтыя краявіды, так скажам, разам з салаўінымі спевамі спрыялі Купалаўскай паэзіі.

Зараз на месцы бровара, дзе працаваў Янка Купала разрастаюцца будынкі Сноўскага мясакамбіната, але засталася з тых часоў-2-х паверхавая лядоўня, або склеп ці склад і дзве з паловай стужкі ліп, якія памятаюць паэта, а каля прахадной мясакамбіната ляжыць сціплы мемарыяльны камень, што сведчыць аб тагачаснай працы паэта. Дарэчы - жыве ў Снове дачка Ўладзіслава Быкоўскага - Янка, або Яніна Ўладіславаўна - ёй зараз 80 год. Яе і назвалі ў гонар паэта, яна можа расказаць, як Янка Купала яшчэ раз прыязджаў у Сноў - гасцяваў у Быкоўскага… і многае іншае, так мовіць - з сямейнага альбома. Але пра гэта распавяду іншым разам, калі будзе трэба.

*(Напісана 10 гадоў назад.)*

*Валянціна Шчарбакова*

# ЗУСІМ НЕ КАЗАЧНАЯ ГІСТОРЫЯ

*Трыпціх*

## *Нясвіжскімі сцежкамі*

Маленькі дамок на пачатку вуліцы Новай у Нясвіжы. На першы погляд, звычайны: невялікі сад, пасаджаны клапатлівымі рукамі гаспадароў, кусты ружаў, якія радуюць сваімі цудоўнымі, колеру чысціні, кветкамі ўлетку. А зараз замест кветак чырвоныя ягады. Лістоў ужо амаль няма, а яны весяляць вока, зіхацяць яскрава і горача сярод слязлівага асенняга наваколля.

Дом стаіць на ўзгорку, крыху ў баку ад асвальтаванай дарогі, а да яго вядзе невялічкая сцежка. Гаспадары ўжо мала выходзяць з дому, а сцежка заўсёды жывая, нібыта тут жыве вялікая сям'я. Калісьці я прыходзіла ў гэты дом, каб наведаць сваіх настаўнікаў, Халецкіх Георгія Афанасевіча і Яўгенію Іванаўну, атрымаць тлумачэнні на незразумелыя моманты ў такіх складаных навуках, як матэматыка і філалогія. Зараз я прыхожу ў гэты дом, каб вучыцца жыццю. А вучыцца

ёсць у каго. За плячыма гэтых людзей вялікі вопыт, не толькі педагагічны, але і жыццёвы. Разам яны амаль шэсцьдзесят гадоў, а трэцяга лістапада гаспадар дома, ганаровы грамадзянін нашага горада, ветэран і інвалід Вялікай Айчыннай вайны 2-ой групы Георгій Афанасевіч Халецкі будзе святкаваць свой дзевяностагадовы юбілей. Дзевяноста гадоў… Колькі пражыта, зроблена, выпакутавана, прычакана, здзейснена…

Не так даўно я зноў завітала да Георгія Афанасевіча і Яўгеніі Іванаўны, каб у чарговы раз атрымаць новы жыццёвы ўрок. Георгій Афанасьевіч расказваў пра сябе.

Ён нарадзіўся на Віцебшчыне, у вёсцы Мяшчэнцы Сенненскага раёна.

*- Вёсачка невялікая, хат пятнаццаць ці дваццаць. А цяпер, магчыма, і зусім знікчэмнела,* - гаворыць Георгій Афанасьевіч. *- Бацька мой калісьці скончыў чатыры класы царкоўна-прыходскага вучылішча, а ў маці і таго не было, адзін ці два класы. Але яна была вельмі разумнай жанчынай. Спяваць любіла і спявала прыгожа, але з памылкамі. Яе папраўляў бацька, таму, што ў яго ўсё ж - такі чатыры класы адукацыі, - жартуе мой суразмоўца.*

Бацька Георгія Афанасевіча быў даволі пісьменным чалавекам. Доўгі час працаваў рахункаводам у калгасе. Чатыры кіламетры ад Мяшчэнцаў быў такі саўгас Беліца. Афанасій Антонавіч пайшоў туды і стаў заўгандлем, крыху працаваў прадаўцом у магазіне, а пасля зноў вярнуўся ў Мяшчэнцы.

Бацька хоць і невялікай адукацыі, але быў вялікі мастак у розных справах: ён быў і сталяр, і цясляр, і шавец, і бляхар. Ён браўся за ўсё і ўсё ў яго атрымлівалася. Нават у Мяшчэнцах ён адзін пабудаваў хату. Сам закатваў бярвенне на дванаццаты ці трынаццаты вянец: перакідваў вяроўкі, сам узлазіў на палаткі, цягнуў, круціў гэтае бервяно і зацягваў наверх. Сам пакрыў хату саломай. Рабіў гэта ўсё акуратна. Хата з саламянай страхой шмат цяпла захоўвала. І печ сам зрабіў. У яго не было ніколі вольнага часу. Усё рабіў і рабіў нешта. Стоміцца, адпачне крыху, і зноў за справу.

Але маці вельмі хацела жыць у горадзе, стаць гараджанкай. Яна схіліла бацьку да таго, каб ён паехаў у Оршу, дзесьці, мусіць, у 1939 годзе, і купіў там хату. Яны распрадалі ўсю гаспадарку, прадалі хату. Грошай набралася, чатыры тысячы рублёў, якраз на хату ў горадзе. Перад вайной Георгій Афанасевіч закончыў восем класаў.

Калі пачалася вайна, немцы з акупаваных тэрыторый бралі моладзь і везлі ў Германію. Нямецкія рабочыя былі з арміяй на фронце, а вытворчасць павінна была працаваць. Каб не трапіць на чужыну,

многія шукалі паратунку ў партызанскіх атрадах. Такі ж шлях выбраў для сябе і Георгій Афанасевіч. Ён ваяваў ў партызанскім атрадзе імя Кутузава 1-ай партызанскай брыгады імя Заслонава.

**Г.А. Халецкі ўспамінае:**

*- Беларусь пад акупацыю трапіла адразу. Як вайна пачалася, немцы пайшлі вельмі хутка. Скора яны апынуліся пад Масквой, на Волзе, пад Сталінградам. Японцы на Ўсходзе таксама сачылі, як пойдуць справы. Калі б Сталінград удалося немцам захапіць, японцы таксама напалі б на Савецкі Саюз. Але немцам не ўдалося ўзяць Сталінград. Вельмі моцныя баі ішлі на Курскай дузе, пад Курскам, пад Сталінградам. Чаму немцы хацелі ўзяць Сталінград? Таму, што каспійская нафта з Каўказа праз Каспій ішла па Волзе і забяспечвала цэнтральныя раёны Расіі. І вось, калі перагарадзілі Сталінград, баі ішлі, гэта справа перапынілася. Немцы бачылі, што, калі пазбавіць Савецкую дзяржаву нафты, газу, разам з тым бензіну, газы, значыць скарэй можна б было дабіцца перамогі. Баі ішлі доўгія і жорсткія. Але наш народ выстаяў. Нягледзячы на тое, што вялікая частка тэрыторыі была захоплена немцамі, дабіцца перамогі яны не змаглі. Ваенны патэнцыял захопнікаў знік. Дзесьці ў 1943 годзе савецкія войскі былі прадстаўлены на лінію фронта і вайна атрымала зваротны ход. Немцаў пагналі з савецкай тэрыторыі. Пагналі ад Сталінграда, пагналі ад Масквы, а фронт жа цягнуўся на чатыры тысячы кіламетраў, ад Поўначы, ад Мурманска, да Чорнага мора. І гэтыя кіламетры фронту трэба было запоўніць народам, забяспечыць зброяй, і ўстаяць супраць такой арміі, як нямецкая. Бо перад тым, як наступаць на Савецкі Саюз, немцы, можна сказаць, усю Еўропу заваявалі. І Поўнач, і Скандынавію, і Францыю. Але дзякуючы гераізму і мужнасці савецкіх людзей, дзякуючы майстэрству генералітэта Чырвонай арміі ўдалося выстаяць. Немцы пачалі адступаць у 1943 годзе, а ў 1944 годзе тэрыторыя Савецкага Саюза была амаль вызвалена ад нямецкай акупацыі.*

Якраз у гэты час Георгію Афанасевічу споўнілася васямнаццаць гадоў, ішоў дзевятнаццаты і ён быў прызваны на службу ў шэрагі Чырвонай Арміі. Гэта было ў ліпені 1944 года. Ён ваяваў на 3-м Беларускім фронце наводчыкам мінамёта. Браў Кёнігсберг. Двойчы быў паранены. Удзельнічаў у вайне з Японіяй, на першым Далёкаўсходнім фронце.

Г.А. Халецкі ўзнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны І ступені, медалямі "За адвагу", "За ўзяцце Кёнігсберга", "За перамогу над Японіяй" і многімі юбілейнымі медалямі.

*- Праслужыў каля шасці з паловай гадоў,* - працягвае свае ўспаміны былы франтавік. - *З усёй сваёй службы пяць з паловай гадоў я праслужыў на Далёкім Усходзе, у Прыморскім краі, дэмабілізаваўся я з раёна Бухты Находкі. Бухта Находка ад мора, ад Японіі абараняла горад Уладзівасток. Там я апошні час служыў.*

*Прыходзілася мне проста выездам быць ў Манджурыі, у Паўночным Муліне. Пасля заканчэння трохмесячных курсаў шафяроў, я быў стажорам у шафёра...*

Падчас службы Георгій Афанасевіч закончыў курсы сяржанцкага складу і дэмабілізаваўся ў званні старэйшага сяржанта. Ён быў чалавек пісьменны. Будучы сяржантам у арміі, праводзіў палітзаняткі замест афіцэра.

*- Быў камандзір узвода,* - гаворыць Г.А. Халецкі, - *у яго чатыры класы адукацыі, а ў мяне восем. Я яму даваў толькі дакументы падпісваць. Часта прапаноўвалі паступаць у афіцэрскае вучылішча. Але я разумеў, што калі стану афіцэрам, то буду поўнасцю падпарадкоўвацца загаду дзяржавы, часта пераязжаць з аднаго месца службы на другое, не завяду сваю гаспадарку… Нават і сёння, я калі-нікалі сяджу і аналізую, добра я зрабіў ці не добра. Магчыма, з маім учэпістым характарам, у мяне б атрымалася…*

Георгій Афанасевіч выбраў іншы шлях. Са срэбным медалём ён закончыў Школу працоўнай моладзі. Затым - двухгадовы Аршанскі настаўніцкі інстытут. Завочна скончыў фізіка-матэматычны факультэт Магілёўскага настаўніцкага інстытута. Працаваў у заходніх раёнах Беларусі.

*- Працаваць было няпроста,* - працягвае настаўнік. - *Многа было пераросткаў. Тады ж не вучыліся ў вайну. Сядзіць дзе-небудзь у 7-8 класе, а ён ужо кавалер. Настаўніцы прыходзілі з урокаў і плакалі. Але ў мяне заўсёды была дысцыпліна, і я ганарыўся гэтым. Бывала, дзеці забаўляюцца, твораць нешта, а як пачуюць: "Халецкі ідзе!" - усе ціха сядзяць.*

*Я вёў матэматыку і, калі ішлі ўступныя экзамены, заўсёды сачыў, як вучні здаюць мой прадмет. Многія мае вучні паспяхова паступалі, а калі прыязджалі на канікулы, прыходзілі да мяне, мы размаўлялі. Вельмі радаваўся, што яны добра займаюцца па матэматыцы і лічыў, што гэта частка і маёй працы ўкладзена. Я быў патрыётам сваёй Радзімы, і мне не хацелася, каб мае словы не проста, як пусты вецер, недзе зніклі, а паўплывалі на вучня. Мае вучні разумелі, што значыць быць дысцыплінаваным. Вучню патрэбна ведаць, як ён павінен паводзіць на ўроку і што ён павінен рабіць.*

Восем гадоў свайго настаўніцкага стажу Георгій Афанасевіч

зарабіў у Даматканавіцкай сярэдняй школе Клецкага раёна. Туды праз некаторы час, папрацаваўшы да таго дзесьці ў Берасцейскай вобласці, прыехала на працу і яго будучая жонка, Яўгенія Іванаўна. На той час ёй было ўжо 25 гадоў, яму - 32. Маладыя людзі вырашылі аб'яднаць свае лёсы. Яўгенія запрасіла Георгія ў Нясвіж.

Георгій Афанасевіч успамінае:

*- Прыехалі ў Нясвіж, схадзілі ў парк. Сядзелі на ўскрайку возера ад парку. Мне так спадабалася! Прыгожа так вакол. Думаю, мусіць, я тут і затрымаюся, і застануся. І пасля, калі прыйшлі дадому, я падышоў да мамы Яўгеніі Іванаўны і папытаў, ці магу я стаць мужам яе дачкі.*

*Яна згадзілася, і мы распісаліся.*

*У Даматканавічах на той час была вельмі добрая школа. Многія вучні - з дзіцячага дома. Школьнікаў было многа, нават па дватры паралельныя класы. Але дзеці паспяхова паступалі ў вышэйшыя навучальныя ўстановы. Дырэктар, Уласенка Сяргей Дзямідавіч, філолаг па адукацыі, вельмі ўважліва адносіўся да настаўнікаў, быў чалавекам добрым, меў тонкае пачуццё гумару. І праца ў школе ішла, бо кожны настаўнік быў у адказе за веды, якія даваў.*

*- Наш вучань з Даматканавіч, Пётр Кухарчык,* - далучаецца да размовы Яўгенія Іванаўна, *- быў рэктарам БДПУ імя Максіма Танка. Матэматыку ў яго выкладаў Георгій Афанасевіч.*

Праз гады настаўнік і вучань сустрэліся каля помніка Салдату ў Нясвіжскім парку. Абняліся, пацалаваліся. Вучань Халецкіх на той час быў ужо доктарам фізіка-матэматычных навук.

Успомніўся настаўнікам і Міхаіл Паляшчук, ураджэнец Даматканавіч, залаты медаліст, які скончыў Ленінградскі караблебудаўнічы інстытут. Ён спускаў на ваду першы ледакол. А вучань па прозвішчы Лук'янчык пайшоў працаваць на фабрыку "Луч". Ён казаў:

- Яўгенія Іванаўна, першыя, самастойна зробленыя басаножкі будуць Вашы.

Пасля Даматканавіч былі школы нашага раёна, а пасля многія гады Халецкія выкладалі ў Нясвіжы.

Вучні не забываюццая сваіх настаўнікаў, часта іх наведваюць. Першых прыцягвае ў дом па вуліцы Новай вялікая чалавечнасць педагогаў Халецкіх, непадробная цікавасць да іх жыццёвых дасягненняў. А настаўнікі проста не перасталі быць настаўнікамі нават тады, калі сталі пенсіянерамі, і зараз, калі ўжо многія іх вучні дасягнулі пенсійнага ўзросту. Як для бацькоў, дзеці застаюцца дзецьмі ў любым узросце, так і ў Георгія Афанасевіча і Яўгеніі Іванаўны няма "былых" вучняў.

Я папрасіла Георгія Афанасевіча, сказаць штосьці важнае для

сённяшняй моладзі, на што настаўнік адказаў:

*- Я патрыёт сваёй Радзімы. Быў, ёсць і застануся ім да канца сваіх дзён. І па-гэтаму я жадаю, самае галоўнае, каб яны, маладыя людзі, таксама засталіся патрыётамі сваёй Радзімы. Каб не цягнуліся проста за нейкай пасадай ці асалодамі, але найперш спыталі сябе: што я магу, што я зрабіў на гэтай пасадзе для дзяржавы. Тады можна супакоіцца, калі ты па-сапраўднаму выконваеш абавязкі грамадзяніна сваёй краіны. Трэба быць сапраўдным спецыялістам у сваёй справе, каб з тваіх рук выйшла нешта якаснае, каб яно працавала, каб можна было спадзявацца на гэта прыстасаванне ці нейкі іншы вынік тваёй працы.*

Спытала я ў юбіляра, і як маладым людзям найлепш будаваць сямейнае жыццё, што браць за аснову.

*- Які б у цябе характар не быў,* - лічыць Георгій Афанасевіч, - *неабходна, каб у цябе склаліся сямейныя адносіны так, што трэба верыць адзін аднаму, паважаць адзін аднаго, клапаціцца адзін аб адным, перажываць за стан здароўя. Бо лепшага сябра, чым жонка для мужа, ці муж для жонкі, ты не знойдзеш. Трэба, каб у сям'і было ўзаемапаразуменне, згода ва ўсім, клопат адзін аб адным. Калі гэта ёсць, сям'я атрымаецца, будзе існаваць. І дзеці будуць добрыя. А калі гэтага няма, дзеці пасля таксама стануць дрэннымі жонкамі ці мужамі: яны як бы і ў сабе не ўпэўненыя, і другому не вельмі шмат чаго жадаюць.*

Хутка Георгій Афанасевіч будзе прымаць віншаванні і падарункі. Думаю, што іх будзе шмам: ад родных, блізкіх, калег-настаўнікаў, грамадскіх арганізацый. Але мне здаецца, што самы галоўны свой падарунак ён ужо атрымаў. Гэта - яго моцная, надзейная сям'я, любімая жонка, дочкі Марына і Наталля, тры ўнукі і тры праўнучкі, якія вельмі добра засвоілі ўрокі сваіх мудрых бацькоў, дзядулі і бабулі. І мы, паважаныя чытачы, таксама павучымся ў іх шчырасці, любові, адказнасці перад людзьмі і перад Радзімай.

А Георгію Афанасевічу ў такі цудоўны юбілей, хочацца пажадаць здароўя і МНОГІЯ ЛЕТА. Як, дарэчы, і Яўгеніі Іванаўне. Бо яны даўно сталі адным цэлым.

### *Сорак дзён і цэлая вечнасць*

Для Бога ўсе дні роўныя. Зімы, вёсны, лета ці восень. Галоўнае тое, колькі дабра зрабіў чалавек у дні, яму адмераныя, якія Богам ашчадна палічаны. Каму шчодра, каму крыху меней, а каму і зусім скупа. Так, не паспеўшы набрацца моцы, збіраецца чалавек ў вечнае пада-

рожжа.

У сям'і Халецкіх былі дні асаблівыя. Напрыклад, 3 лістапада святкавалі дзень нараджэнне гаспадара, Георгія Афанасьевіча. У розныя гады - па-рознаму. Раней - з дзіцячымі падарункамі, калі-нікалі, на юбілеі, з тостамі і пажаданнямі ад сяброў, пазней - зноў жа з дзіцячымі падарункамі, але дарылі іх ўжо праўнучкі. Да іх далучаліся дзеці, суседзі, блізкія людзі. І ўсім было радасна. Але шчасце, на жаль, вечным не бывае. 2 лістапада бягучага года шчасце стала толькі памяццю, бо Георгій Афанасьевіч пайшоў з гэтага свету. А 3 лістапада ўсе, хто ведаў ветэрана і інваліда Вялікай Айчыннай вайны, ганаровага грамадзяніна горада Нясвіжа, настаўніка прыйшлі, каб развітацца з ім назаўсёды. Сумныя, усхваляваныя прамовы на могілках, апошнія стрэлы як дань пашаны абаронцу сваёй зямлі. А пасля апошняя вячэра, якраз 3 лістапада, у дзень нараджэння. І так многа добрых слоў, цудоўных успамінаў.

Сяджу за памінальным сталом, а ў думках вяртаюся на дваццаць з лішкам гадоў назад. Я збіраюся стаць студэнткай Нясвіжскага педвучылішча. Ранней не было такой лагоды, як паступленне па балу атэстата, трэба было здаваць уступныя іспыты па беларускай мове і матэматыцы. Першы эзамен быў ужо за плячыма, наперадзе чакала матэматыка. У трэцяй школе заўсёды былі добрыя настаўнікі, але некаторыя тэмы па матэматыцы мне не даваліся…

Да аўтобуса было доўга, і я зайшла ва ўнівермаг. Якую сукенку апрану на 1-е верасня, калі паступлю? І… ухапілася за адну і тую ж разам са сваёй настаўніцай, Яўгеніяй Іванаўнай Халецкай. Ніякага дзіва - густы выхоўвала ў нас яна. Пра сукенку, канечне ж, забыліся, узрадаваліся сустрэчы, бо ўжо парадкам не бачыліся. Я расказала пра паступленне.

- Дык прыязджай да нас, - кажа Яўгенія Іванаўна. - Георгій Афанасьевіч з табой пазаймаецца.

На наступны дзень я адправілася да настаўнікаў. Думала, што на гадзінку. Георгій Афанасьевіч сеў на калодку пад яблыняй, побач на нешта села я. І стаў ён тлумачыць незразумелае, паўтараць, здавалася, вельмі вядомае. І так да вечара. Калі-нікалі мянялася месца "дыслакацыі", займаліся за садовым сталом, у доме, і так усе дні да экзамена. Дадому ад'язджала на апошнім аўтобусе, у 21.30. Усё, што было незразумелым за гады навучання ў школе, стала зразумелым пад той яблыняй. Матэматыку здала на выдатна і паступіла…

Вяртаюся ў рэальнасць.

- Матэматыка Халецкага была зразумелая для ўсіх, - кажа былы дырэктар педвучылішча Віталій Канстанцінавіч Раманчук.

І з ім ніхто не спрачаецца. Кожны, хто вучыўся ў Георгія Афанасьевіча, паспытаў гэта на сабе.

Міхаіл Уладзіміравіч Сарычаў успомніў, як неяк папытаўся, чаму Геогій Халецкі абраў менавіта настаўніцкі шлях.

- Пасля вайны сірот засталося многа, дзеці пазбавіліся сваіх бацькоў, і я хацеў вучыць іх, каб добрымі людзьмі сталі.

І Георгій Афанасьевіч вучыў не толькі матэматыцы. Многія ішлі да яго ў нейкія складаныя моманты жыцця, каб папрасіць парады, разам пашукаць выйсця з цяжкага становішча.

Былы вучань Халецкіх, Ігар Антонавіч Ажгірэвіч, па прафесіі слесар-рамонтнік. Рукі ў яго спрытныя, здатны ён да ўсякай працы, але былі моманты, калі парады настаўніка па гаспадарцы вельмі дапамагалі. Вучыў Георгій Афанасьевіч як сад даглядаць, упраўляцца з садовым інструментам. І парады жыццёвыя таксама даваў.

- Зраблю як раіць Георгій Афанасьевіч, усё дабром заканчваецца, - гаворыць Ігар Антонавіч, - І я таксама стараўся дапамагчы настаўнікам. Халецкі абавязкова паглядзіць, як зрабіў. Працай маёй заўсёды быў задаволены.

Георгій Афанасьевіч быў задаволены ўвогуле ўсім. Сям'ёй, працай, калегамі, суседзямі. Ніколі ні ў кога нічога не прасіў. А мог бы, як ветэран. І яго б абавязкова паслухалі. Але найчасцей слухаў ён. Нікога без дапамогі не пакідаў. Ніколі не адмовіў, калі мы запрашалі яго ў бібліятэку падзяліцца ўспамінамі пра пражытыя гады ліхалецця, наведваў школы, раённыя святы. У бібліятэку ён не прыйшоў толькі аднойчы, у траўні гэтага года.

А крыху больш, чым з год таму да яго заехаў намеснік начальніка аддзела ідэалогіі, культуры і па справах моладзі Нясвіжскага райвыканкама, старшыня грамадскага аб'яднання "Белая Русь" Міхаіл Міхайлавіч Мацэль з фатографам Святланай Польскай. Збіраліся ехаць недзе на сустрэчу. Быў пачатак траўня. Хораша цвілі вішні ў садзе Халецкіх. Ад адной застаўся спілаваны камель, але ад яго адыходзілі маладыя пасынкі. Яны таксама цвілі.

- Вось і я, як гэты камель, - Георгій Афанасьевіч пастукаў палачкай па дрэве, - сваё аджыў. Колькі гадоў назад папрасіў вучняў, каб спілавалі старую вішню. Але паглядзіце, колькі пасынкаў. Так і ў мяне: жыццё набліжаецца за свайго заходу, а пасынкаў у мяне многа: дзеці, унукі, праўнукі, вучні…

Святлана зрабіла здымак і яны паехалі туды, дзе іх чакалі.

Зараз на дварэ зіма. Сыпле снег, замятае вуліцы і завулкі. Цёплай коўдрай ухутаны мясцовыя могілкі, нібыта для таго, каб сагрэць усіх, хто там спачывае, нават тых, каму на гэтай зямлі было холадна.

Але зіма не вечная. Не паспеем азірнуцца, як прыйдзе вясна. Зноў расцвітуць вішні, пасаджаныя настаўнікам, а з імі парасткі і пасынкі, нагадваючы пра тое, што тут, на зямлі, жыццё мае толькі пачатак. Працяг жа яго ў Бога. Таму не будзем лічыць дзён, будзем памятаць пра тое, што дабрыня таксама не памірае. Яна жыве ў памяці людзей, якім яна была падаравана і адгукаецца ў іх сэрцах малітвай:

"Супакой, Госпадзі, душу памерлага раба твайго Георгія і даруй яму вечную памяць".

***"Самае галоўнае багацце - мае вучні…"***

У кожнага чалавека сваё разумення шчасця, па-свойму людзі расцэньваюць такія катэгорыі, як багацце, справядлівасць, шчырасць, мудрасць. На долю Яўгеніі Іванаўны Халецкай, настаўніцы з саракагадовым афіцыйным і пажыццёвым неафіцыйным стажам, шчасця выпала шмат. Нібы ў падарунак за перанесеныя пакуты ў гады ваеннага ліхалецця, яна атрымала добрую сям'ю, каханага мужа Георгія Афанасьевіча, двух дачок, якія падаравалі бабулі і дзядулі трох цудоўных унукаў, а затым сям'я папоўнілася яшчэ і траімі праўнучкамі. Што да іншых катэгорый, то пачуццё справядлівасці, усведамленне ўласнай годнасці яна адчувала з дзяцінства. Не любіла, калі пры ёй нехта крыўдзіў слабейшага, не давала ў крыўду і сябе. Яшчэ пяцігадовай дзяўчынкай пазбавіла суседскага хлопчыка зуба за тое, што той нядобра яе называў. Як нядзіўна, пасля яны пасябравалі. А хлопец, стаўшы дарослым грамадзянінам суседняй краіны, нават прывозіў ёй падарункі. Яўгенія, зноў такі, у даўгу не засталася. Разам з мужам яны прымалі сябра дзяцінства ў сваім доме і таксама рыхтавалі для яго сям'і нешта цікавае і карыснае.

Калі цвёрдасць характару Яўгеніі дасталася ад бацькі, то шчырасць перайшла ў спадчыну ад мамы, якая ўсё сваё жыццё старалася ўсіх, хто прыходзіў у яе дом ці звяртаўся па дапамогу, накарміць і абагрэць.

А мудрасць прыйшла з гадамі, багаццем для настаўніцы сталі яе вучні.

Першым месцам працы Яўгеніі Іванаўны была Даматканавіцкая сярэдняя школа. Гэта былі пяцідзесятыя гады. Яўгенія Іванаўна выкладала рускую мову і літаратуру, прыходзілася працаваць і ў групе падоўжанага дня. Многія хлопчыкі і дзяўчынкі не мелі ні бацькі, ні маці. Яны чакалі не толькі тлумачэння матэрыялу, але і мацярынскай ці бацькоўскай ласкі. І настаўнікам даводзілася быць не толькі настаўнікамі, але і бацькамі. Узнагародай стала памяць. Па сённяшні

дзень многія выпускнікі Даматканавіцкай школы тэлефануюць Яўгеніі Іванаўне, віншуюць са святамі, дасылаюць лісты, прыязжаюць у госці.

- Калі перайшла на працу ў СШ № 3 у Нясвіжы, кожны год у мяне было класнае кіраўніцтва. З вучнямі я сябравала. Разам мы хадзілі ў паходы, на выставы, ездзілі ў тэатр. Нам вельмі пашанцавала, што ў школе працаваў Павел Кузміч Прануза. У Нясвіжскім санаторыі часта адпачывалі вядомыя пісьменнікі, крытыкі, журналісты, з якімі Павел Кузьміч быў добра знаёмы. Ён запрашаў іх у школу, і мы арганізоўвалі сустрэчы, чыталі творы. Нашымі гасцямі былі Іван Шамякін, Кузьма Чорны, Пятрусь Броўка, Янка Брыль і многія іншыя.

У трэцяй школе Яўгенія Іванаўна прапрацавала дваццаць гадоў. Асабліва запомніўся ёй першы выпуск. У класе шмат дзяцей было з в. Рудаўка. У школу яны ездзілі на аўтобусе. І калі надаралася настаўніцы таксама пакарыстацца грамадскім транспартам, вучні прапаноўвалі ёй адразу некалькі свабодных месцаў.

- Наша Яўгенія Іванаўна зайшла, саступіце месца, - чуліся па аўтобусе галасы не толькі саміх вучняў, але і бацькоў.

Яўгеніі Іванаўне было вельмі прыемна, што вучні і іх бацькі ўспрымалі яе не толькі як настаўніцу, але і як нейкага блізкага, свайго чалавека. Толькі такія паездкі здараліся рэдка, бо на працу разам з мужам Георгіем Афанасьевічам, настаўнікам матэматыкі, яны хадзілі пеша і амаль заўсёды ўдваіх. Калі-нікалі графікі не супадалі, і цікаўныя суседзі пыталі:

- Чаму вы адна, ці чаму вы адзін?

Разам яны пражылі пяцьдзесят дзевяць гадоў. Усё ў жыцці было: і горасці, і радасці. Ды разам нават складаныя моманты перажываліся лягчэй. Хутка, а дакладней, 11 сакавіка, Яўгенія Іванаўна адзначыць свой 85-гадовы юбілей. Але радасць у гэтым годзе разбаўлена смуткам, бо гэта першы юбілей пасля замужжа, з якім яе не павіншуе каханы чалавек…

Я сяджу на маленькай, але вельмі ўтульнай кухні ў доме Халецкіх. Мне ўспамінаецца сам гаспадар, яго дасціпны гумар, хай сабе і ў адносінах да мяне. Але гумар у мяне таксама на месцы, і я не крыўджуся.

У гэты раз мы з Яўгеніяй Іванаўнай удваіх. Яна частуе мяне посным абедам: грыбным супам і аладкамі з грыбной начынкай, дзеліцца рэцэптам прыгатавання, насыпае мне ў торбачку сухія грыбы.

- Возьмеш з сабою. Цесць майго траюраднага пляменніка - ляснік. Кожны год яны дзеляцца са мной грыбамі.

- Траюраднага пляменніка? - перапытваю, бо дакладна ведаю, што цяпер родныя браты і сёстры не заўсёды паміж сабой ладзяць.

- А я з усімі добра жыву, - адказвае мая настаўніца.

На душы робіцца неяк па-асабліваму цёпла. Такое адчуванне было, калі калісьці наведвала бацькоў. Зараз іх ужо няма на свеце. І ўпершыню за апошнія гады адчуваю, быццам я дома. Чамусьці захацелася заплакаць, але стрымалася. А Яўгенія Іванаўна ўспамінае сваіх вучняў, гаворыць пра іх з такім гонарам, як быццам гэта і яе родныя дзеці.

- Добрых вучняў было многа. Андрэя Лапшова і Сяргея Плаксу вучыла з чацвёртага па дзесяты класы. Пайшлі ў салдаты, адслужылі і неяк завіталі ў госці. Кажуць, па фізічнай працы засумавалі, можа дапамога патрэбна? Але тады мы і самі спраўляліся, а таму з хлопцамі сталі гаварыць пра літаратуру. Аказваецца, яны ўсе прабелы ў гэтай навуцы ў арміі выправілі. Прачыталі "Вайну і мір" Льва Талстога і ўсяго Дастаеўскага. Сорамна, кажуць, было, што ў школе не заўсёды былі стараннымі.

Алег Сокал чытаць не любіў, але вельмі падабаліся яму вершы. Вучыў заўсёды болей, чым патрабавалася. Шмат ведаў твораў Ясеніна, Севяраніна. Ён на "Крыніцы" зараз працуе, на адной вуліцы жыве. Пры сустрэчы заўсёды пытае, ці патрэбна дапамога.

Саша Семчанка грузчыкам працуе. Ключ яму ад хаты дала. Прыйдзе, паглядзіць, ці ёсць жывая душа. У школе газету выпускаў. Пасля паступіў у Клецкае ПТВ, стаў плодаагароднікам. Гэдак хораша рассаду вырошчвае, і мне заўсёды прынясе. І капусту, і памідоры.

Клімушка Дзіма ў ваенкамаце зараз працуе. За яго калісьці падзяку генерал мне прыслаў. Ён вучыўся ў Маскоўскім вучылішчы Вярхоўнага савета. У падзяцы было напісана, што такога граматнага чалавека і з такім прыгожым почыркам аўтар падзякі не сустракаў ужо шмат гадоў.

Юра Доўнар прыйшоў у нашу школу ў дзявяты клас, раней вучыўся ў Слаўкаве. Вельмі старанны вучань быў. Сядзеў з Сяргеем Ульянавым. І зараз яны сябруюць. Ульянаў жыве ў Мажайску. Часта прыходзілі да нас. Ульянаў з гармонікам, Дзіма Клімушка. Калі мы паслабелі, горш сталі рухацца, Дзіма Клімушка і ваенкам Андрэй Марозаў дапамагалі нам заўсёды. Ульянаў да мяне кожны раз з мімозай прыходзіў. Любімыя яго кветкі. І маімі любімымі сталі. Доўнар закончыў Міжнародны эканамічны ўніверсітэт у Менску, стаў прадпрымальнікам. Заўсёды падтрымлівае, не забываецца. Дзіма Клімушка ў паралельным класе быў. Як пайшоў у адстаўку, адзін час не працаваў. Часта прыходзіў. Разводзілі літаратурныя гутаркі. У яго шмат рэдкіх кніг было. У яго цудоўная сям'я. Дачка збіраецца стаць архітэктарам. Вельмі здольная дзяўчына…

Дзе толькі не працуюць ці працавалі былыя вучні Яўгеніі Іванаўны. Настаўнікі, вайскоўцы, кіраўнікі прадпрыемстваў і арганізацый, суддзі, дактары, рэктары, навукоўцы, хлебаробы, механізатары, грузчыкі, і шмат яшчэ якіх прадстаўнікоў розных прафесій, але яны памятаюць пра сваю настаўніцу, заходзяць у госці і зноўку як бы трапляюць ў школьныя гады, на ўрок літаратуры ці проста жыццёвы ўрок, бо на іх Яўгенія Іванаўна не сквапная, шчыра раздае назапашанае за жыццё веды. Таленту навучаць іншых нельга навучыцца. Гэтым талентам адорвае толькі Бог, які даў гэтай жанчыне не толькі шчырую душу, але і здольнасць навучаць гэтай шчырасці іншых. Вучыцца ніколі не позна. І таму прыходзяць да сваёй настаўніцы, так і не стаўшыя былымі, вучні, каб павучыцца мудрасці. Працягваюцца, зараз ужо прыватныя, ўрокі па індывідуальнай праграме. Няма толькі званкоў на ўрокі і перапынкі.

- Неяк завітаў да мяне мой вучань, Валодзя Плакса. Раней яны жылі на нашай вуліцы, а затым перасяліліся на іншую. Тата не паспеў яму расказаць пра людзей, што раней тут жылі. Мы з ім да паловы дванаццатай ночы прагаварылі…

І я ведаю, што гэта не адзіны выпадак парушэння "школьнай дысцыпліны". Многія вучні не чакаюць свята, каб наведацца да настаўніцы і забыцца на час, які імкліва крочыць наперад.

За сваё жыццё Яўгенія Іванаўна прачытала тысячы літаратурных твораў. Сама ж не напісала ніводнага. Але, па яе словах, калі яна ўспамінае мінулыя гады, нібы гартае вялікую аповесць жыцця. Галоўныя героі ў ёй - хлопчыкі і дзяўчынкі, якія па-рознаму засвойвалі ўрокі мовы і літаратуры, назапашвалі веды па іншых навуках, вучыліся сябраваць, паважаць людзей, старэйшых за сябе па ўзросце, дапамагаць іншым, вучыліся жыць. Гэта аповесць не мае свайго завяршэння. Бо следам за бацькамі, якія бралі ўрокі ў Яўгеніі Іванаўны, да яе завітваюць і іх дзеці. Аповесць папаўняецца новымі старонкамі, а настаўніца працягвае жыць радасцямі і смуткамі сваіх вучняў, дае парады, навучае, ці проста выслухоўвае. Гэты твор ніколі не будзе мець канцоўкі. Хай сабе і парушае настаўніца законы літаратуразнаўства, але гэта жаданне яе герояў.

## НЯСВІЖ У СЭРЦЫ І СНАХ…

Нясвіж. Радасны і ўзнёслы, ты нараджаеш творцаў, а пасля, нават у далечыні ад твайго ласкавага пагляду, яны вяртаюцца сюды столькі, колькі б'ецца іх сэрца, з любых шляхоў, з любых дарог, у любую пару года, а калі гэта становіцца недасягальным, горад юнацтва

прыходзіць у снах, назаўсёды пасяліўшыся ў сэрцы. Самыя лепшыя і самыя сумныя ўспаміны звязваюць з Нясвіжам ганаровага грамадзяніна нашага горада Станіславу Вятр-Партыку. Яна нарадзілася тут 27 траўня 1930 года. Праз дзесяць гадоў страціла бацьку, які быў забіты ў г. Цвер, а пасля - і любімы горад. Разам з маці ў дзень забойства бацькі іх, як "недабранадзейных элементаў", у "цяплушках" адправілі на Ўсход. Яна вырасла ў стэпах Паўночнага Казахстана. Разам з мамай працавала ў мясцовым калгасе ўсе доўгія, халодныя і галодныя шэсць гадоў. Седзячы з маці ў цёмнай і прамерзлай зямлянцы, нібы казку слухала пра горад свайго дзяцінства. Гэта казка плыла з вуснаў яе матулі і абяцала магчымасць вяртання. У 1946 годзе яны пераязджаюць у Тарноў - родны горад бацькі, і ўсё пачынаецца спачатку: вучоба ў школе, інстытуце, педагагічная і грамадская дзейнасць, толькі Нясвіж не сцёрся з памяці, пасяліўшыся там назаўсёды.

Вершы Станіслава Вятр-Партыка пачала пісаць яшчэ ў Казахстане. У сяле Яленка, калі ёй было пятнаццаць гадоў, перамагла ў конкурсе на лепшы паэтычны твор сярод вучняў школы. Станіславу запрасілі на раённае радыё. Верш быў рускамоўны, але, узяўшы мікрафон, на адным дыханні выпаліла па-польску:

- Люблю цябе, Татачка!
Беражы здароўе!
Шлю прывітанне Табе, Татачка!
У далёкае Асташкава.

Яна думала, што гэтыя словы дойдуць да яго. Настаўнік збялеў, як сцяна і некалькі разоў паўтарыў: "Што ты сказала?". Мікрафон адключылі, але дэбют адбыўся.

Сёння Станіслава Вятр-Партыка - аўтар зборнікаў "Вяртанне да санаты і іншыя вершы на мяжы стагоддзяў", "Адлюстраванне ў кропельцы расы", "Балада аб страчаным доме" і некаторых іншых. Яе творы гучаць аднолькава прыгожа на польскай, рускай і беларускай мове.

У інтэрвію штотыднёвіку "Горад і людзі" Станіслава Вятр-Партыка сказала, што нясвіжац Уладзімір Трафімавіч Жылко пераклаў самы галоўны яе верш "Бацькам". Калісьці Ўладзімір Трафімавіч і пані Станіслава сустракаліся ў Нясвіжы, у бібліятэцы і ў Польскім доме. Пані Станіслава падаравала свае кнігі нясвіжскаму паэту і ён вельмі зацікавіўся яе творчасцю, зрабіўшы шмат перакладаў.

Паэтычным словам адорвае Гасподзь. У ссылцы, у перыяд адзіноты і адчаю нараджаліся маналогі - малітвы да Бога, якія пані Станіслава запісвала толькі для сябе, а кола зацікаўленых паэзіяй узнікла пасля. У Нясвіжы самым першым перакладчыкам вершаў Стані-

славы Вятр-Партыка стала сябра раённага літаратурна-музычнага аб'яднання "Валошкі" Наталля Бордак. У 2007 годзе падчас прэзентацыі зборніка вершаў "Нясвіж у сэрцы і снах" упершыню з яе вуснаў прагучаў верш Станіславы Вятр-Партыка "Малітва".

Калі чалавек шмат пеpажыў, яму не хочацца хаваць свае ўспаміны ад іншых. Спытаеце, навошта? Думаю, каб гісторыя не паўтарылася зноў, каб яе сумныя моманты засталіся толькі на паперы кніг па гісторыі, каб папярэдзіць наступныя пакаленні, што так нельга і чалавек - гэтата асоба, якую трэба паважаць, а яго таленты і здольнасці не закопваць, а даць магчымасць развіць, пасеяць элітнае зерне ва ўрадлівую зямлю Бацькаўшчыны для тых, хто прыйдзе пасля. Станіслава Вятр-Партыка шмат займалалася грамадскай дзейнасцю ў "Таварыстве сібіракоў" і таварыстве "Сям'я Катынская", "Таварыстве несвіжан і сяброў 27 палка ўланаў імя Стэфана Баторыя", выступала на радыё і ў прэсе, ладзіла шматлікія выступленні перад моладдзю. Праводзіла вучэбныя семінары, цыклы лекцый "Табе, Польшча", пісала ўспаміны аб Сібіры, Катыні. Яна з'яўляецца арганізатарам шматлікіх семінараў і канферэнцый аб "Галгофе Ўсходу", дзе яе слухалі тысячы чалавек. Станіслава Вятр-Партыка праслаўляе свой Нясвіж, дапамагае наладжваць міжнародныя сяброўскія сувязі. "Люблю Тарноў, - гаворыць пані Станіслава. Ён прыгожы. Тут многа месцаў для сустрэч. Але Польскі дом у Нясвіжы прасторней, належыць Саюзу палякаў".

Станіславу Вятр-Партыку з многімі нясвіжцамі звязвалі і звязваюць добрыя адносіны і сяброўскія стасункі. Пераклады твораў нашай зямлячкі з'яўляліся ў раённай газеце "Нясвіжскія навіны", і перш чым вершы былі вынесены на суд нясвіжцаў, яны траплялі ў рукі рэдактара Соф'і Ўладзіміраўны Любанец, якая першай, пасля аўтараў, магла скласці сваё ўяўленне аб іх дасканаласці.

Нядаўна Станіслава Вятр-Партыка падаравала гораду свае кнігіі паэзіі і прозы, кнігі аб родным Нясвіжы іншых аўтараў, фотаздымкі і некалькі лялек са сваёй калекцыі, тое, што вельмі цешыла яе сэрца. А сэрца, як вядома, засталося ў Нясвіжы. Сюды трапілі і гэтыя рэчы, склаўшы экспазіцыю ў музеі Нясвіжскай цэнтральнай бібліятэкі імя Паўлюка Пранузы.

Калісьці лепшы сябар ксендза Гжэгажа Каласоўскага мітрафорны протаіерэй Дзімітрый Хмель сказаў: "Не ганіся за славай. Сумленна працуй, добра выконвай сваю справу, а слава цябе сама знойдзе." Гэтыя словы спраўджваюцца ў лёсах многіх несвіжан і не толькі несвіжан. Станіслава Вятр-Партыка была выгнанніцай, а стала ганаровым грамадзянінам горада яе сноў і мар, нашага роднага Нясвіжа. Гэтым высокім званнем яна была ўганаравана ў 2013 годзе.

3 ліпеня, у Дзень горада, яна атрымала стужку і пасведчанне аб прысваенні звання Ганаровага грамадзяніна з рук старшыні Нясвіжскага райвыканкама Івана Іванавіча Крупко. У той дзень яна атрымала і самую важную ўзнагароду г. Тарнова. Акрамя гэтага пані Станіслава адзначана ганаровымі ўзнагародамі: Залатым крыжом Заслугі, Крыжом сасланых у Сібір, Медалём Дзяржаўнага камітэта адукацыі, медалём "Захавальнікі месцаў народнай памяці", Крыжом ахоўніка Львова. Але самая галоўная яе ўзнагарода - гэта людзі, яе землякі, якія памятаюць яе, шануюць яе паэтычнае слова, цікавяцца яе лёсам і стараюцца браць прыклад стойкасці, любові, незлабівасці, настойлівасці і добрай памяці пра сваю Радзіму, свой Нясвіж.

## АД ПЕРАКЛАДАЎ ДА ЎЛАСНАЙ ТВОРЧАСЦІ

Чалавек у пэўныя моманты свайго жыцця становіцца перад выбарам. А выбіраць трэба часта і многа, пачынаючы ад выбару жыццёвага шляху да выбару больш высокага кшталту: быць не быць веры ў нашым сэрцы. Калі гаварыць пра першае, то добрыя вынікі патрабуюць ад нас шмат намаганняў: выбраць прафесію па душы, атрымаць адпаведную адукацыю і пасля месца працы, неяк наладзіць асабістае жыццё, недзе сустрэць свой лёс…

Калі мы самі стараемся вырашыць усе гэтыя пытанні, атрымліваецца складана, калі-нікалі вельмі заблытана, а то і зусім нашы спробы прыводзяць да краху. І толькі калі чалавек да сваіх старанняў дадае веру, схіляе сваю галаву перад Яго Вялікасцю Госпадам, усё становіцца на свае месцы.

Ці думаў калі настаўнік замежнай мовы Карцэвіцкай сярэдняй школы Уладзімір Дзмітравіч Бруй, што стане калі-небудзь прафесійным пісьменнікам? Хутчэй за ўсё - не. А пра тое, што будзе перакладаць Прэзідэнту нашай краіны, амбасадарам Францыі ды Велікабрытаніі, міністрам ды парламентарыям, мабыць, і не марыў. Ён проста рабіў сваю справу, а ў дадатак яшчэ ў свой час, калі было патрэбна, быў "трэнерам і вартаўнікам, грузчыкам і электрыкам, завучам школы і начальнікам піянерскага лагера, здымаўся ў некалькіх фільмах, вырошчваў бульбу і цукровыя буракі, разводзіў нутрый і свіней, пісаў дысертацыю, а таксама артыкулы і апавяданні ў газеты і часопісы, часам працаваў таксістам і масажыстам. Зрэдку - дыктарам футбольнага стадыёна і палаца спорту, часцяком - перакладчыкам." І вельмі рэдка пакідаў свае Карцэвічы. Новыя шляхі перад ім адкрыліся толькі з прыходам да веры, як быццам Гасподзь, які надзяліў гэтага чалавека

многімі талентамі, у падзяку за ўсё добрае чакаў толькі яго пакаяння.

І тады, як кажа сам Уладзімір Дзмітравіч ва ўступным слове да чытача ў кнізе "Трэцяя Бярэзіна" *"пашчасціла мне ў Японіі ўдзельнічаць у чайнай цырымоніі, у алімпійскім Ліліхамеры назіраць першае ў 1995 годзе паўночнае ззянне і пралятаць над дзівоснымі нарвежскімі фіёрдамі, у Ірландыі купацца ў горным возеры і любавацца першародным хараством бясконцых зялёных пагоркаў, у Парыжы ўзбірацца на Эйфелеву вежу. У Грынвічы я стаяў на меднай пласціне нулявога мерыдыяна, у казачнай Венецыі перасякаў па драўляных кладках плошчу Св. Марка ў час прыліву, у Венскай оперы слухаў чароўную музыку Вердзі...."*.

Ужо з першых старонак кнігі становіцца зразумела, што напісана яна аўтарам-прафесіяналам, цудоўнай беларускай мовай. А галоўнае тое, што героі гэтай кнігі - землякі аўтара, мудрыя, таленавітыя, з тонкім пачуццём гумару, знакамітыя і не вельмі, простыя працаўнікі і высакапастаўленыя асобы, але ўсе аднолькава дарагія і блізкія аўтару. Многія з іх, дарэчы, прыйшлі ў бібліятэку на прэзентацыю кнігі, як напрыклад, гераіня апавядання "Чаму?!" Васіліса Натанаўна (настаўніца беларускай мовы і літаратуры Наталля Васільеўна Плакса). Патанне, зададзенае Васілісай Натанаўнай сваёй маці "Чаму мы так жывём?", з'яўляецца скразным, вакол яго пабудавана ўся кніга, якая змяшчае Аповеды з жыцця і аповесць "Пасля смерці не памерці". Ва ўсіх астатніх творах аўтар спрабуе даць на гэта пытанне адказ, паказвае сваё бачанне праблем сучаснасці. Адна з іх - праблема роднай мовы, лёс беларускай літаратуры. Пісьменнік, які ўсё жыццё цікавіўся кнігай, асабліва напісанай па-беларуску, старанна збіраў уласную бібліятэку і вельмі спадзяваўся, што "некалі адна з маіх унучак падыдзе да гэтых кніжных шафаў, выме нейкі том, раскрые, ласкава пагладзіць пераплёт, як калісьці гэта рабіў я, перагарне некалькі старонак, прысядзе ў крэсла і паглыбіцца ў чытанне."Але пярэчыць сабе аўтар: "Бач ты, чаго захацеў… непапраўны аптыміст (справа ў тым, што ў маёй малодшай унучкі амаль ад нараджэння першая мова - нямецкая, у старэйшай апошнім часам такою становіцца кітайская)… але час ляціць хутка, аптымізм, як і ўсё іншае на гэтым свеце, паступова праходзіць." Аптымізм, магчыма, і праходзіць, але зерне, пасеянае ў роднай сям'і, калі-небудзь і ўзыдзе, узрасце і дасць добрыя плады. Тым больш, што сеяцель слова Ўладзімір Дзмітравіч выдатны. І сеяў ён не толькі для сваёй сям'і, а і для нас з вамі, яго землякоў, для ўсіх, каму надарыцца прачытаць кнігу "Трэцяя Бярэзіна", каб павучыцца ў герояў кнігі жыццю ва ўсіх яго праяўленнях.

# ЗМЕСТ

**Нясвіжскі ўток**. Літаратурна - мастацкі зборнік № 1, 2017 г.
На беларускай мове. Нясвіж. 372 с. Наклад - 150 ас.
Фармат А-5. Гарнітура “Таймс”. Друк афсетны.

Наша слова

Газета выходзіць з сакавіка 1990 года — № 15 (1218) 15 КРАСАВІКА 2015 г.

Будучыня беларускай мовы хвалюе беларусаў

130 гадоў з дня нараджэння Сымона Рак-Міхайлоўскага

# *Падпісны індэкс: 63865*

# Сайт газеты “Наша слова”

Наша слова

У расійскім Екацярынбургу адкрылі помнік Уладзіміру Мулявіну

РУБРЫКІ

***naszaslowa.by***




**Помнік Сымону Будняму ў Нясвіжы.** ***2017 г.***
***Здымак С. Судніка.***